# МЕРКАВАННІ

*Апавяданні і эсэ напісаныя для інфармацыйнага сайта naviny.by.*

## Кукуруза

Некалі даўно ў нашых краях «кукурузнікам» называлі маленькі самалёт Ан-2. Яго выкарыстоўвалі ў сельскай гаспадарцы, чатырохкрылыя «кукурузнікі» нізенька лёталі над нашымі вёскамі і мястэчкамі і нешта там сыпалі на палі, засеяныя кукурузаю. Быў час, калі нашыя аграномы вырашылі, што, дзякуючы кукурузе, мы нарэшце зможам самі сябе забяспечыць прадуктамі, а ў выніку эксперыментаў у крамах прапаў хлеб. За буханкай чорнага даводзілася выстойваць шматгадзінную чаргу. Я любіў хадзіць па хлеб, хацеў быць дарослым у свае сем гадоў, а яшчэ я любіў лётаць на «кукурузніку». З бацькам мы лёталі з Мінска ў Наваградак. Бацька паказваў мне ў акенца Налібоцкую пушчу: «Глядзі, глядзі… Гэта нашыя Налібокі, нашая пушча…» Я не разумеў, чаму бацька называе тую цьмяна-зялёную пушчу нашай, але ніколі не перапытваў.

Пазней, з сябрамі я лётаў на «кукурузніку» з Мінска ў Браслаў і з Браслава ў Мінск. Хацеў быў злётаць з Мсціслаўля ў Смаленск, але пакуль збіраўся, тыя пералёты спынілі. Спачатку «кукурузнікі» перасталі вазіць пасажыраў у Беларусі, а потым і ў Расеі. «Смаленск — Мсціслаўль» — гэта быў апошні маршрут «кукурузніка» ў Беларусі, і я на яго не паспеў. Шкадую, бо злётаць у Смаленск я збіраўся з жанчынаю, якую любіў. Мы з ёю гулялі па зялёным узлётным полі, а потым пайшлі праз поле кукурузнае. І недзе пасярэдзіне таго кукурузнага поля нам зажадалася блізкасці. Мы любіліся стоячы, і нам было добра стоячы. Нам было так добра стоячы, што мы распрануліся, і нам было добра лежачы, нам было так салодка лежачы, што мы нічога не чулі і нічога не бачылі, а потым мы ўбачылі вялізарную жудасна-чорную рагатую галаву каровы. Яна глядзела на нашыя любошчы бліскучым ядром глыбока-сіняга вока. Марудна, каб не спудзіць жывёліну, мы апрануліся і сышлі. На беразе кукурузнага поля да нас падбегла цётка з пугаю і запыталася пра карову. Мы суцешылі яе тым, што карова не прапала і не ўвалілася ў балота, а спакойна есць няспелую кукурузу. Цётка так нам дзякавала, нібыта мы знайшлі яе дзіця, а не карову, яна так дзякавала, што ажно заплакала ад радасці. Мне было дзіўна глядзець на такую радасць.

Пэўна, у мяне такая радасць была б, каб на кукурузным полі я сустрэў не карову, а незвычайную істоту — якога Кукурузніка. У беларускай міфалогіі няма ніякага Кукурузніка, але ён мусіць быць,

ён мусіць мець бычыную галаву з вострымі рогамі і цела камбайнёра. Менавіта такім мне ўяўляецца наш беларускі мінатаўрападобны Кукурузнік, наш тутэйшы вартаўнік кукурузных палёў і ахоўнік любоўных гульняў.

Без такога Кукурузніка тутэйшым людзям цяжкавата жывецца, бо надоечы на беларускіх кукурузных палях адбыліся ажно два жудасныя здарэнні… Жанчына вырашыла наварыць сабе кукурузы, узяла кошык, пайшла на поле, выбірала яна сабе спялейшыя пачаткі і не пачула, як на яе насунуўся камбайн. Старая, глухаватая была. Камбайн і змалаціў жанчыну разам з кошыкам спелых пачаткаў. А ў Гомельскай вобласці адбылася іншая драма на кукурузным полі. Шафёр вёў малакавоз і пабачыў, што побач з кукурузным полем стаіць легкавічок, а ў прыпаркаванай машыне крычаць зачыненыя дзеці. Шафёр даведаўся ад дзяцей, што бацькі даўно сышлі па кукурузу і ўсё ніяк не вяртаюцца, і не вяртаюцца. Шафёр знайшоў тых бацькоў мёртвымі, іх стапталі і паразрывалі дзікі. Ці займаліся тыя пакутнікі перад сваёй гвалтоўнай смерцю любоўнымі гульнямі на кукурузным полі, я дакладна не ведаю. Але, хутчэй за ўсё, яны займаліся менавіта любошчамі, бо інакш нашто ж яны сваіх дзяцей зачынілі ў легкавіку…

Вось таму і патрэбен на тутэйшых палях Кукурузнік. Ён бы абавязкова ўратаваў і старую з кошыкам, і тату з мамаю зачыненых у легкавіку дзяцей. Вядома, гэта казачныя спадзевы, але ў мяне ёсць спадзевы і больш рэальныя. Я спадзяюся, што раней ці пазней невялікія самалёты зноўку пачнуць лётаць з Мінска ў Навагрудак і нехта скажа свайму сыну: «Глядзі, глядзі… Гэта нашыя Налібокі, нашая пушча…» А сын не стане перапытваць у бацькі, чаму яна ўласна наша.

## Каштан

Каштаны збіраюць па-рознаму: нехта шукае самы вялікі, хтосьці — найменшы, камусьці заманулася падняць выпадковы каштан і закінуць яго ў кішэнь без усялякай нагоды, а некаму спатрэбілася намаляваць каштан для энцыклапедыі, і ён сабраў іх цэлы мяшэчак для разглядання, параўнання і вывучэння.

Зазвычай каштаны збіраюць дзятва і тыя, хто гуляе па скверах з дзецьмі. Ніхто так не радуецца сабраным каштанам, як яны. Збіраючы каштаны, мы вяртаемся ў свет простых радасцяў і напрасцейшых каштоўнасцяў. «Каштан» — такое салодкае шакаладнае слова. Мы не можам паверыць, што яны няўежныя. Мы ведаем: наш беларускі каштан і горкі, і даўкі, і нягодны для

кулінарыі. Толькі адкуль мы тое ўсё ведаем дакладна? Ведаем, бо кожны з нас спрабаваў есці каштан, надкусваў, каштаваў і выплёўваў. Ну нельга стрымацца, каб не пакаштаваць каштан. Канешне, мы ўсе чулі пра каштаны смачныя і ўежныя, яны ёсць, і яны па-сапраўднаму салодкія і смачныя. Можна з'ездзіць у Парыж і купіць смажаных каштанаў, і з любімай жанчынаю сядзець у сквэрыку каля Сены і там частавацца каштанамі, падобнымі да нашых лясных арэхаў і непадобнымі да нашых гладкіх, брунатна-бурштынавых, родных і надкусаных у дзяцінстве каштанаў.

А можна ў Парыж не ехаць, можна запрасіць любімую жанчыну ў кастрычніцкі парк збіраць каштаны. Што можа быць лепшым за збіранне каштанаў з каханай? Так... Пацалунак пад каштанам. Пацалунак будзе такі доўгі і такі п'янкі, што вы не заўважыце, як у парку сцямнее. Вы зойдзеце ў самы цёмны куток парку, жанчына прыхіліцца спінаю да каштана, вы, не распранаючыся, злюбіцеся. Вы будзеце любіць адно аднаго, а ў цемрадзі будуць падаць каштаны. Вярнуўшыся дамоў, кожны з вас знойдзе ў кішэні каштан і пакладзе яго на віднае месца, каб ён нагадваў пра каханне і пра восеньскую прахалодную любоў у начным парку.

А яшчэ каштан нагадае вам пра вясну, пра той ясны сонечны час, калі ў горадзе зацвітаюць каштаны. Чамусьці кветкі каштанаў у нас не вельмі любяць. Мо таму, што яны занадта высока, а мо таму, што мы традыцыйна любуемся красаваннем яблыні, грушы, слівы, вішні... Мы любуемся красаваннем садоў. Нас вучылі любавацца садамі і забыліся навучыць любавацца квецённю каштанаў. Але гэта ж выпраўляльна, і вясною можна пайсці да прырэчных каштанаў, да тых каштанаў, галіны якія апускаюцца да самай зямлі. Можна наблізіцца да вялікіх бела-ружовых кветак і пачуць: «А можна я пацалую кветку каштана?» Так запытаецца ў цябе каханая жанчына. Ты нават не падумаеш пра тое, нашто яна просіць дазвол на такую простую рэч, як пацалунак кветкі. Ты адразу адчуеш, што жанчына любіць цябе. І табе захочацца, каб яе каханне было доўгім-доўгім, і ты запросіш яе на наступнае спатканне да прырэчных каштанаў. Ты запросіш яе збіраць каштаны. Яна не здзівіцца, што ты вясною думаеш пра восень, бо ёй гэтаксама захочацца, каб вашае каханне было доўгім.

А ўвосень здарыцца дзіўная рэч, будзе стаяць цёплы верасень. Ён будзе такі цёплы і сонечны, што каштаны падмануцца, яны падумаюць пра вясну, яны павераць у тое, што разам з яснай сонечнасцю зноў надышла вясна, і яны зацвітуць. Так здараецца, што беларускія каштаны красуюць два разы на год. Усе гавораць пра цёплую восень, і мала хто думае пра закаханых, дзеля якіх красуе наш

каштан два разы на год. Першы раз ён квітнее дзеля ўсіх закаханых, а другі раз ён красуе дзеля тых, хто кахае апошні раз. Ёсць людзі, якім і напрыканнцы жыцця даецца каханне. Яны ведаюць, што каханне будзе зусім кароткае, але яно ёсць-ёсць, і кожнае яго імгненне каштоўнае і непараўнальнае. Заўтра яно знікне, заўтра... Ды ўсё, што ёсць у нашым зменлівым свеце, знікне бясследна. Але сягоння сонечны дзень, сягоння надзіва цёплы верасень, у якім красуюць каштаны. І трэба ісці да іх з каханым чалавекам і любавацца іх квеценню.

У нас ніхто не склаў ніякіх песень і казак пра каштан. У нас няма міфалагічнай істоты з імем Каштаннік, нашы мастакі, як і паэты, яшчэ не намалявалі каштан у квецені... Усё гэта яны зробяць заўтра, а сёння пра чароўную квецень каштанаў ведаюць адно закаханыя.

## Дрозд

Птушка — душа і крылы. Канешне, ёсць птахі з дзюбамі, кіпцямі і хвастамі, але іх мала хто называе птушкамі, яны патрабуюць увагі і павагі, яны ў нас арлы, буслы, пеліканы і альбатросы. А простая птушка... Ды і гэтыя альбатросы, чаплі, каршукі некалі былі птушанятамі, і некалі пра іх можна было, далібог, не памыліўшыся, сказаць: птушанё — душа і крылы.

Бярэш птушачку ў руку і баішся яе задушыць, баішся зламаць ёй крыло, баішся знішчыць палёт, пераймаешся, каб не забіць песню... Праўда. Я сягоння трымаў у руках маладзенькага пеўчага дразда. Раніцай выйшаў з дому, каб разам з жонкаю прабегчыся ў залатым захутаным у туман парку. Я расхінуў дзверы, а з ганка саскочыў дроздзік. Ён неяк нягегла скочыў на асфальт, з асфальта на жалезную накрыўку, што прыкрывае яміну з акном у сутарэнні, а з накрыўкі дрозд уваліўся ў гэтую самую яміну.

Жонка мая — навуковец-біёлаг, яна любіць пташак. У яе «мерсэдэсе» заўсёды ляжыць кніжка «Вызначальнік птушак Еўропы». Яе захапленні птушкамі мне мала зразумелыя, бо я люблю людзей больш за пташак. Я люблю людзей больш за герояў і багоў. Мяне заўсёды цікавіў чалавек. Таму я не столькі дапамагаў ратаваць дразда, колькі дапамагаў уласнай жонцы. Я сцягнуў на асфальт цяжкую накрыўку і разагнуцца яшчэ не паспеў, як мая жонка была ўжо на дне ямы з драздом у руцэ. «Выцягвай мяне!!!» Я паспрабаваў выцягнуць яе за адну руку. Не атрымалася. Каля нас спыніліся дзве дзяўчыны ў спартовых строях. Яны ішлі ў парк займацца фізкультураю, а тут — жанчына ў яміне, вядома, спынішся. «Патрымайце птушку, а муж мяне выцягне...» — «Не-е-е... Мы баімся

яе. Лепей хай ваш муж патрымае гэтую гадасць, а мы вас выцягнем…» Жонка перадала мне напалоханага і прыцішанага дразда. Дзяўчаты схапілі жонку за рукі і пачалі выцягваць. Яны амаль выцягнулі яе з ямы, але ў апошні момант не вытрывалі і адпусцілі рукі. Жонка звалілася на цэмент і там скурчылася. Дзяўчаткі адступіліся ад яміны, спалохана зіркнулі на мяне і пабеглі ў парк. Я скочыў у яму. «Як ты?» — «Бок баліць. Слабыя дзеўкі. З выгляду моцныя, а так — хліпкія…» — «Трымай свайго дроздзіка. Цяпер я цябе падсаджу, і ты вылезеш…» — «А ты?» — «Не перажывай ты за мяне, выберуся як-небудзь…» Я падсадзіў жонку, і яна такі вылезла наверх. А потым і я сам надзіва спрытна выкараскаўся з ямы і закрыў яе ababітай жалезам накрыўкаю.

У парку жонка пасадзіла дразда на развілку вялікай ліпы, і той у адно імгненне ператварыўся ў адно цэлае з дрэвам. Пеўчы дрозд любіць развілкі, а яшчэ ён любіць бясконцыя песні. Так-так, у пеўчага дразда песня бясконцая.

Жонка вярнулася дамоў, а я вырашыў не змяняць завядзёнкі і абабег парк. Жонку я знайшоў у ванным пакоі. Яна стаяла аголеная каля вялікага люстэрка і разглядала пабіты бок. «Сінякоў і драпінаў няма… Рэбры, здаецца, усе цэлыя… Тады што мне так моцна баліць? Паглядзі…» Я асцярожна абмацаў усе жончыны скабы і хрыбетнік, але відавочных пашкоджанняў так і не знайшоў. «Мо да доктара сходзіш?» — «Не хочацца да доктара…» Мы прынялі душ разам. «А праўда, ён прыгожы, гэты пеўчы дрозд?» — запыталася жонка, асцярожна выціраючы пабіты бок. Я сказаў «прыгожы», каб падтрымаць жонку, хоць дрозд мне зусім не спадабаўся. Гэта быў яшчэ зусім малады дроздзік — падлетак. Такія пакідаюць бацькоўскае гняздо, не ўмеючы лётаць. Чаму так? Загадка.

Зрэшты, прырода любіць рызыкаваць. Я дык рызыкую толькі ў выключных момантах, а жонка жыць без рызыкі не можа. Таму яна і паехала катацца на кані. З пабітым бокам і на кані… Рызыка. Бок разбалеўся так, што ёй давялося ісці ў бальніцу. Адтуль яна затэлефанавала мне: «Рабро я ўсё ж зламала. Зрабілі здымак, і на ім відаць, якое яно цяпер крывое. Ведаеш, я цяпер не буду спыняць «мерсэдэс», калі заўважу птушку на дарозе. Я буду душыць неабачлівых птушак, буду душыць і ўсё!!!» — «Душы!» — «Я тармажу, зварочваю, кідаю машыну ўбок з-за нейкай птушкі, так і забіцца можна! Бок баліць страшэнна…» — «І што трэба рабіць?» — «Піць абязбольваючае і рухацца асцярожна… А птушак я буду душыць…» — сказала яна праз слёзы. «Душы!» — сказаў я, цудоўна ведаючы, што не будзе яна нікога душыць, а будзе зноў і зноў скакаць у цэментовую

яміну, каб выратаваць бясконцую песню птушаняці, якое яшчэ не навучылася лётаць.

## Дождж

Ён розны…

Бывае дождж дробны, як пыл, і тады яго называюць імжа, імжычка. Часам лье як з вядра, і на яго кажуць залева. Пасярод зімы на цябе можа пасыпацца ледзяны дождж, і ўвобмільг адзежа пакрыецца ломкай лускою. А ёсць нудны восеньскі дождж, які ідзе ды ідзе, ён ніяк не спыніцца, яго немагчыма перачакаць. Табе даводзіцца хадзіць пад гэткім халодным і бясконцым дажджом. Ты ідзеш, і на душы робіцца беспрытульна.

Як уратавацца ад сваёй непатрэбнасці ў мокрым і няпэўным свеце? Дзе знайсці паратунак? Ты згадваеш жанчыну. Ты любіў яе моцна, табе з ёю было цёпла, горача, сонечна. Заварочваеш у краму і праходзіш у вінна-гарэлачны аддзел. Спачатку ты набудзеш бутэльку самай звычайнай гарэлкі, а толькі потым наважышся патэлефанаваць ёй. Яна вельмі здзівіцца твайму раптоўнаму і такому нечаканаму для яе тэлефанаванню. Яна разгубіцца і ад той разгубленасці не наважыцца адмовіць табе ў запрашэнні. Яна дазволіць табе зайсці да яе.

Ты будзеш ісці праз шэры мікрараён, але дождж ужо будзе не такі нудны і не такі халодны, бо ты згадаеш іншы дождж. Ты ўспомніш дождж над возерам. Некалі ты гуляў з гэтай жанчынаю ўздоўж возера і пайшоў дождж. І ты прапанаваў ёй купацца ў цёплай азёрнай вадзе пад ціхім дажджом, і вы плавалі аголеныя ў возеры, а дождж сыпаўся і шаптаў вам словы пра каханне. Вы займаліся каханнем і ў возеры, і на траве каля возера, і вам было горача пад прахалодным дажджом. А потым ты ўзяў свой швэдар і надзеў яго на сябе і на яе. Вы стаялі, прытуліўшыся адно да аднаго ў адным швэдры, і маўчалі. Дождж скончыўся. Кароткі, пералётны, летні дождж скончыўся, і вы знялі з сябе твой цёпла-фіялетавы ды безнадзейна расцягнуты швэдар. І табе не было шкада гэтага швэдра, ты там яго і пакінуў, на траве, каля самага возера…

А цяпер, ідучы праз жалеза-бетонны мікрараён ты згадваў пра той ваўняны швэдар і табе рабілася цяплей і цяплей ад гэтай згадкі. А калі ты падыходзіў да кватэрных дзвярэй сваёй жанчыны, ты ўжо ўвесь гарэў, нібыта ты выпіў адзін куплёную ў гастраноме гарэлку. Жанчына ніякавее ад твайго з’яўлення ў яе маленечкай беднай кватэрцы. Ёй сорамна, што, акрамя памідораў і агуркоў, у яе нічога няма, каб цябе пачаставаць. Ты кажаш, што памідораў і агуркоў табе цалкам дастаткова.

Вы п’яце гарэлку. За акном ідзе нудны дождж, а вам робіцца весела. Ад гарэлкі і ад успамінаў пра возера вы на вачах маладзееце. Вам падаецца, што ад спаткання на возеры і сягонняшняга дажджу не прамінула дваццаць гадоў. Вы хмялееце, вы кладзецеся ў ложак. Заплюшчваеце вочы, і пералётны чэрвеньскі дождж нашэптвае вам словы пра каханне, і паўтараеце і паўтараеце ягоныя словы пра каханне, ажно пакуль не ўскрыкваеце. Вы ўскрыкваеце адначасова і вяртаецеся ў маленечкую кватэру ў вялікім шэра-бетонным мікра-раёне. Але вам не хочацца бачыць ні тую кватэру, ні той мікрараён, ні шэры занудлівы дождж. Вы прыціскаецеся адно да аднаго і засынаеце. Вы спіце, а вам сняцца азёры, лета, ядлаўцовыя кусты на высокіх грудах і воблака, цяжарнае пералётным дажджом. Вам сніцца маладое каханне, поўнае цяпла і пяшчоты. І вам не хочацца прачынацца, і вы амаль разумееце тых каханкаў, што разам сыходзілі з жыцця, каб не бачыць халодны, маркотны, безнадзейны дождж...

І ўсё ж ты прачнешся і пабачыш побач чужое цела. Ты асцярожна ўстанеш з ложка, ціха апранешся і сыдзеш, не развітаўшыся, бо пакінеш сваю жанчыну даглядаць ваш салодкі сон пра каханне. Яна будзе спаць пад цёплай коўдраю, а ты будзеш ісці пад дажджом. Кроплі працінацьмуць цябе наскрозь. Цябе амаль не будзе на гэтым свеце, будзе толькі дождж, дождж і дождж. Каб не рассыпацца ў мокры пыл, табе давядзецца зайсці ў цемнаваты і пусты бар, замовіць чарку гарэлкі і шклянку вады. Ты перакуліш чарку, ты зробіш адзін глыток салодкай пасля гарэлкі вады, скаланешся, наставіш каўнер і панясеш сваю проста-шэрую кепку пад дажджом з ніадкуль у нікуды.

А жанчына? Ёй давядзецца доўга тлумачыць вашай дарослай дачцэ, чаму ты заходзіў, чаму вы пілі гарэлку і чаму ты застаўся начаваць. Жанчына будзе спрабаваць растлумачыць, а дачка паспрабуе зразумець. Але не зразумее, бо ёй яшчэ не прыйшоў час зразумець, хто такі Дождж.

## Нож

Мне паспрабавалі падарыць нож. Беларусы не дораць нажы. Беларус можа купіць нож, а ўзяць яго ў якасці падарунка не можа. Канешне, ён можа пакваліцца на падарунак, спакусіцца якасцю нажа і ўзяць яго, толькі ў такім разе беларус мусіць усё адно заплаціць за нож. Хай гэта будуць сімвалічныя рублі, але яны павінны ўдзельнічаць у справе з’яўлення новага нажа.

Ты можаш сказаць мне, што ўсё гэта забабоны і цемрашальства. А я магу з табою пагадзіцца. Але ёсць традыцыі, якія прыйшлі да нас ад дзядоў і прадзедаў. Традыцыі варта паважаць. Традыцыйна

беларус звяртае вялікую ўвагу на новы нож і правільна робіць. Не буду сыходзіць у абстрактныя абагульненні, а раскажу табе пра свае адносіны і гульні з нажамі.

Колькі я сябе памятаю, у мяне заўсёды былі нажы. Вучыўся я ў такой школе, куды ўсе хлопцы хадзілі з нажом у кішэні. Адны мелі самаробныя фінкі, іншыя абыходзіліся ножыкамі, набытымі ў краме. Таму я не вельмі здзівіўся, калі даведаўся, што майго былога аднакласніка — Міколу Панасюгу — зарэзалі каля чыгуначнай станцыі «Радыятарны завод». Міколу шкада, але ж я не здзівіўся, што памёр ён ад шматлікіх нажавых ранаў.

Пасля школы я насіў з сабою нажы, каб вастрыць простыя алоўкі. Вастрэнне простых алоўкаў хірургічнымі нажамі мяне супакойвала. У кожнага свой шлях у свет супакаення, у мяне ён зніταваны са скальпелем.

Акрамя скальпеляў, я накупляў сабе дарагіх нажоў, сярод якіх найлепшы зрабілі ў Італіі і назвалі яго «Лісіца». З такой «Лісіцаю» можна на паляванне хадзіць, але я не паляўнічы, таму мая «Лісіца» адно падарожнічае. Яна была і ў Рыміні, і ў Рыме, і ў Варшаве, і ў Вільні… Дзе мы толькі з ёю ні былі!

З нажом у руцэ я раблюся іншым чалавекам. Адназначна. Нож не проста дадае мне дадатковую якасць, што зразумела, ён ператварае мяне ў іншую істоту, жорсткую і крыважэрную. Маю галаву наведваюць такія думкі, ад якіх халадзее на сэрцы. Мне хочацца зарэзаць чалавека. Падобнае пачуццё ўзнікае, калі ты стаіш на даху шматпавярховай будыніны, і невядомая сіла цягне цябе скінуцца. Так і тут, вар'яцтва захоплівае розум, і жаданне перарэзаць чалавечае горла робіцца настолькі моцным, што не ведаеш, дзе падзецца. Даводзіцца ва ўяўленні ўсаджваць вострае лязо ва ўласную нагу. Нават уяўны боль вяртае яснасць думак, тады я акуратна хаваю нож у скураныя ножны і прагна п'ю ваду. Раней я спрабаваў сваю празмерную агрэсію заліваць гарэлкаю, толькі ад гарэлкі жаданне забіць чалавека рабілася яшчэ большым, яно рабілася амаль непераадольным. Гэта адна з прычынаў, чаму я кінуў гарэлку, адна з самых важных нагодаў, каб не напівацца. А на цвярозую галаву значна лягчэй утаймоўваць прагу забойства.

Зрэшты, я быў цалкам цвярозы, калі антыквар Шура прапанаваў набыць у яго казацкую шашку. Начорта мне тая шашка? Але ж я ўзяў яе ў правую руку і ўзважыў. І тут са мною пачало адбывацца нешта неверагоднае: я на ўласнай скуры адчуў якасны скачок чалавека вайсковага ад каменнага нажа да казацкай шашкі. Я ўзняў яе і з усёй моцы секанўў паветра. Шашка апісвала дугу, а прад маімі вачыма пралятала ўся гісторыя казацтва з бунтамі, з рэвалюцыямі, са

змаганнем за незалежнасць бязмежнага Казакстана пад штандарамі атамана Краснова, які маліўся д’яблу, бо не верыў, што Бог дапаможа яму ў вайне. Шашка праляцела ў якім міліметры ад маёй нагі і спынілася. Як я не адсек сам сабе нагу? Чорт яго ведае. Адно зразумела, што Шура мне больш не прапаноўваў ні шашак, ні шабляў.

Агнястрэльную зброю мне таксама ніхто не прапаноўваў, дый не люблю я яе. Да стрэльбаў, рэвальвераў і пісталетаў з аўтаматамі я раўнадушны цалкам, хіба што балістычная ракета мяне крыху хвалявала. У нашай сям’і быў чалавек — дзядзька Саньдзя, які ўзначальваў ахову такой ракеты. База мясцілася ў Казахстане. І з Казахстана гэтай ракетаю можна было зруйнаваць Пекін альбо Нью-Ёрк. Такі маштаб разбурэнняў мяне хваляваў. Але хваляваў ён мяне значна меней, чым вострая дзюбка нажа над уласным кулаком. Калі я бачу свой кулак з заціснутым у ім нажом, у мяне ўсяляецца Нажавік — жорсткі бог спрадвечнай вайны. Мо таму і нельга беларусу прымаць нож у якасці падарунка? Мо таму і трэба плаціць за нож наперад? Я плачу.

І гэтым разам я заплаціў жанчыне, якая вырашыла падарыць мне нож. Я заплаціў, паклаў нож у кішэнь, і мы пайшлі на паўзабаронены мітынг.

## Мацюк

Ці ёсць у беларускай мове мат? Хіба гэта важна?.. У белмове ёсць мацюк! Дакладна. У нас маецца мацюк, і не адзін мацюк, а безліч моцных мацюкоў, такіх моцных, што яны здатны з жанчыны зрабіць мужчыну. Доказы? Зараз будуць…

Пачну з Масквы — гнязда рускіх шматпавярховых матаў. Запрасілі мяне туды на фестываль сусветных культур. Карэйцы з манголамі, палякі з немцамі, венгры з в’етнамцамі фестывалілі па поўнай праграме. У балгарскай амбасадзе культурны інтэрнацыянал дарваўся да ракіі. Першую паўлітровую пляшку я выпіў з хахлом Гырнікам, другую выжлукціў з маскалём беларускага паходжання Казакевічам, трэцюю я нёс у кішэні, каб высмактаць з паэтамі метаметафарыстамі. Быў мароз, моцны вецер згінаў людзей напалам, а я ішоў, высока ўзняўшы галаву, бо, нахіліся я хоць крыху, і ўся мая шматкаштоўная ракія апынецца пад нагамі.

Прыйшоў я да паэткі Шчарбіны, паставіў бутэльку на стол, сеў на канапу і ашклянеў. Я ўсё бачыў, усё чуў, усё разумеў, але гаварыць не мог. Тагачасны муж Шчарбіны — доўгавалосы, падобны на персідскага прынца юнак — разглядаў мяне як скульптуру антычнага

бога. Ён нават пакратаў маю халодную шчаку, і тады да мяне дайшло, што я не толькі абязмоўлены, а нават міргаць не магу.

Метаметафарыстаў мой адыёзна-анабіёзны стан не хваляваў, яны абмяркоўвалі апошнія публікацыі сваіх паплечнікаў і ролю рускага будызму. Сярод гудзення галасоў моцна вылучаўся мужчынскі фальцэт, напоўнены рускімі матамі. Уладальнік фальцэту кожны свой сказ аздабляў такім сакавітым брыдкаслоўем, што я яму зайздросціў самай што ні ёсць лінгвістычнай зайздрасцю.

Калі ж я пабачыў майстра шматаблічнага мата, давялося сабраць рэшткі сілаў і замігаць. Фальцэт належыў не мужчыну, а жанчыне — Таньцы Шчарбіне. Гэта яна крыла матам на ўсю ампірную кватэру, пазаастаўляную высознымі стэлажамі, поўнымі неверагодных кніжак. Гэта яна ўвойдзе ў гісторыю рускай паэзіі тым, што ўзаконіць прысутнасць мата на старонках літчасопісаў. Яна першая ўбачыць Зігфрыда ў постаці рок-н-рольшчыка Віктара Цоя. Яна шмат чаго зробіць, але мяне ўсхвалявала іншая метамарфоза. Рускі мат здатны памяняць чалавеку пол. Жанчына кажа «.б вашу маць» — і яна робіцца мужчынам; як у казцы: сказаў «шніп, шнап, шнуп» — і цябе ніхто не бачыць.

А ці здатны беларускі мацюк на такое? Ці зможа ён са стрункай дзяўчынкі зрабіць пацана? Пытанне паставілася і забылася, бо я не толькі міргнуў, я вярнуўся ў нармальны жыццесцвярджальны стан. Я чытаў свае вершы, даводзіў перавагу самога факта над ягонымі трактоўкамі ды каментарамі. Набраўшыся ракіі і нахабства, я смяяўся з пагалоўнага захаплення метафарамі ў самой бярлозе метаметафарыстаў. Як мы не пабіліся? Ці дакладней… Чаму мне не надавалі па падрыльніку? Думаю, што з-за майго інародства ды заземленасці, з-за маёй жлобскай беларускасці, з-за таго, што беларускі мацюк не слабейшы за рускі мат.

Пра тую далёкую вечарынку з ракіяй я б незваротна забыўся, каб не паэтка Наста. Я рабіў чарговую марную спробу прышчапіць нашым маладым паэтам любоў да хайку, яны нават панапісвалі трохрадкоўі, але іх сэрцы былі далёка-далёка ад будысцкіх каштоўнасцяў. Са студэнтаў пёрлі метафары, з іх вылазілі мацюкі. Наста Манцэвіч напісала такое: «Калі ў вачах цямнее, мне хочацца проста ўкленчыць: «О Божа, хачу да мамы! Да таты хачу на плечы…» Каб апынуцца ў дзяцінстве, як калісь — хавацца ў шафе сярод кажухоў і шапак, цукерку цягаць з буфета ды красці ў суседа слівы…» Цяпер — увага! «Еі быць маленькім і лёгкім, і .б вашу маць, шчаслівым».

Во табе доказ: мацюкнуўся — і стаў мужчынам. Во яно, няўлоўнае і таямнічае пераўтварэнне — алхімія слова, магія паэзіі. Я шклянею ад

такіх відовішчаў, мой светагляд натурала бярэ паўзу. І я забываю пра Шчарбіну і пра Манцэвіч. І я не згадваю пра іх да таго моманту, пакуль не пабачу, як праз гастраном ідзе Наста. Яна сціскае ў руцэ грашовую паперку ў дваццаць даляраў, тварок сцяты, пастава скрыўлена болем. Наста кульгае. Мне падумалася, што, напэўна, так кульгаў скінуты з неба анёл. Анёл кульгаў, плакаў і мацюкаўся…

## Мора-мора-акіян

Няма беларускага мора. Так склалася, што вада ў нашых краях прэсная — рачная ды азёрная, крынічная ды калодзежная… Толькі нам, як і ўсім астатнім, хочацца на мора. Чаму? Як той казаў: пра мора гавораць у Раі, а калі ты не быў на моры, пра што з табою гаварыць.

Ты збіраешся і едзеш на мора. Прыязджаеш у якую Клайпеду, ходзіш па дзюнах, глядзіш на плытка-шэрае мора і думаеш, што цябе падманулі, бо пра такое мора і гаварыць няварта. Таму наступнае падарожжа будзе ў Крым да самага Чорнага мора, але і там цябе падпільнуе расчараванне. Не, не мора цябе расчаруе, а людзі на беразе, людзі там будуць брутальныя, бедныя, злыя.

Ты вернешся дамоў, лета скончыцца і пачнецца восень, такая чырвоная і залатая, што ты забудзешся пра ўсе размовы, якія чакаюць у Раі, а будзеш жыць тут, будзеш жыць і радавацца, ажно пакуль не пойдуць доўгія дажджы. Яны пойдуць, і зробіцца табе сумна, і зноўку захочацца да мора і да прыморскіх жанчын. Не ведаю, чаму той не сказаў, што ў Раі гавораць пра жанчын. Ці мо пра жанчын гавораць толькі ў Пекле? Дажывём — пабачым. А пакуль ідуць халодныя дажджы, ты выправішся да цёплага Міжземнага мора. Ты пойдзеш у барселонскі порт і будзеш глядзець на караблі. Ты нагледзішся на караблі і завітаеш на вуліцу з легкадумнымі жанчынамі. Будзеш выбіраць-перабіраць, ды так і не выбераш жанчыну. Чаму? Хто цябе ведае…

З Барселоны ты паляціш у Амстэрдам, дзе жанчыны будуць сядзець у вітрынах. Ты будзеш басцяцца па кварталу Чырвоных ліхтароў, пакуль не выбераш вялікую мурынку ў панчохах-сетачцы. Тоўстая мурынка павядзе цябе ў маленькі пакой з вялізным, на ўсю сцяну, люстэркам, дзе вы зоймецеся сэксам разам са сваімі адлюстраваннямі. Ты будзеш займацца сэксам і думаць пра мора, каб падчас размовы ў Раі згадаць не толькі мора, а і густое цела мурынкі і яе пругкія сцёгны ў чорнай сетачцы. Ваш сэкс будзе бліскучы і гарачы, такі бліскучы і такі гарачы, што, вярнуўшыся ў халодныя і цёмныя дажджы, ты цэлы месяц будзеш мець светлы настрой. Нават

калі ты чытацьмеш прагноз надвор’я на тыдзень, а ў тым прагнозе зусім не будзе сонца, ты ўсё адно не замаркоцішся, бо ўспаміны пра караблі пад помнікам Калумбу, успаміны пра барселонскую вуліцу, напоўненаю паўаголенымі і аголенымі жанчынамі, цябе развесяляць.

Але памяць мае адну ўласцівасць — яна пацiху блякне, а таму табе зноў захочацца на мора, і не проста на мора, а ў далёкую краіну, дзе мала хто ведае пра тваю Беларусь, у якой зусім няма нічога марскога. Табе захочацца на бераг акіяна, і ты выбераш Індыйскі. Ты паляціш у Індакітай, у горад Бангкок, а з яго паедзеш на бераг Сіямскага заліва, у горад Патаю, дзе толькі на адной вуліцы пабачыш дзесяць тысяч вясёлых жанчын, кожная з якіх можа заняцца з табою паглыбленым вывучэннем Камасутры. Ты зойдзеш у стрып-бар, замовіш колу з лімонам і пачнеш разглядаць аголеных таяк, які танчаць на мокрым стале. З-пад гладзенькіх пятак мініяцюрных танцорак будуць разлятацца пырскі. Ты парадуешся, што замовіў толькі колу, бо піць колу з пырскамі ты, канешне, не станеш.

Ты нагледзішся тайскіх эратычных танцаў ды пойдзеш у бардэль. Там выбераш самую мініяцюрную жанчынку. Яна павядзе цябе ў вялікі пакой з ваннай, душам і квадратным ложкам. Яна памые цябе ўсяго-ўсяго, яна вытра цябе мяккім ручніком і зробіць масаж, а толькі пасля гэтага вы зоймецеся вывучэннем Камасутры. Твая мініяцюрная каханка будзе скакаць на табе, а ты зноўку задумаешся пра мора, пра мора-мора-акіян.

З бардэля ты пойдзеш на мора, ты будзеш доўга ісці ўздоўж Сіямскага заліва, будзеш доўга плаваць у ім, а калі вернешся ў гатэльны нумар, адчуеш млосць. Табе зробіцца страшэнна холадна, а потым цябе абалье пякучая гарачыня, трасца пачне цябе калаціць. Ты здагадаешся, што атрымаў сонечны ўдар. Давядзецца праляжаць у мокрых ад поту прасцінах цэлыя суткі, пакуль ты ачуняеш. У Беларусь ты вернешся стомлены, але з дакладнымі ведамі пра мора-мора-акіян. Цяпер ты зможаш падтрымліваць размову ў Раі пра мора і гутарку ў Пекле пра жанчын. Цяпер ты дакладна ведаеш, што і там, і там ніхто ў цябе не спытае ні пра мора, ні пра жанчын, бо калі хто пра што і запытаецца ў цябе пасля тваёй смерці, дык пытанне будзе пра нашыя крыніцы, калодзежы, рэчкі, азёры і пра нашых тутэйшых жанчын.

### Натура

Пятніца, вечар, лістапад. Зайшоў пасля працы ў студыю. Толькі зайшоў, званок у дзверы. Напружыўся. Адвык я ад настойлівых званкоў у дзверы. Зазвычай: ідзе дамова па сотавіку, потым голас

у дамафоне, і толькі тады ў дзверы звоняць. Каго баяцца? Адчыняю. На мяне насоўваецца суседка. Раблю крок назад. Яна не глядзіць мне ў вочы. Яна пазірае на сваю правую апушчаную руку, у якой вісіць двухлітровы балон піва «Крыніца». «Вы — адзінокі! Я — адзінокая!» — суседка пачынае разгойдваць балон. Ёй гадоў трыццаць. Яна — зграбная беларуска, якая дакладна ведае, чаго хоча тут і цяпер. «Я чакала, калі вы прыйдзіце, і вы прыйшлі». Усё! Раблю крок ёй насустрач і тактоўна кажу: «Я не самотны, я жонку маю». Суседка не верыць, жанчыны мне даўно не вераць, але я не пераймаюся. Балон «Крыніцы» выносіцца са студыі. І толькі я ўздыхаю з палёгкаю, як пачынае зудзець дамафон, і ў ім гучыць знаёмы голас. Карацей: лістападаўская пятніца, халодны вечар, вялікая поўня і сэкс з жонкай. У панядзелак было нечакана многа святла. Ад такога святла ажно круціцца галава. Хмельнасць у целе. Нават суседка выглядала пасвяжэлай і прывабнай. Падумалася: ці не намаляваць мне яе партрэт. Не. Яна не так зразумее, падумае, што маляванне толькі нагода, каб перайсці ў інтым. Вырашана: маляваць суседку не буду. Намалюю лепей крэсла. У мяне новае крэсла. Прыдбаў я крэсла і амаль не сяджу на ім. Шкада? Не. Сам не ведаю, чаму мне не сядзіцца на новым крэсле. Пачну маляваць і разбяруся. Пачаў маляваць, і не атрымлівалася ў мяне амаль нічога, бо ад крэсла сыходзіла варожасць. Яно нібыта нечага патрабавала. Я паклаў на крэсла ручнік і намаляваў, і атрымалася. Лічу — атрымалася. Што палічаць іншыя? Хіба гэта важна для маіх узаемаадносінаў з уласным крэслам? Намаляваўшыся, зайшоў у кавярню, а тамака бітма народу. Знайшоў вачыма знаёмы твар. У кутку, за акварыумам сядзеў кравец Барыс. Я праціснуўся да ягонага століка. «Адзін?» — «Сядай, а я схаджу цыгарэту выкуру». На стале стаяла танкасценная колба з гарэлкаю і чарка. Чысты мужчынскі нацюрморт. Ці захацелася мне выпіць? Так. Але я задумаўся пра іншае, пра стасункі мастака і натуршчыцы. Ці глядзіць мастак на аголеную жанчыну, як п’яніца на колбу з гарэлкаю? Не. Мастак глядзіць інакш, ён глядзіць адначасова і на гарэлу, і на п’яніцу, і на кавярню, і на зялёны акварыум з чырваналобымі рыбамі. Мастак глядзіць шырока, ён бачыць вялікі свет, нават калі малюе толькі адну аголеную жанчыну, ці піша маленькі нацюрморт з чаркай і колбаю гарэлкі. Тут я і вырашыў завесці сабе натуршчыцу. Надакучылі пустыя размовы пра распуснасць, што ўвесь час круцяцца вакол мяне, і я завёў сапраўдную натуршчыцу. Як? Проста. Прыбірацца ў студыі мне дапамагае Надзя. У вольны ад прыборкі час Надзя вучыцца ў акадэміі мастацтваў. Там натуршчыц шмат. Яна падабрала і прывяла маладую жанчыну — Люду. «Вам як лепей: калі я ў плаўках стану ці калі — без

плавак?» Пэўная няёмкасць, вядома, узнікае, калі мужчына застаецца з аголенай жанчынаю сам-насам. «Давай, Люда, ты першую гадзіну адпазіруеш у плаўках, а потым іх здымеш». Праз гадзіну Люда павярнулася да мяне бокам і скінула плаўкі. Похва ў яе чыста паголеная, цела дагледжанае, валасы памытыя. А малюецца мне кепска, бо даўно не рабіў накіды з аголенай натуры. Раблю перапынак, палю цыгарэту і размаўляю з Людаю… Мая натуршчыца — будыстка. Экзатычна. «Люда, а ці даюць будысты сабе новыя імёны? У мяне дык ёсць акрамя пашпартнага імя яшчэ адно імя, атрыманае падчас хрышчэння — Уладзіслаў». — «Даюць». — «А хто дае?» — «Настаўнік піша мужчынскія і жаночыя імёны на паперках, а вучні цягнуць паперкі…» — «Гэтыя імёны таемныя ці адкрытыя?» — «Ёсць адкрытыя, а ёсць і таемныя». — «А на якой мове тыя імёны пішуць?» — «Па-тыбецку». Папытаць пра будысцкае імя Люды я чамусці пасарамеўся. Маляваць голую Люду мне зусім натуральна, а пытаць яе імя, напісанае па-тыбецку, сорамна. Думаў, яна сама мне тыбецкае імя назаве. Не сказала. Калі я апошні раз маляваў Люду, ніводнага вартага ўвагі малюнка не зрабілася. Здавалася, у апошні дзень нешта нейкае незвычайнае прамалюецца. Не. Я сказаў Людзе, калі ў мяне знойдзецца час на маляванне, я ёй абавязкова патэлефаную. Наўрад. Але сказаць такое сказаў.

## Двор

З дворнікамі ў сваім двары я вітаюся. Большасць жыхароў нашага вялікага прахаднога прывакзальнага двара з імі не гаворыць. Я б таксама не вітаўся, каб яны самі не давалі «добры дзень». Пачала вітацца цётка з чырвонымі валасамі, а за цёткаю і ўсе астатнія. А вось з дваровымі алкаголікамі не гавару. Нават калі яны і загаворваюць у мой бок, я моўчкі іду далей.

У маім квартале пяць бараў, дык з барнымі п’яніцамі я перакідваюся словам-другім. А з тымі, хто закуску вышуквае ў кантэйнерах са смеццем, я не магу гаварыць, бо гідка. Мне лягчэй пагаварыць з сарокаю ці варонаю, што грабецца ў сметніцы, чым са смярдзючымі парэшткамі паўчалавекаў. І з тутэйшымі сабакамі ды катамі я таксама размаўляю лагодным голасам. Зазвычай я ім кажу адно слова: «харошы-харошы-харошы». Жывёлы і птушкі любяць такое слова, прынамсі ў нашым двары яны яго шануюць.

З кім-кім, а з чужымі дзецьмі я ніколі не вітаўся. Гуляюць сабе на пляцоўцы і хай гуляюць, нашто ім перашкаджаць. Чужыя дзеці хутка растуць, і пераканаўся я ў гэтым шматкроць у сваім жа двары. Была сярод іх адна дзяўчынка чарнавокая. Дзяўчынка як дзяўчынка,

крыху нескладная, а так выглядае на звычайную. Толькі яна не зусім звычайная, бо спачатку яна гуляла ў пясочніцы з раўналеткамі, а потым яны падраслі. Раўналеткі сышлі з пясочніцы, а дзяўчынка засталася. Яна засталася гуляцца сярод меншых за сябе, але і меншыя выраслі, а дзяўчынка зноўку засталася ў пясочніцы. Яна стала падобнай да вялікай вароны сярод вераб'ёў. Яе нязграбнасць і вуглаватасць павялічыліся, нейкая неахайнасць з'явілася ў вопратцы. Скажу шчыра, яе прысутнасць пад высокімі дваровымі таполямі пачала мяне раздражняць. Напэўна, яна раздражняла не толькі мяне, але і бацькоў малых дзяцей, бо апошнім часам дзяўчынка хоць і гуляла ў тых жа пясочніцах, але гуляла адна і з самага краю дзіцячай пляцоўкі.

Калі я заўважыў, што дзецям не дазваляюць сябраваць з дзіўнаватай дзяўчынкаю, мне нават стала яе шкада, бо яшчэ які год-два — і яна пачне гуляць з дваровымі алкаголікамі, пачне пасмоктваць піва і папіваць таннае віно, будзе пакурваць кепскія цыгарэты і сіпатым голасам выпрошваць у мінакоў грошы ці прапаноўваць пад'ездны сэкс за капейкі. Такое ў прывакзальных дварах на кожным кроку. «Мужчына, вы так смачна пахнеце, вы такі прыгожы… Можна я зраблю вам мінет за дзясятку… Ну давайце за пяцёрку… Вырадак! Яму шкада цыгарэты для беднай дзяўчыны!!!» Цыгарэты мне не шкада, я проста не люблю п'яных і брудных прастытутак. Не скажу, што вельмі люблю цвярозых і напарфумленых, але смярдзючых і дурных зусім не люблю.

Намаляваўшы такую змрочную карціну пра нескладную і касавокую Дваравічку, я перастаў раздражняцца, а таму і не заўважыў, калі яна прапала. Няма і няма, і Бог з ёю. Дваровае жыццё цякло далей у сваёй шматаблічнай завядзёнцы. П'яніцы п'юць, дзеці смяюцца, галубы разгульваюць па шапаткой апалай лістоце і зусім не баяцца міліцыянтаў, што ўтрох шпацыруюць па перыметры нашага добра праветранага двара.

Двор як двор, дзень як дзень. Тут пайшоў снег, узяў і пасыпаўся, такі звычайны і будзённы снег. Двор пасвятлеў і нават узрадаваўся. Не ведаю, як каму, а мне мой двор сказаў, што ён любіць першы снег. Я яму веру. Чаму не верыць? Хто з нас не любіць чысты снег? Я прайшоў праз белы двор і выйшаў у белы горад. Ідучы праз вакзальны натоўп, я раптам убачыў нашую Дваравічку. На ёй была новая шапачка з белым кутасом і новенькі кароткі кажушок ды белыя рукавічкі. Дваравічка пазнала мяне і павіталася. На душы на якое імгненне пасвяжэла. Так, на адно-адзінае імгненне мне стала добра, і я падумаў, што не ўсё так кепска ў нашым двары і на нашым свеце.

Снег сыпаўся і сыпаўся, цяпер ён быў ужо не такі белы і не такі чысты, бо снег пачаў падаць разам з дажджом. Мне зрабілася кепска, бо я зразумеў, што нічым не змагу дапамагчы нашай Дваравічцы. Я нават сліваю ў шакаладзе не змагу яе пачаставаць. Ну каму трэба зацукраваная сліва ў шакаладзе з рук чужога чалавека, нават калі ты з ім жывеш у адным двары, нават калі ты адзін раз даў яму «добры дзень», нават калі ты разумова непаўнавартасны?

## Рок

**Рок-канцэрт у касцёле! Хто мог падумаць? Каму не хапала рок-музыкі пад касцельнымі скляпеннямі? Мне!**

Задумаў я той канцэрт трыццаць гадоў назад, седзячы пад скляпеннямі, у касцёле Успення Дзевы Марыі. Тады мала хто бачыў у паўразбураным баракальным будынку касцёл. Для мясцовых уладаў горада Мсціслаўля гэта быў помнік архітэктуры, у якім збіраюцца адчыняць мастацкі музей. Для тамтэйшых гандляроў ён быў складам для гародніны, склепам, дзе квасілася капуста і ладзілася засолка агуркоў. Старадаўнія сцены пасівелі ад солі. Перамалёўваючы анёлаў з музычнымі інструментамі, я думаў пра рок-музыкаў. А калі сваім калегам-рэстаўратарам я прапанаваў замест музея зрабіць канцэртна-танцавальную залу, яны не зразумелі мяне. Не час. Тады быў час высяляць гандляроў салёнымі памідорамі з касцельных сутарэнняў, час рабіць дакументацыю на аднаўленне будынка з яго вежамі, калонамі і сценапісам. Але менавіта ў той час я задумаў свой рок-канцэрт у касцёле.

Сто семдзесят пяць гадоў назад пабачыў свет раман «Сабор парыжскай Божай Маці». Пачынаецца твор з развагі пра слова ANAГKH — РОК па-грэчаску. Слова «рок» нарадзіла раман-сабор, так перакананы аўтар — Віктор Гюго. Нам застаецца паверыць яму, паверыць і прыняць той факт, што з таго часу кніга стала саборам.

Хвалі ўсёзнішчальных войнаў і людажэрных рэвалюцыяў пракаціліся па свеце. Раз'ятраныя натоўпы паўвар'ятаў руйнавалі цэрквы і разбівалі званы, палілі абразы. У запале сваёй рэвалюцыйнасці і ваяўнічасці вылюдкі ладзілі на плошчах і спальванне кніжак. Палымнелі саборы і гарэлі кнігі, рэчаіснасць курчылася ў агні. Зямля прагна піла чалавечую кроў. Ап'янеўшы ад вогненасці і крывавасці, зямля засынала.

Маё пакаленне прыйшло ў свет, дзе халодныя руіны сабораў пазіралі на людзей чорнымі прагаламі павыбіваных вокнаў. Мы глядзелі на саборы, а саборы глядзелі на нас і не бачылі нас. Трэба было зайсці ў руіны і запаліць там свечку ці хоць бы лямпачку

павесіць. А пад той лямпачкай трэба было заспяваць. Мы заспявалі рок. Мы аднавілі саборы. Мы выйшлі на плошчы і стадыёны. Мы стварылі новыя дзяржавы, лепшыя за папярэднія. Мы пражылі жыццё са сваёй песняю.

У свет прыйшлі новыя пакаленні. Шмат найлепшых з маіх раўналеткаў адплыло ў вечную цішыню. Нашы дзеці ходзяць у адноўленыя саборы, а нашых унукаў ужо ніхто не спяшаецца хрысціць. І цяпер мне прапанавалі правесці рок-канцэрт у касцёле. Канцэрт, прысвечаны памяці аднаго з найлепшых маіх паплечнікаў, паэта Анатоля Сыса. Гэта — рок.

Былі запрошаны найлепшыя з нашых рокераў: Лявон, Кася, Руся, Хаменка і Памідораў. Чаму так мала? Каб не хапіла! Песняў было не шмат. Зноў жа ж, каб не хапіла, каб усе востра адчулі, як не хапае нам паэзіі, шчырасці, праўды, песні, музыкі і свабоды.

Канцэрт праходзіў цяжка.

Складанасці пачаліся з-за журналістаў, якія прызвычаіліся зарабляць свае трыцаць рублёў, пішучы пра забароненыя ўладаю мерапрыемствы. «А ці не забароняць ваш рок-канцэрт?» — «А ці не прыдуць міліцыянты ў касцёл?» — «А ці адпавядае паэзія вальнадумца Сыса касцёлу?» — «А ці прагучаць пад хрысціянскімі скляпеннямі ягоныя вершы накшталт такога: які ж тады Бог, калі служкі — звяры?» — «А праўда, што вершы Сыса выкінулі са школьнай праграмы за тое, што ён уваходзіў у суполку «Тутэйшыя»?» Правакатараў з іх гнюснымі пытаннямі я пасылаў да чорта. Абрыдлі яны мне. Я іх пасылаў, а яны лезлі і лезлі. Яны выраслі проста з-пад зямлі, і нават, калі я ўжо ішоў на сцэну, недарэчныя пытанні ўсё яшчэ ляцелі мне ў спіну.

Сладанасці з недарэчнымі пытаннямі журналістаў зусім і не складанасці ў параўнанні з капрызамі і паводзінамі рокераў.

Кася не хацела спяваць першай. Я настойваў, бо толькі адзін радок мог задаць патрэбную танальнасць усяму рок-канцэрту, радок «Надта хочацца ў вырай, мая белая лебедзь!». Настаяў. Кася пагадзілася — з адной умоваю, што мы пачакаем, калі ўсе рассядуцца, бо для гэтага радка патрэбна поўная цішыня. Таму і канцэрт пачаўся са спазненнем.

Капрызы Русі ляжалі ў іншай плоскасці, ёй не падабалася, што вакол яе круцяцца жанатыя мужчыны. Заляцанні і нават простая ўвага жанатых мужчын яе раздражняла. Раздражнёная рок-спявачка — рэч небяспечная. З ёй трэба абыходзіцца тактоўна і асцярожна, а дзе ўзяць тактоўнасць, калі ўсе навокал узбуджаныя і нервовыя?

Лявон не зрабіў песню на словы Сыса. «Я спрабаваў, а ў мяне нічога не выйшла! І што, калі песні не будзе? Я ж прыйшоў, я буду спяваць… У нас жа не дзяржаўнае мерапрыемства з зацверджаным сцэнаром?..» Добра, што мы былі ў касцёле, дзе нельга лаяцца. Добра, што Кася згадала песню, якую некалі даўно яна спявала разам з Лявонам. Добра, што Лявон сеў у кутку і аднавіў тую песню. Майстра.

У Хаменкі было жаданне праспяваць не тры песні, а шэсць. Алег ніяк не мог зразумець, чаму гэта я не хачу паслухаць шэсць ягоных кампазіцый. Не ведаю, ці зразумеў ён мяне, ці проста пагадзіўся.

Ну а Памідораў не прыйшоў на рэпетыцыю. Ён нават на канцэрт ледзь не спазніўся. Прыехаў злы і расстроены. Нешта-нейкае не склалася ў ягоным побыце. Але ж у кожнага з нас нешта нейкае заўсёды не складаецца. Ды трэба ўсё адно спяваць сваю песню і расказваць сваю гісторыю.

Я расказваў гісторыю, а рок-н-рольшчыкі спявалі. Рок-канцэрт у касцёле прайшоў выдатна. Галоўнае: усе востра адчулі, як нам не хапае паэзіі, шчырасці, праўды, песні, музыкі і свабоды.

## Кніга

У кнігарні я наведваюся ледзь не штодня. Выдавецкая дзейнасць і літаратурная творчасць без кніжнай крамы мне цяжка ўяўляецца. Думаю, каб я нічога не пісаў і нікога не выдаваў, дык у букіністы і на кніжныя кірмашы ўсё адно заходзіў бы. Мне падабаецца настрой, які ствараюць паліцы і сталы з часопісамі ды кніжкамі, а яшчэ мяне радуюць людзі з кнігамі ў руках. Таму я шмат каго ведаю ў кнігарнях.

Сярод заўсёдных наведнікаў мінскіх букіністаў ёсць Андрэй. Ён сабраў вялікую бібліятэку, якой страшэнна ганарыцца. Кніжкі са свайго збору ён нікому не дае, але часам запрашае гасцей, каб паказаць папяровыя скарбы. Аднаго разу і я патрапіў у лабірынты Андрэевых стэлажоў. Ён вадзіў мяне ад паліцы да паліцы і пералічваў назвы каштоўных набыткаў. Я выказваў захапленне. Нахадзіўшыся і назахапляўшыся, мы селі піць гарэлку. Так, мы пілі банальную гарэлку і закусвалі яе чорным хлебам, калі Андрэй расказаў гісторыю пра сваю загану…

«Мой кнігазбор пачаўся з крадзяжу. Я не збіраўся красці, а тым больш не збіраўся красці кнігі. Як і ўсе падлеткі, я хадзіў у бібліятэку і чытаў збольшага бібліятэчныя кніжкі. Нешта я пазычаў у сяброў, нешта было і ў нас дома. Чытаў шмат, можна нават сказаць — чытаў запойна. Сваю ракавую кнігу я пазычыў у суседа. Хуценька прачытаў яе і вярнуў. Я ж яшчэ не ведаў, што трымаў у руках сваю ракавую кнігу.

Не прайшло і дня, як мне нясцерпна захацелася яе перачытаць, нібыта я прапусціў у ёй нешта значнае. Прасіць другі раз адну і тую ж кнігу было сорамна, а таму я папрасіў зусім іншую кніжку, а тую скраў. Жаданне чытаць і перачытваць кнігу было настолькі моцнае, што ніякага сораму за свой крымінальны ўчынак я не адчуваў. Я страшэнна радаваўся, што кніга ў мяне, што яе можна насіць з сабою і чытаць. Я насіў яе ў сваім школьным партфелі і чытаў на ўроках, хаваючы пад сталом. Толькі мая радасць была не такая доўгая, як хацелася б.

Кніга прапала. Яна знікла на вялікім перапынку, калі я піў ледзь салодкую гарбату і еў сухаватую ватрушку ў школьным буфеце. Паскардзіцца настаўніку я не змог, бо і сам яе скраў. Мае слабыя дэтэктыўныя здольнасці не дазволілі знайсці злодзея. Ці правільней будзе сказаць, што я адмовіўся ад ідэі шукаць злодзеяў, а вырашыў шукаць саму кнігу. Я хадзіў па кнігарнях і кніжных кірмашах, знаёміўся з людзьмі, якія таемна гандлююць паўзабароненымі і забароненымі кніжкамі. Нешта я набываў, нешта выменьваў. Паціху-патроху пачала складацца мая ўласная бібліятэка, я стаў даволі вядомым Кніжнікам.

Але не пра тое ў нас цяпер гутарка ідзе.

Я не забыўся, я заўсёды памятаў пра сваю ракавую кнігу. Канешне, я яе прыдбаў, а прыдбаўшы, вырашыў яе вярнуць, прыйшоў да суседа і не змог прызнацца, што я яго абакраў. Так я і сышоў з той кніжкаю ў сваім настаўніцкім партфелі. Але спробы вярнуць кнігу я рабіў не адзін раз. Як толькі ў мяне з'яўляецца магчымасць набыць тую кнігу, я абавязкова яе купляю, перачытваю і прыходжу з ёй у свой стары двор, стаю пад вокнамі суседа і думаю пра ўласнае глупства і баязлівасць з нікчэмнасцю. Шмат разоў я прыносіў кнігу ў свой стары двор. Там усё змянілася, а калі я туды прыйшоў апошні раз, дык і дом знеслі. Няма чалавека, якому я вінен кнігу, няма нават месца, куды яе можна было б пакласці, каб стварыць ілюзію вяртання. Ёсць толькі асобнікі маёй ракавой кнігі. І я думаю, што ў кожнага чалавека ёсць свая ракавая кніга, кніга, якую ён узяў пачытаць і не вярнуў, кніга, якую немагчыма прачытаць да канца...»

Мы дапілі гарэлку. І калі я ўжо стаяў на ганку Андрэевага дома, дык не стрымаўся і спытаў: «Дык уласна якую кнігу ты не можаш вярнуць?» —» Я не магу вярнуць «Скрадзенае пісьмо» Эдгара Алана По». — «А што такога незразумелага ты ў ёй знайшоў, што столькі разоў перачытваў?» — «Пісьмо! Самае невытлумачальнае і загадкавае ў той кнізе само пісьмо. Усе думаюць, што гутарка ідзе пра скрадзены ліст, у якім дэскрыдытуецца нейкая там важная палітычная асоба,

што трэба любым чынам вярнуць гэты ліст і ўсё вернецца на свае заўсёдныя месцы. Насамрэч у тэксце распавядаецца пра пісьмо, якое можна вывернуць на левы бок, якое можна скласці ў адваротным парадку. Разумееш? Самае каштоўнае ў той кнізе менавіта пісьмо, якое не адпускае чытача…»

**Душа**

У чалавека няма душы…

Яе няма да таго моманту, пакуль чалавеку не стане кепска. Яму мусіць зрабіцца так маркотна і невыносна жыць, што ўвесь навакольны свет пацямнее, цела зробіцца непатрэбным і тады… Гэта як з болем, які выразна абмалёўвае хворае месца. Табе няма ніякай справы да ўласнай ключыцы. Ёсць у цябе ключыца ці няма той ключыцы? Без розніцы. І раптам ты няўдала ўпаў і зламаў ключыцу. Аказваецца: у цябе ёсць ключыца. Яна страшэнна баліць. Ключыца робіцца больш значнай за ўсё астатняе цела. Цяпер ты ведаеш пра ключыцу ўсё.

Так і з душою, пакуль ты роўна дыхаеш, пакуль справы твае ідуць добра, пакуль ты зламаў толькі ключыцу, ты не адчуеш сваёй душы. Можа, ты яе ніколі і не адчуеш, а пражывеш доўгае спакойнае жыццё. Я нават табе пажадаю такое бяздушнае жыццё з дабрабытам і весялосцю. І сабе я такое жыццё жадаю, бо жыць у канфлікце з уласнай душою цяжка. Я не збіраюся цябе ні ў чым пераконваць, не буду цябе і агітаваць, проста распавяду пра свае стасункі з уласнай душою і ўсё.

У маладосці я быў страшэнна канфліктным чалавекам, да сшэрхласці скуры я ненавідзіў ілжывасць. Таму перад тым, як выдаць дыплом пра заканчэнне акадэміі мастацтваў, мяне паклікалі на кафедру і сказалі, што дыплом я атрымаю, але мастаком не стану, бо ніхто ніколі не замовіць мне ніводнага роспісу і не купіць у мяне ніводнай карціны. У той час пагроза была звышрэальнай, бо мастацкі свет быў упарадкаваны і замкнёны сам на сябе, як і ўся імперыя. Мяне выштурхнулі з афіцыйна-мастакоўскага асяроддзя. Я басцяўся па горадзе ў пошуках працы. Васямнаццаць гадоў я старанна правучыўся на мастака, атрымаў два дыпломы і апынуўся незапатрабаваным. Куды я ні звяртаўся, паўсюль чуў адмовы. Паабяцаная забарона на прафесію ўцялеснілася. Як утрымліваць сям’ю? Як карміць дваіх дзяцей? Як жыць? Не ведаў. І тут мне прапанавалі працу журналіста, я прасіў працу мастака ў часопісе «Беларусь», а мне прапанавалі папрацаваць тры месяцы журналістам. У іх прападала стаўка журналіста… Пагадзіўся.

Самае цяжкае для мяне ў той працы было сядзенне ў кабінеце, з дванадцаці да пяці я мусіў сядзець за сталом. Ні пісаць, ні маляваць я там не змог. Нешта нейкае я, канешне, рабіў, але ўласна працы там было на паўгадзіны, не больш. Пустое сядзенне мяне гняло. Ад гнятлівасці я сыходзіў з кабінета, ішоў казённым калідорам і выходзіў на ганак, каб хвіліну-другую пaглядзець на вольны свет. Аднойчы я прайшоў тым кепска асветленым калідорам і на ганку адчуў, як душа пакідае мяне. Я знямеў. Стаяў, глядзеў на неба і чакаў. Я спадзяваўся, што душа вернецца. Ці прасіў мой розум вярнуцца ў цела маю душу. Хутчэй, не. Я верыў, што яна вернецца, і душа вярнулася. З працы ў часопісе «Беларусь» давялося звольніцца. Лепей я ўжо буду працаваць простым афармляльнікам крамных вітрынаў, чым у маленечкім кабінеціку чакаць, пакуль душа пакіне мяне назаўжды.

Доўгі час душа не нагадвала пра сябе, я жыў як жылося, пакуль не пачаў напівацца да бяспамяцтва. Ад п'янак разбурыўся мой сон. Без гарэлкі я не мог заснуць. Я ляжаў у ложку, цела маё было цяжкім, сон не прыходзіў, але і падняцца не было сілаў. І тады мая душа зноў пакінула цела. Цяпер я сачыў за яе палётам. Душа паляцела ў Чырвоны касцёл і села на вітражную ружу. Мне зрабілася лёгка, і я заснуў. Прачнуўся я бадзёрым. У мяне з'явілася радасць за душу, за тое, што цяперака яна ведае сваё месца. І ёй нават не замінала тое, што ў касцёле не было вернікаў і святароў. Яны толькі яшчэ рыхтаваліся да вяртання. Яны вярнуліся і пачалі рапарацыю, яны ладзілі набажэнствы, і я радаваўся за іх, бо верыў, што маёй душы стане толькі лепей, калі ў Чырвоным касцёле адладзіцца кананічнае рэлігійнае жыццё. Я памыліўся. Душа мая адчула чужынскасць, што запанавала ў Чырвоным касцёле. Яна колькі разоў спрабавала падляцець да вітражнай ружы, але не змагла. Нешта-нейкае замінала ёй, штосьці трывожыла яе… А цела маё пакутавала ад п'янства. Я кінуў піць. Перапакутаваў, змучыўся, але кінуў.

Доўгі час душа не азывалася. А днямі, калі я вяртаўся з працы дамоў, адчуў душэўны неспакой. Было холадна і ветрана, дробны снег сек твар, цела налілося свінцовай стомаю. Ні гарачы душ, ні салодкая гарбата не прагналі маю пятнічную — сабраную за тыдзень — стому. Я лёг і паспрабаваў заснуць. Сон не прыходзіў. Душа выплыла з мяне і паляцела далёка-далёка, яна паляцела ў Белы касцёл, у той касцёл, дзе я некалі працаваў. Душа заляцела ў вежу і спынілася каля высокага акна. За ім былі пагоркі, засыпаныя снегам, за тымі пагоркамі ляжалі іншыя пагоркі, а за імі — наступныя, і так да самага снежаньскага неба. Мая душа глядзела з вежы на заснежаныя пагоркі, а я засынаў, каб прачнуцца радасным і бадзёрым.

Ці ёсць у цябе душа? Забаліць — даведаешся…

## Пацук

У метро я здымаю шапку. Ніхто не здымае, а я, апускаючыся на эскалатары, трымаю сваю чорную шапку ў руцэ, так вальней. І сягоння я хадзіў па платформе без шапкі, прагульваўся ў чаканні цягніка ды згадваў далёкае мінулае, бо калі гэтым разам я сцягваў шапку, згадаўся хлеў дзеда Броніка.

Было мне тады гадоў сем, я зайшоў у хлеў і гэтаксама зняў шапку. Я стаяў у цемры і слухаў, як цяжка ўздыхае ў загарадцы наш кабан. Ён, пэўна, адчуваў блізкі скон, таму і дыхаў цяжка. Снежаньскае святло лілося праз маленечкае акенца на ягоную шырокую спіну. Цёпла пахла гноем. У суседняй загарадцы ляжалі невялічкія парсючкі. Іх наперадзе чакаў доўгі год сытага жыцця. А год нашага вялікага кабана скончыўся, і сягоння яго заколюць нямецкім штык-нажом.

Нашы мужчыны выведуць кабана на двор і паваляць каля плота. Дзядзька Казік намацае-наслухае свіное сэрца, ударыць у наслуханае месца нажом, а потым яшчэ раз, прыслухаўшыся ды прымераўшыся, загоніць дзюбку штыка глыбока ў сэрца. Кабан паторгаецца, аціхне, і з яго спусцяць кроў. Сусед нацэдзіць сабе ў жалезны кубачак яшчэ жывой крыві, пасоліць яе і вып’е. Недапітае ён вытрахне з кубка на чысты снег. Кабана абсмаляць паяльнымі лямпамі ды адчысцяць нажамі да залацістага бляску.

Нашы жанчыны, ужо ў хаце, разбяруць кабана і насмажаць свежыны. Усе мы будзем есці смажаныя скабкі. Я заўсёды чакаў смажаных рэбраў. І калі стаяў без шапкі ў цёмнай цеплыні дзедавага хлява, слухаючы цяжкія ўздыхі вялікага кабана, я не шкадаваў яго, я чакаў тлустай і салодкай смажаніны. Калі каго я і мог пашкадаваць у тым хляве, дык гэта маленькіх парсючкоў, якім я насіў з крамы хлеб. За хлебам я выстойваў вялізныя чэргі. Парсючкоў трэба карміць. Нашы кабанчыкі хлеб любілі. Ну і як можна не любіць хлеб? Хлеб з цыбуляю і салам я дагэтуль люблю. А парсючкоў у мяне няма. Кватэры, студыі, офісы, «мерсэдэсы» — ёсць. А парсюка ніяк не завяду. Нават пацука не трымаю. Але і аднаго пацука я даглядаў.

У брата жыў пацучок. Брат ехаў у камандзіроўку і пакінуў мне даглядаць свайго пацучка, а я не даглядзеў. Захварэў пацук, вока ў яго гноем і кроўю заплыло. Заперажываў я. Здаецца, і карміў яго, і гаварыў з ім, а ён захварэў. Сумнае было відовішча. Нават калі аднойчы забыў зачыніць клетку, абяссілены пацук застаўся ў клетцы сядзець. Так я пачаў гуляць з пацучком і незачыненай клеткаю. І дагуляўся: уцёк братаў пацук. Я схадзіў у краму, дзе купіў смажанай мойвы. Вярнуўся пацук, бо любіць гад падсмажаную рыбку. Агледзіў я

любімца, і настрой мой падняўся, бо вылекаваўся пацук. Не ведаю, да якога такога доктара схадзіў пацучок, але той доктар-чарадзей вылекаваў пацука. Праз некалькі дзён я купіў яму сушаных кальмараў, такім пачастункам я вырашыў адзначыць нашае развітанне, бо брат вярнуўся з камандзіроўкі і забраў свайго пацука з офіса дамоў.

А праз некалькі тыдняў да брата прыехалі сваякі з Рыгі, і вось што здарылася: наша пляменніца адшчыкнула пацуку кіпцюр. Кроў. Плач. Слёзы. Каб суцешыць пляменніцу, якая скалечыла пацука, адрэзаўшы кіпцюр дзверцаю клеткі, я расказаў показку: «Па бруднай-бруднай канаве плыве вялізная-вялізная Пацучыха. У яе на карку сядзіць Пацучаня. Раптам Пацучаня пачынае трэсці маці за вушы і крычаць, паказваючы на Кажана, што вісеў на дрэве: «Мама, глядзі-глядзі — Анёл!!!» Ніхто не засмяяўся, бо ўсе шкадавалі скалечанага пацука.

Пазней высветлілася, што пацук скалечыўся зусім іншым чынам. Пляменніца ўключыла бегавы трэнажор і пусціла пацука на гумовую дарожку. Ён бег і бег па чорнай гуме, пакуль не скончыліся сілы. Пацука зацягнула пад дарожку і там скалечыла. Такі жорскі эксперымент паставіла наша пляменніца-падлетак. Бацькі насварыліся на яе, толькі пакаранне злачынцы не дапамагае ахвяры. Пацук хварэў.

Брат зноўку з'ехаў і пакінуў пацука ў офісе, каб я даглядаў. Быў летні гарачы дзень, і пацук салодка спаў у сваёй драцяной клетцы. Я пабудзіў яго. Наліў вады, сыр паклаў, а ён не ўзрадаваўся. Праз дзень, у сонечны вечар, я адчуў салодкі водар смерці. Пацук памёр. Лёгкае здранцвелае цельца я загарнуў у свежую газету і паклаў у сваю старую шапку. Пахаваў я нашага пацука ў двары, закапаўшы пад маладой ліпкаю. Клетку я старана вымыў, і доўга любаваўся драцянымі перапляценнямі, абсыпанымі кропелькамі вады.

Патэлефанаваў брат, і я распавёў яму пра сыход нашага пацука ў лепшы край. «Старэнькі ён у нас быў, што тут зробіш…» — сказаў брат і цяжка ўздыхнуў. А я падумаў, што варта набыць новага пацука, клетка ж засталася. Ёсць клетка — з'явіцца і палоннік. Пабудаваўшы турму, людзі будуць яе запаўняць, такі наш сонечны свет. Новага пацука я ніяк не мог набыць, паход у краму адкладаўся і адкладаўся на заўтрашні дзень. Каб клетка не зеўрыла пустатою і не патрабавала сабе палонніка, я ўпрыгожыў яе кляновымі лістамі.

Брат вярнуўся, пабачыў упрыгожаную клетку і сказаў, што ў нашым офісе не хапае кветак.

## Лямпачка

Рознакаляровыя лямпачкі паўсюль. Каляды, Новы год, Стары Новы год. Як жа без аблямпленых ёлак? Што за ёлка без зіхатлівых зашклёных агеньчыкаў? Маністы з лямпачак у кожнай крамнай вітрыне, у кожным бары, у акне кожнай установы, у кожнай рэстарацыі…

Выходжу на пляц Незалежнасці і ледзь не слепну ад стракатага ды мігатлівага святла святочных лямпачак. Гэта я для тэатральнага эфекту сказаў «ледзь не слепну». Загаварыўся. Падумалася, што такое ззянне-зіхаценне крыху раздражняе. У такім непераборлівым выкарыстанні лямпачак бачыцца безгустоўнасць, але аслепнуць ад іх не аслепнеш. Аслепнуць можна ў жніўні ад італьянкага сонца. Ад яго мае вочы так балелі, нібыта ў іх пяску панасыпалі. У гарадку Гаета я зайшоў у аптэку, зняў акуляры і нічога не сказаў. Маладзенькая прадавачка без слоў усё зразумела і дала мне кроплі. Там жа ж, у невялічкай аптэцы, я прамыў вочы, і мне зрабілася значна лягчэй, і свет стаў не такі пякучы ды жорсткі.

Я гуляў па сонечнай Гаеце і спыніўся каля закінутай царквы. Яе вокны былі пазабіваныя дошкамі, а на дзвярах вісеў іржавы замок. Ганак зарос травою. Я зрабіў невялічкі малюнак нікому непатрэбнай царквы і, перайшоўшы вуліцу, спыніўся каля касцёла. З бакавых дзвярэй выйшла старая ў чорным і пачала жэстамі запрашаць мяне зайсці ў вялікі сабор. Адмовіцца не выпадала. Пасля сляпучага сонца ў касцёле было змрочна. Старая правяла мяне да алтара, прапанавала спыніцца, а сама знікла. Я разглядаў гіпсавую Дзеву Марыю з драцяным німбам. Тут і здарылася дзіва — у німбе запаліліся маленечкія жвава-жоўценькія лямпачкі. Старая папрасіла мяне намаляваць Дзеву Марыю з лямпачкамі ў німбе. Яна, пэўна, бачыла, як я маляваў пакінутую царкву, і вырашыла прапанаваць для замалёўвання свой цудоўны аб'ект. Марыю я намаляваў. Старая ўсцешылася, і я сышоў з касцёльнай паўцемры.

Ідучы па Гаеце, я згадваў іншы горад, іншы касцёл і зусім іншую лямпачку. Згадваў Мсціслаўль, касцёл Успення Дзевы Марыі і блакітнацелую лямпу, што вісела пасярэдзіне забранага ў рыштаванні халоднага памяшкання. Вулічная, ліхтарная лямпа залівала касцёл прахалодна-белым святлом. І ў гэтым святле, калі да яго дадаць яшчэ і святло простай лямпачкі, можна было спакойна, не напружваючы вачэй, капіяваць насценныя роспісы, чым я там і займаўся. Толькі ў вялікай лямпы была адна загана: праз гадзіны дзве пасля запальвання яна пачынала звінець. Хвіліну-другую лямпа спявала сваю мярзотную бязслоўную песню, а потым гасла. Яна гасла, каб астыць, а потым

зноўку запаліцца. Варта было змірыцца і прыняць яе рытм працы, але замест гэтага я ўзяў кавалак цэглы і разбіў дарагую лямпу. Учынак мой справядліва асудзілі, такая нястрыманасць недаравальная ў касцёле, але я не прыняў асуджэнняў тады, не прымаю я іх і цяпер. Не прымаю, бо святло той лямпы было мёртвае, а зуньдзенне-звіненне невыноснае, яно знішчала музыку, што гучала ўва мне.

Пазней я заўважу, што ў большасці мастакоў цёмна ўнутры. І ў іх карцінах таксама змрочна, а калі і не цёмна, дык гарыць там такая вось мёртва-святловая лямпачка. Ад такіх лямпачак хочацца адвярнуцца, хочацца выйсці, хай сабе і ў суцэльную цемру. Часам у мяне атрымліваецца выйсці з цемрадзі да святла. А потым зноўку надыходзіць цемра, і я пачынаю разумець Дыягена, які ўдзень з агнём шукаў чалавека. Дыяген у светлы дзень блукаў па горадзе з запаленай лямпаю… «Што ты шукаеш, Дыяген?»— «Чалавека!» Ці знайшоў Дыяген чалавека? Ці не дарма ў ягонай руцэ гарэла лямпа? Такія пытанні я задаю сабе на пляцы Незалежнасці, дзе зіхацяць і міргаюць мірыяды рознакаляровых лямпачак. Я задаю сабе пытанні і згадваю Дыягена Мінскага. Так-так, быў і такі Дыяген, бо кожны вялікі горад не абыходзіцца без свайго Дыягена. Тутэйшы Дыяген у сваім акне выставіў самую танную лямпачку. Тая лямпачка гарэла і ўночы і ўдзень, яна гарэла на святы і ў будзёныя дні, яна ніколі не гасла… Ніколі.

**Хованка**

Спытай: якая самая беларуская гульня? Адкажу: хованкі. Усе хаваюцца, адзін шукае. Усе любяць хавацца, і ніхто не хоча шукаць. Так у нас склалася, такая ў беларусаў завядзёнка. Падмануць, перагуляць таго, хто спрабуе нас знайсці, — асноўная задача ў хованках. Шукаць у нашай гульні можна толькі пад прымусам. Ніхто не хоча быць пашукавіком, а таму дзеці прыбягаюць да дарослых і просяць пагуляць іх у хованкі, дарослыя лягчэй пагаджаюцца шукаць, дарослыя робяць толькі выгляд, што шукаюць, але дзяцей гэта амаль задавальняе. Прынамсі, яны хаваюць сваю незадаволенасць да пэўнага моманту, да таго моманту, калі не знаходзіцца сапраўдная хованка, такая хованка, што і дарослы можа прайграць.

Так і згуляў у хованкі мой унук — Вова — са сваімі бацькамі.

У віленскім гіпермаркеце «Акраполіс» Вова схаваўся за ружовы кадзілак. Пакуль бацькі — Мікола з Юляю — разглядалі марозіва, якім напоўнены той чароўны кадзілак, пакуль яны абыходзілі машыну, ад аднаго выгляду якой заплакаў бы сам рок-кароль — Элвіс Прэслі, пакуль прадавачка старанна ўпрыгожвала марозіўнымі шарыкам

вафельныя ражкі, іх сын знік. Мікола з Юляю тры разы абабеглі ружовы кадзілак, але Вову не знайшлі.

У гіпермаркеце ладзіліся передкалядныя распродажы, народу было процьма. І тут уся вясёлая пазітыўнасць ператварылася для маіх дзяцей у хваравітую негатыўнасць. Стракатасць і какафонія абрынуліся на Юлю з такой сілаю, што з ёю здарылася істэрыка. Мікола разгубіўся. Ён не ведаў, што рабіць найперш: шукаць сына ці супакойваць жонку?..

Напэўна, у кожнай сям'і ёсць свае гісторыі пра хованкі і пра згубленае дзіця. Была такая гісторыя і ў нашай радзіне, але я яе не любіў расказваць, бо мне падаваўся малаэстэтычным яе антураж. Я настолькі не любіў савецкія парады і дэманстрацыі, што ніколі не расказваў пра іх сваім дзецям. А драматычныя падзеі разгортваліся якраз падчас Першамая. Мае сваякі — Іван ды Каміля Мілько — разам са сваімі сынамі Віцікам ды Шурыкам прыехалі з Койданава ў Мінск паглядзець на першамайскую дэманстрацыю.

Сотні тысячаў людзей пашнураваліся ў калоны і пад чырвонымі сцягамі пайшлі па цэнтральнаму праспекту. Іван ды Каміля, Віцік ды Шурык ішлі разам з усімі, яны прайшлі ад Дома ўрада да моста праз Свіслач. Менавіта на мосце Каміля заўважыла, што Віцік ідзе адзін, а Шурыка нідзе няма. Цэлы дзень і цэлую ноч Каміля Мілько шукала сына. Іван з Віцікам вярнуліся ў Койданава, а Каміля засталася ў Мінску. Дапамагаў ёй у пошуках наш далёкі сваяк — Тарасевіч. Ён працаваў галоўным бухгалтарам у радзе міністраў і далучыў да пошукаў усіх, каго толькі змог знайсці ў святкавальнай куламесе.

Каміля сядзела каля тэлефона ў кватэры Тарасевічаў, калі туды патэлефанавалі з міліцыі. Раніцай у міліцыю Шурыка прывяла жанчына на моцным падпітку. Каміля ледзь было не пабіла тую жанчыну, звінавaціўшы яе ў крадзяжы хлопчыка. Але жанчына аблаяла Камілю Мілько апошнімі словамі, бо мела на тое поўнае права.

Падзеі са знікненнем шасцігадовага Шурыка, апранутага ў новы матроскі касцюм, выглядалі наступным чынам… Каля цырка Шурык адышоў ад Віціка да купкі дзяцей з паветранымі шарамі ў руках. Разам з гэтымі дзецьмі ён і пайшоў далей. Тыя дзеці з бацькамі перайшлі мост праз Свіслач і ўздоўж рэчкі прайшлі ажно да возера. Там у прыватным дамку было шматлюднае застолле, і ўсе думалі, што Шурык адзін з суседскіх дзяцей. Яго нават спаць паклалі, так і не спытаўшы, хто ён і адкуль. Пра тое ў Шурыка запыталі толькі раніцай і, пачуўшы пра нейкае Койданава, павялі ў міліцыю.

Наш Шурык Мілько не спалохаўся зусім. Усе перапужаліся, пералякаліся, перакалаціліся ды сплакаліся да ікаўкі, а Шурык як быў

жыццярадасны так такім і застаўся. Спакой і жыццялюбства Шурыка мяне здзіўлялі ўсё жыццё. Нават калі яго забралі ў войска і завезлі ў Александрыю, дзе ён займаўся супрацьпаветранай абаронаю і ўстаноўкаю ракетаў, Шурык застаўся спакойны. Ён спакойна распавядаў, як савецкіх салдатаў грузілі ў нафтавыя танкеры. Салдатаў везлі ў Егіпет і з Ёгіпта ў смярдзючых танкерах, каб схаваць іх удзел у вайне супраць Ізраіля. Мяне ж тады зусім не цікавіла хованка ў танкеры, мяне хвалявалі пірамiды і пахаваныя ў іх фараоны. «Якая яна — піраміда?» — спытаў я ў Шурыка. «Якая, якая… Калі падыйдзеш да яе ўшчыльную і зірнеш на вяршыню, дык салдацкая пілотка з галавы зваліцца…» Такое апісанне мяне здзівіла, а яшчэ больш мяне падзівілі парнаграфічныя фотакарткі, якіх Шурык прывёз з Егіпта цэлы пачак. Шурык картачкі мне не паказаў, ён іх схаваў на гарышчы, а я знайшоў і наглядзеўся да млосці. Я нават намерваўся скрасці некалькі порнакартак, але передумаў, бо не захацеў крыўдзіць Шурыка, хацеў захаваць з ім добрыя адносіны, і захаваў на доўгае-доўгае жыццё.

А гісторыю пра дэманізм першамайскай дэманстрацыі і згубленага на ёй хлопчыка я цяпер распавёў сваім дзецям. Расповед мой быў, відавочна, запознены, бо іх усё яшчэ хвалявала сваё ўласнае здарэнне ў гіпермаркеце…

Хаванне за ружовым кадзілакам нашаму Вову падалося недастаткова надзейным, і ён перабег за наступную вітрыну, а з-за яе — за наступную, а потым ён прабег палову «Акраполіса», бо спадзяваўся, што бацькі бачаць яго і крочаць следам. Калі ён спыніўся ды азірнуўся, калі ніякіх бацькоў і блізка нідзе не было, Вова разгубіўся і зарумзаў. Чуллівая жанчына завяла хлопчыка да ахоўнікаў, і тыя далі абвестку па радыё.

Юля сказала, што самы шчаслівы момант у яе жыцці быў тады, калі яна зноў убачыла згубленага сына, а той пабачыў яе і, вырваўшы сваю руку з рукі ахоўніка, пабег-паляцеў ёй насустрач.

### Чыча

Заўтра, з панядзелка, з першага, на Новы год… Неадкладна, зараз вазьму ўсё кіну і пачну новае жыццё.

Я пачынаў і пачынаў: з мастака рабіўся рэстаўратарам, з часопіснага журналіста — афармляльнікам крамных вітрынаў, з паэта — празаікам, з літаратара — выдаўцом, з графіка — блогерам… Я мяняўся і змяняўся. Ніколі я не баяўся пачаць з нуля, не палохаўся пайсці ў невядомае, і я не шкадую пра зробленае, хутчэй турбуюся пра нязробленае ды нявздзейсненае.

А нікога і нічога я не баяўся, бо дзед мяне навучыў працаваць на зямлі, навучыў авечак пасвіць. Калі што якое, я пашлю ўвесь фанабэрысты, нахабны, пыхлівы свет дробных чалавечкаў у чортаву прорву і пайду ў поле да бараноў з ягнятамі. Ніхто мяне там не знойдзе, бо ўсім напляваць на вясковага пастуха, на чалавека ў кепцы і ватоўцы, на чалавека з бутэлькай самагонкі ў кішэні. Хіба не? Так!

Ёсць у мяне іншы варыянт сыходу, і ён таксама звязаны з жывёлаю. Калі якая прыгажосць і ўратуе чалавечы свет, дык гэта прыгажосць жывёлы. Я хачу, каб мяне ўратавала малпа. Маленькая мартышка з мянушкаю Чыча мне падыходзіць больш за астатніх прадстаўнікоў фаўны. Такую Чычу можна набыць у Абхазіі. Я даведваўся, у Сухумі мартышку можна купіць. А з такой малпаю і фотаапаратам я зраблюся каралём чарнаморскіх пляжаў. Фота з Чычаю на доўгую памяць пра лета, пра адпачынак, пра мора… Хіба ты зможаш сабе адмовіць у такім задавальненні? Да мяне будзе стаяць чарга!!! А я буду паўтараць і паўтараць асноўны працоўны сказ: «Чыча, глядзі на тату!»

З малпай і фотаапаратам можна пражыць доўгае і шчаслівае жыццё прыморскага мастака. Чыча сваё возьме, бо побач з малпаю ўсе людзі выглядаюць прыгажунамі і прыгажунямі. Не трэба спрачацца. Прыём правяраўся тысячагоддзямі. На партрэтах каралёў маляваліся розныя сабачкі-пачваркі, каты-драпежнікі і малпы, малпы, малпы. Каб чалавек выглядаў на сапраўднага караля, яго ставілі сярод ліліпутаў, карлікаў і гарбуноў. Каб каралеўская вопратка глядзелася густоўнай і элегантнай, недаросткаў апраналі ў стракатае, латанае-пералатанае, цыркавое адзенне. Так было і так ёсць. Паглядзі ў тэлескрыню. Чучы ў стракатых апранахах скачуць па экрану. Чучы, чачы, чычаліны з чупалучамі, чупадрычы з чыпадручамі танчаць, скачуць, верашчаць і пахіхікваюць, б’юць у барабаны і выдзімаюць з дудачак вушараздзіральны свіст. У іх заўсёды свята, у іх кругласуткавы аншлаг, у іх бясконцая клубная камедыя. Адно баляванне змяняецца другім баляваннем, з фуршэту чучы скачуць на фуршэт, з вечарынкі — на вечарынку, з прэзентацыі — на прэзентацыю… Чучы карнаваляць і карнаваляць. І здаецца, што калейдаскапічнае карнавальства бясконцае. Так яно выглядае, пакуль не з’яўляецца кароль. Нямая сцэна. Чучы, чачы, чычаліны з чупалучамі, чупадрычы з чыпадручамі заміраюць у паставах адданасці. Як той казаў, карціна маслам «Кароль і малпы»! Табе падабаецца? Мне гідка!

Я грэбліва стаўлюся да тэле-малпаў, бо люблю малпу звычайную, малпу сапраўдную. Люблю малпу Чычу, якая дапаможа зрабіць чалавека з кожнага, з цябе ў тым ліку. Ты возьмеш маю Чычу на рукі,

я скажу «Чыча, глядзі на тату!», і ў цябе на ўсё жыццё застанецца маленькая картачка з тваім чалавечым абліччам.

Да заўтра!

## Карта

На вуліцы я знайшоў карту — 8 хрэсці. Яна ляжала на белым тонкім лёдзе «кашуляю» дагары. Я не паленаваўся, нахіліўся і перавярнуў карту. Што азначае 8 хрэсці? Для кожнага — рознае. Залежыць ад гульні, у якую гуляецца. Хто згубіў ці выкінуў гэтую 8? Хто і нашто выкідае карту з калоды? Задумаўся я і згадаў сваю вёску Варакомшчыну…

Тата збіраўся напісаць апавяданне пра пустую рамку ад абраза. Ён расказаў мне, як прыехаў у нашую вёску — Варакомшчыну, як падышоў да дзедавай хаты і ўбачыў на плоце побач з глінанымі гладышамі ды анучамі пустую рамку ад бабінага абраза. Дзед з бабаю даўно перабраліся ў ціхі свет зарослых сасоннікам кладоў, у хаце гаспадарылі сваякі, нехта з іх і начапіў на штыкеціны драўляную рамку. Наша баба Броня — татава маці — была чалавекам глыбока рэлігійным, усё жыццё яна прахадзіла ў касцёл, таму яе хатні святы куток з абразом Божай Маці быў заўсёды прыбраны ў чысты саматканы ручнік. Пабачыўшы пустату ў рамцы, тата ў хату не зайшоў. Ён наогул болей ніколі не зайшоў у тую сваю хату. Нават калі мы разам прыехалі ў Варакомшчыну, тата пахадзіў каля рэчкі. І выпівалі мы на беразе Ятранкі, а паглядзець на дзедаў дом бацька не захацеў. Тады ён мне і расказаў пра рамку, пра пустату і пра намер пісаць кароценькае апавяданне.

Цяпер, згадваючы размову каля нашай хуткаплыннай Ятранкі, я задумаўся пра рамку. Чаму тата не ўзяў рамку сабе? Чаму не спытаў у сваякоў пра абраз Божай Маці? Чаму яго так напалохала пустата ў простым драўляным прастакутніку? Няма каму адказваць на пытанні. Тата даўно спіць пад могілкавымі клёнамі. А я задаю сабе іншыя пытанні… Чаму я не ўзяў ніводнай рэчы з дзедавай хаты? А калі б вярнуцца назад і пасля пахавання дзеда зайсці ў апусцелую хату… Ці ўзяў бы я абраз? Не. Без абраза той дом і не дом зусім. Абраз я б не ўзяў ні тады, ні зараз. Ці забраў бы я са стала дзедаў нож? Нож варта было б забраць. Толькі людзі кажуць, што нельга браць вострыя рэчы нябожчыкаў. Такія рэчы не прыносяць шчасця. І не тое, каб я надта баяўся нейкіх там забабонаў, але дзедаў нож — не тая адзіная рэч, без якой я не мог бы абысціся. У дзедавай хаце наогул не было ніводнай рэчы, без якой я б не змог пражыць. Але думкі мае вярталі і вяртаюць мяне ў дзедаў дом за адзінай самай важнай рэччу. Калі для

таты гэта быў абраз, і яго я лёгка разумею і спачуваю яму, дык якая рэч мая? Чарка для гарэлкі з яўрэйскімі літарамі, якімі напісана пажаданне піць на здароўе? Не, даўно не п'ю гарэлкі, а калі і піў, дык не са старых чарак, а з новых празрыстых і гладкіх. Я наогул не люблю распісаны і размаляваны посуд. Посуд мусіць быць аскетычна-белы і бяспрэчна-празрысты, бо я мушу бачыць тое, што ем і выпіваю. Таму ніякага посуду я не вазьму з бабіных паліцаў, нават ва ўяўленні. Ні ручнікоў, ні радзюжак, ні кажухоў з хусткамі я таксама не вазьму, як не вазьму і дзедавага інструмента. У мяне свой інструмент. Да мэблі я таксама раўнадушны, я ніколі не пераймаўся з-за якой небудзь шафы ці крэсла. Мне нават сорамна бывае за сваю featнастылёвую мэблю ў студыі і кватэры. Тады што? Што мяне вяртае ў нашую хату? Карты? Так!

Каб на адно імгненне я вярнуўся ў дзедаву хату, дык падышоў бы да стала і ўзяў з шуфлядкі картачную калоду бабы Броні. Яна на тых картах гадала. Праз карты яна зазірала ў будучыню. І ў яе атрымлівалася тую будучыню бачыць і прадказваць яе іншым. У той калодзе быў сакрэт. У ёй было не 52, а 49 лістоў. Трох не хапала. Гэта каб ніхто з дзяцей не пакваліўся і не стаў гуляць тымі картамі. Якіх картаў не хапала? Ты сапраўды хочаш ведаць? Не хапала 3, 7, 11. Не было званковай дамы, віновага туза і чырвовай сямёркі. Адкуль я ведаю? Чаму памятаю? Аднойчы я намаляваў гэтыя карты, каб згуляць у п'яніцу. У п'яніцу можна згуляць з самім сабою. Я нават ужо раздаў карты, але баба Броня ўбачыла і спыніла гульню. Давялося падпарадкавацца. Я папрасіў яе навучыць мяне гадаць на картах, навучыць заглядаць у чужую будучыню. Яна адмовіла.

Цяпер, заглядаючы ў сваё мінулае, я спрабую дастаць з яго чароўную калоду картаў, каб навучыцца бачыць чужыя лёсы, а праз чужыя лёсы ўбачыць свой.

У таты атрымалася б зусім іншае апавяданне пра дзедаву хату і рамку, поўную пустаты. І яно б было зусім іншае, чым маё з трыма картамі, выкінутымі з калоды. Але лёс склаўся ў такі вось узор з 8 хрэсці на тонкім лёдзе.

## Ключ

Ключоў заўсёды шмат: ад кватэры, ад майстэрні, ад працоўнага кабінета, ад стала, ад сейфа, ад кодавых замкоў на пад'ездах, ад паштовых скрынак дома і на працы... Ключоў столькі, што на адну звязку не збярэш. У мяне дзве звязкі штодзённых ключоў і ключыкаў. Яшчэ ёсць камплект маміных ключоў ды ключоў ад лецішча. А яшчэ ёсць кардонная каробка старых ключоў ад старых замкоў. Трэба іх

выкінуць, трэба іх перабраць і занесці на сметнік, кожны раз так думаю, гледзячы на старыя ключы і адкладаю выкіданне. Шкада. Ну чаго іх шкадаваць? Шкадую… Ёсць людзі, што збіраюць калекцыі са старых ключоў, але я ніякіх збораў не раблю, і да старых рэчаў я не прывязваюся, ну хіба што да ключоў ад назаўсёды страчаных замкоў.

Раней ці пазней я абавязкова выкіну старыя ключы, але адзін ключ пакіну. З тым ключом ад кватэрнага замка звязана гісторыя аднаго кахання. Яго мне падаравала дзяўчына Алёна. Ключ быў прыклееены скотчам да паштоўкі, а побач з ім зроблены надпіс: «Ключ ад маёй маскоўскай кватэры. Вуліца Пятроўка, дом № 32, кватэра № 18. Можаш прыходзіць у любы час. Чакаю. Алёна». Паштоўка з ключом была ўкладзена ў капэрту, якая ляжала ў вялікай паштовай скрынцы. У той скрынцы, акрамя паштоўкі, было яшчэ два кілаграмы грэчневых крупаў, набор кітайскіх пэндзляў і анталогія сусветнай паэзіі ў пяці тамах, дзе кожны верш падаваўся на мове арыгінала і ў перакладзе на расейскую. Тую скрынку Алёна не дасылала мне па пошце, а прывезла з Масквы ў Мінск на цягніку і паставіла пад дзвярыма маёй кватэры. Падарункі знайшла мама, мне давялося ёй расказаць, што пазнаёміўся я з Алёнаю ў Мсціслаўлі, калі працаваў на рэстаўрацыі касцёла. Непадалёк ад касцёла на гарадзішчы маскоўскія археолагі праводзілі раскопкі. Сярод археолагаў працавала і Алёна. Аднаго разу я запрасіў яе прагуляцца каля рэчкі. Было спякотна, я прапанаваў выпіць віна, мы выпілі, і мне зрабілася кепска. Мне зрабілася так блага, што я пакінуў Алёну каля рэчкі і вярнуўся ў гатэль, дзе лёг спаць. Праз некалькі дзён археолагі з’ехалі, і я забыў пра Алёну, але яна не забылася пра мяне.

Яна пачала пісаць мне лісты. Гэта былі вялікія, па восем старонак, справаздачы пра жыццё-быццё Алёны ў яе Маскве. З ветлівасці я адказаў на некалькі лістоў, а потым адказваць перастаў, бо лісты пачалі нагадваць занатоўкі вар’яткі. Алёна пісала пра сваю маці, якая неадступна сочыць за ёю. Пісала, што маці спіць і бачыць, як здае сваю адзіную дачку ў вар’ятню. Алёна пісала і пісала па два лісты на дзень. Я перастаў іх чытаць. Маленечкім ключыкам я адчыняў паштовую скрыню, даставаў лісты, рваў іх напалам і выкідаў у сметніцу. Алёна пісала мне цэлы год, а потым лісты перасталі прыходзіць. Некалькі месяцаў не было ніводнага ліста.

У калідоры нашага мастацкага інстытута да мяне падышоў парторг саюза мастакоў Уладзімір. Ён працягнуў мне зашмальцаваны тоўсты сшытак: «Я нічога не буду казаць пра пісьмо, я не буду нікога папракаць, я цябе папрашу. Зрабі так, каб у саюз мастакоў на маё імя больш не прыносілі падобныя сшыткі!» На першай старонцы вялікімі крывымі літарамі было напісана чырвоным алоўкам:

«Беларусь, Мінск, Саюз мастакоў, Уладзіміру Стэльмашонку (перадаць Адаму Глобусу)». Ён і перадаў.

На дзевяноста шасці старонках Алёна распавядала пра сваё бытаванне ў дурдоме. Маці ўсё ж паклала дачку ў лякарню. Пабытовыя малюнкі перамяжоўваліся з жорсткімі абвінавачваннямі ў мой бок. У хворых вачах я выглядаў нейкім монстрафашыстоўцам, які зачароўвае рускіх прыгажунь і забірае ў іх розум. Пра майго выкладчыка Стэльмашонка там было панапісвана яшчэ горш, бо, на думку хворай Алёны, менавіта Уладзімір Іванавіч мяне і навучыў з'ядаць чужыя душы.

Сшытак я спаліў. Пайшоў на сметнік і спаліў усё да апошняга аркуша. Палячы сшытак, я спадзяваўся, што гэта апошні ліст ад Алёны, але я памыліўся. Замест лістоў пад маімі дзвярыма пачалі з'яўляцца паштовыя скрыні з прадуктамі, кнігамі ды прыладамі для малявання.

Аднойчы побач са крыняю мая мама знайшла і Алёну. Тая стаяла і плакала. Мама запрасіла Алёну ў кватэру, напаіла яе морсам з журавінаў і ўгаварыла больш не прыязджаць у Мінск. І Алёна больш не пісала мне лістоў і не прывозіла грэчневыя ды рысавыя крупы.

Ад гісторыі пра несапраўджанае каханне ў мяне і застаўся ключ, які мне чамусьці шкада выкінуць.

## Кроў

Тады я любіў увечары напівацца гарэлкі. Мог выпіць бутэльку, а здаралася, і болей. Можаш уявіць, які я быў раніцою? Не можаш. Той, хто ніколі не выпіваў паўлітра, зможа толькі пабачыць знешнія праявы жудаснага стану, а ўявіць нічагусенькі не зможа. Дый не трэба.

Кепска мне было, млосна і хістка. Свет цёк, плыў і закручваўся ў вір бездані. Даводзілася ляжаць на канапе і трымцець, уздрыгваць і чакаць, калі змагу запаўзці пад халодны душ. На нейкі час я правальваўся ў потны сон, а потым прахопліваўся і рабіў чарговую спробу ўстаць. Падняцца не атрымлівалася, і я працягваў пакутаваць. Да змучанасці дадаўся доўгі тэлефонны званок. Ён так звінеў, ён так доўга звінеў, што я зняў слухаўку.

«Ты ў студыі? А чаго ты слухаўку не здымаеш? Ты што, спіш? Дванаццаць дня, а ты спіш? Я зараз зайду? Ты адзін? Можна зайсці?»

Ці сказаў я тое «можна»? Напэўна, сказаў, бо пачуў «іду» і гудкі. Пад ледзянымі струменямі я крыху працверазеў. У мяне нават хапіла сілаў пачысціць зубы, а пагаліцца я не пагаліўся. І добра, бо парэзаўся б страшна. Калатун у руках не даў бы мне пагаліцца і не парэзацца.

Я адчыніў дзверы, а сам пайшоў і лёг на падлогу пасярод студыі. Так я і ляжаў на белым кіліме ў чырвоным халаце пасярод студыі, калі яна зайшла.

«Цяпер ясна! Ты ўчора напіўся! Ты напіўся як свіння! А цяперака ляжыш і пакутуеш? Цяпер табе на ўсё і на ўсіх напляваць. Каву будзеш? Я вару каву! Ты нават гаварыць не можаш. Гэта ж трэба так напівацца…»

У студыі запахла каваю, так запахла, што мне захацелася зрабіць адзін маленечкі глыток, толькі адзін, толькі самы маленечкі.

«Дзе ў цябе лыжачкі падзеліся? А? Бачу! А гэта што за нож? Бог ты мой, які выдатны, які цяжкі, які вялізны нож! Адкуль толькі бяруцца такія нажы? А як ён глядзіцца ў маёй руцэ? Ты толькі паглядзі, як ён блішчыць!»

Яна размахнулася і ўдарыла нажом мне ў грудзі. Дзюбка ўвайшла ў рабрыну. Сутарга скаланула цела. Болю не было. «Блядзь!» — сказаў я. З’явілася яснасць і бадзёрасць. Яна вырвала нож з майго цела. Журавінка крыві пачала расці пад левай смочкаю.

«Вось так! Яшчэ раз нап’ешся, і я цябе зарэжу. Сягоння табе проста пашанцавала, што нож патрапіў у костку, а наступным разам я праб’ю тваё паганае сэрца! Маўчы! Што са мною творыцца? Ты давёў мяне да такога стану, ты проста скаціна! Скаціна! Скаціна!»

Яна скрывілася, а мне стала смешна. Каб яна не пабачыла ўсмешкі, я падняўся і пайшоў у лазенку, дзе змыў спіртам кроў і заклеіў маленечкую рану пластырам цялеснага колеру. Цяпер я быў як новы, я быў гатовы да жыцця і любові. Нішто так не супакойвае чалавека пасля п’янкі як сэкс. І мы займаліся каханнем на светлым кіліме пасярод студыі. Мы любіліся так, што пот цёк з нас цурком. Мы былі бліскавічна-бліскучыя ад нашай ненатольнай страсці. І ў мяне атрымалася два разы запар. З ёю ў мяне часам атрымліваецца адразу два разы.

Нарэшце быў маленечкі глыток горкай кавы. Першы быў маленечкі, другі вялікі, а болей я і не звяртаў увагі на глыткі. Я піў каву і любаваўся каханкаю. Любуючыся ёю, а памяняў мокры пластыр на сухі. Я хацеў сказаць ёй, што люблю, але не паспеў.

«Яшчэ раз я ўбачу цябе такім, як сягоння, і зарэжу!»

Можаш сабе такое ўявіць? Ды не можаш ты нічога ўявіць, бо адкуль ты можаш ведаць, што падчас другога разу ў яе пачаліся месячныя.

**Порнаграфіка**

Ехух! Люблю порнаграфіку! Не эротыку, з яе цыцачнай ды дупачнай ружовасцю, і не парнаграфію, з яе тэатральнымі стогнамі актораў-аматараў, а менавіта порнаграфіку са стабільнай карцінкаю і выразным малюнкам. А яшчэ я шаную порнаграфіку за тое, што няма адносна яе ніякага закона і ніякіх абмежаванняў.

Для заканадаўцы і міліцыянта порнаграфікі няма як асобнай з’явы, яны яе проста не ўспрымаюць. Парнаграфію яны бачаць, яны яе разумеюць, яны яе абмяжоўваюць для ўвоза ў краіну, яны забараняюць яе распаўсюд і тыражаванне. Яны ўсе вялікія спецыялісты па сэксу ўтраіх, па вычварэнствах з жывёламі і дзецьмі. Яны камісіі ствараюць, дзе мераюць памеры чэлесаў ды вызначаюць узрост похвы. Яны нават розніцу бачаць паміж жорсткай эротыкаю і мяккай парнухаю. Калі ў міліцыянта не хапае ведаў, ён кліча на дапамогу доктара з дысертацыямі пра полавыя паталогіі. А доктар можа знайсці хваробу нават у сперме, якая яшчэ і чалавекам не зрабілася. Ён такі. Яму што кроў пусціць, што аналіз гною зрабіць, што труп на дэталі разабраць — яму ўсё чалавечае не чужое і падуладнае. Калі ж у чалавека з фуражкаю і чалавека ў белым халаце не хапае рашучасці ў барацьбе з парнаграфіяй, яны запрашаюць у свой хаўрус чалавечка ў чорнай спадніцы, а гэтаму рашучасці пазычаць не трэба. Ён і труса трахацца навучыць.

Не праўда? Хіба ты не памятаеш ксяндза Худака, які казаў, што ў беларусаў толькі дзве думкі: адна пра п’янку, а другая пра сэкс. Забыўся? Нагадаю… Вось гнюсныя слоўцы таго ксяндза: «Етут людзі жывуць, як у гета. Нібыта знаходзяцца ў пастаяннай небяспецы. Адсюль сэкс і алкаголь, уцёкі ў задавальненні. Такі ход рызыкоўны, каб яшчэ што-небудзь ад гэтага жыцця ўхапіць. Іх апранахамі з’яўляюцца спартовыя строі, жанчыны апранаюцца так, што вуліца робіцца падобнай да лёгкага парнаграфічнага фільма. Кожны прагне любошчаў, спрабуе іх атрымаць: купіць, скрасці, выгандляваць. За любы кошт». Во табе і святар! Ён на звычайнай тутэйшай вуліцы бачыць кінапарнуху. Цікавае бачанне рэчаіснасці; праўда, яно занадта антысацыяльнае ды беларусафобскае. Худака пагналі з Беларусі, і правільна зрабілі, што прагналі. А колькі такіх яшчэ засталося? Колькі іх у фуражках, халатах і чорных балахонах топча беларускую зямлю і ненавідзіць беларускіх жанчын? Так што антыпарнаграфічнае братэрства жыве і тлусцее на целе маёй Радзімы. Прыкра.

Чорт з імі! У іх свае вяселлі з п'янымі анёламі і вялалістымі ліleямі, а ў мяне свая любоў да порнаграфікі.

Часам мне каталонская Барселона робіцца бліжэй за беларускі Мінск... Чаму? Менавіта ў Барселоне я падумаў, што закон пішацца для аднаго чалавека. Так я падумаў, калі пабачыў, як па бульвару Рамблас ідзе голы мужчына. Можна, пры вялікім жаданні, палічыць татуіроўкі і пірсінг за вопратку, але акрамя тату і некалькіх жалезак на мужчыну нічога не было. Памахваючы доўгім чэлесам, гэты невысокі эксгібіцыяніст нетаропка шпацыраваў па адным з самых людных бульвараў Еўропы. І... Мала хто нават паварочваўся, каб яго паразглядаць. Паліцыя? У Барселоне можна хадзіць па вуліцах без вопраткі. Я ведаў пра закон, але ніколі не бачыў, для каго ён напісаны. Ну прастытуткі ў распусных кварталах голыя прагульваюцца, дык у іх праца такая — целам на хлеб зарабляць. А тут чалавек гуляе аголены дзеля ўласнага задавальнення, і закон напісаны ды зацверджаны менавіта для гэтага чалавека. Па Беларусі голым не паходзіш: то ў нас дождж, то ў нас снег. Але я не супраць, каб і беларус меў права хадзіць голы па вуліцах сталіцы. У нас жа еўрапейская сталіца? Хіба ты сумняваешся? Я не сумняваюся, бо веру ў порнаграфіку, пра якую яшчэ не напісалі закон. А калі пра яе напішацца закон, я бу... я бу... я буду любіць іншую графіку, зусім іншую Ефіку.

І напрыканцы...

Адзін раз'юшаны поп у інтэрнэце спрабаваў мяне запалохаць. Ён пагражаў мяне праклясці ды так выклясці, што ў мяне чэлес паўставаць не будзе. Малайчына поп. Верыць! Ён верыць у сілу майго чэлеса і свайго праклёну, накладзенага на дзетаробны орган. Дакладней будзе сказаць, што поп верыў. Верыў ён роўна адзін дзень. А надышоў дзень другі, і поп свае пагрозы папрыбіраў. Дайшло да чалавека, што ён глупствы панапісваў. Гэта цешыць. Мяне радуе, што святар знайшоў у сабе розум і выправіў уласную памылку.

Карацей, не ўсё так безнадзейна ў порнаграфічным свеце.

## Фотакартачка

Ці можа цябе дыскрэдытаваць фотакартачка? Можа! Асаблівую небяспеку такая фотакартка ўяўляе, калі ты сам паверыш у яе моц. Калі ж ты сам з таго здымка пасмейваешся, дык ніхто цябе той карткаю і не зняважыць, і не пакрыўдзіць. А калі...

Прыйшоў я ў госці да жанчыны. Прыйшоў на свята з бутэлькаю. Мы выпівалі, закусвалі, танчылі, весяліліся, злюбліваліся і смяяліся. Я ляжаў голы на канапе, а жанчына прымала душ. Выйшаўшы з

лазенкі, жанчына дастала з шафы фотаапарат і пачала мяне фатаграфаваць. Я спакойна ляжаў на пакамечанай прасціне, а яна здымала і здымала. Чаму я падумаў, што гэтым разам у яе ніякіх фотак не атрымаецца, не ведаю. Але я ўстаў і сказаў: «Ты няправільна здымаеш. Ты здымаеш зусім няправільна. Дай фоцік...» Яна працягнула мне апарат, я навёў аб’ектыў на яе ружовае цела і націснуў кнопку. Блакітная ўспышка абліла агаленую жанчыну цвярозым святлом. «Чаму ў мяне ўспышка не спрацоўвала?» — «Адкуль я ведаю? Наогул, я не спец па фоціках...» Жанчына зрабіла яшчэ дзясятак спробаў зафіксаваць маю агаленасць ва ўласным інтэр’ры, але ўспышка так ні разу і не запалілася. Мы апрануліся, дапілі каньяк, і я паехаў дамоў.

Недзе праз месяц жанчына паскардзілася мне на свой фотаапарат, маўляў, з усёй нашай фотасесіі атрымаўся адзін толькі здымак, на якім яна стаіць пасярод сваёй кватэры цалкам голая з непрыстойнай ружовасцю на шчоках. Я папрасіў паказаць картачку. Жанчына дастала малінавы альбомчык. З усёй невялічкай інтымнай калекцыі мне спадабаўся толькі адзін кадр, той самы, зроблены выпадкова. Я папрасіў падарыць яго мне. І яна падарыла.

А праз пяць гадоў мая знаёмая жанчына пачала рабіць палітычную кар’еру. Яна зрабілася такой актыўнай, што мама дарагая. Выбары. Подпісы. Улёткі. Агітацыя. Падлікі галасоў... Да яе актыўнасці яшчэ дадаліся страхі, сярод якіх быў страх, што я вазьму здымак з яе голым вільготным целам і надрукую ў якойсьці газетцы. Тое, што ў нас на той час не было такіх газетак, яе не супакойвала. Яна баялася, а калі чалавек баіцца, ён здатны нарабіць глупстваў. А калі чалавек баіцца, займаючыся палітыкаю, ён здатны нарабіць глупстваў вялікіх. Таму я вярнуў жанчыне фотакартку. Як яна ўзрадавалася! Яна была на сёмым небе ад шчасця. Але мяжа таму шчасцю знайшлася хутка.

Праз які тыдзень яна сказала, што згубіла здымак. Пакуль картачка была ў мяне, яна хоць прыблізна ведала, якой бяды можна чакаць, а цяпер яна не ведае. «Знойдзецца!» — як мог я супакойваў сваю фотамадэльку. «Дзе знойдзецца? Я перавярнула ўсю кватэру і ўвесь свой працоўны кабінет. Нідзе няма! Уяўляеш? Няма!» — «Гэта ты ў нас уяўляеш немаведама што. Спачатку ўяўляла свае цыцкі на газетнай старонцы, цяпер ты ўяўляеш свой пуп у тэлевізары, заўтра ты ўявіш уласную похву на порнасайтах. Супакойся. Нікому не патрэбны той здымак, акрамя цябе. Здымак аматарскі і бяздарны, ён не зможа ўпрыгожыць ні адно выданне...» — «Ты лічыш мяне непрыгожай?» — «Я лічу здымак кепскім...» Мы пасварыліся.

Некалькі гадоў мы зусім і не згадвалі пра тую фотку. А тут раптам начны званок. «Здымак знайшоўся!» — радасць у голасе жанчыны не

дазволіла мне засумнявацца. «Знайшла сябе голую і маладую?» — «Не я знайшла. Здымак знайшла дачка. Яна спыталася ў мяне, як я жыву без сэксу. Уяўляеш, якая дарослая? Так і спытала, а потым дадала, што ў мяне толькі адно выйсце — мастурбацыя! І яшчэ спыталася, як я навучылася хаваць ад яе сваё інтымнае жыццё, і наогул, як трэба жанчыне хаваць свой інтым. Я сказала ёй глупства. Сказала, што нічога ад яе не хаваю. Тут яна і дастала з шуфлядкі папку з дакументамі на кватэру, сярод якіх ляжаў наш здымак… Я ж думала, што ён ніколі не знойдзецца! Знайшоўся!» — «Цяпер ты зноў пачала баяцца? Пабачыла здымак і страх напаў?» — «Так!» — «Не бойся. Ніхто цябе не дыскрэдытуе, пакуль ты сама сябе не дыскрэдытуеш. Кладзіся спаць. І можаш прысніць нашую маладосць…»

## Скрыжаванне
**Ёсць у Мінску скрыжаванне, дзе на працягу апошняга стагоддзя адбываюцца самыя важныя для Беларусі падзеі.**

Раней тое месца называлася Тэатральным пляцам, і там перакрыжоўваліся вуліцы Падгорная і Петрапаўлаўская. Менавіта ў Мінскім гарадскім тэатры ў снежні 1917 сабраўся Першы ўсебеларускі Кангрэс, на якім прагучаў заклік да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Тэатр цяпер носіць імя Янкі Купалы, а вуліцы пераназваліся; Падгорная зрабілася Карла Маркса, а Петрапаўлаўская — Фрыдрыха Энгельса. Пад былым Тэатральным пляцам пабудавалася платформа станцыі метро Купалаўская.

Скрыжаванне тое даволі ціхае, як для двухмільённай еўрапейскай сталіцы, дык і зусім зацішнае, але на ім як адбывалася, так і адбываецца ўсё лёсавызначальнае для нашай дзяржавы.

На гэтым скрыжаванні стаяў дом, дзе падчас с другой сусветнай вайны быў пакараны смерцю гаўляйтар Кубэ.

Па вайне ў тым доме працаваў Саюз пісьменнікаў. Насупраць якога, над кнігарняю, жылі выдатныя беларускія літаратары: Васіль Вітка, Янка Маўр, Пятро Глебка, Іван Навуменка і Янка Брыль. Крыху пазней у тым жа доме працавалі і Ніл Гілевіч, і Вячаслаў Адамчык, і Уладзімір Караткевіч.

На гэтым скрыжаванні быў зруйнаваны савецкі рэжым у Беларусі. Людзі прыйшлі, каб ачапіць палац і павыганяць камуначыноўнікаў з іх гнёздаў. Чыноўнікі, сагнуўшыся, выбягалі з палаца пад дождж народных пляўкоў. Народ аплёўваў мярзоідаў. Я стаяў у ланцугу ачаплення. Стаяў і думаў, што пляўкі ў адно імгненне могуць

ператварыцца ў кулі. А як толькі яны ператворацца ў кулі, распачнецца сапраўдная вайна.

Вайна не пачалася.

Яна не пачалася нават тады, калі на скрыжаванне прыйшлі дзясяткі тысячаў дэманстрантаў з бел-чырвона-белымі сцягамі.

На невялікай пляцоўцы творыцца шмат добрых і кепскіх падзеяў, робіцца шмат драматычных і злых учынкаў, але дзівіць тое, як шмат сярод тых дзеянняў ёсць важных і знакавых.

На асфальт гэтага скрыжавання выкінуўся з акна паэт Рыгор Семашкевіч. Ягоная заўчасная смерць паставіла крыж на ўсім пакаленні раўналеткаў Семашкевіча. Яны былі сапраўды нікчэмнымі, разгубленымі і няздатнымі да канструктыўных ды стваральных дзеянняў. Іх самаахвярнасць звялася да самазабойства.

Яшчэ адна драматычная падзея адбылася на тым скрыжаванні: Іван Ціцянкоў парваў бел-чырвона-белы сцяг. Такі вандалізм і такую знявагу нашая Беларусь ніколі не даруе. Я веру ў гэта.

Як веру ў тое, што вуліцы Маркса і Энгельса зменяць свае імёны. Мне б хацелася, каб Маркса стала зноў Падгорнай, а вуліцу Энгельса я б назваў Тэатральнай ці яшчэ прасцей — Беларускай.

Калі ты хоць раз не прайшоў па гэтым скрыжаванні, значыць, ты не маеш ніякага дачынення да беларускай гісторыі.

Калі ты не ведаеш гэтага скрыжавання, ты не ведаеш Беларусі зусім, бо менавіта на ім тварылася і творыцца жыццё нашай Радзімы.

І не трэба быць вялікім пракорам, каб зразумець, што і будучыня Беларусі вырашалася, вырашаецца і будзе вырашацца тут.

## Прырода

У краме «Прырода» пахла кормам для акварыумных рыбак і птушак, што жывуць у драцяных клетачках. У дзяцінстве я любіў алейны і даўкі водар кармоў. Любіў разглядаць запаволенае жыццё зашклёнай вады і трапяткія пёркі жоўтых і зялёных папугаяў. Я марыў набыць сабе птушачку і збіраў грошы. Тата з зарплаты даваў мне металічны рубель. Раз на месяц я атрымліваў такі рубель. Месяцы цягнуліся доўга-доўга. Трэба было чакаць ажно пяць даўжэзных месяцаў, каб назбіраць рублі на папугая, а яшчэ патрэбна было назбіраць на клетку і корм. Майго трывання не хапіла. З трыма рублямі ў кішэні я прыйшоў у «Прыроду», надыхаўся водарамі кармоў і ўзяў сабе марскую свінку.

Са свінкаю пад курткаю я ішоў дадому, і шчасце перапаўняла мяне. Я быў такі шчаслівы, што ажно не верыў у сваю радасць. Мне захацелася дастаць свінку з-пад курткі і паразглядаць яе. Я выцягнуў

жывёлку на свет; а яна перапужалася, пачала вырывацца з рук і вырвалася, і ўпала на зямлю, і пабегла да кустоў бэзу. А я паляцеў за ёю і накрыў сарванай з галавы шапкаю. Дадому я прынёс сваю свінку ў шапцы. Пасялілася мая марская свінка ў лазенцы, пад рукамыйнікам у дыктавай скрынцы з-пад пасылкі.

Зразумела, ніхто ў нашае сям'і не ўзрадаваўся майму набытку. Тата прамаўчаў, маці сказала, што я сам буду прыбіраць за свінкаю, а брат, як і тата, таксама нічога не сказаў, бо ён яшчэ і гаварыць не навучыўся. Свінка пражыла ў нашай кватэры тыдні са два, не болей. Маці і тата сказалі, што ім не падабаецца марская свінка, што яна смярдзіць, што такіх жывёл нельга трымаць у маленькіх кватэрах і што я мушу занесці яе назад у краму «Прырода». Я спрабаваў іх угаварыць, спрабаваў абараніць свае права на сяброўства са свінкаю, але бацькі былі неўгаворныя. Яны казалі, што ў кватэры павінна быць чыста, бо ў нас малое дзіця, што догляд брата значна больш важны за догляд марской свінкі. Спрачацца далей не было аніякага сэнсу.

Я загарнуў свінку ў стары ручнік, засунуў пад сваю сінюю куртку і пайшоў да крамы «Прырода». Каля вялікіх вітрын я спыніўся і доўга разглядаў вялікія і маленькія клеткі з рознакаляровымі птушачкамі, я разглядаў акварыумы, поўныя рыб і рыбінак, асабліва мяне заварожвалі рыбы чырвоныя. Гледзячы на чырвоных рыбак, я вырашыў, што не аддам марскую свінку ў краму, а занясу ў дзіцячы сад, куды я хадзіў яшчэ два гады назад.

Быў самы пачатак вясны, з неба сыпаўся драбнюткі дождж, я ішоў па мокрым асфальце і думаў, што сказаць сваім былым дзетсадаўскім выхавацелькам. Што я скажу Эме Казіміраўне і Клаўдзіі Іванаўне? Як я растлумачу ім, што бацькі забаранілі мне трымаць марскую свінку? А яна, абгорнутая мяккім ручніком, стаілася і, пэўна, заснула. Я падышоў да дзетсадаўскага плота і глядзеў праз штыкетнік на ярка апранутых дзяцей, якія гулялі на верандзе. Падысці да сваіх былых выхавацеляк я так і не наважыўся. Я дачакаўся, калі прагулка скончыцца, калі дзеці пойдуць палуднаваць і спаць. Тады я зайшоў на апусцелы двор. Марская свінка, пэўна, адчула хуткія змены ў сваім лёсе і заварушылася. Я прайшоў да хлеўчука, у якім жылі ў драцяных клетках нашыя дзетсадаўскія трусы. Так-так, у маім дзіцячым садзе трымалі трусоў. Эма Казіміраўна і Клаўдзія Іванаўна прывучалі нас любіць і даглядаць жывёл. Хляўчук быў зачынены на вялікі навясны замок. Мой намер пакінуць сваю свінку ў хлеўчуку разбіўся аб цяжкі замок. Я ледзь не заплакаў, гледзячы на гэты стары замок. Нават была думка вярнуцца дамоў і ўгаварыць бацькоў пакінуць свінку ў нашай лазенцы. І я зазбіраўся дамоў, калі вока спынілася на скрынках,

састаўленых за хлеўчуком. Сваю свінку я пасадзіў у скрыню і паставіў тую скрынку пад дзвярыма з зачыненым замком.

Можа з тыдзень я стараўся не гаварыць з бацькамі ні пра марскую свінку, ні пра што іншае. Але паціху-патроху я пачаў забывацца пра сваю марскую свінку і пра сваё нядоўгае сяброўства з ёю. Толькі вось у краме «Прырода» я больш ніколі нічога не купляў.

## Хлеб

Бог мой, як я люблю пах свежага хлеба! І люблю я яго з дзяцінства. Там, у маім далёка-далёкім дзяцінстве, па хлеб выстройваліся даўжэзныя чэргі. Мы стаялі пад хлебнай крамаю і чакалі фургон. З чорнага неба сыпаўся дробны снег. Пара з рота асядала на шаліку карункамі шэрані. Каб не застудзіць горла, дзецям забаранялася гаварыць. Дарослыя таксама маўчалі. Маўклівая чарга чакала машыну з надпісам «Хлеб». Чакалі мы доўга, пакуль нарэшце на местачковым пляцы не з'яўляўся няўклюдны фургон, поўны хлеба. Ён заязджаў за краму, і мужчыны ішлі яго разгружаць. Чарга радавалася. Людзі загаворвалі. Хлеб давалі па аднаму бохану ў рукі, таму ўсе прыводзілі дзяцей. Я выходзіў з крамы з кілаграмовым, яшчэ цёплым боханам, прыціснутым да грудзей. Я нюхаў хлебную скарынку і не мог ніяк ёю нанюхацца. Мы ішлі па засыпанай снегам вуліцы. Мы неслі дадому хлеб. З боханам у руках я ў свае пяць гадоў адчуваў сябе дарослым і патрэбным.

У нашым мястэчку галоўная хлебная крама стаяла насупраць царквы. Там можна было схавацца ад ветру і снегу. Калі на пляцы збіралася чарга за хлебам, святар заўсёды трымаў царкву адчыненай. У царкве было зімна, амаль як і на той жа ж вуліцы, але там не было ледзяністага ветру, там гарэлі танюткія свечкі, і ў полымі тых свечак я бачыў залацістасць хлебнай скарынкі. Твары намалёваных святых для мяне таксама былі хлебнага колеру. Так склалася, што мае самыя моцныя ўражанні ад царквы зніталіся з бясконцай чаргою па чорны хлеб.

Пазней я любіў маляваць хлебазавод. У абрысах і канструкцыях хлебазавода мне бачылася болей сабornасці і святасці, чым у пазалочаных крыжаносных купалах ды снежна-белых сценах царкоўнай архітэктуры. Каб нехта мне замовіў праект сабора, я б зрабіў сабор, падобны да хлебазавода. Толькі ніхто мне такі праект не замовіць, праз што я не буду пераймацца, бо ідэальная архітэктура заўсёды існавала адно ў праектах напісаных і намаляваных. У рэальнасці ўсё вельмі далёкае ад ідэалаў. У рэальнасці вакол мяне была бясконцая пачварная імперыя.

У маладосці я захапіўся рэвалюцыйнай дзейнасцю. Разам з сябрамі я змагаўся супраць атэістычнай імперыі, якая выстройвала людзей у даўжэзныя чэргі. Імперыю я ненавідзіў усёй душою і верыў, што яшчэ паспею пабачыць на свае вочы, як гэтая імперыя знікне, як горкі дым.

Прыкладам мужнасці ў рэвалюцыйным змаганні для мяне былі ірландскія паэты. Тыя паэты, што ў вязніцы абвясцілі галадоўку. Дзённік аднаго з іх — Роберта Сэндса — я перачытваў па шмат разоў. Мяне зусім не здзіўляла тое, што ў галоднага чалавека ўсе жаданні зводзяцца да самых простых рэчаў, што з бяскоцага спісу прадуктаў засталіся толькі мёд, сыр і шэры пшанічны хлеб. Я нават перакананы: каб у паэта хапіла сілы пісаць дзённік далей, там было б напісана адно пра хлеб. Але сілы хутка пакінулі яго. На вадзе і саляных таблетках ён пратрымаўся шэсцьдзесят шэсць дзён. Сэндс, а за ім яшчэ дзевяць ірландскіх паэтаў пакінулі гэты свет. Яны памерлі ў вязніцы, але яны не скарыліся, яны не адракліся ад сваіх ідэалаў. Замест рабства яны выбралі смерць. Каменныя крыжы стаяць на магілах ірландскіх паэтаў, якія загінулі, змагаючыся за свабоду Радзімы. Каменныя крыжы на магілах тых, хто адмовіўся ад хлеба. Мая павага да іх бязмерная.

Думаючы пра ірландскіх паэтаў, я згадваю чаргу па хлеб у сваім беларускім мястэчку. Згадваю халодную царкву, поўную маўклівых, зацятых і злых ад голаду людзей. Хлебнаколерны твар Ісуса Хрыста, убачаны ў дзяцінстве, праз усё жыццё дапамагае мне быць мужным. Таму я не люблю тых, хто, абвяшчаючы бестэрміновую галадоўку, не дамагаецца перамогі і не даходзіць да смерці. Калі ты вырашыў ахвяраваць жыццё дзеля выратавання Бацькаўшчыны, калі ты адмовіўся ад хлеба, ты больш не маеш права вярнуцца, бо ты вернешся нікчэмнай істотаю без гонару, без веры і без ягамосці. Каб уваскрэснуць, варта памерці.

Зрэшты, не дзеля папракання слабых і нікчэмных, не дзеля скваплых і баязлівых я вырашыў распавесці табе ўспамін пра доўгую чаргу ў маленькую хлебную краму. Я расказваю сваю гісторыю пра хлеб дзеля тых, хто стаіць на скрыжаванні і не ведае, у які бок пайсці. У які? У бок хлебазавода. Няма ў свеце лепшага водару за водар свежавыпечанага хлеба. Ён верне цябе да паўнавартаснага жыцця, ён цябе абнадзеіць, павер.

**Малюнак**

Малюю. Колькі сябе памятаю, столькі і малюю…

Магу так захапіцца маляваннем, што дзве гадзіны сціснуцца ў дзве хвіліны. Адно кепска: пасля малявання моцна баляць пальцы. У майстэрні стала горача. Надышло вясновае цяпло, а батарэі грэюць па-зімоваму. Мая аголеная натуршчыца раптам пахіснулася і прысела на крэсла. «Што такое?» — «Задуха… Можна, я заўтра не прыйду?» — «Добра, прыходзь пазаўтра…» Натуршчыца Люда пачала апранацца, а я паглядзеў на свае пальцы. Яны радаваліся, што заўтра ім маляваць не трэба. Мне было сумна, а пальцы весяліліся. Мне было сумна глядзець на свае вясёлыя пальцы, якія не ведалі, што заўтра ім усё адно давядзецца маляваць.

Я малюю бясконца…

Замест Люды я вырашыў запрасіць новую натуршчыцу Леру. «У яе тут многа!» — папярэдзіла мяне студэнтка Надзя і патрэсла рукамі каля сваіх невялікіх грудзей. «Наколькі многа?» — вырашыў я ўдакладніць. «У яе так многа тут, што да нас у майстэрню прыходзілі студэнты з другіх курсаў, каб паглядзець на яе вялікі бюст…» — «Выдатна, прыводзь яе заўтра!» Надзя прывяла Леру і сышла. «Лера, Надзя казала, што ў цябе вельмі вялікія грудзі…» — «Вы таксама лічыце, што яны вялікія? Я дык лічу, што нармальныя…» — «Нармальныя, нармальныя, але і вялікія…»

Нідзе і ніколі я не адчуваю сябе такім самотным, як тады, калі малюю аголеную натуршчыцу. Увесь свет нібыта адсоўваецца ад мяне, робіцца чужым і далёкім.

У студыі халодна, і давялося запаліць газавую пліту. Калі прыйшла натуршчыца, я сказаў, што хутка студыя нагрэецца. «Выключыце газ, я баюся газавай пліты!» — «Баішся газавай пліты?» — «У кожнага свае фобіі». — «Будзеш сядзець у холадзе?» — «Мне зусім не халодна!» Я выключыў пліту і маляваў Леру ў холадзе.

Маляваў і маляваў.

Лера так прывыкла да маёй студыі, што, нават не апранаючыся, спакойна разгульвае па ёй. У прайгравальніку сціхла музыка, і Лера, не пытаючыся, падышла да паліцы і стала перабіраць кампакты. «Рыхарда Вагнера будзеш слухаць?» — «Вам не падабаецца Вагнер? Тады нашто трымаеце дыск?» — «Любіш класічную музыку?» — «Так, люблю. Я нават спяваю ў хоры…» — Лера паставіла «Parsifal» і, вярнуўшыся на сваё крэсла, застыла ў знарочыстай акадэмічнай позе.

«Калі бацькі даведаюцца, што ты пазіруеш, яны заперажываюць?» — «Тата, напэўна, не будзе перажываць. А мама, хутчэй за ўсё, расстроіцца. А каб вы даведаліся, што ваша дачка пазіруе аголенай?» — «Мая малодшая дачка ад самага нараджэння пазіруе перад фотакамерай. Аднаго разу я змясціў яе паўаголеную паставу на вокладцы часопіса ARCHE, прысвечанага яўрэям. Фундавалі тое

выданне артадаксальныя людзі, яны і запатрабавалі неадкладна памяняць вокладку. Давялося аддзіраць партрэт дачкі і ляпіць банальную рэпрадукцыю краявіднай карціны».

Малюю я паўсюль.

Гляджу на жанчыну і прымерваю-прыкідваю, як я яе намалюю. Падыходзіць яна для мяне ў натуршчыцы ці не падыходзіць? Большасць жанчын не выклікаюць у мяне жадання працаваць. Я ўздыхаю з палёгкаю і пачынаю разглядаць іншыя аб'екты. Іх шмат навокал. І цяпер, і раней мяне дзівіў той факт, што ўсе жанчыны вераць ва ўласную прыгажосць, а калі і не ў прыгажосць, дык у сваю абаяльнасць і непаўторнасць яны дакладна вераць. Яны жадаюць быць намаляванымі, сфатаграфаванымі і знятымі ў кіно. А мастакі выбіраюць і перавыбіраюць.

Ёсць меркаванне, што жанчына выбірае сабе мужчыну. Не буду спрачацца, бо сэнсу ў такой спрэчцы не бачу. Адно я бачу: мастак выбірае натуршчыцу, а не натуршчыца — мастака. Так было і так будзе. І я буду выбіраць сабе натуршчыцу, нават тады, калі натуршчыцы ў мяне ёсць.

## Прапаганда

**Чаму людзі лічаць, што займацца прапагандаю можа кожны, хто верыць у ідэю? Чаму яны ніяк не зразумеюць, што займацца палітычнай прапагандаю трэба прафесійна? Палітаматары толькі шкодзяць. Яны шкодзяць, хаваючыся за словы пра веру і адданасць, а гэта — гнюсна. Пра дзейнасць прапагандзюкоў я крыху і распавяду.**

Калі ўмоўна падзяліць усіх палітыкаў на монстраў і фрыкаў, можна ўбачыць, што, дзеля поспеху ў паліжыцці, палітмонстрам варта дадаваць манстраідальнасці, а палітфрыкам — фрыкавасці. Тутэйшыя прапагандзюкі робяць усё роўна наадварот, яны спрабуюць з палітмонстра Пазняка зляпіць фрыкадэльку з надпісам Z!, а палітфрыку Крыжаноўскаму намагаюцца падмалёўваць рысы напалеонаабрыснага монстрыка. Такую дзейнасць паліттэхнолагаў-недарэкаў інакш як дэскрыдытацыйнай і не назавеш. А тое, што яны робяць памылкі з-за ўласнай недасведчанасці альбо дурасці, ніякім чынам іх не апраўдвае. Такая памылка абярнулася катастрофаю для палітфрыка Казуліна. Вясёлы аматар ігры на балалайцы наслухаўся прапагандзюкоў і пачаў выдаваць сябе за крутога байца, які можа адным ударам збіць з ног любога са сваіх ворагаў. Толькі фрык не здатны стаць монстрам, а калі ён гэта і паспрабуе зрабіць, дык

вокамгненна ператворыцца ў нікчэмнасць, бо страціць усё, нават сваю здатнасць трэнькаць на любай сэрцу балалайцы.

Усялякая дзейнасць, у тым ліку і прапаганда, вымагае адпаведных жэстаў і рухаў. Калі адпаведнасць ігнаруецца, дзейнасць робіцца абсурднай і смешнай.

Некалі даўно мастак Кішчанка атрымаў замову на аздабленне опернага тэатра. Сума ганарараў складала каля мільёна савецкіх рублёў. Фантастычныя грошы, бо сярэдні заробак звычайнага грамадзяніна быў рублёў сто пяцьдзясят на месяц. Савецкая машына манументальнай прапаганды не шкадавала рублёў на ўслаўленне камуністычнай ідэі. Але Саша Кішчанка скеміў, што мільён рублёў у адных руках выглядае як замнога. Ён можа і ўзяў бы той мільён адразу, але ж увішных прапагандзюкоў і без Кішчанкі хапала. Ды і газета «Известия» апублікавала зласлівы фельетон пра Сашу — «Пэндзль ад сейфа». Карацей, Саша Кішчанка вырашыў паспрабаваць дзяліцца. На мастацкай радзе Саша зрабіў заяву. Ён прапанаваў упрыгожыць тэатральнае фае бюстамі вялікіх беларускіх кампазітараў. Каб праект рэалізаваўся, трэба было ўсяго-нічога — зацьвердзіць спіс імёнаў гэтых самых вялікіх беларускіх кампазітараў. Мастакі-прапагандзюкі нават паспрабавалі такі спіс скласці. Яны згадвалі і Лучанка, і ансамбль «Песняры»... Але нават з поўным складам тых легендарных «Песняроў» ніяк не збіралася патрэбная лічба. Прапагандзюкі спрабавалі скараціць лічбу вялікіх кампазітараў, але лічба ніяк не скарачалася, бо ў фае было якраз сорак круглых медальёнаў, у якіх і планавалася з'яўленне бюстаў. Ад ідэі з бюстамі прапагандзюкі адмовіліся; фрык-мастак Саша атрымаў свой запаветны мільён за габелены і шкоды не нарабіў, што вельмі важна ў мастацтве манументальнай прапаганды. Таму Сашу Кішчанку можна назваць праўдзівым прафесійным прапагандыстам, а не гнюсным прапагандзюком.

Зразумела, што ход з вялікімі беларускімі кампазітарамі ён прыдумаў, каб абгуляць аматараў і дурняў. Пакуль дурні лічылі да сарака, Кішчанка далічыў да мільёна.

Зараз, калі я гляджу на сучасную палітычную палітру Беларусі, дык бачу не адсутнасць палітыкаў, а бачу адсутнасць праўдзівага прапагандыста.

## Месца

Можа быць, ніхто з менчукоў так добра не ведае сталічныя краявіды, як ведаю іх я. Гадзінамі магу блукаць па вуліцах, каб намаляваць той ці іншы матыў. Толькі ў большасці выпадкаў я

вяртаюся ў майстэрню без малюнкаў, бо мэта мая — не столькі маляваць, колькі любавацца прыгажосцю любімага Мінска. Ні фотаздымак, ні малюнак, ні фільм не раскажа ўсёй праўды нават пра маленькі квартал, нават пра кароткі завулак, нават пра невялічкую зялёную выспу на ціхаплыннай Свіслачы.

Можна нават сказаць, што маё жаданне маляваць Мінск не настолькі і вялікае, яно значна меншае за жаданне проста глядзець на горад, на ягоныя сосны ў парках і клёны на могілках, на бляск вечаровага сонца ў шкле мікрараённых шматпавярховікаў.

Днямі я зайшоў на вуліцу Парніковая. Панылае месца, скажу табе. Пыл, шэрыя платы, зашмулянасць сценаў. Паныласць пачынаецца ў тым раёне ад кінастудыі, ад гэтага закутка непатрэбшчыны. Панылась і гнятлівасць пануе на вуліцы Філімонава, а на перакрыжаванні Філімонава з Парніковаю гнятлівасць робіцца, як для мяне, то і невыноснай.

Блізу таго скрыжавання стаіць цагляны і крыху скасабочаны дом, у якім некалі даўно была аптэка. Тую аптэку перавялі ў іншае месца, а памяшканне аддалі пад майстэрню маёй акадэміі мастацтваў.

Чамусьці ніхто не хацеў ездзіць на Парніковую. Амаль усе майстэрні былі ў цэнтры, на праспекце. А тут нейкая Парніковая на краі свету. Ды і памяшканне было цемнаватае, як для майстэрні, у якой трэба пісаць карціны. Мэбля, што пазаставалася ад старой аптэкі, выклікала змрочныя думкі пра несупынныя хваробы і нікчэмнасць чалавечага існавання. Я адзіны, хто пагадзіўся ўзяць ключ ад няўтульнага памяшкання на Парніковай.

Днямі навылёт я маляваў у той майстэрні змрочныя карціны з чорнымі крыжамі і жанчынамі ў цёмна-чырвоных строях. І невядома, чым бы скончылася мая адзінота ў памяшканні былой аптэкі на вуліцы Парніковай, каб я не перабраўся на праспектную мансарду, якая месціцца каля дзяржбанка, над чыгуначнымі касамі. Мой настрой адразу змяніўся, і чорныя крыжы пазнікалі з карцін.

Пра змрочнасць вуліцы Парніковай я пачаў быў забывацца. І я б пра яе зусім забыўся, каб да мяне не завітаў мой таварыш — Валянцін. Ён прынёс дзве мае карціны, якія купіў на аўкцыёне. Ён папрасіў, каб карціны пастаялі ў мяне, бо сам вырашыў з’ехаць, а ўзяць мае карціны з сабою не мае аніякай магчымасці. А яшчэ Валянцін сказаў, што яму кепска працуецца на вуліцы Парніковай, што былая аптэка ціснe на яго, што карціны не пішуцца, а дзяўчына, у якую ён меў неасцярожнасць закахацца, яго зусім не любіць.

Мінорнасць Валянціна мяне зусім і не насцярожыла, ён заўсёды быў меланхалічны, як П’еро. Ягоная тонкая лірыка мела сумны каларыт... «Пыл — гэта пасевы смерці; выцірайце пыл» — пісаў

Валянцін. Ці яшчэ: «Маці ўсё строчыць і строчыць на швейнай машынцы, нібыта хоча некуды з’ехаць».

Тым разам я выступіў у апмлуа аптымістычнага Арлекіна, сказаўшы, што вясна на вуліцы, што жанчын і каханняў у ягоным жыцці будзе процьма. Я жорстка памыліўся.

Праз некалькі дзён Валянцін зрабіў прыборку ў памяшканні былой аптэкі. Ён старанна выцер пыл і вымыў падлогу. Ён апрануў белую кашулю і павесіўся ў змрочным прапахлым лекамі памяшканні, на вуліцы Парніковай.

Можа быць, ніхто з менчукоў не задумваўся пра тое, што ў нашае сталіцы ёсць праклятыя месцы. А калі хто і задумваўся, дык ніхто дакладна не назваў выклятае скрыжаванне. Я назаву: перакрыжаванне вуліцы Парніковай з вуліцаю Філімонава — месца праклятае. Там паныла, пыльна і гнятліва.

Калі ў Мінску і ёсць Богам выклятыя месцы, дык адно з іх там, дакладна. І калі нехта збярэцца на тым месцы пабудаваць царкву, то варта будзе яго адгаварыць.

...Заўтра пачнецца вясна, заўтра луснуць пупышкі, горад наш зазелянее. Нават вуліца Парніковая стане не такой змрочнай. Жанчыны будуць стаяць у залітых сонцам дварах і расказваць пра сваіх разумных дзяцей і ўнукаў. І на нейкі час ты забудзеш пра змрочную гісторыю, што некалі даўно адбылася з паэтам на вуліцы Парніковай, у праклятым месцы.

## Барабан

Па адукацыі я перш-наперш настаўнік, і настаўніцтва сядзіць ува мне непазбыўна. І хацеў бы я пазбавіцца ад яго, ды не магу, бо, каб нечаму навучыцца, трэба навучыць ці хоць бы вучыць іншых. Вучыцца даводзіцца ўсё жыццё, а таму і вучыць іншых трэба. Кола замкнёнае, усе вучацца, і ўсе ўсіх вучаць. Толькі вось каго і чаму трэба вучыць? Пытанне. Адказваць за іншых не буду, раскажу пра сваё…

Першы дакумент, які пацвярджаў права вучыць іншых, мне выдалі ў лагеры «Артэк». У сёмым класе я стаў дыпламаваным барабаншчыкам, здатным навучыць іншага барабаніць. У пасведчанні пісалася пра маё поўнае права вучыць біць у барабан. А каб атрымаць тое права і званне, давялося цэлых два месяцы прабарабаніць у лагеры. Можна было і не барабаніць, але тады давялося б дзьмуць у горн. Паміж горнам і барабанам я выбраў барабан з палачкамі і барабаніў, і барабаніў, і барабаніў…

Я так набарабаніўся, што, вярнуўшыся з крымскага лагера ў мінскую школу, нікому пра сваё пасведчанне барабаншчыка не паведаміў. Скажы — і абавяжуць ствараць гурток барабаншчыкаў, і давядзецца зноў слухаць няўмекаў. Што можа быць горш за бязладнае біццё ў барабан? Скажу… Горш за кепскага барабаншчыка — толькі глухі гарніст. Можаш не правяраць, я праверыў неаднаразова, і можаш лічыць, што я адпакутаваў за цябе. Вядома, ты сам сабе гаспадар і маеш права праслухоўваць кепскіх музыкаў колькі заўгодна. І слухай іх да поўнай глухаты, і абвяргай выказаную тут думку; і хай для цябе недарэка-барабаншчык будзе горшы за фальшыванотнага трубача. Хай… Я ж усё адно не змагу вярнуцца ў мінулае і не змяню свой даўнейшы выбар.

Нават калі б у мяне і надарылася магчымасць вярнуцца ў мінулае і там нешта-нейкае памяняць, я б выбраў зусім іншы час, я б вярнуўся да свайго першага вучня і развучыў яго маляваць.

Хлопчыка ў касцёл, дзе мы працавалі рэстаўратарамі, прывяла маці. Яна і папрасіла, каб мы навучылі яе сына маляваць. Ён сабраўся паступаць у мастацкую вучэльню, а належнай падрыхтоўкі не меў. Сярод рэстаўратараў я быў самы малады, і таму навучанне хлопчыка даручылі мне. Я паспрабаваў быў адмовіцца, але нічога з таго адмаўлення не атрымалася.

Хлопчык быў нязграбны і запаволены, ён быў нібыта драўляны, таму ў мяне і з'явіліся сумневы након ягоных здатнасцяў да навукі. Але я дарэмна хваляваўся, бо мой першы вучань быў дысцыплінаваны і ўседлівы. Ён старанна выконваў адно заданне за другім. Канешне, і мне давялося сядзець побач з ім і маляваць найпростыя нацюрморты, пасастаўляныя з розных слоікаў і бутэлек, з кансаровак, драпіровак і падрамнікаў. Праз месяц мой вучань даволі прыстойна маляваў і на іспытах у Бабруйскую мастацкую вучэльню атрымаў выдатныя адзнакі. Пра адзнакі я дазнаўся ад маці майго здольнага кнехта. Яна прынесла ў касцёл сумку з прадуктамі. Свежыя агуркі, зялёная цыбуля і кавалак сала — такую ўзнагароду я атрымаў за настаўніцтва. З якім воўчым апетытам я еў тое сала з хлебам і цыбуляю, каб ты толькі ведаў!

Год я нічога не чуў пра вучня. А потым выпадкова сустрэў на вуліцы яго маці. Яна прайшла паўз мяне і не павіталася, і не адказала на мой «добры дзень». Мне нават падалося, што жанчына не пазнала мяне. На пошце ў знаёмай паштаркі я распытаў пра вучня з ягонай маці і дазнаўся пра сумную навіну. Мой першы вучань патануў. З сябрамі ён пайшоў на рэчку. Стаяла першая летняя гарачыня, а рэчка ўсё яшчэ заставалася ледзяною. Хлопчык патануў разам з двума аднакурснікамі в'етнамцамі. На маці майго вучня абрынулася не адно

гора, а два, бо хлопчыка яшчэ спрабавалі абвінаваціць у тым, што ён знарок завабіў замежнікаў у халодную ваду. Што ён і толькі ён вінаваты ў трагічным здарэнні. Ад такіх варункаў у маці-самотніцы, якая згубіла адзінае дзіця, аслаб розум. Яна перастала пазнаваць людзей, амаль ні з кім не гаварыла; і ў тым невітанні са мною нічога дзіўнага паштарка не бачыла.

Яна не бачыла, а я ўбачыў. Я ўбачыў, што не зусім правільна зрабіў, калі пагадзіўся вучыць хлопчыка. Нешта ж мне падказвала адмовіцца. І трэба было адмовіцца…

Я ж адмовіўся граць на горне. У лагеры старэйшая важатая настойвала, каб я выбраў горн, а я выбраў барабан. А барабан я выбраў таму, што ў пахавальным маршы менавіта моцны ўдар у вялікі барабан прымушае тваю душу ўздымацца ў высокае неба.

## Бульба…

Беларусь прапахла бульбаю наскрозь. Ад яе так патыхае гэтай гароднінаю, што беларус нават мяно атрымаў — бульбаш, і мянушка разраслася да гратэскавай пераназвы краіны — Бульбарусь. Крыўдавацць і злавацца не выпадае, бо любоў беларуса да бульбы глыбокая і сакральная. Садзіць бульбу, абганяць бульбу, капаць бульбу, чысціць бульбу, варыць бульбу — самыя натуральныя заняткі для беларуса. Ёсць у нас нават свята бульбы. Дзень, калі на стале з’яўляецца маладая бульба, для беларуса заўсёды святочны.

У дзіцячых лагерах мы ўсе чакалі вячэры з маладой бульбаю. Зазвычай, яшчэ за сняданкам, ішла пагалоска, што ў сталоўку прывезлі маладую бульбу і ўвечары мы ёй пачастуемся. Цэлы дзень мы гаварылі пра маладую бульбу і разважалі пра яе непаўторны смак, і пра тое, што яе лепей есці без хлеба, бо так значна смачней.

Нават калі які з беларусаў і з’едзе з нашае Бульбарусі, ён усё адно застаецца бульбашом, і бульбашызм той нават больш жывучы за беларускасць. Ад беларускасці лягчэй адмовіцца, яе лягчэй схаваць, лягчэй замаскаваць, бо беларускасць — разумовая і нябесная, а бульбашызм —страўнікавы і грунтоўны. Беларускасць прышчапляецца цяжка і хутка выветрываецца, а бульбашызм лепіцца да чалавека лёгка. Сеў ты за стол, з’еў залацісты дранік, і ты — бульбаш, і вусны твае паблісквацюць, і вочы твае памутнелі ад сытнай вантробнай радасці.

Быць бульбашом зручна. Калі ты назваўся бульбашом, дык можаш спрытна адаптавацца ў любой сітуацыі. Таму так мала сярод нас беларусаў і так шмат бульбашоў.

Яны розныя, гэтыя нашыя бульбашы… Самы распаўсюджаны падвід бульбаша — бульбарус. Ён па-руску нахабны і па-беларуску баязліва-ліслівы. Ён прыніжаецца перад моцнай расейскасцю і ганіць уласна беларускае. Бульбарусы сягоння пануюць у Бульбарусі.

Асноўны вораг бульбаруса — бульбапшэк. Ён па-польску ганарысты і па-беларуску жорсткі. Калі бульбарус выдае сябе за праваслаўнага, дык бульбапшэк — за голенага католіка. Толькі каталіцкая вера бульбапшэка недалёкая, бо ягоны бажок жыве недзе ў Варшаве, але ж і вера бульбаруса таксама кароткая, і бажок яе туляецца па Маскве.

Ёсць яшчэ карацейшая вера сярод бульбашоў, яе бажок сядзіць у Вільні, адэптаў віленскага бажка можна назваць бульбалабусамі. Ёсць і больш экзатычныя сярод бульбашоў, такія як бульбааўстралы ды бульбаамерыкосы, а ёсць і сціплейшыя, кшталту бульбалатаў, бульбачэхаў, бульбашвабаў ды бульбаэстаў. Бульбасаксы з Лондана вельмі актыўныя ў прапагандзе свайго бульбасаксонства, такія ж актыўныя, як і бульбахахлы. Бульбафранцузы вельмі любяць мастацтва, літаратуру і тэатр, гэта на іх так Парыж уплывае. Бульбагаландцы з бульбабельгійцамі — найціхамірнейшыя з бульбашоў і найжывапіснейшыя. Бульбагрэкаў я ніколі не бачыў, чуць пра іх чуў, але бачыць не давялося. З бульбарымлянамі я гуляў па вечным горадзе і палуднаваў у рэстарацыі, еў смажаную бараніну з бульбаю…

Карацей, я займаўся і займаюся вывучэннем бульбаша з разнаформенным бульбашызмам. Дасць Бог, дабяруся і да бульбабуды, і да бульбагея, і да бульбафеміністкі з бульбагламурнікам.

Між іншым, у бульбаша ёсць і свая галоўная кніга, кшталту ягонай біблii, яна называецца «БУЛЬБА энцыклапедычны даведнік». Гэта не азначае, што ў кожнага бульбаша яна ёсць, галоўнае, што такая кніга наогул ёсць у Беларусі.

А яшчэ ўсіх бульбашоў аб'ядноўвае адзін сон. Кожнаму бульбашу раз на год, а бывае і часцей, бачыцца, як летняю ночкай Купальскаю ён сядзіць на беразе ціхаплыннай рэчкі над прыціхлым вогнішчам, дзе ў вуголлях пячэцца бульба. Бачыцца бульбашу, як ён трэскаю разграбае вуголле і выкочвае на траву чорную бульбіну, як перакідвае яе з далоні на далонь, як разломлівае яе, як соліць і есць, есць, есць сваю бульбу.

## Ранец

Сон жахаў, які бачыў досыць доўгі час, на цвярозы розум выглядаў досыць лірычна. У ім няма ні адрэзаных іржаваю пілою чалавечых галоваў, ні іклаў вогненнавокіх крывасмокаў, ні пакрытых запыленай поўсцю чартоў, ні пярэваратняў ваўкалакаў, і нават усюдыіснага

д’ябла ў тым сне нямашака. У сне нішто не нагадвае пра смерць. Я не падаю там з вялікай вышыні, і столь не абрынаецца мне на галаў. Мой жахлівы сон пачынаецца з прахалоднага туману…

Верасень, раніца, туман, пад нагамі вузкая, загнаная пад асфальт сцежка. Іду па цёмным асфальце ўздоўж дзетсадаўскага драцянога плота. З другога боку сцежачкі высаджаны маладыя клёны. Іх лістота ўжо пажоўкла, і ад туману яна вільготна паблісквае. Зрэдзь часу з нейкага ліста зрываецца вялікая сляза цяжкой кроплі. Навокал так ціха, што я выдатна чую гук разбівання кляновае слязы аб зямлю. Мне адзінаццаць гадоў, і я кіруюся ў школу. Туман такі шчыльны, што школы не відаць. Я стараюся ісці як мага марудней, але школа ўсё адно набліжаецца. Квола-жаўтлявымі плямамі яе вокны свецяцца ў прахалодным блакіце. Школа наплывае на мяне, як усёпаглынальнае цунамі. І тут на мяне абрынаецца крык, вакол мяне крычаць тысячы і тысячы людзей. Я прахопліваюся, устаю з ложка, п’ю ваду, сяджу ў цемрадзі і баюся немаведама чаго.

Сон гэты бачыўся мне прыблізна разы два на год, і ён так надакучыў, ажно я вырашыў пазбавіцца ад яго. Але як пазбавіцца ад жахлівага сну? Пайсці да доктара, які пачне задурваць галаву, а калі зразумее, што задурванне не дзейнічае, выпіша хімічны прэпарат, пасля якога ты будзеш выдатна засынаць, але прачынацца будзе цяжка. Ці, можа, схадзіць у царкву да святара, які паспрабуе прымусіць цябе паверыць у казкі, складзеныя пісьменнікамі, якія і ведаць не ведалі пра драцяную дзетсадаўскую агароджу?

Варыянты з доктарам і святаром мяне зусім не задавальнялі. Я вырашыў вызваліцца ад пакутлівага сну самастойна. Паехаў у раён, дзе жыў у дзяцінстве, і стаў на тое самае месца, дзе пачынаецца сон. Канешне, шмат што моцна змянілася: паміж дзіцячым садком і школаю пабудавалі ажно тры дванаццаціпавярховыя дамы. Клёны павырасталі. Замест драцяное агароджы стаіць акуратны плот з фарбаваных у сіняе дошак. Замест асфальту сцежку выклалі пліткаю. Толькі сутнаснае не змянілася, сутнаснае амаль ніколі не змяняецца, прынамсі, для мяне. Але нечага важнага ўсё адно не хапала. Нечага важнага, што было ў сне, не прысутнічала ў рэальнасці.

Я заплюшчыў вочы… Мне адзінаццаць, туман, я іду ў школу, кропля падае… Так! У мяне за спінаю быў ранец. Ранец! Ён — самая важная рэч у маім сне.

**Ранец быў толькі ў мяне, на ўсю школу меўся толькі адзін ранец. Раней я хадзіў у школу, дзе ранцы былі ў кожнага другога, а потым мы пераехалі ў новы раён, і ў маю новую школу ўсе хадзілі з партфелямі ды папкамі. Аднаго разу старшакласнікі ціхенька падышлі да мяне і наклалі ў ранец**

**мокрых кляновых лістоў. Я азірнуўся, убачыў расшпілены ранец і задаволены рогат старшакласнікаў. Давялося кінуцца ў бойку. Шанцаў на перамогу не было, мяне пабілі, адлупілі моцна. Калі я завёўся біцца, дык цудоўна ведаў, што яны мацнейшыя і выйграюць бойку, але даравацъ здзеку не змог. Збіты, я ляжаў пад клёнам і думаў, што свет несправядлівы, што маці будзе сварыцца за парваныя сшыткі і перапэцканую вопратку, а яшчэ я суцяшаўся тым, што больш ніхто не будзе класці мне ў ранец мокрае лісце. Сваё права насіць ранец я адстаяў.**

У той дзень школу я прагуляў, бо вярнуўся дамоў і чысціў пінжак з нагавіцамі, а потым перапісваў хатнія заданні ў новыя сшыткі. Маці нават не заўважыла слядоў бойкі, а перад вячэраю задала заўсёднае пытанне: «Ты ранец сабраў?» — «Сабраў!» — «Тады кліч брата і бацьку, будзем вячэраць…»

Я расплюшчыў вочы… Памяць паўтарыла далёкае пытанне пра сабраны ранец, і я зразумеў: сон жахаў застаўся ў незваротным мінулым.

## Замак

Падарожжы ў гісторыю мяне вабілі заўсёды. Здараецца, я нават шкадую, што не нарадзіўся ў час лютага паўстання рабоў пад кіраўніцтвам жорсткага гладыятара Спартака. А яшчэ мне хацелася працаваць разам з саркастычнымі энцыклапедыстамі ў перыяд Асветы…

Табе мае густы могуць падацца дзіўнымі, але і рамантыкаў, якія прыйшлі на змену класіцыстам, я паважаю не менш. Калі Дзідро супрацьпаставіў Бібліі сваю Энцыклапедыю, дык рамантыкі абвясцілі кнігу новым саборам. Віктор Гюго нават назваў раман «Сабор парыжскай Божай Маці». А ў той самы час Мікалай Гогаль горка плакаў, гледзячы на ўзнёслую веліч гатычнай архітэктуры, і сам у сябе пытаўся: «…няўжо мінуў незваротна век архітэктуры?»

Але я нарадзіўся ў іншы час, я прыйшоў тады, калі мусіў прыйсці, і працую ў той літаратуры, у якой наканавана працаваць. На маіх вачах вялікая імперыя была разбурана, і мяне радуе, што ў яе разбурэнні я прымаў удзел. Энцыклапедыі і даведнікі я рабіў і раблю даволі паспяхова, а вось раман-сабор я так і не напісаў…

Для беларуса сабор заўсёды чужы. У нас свая хата, свой дом, свой кут, свой лес, сваё поле, свой шлях, а сабор адназначна чужы, накшталт прыезджага цырка з шатрамі. Выбачай за вульгарнае параўнанне.

Гаспадары ў тутэйшых саборных будынках надзіва лёгка мяняюцца з усходніх на заходніх, але ад гэтага саборы не робяцца нашымі, не набываюць беларускасць. Дый святары не вельмі рупяцца пра беларускасць цэркваў і касцёлаў, нават мова беларуская гучыць у іх праз раз. Касцёл збольшага польскі, а царква наскрозь руская, дык чаму ж тады мне там павінна быць цёпла? Халодна мне ў іх, халодна і сумна. І не толькі мне…

*З усіх сабораў ёсць сабор,*
*дзе згодзен я маліцца:*
*у спелым леце, спелы бор,*
*звіняць твае званіцы…*

Пісаў Анатоль Вялюгін, і я яго разумею, як разумею і другога Анатоля, які вымавіў роспачныя словы…

*У гэтай краіне не маю я бога,*
*ушчэнт разапселі яго святары:*
*дзе церні павінны насіць — носяць рогі,*
*які ж тады бог, калі служкі звяры?*

Пасля такіх словаў выглядае на тое, што вялікай любові ў беларускай літаратуры з саборам і вялікай архітэктураю не атрымалася і не атрымаецца, але такая выснова будзе паспешлівай і памылковаю.

Двудушны і знявераны беларус выбраў сабе замест сабора замак. Аспрэчваць правільнасць беларускага выбару не выпадае, бо час той, калі рабіўся выбар, незваротна мінуў, і вярнуцца туды немагчыма. Таму прымем тое, што маем.

Невыпадкова першым аб’ектам, які беларусы ўзяліся рэстаўраваць, быў Мірскі замак. Невыпадкова і тое, што дзве найбольш культавыя беларускія кнігі мелі ў сваіх назвах слова «замак». «Чорны замак Альшанскі» назваў свой самы папулярны раман Уладзімір Караткевіч. «Замкі Беларусі» Міхася Ткачова — адна з самых любімых кніжак у асяродку тутэйшых чытачоў.

Мажа, я памылюся, але дазволю сабе выказаць нечаканае меркаванне. Дзякуючы таму, што нашыя папярэднікі выбралі замак замест сабора, мы атрымалі і маем дзяржаўнасць. Так, мы выбралі зямное замест нябеснага. Беларусы выбралі каменнае, а не воблачнае. Выбралі абарону зямлі, а не напад на неба. Мы пачулі і прынялі старажытны беларускі праклён: «Каб ты ўсё жыццё камяні на замак цягаў!»

Тутэйшыя Сізіфы коцяць на гару праклятыя камяні, і з тых камянёў складаецца замак, наш беларускі замак.

## Водгукі

Рускі паэт Яфімаў напісаў водгук на мой першы зборнік вершаў. Я патэлефанаваў яму і выказаў удзячнасць, а ён вазьмі ды запрасі мяне на размову. За вокнамі стаяла снежаньская цямрэча, марозны вечар быў не вельмі спрыяльны для прагулянкі, але я не стаў адмаўляцца і паабяцаў хутка прыйсці. Мне зусім не хацелася пакідаць дзяўчат, да якіх я завітаў на вячэру. Марына з Тамараю нават зазлавалі. Толькі накрылі стол, а я, не паспеўшы сесці, уцякаю да нейкага там старога рускага паэта. Паабяцаўшы хутка вярнуцца, я пабег да Яфімава. Можна было паехаць кругам на тралейбусе, але я вырашыў прайсціся напрасткі, праз поле. Ісці праз поле было поўнай дуротаю, але мне заманулася лезці па снегу. І палез.

Кватэра ў Яфімава была маленечкая. У яго ўсё было маленькае: і стол, і лямпа, і попельніца пад лямпаю. Мы палілі папяросу за папяросаю, і Яфімаў распавядаў пра свае погляды на паэзію. Ён быў цалкам рускім паэтам, таму паэты, пра якіх вялася размова, таксама былі адпаведныя, Твардоўскі з Пастэрнакам. Я слухаў Яфімава моўчкі, бо меркаваў, што ён хутка выгаварыцца, і я вярнуся да Тамары з Марынаю, да бутэлькі віна і любові з Тамараю. Але Яфімаў гаварыў і гаварыў несупынна. Так бывае з чалавекам нявыгавараным; ён разумее, што яго не слухаюць і не чуюць, але спыніцца не можа, бо спадзяецца на разуменне. Сяброў у Яфімава амаль не было. Яго выключылі з кампартыі, забралі афіцэрскае званне і выгналі з войска, бо ён прылюдна жорстка выказаўся супраць савецкай улады і не стаў адмаўляцца ад сваіх поглядаў. І пра ўсё гэта ён вырашыў распавесці мне. І я б з вялікім задавальненнем яго выслухаў, каб гэта было ў які іншы вечар. Таму я набраўся нахабства і сказаў, што не вельмі люблю Твардоўскага з Пастэрнакам, і што руская паэзія мяне хвалюе значна меней за беларускую. Але рускі паэт таму і рускі, што ўсё адно будзе гнуць сваю лінію. «Няўжо ты нікога з рускіх паэтаў не любіш?» Я назваў Івана Буніна. Назваў, каб некага назваць, мог бы назваць Лермантава ці Забалоцкага, але назваўся Іван Бунін. «Твайму Буніну было лёгка жыць і дыхаць. Памятаеш, як у твайго Буніна сказана? Памятаеш? Зараз мы знойдзем пра чмяля, пра поле, пра летнюю спёку...» Яфімаў зняў з маленькай паліцы кнігу, паклаў пад лямпу і прачытаў:

*И цветы, и шмели, и трава, и колосья,*
*И лазурь, и полуденный зной...*
*Срок настанет — Господь сына блудного спросит:*
*«Был ли счастлив ты в жизни земной?»*

*И забуду я всё — вспомню только вот эти*
*Полевые пути меж колосьев и трав —*
*И от сладостных слёз не успею ответить,*
*К милосердным коленям припав.*

Памаўчаўшы, мы зноў закурылі. «У яго быў паратунак. А ў нас з табою яго няма. У Буніна заўсёды была надзея на выратаванне і быў Ён! А ў нас Яго няма...» Я змаўчаў. Убачыў святло і змаўчаў. Мяне чакалі Тамара з Марынаю, і я не стаў казаць Яфімаву пра святло.

Ідучы праз снежнае поле, я згадваў светлы летні дзень. Было вяселле ў майго сваяка Толюся, які браў у жонкі Ядзю з Рубяжэвічаў. У тых Рубяжэвічах і гулялі вяселле. Толюсь падпрацоўваў арганістам у касцёле. Таму самая вялікая ўрачыстасць, зразумела, у касцёле і адбывалася. Толюсяў брат Генусь надзімаў арганныя мяхі, а я стаяў побач, каб яго падмяніць, калі стоміцца, але Генусь не стаміўся, бо Толюсь у той дзень мала іграў на аргане. Іграць шмат не выпадала, наогул іграць на аргане на ўласным вяселлі Толюсь не збіраўся, спадзеючыся знайсці іншага арганіста, але арганіста не знайшлося, музыкі баяліся іграць у касцёле. У Мінску касцёлаў зусім не было, а бліжэйшы ад Мінска касцёл быў якраз у тых самых Рубяжэвічах, дзе старэнькі ксёндз запрасіў нас усіх сфатаграфавацца на касцёльным падворку. Усё шматлюднае вяселле вышнуравалася каля касцельнае сцяны. Было яснае неба, было сонца, такое сонца... Такое... Пра якое не скажаш словамі, пра якое трэба памятаць заўсёды. Казаць можна не казаць, а памятаць пра яго трэба, і бачыць яго трэба.

Калі я прыйшоў да дзяўчат, яны ўжо пакладаліся спаць. Тамара адчыніла дзверы і пайшла на варэльню грэць вячэру. Я піў чырвонае віно і еў смажаную на сале бульбу з салёнымі агуркамі, а Тома сядзела побач у адной начной піжаме. Яна глядзела, як я ем, і салодка пазяхала. «І пра што ты з гэным рускім паэтам так доўга гаварыў?» — «Пра калені!» — «Пра якія такія калені?» — «Пра твае мае любімыя калені...» — «Ілжэш!» — «Ілгу. Зараз дап’ю віно і буду далей ілгаць пра твае мае калені, пра твае мае валасы і вусны, пра твае мае міласэрныя вочы...»

## Жлабіха

У жыцці я сустракаў толькі адну эталонную жлабіху. Ёй не пашанцавала, яна патанула ў возеры.

Быў цёплы травеньскі вечар, яна паехала з нашай вялікай кампаніяй на пікнік, палезла ў ваду і захлынулася. Звалі жлабіху — Лёль, яе поўнае імя было Лёля, але мы называлі яе Лёль. Жлабіха Лёль гучыць лепей за жлабіху Лёлю. Магу памыляцца, але выразней — Лёль.

Сярод нас была адна адзіная жлабіха, і мы яе любілі, як любяць выключэнне з правілаў.

Нашая Лёль мацюкаецца? Выдатна! Лёль, мацюкайся, мы ўсе ў захапленні ад тваіх шматпавярховых мацюкоў!

Лёль кажа, што ўсе мужыкі выродкі і казлы? Лёль, паўтары пра казлакексаў яшчэ раз, мы проста паміраем ад смеху.

Лёль прагартала нейкую там брашурку і цяпер лічыць, што ўсіх мужчын трэба расстрэльваць на месцы? Лёль, у майго дзядзькі ёсць паляўнічая стрэльба, мо табе яе прынесці, і адстрэл мужыкоў ты пачнеш сягоння!

Лёль была непрыстойна тоўстая, а вопратка на ёй была заўсёды не яе памераў, ці то завяліка-вялікая, ці то замалая зусім. І ўсе рэчы былі чорнага колеру. Валасы і вочы ў Лёль таксама былі чарнюшчыя. А самы чорны ў Лёль быў язык. Калі Лёль адкрывала рот, з яе чарнюшчага языка зляталі такія чорныя словы, што непадрыхтаваны слухач рабіў выгляд, што ён проста не чуе той чарнаты.

Дык чаму ж мы яе любілі? Пэўна, усе адчувалі яе блізкі сыход і хацелі аддаць ёй сваю любоў наперад. Аддалі і паплакалі на пахаванні, паглядзеўшы на Лёль у вэлюмнай белай сукенцы апошні раз. Мы ж думалі, што развіталіся з Лёль, і з Лёль мы сапраўды развіталіся, а жлабіха засталася.

Жудасная брыдкаязыкая жлабіха пачала ўсяляцца ў нашых дзяўчат і жанчын. «Усе мужыкі — выродкі!» — верашчыць яна рознымі галасамі. Мужчыны азіраюцца на істэрычнае верашчанне і паціскаюць плячыма. «Усе мужыкі — непаўнавартасныя істоты!!!» — не сунімаецца разнатварая жлабіха. Мужчына ўздымае кулак па-над тварком жлабіхі, тая прысядае, сціскаецца ад сполаху і сіпіць: «Я — жанчына!» Кулак апускаецца. «Я не дазволю выціраць аб сябе ногі!» — крычыць жлабіха на апушчаны кулак. Мужчынскі кулак разбівае твар жлабіхі. «Мяне гвалцяць!» — лямантуе жлабіха. «Мяне згвалцілі!» — лямантуе жлабіха на ўвесь свет. Мужчына сыходзіць, а жлабіха лётае і крычыць пра згвалтаванне. Толькі ніхто не верыць ёй. Усе ж ведаюць, што жлабіху ніхто не гвалціў.

Нашую Лёль таксама ніхто ніколі не гвалціў. Мы яе ўсе любілі, але нашыя чэлесы не прымалі нават эталонную жлабіху Лёль. Мой чэлес проста сам перапаўзаў з адной калашыны ў другую, каб быць як найдалей ад жлабіхі. Праўда!

Жлабіха Лёль так і сплыла ў іншы свет з цнотаю. Лёль сплыла, а жлабіха засталася з вамі…

P. S.

У аснове апавядання ляжаць рэальныя факты. У сапраўднасці жлабіха Лёль насіла імя Фаня, і яна сапраўды захлынулася ў азёрнай вадзе.

## З'явы

Задумацца над з'яваю мяне падштурхнулі паведамленні людзей, якія ў інтэрнэце пачалі распавядаць пра тое, як яны здаюць у бібліятэкі кнігі. Паглядзіце на нас, мы не выкідаем кніжкі на сметнікі, мы дорым іх людзям. Згадалася народнае: «На табе, Божа, што мне не гожа!» Чысцільшчыкі прыватных кнігазбораў выбіралі найгоршае, а найлепшае яны пакідалі сабе. Ніхто іх не папракнуў. За што папракаць? А за тое, што з самага найгоршага яны спрабавалі зляпіць найлепшае.

Выбраць кнігу ў падарунак мне вельмі цяжка, бо я заўсёды ахвярую з лепшага, каб не прынізіць, а ўзвысіць таго, каму я наважыўся зрабіць ласку. Без пачуцця шкадавання добры падарунак не робіцца. І недарма ў нашай мове падарунак называюць яшчэ і ахвяраваннем.

Канешне, падзяліць свой кнігазбор на добрыя і кепскія кнігі ў мне ніколі не атрымлівалася. Бо ўсе кнігі для мяне апрыоры выдатныя. Але я маю некалькі паліцаў з кніжкамі, якія моцна паўплывалі на маю творчасць. Гэтыя кнігі я шматкроць чытаў і перачытваў, яны натхнялі і, спадзяюся, будуць натхняць мяне на працу. Узорныя кнігі я купляю ў розных фарматах і выданнях. З іх я і выбіраю падарункі, бо спадзяюся, што цікавае і патрэбнае мне можа зацікавіць і спатрэбіцца іншаму.

Парадкуючы кнігі на паліцах, я і заўважыў, што мае кнігі аб'ядноўваюцца ў з'явы. Аказваецца, мяне больш цікавяць з'явы, чым персаналіі. Якія? Напрыклад: мяне заўсёды натхняла мастацкае жыццё Барселоны. Пікаса, Гаўддзі, Міро — геніі, але з'яваю лепей назваць мастацкае жыццё Барселоны. Чаму? Бо ў мастацкім жыцці Барселоны я магу ўбачыць сябе, я магу ў ім працаваць і працаваць плённна, а ставіць сябе поруч з геніямі мінулага выглядае простым вар'яцтвам.

Падобныя ўзаемаадносіны ў мяне скласіся і з іншай з'яваю — хайку. Вершы, напісаныя ў форме хайку рознымі майстрамі, я збіраю даўно. Басё, Бусон, Іса… Хіба можна некага паставіць поруч з імі?

Ніхто нават блізка не дасягаў таго ўзроўню майстэрства, які мелі гэтыя стваральнікі паэтычнай з’явы.

Афарыстычнае пісьмо французскіх маралістаў мяне захапляла і захапляе моцна. Мантэнь, Ларашфуко, Паскаль, Лабруер, Вавенарг, Шамфор… Чытаю іх і спрачаюся з імі. Аспрэчваць і пагаджацца з гэтымі аўтарамі мне значна цікавей, чымсьці весці збольшага пуставатыя дыялогі ў барах, прапахлых гарэлкаю.

Усе тры пералічаныя вышэй з’явы мала цікавяць шырокую публіку, а таму мне даводзіцца працаваць з іншымі з’явамі. Не буду ілгаць і казаць, што я іх люблю так жа ж, але і яны мяне захапляюць па-сапраўднаму. Мне падабаюцца тэлесерыялы і кнігі, напісаныя паводле гэтых серыялаў. Мне падабаецца працаваць з раманнымі серыяламі, бо яны здатныя пераўтварацца ў серыялы тэлевізійныя. Серыялы, акрамя простага захаплення і радасці, асабіста мне даюць і добры заробак. Серыяламі я займаюся на рускім рынку, адпаведна майму тутэйшаму чытачу праблемы замежных з’яў менш цікавыя за праблемы з’яў уласна нашых.

У беларускай культуры, па вялікаму рахунку, мяне цікавяць толькі чатыры з’явы: нашаніўцы — Купала, Колас, Багдановіч, Гарун; Віцебск 20-х — Малевіч з Шагалам; суровы стыль у жывапісе і графіцы 60-х гадоў 20 стагоддзя і яго стваральнікі — Вашчанка, Малішэўскі, Савіцкі, Басаў; ды проза тых жа 60-х — Брыль, Караткевіч, Адамчык, Стральцоў… І больш нічога цікавага, што магло б сабрацца ў з’яву, я не знаходжу. Асобныя знаходкі і асобныя кнігі ёсць, але нішто іншае не збіраецца ў з’яву. Нехта іншы можа ўбачыць і дадаць да майго кароткага спісу з’вы найноўшых часоў. Некаму можа падасца з’яваю беларускі рок ці рэвалюцыя ў палітычным і літаратурна-мастацкім жыцці Беларусі пачатку 90-х… Некаму, але не мне.

І цяпер, стоячы каля сваіх кніжных паліцаў, я думаю, што некалі і я ахвярую ў бібліятэку кнігі, але іх будзе няшмат, бо гэта будуць найлепшыя з іх.

## Філосаф

Навучэнец Шчасны заваліў восем дысцыплін. Ён атрымаў нездавальняюча па ўсім, акром спецыяльнасці. З малюнкам, жывапісам і кампазіцыяй у Шчаснага ўсё было больш-менш добра, не лічачы таго, што ён не адрозніваў чырвоны колер ад зялёнага. Калі замест чырвонай моркаўкі на працы Шчаснага з’явілася зялёная, мы падумалі так і трэба, такі мастацкі ход. Але і ў наступным нацюрморце замест зялёнай бутэлькі напісалася чырвоная. Сумневы

зніклі, ён у нас класічны дальтонік. Мы яму, як змаглі, растлумачылі пра дальтанізм. Ён цяпер пачаў папярэдне распытваць пра колеры рэчаў, якія трэба было напісаць.

Фізіка, хімія, матэматыка, літаратуры і мовы для Шчаснага былі незразумелымі рэчамі. Ён спрабаваў чытаць чужыя канспекты, браўся рыхтавацца да іспытаў, але ў яго нічога не атрымлівалася. Тады ён вырашыў замест стоса падручнікаў прачытаць адну разумную кнігу. Такіх людзей, што вераць у вартасць адной кнігі, даволі шмат. Але Шчасны ўзяў не тую кнігу, у якую вераць звычайныя людзі. Шчасны ўзяў «Эстэтыку» Гегеля і пачаў чытаць. Прыходзіў увечары дамоў, піў бутэлечнае піва з рыльца і чытаў. Ён прачытаў усю «Эстэтыку» ад першай старонкі да апошняй. Прачытаў і зразумеў, што нічога ён не зразумеў, а каб зразумець, трэба прачытаць кнігу другі раз. Шчасны прачытаў Гегеля другі раз, і зноў жа ад самай першай старонкі да самай апошняй.

У вучэльні над Шчасным пачалі пасмейвацца. Спрабавалі называць яго Гегельянцам, але задоўгая мянушка не прыляпілася. А вось мянушка Філосаф да яго прыстала. Філосаф Шчасны — гучала пераканаўча. Толькі сам ён мянушку не залюбіў. Сваё чытанне Гегеля Філосаф трымаў у сакрэце. Ніхто б і не даведаўся пра чытанне, каб не ягоная сужыцельніца — Цыбіна. Ёй надакучыў п'яны чытач у кватэры. Цыбіна спрабавала добрымі словамі ўгаварыць сужыцеля, каб кінуў дурны занятак. Шчасны не слухаў Цыбіну. Піў і чытаў. Цыбіна пачала шукаць парады ў сяброўак, а замест добрых парадаў яе сужыцель атрымаў абразлівую мянушку.

Аднойчы ўвечары Цыбіна распачала прасаваць кашулі сужыцеля, а той адкаркаваў піва і разгарнуў кнігу. «Які ты ў мяне дэбіл… Мала таго, што ты класічны дальтонік, ты яшчэ і дэбіл класічны…» — глянуўшы на Шчаснага, Цыбіна ўздыхнула. «Маўчы, брыда крывазубая!» — агрызнуўся сужыцель. «Патрыньдзі ў мяне, Філосаф хрэнаў, зараз прасам як заманьдзячу!» — Цыбіна пагрозліва ўзняла над галавою распалены прас. Дарма, бо Шчасны шпурнуў у яе бутэльку. Тая прасвістала каля жаночага вуха і разбілася аб сцяну. Жанчына шпурнула ў мужчыну цяжкі прас, але не пацэліла. Філосаф падняў прас, падбег да жанчыны і саданўў ёй гарачым прасам у жывот. Сужыцельніца заенчыла, павалілася на падлогу, пачала курчыцца і качацца. Філосаф аслупянеў. Жанчына крычала і качалася, а мужчына слупам стаяў над ёю. Слёзы цяклі па няголеных шчоках Філосафа. Плакаў ён моўчкі. Ён стаяў і плакаў, нават калі жанчына паднялася, сабрала рэчы і сышла. Так ён прастаяў паўночы, а потым парваў «Эстэтыку» на шкамуты.

Праўдамі і няпраўдамі наш Філосаф атрымаў залікі па ўсіх дысцыплінах. Выкладчыкі пашкадавалі дальтоніка. Так бывае, што нават кепскіх людзей у нас могуць пашкадаваць. Філосаф скончыў вучэльню, абараніў дыплом і пайшоў працаваць мастакомафармляльнікам на завод.

Цыбіна? А Цыбіна выйшла замуж за мурына і з’ехала ў Кенію. У той Кеніі палова дарог належыла сям’і, з якой паходзіў муж нашай Цыбінай. Яна нарадзіла дарожнага прынца, і жыццё ў яе зрабілася шакаладным.

# РАСЕЙСКАЯ КУНСТКАМЕРА

*Занатоўкі, эсэ і літаратурныя партрэты.*

## ПЕРШЫ ПАКОЙ

### Аненскі

Некалі эсэіст Леў Аненскі працаваў у каланіяльным (азначэнне Паршчыкава) часопісе «Дружба народов». Каб ведаць народы не толькі па тэкстах, ён шмат ездзіў па СССР і прыдумаў досыць універсальную сістэму формулаў. Хто як корміць гасцей? Рускі: «Ты еш, еш. Ну, што ты не ясі? Выпі і закусвай». Беларус: «Маці, пастаў госцю на стол і пайшлі, хай чалавек паесць».

### Ахмадуліна

Ахмадуліна — бляклы цень Ахматавай.

### Баргузін

Нацыянальная палітыка Расейскай імперыі вызначалася выключным цынізмам. Пачытаўшы расейскія падручнікі гісторыі, можна лёгка ў гэтым пераканацца. Захопніцкія войны, на думку расейскіх настаўнікаў, вяліся выключна ў інтарэсах заваяваных народаў, якім Расея несла культуру і асвету. Якую культуру расейскі заваёўнік мог прынесці ў Літву ці Фінляндыю ў 1940-м, у Вугоршчыну ў 1956-м, у Чэхію ў 1968-м? Ніякай. Усё, што тычыцца нацыянальнага пытання, у расейскіх навучальных установах падаецца блытана, цьмяна і няпраўдзіва. А таму не раз і не два я чуў на розных тэлевіктарынах адно і тое ж пытанне: «Хто такі або што такое баргузін?» І расейскі чалавек «нічтоже сумняшеся» адказваў, што гэта чалавек баргузінскай нацыянальнасці. І рэч не ў пытанні пра вецер баргузін, які развявае ветразь над Байкалам. А ў адказе, які паўтараецца з віктарыны ў віктарыну і які ёсць заканамерным вынікам расейскай нацыянальнай палітыкі, згодна з якой ёсць вялікія нацыі, а ёсць народнасці трэцяга гатунку, пра якія і ведаць няварта.

### Бруд

Сын Мікола з'ездзіў на дзень у Маскву. «Яны там усе брудныя, галодныя, злыя», — пра масквічоў. А я ўжо і не заўважаю гэтага, прывык, пэўна. Міколавы ўражанні пераказаў Сашы Дынько. А яна кажа, што і сапраўды брудныя, галодныя, злыя.

### Бунін

З расейскіх літаратараў XX стагоддзя самы ясны і зразумелы для мяне — Іван Бунін. А тое, што Аляксандр Блок напісаў, нібыта ў Буніна ёсць толькі адзін варты згадкі вершык «Хрыстос», пад увагу не бяру. Блок, як вядома, выключны лірык, а Бунін — літаратар. Ягоная дзённікавая кніжка «Окаянные дни» нарэшце паказала ўсяму свету,

наколькі жахлівы, хаатычны, бессэнсоўны рускі бунт. Толькі не верш «Хрыстос», які я вывучаў на памяць у юнацтве, а эратычныя апавяданні са зборніка «Цёмныя прысады» выклікаюць у мяне захапленне. Многія называлі і называюць Буніна парнаграфістам. Але калі Бунін парнограф, дык тады эротыкі ў рускай літаратуры не існуе наогул.

**Вазнясенскі**

Пад Барселонаю, у Січазе падчас карнавалу, у натоўпе я апынуўся побач з паэтам Андрэем Вазнясенскім. Той глядзеў у вітрыну і гаварыў да старой кабеты: «Сорак баксаў. Паглядзі… Гэтая драбяза каштуе сорак баксаў!!!»

**Высоцкі**

Ніколі не любіў і не палюблю песні Уладзіміра Высоцкага, але процьму ягоных твораў ведаю напамяць. Высоцкі — яскравы феномен масавае свядомасці, які жыве ў нас незалежна ад нашага жадання.

**Галяўкін і Хармс**

Галяўкін-Халяўкін. Ёсць у расейцаў і такі мастак-апавядальнік, як Віктар Галяўкін. Каб Хармс не верыў у Бога, каб Хармс любіў дзяцей, каб Хармс не ладзіў філасофскіх дыспутаў, быў бы ён Галяўкіным — добрым, ціхім і малацікавым.

**Горкі і Цютчаў**

Пралетарскі літаратар Максім Горкі напісаў такі радок: «Вар'яцтву смелых пяём мы песню!» У гэтых словах — уся непрасветленасць Расеі, якую, на думку паэта-цэнзара — Хведара Цютчава, «розумам не зразумець, аршынам агульным не памераць».

**Дастаеўскі**

У сваіх «Словах пігмея» Акутавага Руноскэ напісаў пра Фёдара Міхайлавіча наступнае: «Раманы Дастаеўскага поўняцца карыкатурнымі вобразамі. Праўда, большасць з іх прымушае маркоціцца і самога д'ябла». Японцу вобразы Дастаеўскага падаліся карыкатурнымі, насамрэч жа выродлівасць у Дастаеўскага рэалістычная, звычайная расейская.

**Дастаеўскі**

Чорны рэаліст Дастаеўскі хварэў на азарт. Але не шанцавала Хведару Міхайлавічу, і ў швейцарскім казіно ён прайграў 2000 рублёў золатам. Спехам пазычыў грошы на дарогу і ўцёк у Санкт-Пецярбург. Доўг расейскага літаратара і дагэтуль не сплочаны. Не любяць расейцы вяртаць грошы. Браць любяць, красці любяць, а вяртаць — не.

**Даўлатаў**

Тое, што Расея брудная і засмечаная, ведаюць усе. Але чаму так? Вось вам прыклад: «Выносіў я аднаго разу бачок са смеццем. Змерз. Вывернуў яго метры за тры ад памыйкі. Хвілін праз пятнаццаць да нас уваліўся дворнік. Учыніў гвалт. Высветлілася, што ён па смеццю лёгка вызначае жыльцоў і нумар кватэры…» Гэты запіс зрабіў расейскі інтэлігент Сяргей Даўлатаў. Што казаць пра іншых жыльцоў Расеі?

**Дугін**

У анатацыі да двухтомніка Дугіна «Расейская рэч» напісана, што ён найбуйнейшы расейскі мысляр сучаснасці. Трэба пачытаць. Пачытаў: «Хай бурацца сэрцы і стогнуць пад нашай пятою блізляжашчыя народы». Ніцшэ! Ні больш ні менш. Толькі няма вакол Расеі «блізляжашчых», бо ўсе ўжо «блізстаяшчыя». Яшчэ… Калі ў Ніцшэ ў цэнтры сусвету звышчалавек — бялявая бестыя, дык у Дугіна — смярдзючы труп расейскага салдата.

**Ерафееў**

Віктар Ерафееў (не блытаць з Венечкам) — літкрытык, і, як кожнаму літкрэтыну, яму ведама, пра што трэба пісаць у белетрыстычных творах. Ён папісвае, я пачытваю… «Расея гарыць ад фармальнай рэлігійнасці». Трапна. «Ці хачу я, каб Расея распалася на кавалкі? Каб Татарыя адлучылася ад Мардовіі? Каб Волга высахла? Каб сутарга прайшла па Сібіры? Каб скончыўся балаган? Хачу! Хачу!» І я не супраць, і я хачу. «Расейскі народ чымсьці ўразліва не ўнікальны. Ён падобны да іншых архаічных народаў Азіі, Лацінскай Амерыкі, Афрыкі сваёй набліжанасцю да жывёльнага свету». Люблю жывёл. Расейскі народ не ўнікальны, але і ад цнатлівай прыроды далёкі. «Што стане з Расеяй, калі яна закоціцца? Што рабіць з гэтым вялізным гнілым трупам? Прысыпаць гашанай вапнаю». Можна вапнаю. Лепей зямлёю. «Трэба аддзяліць расейцаў ад Расеі. Расея гаўнісцейшая за расейцаў». Ну, няпраўда. Расейцы гаўнюкі яшчэ тыя. Яны і ў Амерыцы гаўнюкі, і ў Францыі. «Расейцы — самыя сапраўдныя паразіты». Вядома! Хто супраць? «Расейцам не трэба даваць занадта многа адукацыі. Дастаткова царкоўнапрыходскіх школак. Не трэба выпускаць за мяжу. Свалата мусіць сядзець дома». Не трэба дык не трэба, але свалата мусіць сядзець у турме. Зрэшты, яна там і сядзіць. Расея заўсёды была турмою народаў, у тым ліку і расейскага. «Расея мяне загрызла канчаткова. Божа, як надакучыла! Яна сера па нагах. Яна сера. Мы серам». Засранцы, лепш не скажаш. «У Расеі можна пражыць толькі на хлусні, не вылучаючы гуманістычную хлусню інтэлегенцыі». Праўда, чыстая праўда, як праўда і тое, што Расея «гістарычна «нячэсная» краіна». «Краіна

вечнага рамонту. Тутака ўсё так падгніло, не паспеўшы саспец, што, за што ні вазьміся, каб зрабіць рамонт, трэба пачынаць спачатку, а лепш за ўсё і зусім не пачынаць». І гэта пра Расею-маці. А вось і кантрапункт: «Я люблю расейцаў. Я вельмі люблю расейцаў. Проста як Ясенін».

**Еўтушэнка**

Калі ў расейскую паэзію прыйшло пакаленне мэтамэтафарыстаў — Жданаў, Паршчыкаў, Яроменка — Яўген Еўтушэнка, вялікі знаўца кан'юнктуры, вырашыў прымазацца да новых зорак і прыйшоў весці паэтычную вечарыну. Ён досыць маляўніча прадставіў Яроменку і даў яму слова, але Сашка слова не ўзяў і нават з крэсла не ўстаў. Ён гучна на ўсю залу сказаў: «Хадзі сюды, я табе ўрэжу!» Еўтушэнка ўцёк.

**Зялёнка**

У расейскіх салдатаў на чачэнскай вайне ёсць выраз «пайшла зялёнка», тож бо зазелянелі горныя лясы, і не відаць, як змяняюць дыслакацыю ісламскія баевікі. Супраць гэтага выразу выступіў рэжысёр маскоўскага тэатра «На Таганцы» Любімаў. Ён расказваў пра цудоўную пару года — вясну, пра паэтычнасць часу, калі на галінках распускаюцца пупышкі і ўзнікаюць першыя пяшчотныя пялёсткі лісточкаў. «А тут, б-дзь, зялёнка пайшла! Якая зялёнка? Хіба так можна? Нейкі жах!» — абурaўся тэатральны генерал. Сапраўды жах. Паводле звестак ангельцаў, у Ічкерыі на кожнага ічкерыйца прыпадае федэральны вайсковец. Неразумная прапорцыя, калі слова розум можна стасаваць да ваеннай сітуацыі. Але называць вайною тое, што дзеецца на Каўказе, я не магу. Там ідзе бойка, паганая звалка ў п'яным чадзе і наркатычным дурмане. «Работалі на гранатах, а потым нажамі і зубамі», — так распавядае малады федэрал пра лясны, у зялёнцы, бой. Хіба гэта вайна, калі людзі грызуць людзей? Для мяне ў каўказскіх падзеях ёсць яшчэ адна драматычная акалічнасць: я не магу стаць ні на адзін з бакоў канфлікту. Я не прымаю варварства, у якім жылі і жывуць чачэнцы, з рабамі, з публічнымі расстрэламі, з рэлігійным фанатызмам. Я не разумею федэралаў, якія вырашылі за ўсякую цану вырваць перамогу на Каўказе. Я не ўспрымаю пафасу культурнага генерала Любімава, які не разумее, што выраз «зялёнка пайшла» мае шмат сэнсаў. І ёсць не толькі зялёнка пяшчотных лісточкаў, а ёсць і тая, што прадаецца ў аптэках. Яе нельга выпіць, як медыцынскі спірт. І ёй вельмі добра апрацоўваць раны на скуры. Разам з зялёнкаю на гарах пайшла зялёнка па расейскай і чачэнскай скуры. І дзякаваць Богу, што ёсць аптэчная зялёнка, якая выдатна гоіць раны.

**Іванаў**

Карціна-монстр Аляксандра Іванава «З'яўленне Хрыста да народу», напісаная для храма Хрыста-Збаўцы ў Маскве, каштавала імператарскаму бюджэту дзесяць тысячаў рублёў — грошы велізарныя па тым часе. Іванаў пакрыўдзіўся, бо за другую карціну-монстра «Медны змій» пэндзля акадэміка Бруні цар выклаў на дваццаць тысячаў болей. Я пагаджаюся з ацэнкай імператара. Бруні прагматычна абраў, кажучы сучаснай моваю, чыста галівудскі шлях — намаляваў карціну-катастрофу з фантастычнымі элементамі. Падобныя катастрофы ў мастацтве заўсёды карыстаюцца попытам у гледача. «Дзявяты вал» Айвазяна, «Апошні дзень Пампеі» Брулова і «Медны змій» Бруні хоць бы палохалі гледачоў. А што «З'яўленне», на якім няма ніякага з'яўлення, а ёсць апранутая асоба мужчынскага полу, якая нібыта ідзе да паўапранутых асобаў мужчынскага полу, застыглых у ненатуральных гіпсавых позах? Сумна. Не кранае.

**Іскандэр**

У доме творчасці Фазілю Іскандэру дастаўся нумар без тэлевізара. Усчаўся вэрхал. Заўгас прытарабаніў з дому ўласны тэлевізар. Вёз ён яго ў дзіцячай калясцы.

**Ключэўскі**

Можна сказаць: руская мова і французская мова. Можна сказаць: французскі розум, але пра рускі так не скажаш. Рускі дух, руская кемлівасць, руская хітрасць... Толькі не розум. Рабіць такія заявы досыць небяспечна, таму знаходжу сабе падтрымку ў выказванні гісторыка Ключэўскага: разумны рускі — гэта дурань, набіты чужымі думкамі.

**Купрын**

Расейскі белетрыст Аляксандр Купрын, якога ніяк не папракнеш у суб'ектыўнасці ці нелюбові да Расеі, у нарысе «Крышку Фінляндыі» апісвае карціну ў найсапраўднейшым расейскім жанры: «Памятаю, гадоў пяць таму мне давялося з пісьменнікамі Буніным і Фёдаравым прыехаць на адзін дзень у Іматру. Назад мы вярталіся позна ўночы. Аб адзінаццатай цягнік спыніўся на станцыі Антрэа, і мы выйшлі перакусіць (далей Купрын апісвае фінскія прысмакі і тое, што расейскія сэрцы былі агаломшаны ежаю. — А.Г.).

А калі мы вярталіся ў вагон, нас чакала цудоўная карцінка ў сапраўды расейскім жанры.

Справа ў тым, што з намі ехалі два падрадчыкі па каменных работах. Усім вядомы гэты тып кулака з Мішчэўскага ўезда Калужскай губерні: шырокая, сальная, скуластая чырвоная морда, рыжыя валасы, што віюцца з-пад картуза, рэдзенькая барадзёнка, лядачы погляд, вера ў Бога на пяціалтынны, гарачы патрыятызм і

нянавісць да ўсяго нерасейскага — адным словам, добра знаёмы сапраўды расейскі твар.

Трэ было паслухаць, як яны здзекваліся з бедных фінаў!

— Вось дурні дык дурні. Бо такія балваны, чорт іх ведае! Ды я, калі падлічыць, на тры рублі і сем грывен з'еў у іх, у шэльмаў… (а плаціў за шведскі стол толькі адзін рубель з драбязой. — А.Г.) Эх, навалач! Мала іх б'юць, сукіных сыноў! Адно слова — чухонцы.

А другі падхапіў, душачыся ад смеху:

— А я… знарок шклянку кокнуў, а потым узяў і ў рыбіну плюнуў…

— Так іх і трэба, свалату!

У гэтай сапраўды расейскай карціне больш за ўсё мяне засмучае тое, што апляваную рыбіну з'елі Купрын з Буніным і Фёдаравым.

**Ленін**

Якім нікчэмным, спарахнелым, маразматычным выглядае сягоння расейскі імперыялізм. Расейскія палітыкі ездзяць па так званым «блізкім замежжы» і ўгаворваюць чыноўнікаў розных рангаў прывесці свае народы назад у імперыю. У іх знаходзіцца толькі адзін аргумент: мы ж столькі гадоў пражылі разам у адной дзяржаве. Сапраўды пражылі, але не разам, а побач, бо шлюб быў гвалтоўны. А пакінуць гэтую «турму народаў, як трапна азначыў правадыр сусветнага пралетарыяту Ульянаў-Ленін, хацелі ўсе народнасці, нацыянальнасці, народы і нацыі. Яны жадалі выйсці з Расеі з таго самага імгнення, як апынуліся ў ёй. Расейскія імперыялісты ўсё яшчэ вераць у сваё адраджэнне. Дарма.

**Лермантаў**

Ёсць у расейцаў устойлівае словазлучэнне руская лазня. Пра тую лазню напісана безліч прозы з вершамі вялікімі Талстымі, наздымана кінасцэнаў рознымі Міхалковымі, панамалёвана карцінаў усялякімі Кустодзіевымі. Руская лазня — аб'ект культавы ў расейскай свядомасці, без усялякіх перабольшанняў. Таму рускі чалавек мусіць любіць сваю лазню і хадзіць чысты. А тут не так, лазню ён любіць, а ходзіць брудны. Адна знаёмая неяк між іншым сказала пра свайго мужа: чытаць ён мала чытае, а кніжкі любіць. Дык вось любімы паэт рускага народа напісаў у адной са сваіх кніжак такія словы: «Бывай, нямытая Расея, краіна панства і рабоў…» Вельмі слушна заўважыў М.Ю.Лермантаў пра нямытасць сваіх суайчыннікаў, якія калі і сходзяць у лазню, дык пасля панапіваюцца і ў гразі выкачаюцца.

**Лімонаў**

Порнабелетрыст Эдзік Лімонаў — чалавек сквапны. Каб узяць у яго інтэрв'ю, журналістцы Лісіцкай давялося паабяцаць яму мегафон. Эдзіку на мітынгу трэба выступаць, а мегафона няма. Лісіцкая, дзеўка абароцістая, дастала мегафон. Толькі ён, гад, не працаваў.

Дзве гадзіны рамантавалі і не далі рады. Нарцысіст Лімонаў даў інтэрв'ю бясплатна. Слабак.

**Малевіч**

Калі што і прызнаецца ў свеце з расейскага выяўленчага мастацтва, дык гэта авангард дзясятых — пачатку трыццатых гадоў XX стагоддзя. Палотны Кандзінскага, Татліна, Родчанкі выстаўленыя ў найлепшых галерэях свету. Яны бясспрэчна вартыя самага пільнага вывучэння, найгрунтоўнейшых даследаванняў і ўрачыстых шанаванняў. Расейскі рэвалюцыйны авангард канцэнтруецца ў адной найвыбітнейшай асобе Казіміра Малевіча. Чытаючы ягоныя лісты, я знайшоў той факт, што Малевіч, пераправіўшы большасць сваіх твораў у Нямеччыну, прасіў напрамілы Бог не вяртаць іх у Расею. Таму робіцца зразумелым, чаму найлепшы збор твораў супрэматыста Малевіча знаходзіцца ў Галандыі. Казімір Малевіч быў празорцам. Не верыў, што ў Расеі ўсталюецца цывілізаванае грамадства. Лізаблюды, што яшчэ ўчора вылізвалі партрэцікі цароў, пачалі старанна вылізваць морды ленінаў, варашылавых і сталінаў. Традыцыя працягваецца: учорашнія атэісты малююць царкоўныя абразы. У адрозненне ад бесхрыбетных хамелеонаў, Малевіч быў наскрозь ідэалагізаваны адной вялікай ідэяю абнаўлення свету, а свет Расеі застаўся нязменны — ні чорны, ні белы, ні чырвоны, а балотнага колеру.

**Мартынаў і Дантэс**

Лермантаў і Пушкін загінулі на дуэлях. Пушкіна смяротна параніў Дантэс, а Лермантава застрэліў Мартынаў. Факты. Мартынаў пражыў доўгае жыццё і рабіў некалькі спробаў напісаць тлумачэнне фатальнай падзеі. Пачынаў ён нібыта са шкадавання, а потым рабіўся злы. Тэксты не скончаныя, абрываюцца нечакана. З гэтага вынікае, што, калі б Лермантаў выжыў і зноў назваў Мартынава мартышкай, той зноў бы страляў у крыўдзіцеля. Дантэс, наколькі вядома, не пакінуў ніякіх пакаянняў, забіў «светач рускай паэзіі» і забіў. І што асабліва засмучае ў праявах неміласэрнага лёсу: ні Мартынава, ні Дантэса нельга параўнаць з легендарным Сальеры, які так міфалагічна атруціў Моцарта. А тут — пошлая бытавуха і дзіцячыя крыўды. І Лермантаў, і Пушкін загінулі бяздарна, а доказы гэтага — Мартынаў і Дантэс.

**Міхалкоў**

Кінарэжысёр Мікіта Міхалкоў прыехаў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут з выступленнем. Кінуў палітон на крэсла ў рэктарацы, зайшоў у залу і, хутка прайшоўшы між радоў, заскочыў на сцэну. Скачок узрадаваў. А вось развагі пра геніяльнасць мастака Фядотава мяне расчаравалі. Зрэшты, кінафільм «Абломаў»,

пабудаваны на варыяцыях палотнаў Фядотава, на мой погляд — адна з лепшых прац Міхалкова. Геніяльнасць ганчароўскага, чыста рускага вобраза — памешчыка Абломава выцягнула з пасрэднасці Фядотава і Міхалкова. Што ні кажы, а сцэнар у кіно — аснова асноваў.

**Паршчыкаў**

Паэт Аляксей Паршчыкаў напісаў радок: «Мора — гэта звалка веласіпедных рулёў». Нечаканае параўнанне. І цяпер, гледзячы на мора, што пачынае хваляваццa, я бачу гэтую бліскучую звалку рулёў.

**Прышвін**

Раздражняе расейская самасць. Мы самыя вялікія, мы самыя няшчасныя. Мы ўтапілі самы вялікі падводны човен, у нас згарэла самая высокая вежа, у нас самыя жорсткія тэрарысты… З любой трагедыі робіцца выключная з'ява. Суцэльны самападман пануе ў расейскай свядомасці. Нават у расейскім часопісе «Плэйбой», прэзентуючы пісьменніка Мамлеева, пішуць, што ён вялікі расейскі пісьменнік. Такое светаўспрыманне немінуча вядзе да трагедыі, да расчаравання. Самасць асляпляе расейцаў. І нават разумны і далікатны літаратар Міхаіл Прышвін піша: «…няма ў свеце больш варбарскага абыходжання з жывёламі, са сродкамі працы, з зямлёю, чым у нас». Можна дадаць і чалавека, не памылімся. Але ж галоўнае: «няма ў свеце» і «больш». Дурная самасць, што вядзе да новых і новых ахвяраў.

**Пушкін**

Па-руску пісаў Пушкін, а яшчэ па-руску напісалася безліч даносаў у царскую ахранку, у ЧК, у НКВД, у КГБ, даносаў, па якіх тварыліся судзілішчы і людзі прыгаворваліся да расстрэлаў. Канцылярыя ў савецкіх канцлагерах таксама вялася на так званай «вялікай і магутнай» мове. Загады на вынішчэнне цэлых народаў прамаўляліся па-руску, з рознымі нямецкімі і грузінскімі акцэнтамі, але ж па-руску. Дык што такое жменька выдатных літаратараў, кшталту Пушкіна, у параўнанні з плоймаю катаў, садыстаў, пачвараў, якія рыкалі, верашчалі, плявузгалі па-руску? Дробны вынятак. Рускамоўных геніяў цяпер я не бачу. А даносы па-ранейшаму пішуцца ў ФСБ і МУС.

**Расейская кніга-1**

Пераважная большасць людзей, задзейнічаных у расейскім кніжным бізнесе, — нярускія. Як сказаў адзін мой калега габрэй, так склалася гістарычна. Пагаджаюся. Першую рускую біблію надрукаваў беларус Скарына, першыя рускія тлумачальныя і этымалагічныя слоўнікі зрабалі немцы Фасмэр з Далем, нават заснавальнік сучаснай літаратурнай рускай мовы Пушкін па бацьку эфіоп. Як склалася, так пайшло і так ідзе. Асноўныя капіталаўкладанні на расейскім кніжным

рынку належаць немцам і габрэям, а вось большасць белетрыстыкі пішацца беларусамі.

**Расейская кніга-2**

Куды б я ні паехаў, абавязкова заходжу ў кнігарні. Гэта звычка з дзяцінства. Добрая, скажу табе, завядзёнка. Пастаіш каля палічак з кнігамі, нешта пагартаеш, нешта пачытаеш, набудзеш. Так вось воляю лёсу і стаў я літаратарам і кнігавыдаўцом. Калі літаратар я беларускі, дык кнігавыдавец расейскі, бо выдаю кнігі на расейскай мове. І за расейскую кнігу нейкім чынам перажываю. Мяне вельмі насцярожыў той факт, што ва ўсіх замежных крамах расейскімі кнігамі гандлююць інваліды. У віленскай «Русской книге» цябе сустрэне зморшчаны чорнагаловы карузлік з драўляным голасам; у Празе расейскую кнігу прапануе аднарукі аматар тэалагічных дыспутаў; а ў Карлавых Варах гандляр наогул катаецца ў краме інваліднаю каляскай з кудлатым сабачкам на руках. Зрэшты, кніжная крама — прытулак не надта прыгожых людзей. Прыгажуны і прыгажуні наведваюць усялякія іншыя крамы — аўтамабільныя, ювелірныя, моднага адзення. А ў кнігарнях шукаюць прытулку людзі самотныя, рамантычныя, крышку бажаволкі.

**Расейская мова-1**

З расейскім празаікам Святазарам Барчанкам я сядзеў за адным рэстаранным сталом у доме творчасці ў Піцундзе. З жонкаю мы дэманстрацыйна перагаворваліся па-беларуску. «А вам не сорамна гаварыць за сталом на мове, якой астатнія не разумеюць?» — паспрабаваў упікнуць нас Святазар. «А вам не сорамна, што ўсе смяротныя прысуды ЧК, НКВД і КГБ пісаліся па-расейску?» Два дні мы не гаварылі. Потым замірыліся, і Святазар расказаў, як ягоны дзед даў прытулак сям'і Івана Буніна ў крывавым 1917 г. Пазней я знайшоў у бунінскім дзённіку запіс: «Каля шлагбаума кола рассыпалася. Да Яльца пешкі — цяжка! Жахліва! Спыняць, могуць забіць… Прытулілі нас Барчанкі. Увечары (зноў удар!) (Успаміны перарываюцца гукамі гарматных стрэлаў, якія чуваць было, калі рабіліся запісы ў дзённіку. — А.Г.) у нас госці, я гаварыў лішняе, — выпіў. 24-га прабылі ў Яльцы. Адсюль чуткі пра пагромы маёнткаў. Вл. См. усё Аненскае разграмілі. Паляць хлеб, скаціну, свіней смажаць і п'юць самагонку (зноў!)». У знак прымірэння Святазар пераклаў на сапраўдную расейскую мову маю аповесць «Смерць-мужчына».

**Расейская мова-2**

Недалюбліваю расейскую мову, а тых, хто яе насаджае гвалтам, не слухаю. Не пашанцавала мне з настаўніцамі вялікай і магутнай. Усе, як адна, яе не ведалі. Першая, Казачка, не мела вышэйшай адукацыі — ну што тут казаць. Другая, Серафіма, адукацыю мела, але

вучні яе не паважалі настолькі, што трымалі дзверы і не пускалі ў клас. Серафіма плакала, істэрычна верашчала і скардзілася дырэктару… Якая мова?! Трэцяя, Карэлка, блыталася ў мужчынскім і жаночым родзе. Ён прыйшла, яна прыйшоў… Дысцыпліна на ўроках была жалезная, а расейскага слова не было. Чацвёртая, Татарка, прыйшла да нас адразу пасля інстытута і спрабавала сябраваць. Знайшла сяброў. Выперлі яе са школы за прафнепрыдатнасць. Пятая, Старая Дзева з беларусаў, тое-сёе выправіла ў маёй адукацыі: да школьных выпускных іспытаў я вывучыў усе патрэбныя правілы, але атрымаў «4», бо прапускаю літары, калі пішу. Так яна патлумачыла заніжаны бал. Апошняя, шостая — Мянчучка з габрэяў — запомнілася сваім садызмам. У яе былі дзве адзнакі — «1» і «4». Неяк я ўсё ж атрымаў залік, а колькі людзей пагублялі з-за непатрэбнай прынцыповасці гады жыцця — не пералічыць. Такі парадокс: нелюбоў да расейскай мовы мне прышчапілі кепскія настаўніцы.

Праўда, пазнаёміўся я з настаўніцай расейскай мовы ў Тбілісі. Яна рабіла па 40 памылак у дыктоўцы для 4 класа. Дык мае яшчэ не з горшых: хоць чытаць-пісаць навучылі.

**Рэйн**

Піцерскі паэт Яўген Рэйн, сябра Язэпа Бродскага і вучань Ганны Ахматавай, аднойчы сярод ночы, калі мы чыталі вершы і пілі «рускую», сказаў: «Не пішы нацыяналістычную паэзію, і ўсё складзецца добра». Паслухаў я Рэйна і перайшоў на прозу.

**Рэпін**

Кінематаграфіст Мікіта Міхалкоў, разважаючы пра жывапіс, не падумаўшы, ляпнуў: творчасць Іллі Рэпіна такая ж папулярная ў Расеі, як творчасць Рафаэля ў Італіі. Мяркую, сам Рэпін вельмі здзівіўся б такому мядзведжаму і чыста расейскаму кампліменту. Папулярнасць мастакоў італійскага Адраджэння пераўзыходзіць вядомасць астатніх на некалькі парадкаў, і Расея, дзякаваць Богу, не вынятак з правілаў. Пэўна, з-за такіх недарэк-ліслівцаў, як Міхалкоў, Рэпін на схіле гадоў назаўсёды пакінуў Расею і пасяліўся ў Фінляндыі — «прытулку ўбогага чухонца», як яе называў А.Пушкін. Ёсць, праўда, і іншая, больш важкая прычына эміграцыі Іллі Яфімавіча. Пра яе так напісаў Уладзімір Маякоўскі: «І Рэпін, і Бродскі (меўся на ўвазе мастак, а не паэт. — А.Г.), і Урубель верылі толькі ў рубель». Вядома, фінскую

марку тады яшчэ толькі-толькі ўвялі, але ў Расеі на той час хлеб па картачках давалі, так што Рэпін меў рацыю, калі рублёвую веру змяніў на марачную.

**Савіцкі**

Чытаючы раман «Тэма без варыяцыяў» Дзмітрыя Савіцкага, падумаў, што ў свеце існуе інтэрнацыянальная эміграцкая літаратура. Асабліва тут вызначылася XX стагоддзе: Аляксей Талстой, Аляксандр Купрын, Джэймс Джойс, Генры Мілер і безліч іншых.

**Салжаніцын**

У сваім опусе «Як абсталяваць Расею» Салжаніцын назваў рэспублікі Сярэдняй Азіі расейскім падчарэўем. Калі пайсці ў параўнаннях за публіцыстам, можна Уладзівасток ахрысціць заднепраходнай адтулінай, а Камчатку хвастом, які з-за энергетычнага крызісу пачаў адмярзаць. Тое, што Масква — сэрца Расеі, вядома і без Салжаніцына… Як і большасць «абустройшчыкаў» Расеі манілаўскага ўзору, Салжаніцын пражыў жыццё за мяжою Радзімы. І вярнуўшыся, не забывае чужую старонку, што корміць, поіць і апранае. Таму васьмідзесяцігоддзе Салжаніцын святкаваў на тэрыторыі шведскай амбасады, а не ў Мураме ці Суздалі. І ясна чаму. Не «абвустроілі» яшчэ Расею, не збудавалі, як тыя шведы, сацыялізм з чалавечым тварам. І апошняе, што варта сказаць пра творчасць Салжаніцына… Усе ягоныя жахі разам узятыя — нішто ў параўнанні з «Запіскамі з мёртвага дома» Хведара Дастаеўскага. Гэта Дастаеўскаму шведы далі Нобелеўскую прэмію, а атрымаў яе Салжаніцын.

**Салтыкоў-Шчадрын і Бунін**

Існуе показка, што нібыта расейскі цар спытаў у Салтыкова-Шчадрына, як адным словам абмаляваць усю Расею. «Крадуць!» — адказаў сатырык. Падобнае апісвае Іван Бунін у сваіх дзённіках: «Быў на млыне. Размова з Андрэем Сіманавым. З ягоных слоў, уся наша вёска злодзей на злодзеі!» Каб жа толькі вёска крала. А крадуць у Расеі і ў горадзе, і ў маскоўскім Крамлі.

**Сарокін**

Віця Ерафееў назваў Вову Сарокіна «гаўнавозкай». Крытык меў рацыю. Сарокін любіць гаўно, піша пра гаўно. Капрафагія — асноўны матыў сракінскай творчасці. Хто да мяне назваў Сарокіна Сракіным — неістотна, бо трапна. Варта спытаць Вову, ці тоне гаўно. Адказ мусіць быць такі: гаўно тоне. Вова ж майстар нечаканых канцовак.

**Талстой**

Пра адлучэнне Льва Талстога ад расейскай праваслаўнай царквы я даведаўся ў Ленінградзе, у музеі рэлігіі і атэізму, які месціўся ў

памяшканні Казанскага сабора. На сценапісе палымнела пекла, у агнявой геене сядзелі сумныя Талстой з Лермантавым. Ідыятызм карцінкі я і зараз не стаўлю пад сумнеў. Гонар расейскай культуры і нацыі — Талстой, любімы паэт Расеі — Лермантаў на загад невядомых паўдуркаў намаляваныя сярод чартоў. Прыклад расейскага праваслаўнага цемрашальства. Сумна, што сёння пачаўся новы этап дзікунства. Адзін мой знаёмы журналіст, схаваўшы партбілет, распачаў праваслаўную кар'еру. Сустрэліся мы выпадкова ў букіністычнай краме. Новы праваслаўны прытарабаніў здаваць на камісію зборы твораў Талстога і Лермантава. «А што ты зробіш, калі ніхто не купіць?» — «Занясу на сметнік».

**Талстой**

Янка Брыль — талстовец і літаратар — пісаў пра ідыятызм вясковага жыцця. У мяне ідыятызм жыцця на вёсцы асацыюецца хутчэй з жыццём Талстога, чым з жыццём селяніна. Васіль Восіпавіч Ключэўскі пра таго ж Талстога сказаў так: «Талстой — позняя пародыя на старажытнарасейскага бажаволка, які соваўся гарадскімі вуліцамі голы і не саромеўся».

**Троцкі**

Бацька чырвонага тэрору Леў Троцкі дэталёва апісаў сваё жыццё-быццё ў маскоўскім Крамлі. Уразіла не тое, што бальшавікі расстралялі царскую сям'ю, а што, расстраляўшы, спакойна жэрлі з царскага посуду, і прыслужвалі ім за сталом царскія лёкаі.

Я не цярплю аднаразовага посуду, але і з чужых, нават рэстаранных, талерак есці не люблю. Каб можна было хадзіць у госці з уласным сталовым прыборам, я б хадзіў.

**Трубяцкой**

Расейскі эмігрант князь Мікалай Трубяцкой у 20-х гадах XX ст. фармуляваў дактрыну новага шляху Расеі. Ён пісаў: «Камунізм на самой справе з'яўляецца скажоным варыянтам еўрапеізму ў яго разбурэннях духоўных асноваў і нацыянальнай унікальнасці расейскага грамадства, у распаўсюджванні ў ім матэрыялістычных крытэраў, якія фактычна кіруюць у Еўропе і Амерыцы…»

Відавочны маразм Трубяцкога пацвердзіла гісторыя, калі камунізм дайшоў да Азіі і выявіўся ва ўчынках Мао, Хо Шы Міна і асабліва крывава ў дзеяннях Пол Пота, паслядоўнікі якога матыкамі трушчылі чарапы сваіх бацькоў.

«Наша задача — стварыць цалкам новую культуру, нашу ўласную культуру, якая не будзе падобнай да еўрапейскай цывілізацыі… Калі Расея перастане быць скажоным адбіткам еўрапейскай цывілізацыі… Калі яна зноў стане сама сабою: Расеяю-Еўразіяю, свядомай спадкаемніцаю і носьбітам вялікай спадчыны Чынгісхана».

Маразм на маразме. Якая цалкам новая культура? Чаму не трэба быць падобным да цывілізацыі? Кім можа быць Расея, акрамя як Расеяю? Чаму за ўзор бярэцца спадчына Чынгісхана, а не прыклад Аляксандра Македонскага, які хоць крышку ў Арыстоцеля вучыўся і рэальна аб'яднаў Еўропу з Азіяй?

І няхай бы глупствы князя-выгнанніка засталіся на пажоўклай паперы. Дык не. Расея намагаецца аб'яднаць Беларусь з Таджыкістанам, Ічкерыяй і Карэліяй і стварыць гэтую хімерычную Расею-Еўразію. Кроў, вайна і жабрацтва народа — вось вынік намаганняў.

Расеі, каб захавацца як Расеі, трэба зрабіцца Масковіяй, еўрапейскай дзяржавай, інакш яе з'есць мусульманская Азія, Чынгісхан адродзіцца, і расейцы зноў будуць сплочваць падаткі вялікаму манголу.

**Тургенеў**

У дзённіку братоў Ганкураў Іван Тургенеў названы «мілым варварам». З «барбарам» я згодны цалкам, а вось «мілы» — чыста французская галантарыя. Тургенеў не мілы і не друг, а барбар з бабскім тварам, хворы на імперскую ідэалогію.

**Хармсіха**

Марына з роду князёў Трубяцкіх з 1934 па 1942 г. была жонкаю самага экстравагантнага расейскага літаратара Данііла Хармса. Ва ўспамінах яна кажа: «Ні за якія грошы, ні за што, што б мне ні далі — каштоўныя пярсцёнкі, дыяменты — ніколі ў жыцці я не буду глядзець на Расею!» Так вось знявагамі давялі чалавека да нянавісці да Радзімы. Гэтымі словамі яна скончыла ўспаміны. А вышэй яна напісала і такое: «Мяне і яшчэ трох-чатырох маладых паклалі на печы. Я хутка сагрэлася. І раптам я пабачыла котку! Няз'едзеную котку! Я як загарлаю: «Трымайце яе! Таварышы, хапайце яе!» — і зляцела з печы. Я кінулася за коткай, каб яе злавіць. Але яна, дзякуй Богу, уцякла». Котку Марына лавіла, выбраўшыся з блакаднага Ленінграду, дзе за талерку супу з сабачыны аддала Друскіну ўсе рукапісы мужа. Свайго Дані, які баяўся толькі аднаго на свеце — што яго забяруць у войска і прымусяць забіваць людзей, які імітаваў псіхічную хваробу, якога па даносе арыштавалі і замарылі голадам у турме. А Марына вырвалася з блакады, а пасля і з Расеі. Ёй пашанцавала.

**Чэхаў**

Гумар і сарказм Антона Чэхава падштурхнулі мяне да пытання: а ці не чэх Антон Паўлавіч?

І сапраўды, Чэхаў бліжэйшы да Чапэка з Гашакам, чым да Буніна з Талстым. І каб Чэхаў напісаў раман, гэта быў бы хутчэй «Бравы салдат Швейк», чым «Вайна і мір». І калі нехта напіша зноў, што А.П.Чэхаў — вялікі расейскі пісьменнік, я не паверу. Чэхаў —

выключны пісьменнік, еўрапейскі пісьменнік, сапраўдны апавядальнік, як і Чапэк з Гашакам. Чэхаў нармальны, а не вялікі. А нармальнасць — тое асноўнае, чаго не ставала Расеі ні ў XIX, ні ў XX стагоддзях.

**Шолахаў**

Выдатны нігіліст Луі-Фердынанд Сэлін у сваім рамане «З замка ў замак» абурыўся: «…Вось калі б я быў які-небудзь Влас… Влас Прохрохрофффф… з Крыжопалю-на-Доне… Крыжопаль-на-Доне — гэта вам не Курбвуа-на-Сене!.. Вось тады Нобелеўская прэмія была б у мяне ў кішэні… Але ж я тутэйшы і нават не сэфард!.. Такія, як я, нікому не патрэбныя!.. Іх трэба зніштажаць!.. Каб не назалялі!..» Абураўся Сэлін. І меў права, бо Шолахаў, Салжаніцын — Власы Прохрох-рохарафы горшыя за яго, а ўзнагароды атрымалі. Шолахаў атрымаў за антыінтэлектуальны, груваcткі і не чытэльны раман пра Дон. Шолахаў і Ленінскую прэмію атрымаў, і Сталінскую — «яму пашанцавала нарадзіцца ў Крыжопалі».

**Што рабіць з трупам?**

XIX стагоддзе прайшло ў расейскай культуры пад пытальнікам, пастаўленым пасля сказа «што рабіць». «Што рабіць?» — пытаўся Чарнышэўскі ў сваім рамане «Што рабіць?» Герой Ганчарова лайдак Абломаў таксама шукаў адказу на невырашальнае для расейцаў пытанне. Хоць яшчэ ў школе усіх без вынятку вучаць: адказ знаходзіцца ў пытанні. Трэба рабіць. Працаваць трэба, рабіць работу. Але для расейца гэта не адказ. У іх уся работа робіцца «на шчупакова казанне». Калі не шчупак, дык залатая рыбка пераробіць усю чыста работу. Нават Уладзімір Ульянаў (Ленін), які вучыўся на выдатна, напісаў кніжку з назваю «Што рабіць». А ў XX стагоддзі расейцы знайшлі сабе работу, і назва той рабоце — вайна. Яны так і кажуць з тэлеэкранаў: «У Чачэніі нашы салдаты робяць сваю работу». І яны там нарабілі, і не толькі там… Яны нарaботалі і падчас расейска-японскай, і на першай імперыялістычнай, і на савецка-фінскай, і ў Другую сусветную… Яны — расейскія мужыкі — «рабілі сваю работу», і ў выніку ўзнікла асноўнае пытанне расейскай інтэлегенцыі XX стагоддзя: «Што рабіць з трупам?». І не рытарычнае гэта пытанне, не абстрактнае, яно актуальнае, сакральнае, рэальнае. Уся Расея засцеленая трупамі, і не нябожчыкамі, што адышлі ў лепшы свет паводле звычайных законаў прыроды. Расея заслана трупамі ахвяраў. Ахвяры войнаў, ахвяры канцэнтрацыйных лагераў, ахвяры белага, чырвонага і зялёнага тэрору засцілаюць Расею. Расейцы забілі свайго цара і праз 80 гадоў не змаглі яго нават пахаваць па-людску. А ў цэнтры расейскай сталіцы, на Краснай плошчы ў Маскве ляжыць труп самога Леніна (Уладзіміра Ульянава), які нібыта ведаў, што

рабіць. А расейцы зноў не могуць знайсці адказ. А ён да банальнасці просты: труп трэба закапаць. Нябожчыкаў неабходна хаваць, а не трымаць у лядоўнях па 10 гадоў. І першага, каго трэба пакласці ў зямлю, гэта Леніна.

### Яроменка

Аляксандр Яроменка напісаў кніжачку вясёлых вершаў, сабраў калекцыю мастацкіх вырабаў з расейскіх турмаў і знік. Дзе? Што робіць? Ці жыве? Зрэшты, не ў тым сутнасць. Калі чытаю Сашкавы санеты, пераконваюся: Нобелеўскую прэмію можна даваць толькі за вершы. Каб хоць неяк кампенсаваць тое, што яе не даюць мастакам і рэжысёрам. Ну сапраўды, чаму Сянкевіч і Шолахаў лаўрэаты, а Пікаса і Бунюэль — не?

## ДРУГІ ПАКОЙ

### Рускі цар

Само словазлучэнне «рускі цар» выклікае ў мяне пачуццё гідлівасці. У дзяцінсве я захапляўся кніжкамі пра старажытную гісторыю. Дзесьці ў іх і вычыталася згадка пра слабаразумнага рускага цара, здаецца, нейкага з Паўлаў, які пальцам душыў на аконнай шыбцы мух. І не важна, як клікалі таго рускага цара, бо душыць пальцамі мух мог і Іван-сабака, і першы Пётр, і трэці Павал… Усе яны — рускія цары — душылі людзей як мух. Таму саладжавая азызласць твараў рускіх цароў нічога акрамя гідоты выклікаць і не можа ў нармальнага еўрапейца.

Калі крамлёўскія халуі пачалі нібыта жартам называць царом першага прэзідэнта Расеі Ельцына, мне стала непрыемна глядзець рускае тэлебачанне, нібыта яно вось-вось пакажа, як на пакалечанай бяспалай руцэ прэзідэнта Барыса чарнеюць расціснутыя мухі.

### Рускі бруд

Кожны нярускі, трапіўшы ў Расею, спрабуе прыбіраць рускі бруд. Ён прыбірае і прыбірае, мые, чысціць, падмятае, шаруе, паліруе, лакіруе і чуе бясконцае «ты што, нярускі?». Стаміўшыся не столькі ад прыборкі, колькі ад некарэктнага пытання, ён кідае прыбіраць і больш не чуе «ты што, нярускі?», і нібыта становіцца простым рускім чалавекам, які жыць не можа без «вялікага» рускага бруду.

### Руская рэклама

«Калі ў вас кепская фігура, паганыя валасы і перхаць, дзяўчаткі, прыходзце да нас! У нас цёмна і мы п’яныя!» — рэклама на рускім радыё. На беларускім радыё такой рэкламы няма, бо яна нахуй непатрэбная.

## Лермантаў і жаба

Калі б можна было звесці ўсю японскую лірыку да аднаго верша, я б пакінуў хайку Басё:

*Стары стаў.*
*Скокнула жабка.*
*Усплёск у цішы.*

Японія далёка-далёка, а таму і лёгка згарнуць яе лірыку да аднаго верша. Расея бліжэй за Японію, таму і цяжэй знайсці адзін-адзіны найлепшы рускі верш. Нават вызначыць найлепшага рускага паэта мне складана… Можа гэта Ясенін з белай бярозаю пад акном? Можа Пушкін з марозам, сонцам і цудоўным днём? Можа Лермантаў з белым самотным ветразем у блакітным марскім тумане? Нехта з іх… А гэтае лермантаўскае:

*І хто-та камень палажыл*
*В ево працянутую руку…*

Непараўнальны вобраз жабрака. Люблю Лермантава. І не самотны я ў гэтай любові. Лермантаў, безумоўна, любімы паэт Расеі. Усё, што звязана з Лермантавым, мяне цікавіць. Мне цікава, чаму паэт на дуэлі стрэліў у неба. Паэт страляе ў неба! Які сімвал! Які вобраз! Забойца Лермантава — Мартынаў — страляў не толькі ў свайго заўсёднага злоязыкага крыўдзіцеля, ён страляў у дэмана, страляў у паэта, які паўстаў супраць Бога. А застрэліў Мартынаў не дэмана і не богаборцу, ён забіў любімага паэта Расійскай імперыі, генія забіў. Містычная драма. Інакш не скажаш.

У Беларусі няма паэтаў, якія загінулі на дуэлі. Рамантычныя дуэлі адышлі ў нябыт, да з'яўлення вялікіх беларускіх паэтаў. У нашых паэтаў іншыя лёсы, не менш драматычныя, але іншыя. І не вядома з якіх прычынаў, музейныя супрацоўнікі імкнуцца перакрыжаваць лёсы беларускіх і расейскіх паэтаў. Мне не зразумела. Ну не разумею я, нашто ў музеі Максіма Багдановіча выстаўляецца зялёная керамічная жаба, якая нібыта належыла Лермантаву. Можа я недастаткова добра ведаю спадчыну расейскага дэманолага, але не памятаю, каб ён дзе ўсхваляў жабу. Паэтызацыя вобраза жабы нейк не стасуецца з лермантаўскім светам. Ды я ўпэўнены, што ніякіх дакументаў жаба, выстаўленая ў музеі, не мае. Трэба як мінімум два дакументы: першы — сведчанне, што Лермантаў меў керамічную жабу (ну хоць бы які пісьмовы ўспамін сучасніка Міхаіла Юр'евіча), другое — дакумент, які б засведчваў, што гэтая жаба якраз тая самая, што была ў Лермантава. Можна не сумнявацца, такіх дакументаў у музейнікаў няма. У лепшым варыянце: ёсць запіс сямейнай легенды Багдановічаў пра жабу Лермантава. У такім разе трэба, каб экскурсаводы казалі не пра жабу Лермантава, а пра сямейную

легенду сям'і Багдановічаў. Ёсць розніца! А то выходзіць, як з тым лермантаўскім жабраком:

*І хто-та жабу палажыл*
*В ево працянутую руку…*

**ОКсана і ўсе грошы**

Маскальская белетрыстка ОКсана Робскі ў раманцы пра сціплую чароўнасць новай расейскай буржуазіі — CA$UAL (паўсядзённае) кажа: «Масква, як звычайна, працавала так, нібыта хацела зарабіць усе грошы адразу. На ўсіх мыйках — чарга. На дарогах — заторы». Усё правільна, калі паасобку. На маскоўскіх дарогах сташэнныя пробкі, бо адсутнічае элементарная культура кіравання. На мыйках для машын даўжэзныя чэргі, бо мыек замала. Масква хоча зарабіць усе грошы адразу, як той казачны Ямеля хацеў адным загадам цудадзейнага шчупака перайначыць свет на свой капыл, і гэта праўда. Толькі ўсё разам выглядае суцэльным глупствам, як для мяне. А для расейскамоўных чытачоў вельмі прывабны раманчык збацала ОКсана. А інакш, як растлумачыць статысячны попыт на CA$UAL.

P. S.

ОКсана, як разумею, жанчына не багатая, не буржуйка, бо новыя рускія буржуі ведаюць гадзіннікі IWC і не будуць пісаць « гадзіннік JVC», як піша літработніца Робскі.

**Казакоў і сны**

Стыліст і лірык у прозе — Юры Казакоў — напісаў колькі ўзорных апавяданняў, сярод якіх вылучаецца «У сне я горка плакаў». Перачытваючы зборнік Казакова, я захацеў прачытаць апавяданне «У сне я мала выпіў», але такога твора ў кнізе не было, хоць усё напісанае кансерваторскім кантрабасістам Казаковым можна назваць «У сне я мала выпіў», гэта ж так па-руску.

**Дастаеўскі і антынапалеон**

Антыгерой з кнігі Дастаеўскага «Злачынства і пакаранне» марыў стаць Напалеонам. Шызоіднае жаданне. Але ў Дастаеўскага, які пісаў раман (твор на раманскай мове) не было выйсця, або рабіць раманскага героя, або застацца ў русацяпскай правінцыі з бязногімі мурамцамі ды вечна п'янымі сусанінымі. Антынапалеон Раскольнікаў лепей за рэгіянальнага супермена, прынамсі, ён больш запатрабаваны на сусветным літаратурным рынку. Калі ў часы Дастаеўскага большасць літаратурных герояў былі Напалеонамі і антынапалеонамі, дык у 20 стагоддзі яны сталі Гітлерамі і антыгітлерамі. 21 стагоддзе вырадзіла новую пачвару — Бена Ладана. Яго «мочаць у сарцірах», за ім палююць у афганскіх гарах і на вуліцах Лондана… Хімерычная Гадзіла ў выглядзе Ладана вырвалася з віртуальнай цемры 21

стагоддзя і стала антыпрэзідэнтам ЗША. Вось такія казкі 1001 і адной ночы 21 стагоддзя нам і расказваюць сучасныя дастаеўскія.

**Ліпаўскі і целы**

«Чым больш неспецыялізаваная частка цела, чым меней падобная яна да працоўнага механізма, тым мацней адчуваецца яе ўласнае жыццё. Таму жаночае цела страшнейшае за мужчынскае; ногі страшнейшыя за рукі, асабліва гэта відаць на пальцах ног». Развагі мадэрніста Леаніда Ліпаўскага, на першы погляд, выглядаюць поўным абсурдам. Можа я пакінуў бы гэтыя назіранні без усялякіх заўваг, каб не адно здарэнне на чужым вяселлі. Пілася гарэлка. Гаварыліся тосты. Маладым жадалася ўсяго ўсялякага. Звычайныя рэчы. І тут я заўважыў: нявеста сядзіць босая. Новыя чаравічкі нацерлі ногі — яна і разулася. Дзесяць кароценькіх пальчыкаў глядзелі на мяне. Яны клікалі ў спакусу. Я пагладзіў голыя пальцы чужой нявесты. Пальчыкі ўзрадаваліся, а галава зрабіла выгляд, што нічога дзіўнага не здарылася. Нічога і не здарылася, бо жаночыя пальцы, сапраўды, жылі ўласным жыццём.

**Дзе сканчаецца Расея?**

Спярша была паказка. І паказка была пра абвестку на расейскай мяжы: «У сувязі з тым, што памежнікі маюць абмежаваную колькасць патронаў, папераджальны стрэл у паветра не будзе рабіцца!!!» Паказка была б весялейшая, каб расейцы ведалі пра межы свае. Але расейскія ўяўленні пра межы Расеі вельмі цьмяныя і заблытаныя. Можна сказаць проста: расейцы не ведаюць межаў сваіх. Са школы яны памятаюць пра княства Маскоўскае, з якога было прасечана акенца ў Еўропу, памятаюць войны з Напалеонам і Гітлерам, нават памятаюць Сталіна з СССР. Межы таго СССР ад Курылаў да Карпатаў расейцы крыху ўяўляюць, толькі гэткім каламутным уяўленнем іх веды пра межы Расеі і абмяжоўваюцца. Пасля спрадвечных расейскіх пытанняў «Што рабіць?» у 19 стагоддзі і «Што рабіць з трупам?» у 20 стагоддзі наспела новае рускае пытанне «Дзе сканчаецца Расея?». Усе ведаюць, як нечакана і знянацку выпадае ў Расеі снег, як неабгрунтавана і паскудна разліваюцца вясною расейскія рэчкі, так і межы Расеі немаведама дзе пачынаюцца і сканчаюцца. Расейцы шчыра дзівяцца, калі чуюць, што Абхазія — гэта не Расея, што Карэлія — мае межы, як Татарстан і Тыва. Расейцы паспрабавалі ўтвараць нейкія панавыдумляныя акругі, але навыдумлянае кепска накладаецца на рэальнае. Тады расейцы вырашылі правесці «мазгавы штурм» на тэму расейскай мяжы. Я тактоўна адмовіўся ад удзелу ў «штурме», бо, як зразумеў, яны не гатовыя атаясаміць межы сучаснай РФ з межамі Расеі. Гаварыць з імі пра гепатытычную еўрапейскую Масковію зусім не выпадае, пакуль яны хварэюць на хімерычнае

еўразійства, у якім мусульманства з праваслаўем мусяць зліцца ў нейкіх любоўных, не раўнуючы гомасэксуальных, абдымках. Такім чынам, атрымліваецца, што анекдатычны расейскі памежнік можа стрэліць без папярэджання ў любой кропцы зямной кулі. А жартоўны тост Уладзіміра Арлова «Вып'ем за Расею ў яе этнічных межах!», на жаль, мае горкі смак.

## Дастаеўскі і ворагі

Здавалася б, Дастаеўскі мог скласці доўгі спіс ворагаў сваёй Расеі, але ён напісаў у дзённіку такі сказ: «У Расеі няма больш ворагаў і не будзе, акрамя славянаў». Прароча сказаў, бо асноўныя прыніжэнні і здзекі ад Расеі цярпелі менавіта славянскія народы. Русіфікатарства і каланізацыя, што праводзіла Расея, найбольш жорстка і паслядоўна чыніліся на славянскіх землях, якія імперыя нахабна называла «спрадвечна рускімі», адпаведна і найбольшы супраціў Расея атрымлівала, атрымлівае і атрымае менавіта ад братоў-славянаў.

## Дастаеўскі і гнюснасць

Аўтар рамана «Д'яблы» («Бесы») так сказаў пра аўтара паэмы «Дэман»: «Лермантаў гнюсны».

P. S.

Тут і падумалася, а каго з нашых літаратараў можна назваць «гнюсным»? Перабіраў-перабіраў і не знайшоў, бо калі гнюсны — не пісьменнік, а як пісьменнік — не паскудны ці недастаткова паскудны, каб побач з ягоным прозвішчам напісаць толькі адно слова «гнюсны». Але я не пакідаю надзеі знайсці сярод беларускіх літаратараў гнюснага.

## Забалоцкі і кроў

Літаратар Сінельнікаў, пішучы пра маладосць паэта-абэрыута Мікалая Забалоцкага, згадвае такія словы: «Вы ніколі не снедалі крывёю? — нечакана спытаў ён. — А вось мне, уявіце сабе, даводзілася. Бацька вадзіў мяне на бойню. Калі рэзалі барана, падстаўляў шлянку і даваў мне выпіць яшчэ гарачай крыві. Ён лічыў гэта карысным для здароўя. І сапраўды, на здароўе я не скарджуся. А паэт павінен быць здаровы.» Удава Забалоцкага паспрабавала змікшыраваць крыважэрны ўспамін, яна сцвярджала, што Забалоцкі прыдумаў піццё баранавай крыві, каб вытлумачыць ярка-ружовы колер на ўласным твары. Замест затушоўвання ярка-крывавага ўспаміну атрымалася падкрэсліванне. Мне ж згадаўся падобны эпізод з жыцця ў мястэчку Койданава, дзе на першых снягах калолі кабаноў. Былі сярод койданаўцаў і такія, што пілі цёплую свіную кроў. Салілі і пілі. Мяне тое моцна хвалявала. Сляпуча-блакітны снег пад сонцам. Залатое цела абсмаленага і абмытага кабана. Кроў у конаўцы. Мужчынскі рот з перапэцканымі крывёю зубамі. Зубы ў крыві

ўражваюць. Авечак у Койданаве не трымалі, і таму я не бачыў, каб хто піў кроў з барана. Зрэшты, у піцці на сняданак барановай крыві, як і ў піцці малака кабылы, ёсць нешта расейска-азіяцкае і чужое для беларусаў.

**Блок і работа**

Каго ніколі не разумеў з расейскіх пэтаў, дык гэта Аляксандра Блока. Ні ягоная запозненая рэваюцыйнасць, ні альбомна-любоўная ружовасць, ні інтэлігенцкі патрыятызм мяне зусім не хвалявалі. Нават чужыя захапленні Блокам мяне дзівілі. Адно, што чытаў з цікавасцю, — гэта Блокаўскую злосную крытыку. Ад усёй паэтычнай спадчыны Івана Буніна Блок прапаноўваў пакінуць адзін верш «Хрыстос». Дзякуй яму і за гэта, бо Бунінаўскі «Хрыстос» варты завучвання і цытавання. Але тут я працытую Блока:

*Друг другу мы тайно враждебны,*
*Завистливы, глухи, чужды.*
*Но как же и жить и работать,*
*Не зная извечной вражды?*

Шчырае пытанне. Чыста расейскае пытанне. Пасля такіх слоў робіцца зразумелым, чаму расейцы вайну называюць «работой», а жыццё без вайны ім падаецца нікчэмным і нецікавым. Расейцаў цікавіла і цікавіць «спрадвечная варожасць» і бясконцая вайна за «спрадвечна расейскія» землі.

**Хармс і Эстэр**

Прыйсці ў расейскую літаратуру і не зачапіцца за Данііла Хармса проста немагчыма. Доўгае цела Хармса ляжыць адразу за дзвярыма, што вядуць рас.літ. Ты заходзіш і не бачыш Хармса (Холмса — Даню Ювачова), бачыш Пушкіна з Гогалем ды Талстога з Дастаеўскім, кіруешся да іх, а чапляешся за Хармса, чапляешся і падаеш, ляжыш і чытаеш. Чытаеш ну хоць бы такое: «На 30 верасня 1925 г. (…) Божа, я хацеў сягоння minet, а тут смерць любові. Божа, будзь з намі, не забывайся пра нас, мая мілая дзяўчынка Эстэр прапала для мяне, цяпер я гэта ведаю. (…) Божа, твая воля. Не, я хачу або minet сягоння, або ўсё скончана з Эстэр».

**Антыквар на «Рачным вакзале»**

Каля маскоўскай станцыі метро «Рачны вакзал» пабачыў я вулічнага антыквара. Ён пакурваў, тупаючы пад дробным снегам. На грудзях у яго красавалася шыльда з надпісам «Антыквар. Набываю: ордэны, медалі, абразы, гадзіннікі, каронкі, крыжы». Ад выгляду набывальшчыка зубных каронак стала гідка. Толькі маскоўскі збіральнік і набывальнік старызны можа залічыць зубныя каронкі ў антыкварыят. І не столькі мяне абурае крымінальная сутнасць пазазаконнага набыцця і продажы каштоўных металаў,

колькі сама прысутнасць на бруднай вуліцы падаставаных з рота каронак.

### Рускасць

У кожным беларусе сядзіць рус, у беларускасці ёсць і рускасць, і гэта не найлепшае, што маюць беларусы і Беларусь. Трэба выціскаць гэтую рускасць, замяняць яе еўрапейскасцю, цывілізаванасцю і выхаванасцю.

### Мара, ідэя і дзіва

Пакуль на інфармацыйных палях ідзе халодная бойка паміж амерыканскімі марамі і рускімі ідэямі, Еўропа набывае сабе прыхільнікаў. Прынамсі, так адбываецца ў Беларусі. Еўра, еўрарамонт, еўрастандарт, еўрапейцы, еўразвяз — словы, што ўсё часцей чуе беларускае вуха. Амерыка так і застаецца з мараю, а Расея з ідэямі, Еўропа набывае рэальную значнасць. Амерыканскія і расейскія прапагандысты ў Беларусі займаюцца выключна крытыкай беларускіх рэаліяў, бо ўпэўнены ў прывабнасці сваіх ідэй і мараў, яны не заўважылі, як пабляклі іх мары і састарэлі ідэі. Яны губляюць сваіх гледачоў, слухачоў, чытачоў і прыхільнікаў. Будаўнікі беларускай дзяржаўнасці ўсё больш і больш захапляюцца еўрапейскасцю і мадэлямі, што прапаноўвае для жыцця Еўразвяз. Кітайскае дзіва, зноў жа, спрыяе еўрапеізацыі Беларусі, з-за сваёй падкрэсленай азіяцэнтрычнасці.

### Бязвухі ў метро

Спускаюся на эскалатары ў глыбокім маскоўскім метро. На суседняй дарожцы спускаецца чалавек без вуха. Ад вуха ў мужчыны засталася адна мочка. Нават вушная адтуліна зарасла ружова-жоўтай скуркаю. Гледзячы на бязвухага, я адчуў усю патрэбнасць уласных вушэй, з іх казялкамі і супрацьказялкамі. Бязвухі заўважыў мой цікаўны позірк, давялося адвярнуцца.

### Руская назва

Учытваюся ў назву Льва Талстога «Вайна і мір» і разумею, што можна прыдумаць і зрабіць вайну, а прыдумаць мір нельга.

### Шаламаў і паэзія

У адным з лістоў Варлам Шаламаў выказаў жудаснае меркаванне пра паэзію: «Калі Вы хочаце займацца вершамі сур'ёзна, штодзённа (усё роўна, у якасці аматара або прафесіянала, паўпрафесіянала, «хабіста» ці даследчыка), Вам трэба добра ведаць, адчуць напоўніцу, а не толькі прадумаць, што вершы — гэта падарунак Д'ябла, а не Бога, што той, Іншы, пра якога піша Блок у сваіх нататках пра «Дванаццаць», ён і ёсць наш гаспадар. Зусім не Хрыстос, зусім. Вы будзеце знаходзіцца у надзейных руках Антыхрыста. Антыхрыст жа і дыктаваў Біблію, і Каран, і Новы запавет. Антыхрыст жа і абяцаў

падарункі на небе, творчае задавальненне на Зямлі…» Ад такіх сцвярджэнняў на спіне шэрхне скура і мярцвеюць вусны. Гаварыць, спрачацца з Шаламавым не хочацца. Варлам Шаламаў — літаратар, які прайшоў пекла, самае сапраўднае пекла рускіх турмаў і савецкіх канцэнтрацыйных лагераў. Можаш паверыць: Шаламаў бачыў дзеянні д'ябла і ягоных памагатых на свае вочы. Пасля словаў Шаламава застаецца адно суцяшэнне — прызнаць Прыроду большай за Бога і д'ябла і лічыць паэзію праяваю непадзельнай Прыроды. І яшчэ… Апантаных паэтаў не варта называць узорнымі. А радкі, накшталт верша Забалоцкага « Я не шукаў гармоніі ў прыродзе», не прымаць блізка да сэрца.

**Лазар і эратызм**

Назаві любімую кнігу? Безліч разоў чую такое пытанне. І сам у сябе шмат разоў перапытваю пра любімую кніжку. Вось прыдумаўся і такі адказ… Мая любімая кніга «Стары Хатабыч» Лазара Лагіна. Чаму? Арабскі джын Хатабыч, каб здзейсніць дзіва, вырывае з барады волас, загадвае жаданне і кажа чароўныя словы: «Трах, цібідох-цібідох! Вух, цібідох-цібідох!» Вельмі эратычна атрымліваецца гэтае «трах, цібідох-цібідох».

**Ясенін і Сыс**

Пра гнюсныя паводзіны Ясеніна панапісвана шмат. І кожнага разу ўсё адно здзіўляешся, калі сучаснікі рускага паэтычнага генія апісваюць ягоныя непамысныя выхадкі. Юры Алеша, чый род паходзіць з каталіцкіх земляў Беларусі, так апісаў сустрэчу з Ясеніным: «Я жыў у адной кватэры з Ільфам. Раптам позна ўвечары прыходзіць Катаеў і яшчэ некалькі чалавек, сярод якіх і Ясенін. Ён быў у смокінгу, лакіраваных чаравіках, але пашматаны, — відаць, пасля бойкі з кімсьці. З ім быў нейкі малады чалавек, над якім ён здзекаваўся, нават здымаў лакіраваны чаравік, біў гэтага чалавека па твары.

— Ты мне гідкі з тваім каталіцызмам! — увесь час паўтараў ён. — Гідкі з тваім каталіцызмам.

Цяжка сабе ўявіць, што адчуваў католік і паляк Алеша, які жыў адзін у краіне, выклятай ягонымі роднымі бацькамі. Як цяжка яму было ў сваім дзённіку праз некалькі сказаў напісаць: «што Ясеніна ўсе любяць».

У беларускай сучаснасці падобнымі гнюснасцямі праславіўся Сыс. Беларускі паэтычны геній таксама хадзіў па чужых кватэрах з нейкімі хлопчыкамі, якім прапаноўваў есці сала, дастанае са свайго рота, прымушаў цалаваць красоўкі і слухаць бясконцыя паўторы прыказкі ўласнай вытворчасці: «Я хуею з гэтых рускіх!»

І дзіва дзіўнае — Сыса ўсе любілі, і ён пра тое ведаў і не прамінаў нагадаць: «Усё адно, вы мяне любіце!»

### Рускі твар

На рускай галаве ўласна твар займае зусім маленькую частку. Галава ёсць, а твара амаль няма. Нават няёмка робіцца за такую рускую галаву.

### Рускія нажы

У Маскве заўсёды, між іншым, шукаю нешта незвычайнае. Вось і сягоння, стоячы ў дарожным кораку на Ленінградскай шашы, пабачыў шыльду «Нажы-падарункі». Кожны беларус ведае, што нажы дарыць нельга, а ў сучаснага расейца нож — лепшы падарунак…. Напэўна. Запіс гэты я зрабіў ужо ў самалёце, калі камандзір карабля сказаў, што вылет затрымаецца з-за «скопления самолетов на вылет». Ё маё! У іх цяпер коракі па ўсёй Маскве, нават на ўзлётнай паласе.

### Чэхаў і свінства

«Рускі чалавек — вялікая свіння». Ёсць у Антона Чэхава такі сказ. Думаю, што вызначэнне «вялікая» можна прыбраць, але пакіну права выбіраць азначэнні для свайго народа за русім доктарам. Далей Чэхаў тлумачыць пра тое свінства: «Калі спытаць, чаму ён не есць мяса і рыбу, дык ён пачне апраўдвацца адсутнасцю прывозу, шляхоў зносін і д.п., а гарэлка паміж іншым ёсць у самых глухіх вёсках у колькасці, якой заўгодна». Чэхаў напісаў пра рускае свінства, калі праязджаў Байкал, едучы на Сахалін. За сто гадоў мала што змянілася, а цяпер яшчэ і гарэлка зрабілася «палёнай» і вызначэнне «вялікая» непатрэбным.

### Грышкавец і «нібыта»

На расейскім тэатральным небасхіле загарэлася чарговая зорка — Грышкавец. Ён распавядае лірыка-камічныя гісторыі пра сябе маленькага, пра чалавечка ў гарадку N.Гарадок той можна абазваць Грышкасранскам. Чаму? Тож бо сам Грышкавец ходзіць, нібыта ў порткі наклаўшы. Ён і стаіць, і сядзіць, і аблізваецца нібыта ўсраўшыся. Кажу «нібыта», бо прагледаў спектаклі Грышкаўца на DVD. У тэатр глядзець на чарговую зорку не пайду, а раптам ён ходзіць па сцэне, абрабіўшыся па-сапраўднаму.

P. S.

Грышкавец і сам кажа, што ягоны пах людзям не падабаецца, і даводзіцца парфумам абліваца. Толькі за адэкалонам гной не схаваеш.

### Аляксей Талстой і нядзеля

Граф Талстой, якога злыязыкі Бунін называў Алёшка, так напісаў пра нядзелю ў сваім рамане «Гіпербалоід інжынера Гарына»: «Людзі маленькія — прадаўцы з прадавачкамі, чыноўнікі ды служачыя —

забаўляліся хто як мог у гэты дзень. Людзі вялікія, дзелавыя, салідныя сядзелі ў дамах каля камінаў. Нядзеля была днём чэрні, аддадзеным ёй на шкамутанне і раздзіранне». Дзівіць не тое, што граф так напісаў, а тое, што ён гэта друкаваў, выдаваў і перавыдаваў мільённымі накладамі ў СССР. І ніхто савецкага графа за гэта не крытыкаваў. Чаму? А таму, што чырвоныя паны ставіліся да савецкага народа так, як і рускі граф Талстой, грэбліва. І яны аддавалі народу нядзелю на раздзіранне і шкамутанне.

## ТРЭЦІ ПАКОЙ
### Мікалай Гогаль

Ёсць пісьменнік, пра якога даведваешся задоўга да таго, як навучышся чытаць. Гогаль — ягонае прозвішча. Гогаль прыходзіць да цябе разам з гогалем-могалем, гэтай найцудоўнейшай і найсаладзейшай стравою. Баба разбівае яйка, вылівае яго ў кубак, засыпае цукрам і, перамешваючы, узбівае. Ты ясі лыжкаю пяшчотна-бела-залатую слодыч жыцця. Ты пачынаеш любіць смак гогаля-могаля, і, частуючыся дэсертам, ты, між іншым, даведваешся пра літаратара Гогаля. Баба кажа: «Ёсць пісьменнік, які любіў, як і ты, есці гогаль-могаль. Ён так любіў могаль-гогаль, што яго самога пачалі называць Гогаль. Калі падрасцеш, абавязкова прачытаеш казкі Гогаля-могаля!» Падрастаеш і чытаеш, а часам нават згадваеш смак гогаля-могаля, раскаштаванага ў далёкім, назаўсёды страчаным, казачным дзяцінстве.

* * *

Гогаль заўважыў, што расейцы — дзіўны народзец, бо не хочуць паміраць сваёй смерцю. У рускіх ніколі не было павагі да сваёй смерці, таму і да жыцця ў іх няма нармальнага стаўлення. Пан або прапаў! Парвуся, а зраблю! І ўсё на тое падобнае ў крыкліва-трапятлівых паводзінах. Рускія тэленавіны складаюцца з прападанняў і парыванняў, абвальванняў і падзенняў, крыкаў і трапятанняў. «На миру и смерть красна!» А смерць, калі навідавоку — чужая, не свая, брыдкая. Гэта беларусу-еўрапейцу яна непрымальная, а расеец-азіят толькі марыць пра прылюдную смерць.

* * *

Калі нехта, кшталту Борхеса, кажа, што рускае мастацтва другаснае, бо не мае шэдэўраў жывапісу, мне згадваецца аповесць Гогаля «Партрэт», мне ўяўляюцца жывыя вочы д’ябла, намаляваныя на палатне, але я ўсё адно не абараняю расейскае мастацтва і не аспрэчваю тэзіс пра ягоную заўсёдную другаснасць.

* * *

Знакамітае гогалеўскае: «Не кожная пташка даляціць да сярэдзіны Дняпра…» Птушка, здатная пералятаць праз акіяны, не можа пераляцець і паловы беларуска-ўкраінскай рэчкі? Прынамсі, так нас пераконвае Мікалай Гогаль. Застаецца набраць нам поўныя грудзі славянскага паветра і выгукнуць у адказ пісьменніку з птушыным прозвішчам: «Не кожны Хрыстос дойдзе да сярэдзіны Дняпра!»

* * *

Міф пра веліч Расеі існуе дзякуючы Гогалю. У паэме «Мёртвыя душы» ёсць чыста расейскае філасафаванне пра слана: калі б слон нарадзіўся з яйка, якая была б шкарлупіна, з гарматы не прабіў бы! Служка д'ябла — Вій — гэтаксама ўражвае памерамі, павекі ягоныя падымаюць некалькі чартоў. Была ў Гогаля мара: сабраць на адной вуліцы ўсе шэдэўры сусветнай архітэктуры, ад егіпецкіх пірамідаў да кёльнскага сабора. Была б вуліца, я табе скажу, Нерон з Гітлерам ад зайздрасці паздыхалі б. Ну і апагеем нечалавечых маштабаў з'яўляецца апісанне Дняпра, дзе Мікалай Васільевіч кажа, што не кожная птушка даляціць да сярэдзіны рэчкі. Вядома, курыца не даляціць, і страус таксама. Наогул, птушкі пералятаюць не толькі рэчкі з азёрамі, а моры з акіянамі. Але тут важная не якасць птушкі, а памеры Дняпра, яго веліч. Так малююць веліч усёй Расеі, як тады, так і цяпер.

* * *

У Карлавых Варах я пасяліўся ў досыць прыстойным санаторыі. Пастаяльцы — людзі збольшага выхаваныя і ветлівыя. Гаспадары, чэхі, сустрэлі мяне гасцінна. Усё цякло прыстойна, як у рамане Германа Гесэ «Курортнік». І раптам я заўважыў жанчыну з тварам гогалеўскага Сабакевіча. Давялося тры разы плюнуць цераз левае плячо, каб навалач знікла. Не знікла. У рэстарацыі я спаткаў мужчыну з абліччам Каробачкі, які па-расейску размаўляў з казахамі. Раскормленыя да амерыканскіх памераў казахі гаварылі на такім расейскім дыялекце, што нават Мікалай Васільевіч не аднавіў бы на паперы. Яны абгрызалі словы пад самы корань. Паступова ў кожным расейцу, казаху і немцу я пачаў шукаць рысы гогалеўскіх вобразаў і з лёгкасцю знаходзіў. Прычына неверагоднай лёгкасці знайшлася таксама: у доме, дзе я пасяліўся, жыў у 1845 годзе сам Гогаль.

* * *

Начытаўшыся гогалеўскай чартаўшчыны пра мастака Чарткова, падумалася, што ён — Гогаль-Янаў-Чарткоў — мусіў маляваць не вялых і перасычаных баляваннямі дамачак, а жывапісаць анёлаў у самым непатрэбным выглядзе… Анёл сядзіць на ўнітазе. Анёл сцыць і сера пад елкаю. Анёл ябецца з жанчынаю. Анёла ябе мужчына. Анёл

жыўцом з’ядае сямімесячнае дзіця. Анёл падпальвае драўлянае ўкрыжаванне Ісуса Хрыста. Анёл адсякае мячом галаву цяжарнай Дзеве Марыі. Анёл падмяняе чорта, як д’ябал імкнецца падмяніць Бога…

* * *

«Я сказаў, што дзве рэчы выклікалі ў нашых паэтаў гэты лірызм, блізкім да біблейскага. Першы з іх — Расея. (…) Але пяройдзем да другой рэчы, у якой гэтаксама чуецца ў нашых паэтаў той высокі лірызм, пра які і ідзе гутарка, тож бо — любоў да цара», — пісаў Мікалай Гогаль у «Выбраных месцах з перапіскі з сябрамі» (1847). Расея і любоў да цара — грунт расейскай паэзіі. Не пагадзіцца з Гогалем? Абсурд. Але дзве гэтыя рэчы, найважнейшыя для паэтаў расейскіх, у паэтаў беларускіх выклікалі нянавісць. Павесіць цара заклікала Цётка. Антырасейскія вершы пісалі ўсе вядомыя беларускія паэты ад Купалы і да Сыса. Калі ж беларускіх паэтаў змушалі ўхваляць расейскіх уладароў і саму Расею, атрымлівалася кепскапрыхаванае фальшаванне. Сапраўднымі каштоўнасцямі для беларускіх паэтаў з’яўляюцца: Беларусь, мова і беларус. Зразумела, што тут ішла размова пра грамадзянскую лірыку, пра геапаэтыку, а не пра паэзію чыстае красы.

* * *

Страшна, калі мёртвае прымаеш за жывое. Жах ахоплівае тваю душу перад тварам іншага жыцця, перад існаваннем пасля смерці. Ты баішся прачнуцца ў цёмнай труне, закапанай у глыбокую магілу. Прахапіцца ў вузкай труне пасля ўласнага пахавання… Што можа быць больш жахлівым? Таму біяграфія літаратара Гогаля, гэтага майстра жахлівых прыпавесцяў, не была б завершанай і міфалагізаванай, каб ён не прачнуўся ў труне. Ці прачынаўся Гогаль у труне насамрэч? Ці раскопвалі ягоную магілу? Ці знаходзілі ягонае цела з тварам, перавернутым да зямлі, а не да неба? Ці шылі з ягоных апошніх, выцягнутых з труны і перапэцканых гніллю, апранах вокладкі для кніжкі «Мёртвыя душы»? Ніхто дакладна не ведае і не скажа. Але ж большасць аматараў творчасці геніяльнага хахла вераць у жахлівыя міфалагемы і трупныя рэліквіі. Яны вераць у кароткае жудаснае ўваскрашэнне Гогаля ў труне. Яны згодны прымаць мёртвае за жывое і памнажаць жах.

* * *

Зацяты антысеміт і расейскі брутальны нацыяналіст Розанаў на самым пачатку 1914 года запісаў пра Гогаля вось такое: «З’яўленне Гогаля было большым няшчасцем для Русі, чымсьці ўсё мангольскае іга. Багамолец, ён спустошыў рускую царкву; «патрыёт», ён пагнаў рускіх салдатаў.

І так мала выходзіў з дому. «Усё зябнуў» (успаміны Аксакава). Напраўду, гэта «піемія» — заражэнне крыві трупнай атрутаю. У Гогалю было нешта-нейкае ад трупа. «Усё мне халодна». (…)

Гогаль адвінціў нейкі вінт усярэдзіне рускага карабля, пасля чаго карабель стаў увесь развальвацца. Ён «адкрыў кінгстоны», пасля чаго пачалося незваротнае, павольнае, год за годам патапленне Расеі. Пасля Гогаля Крымская вайна ўжо не магла быць выйгранай. Другая Турэцкая (77г.) была ў сутнасці ганебная. У Манджурыі мы толькі адступалі…» Дык вось аказваецца хто вінаваты ва ўсіх бядотах і гаротах Расеі! Гогаль вінаваты! Гогаль вінт адкруціў. Каб не Гогаль, дык Расейскі карабель плыў бы і плыў, і рабаваў народы, і захопліваў бы зямлю за зямлёю. А гад Гогаль, маленькі мярзляк, не даў раздзьмуцца расейскаму караблю да глабальных памераў. Правільна заўважыў Розанаў. Хітры быў мужычок, гэты Вась Васькавіч. Толькі ён заўважыў ваду ў караблі, а не дзірку. Ён пачаў верашчаць: «Вада! Вада! Тонем!!!» А дзе той вінт, і што за вінт Васіль Васільевіч не здагадаўся, ён можа б і здагадаўся, каб уявіў памер гогалеўскага вінта. Розанаў уявіў сабе вінт звычайнага памеру, а ў Гогаля вінт быў зроблены Віям і памер ягоны — уся ўкраіна разам з Крымам. Пра Крым, буду справядлівым, Розанаў якраз згадаў, але пра Украіну не падумаў. І руская царква… Зрэшты, якая яна руская, калі яна грэцкая насамрэч.
І царква праваслаўная здрыганулася і пахіснулася, бо Гогаль Вія прывёў у яе. І аддзяліў Вій Украіну ад Расеі на ўсе часы.

* * *

Гогаль мерз, халодна яму было, золка, няўтульна ў варожым свеце… «Усё зябнуў…» — паўтарае пра Гогаля Розанаў за Аксакавым, што быў сведкам таго холаду, што дзьмуў на Гогаля з чатырох бакоў. А мерз Гогаль, я перакананы ў тым, з-за страты жыццёвай энергіі, што праз вострую дзюбку пяра вылівалася на паперу. Энергія выцякала з Гогаля ўся, да кроплі, да рэшты, да поўнай спустошанасці. І біла паэта ледзяная дрыготка… Хто здатны аддаваць свае сілы, хто можа працаваць і выпрацоўвацца да канца, зразумее мяне, дакладна. Усе свае сілы Гогаль аддаў «Мёртвым душам». А калі аддаў, спахапіўся, захацеў вярнуць, хоць крышачку аддадзенага паперы, рукапісу, паэме… Сагрэцца хацеў у свеце галодных і халодных монстраў… Вось і такая ў мяне ёсць версія пра спальванне другой часткі паэмы «Мёртвыя душы».

* * *

Апошняе слова, прамоўленае Мікалаем Гогалем перад смерцю ў 1852 годзе, — лесвіца. А ілюстратар гогалеўскіх «Мёртвых душаў» Марк Шагал аддаў Богу душу 28 сакавіка 1985 года ў ліфце, што

ўздымаўся на другі паверх. Лесвіцы мяняюцца на ліфты, але сутнасць руху застаецца нязменнай.

## ЧАЦВЁРТЫ ПАКОЙ
### Вера Маркава

«Вялікая руская перакладчыца» — так было напісана пра Веру Маркаву ў анатацыі да кнігі Сэй-Сёнагон «Нататкі каля ўзгалоўя». Нязвыклае словазлучэнне запомнілася. Тым больш што, чытаючы Басё, Іса, Бусона, Такубоку і Сэй Сёнагон у перакладах Маркавай, я ўяўляў не Японію, а Беларусь. А сказаўшы пра гэта Веры Мікалаеўне, якая нарадзілася ў Мінску, пачуў наступнае: «Самае дарагое, што ў мяне засталося з дзяцінства, гэта ўспамін пра вербы над Свіслаччу». Чытаю і перачытваю:

***На смерть маленького сына***

*О мой ловец стрекоз!*
*Куда в неведомой стране*
*Ты ныне забежал?*

Чыста беларускі верш.

* * *

Перачытваючы зборнік лірыкі Веры Маркавай «Воблака», спыняюся на такім радку: «Дух мой — быў не са мною». Які блізкі мне вобраз! Душа пакідае паланёнае цела, душа адплывае, аддаляецца, ляціць да воблака, каб зліцца з ім, расплысціся ў сонечна-белым ззянні. Пакінутае цела знябожана чакае, просіць вярнуцца вольную душу. Яна вяртаецца. Рука выводзіць на катаржна-клятчастым аркушы словы: «Дух мой — быў не са мною».

* * *

У перакладзе Веры Маркавай чытаю Іхара Сайкаку. У кнізе «Гісторыя прыгодаў самотнай жанчыны», у навеле «Таемная схованка старой жанчыны» ёсць і такі вобраз: дзяўчына атрымлівае безліч любоўных лістоў, іх столькі, што няма дзе схаваць. Дзяўчына просіць маўклівых стражнікаў кінуць іх у агонь. «Але імёны багоў, напісаныя каб зацвердзіць любоўныя клятвы, не знікаюць у полымі». Дзяўчына раскідвае абгарэлыя шматкі паперы з імёнамі багоў у садзе, каля храма.

Безумоўна — рукапісы гараць, як гараць у варварскім полымі і храмы. Прырода не ведае літасці. Але надзея застаецца, яна падмацоўваецца вераю. Вера перапісваецца ў вобраз: абгарэлыя шматкі паперы з імёнамі багоў у садзе, каля храма.

Творчасць Веры Маркавай — раскіданыя ў садзе, каля сабора, папяровыя пялёсткі з імёнамі багоў.

* * *

Шмат разоў задумваюся над сваім пастаянным захапленнем японскай лірыкаю, над бясконцымі перачытваннямі тэкстаў, перакладзеных з чужой і далёкай мне мовы. Літаратура ў Японіі квітнее ў палацах уладароў, але яна не культывуе вайсковае жыццё; наадварот, вайсковыя подзвігі малююцца ў ёй праявамі суцэльнай маркоты і безнадзейнасці. Такі вобраз стварае і Басё:

*На полі старадаўняй бітвы*
*Летняя трава*
*Там, дзе зніклі героі,*
*Нібыта мроя.*

А так хоку гучыць у перакладзе Веры Маркавай:

*На старом поле битвы*
*Летние травы*
*Там, где исчезли герои,*
*Как сновиденье.*

Прыблізна так яго можна запісаць кірыліцаю па-японску:

*нацу гуса я*
*цувамоно домо но*
*юмэ но ато*

У даслоўным перакaзе на рускую мову Мойчы Ямагучы прапаноўвае наступнае:

Травы лета! Вы следы снов воинов. (Другими словами: Воины спят. Они видят сон. От этих снов рождается трава.)

Версію Ямагучы я прыводжу, каб падкрэсліць розніцу ў магчымых перакладах.

Антымілітарызм класічнай японскай літаратуры прываблівае мяне. У жыцці больш чым дастаткова смерці, каб множыць яе ў літаратурных формах, апяваючы вайсковыя вычварэнствы. Гeрояў чакае трава забыцця, няма выняткаў, толькі вайскоўцы раней за астатніх знікнуць у зялёных хвалях.

* * *

Калі Вера Мікалаеўна разважае пра лёс Расіі і рускага народа, яна гаворыць пра Масковію, пра дзяржаву рускіх людзей. Раней ці пазней рускія мусяць вярнуцца на сваю Радзіму, што ляжыць залатым пярсцёнкам вакол Масквы, яны мусяць пабудаваць нармальную дзяржаву і жыць у згодзе з іншым светам. Так кажа Маркава. Для рускіх нармальнае жыццё выглядае больш утапічным, чым ненармальнае з месіянствам і сусветнымі войнамі. Але мяне цешыць тое, што і ў Маскве знаходзяцца людзі, здатныя прагаворваць ідэю стварэння Масковіі — цывілізаванай рускай дзяржавы.

* * *

У свае школьныя гады я любіў ездзіць у правінцыйныя кнігарні. Іду на вакзал, сядаю ў электрычку, еду ў якое Заслаўе, дзе непадалёк ад старажытнага храма стаіць урослы ў зямлю дамок. У ім і месціцца маленькая цемнаватая кнігарня. Featfdo Featformatype Рознафарматныя тамы тоўпяцца на паліцах абы-як, без ладу і складу. Я знаходжу вельмі рэдкія выданні, а запамінаецца пакупка першай татавай кнігі «Свой чалавек», каштуе яна 4 капейкі, купляю ажно пяць кніжак, усе, што ёсць. Вельмі рамантычныя мае падарожжы ў правінцыю па кнігі. Падобны настрой апісаны Такубоку:

*Не ведаю ча-*
*му, я так заўсёды ма-*
*рыў — на цягніку*
*паехаць. Вось з цягніка сы-*
*шоў, няма куды пайсці.*

Маркава перакладае верш так:

*Не знаю отчего,*
*Я так мечтал*
*На поездзе поехать.*
*Вот — с поезда сошёл,*
*И некуда идти.*

Пэўна Ісікава Такубоку ідзе таксама ў кнігарню. Прынамсі, мне так бачыцца, бо апошні радок прачытваецца хутчэй як «няма да каго пайсці».

Значна пазней у кніжцы, набытай у зусім іншай кнігарні, чытаю, што дзяцінства Веры Маркавай праходзіць пад грукат колаў, што вагон яе таты — інжынера-чыгуначніка — чапляюць да розных саставаў, потым яго адчэпліваюць на выбраным для працы месцы, і ён робіцца для ўсёй сям’і Маркавых домам.

Яшчэ пазней Вера Мікалаеўна распавядае мне, як у 1913 годзе мінскае «общество» ездзіць на татавым цягніку ў Заслаўе назіраць сонечнае зацьменне. Перад самым зацьменнем робіцца фотаздымак. Яго з лаканічным подпісам: «В. М.Маркава на крэсле» і дорыць мне Вера Мікалаеўна.

* * *

Дома Веру Маркаву называюць Дабруша.

«Дабруша ведае ўсе мовы свету». — «Дабрушанька — сусветная энцыклапедыя». — «Трэба ў Дабрушы спытаць. Быць таго не можа, каб яна ды не ведала…»

Дабруша і сапраўды чуе нейкую агульную пра-мову. Яна нібыта стаіць на вяршыні Вавілонскай вежы, калі Бог зблытвае мовы, калі людзі перастаюць разумець адзін аднаго, а яна яшчэ разумее ўсіх, разумее і спрабуе дапамагчы паразумецца іншым.

Рэдкі дар Дабрушы здзіўляе.

* * *

Няма такой размовы з Верай Мікалаеўнай, каб яна не згадала пра свайго любага мужа: «Муж чытаў Гётэ ў арыгінале, а я так і не палюбіла Гётэ. Муж лічыў Гётэ за найвялікшага з паэтаў. Томік вершаў Гётэ заўсёды быў пры ім. Апошнія гады свайго жыцця муж чытаў толькі адну кнігу — лірыку Гётэ па-нямецку. Я вельмі любіла мужа, але так і не зразумела такой адданасці паэтычнаму таленту Гётэ.»

Аднаго разу гутарка заходзіць пра Сталіна, пра мастакоў, якіе навыперадкі малююць правадыроў. Муж Веры Мікалаеўны быў выдатным малявальшчыкам і жывапісцам…

«Муж ні разу не намаляваў «яго». Было цяжка, вельмі цяжка, даводзілася пісаць роспісы ў калгасах, бо малюнкі і карціны ніхто не купляў. Але як цяжка нам ні было, а муж ні разу не пагадзіўся маляваць “яго”».

Вера Маркава так і не вымаўляе слова «сталін»; пэўна, яно для яе кепскапрамаўляльнае.

* * *

У мяне захоўваюцца пяць віншавальных паштовак ад Веры Маркавай. Часам я іх дастаю з капэртаў і перачытваю…

«Дарагая Алена, зараз да мяне зойдзе Ваш брат, з нецярплівасцю чакаю фотаздымкі! Нарэшце знайшла паштоўкі з дакладнай адрэсаю ў Мінску: Магазінная вуліца, дом Паржэцкай. Ён стаяў у глыбіні двара, праваруч, калі тварам да Свіслачы, (і, вядома, загінуў?). Абдымаю Вас і цалую. В.Маркава».

Вера Мікалаеўна памыляецца наконт сваяцтва. Да яе заходзіць мой брат Міраслаў, каб перадаць Аленіны фотаздымкі і «Слоўнік беларускай мовы» І. І. Насовіча.

Магазінная вуліца цяпер пераназваная ў Кірава. Дом, дзе нарадзілася і жыла Вера Маркава з 1907 па 1914 год, стаяў на месцы, дзе цяпер стаіць школа, што насупраць дзяржаўнай бібліятэкі імя Францішка Скарыны.

Некалі, чамусьці я ў гэтым пераканаы, вуліцу Магазінную-Кірава пераназавуць у вуліцу паэткі Веры Маркавай.

«12.XII.91 г. Дарагая Аленачка! Пасылаю кітайскі веер «Сад хрызантэмаў» на шчасце. Пяшчотнае прывітанне Ядзеньцы. Панове! Вам абодвум найлепшыя пажаданні здароўя, поспехаў, доблесці і радасці! Я вельмі кранутая Вашым заўсёдным апекаваннем мяне і радуюся, што кніга выйдзе ў Мінску. Я ўжо казала, што «Правда» атрымала ад мяне сухую адмову… Няхай жыве Новая Сталіца! З любоўю да Вас В.Маркава».

Кітайскі веер «Сад хрызантэмаў» усяго толькі фотаздымак на паштоўцы.

Кніга, пра якую піша Маркава называецца «10 вечароў», зборнік японскіх народных казак укладзеных і пераказаных Верай Мікалаеўнай. Нажаль, я ўсё яшчэ не первыдаў «10 вечароў».

«Віншую з Вялікім святам Калядаў! Гасподзь хай ахоўвае ўсю вашую сям'ю, бацькоў, дзяцей і ўсіх блізкіх і любімых! 12 снеж. 1991 г. В.Маркава».

«Дарагім Алене, Уладзіміру, мілым дзецям і нават усяму любімаму Мінску жадаю міру, спакою і чалавечай ласкі! Мае вам найлепшыя пажаданні і блаславенні на парозе вашага новага жыцця. Вера Маркава. 7 студзеня 1992 г.».

Мы шмат гаворым з Маркавай пра маладую дзяржаўнасць Беларусі. Пра крохкі парастак беларускай незалежнасці, заціснуты паміж молатам і кавадлам, паміж Усходам і Захадам.

«Дарагую Ядзеньку віншую з Нараджэннем Хрыстовым! Шчасця, здароўя, любові, веры і радасці! Вера Маркава. Масква, 7-га студзеня 1992 г.».

З усёй нашай сям'і найбольшая колькасць увагі і пяшчоты ад Веры Маркавай дастаецца Ядзі. Чамусьці Маркава бачыць у маёй дачцэ перакладчыцу, так яно і здараецца.

# КРУТАГОРСКІЯ КАЗКІ

*Неверагодныя гісторыі са сталічнага і мястэчковага жыцця.*

## Казка пра Чліпеня і Зліпеня

Аўторак. Ты выходзіш на вуліцу, каб ісці на працу, і раптам бачыш натоўпы і сцягі. Тутака ты і даведваешся, што ёсць такі Зліпень. Аказваецца, яго ўсе любяць і шануюць. Куды не кінеш вокам — паўсюль плакаты пра Зліпеня. А калі ў цябе кепска са зрокам, тады табе праз гучнагаварыльнікі распавядуць пра Зліпеня. Ты зразумееш, што нічога не зразумеў. Але ты паверыш, што ў Зліпеня можна верыць, бо тысячы і тысячы людзей будуць ісці са сцягамі і шарыкамі. І ксяндзы ў пурпуровых шапачках будуць ісці, і амерыканскі амбасадар будзе ехаць у чорнай машыне, і генералы будуць пазвоньваць залатымі ордэнамі, і дзеці будуць памахваць кветкамі, і прэзідэнт будзе ўсміхацца тым дзецям. І ты захочаш быць разам з усімі, і нават паспрабуеш сказаць добрыя словы пра Зліпеня. Толькі язык твой — вораг твой. Замест «злі-пень» ён скажа «злы-пень». І ты прыкусіш язык свой, і ціха пойдзеш на працу. Там ты сядзеш на канапу і прыдумаеш сабе свята Чліпеня, ты прызначыш сабе індывідуальнае свята. І ты падрыхтуешся, і адсвяткуеш яго ў сераду.

## Казка пра Чарнату і Бібліятэку

«Гульні з вечнасцю скончыліся...» — так падумала сама сабе Бібліятэка. Яна састарэла. Пыл накрыў яе кнігі. Папера зжоўкла. Бібліятэкары пасыходзілі на пенсію. Памяшканне зачынілася. Бібліятэка засталася ў самоце. Яна спрабавала нешта-нейкае чакаць, але нічога не праглядалася ні ў блізкай, ні ў аддаленай перспектыве. У будучыні бачылася адна Чарната. Раней Бібліятэка любіла Чарнату, калі тая цішком прыходзіла ўначы. Цяпер, калі Чарнаты стала шмат, Бібліятэка ставілася да яе з насцярогаю і недаверам. Толькі, акрамя Чарнаты, у Бібліятэкі нікога не засталося. Таму і размовы даводзілася весці з Чарнатою, каб хоць словы не пазабывацца. «Спіш?» — спытала Чарната. «А што рабіць?» — «Несці святло. Ты мусіш несці асвету! Наканаванасць твая такая...» — «Як і каму я павінна несці святло, калі ніхто не разгортвае маіх кніжак?» — «Ты павінна гарэць і ззяць!» За такую жорсткую прапанову Бібліятэка пакрыўдзілася на Чарнату. Крыўдавала яна доўга, але нарэшце пагадзілася з Чарнатою. Бібліятэка гарэла цяжка і доўга. Яна гінула ў зыркім полымі. Яна пакутавала, знікала і радавалася свайму светладайнаму знікненню. Бібліятэка згарэла, і Чарната яе шчыра аплакала і ў тым плачы сказала: «Гульні з вечнасцю твае толькі пачаліся, мая ты Бібліятэка...»

**Шэры доктар**

Міні Маўс закахаўся ў Максі Маўса, а той палюбіў яго, і яны пайшлі ў бальніцу. Яны прыйшлі да Шэрага доктара шукаць дапамогі. Максі Маўс хацеў, каб Міні Маўс стаў Максі Маўсам, а Міні Маўс жадаў, каб Максі Маўс зрабіўся Міні Маўсам. Доктар узяў нож і адрэзаў ад цела Максі Маўса цэлае Максі, а ад цела Міні Маўса ён адхапіў цэлае Міні. І тады адзін Маўс палюбіў другога Маўса як самога сябе, і зажылі яны простым і шчаслівым жыццём, душа ў душу.

**Чырвоныя яблычкі-1**

**У МЯСТЭЧКУ ЖЫЛА СТАРАЯ ПА МЯНУШЦЫ КРЫВАЯ БЯРОЗА. ЯНА МАГЛА ХАДЗІЦЬ ПАД ЗЯМЛЮ. НІХТО НЕ ВЕДАЎ, ЯК ТАЯ КРЫВАЯ БЯРОЗА ЗАХОДЗІЦЬ ПАД ЗЯМЛЮ І ВЫХОДЗІЦЬ З-ПАД ЯЕ, АЛЕ НЕКАТОРЫЯ НА СВАЕ ВОЧЫ БАЧЫЛІ ТОЕ ДЗІВА, НУ А ЧУЛІ ПРА ЯГО ЎСЕ. МЯСТЭЧКА НЕ ЛЮБІЛА КРЫВУЮ БЯРОЗУ, ДЫ ТОЛЬКІ ТАЯ НЕ ПЕРАЙМАЛАСЯ З-ЗА ТАКОЙ ДРАБЯЗЫ, ЯК НЯНАВІСЦЬ. ЯНА ЛІЧЫЛА, ШТО НЯНАВІСЦЬ ДА ЯЕ ПАХОДЗІЦЬ АД ЧОРНАЙ ЗАЙЗДРАСЦІ, БО І НАПРАЎДУ ЁЙ МОЦНА ЗАЙЗДРОСЦІЛІ. А ЗАЙЗДРОСЦІЛІ ЁЙ, БО ЖЫЛА КРЫВАЯ БЯРОЗА ЗАМОЖНА. ПРА ТАКІХ КАЖУЦЬ, ШТО ІМ ЧЭРЦІ ГРОШЫ НОСЯЦЬ. ТОЛЬКІ ГРОШЫ І ЗОЛАТА КРЫВАЯ БЯРОЗА ВЫНОСІЛА З-ПАД ЗЯМЛІ САМА. ТАМ, ПАД ЗЯМЛЁЮ, ЯНА НАВЕДВАЛА МЕРЦВЯКОЎ І ЧАСТАВАЛА ІХ РАЙСКІМІ ЯБЛЫЧКАМІ. А ЗА ТЫЯ ЯБЛЫЧКІ МЕРЦВЯКІ АДДАВАЛІ ЎСЁ: ЯНЫ АДДАВАЛІ І ГРОШЫ, І ЗОЛАТА, І ПРАКЛЯТЫЯ ПАДЗЕМНЫЯ СКАРБЫ. ЯНЫ АДДАВАЛІ КРЫВОЙ БЯРОЗЕ ЎСЁ ЧЫСТА, БО ВЕРЫЛІ ЁЙ. А ЯНА КАЗАЛА ІМ, ШТО РАЙСКІЯ ЯБЛЫЧКІ НЕ ПРОСТЫЯ ЯБЛЫЧКІ, А НЕ ПРОСТЫЯ ЯНЫ, БО ВЫРАСЛІ НЕ Ў ЗВЫЧАЙНЫМ МЕСТАЧКОВЫМ САДЗЕ СТАРОЙ КАБЕТЫ, А Ў САПРАЎДНЫМ РАІ ТЫЯ ЯБЛЫЧКІ НАЛІЛІСЯ ЧЫРВАННЮ. МЕРЦВЯКІ ЕЛІ ЧЫРВОНЫЯ ЯБЛЫЧКІ І МАРЫЛІ ПРА СВЕТЛЫ РАЙ. ЯНЫ СПАДЗЯВАЛІСЯ НА РАЙ ДОЎГА, ПАКУЛЬ СВЕЖЫ НЯБОЖЧЫК НЕ РАСКАЗАЎ ІМ ПРА ВЯЛІКІ ДОМ КРЫВОЙ БЯРОЗЫ. І ЗДАГАДАЛІСЯ МЕРЦВЯКІ, ШТО ДОМ ТОЙ ЗБУДАВАЛА КРЫВАЯ БЯРОЗА ЗА ІХ ЗОЛАТА. А ЯШЧЭ ЯНЫ ЗРАЗУМЕЛІ, ШТО НІКОЛІ НЕ ТРАПЯЦЬ У САПРАЎДНЫ РАЙ. ЯНЫ АЗЛІЛІСЯ НА КРЫВУЮ СТАРУЮ І ХАЦЕЛІ ПАРВАЦЬ ЯЕ НА КАВАЛКІ, ДЫ ЯНА ПАСПЕЛА ВЫЙСЦІ З-ПАД ЗЯМЛІ. ТАДЫ МЕРЦВЯКІ СТАЛІ ЧАКАЦЬ СМЕРЦІ КРЫВОЙ БЯРОЗЫ. ЯНЫ СПАДЗЯВАЛІСЯ, ШТО РАНЕЙ ЦІ ПАЗНЕЙ ЯНА ЎСЁ АДНО**

**ТРАПІЦЬ ПАД ЗЯМЛЮ. МАРНЫЯ БЫЛІ СПАДЗЕВЫ, БО АБАЧЛІВАЯ СТАРАЯ НАПІСАЛА ЗАПАВЕТ, У ЯКІМ КАЗАЛАСЯ, ШТО ЦЕЛА ЯЕ МУСЯЦЬ СПАЛІЦЬ, А ЖМЕНЬКУ ПОПЕЛУ МУСЯЦЬ ВЫСЫПАЦЬ ПАД РАЙСКУЮ ЯБЛЫНЮ, ЯКАЯ РОДЗІЦЬ САЛОДКІЯ, ЯК МЁД, ЧЫРВОНЫЯ ЯБЛЫЧКІ.**

### Атут і Атам

Атут забіў Атама, забраў ягоныя грошы і пайшоў да дзевак. Дух Атама не скарыўся і не прыняў лёс пакутніка. Ён паўстаў з мёртвага цела, пайшоў за сваім забойцам, выбраў самую відную з дзевак і ўсяліўся ў цела яе. Атут запрапанаваў самай віднай патанчыць. Тая затанчыла яго да паўсмерці, а натанчыўшыся, зацягнула Атута ў ложак. На шаўковай прасціне дзеўка залюбошчыла забойцу ўканец. Дух Атута паўстаў з залюбошчанага цела, каб адпомсціць распуснай дзеўцы за гвалтоўную смерць сваю. Паўстаў дух Атута і пабачыў дух Атама. Пабачыў ён дух ахвяры сваёй і адчуў сорам за ўчынак свой. Атут пачаў каяцца і прасіць прабачэння. Але дух Атама не прыняў прабачэнняў і раскаянняў таксама не прыняў. Ён павярнуўся спінаю да ката свайго і сышоў у светлае нікуды. Атут застаўся ў цёмным і ледзяным нідзе са злачынствам сваім.

### Розныя пальчаткі

Сябра паведаміў навіну: на праспекце Незалежнасці ён знайшоў скураную мужчынскую пальчатку. Яна выглядала на новую, таму мой таварыш і вырашыў прымераць яе. Калі ён амаль нацягнуў яе на сваю руку, тады і пабачыў, што Чорную пальчатку пашылі на руку з чатырма пальцамі. Навіна распавядалася, калі мы ўдвух пілі каву ў саюздрукаўскім кафэ «Глобус», а выйшаўшы з яго, каля Галоўпаштамта мы пабачылі на зямлі Ружовую пальчатку. На шэрым ходніку ляжала новая жаночая пальчатка, якую пашылі для чалавека з шасцю пальцамі.

### Чорныя крылы

Выходжу ў двор і на поўныя грудзі ўдыхаю п’янкае восеньскае паветра. Такое адчуванне, нібыта я, не адрываючыся, выпіў шклянку яблычнага віна. Іду пад залатымі каштанамі паўз блакітныя дамкі-вагончыкі будаўнікоў. У маім двары дабудоўваецца вялікі дом, палова двара пазастаўляна гэтымі вагончыкамі-дамкамі. За адным з іх і бачу пару вялікіх Чорных крылаў. Бяру левае крыло, прымерваю. Крыло сядае на руку, як мае. Узмахваю. Бог мой, якое шчыльнае паветра! Як шархацяць пёры ў той дрогкай шчыльнасці! Слоў няма… Спрабую прымераць-прыладзіць правае крыло, а яно — чужое. Не падыходзіць

яно, а я не адступаюся. Тут голас: «Нічога ў цябе не атрымаецца з Чорнымі крыламі!!!» Уздымаю вочы. На будаўнічым буданчыку сядзіць чорт. Апранахі скураныя з безліччу замкоў-маланак, чаравікі важкія, рогі залаціста-лакавыя, скроні паголеныя, вочы чорна-сінія, твар сур'ёзны. Злосць мяне ўзяла: «Ідзі ты да д'ябла!!!» І прапаў чорт разам з Чорнымі крыламі, адно боль застаўся ў маёй правай руцэ, нібыта я яе чымсьці намуляў.

**Рыжы кот**

Мужчына ўсунуў жанчыне ў рот палец. А тая ўзяла ды пракусіла яго. Чаго толькі не здараеццца падчас гарачых любошчаў. «Што я жонцы скажу?» — заныў падкалечаны каханак. «Скажаш: ваш Рыжы кот хапануў!» — каханка хутка знайшла выйсце. Мужчына так і зрабіў. Жонка, не вагаючыся, прапанавала забіць ката. Муж спрабаваў абараніць ні ў чым не вінаватую жывёліну, але не змог. Жонка занесла ката да ветэрынара, і той яго ўсыпіў. Выпручаны труп паклаўся ў скрынку з-пад ботаў і закапаўся каля сметніка. Здавалася, гісторыі канец. Ды не… У самую чорную сярэдзіну ночы кот-нябожчык выпаўз з каробкі, прыбег да сваіх былых гаспадароў і перакусіў гаспадыні сонную артэрыю. Гаспадар прахапіўся ад перадсмяротных енкаў і спрабаваў злавіць Рыжага, але кот уцёк. Ён не наталіўся адным забойствам, ён прабраўся ў кватэру ілжывай каханкі і перагрыз ёй белае горла. На гэтым кату можна было б спыніцца, але ён не спыніўся. Ён разгульваў у свеце жывых і назіраў, як мужчыну арыштавалі і абвінавацілі ў падвоеным забойстве, як суд прызнаў яго вінаватым у жорсткім злачынстве. Толькі калі мужчыну пакаралі смерцю, Рыжы кот вярнуўся на сметнік, залез у каробку з-пад ботаў і салодка заснуў з пачуццём выкананага абавязку.

**Белая гарэлка**

Каінт прапанаваў Абелю выпіць белай гарэлкі. Той спытаўся пра закуску. Акрамя чорнага хлеба, у Каінта нічога не знайшлося. Абель схадзіў дахаты і прынёс талерку з насмажанай баранінай. Выпілі яны і закусілі. П'яны Каінт абразіў сабутэльніка, назваў яго лайдаком. Той запатрабаваў неадкладных прабачэнняў. Каінт адмовіўся выбачацца. Тады Абель наляцеў на Каінта і адкусіў яму нос. Акрываўлены Каінт ударыў Абеля ў скронь; костка трэснула, і чалавек сканаў. На судзе Каінт не прызнаў сябе злачынцам. Бязносы сказаў, што ва ўсім вінаватая гарэлка.

**Сіняя бездань**

Ты — стварэнне з роду разважлівых — заснуў і прачнуўся, каб ізноў паспрабаваць заснуць. Сон абгарнуў цябе — сына тых, хто сыходзіць з жыцця. Свядомасць захавала яснасць… І спусціўся ты да пачатку свайго, у Сінюю бездань. Плоць твая была падобная да густой

вады і плыла ў вадзе, але дыхаць табе было лёгка. Дыхаў ты блакітнай вадою, як празрыстым паветрам. І дзівіўся, і разумеў: улада — туман, любоў і захапленні — кірмашовыя госці, а ўсё навокал рухомае і пазбаўленае сутнасці, і не трэба табе імкнуцца да пазбаўленага сутнасці… Блакітныя рыбіны праплывалі каля цябе, блакітныя змеі з белымі ікламі глядзелі на цябе круглымі вачыма, блакітная трава хісталася пад тваімі нагамі… І быў ты духам Сіняй бездані. А выплыванне-прачынанне тваё было напоўнена невытлумачальнымі страхамі, якія давялося змываць з сябе ледзяною вадою ў рэальнасці.

**Маціцовы свет**

Ён моцна любіў яе, а яна дужа кахала яго. Яны пражылі доўга-доўга і шчасліва-шчасліва. Яны памерлі ў адзін дзень і перайшлі ў Маціцовы свет, дзе працягваюць бясконца любошчыцца.

**Жывое фота**

Жанчына сфатаграфавала сотавым тэлефонам свайго аголенага каханка і пайшла чытаць лекцыю ў Акадэмію мастацтваў. У час лекцыі з сотавага тэлефона выкладчыцы вылез голы мужчына. На вачах у знямелай аўдыторыі ён пазяхнуў, салодка пацягнуўся і выйшаў на калідор.

**Зігфрыд і Маца**

Зігфрыд падсунуўся да Мацы. Яна зірнула на Зігфрыда. «Шматабяцальна!» — мільганула ў таго. Зігфрыд памацаў Мацу. Тая палымяна зіркнула на Зігфрыда. На што той сказаў: «Ты мяне позіркам не адсоўвай, у мяне не такі доўгі чэлес!»

**Ёмка і Ямка**

Ёмка любіў Ямку, а Ямка кахала Ёмку. «Табе не ёмка?» — запытала Ямка ў Ёмкі. «Мне заўжды ёмка, калі я ў тваёй ямцы!» — адказаў Ёмка. Абаім зрабілася шчэ ямчэй.

**Гута і Густ**

У ложку ляжалі Гута і Густ. «Люблю!» — Густ пацалаваў Гуту. «Не веру!» — прашаптала Гута і прытулілася да Густа. «Люблю цябе ўсё больш і больш!» — Густ абняў сваю Гуту. «Не веру!» — паўтарыла Гута і яшчэ шчыльней прыціснулася да свайго Густа. «Раней я цябе любіў год, а цяпер я цябе люблю ўжо цэлых сем гадоў!»

**Торф**

Гена Торф жыў у горадзе Тарфагене. Той горад Торф ненавідзіў і бясконца паўтараў адзін і той жа заклік: «Тарфаген павінен быць зруйнаваны!» Тарфагенянам Гена так надакучыў і абрыд, што яны яго прагналі. Цяперака заклікач працуе на далёкіх балотах і займаецца торфанарыхтоўкамі, а ў горад Тарфаген ён наведваецца інкогніта.

## Белацелая Сабіна

Яна ўмее глядзець на сябе збоку. Раніцай Сабіна выходзіць са свайго цела і зацікаўлена, пільна, прыдзірліва разглядае яго. Асабліва ўважліва яна разглядае ўласны твар, а той саркастычна пасміхаецца і дзёрзка падміргвае Сабіне. Каб крыху прыхаваць дзёрзкасць вульгарнага міргання, цела памахвае сваёй гаспадыні ручкаю, пяшчотна памахвае, нібыта пагладжвае падушачкамі пальцаў духмянае паветра. Задаволеная, Сабіна вяртаецца ў сваё ўтульнае цела і там жыве да наступнае раніцы.

## Шэры чалавечак

Ён нарадзіўся шэрым і жыў шэрым. Ён бы і памёр шэрым, каб не людзі. Грамада абурылася колерам Шэрага чалавечка. Людзі завезлі яго ў лес. Людзі сказалі так: «Мы далі табе вопратку і харч, мы далі табе інструменты і жытло. Ты пажывеш у лесе адзін, пакуль не зменішся. А як зменішся, тады і вяртайся ў грамадства». Шэры чалавечак узяў сякеру і пазасякаў людзей. «Я змяніўся!» — сказаў ён трупам.

## Белы прапелер

У Швецыіі пачалася задуха. Сто гадоў не было такой спёкі і гарачыні, а тут ні табе ўздыхнуць, ні табе выдыхнуць. Асабліва пакутавалі тыя шведкі, якія прызвычаіліся займацца сэксам, лежачы на спіне. Мала таго, што сама ўспатнела да плюгнай слізкасці, дык і пот каханка цячэ на цябе ў тры ручаіны. Але тая жанчына, якая шукае, абавязкова знойдзе. Шведкі знайшлі выйсце: на сэкс яны пачалі запрашаць Карлсана, таго, што з прапелерам на спіне. Прапелер любоўнікі выкарыстоўвалі ў якасці вентылятара. Карлсан падняў расцэнкі за свой прахалодны і ветраносны сэкс і, дзякуючы доўгай і моцнай задусе, шмат зарабіў. На зробленыя грошы ён прыдбаў сабе Белы прапелер. З навюткім Белым прапелерам ён стаў такім дарагім каханкам, што яго візіт маглі сабе дазволіць адно каралева з прынцэсамі. Тут гарачыня скончылася, пайшлі дажджы, сэкс з вентылятарам выйшаў з моды, Карлсан прадаў Белы прапелер, а на ўтаргаваныя грошы зрабіў у сваім доме новы дах.

## Празрыстая павуцінка

Маленькі павук навучыўся бегаць па паветры. Быў сонечны блакітны ранак, павучок вылез з-пад пялёстка вяргіні і пабег-пабег па свежым паветры. Як тое адбылося, ён і сам не ведаў. А калі даведаўся, дык ужо мог хутка бегаць па духмяным вераснёвым паветры. «Якая ў цябе танюткая і Празрыстая павуцінка…» — казалі маленькаму павуку іншыя павукі. Ён не спрачаўся. Нашто? Хай усе думаюць, што ён такі самы, як і ўсё, толькі ў яго Празрыстая павуцінка.

## Сіні жывот

У нашым доме, шэрым дзевяціпавярховіку, дзеўка страшнатварая жыла. Глянеш на яе — вочы самі заплюшчваюцца. Закахалася гэтая страхалюдзіна ў хлопца з суседняга пад'езда. Хлопец быў гожы, спортам займаўся і ў цырку гімнастам падпрацоўваў. Артыст, адным словам. Ніхто і падумаць не мог, што страшыдла выйдзе замуж за прыгажуна. Вяселле яны згулялі, а па раёне чутка папаўзла, што маці брыдкатварай дзеўкі прысушыла артыста. Пасля вяселля цыркач пачаў хварэць. За які месяц вырас у яго вялізны Сіні жывот. Куды ён толькі ні звяртаўся, якім толькі дактарам і лекарам Сіні жывот ні паказваў, а ніхто такой хваробы не ведаў і ніколі Сіняга жывата не бачыў. Хлопец з твару спаў, спорт і цырк кінуў, паміраць сабраўся. Нібыта дзед стары, ён выходзіў з дому і каля пад'езда на лаўцы пад бэзам сядзеў. Так бы і прычакаў ён смерць сваю, але ішоў неяк праз наш двор сівы мужчына. Спыніўся каля прысушанага хлопца: «Бачу я бяду тваю і магу дапамагчы!» Павёў ён хлопца з Сінім жыватом у лазню. У парылцы ён так адхвастаў бярозавым венікам Сіні жывот, што з рота хворага павыскоквалі ажно трыццаць тры сінія жабы. Сівы мужчына сабраў тых жаб у мяшок, завязаў мяшок тоўстай вяроўкаю і сышоў з лазні. Хлопец ачомаўся, агледзеў сябе і ўзрадаваўся, бо не было больш у яго Сіняга жывата. Вярнуўся ён дамоў і прагнаў са сваёй кватэры страшную жонку. Тая да маці ў суседні пад'езд пакацілася. Прыбегла, а маці ўжо засілілася, ужо вісіць пад столлю халодная. Брыдотная жонка прыгажуна схапіла вяроўку, зрабіла пятлю і побач са сваёй маці — вядзьмаркаю — павесілася. Такое цёмнае здарэнне адбылося ў нашым доме, звычайным шэрым дзевяціпавярховіку.

## Бландзінка чартавокая

Такая сярод светлавалосых жанчын трапляецца на тысячу адна. Выглядае яна прыгажуняю, а вока ў яе кепскае. Злое ў яе вока. За ўсё жыццё я толькі аднаго разу сустрэў такую Бландзінку чартавокую. Яна мне сама і распавяла пра сілу сваю неўтаймоўную. Была ў Бландзінкі малодшая сястра. Жанчынка як жанчынка, звычайная і цёмнавалосая. Вялікага шчасця тая сястра не шукала: знайшоўся просты хлопец, прапанаваў шлюб, яна і не адмовіла. Праз год у іх нарадзілася дзяўчынка з рудзенькімі кудзеркамі. Прывезлі дзіця з радзільні, паклалі на ложак і распавілі. «Ты чаго дзіця голае на ложку трымаеш?» — спыталася Бландзінка чартавокая. «А што ёй зробіцца?» Бландзінка толькі зіркнула на пляменніцу і сышла. А дзіцёначак у крык. І раве, і раве, ажно заходзіцца. І раўла дзяўчынка рознымі галасамі, і супакоіцца не магла, ажно пакуль суседка — старая шаптуха — не прыйшла і не пачала папраўляць дзіцятка. Паправіла

шаптуха дзіцятка, а сказаць пра тое, хто яго папсаваў, збаялася. Бландзінка чартавокая сама сваёй сястры распавяла пра ўласную злавокасць. Сястра ёсць сястра, і малодшая зрабіла выгляд, што ўсё даравала старэйшай.

**Сіні язык**

Дзяўчына чытала кнігу, доўга чытала, ад пачатку і да канца, ад канца і да пачатку, а прачытаўшы, кнігу спаліла. Парвала дзяўчына кнігу і спаліла ўсю чыста разам з вокладкаю. Спаліла яна кнігу і лягла спаць, а пасярод ночы прахапілася ды раўці пачала: «Душаць мяне, душаць!!!» Бацькі паўставалі, паспрабавалі дзяўчыну супакоіць, а яна не супакойваецца, па падлозе качаецца, енчыць, вішчыць, падскоквае, на сцены кідаецца, па кватэры скача. Бацькі спрабавалі яе злавіць, ды не змаглі. Пабеглі бацькі да суседзяў, дактароў выклікаць, а калі вярнуліся, дзяўчына ўжо на падлозе ляжала нежывая. У сціснутых кулаках былі валасы павырываныя з галавы, а з рота тырчэў даўжэзны Сіні язык. Дактары сказалі, што ніколі ў жыцці такога брыдкага трупа не бачылі. Поп, які на пахаванне прыйшоў, моцна дзівіўся, маўляў, Сіні язык такі доўгі, страшны, што і да чалавечага не падобны. Прывезлі труну з дзяўчынаю на могілкі, толькі ў яміну апусцілі, тут такая навальніца пачалася, такі гром грымнуў, што нават далакопы і тыя ўцяклі. Калі залева спынілася і людзі да магілы вярнуліся, дык яміна тая была поўная вады. У вадзе пустая труна плавала, а дзяўчыны з Сінім языком не было. Поп сказаў, што яе, пэўна, Пярун да сябе забраў. Сказаў — і сам сваіх словаў спалохаўся. Далакопы пустую магілу сырым пяском закідалі, бо ўсе пагадзіліся, што лепей пра такое не гаварыць, лепей пра такое забыцца. Ды дзе ж ты забудзешся пра Сіні язык…

**Сівая Сольніца**

Жанчына вярнулася з працы, паставіла машыну ў гаражы і ўзнялася па прыступках у варэльню. Жыла тая жанчына на ўскрайку сталіцы ў сваім вялікім, на тры паверхі, доме. Зайшла жанчына ў варэльню, а тамака пагром. Посуд папабіваны, крупы парассыпаныя, лядоўня стаіць наросхрыст, лужына каля яе вялізная, а каля той лужыны кот сядзіць. Жанчына хацела крыкнуць на свайго ката, бо відавочна, што ён той пагром і ўтварыў, але ж не паспела. Кот узняўся на заднія лапы і пайшоў на сваю гаспадыню. Вочы кацiныя гарэлі зялёным агнём. Жанчына выскачыла з варэльні і дзверы за сабою зачыніла, ды яшчэ ключ у замку павярнула тры разы. Праз два дамы ад жанчыны жыў ветэрынар. Ён параіў усыпіць ката. Але жанчыне стала шкада свайго, хай і ашалелага, але ж любімца. Тады ветэрынар прапанаваў схадзіць да Сівой Сольніцы. Маўляў, тая Сольніца можа на соль нашаптаць, а соль можа ката ад шаленства

ўратаваць. Сівая Сольніца дала жанчыне маленечкі мяшочак з нашаптанай соллю і сказала той соллю тры разы на ката-шаленца сыпануць, а не адыдзе, то ўжо хай ветэрынар яго ў кацiны вырай выпраўляе, бо вылечыць кацінае шаленства ніхто ўжо не зможа. Яшчэ Сівая Сольніца папярэдзіла жанчыну, што, калі будзе вяртацца дамоў, да яе можа падысці вядзьмарка, якая ката зачаравала. Вядзьмарка з ёю загаворыць, але жанчына мусіць маўчаць. Так і здарылася: каля самага дома жанчыну пераняла суседка і пачала дарогу заступаць. Заступіць і пра рознае пытаецца, а жанчына маўчыць як вады ў рот набраўшы. «Што ж ты маўчыш? Што ж ты мяне зневажаеш так? Што я табе такога зрабіла?» — сыпала пытаннямі суседка. Жанчына ледзь было не сказала, што яна яе ката зачаравала і ў шаленства абрынула, але стрымалася. Кот, пабачыўшы мяшочак з соллю, паспрабаваў уцячы, але жанчына спрытна сыпанула солі яму на хвост. Кот замёр. Жанчына яшчэ раз сыпанула на яго соллю, а калі сыпанула трэці, дык з ката пасыпаліся ў розныя бакі вогненныя блохі. Блохі ссыпаліся з ката і расталі ў паветры. Кот стаў такім, якім быў заўсёды, — ласкавым, добрым і муркатлівым. Жанчына прыбралася ў доме, а прыбраўшыся, затэлефанавала суседцы. «Яшчэ раз чэпіш майго ката, я табе хату спалю!» — сказала так і супакоілася. Маленечкі мяшочак, прынесены ад Сівой Сольніцы, жанчына схавала ў сейф. Можа, яшчэ каму спатрэбіцца...

**Белатварая ашыйніца**

Старая яна была, а на працу хадзіла. Вартаўніцай яна служыла ў інфекцыйнай бальніцы. Яе ставілі толькі ў начную змену, бо паўз яе не праскочыш і не прапаўзеш. Людзі яе баяліся: і лекары, і медсёстры, не кажучы ўжо пра пацыентаў. Пужаліся яе бяскроўнага твару. У вартаўніцы твар быў такі белы, што выглядала яна на мёртвую. Толькі дзеці са школы, што побач з бальніцаю стаяла, той вартаўніцы не лякаліся, бо насілі ёй крэйду. Яна тую крэйду ела, а за кавалак крэйды расказвала школьнікам розныя брыдкія гісторыі. Школьнікі яе нават любілі, ажно пакуль бяда не здарылася з Міколам Караткевічам. Ён ёй крэйду прынёс, яна тую крэйду зжавала, а гісторыю не стала распавядаць, сказала, што другім разам раскажа. Мікола і абазваў вартаўніцу старой чапялою. Аблаяў ён яе, абмацюкаў брыдотна і дамоў пайшоў. А дома кепска яму стала, і на шыі з’явілася чырвоная паласа. Шырокая такая паласа, нібыта след ад ашыйніка. Ніхто тады і не падумаў на вартаўніцу-крэйдаедку. Меркавалі, што алергія. А Мікалаю ўсё горш і горш рабілася, яго па хуткай дапамозе ў бальніцу заімчалі, але і тамака рады ніхто даць не змог такой дзіўнай хваробе. Задыхаецца хлопец. А чаго ён задыхаецца? Якая трасца яго душыць? Ніхто не ведаў. Цэлую ноч Мікола Караткевіч прапакутаваў.

А раніцай нейкая прыбірачка сказала, што вядзьмарка начапіла хлопцу ашыйнік, і трэба шукаць ведзьмака, каб той ашыйнік зняў, бо адны яго начэпліваюць, а іншыя здымаюць. Той, хто начапіў, сам яго не здыме, нават калі і захоча. Павезлі Міколу на край горада, да старога ведзьмака, і ён той рабскі ашыйнік зняў. Пашаптаў вядзьмак, указальным пальцам вакол шыі павадзіў, і чырвоная паласа прапала, як і не было. Дыханне лёгкае да хлопца вярнулася. Тут ён усім і расказаў пра Белатварую ашыйніцу, што крэйду есць. Увечары людзі пайшлі ў інфекцыйную бальніцу, каб пакараць ашыйніцу, але яе там не было, прапала яна. Замест Белатварай ашыйніцы ў вартаўнічым дамку людзі знайшлі на стале гурбачку белай крэйды.

**Белыя коткі**

Жылі на ўскрайку мястэчка, у невялікім дамку, дзве старыя тартаркі. Чаму іх клікалі тартаркамі, ніхто не ведаў. Тартаркі ды тартаркі. Адкуль тыя тартаркі ў мястэчка прыехалі, з якой тартарскай мясціны прыйшлі? Каб хто сказаў. Прыйшлі і прыйшлі. Спачатку ціха ўсё было, а потым ва ўсім мястэчку гарбузы пагнілі. Ніхто на тартарак і не падумаў. Праўда, той-сёй заўважыў, што гарбузы пагнілі ва ўсіх, акром тартарак. За гарбузамі пачалі гнісці памідоры. Ва ўсіх гніюць, а ў тартарак проста ззяюць. Пачалі местачкоўцы да тартарак прыглядацца. Адна з іх была высокая-высокая і худая-худая, а другая кароценькая і тоўстая. Абедзве былі сівыя, як дзьмухаўцы. І заўважылі нашыя местачкоўцы, што кожны вечар з двара тартарак выбягаюць дзве белы коткі: адна доўгая і худая, другая тоўстая ды кароткая. Выбягаюць Белыя коткі і шастаюць па чужых гародах. У каго з'явяцца, у таго гародніна і загнівае. Пабачыўшы такое шкодніцтва, тутэйшыя людзі вырашылі прагнаць Белых котак з мястэчка. Уночы людзі абклалі дамок тартарак травою-дзівасілам. Спачатку хацелі дамок спаліць, але перадумалі. Вырашылі, што трава-дзівасіл тых вядзьмарак тры дні з дамка не выпусціць. Так і было. Так і прасядзелі шкадлівыя тартаркі тры дні і тры ночы ў зачыненым дамку. Нават да ветру схадзіць не маглі — гадзілі ў вядро. На чацвёрты дзень тутэйшыя людзі сказалі тартаркам з'ехаць з мястэчка. Тыя і з'ехалі. Белых котак больш ніхто на сваім гародзе не бачыў. Ну і гарбузы болей не гнілі.

**Ліловы сабака**

У пятніцу хлопец пайшоў у начны клуб. Хацеў крыху выпіць, трохі патанчыць і з якой дзяўчынаю пазнаёміцца. Звычайная справа, маладыя гады і жаданні маладыя. Сеў ён за столік, выпіўку замовіў, а калі хацеў паўтарыць, дык не знайшоў партманеткі. Ляжала партманетка на століку, побач з тэлефонам. Сотавік застаўся, а партманетка прапала. Акром рудой афіцыянткі, да століка і не

падыходзіў ніхто. Хлопец да рудой: «Аддавай, сучка, партманетку!» Тая ў крык. Прыбеглі ахоўнікі, скруцілі хлопца і выкінулі з клуба на задні двор. Каб толькі скруцілі і выкінулі, яно б і нічога, а то збілі невінаватага моцна. Ён толькі пад раніцу змог устаць і дадому пайсці. Ідзе хлопец пустой вуліцаю, кульгае, а за ім Ліловы сабачка бяжыць. Вясёлы такі гарэзлівы цюцік. У хлопца настрой змрочны, ад сабачай весялосці яму яшчэ горш робіцца. Паспрабаваў хлопец Ліловага сабачку прагнаць, а той не пужаецца, не ўцякае, а наадварот, усё падскоквае і пысаю хлопца ў дупу папіхае. Зазлаваў хлопец на Ліловага сабаку, падняў з зямлі важкі кавалак асфальту і шпурлянуў у жывёліну. Шпурнуў моцна, але не трапна. Асфальт упаў побач з Ліловым сабакам, якраз у тое месца, дзе на зямлі быў чорны сабачы цень. Хлопец знарок прычакаў, пакуль сабака пад ліхтар забяжыць, каб святлей было, каб дакладней пацэліць. Прамахнуўся! Хлопец падумаў, што прамахнуўся, а насамрэч ён і пацэліў. Калі вядзьмарка абарочваецца ў Ліловага сабаку, трэба якраз у цень і біць. Пазней знаёмыя хлопцу таму распавялі, як у начным клубе пад самую раніцу проста пасярод залы танцоры ўбачылі рудую афіцыянтку з разбітай галавою. Пакуль дактары прыехалі, яна ўжо д’яблу душу перадала. А таго, хто яе ўдарыў, не знайшлі. Шукалі-шукалі, а знайсці не змаглі.

**Шэры вядзьмак**

Захварэў вядзьмак. Цяжкая хвароба ўбілася ў старое цела. Смяротная хвароба напала на нямоглага стагадовага ведзьмака. Цісне яна яго, круціць і ломіць, а вядзьмак ніяк памерці не можа. Пашарэў увесь, высах — скурка ды костачкі, валасы ўсе павыпадалі, у роце ніводнага зуба не засталося, а смерць не ідзе. Пачаў Шэры вядзьмак столь разбіраць. Над сваім ложкам ён не толькі столь разабраў, а і дах зняў. Суседзі глядзяць на разабраны дом Шэрага ведзьмака і дзівяцца. Ужо і неба з ложка відаць, і зоркі ў небе паблісковаюць, а смерці як не было яму, так і няма. Тады Шэры вядзьмак каля свайго ложка ў жалезнай бочцы вогнішча расклаў. Пачаў ён паліць кіпарысавыя цурбэлачкі ды ядлаўцовыя ягады. Увесь дом зацягнула сінім дымам, а потым і палова вуліцы тым дымам заплыла. І пабеглі праз той дым чорныя каты. Вялізныя чорныя каты пабеглі праз сіні дым — такія вялізныя каты, што можна было падумаць, што і не каты яны зусім, а чэрці. Разбегліся тыя чэрці-каты па суседніх дамах — толькі тады памёр Шэры вядзьмак. Пахавалі яго за дзяржаўны кошт. Дах у ведзьмакоўскім доме пачынілі, але прадаць дом не могуць. Так ён і стаіць. Пэўна, чакае свайго новага ведзьмака.

**Чорнае віно-1**

У мужчыны быў сябрук Уладзя. Той Уладзя ажаніўся з Веранічкаю. Не прайшло і месяца пасля вяселля, як Уладзя жонку разлюбіў.

Справа ў іх амаль да разводу дайшла. Веранічка прыбегла да мужчыны і кажа: «Ёсць у мяне дзядзька родны Міхась Машніцкі. Ён чарадзей адмысловы. Ён майго Уладзю ўзяўся прыварожваць да мяне. Толькі Уладзя нібыта адчувае чарадзейства і не п'е, не есць дзядзькавых прысмакаў. Таму дам я табе бутэльку зачараванага віна. Ты яе з маім Уладзем і вып'еш. Адно папярэджу: віно Чорнае. Таму я прынесла дзве бутэлькі: адну з віном звычайным, а другую — з Чорным віном…» Мужчына пагадзіўся дапамагчы сябрукам. Выпіў ён з Уладзем звычайнае і чароўнае віно. Чорнае віно падзейнічала. Але не толькі на Уладзю. Яно і мужчыну прысушыла да Веранікі. Пачаў мужчына чужую жонку праследаваць. Стаў у каханні да яе прызнавацца. Хадзіў ён за ёю хадзіў, бегаў ён за ёю бегаў, лётаў ён за ёю лётаў, пакуль не зляцеліся яны да самага найгрэшнага. Злюбіліся яны моцна. Праз тую любоў і пачалі пакутаваць. Давялося Веранічцы зноўку ісці да дзядзі свайго Міхася Машніцкага, каб адчараваў мужчыну. Дзядзька нашаптаў на бутэльку белага віна. Мужчына выпіў бутэльку белага і адчараваўся. Веранічка засталася з Уладзем, але не надоўга, бо чары Чорнага віна больш як месяц не дзейнічаюць.

**Блакітнавокая лялька**

У доме каля могілак прадавалі гарэлку. Гаспадары прымогілкавага дамка наладзілі начны гандаль, бо і самі любілі выпіць. Гарэлачная справа рызыкоўная. Хто спрачаецца? Ды дзе ж ты бачыў лёгкія і бяспечныя грошы? Гады два муж з жонкаю гандлявалі начной гарэлкаю, а потым бяда здарылася. Некаму той начной гарэлкі не хапіла, а ён вазьмі ды падпалі дом. Згарэла ўсё… І дом, і муж з жонкаю, і трое іх дзетак зніклі ў полымі. Падпальшчыка шукалі ды не адшукалі. А вось Блакітнавокую ляльку на папялішчы знайшлі. Кажуць, яна пасярод чорных вуглёў ляжала. Полымя яе чамусьці зусім не кранула. Блакітнавокую ляльку гандляры начной гарэлкаю выстаўлялі ў акно. Калі лялька стаяла, дык можна было ў дом заходзіць. А як Блакінавокай лялькі не было, тады ўжо «выбачайце».

**Белая кашуля**

Мужчына патурбаваў нябожчыц. Яму згадаліся імёны старых вядзьмарак-шаптух — Пэлі Макоўскай і Тамары Машніцкай. Успомніліся тыя шаптухі па-добраму, бо некалькі разоў ратавалі мужчыну — зашэптвалі сполах. Цяпер яны былі ў іншым свеце, а мужчына вазьмі ды пакліч іх. Шаптухі і прыйшлі. Першай з'явілася Пэля і сказала, каб мужчына асцерагаўся новай кашулі. Праз дзень перад мужчынам паўстала Тамара і папярэдзіла, што варта баяцца Белай кашулі. Мужчына паслухаўся вядзьмарак-нябожчыц і занёс на сметнік яшчэ не надзяваную Белую кашулю. Ён нават дакараў сябе за глупства і веру ў слова нябожчыц. Але дакараў ён сябе нядоўга, бо

праз тры дні на сметніку знайшлі задушанага смецяра. Усе рэбры ў яго былі пераламаныя. Задушылі яго не за горла. Нешта яму так сціснула грудзі, што і рэбры патрушчыліся, і ён задохся. Труп смецяра быў у бруднай працоўнай форме, што і зразумела. Усіх здзівіла тое, што кашуля на ім была новенькая — зусім новая Белая кашуля.

**Шэры пакой**

У доме пачаўся капітальны рамонт. Ішоў той рамонт марудна. Не дзіва, што людзям той рамонт нават сніцца пачаў. Аднаму мужчыну прыснілася, што ягоны сусед падчас рамонту вырашыў зрабіць перапланіроўку. Замест трох пакояў сусед зрабіў ажно сем. Адзін пакой атрымаўся зусім вузкі і без акна. Раніцай мужчына пайшоў да суседа, каб расказаць пра сон. Дзверы яму адчыніла суседава жонка. Яна, плачучы, і сказала, што яе муж ноччу разбіўся на машыне. Ён вёз з Вільні новыя разеткі з выключальнікамі, заснуў за стырном і наехаў на дрэва.

**Бельмавокая дзяўчынка**

Хлопчык захварэў, ды так моцна, што доктарка выклікала ў дзіцячы лагер машыну хуткай дапамогі. Хлопчыка павезлі з ляснога лагера ў гарадскую бальніцу. Прывезлі яго позна ўвечары і аналізы вырашылі рабіць ужо раніцай. Хворага хлопчыка паклалі спаць у пустую палату. Уночы яму захацелася схадзіць у прыбіральню. Калі ён вярнуўся з прыбіральні і лёг у ложак, дык пабачыў у кутку сваёй цёмнай палаты Бельмавокую дзяўчынку. «Хто тут ёсць?» — спытала сляпая дзяўчынка. Хлопчык стаіўся. «Я чую, што тут нехта ёсць. Ты хлопчык ці дзяўчынка?» Хлопчык маўчаў. «Ты дзяўчынка ці ты хлопчык?» Хлопчык не адзываўся. «Ты хлопчык ці дзяўчынка?» — яшчэ раз запыталася сляпая і падышла да ложка, на якім ляжаў хворы. Хлопчык хацеў нацягнуць на галаву коўдру, але не паспеў. «Задаўлю!» — крыкнула Бельмавокая дзяўчынка, скокнула на ложак і пачала душыць хворага хлопчыка. Той паспрабаваў закрычаць, ды не змог. Тады ён схапіў сляпую дзяўчынку за касу і наматаў тую касу на руку. Дзявочыя рукі крыху аслаблі. Хлопчык выцерабіўся з-пад Бельмавокай, сцягнуў яе на падлогу, сеў на яе конна і зламаў ёй шыю. Калі хлопчык зразумеў, якую незваротную шкоду ўтварыў, тады і пачаў крычаць. Ён так крычаў, што прыбеглі доктар і санітарка. Хлопчык крычаў ім пра нейкую Бельмавокую дзяўчынку, якая хацела яго задушыць і якой ён зламаў шыю. Доктар зрабіў хлопчыку ўкол, каб той супакоіўся. Пасля ўкола хлопчык сцішыўся і заснуў, а пад раніцу ён памёр.

**Цёмнае люстэрка**

У Мінску на пляцы Перамогі жыла піяністка Яніна. Працавала яна ў тэатры аперэты, заробак мела сціплы, але ёй хапала на тое, каб

эфектна апранацца і аплачваць маленькую аднапакаёвую кватэру, што дасталася ёй у спадчыну ад дзеда. Мэбля ў кватэры была не проста старая, яна была антыкварная, прывезеная з Кітая. Яніна ганарылася той мэбляю, але мела патаемную мару пра яе продаж. Піяністка хацела прадаць свой антыкварыят і на атрыманыя грошы з'ехаць у Францыю. Яніна з юнацтва марыла жыць у Францыі, мусіць, таму яна выпякала сама сабе на свята торт «Напалеон». Аднойчы, напярэдадні Калядаў, Яніна раскатвала цеста на каржы для торта, калі яе нехта паклікаў: «Яня, даражэнькая, хадзі сюды!» Піяністка мела абсалютны слых, і яна магла пакля́сціся, што пачула ў перадпакоі дзедаў голас. З качалкаю ў руцэ Яніна асцярожна, на дыбачках прайшла з варэльні ў перадпакой. Зразумела, што там ніякага дзеда не было. Яня ўздыхнула з палёгкаю і зірнула ў вялікае Цёмнае люстэрка. Тут яна і скамянела. У кітайскім Цёмным люстэрку стаяла яна, толькі не ў хатнім халаціку на голае цела, а ў доўгай чорнай канцэртнай сукенцы, і ніякай качалкі ў люстраной Яніны ў руках не было. «Удар мяне!» — уладным голасам загадала люстэркавая жанчына. Жывая Яніна з усяе моцы ўдарыла качалкаю па прывіду. Шкло трэснула і пасыпалася на падлогу, а разам са шклом пад ногі жанчыне пасыпаліся і залатыя манеты. Тых манет было так шмат, што Яніна змагла набыць сабе кватэру ў Парыжы. Цяпер кожную вясну свой травеньскі адпачынак яна праводзіць у французскай кватэры, а жыве Яніна там, дзе і жыла, — на пляцы Перамогі ў Мінску, і працуе яна там, дзе і працавала, — у тэатры аперэты.

**Чырвоная хустка**

Мужчына ехаў па кальцавой дарозе, як раптам ягоны «мерсэдэс» спыніўся. Ніякіх відавочных прычын для паломкі не было. Мужчына выйшаў з машыны і пабачыў жанчыну ў памаранчыкавай камізэльцы. «Калі ты мне паабяцаеш прывезці Чырвоную хустку, твой «мерсэдэс» завядзецца». Мужчына паабяцаў прывезці Чырвоную хустку. Рухавік ціха замуркатаў. «Калі ты падорыш мне Чырвоную хустку, я змагу адказаць на любое тваё пытанне...» — паабяцала жанчына. Твар у яе быў шэры, як халодны і прыбіты дажджом попел. Мужчына сеў за стырно і паехаў далей па кальцавой дарозе. Дома ён распавёў жонцы пра Чырвоную хустку. Тая сказала, што варта завезці хустку і задаць пытанне. «Адказ на якое пытанне ты хочаш пачуць?» — спытаў муж. «Ці будзе ў нас дзіця», — адказала жонка. Мужчына паехаў на кальцавую дарогу. Жанчына ў памаранчыкавай камізэльцы стаяла ў тым жа ж месцы, дзе ён яе пакінуў. Мужчына аддаў падарунак і спытаў: «Бог ёсць?» Жанчына павязала на галаву абнову і дастала з кішэні памаранчыкавай камізэлькі чырвонага галуба. «Паглядзі, які дзівосны птах. Паглядзі, паглядзі... Больш нідзе і

ніколі ты яго не пабачыш». Мужчына злым голасам паўтарыў пытанне: «Бог ёсць?» «Бог для цябе ёсць!» — адказала жанчына ў Чырвонай хустцы і прапала, як і не было. Мужчына вярнуўся дадому, дзе яго чакала цікаўная жонка: «Што яна сказала? Будзе ў нас дзіця?» Мужчына ўздыхнуў і выдыхнуў: «Будзе! Дзяўчынка...»

**Блакітная агароджа**

Хлопчык з пэндзлем і бляшанкаю фарбы прыйшоў на пагост. Бацькі папрасілі яго пафарбаваць агароджу вакол прадзедавай магілы. Стаяў ясны ліпеньскі ранак, на высокім небе не было ніводнай аблачынкі. Хлопчык адкаркаваў бляшанку і паспрабаваў фарбаваць жалезныя пруткі. Фарба клалася камякамі. Як ён ні стараўся, як ні намагаўся, атрымлівалася ў яго кепска — так кепска, хоць ты вазьмі ды заплач. Хлопчык заплакаў. Тут зямля і рассунулася, а з глыбокае магілы ўзняўся сівы прадзед: «Не плач. Я навучу цябе класці фарбу акуратна і роўна». Нябожчык дастаў з кішэні маленечкую бутэльку з залацістым пакостам, развёў ім густую фарбу, і яна пачала класціся на метал акуратна і роўна. Хлопчык з прадзедам хутка скончылі працу. Блакітная агароджа радавала вока. «Ты пра мяне нікому не кажы!» — папярэдзіў праўнука нябожчык. Хлопчык акуратна склаў пэндзаль і бляшанку ў папяровы пакет: «Не скажу, бо не паверадь».

**Белыя валасы**

Жанчыне прыснілася, нібыта яна маладая, і быццам любіцца яна з гожым хлопцам. Той цалуе яе і гладзіць па Белых валасах. Так ён пяшчотна ласціў яе валасы, што хоць ты і не прачынайся зусім. Прахапілася жанчына, не хацелася ёй, а ўсё ж прачнулася, абмацала сваю светлую галаву, а на ёй дзве касы заплецены. Звечара яна расчасала валасы, ды і косы не заплятала гадоў з дзесяць, а тутака косы. У наступную ноч жанчына зноўку сніла гарачыя любошчы і пяшчотныя хлапечыя рукі. Прачнулася яна ізноў з заплеценымі касамі. Абмацала сябе ўсю, косы абмацала і спалохалася. Так яна спужалася, што нават быламу мужу патэлефанавала і распавяла пра косы. Муж прыехаў, і яны разам абшукалі ўсю кватэру, але нічога падазронага не знайшлі. Тады муж параіў схадзіць да варажбіткі. Жонка саромелася ісці, але муж яе ўгаварыў. Варажбітка ўважліва агледзела косы і абвясціла, што жанчына любошчылася з маладым Дамавіком. Маўляў, толькі малады Дамавік можа так ласкава заплятаць косы з Белых валасоў. А каб ён болей не прыходзіў і не палохаў сваімі любошчамі жанчыну, варажбітка прапанавала абрэзаць валасы і пагаліць галаву. Жанчыне было шкада свае валасы, але і з Дамавіком любіцца больш не хацелася. Белыя валасы варажбітка зрэзала і спаліла. Муж акуратна пагаліў галаву сваёй

былой жонкі. Да паголенай жанчыны Дамавік не прыходзіў, і нават калі валасы адраслі, ён не з'явіўся ў жаночым сне.

### Залацістая рыба

Разбіўся байкер. На вялікай хуткасці не ўпісаўся ў паварот і ўляцеў у цагляную сцяну. На пахаванне назбіралася процьма народу. За хаўтурным сталом людзі сядзелі доўга. Пілі, закусвалі, цёплыя словы казалі пра нябожчыка, плакалі. Маці байкера была несуцешнай: адзіны сын, адзінае дзіця пакінула яе. Паціху-патроху людзі разышліся. За сталом засталася толькі маці нябожчыка і ягоны найлепшы сябар — Валодзя. Так яны і сядзелі ўдваіх за непрыбраным сталом. Быў чэрвень, быў доўгі, задушлівы, цяжкі дзень. Быў доўгі стол, пазастаўляны бутэлькамі ды пачастункамі. У самым цэнтры таго стала стаяла вялікая талерка з засмажанай Залацістай рыбаю. Тую рыбіну ніхто нават не пакаштаваў. Валодзя хацеў ужо пайсці, але маці байкера ўгаварыла яго пасядзець з ёю яшчэ якую гадзінку. Сядзелі яны ў цемры. За вокнамі сцямнела, а ніхто святла не запаліў. Сядзелі яны і маўчалі. Раптам аб талерку задзынькаталі нож з відэльцам, і чужы старэчы голас сказаў: «Смачна! Смачная ў іх атрымалася Залацістая рыба!» Маці нябожчыка ўскочыла з крэсла, падляцела да выключальніка і запаліла святло. Акром збялелага Валодзі, за сталом нікога не было. Талерка, на якой ляжала Залацістая рыба, стаяла пустая.

### Чорная скарбонка

Стары мужчына ўзяў сабе маладую жонку. Доўга выбіраў, перабіраў, нарэшце выбраў дзяўчыну з анёльскай знешнасцю і вяселле згуляў. Пражыў ён з жонкаю месяцы са тры, а тады яна папрасіла мужа паехаць да яе маці. Прыехалі, павячэралі, пагутарылі і спаць ляглі. Не спалася зяцю на цешчынай канапе. Ляжаў ён ціха і ўдаваў нібыта спіць, а тут бачыць: жонка ўстала і крадком пайшла са спачывальні ў вялікі пакой, дзе яе ўжо маці чакала. «Матуля, як жа даўно я сапраўднага мяса не ела!» — «Зараз, дачушка мая, злётаем і паямо свежаніны…» Цешча дастала з шафы Чорную скарбонку. У той скарбонцы ляжала чартадзейная мазь. Жанчыны наклалі той мазі сабе на рукі і ступакі ды вылецелі ў адчыненае акно. Мужчына не збаяўся чартадзейства ды таксама намазаў сабе босыя ступакі і далоні. Адчуў ён лёгкасць неверагодную і паляцеў услед за жанчынамі. Тыя прыляцелі ў радзільню, дзе ў цяжарнай, проста з жывата, укралі дзіцятка. Замест дзіцяці вядзьмаркі запхалі ў жаночы жывот свае начныя кашулі. Голыя, з паўжывым немаўляткам у руках яны паляцелі ў лес. Там, на паляне, расклалі вогнішча. На вялікім агні чартадзейкі падсмажылі немаўлятка і зжэрлі. Як сталі людажэркі вогнішча раскідаць, мужчына паляцеў назад у цешчыну кватэру.

Толькі ён лёг на мулкую канапу, толькі коўдраю накрыўся, а тут ўжо і людажэркі ў акно заляцелі. У тую ноч мужчына так і не заснуў, а раніцай сказаў, што яму тэлефанавалі з працы, і трэба тэрмінова вяртацца. Жонка намервалася паехаць разам з ім, але мужчына параіў ёй застацца, а яшчэ папрасіў больш ніколі не турбаваць яго. «Што ж табе не спадабалася ў маёй матулі?» — анёльскім голасам запыталася жонка. «Чорная скарбонка!»

**Шэрая цагліна**

Было тое даўно, тады яшчэ вакол Кальварыйскіх могілак стаялі аднапавярховыя драўляныя дамкі, абсаджаныя яблыневымі садамі. Пасярод тых дамоў ляжаў невялічкі пляц, на якім узвышалася цагляная прадуктовая крама. Тамтэйшыя мужчыны і хлопцы набывалі ў ёй мацаванае віно. Выпівалі яны тут жа ж, у садах, пад яблынямі. Пілося і гаварылася там лёгка. Аднаго разу паспрачаўся хлопец з мужчынамі на пляшку віна: хлопец пайшоў у заклад, што а дванаццатай ночы зойдзе ён на могілкі ды прынясе цагліну з паўразбуранага касцёла. Сказаў і зрабіў. Прынёс ён Шэрую цагліну, выпіў выспрачанае віно і сышоў, так нікому нічога не расказаўшы. З той ночы пачаў гэты хлопец хварэць. Твар ягоны пашарэў, вочы згаслі, плечы сагнуліся, цела высахла. Маці і так да яго і гэтак, а ён маўчыць. Пачала маці плакаць, і так яна горка плакала, так галасіла, што сын не вытрываў, пашкадаваў маці і распавёў праўду пра свой паход на Кальварыйскія могілкі. Калі прыйшоў той хлопец да касцёла, пачаў каля абрынутае сцяны цагліну шукаць, нахіліўся, з зямлі высунулася белая рука і схапіла яго за горла. Пералякаўся хлопец, знямеў і здранцвеў. Тым часам з зямлі выйшла белацелая голая дзяўчына: «Дам я табе Шэрую цагліну і адпушчу, і спрэчку з сябрукамі ты выйграеш. Толькі паабяцай, што возьмеш мяне ў жонкі!» Хлопец паабяцаў могілкавай прыгажуні ўзяць яе ў жонкі. «Буду чакаць цябе! А паспрабуеш падмануць, дык і памрэш неўзабаве!» — сказала на развітанне дзяўчына і пад зямлю сышла. Пачуўшы такое ад сына, маці пабегла да папа. Поп паверыць не паверыў, але на могілкі схадзіць пагадзіўся. Хлопец з маці і поп пайшлі ноччу на Кальварыйскія могілкі, падышлі яны да касцёла, тут ім насустрач проста з-пад зямлі выйшла голая прыгажуня ў белым вэлюме. Поп паспрабаваў быў адхрысціцца ад спакушальніцы, але ні крыж, ні малітва на яе ніяк не паўздзейнічалі. Бачачы такія безвыходныя варункі, поп надзеў на дзяўчыну свой палітон і дазволіў хлопцу забраць дзяўчыну дадому. Так той спрачальнік і стаў жыць з жонкаю, знойдзенаю на Кальварыйскіх могілках. Праз год у іх нарадзіўся хлопчык. Бацькі вырашылі дзіця пахрысціць і сабраць на хрэсьбіны сваякоў. «Трэба ж і маіх сваякоў пазваць!» — прапанавала зазвычай

маўклівая жонка. «А што ў цябе за сваякі, і дзе яны жывуць?» — «Тут недалёка жыве мая маці, жыве яна ў сваім доме на вуліцы Харкаўскай…» Муж з жонкаю паехалі на тую Харкаўскую, зайшлі ў дом і пабачылі старую кабету, якая гушкала дзіцячы вазок. Зазірнулі госці ў той вазок, а тамака замест дзіцяці ляжала Шэрая цагліна. «Мама, я вярнулася!» — сказала падземная прыгажуня і заплакала. Толькі яна заплакала, як Шэрая цагліна прапала. Маці пазнала і прызнала сваю дачку, і ўнука яна хрысціла разам з вялікай сям’ёю. На хрэсьбінах дасведчаныя людзі казалі, што гэта мерцвякі з Кальварыйскіх могілак скралі маленькую дзяўчынку. Маці пакінула вазок з дзіцяткам пад крамаю, а мерцвякі дзіця знеслі, а замест яго пакінулі Шэрую цагліну. Дзяўчыну мерцвякі пратрымалі пад зямлёю ажно дваццаць гадоў… Хтосьці верыў, хтосьці не верыў, але напіліся на тых хрэсьбінах усе. Было тое, праўда, вельмі даўно, калі вакол Кальварыйскіх могілак яшчэ стаялі аднапавярховыя драўляныя дамкі ў яблыневых садах.

## Белы абрус

У мужчыны захварэў сын. Да якіх толькі дактароў ні вазілі хлопчыка, якіх толькі лекараў ні выклікалі, а рады хваробе даць не маглі. Мужчыну адчай ахапіў, што і зразумела, калі адзіны сын проста на вачах паміpae, а ты ніяк дапамагчы не можаш. Мужчыну ахапіў такі глыбокі і чорны адчай, што ён вазьмі ды скажы: «Д’яблава сіла, бяры, што заўгодна, а хлопчыка майго выратуй!» Тут і пачуў мужчына голас: «Вазьмі Белы абрус, графін гарэлкі і дзве гладкія празрыстыя чаркі. Пайдзі на могілкі, накрый Белым абрусам стол, пастаў на яго графін з чаркамі і чакай. Ісці трэба неадкладна!» Паслухаў мужчына той голас і пайшоў пасярод ночы на могілкі. Знайшоў там стол, які стаяў каля магілы ягонага дзеда, заслаў Белы абрус, паставіў на яго графін гарэлкі, чарачкі паставіў і стаў чакаць… (Вот жа ж чорт, казку не даюць табе даказаць. У дзверы звоняць. Хто? Вадаправодчыкі! Прыйшлі здымаць паказчыкі вады. Знялі, лічбы на паперцы пазапісвалі. Далі распісацца. Сышлі… Чорт іх носіць так позна. Добра, што цвярозыя. Мусіць, з самай раніцы выпілі і ўдзень праспацца паспелі. Слухай далей…) Прастаяў мужчына над Белым абрусам сам не ведае колькі. Тутака чуе, што гарэлка ў чарку наліваецца. Прыглядзеўся, паазіраўся, да самых чарак нахіліўся. Нідзе нікога, і чаркі стаяць пустыя. Тут голас загучаў з цёмнага ніадкуль: «Не на сваім месцы жывеш! Не ў тым доме ты кватэру купіў. Не падабаешся ты мне — Дамавіку тутэйшаму. За пачастунак дзякуй і асобнае дзякуй за Белы абрус! Таму дазваляю табе разам з сынам перабрацца ў іншае месца!» Мужчына хутка, бо зусім танна, прадаў кватэру і

пераехаў жыць у новы раён. А сын ягоны, дарэчы, паправіўся ў тую ж ноч, калі мужчына схадзіў на могілкі з Белым абрусам.

**Чарнавокі хлопчык**

Хлопчыку захацелася схадзіць на канцэрт. Нікому нічога не сказаўшы, ён сабраўся і пайшоў на святочны канцэрт, што зладзілі ўлады на Дзень незалежнасці. Чарнавокі хлопчык лічыў, што мае самае непасрэднае дачыненне да гэтага свята. Ніхто яго не пераконваў у адваротным, бо Чарнавокі хлопчык, нягледзячы на свае маладыя гады, даўно вёў самастойнае жыццё. На канцэрце ён спяваў і танчыў разам з паўмільённым натоўпам. Наскакаўшыся і накрычаўшыся да стомы ў нагах і пяршэння ў горле, хлопчык пайшоў з канцэрта. Не прайшоўшы і сотні метраў, ён абмацаў сваю патаемную кішэнь, у якой хавалася самаробная граната, і не знайшоў яе. Хлопчык памкнуўся быў вярнуцца на канцэрт, але перадумаў. Дзе ж ты цяпер знойдзеш тую гранату? Як ты будзеш шукаць самапальную гранату пад нагамі ў паўмільённага натоўпу? Хлопчык вырашыў, што раніцаю знойдзе згубленае. Тут і грымнуў выбух. Аблаяўшы самога сябе апошнімі цёмнымі словамі, Чарнавокі хлопчык пабег уздоўж рэчкі. Не спыняючыся, ён дабег да Траецкага прадмесця, пад мостам перабег вуліцу Багдановіча, дабег да вуліцы Купалы і толькі там, пад каштанамі, спыніўся на пару хвілін, каб перавесці дух. Аддыхаўшыся, Чарнавокі хлопчык перайшоў вуліцу Янкі Купалы і заглыбіўся ў цёмны сквер, які стаіць каля галоўнага штаба міністэрства абароны. Там ён выйшаў да круглай паляны і падышоў да пастамента, узлез на яго і стаў, высока ўзняўшы руку з гранатаю. Перад тым, як ён канчаткова знямеў у скульптурнай позе, у галаве Чарнавокага хлопчыка — Марата — прамільгнула яшчэ адна думка: «Добра, што другую гранату не згубіў, і яна не ўзарвалася і не паназабівала дзяцей».

**Чорнае вяселле**

У мястэчку Крутагор’е жылі брат з сястрою. Бацькі іх памерлі і пакінулі дзецям у спадчыну вялікі дом. Брат хацеў той дом прадаць і з’ехаць у сталіцу, а сястра была супраць. Ёй было шкада прадаваць бацькоўскі дом з вялікім садам. Сварыліся яны праз той продаж-няпродаж гады тры — так сварыліся, што ледзь не біліся. Клялі яны адзін аднаго самымі чорнымі праклёнамі. «Як жа ты мне абрыдла, гадзіна ты правінцыйная і балотная, а не сястра родная! Каб ты як хутчэй за бацькамі ўслед выправілася! Жыць з табою пад адным дахам я больш не магу, сіл маіх на гэта няма! Каб ты… Каб жа ты да раніцы не дажыла!» — так накрычаў брат на сваю родную сястру, бразнуў дзвярыма і сышоў. Ён быў музыка, граў на трубе. Яго на вяселлі запрашалі, бо музыка ён быў адметны. Прыйшоў ён тым разам

на вяселле, пайграў, выпіў і ўжо дамоў сабраўся, як да яго падбег маладзенькі хлопец і папрасіў пайграць яшчэ на адным вяселлі. Музыка не стаў адмаўляцца, сеў з хлопцам у машыну, і паехалі яны з Крутагор'я ў бок возера. Пераехалі яны мост і спыніліся, бо там, на беразе возера, сталы стаялі, а за тымі сталамі вяселле гуло. Цэлую ноч музыка прайграў на тым азёрным вяселлі, а пад самую раніцу, як толькі першы прамень сонца дакрануўся да азёрнай вады, вяселле тое пачарнела: людзі зрабіліся чартамі ды разбегліся, сталы сталі валунамі, а пачастункі парабіліся конскімі яблыкамі ды каравякамі. Трубач, такое пабачыўшы, пасівеў. Выходзіў ён з дому чарнявым стрункім маладзёнам, а вярнуўся сівым сагнутым дзядком. Вярнуўся ён у бацькоўскі дом і знайшоў сваю сястру ў пятлі. Пакуль ён граў на першым вяселлі, яго сястра задавілася, і чарты паспелі зладзіць другое Чорнае вяселле з нявестай-самазабойцай, выклятай родным братам. Трубач сястру пахаваў, дом прадаў і з Крутагор'я з'ехаў у далёкі свет. І ніхто яго не пашкадаваў і не шкадуе.

## Шэрая лялька

Стары плакатыст атрымаў ад дзяржавы майстэрню ў невялічкай вежы, што над крамаю «Каравай» на пляцы Перамогі. Перш-наперш ён запрасіў у майстэрню рабочага, які пагадзіўся хутка зрабіць рамонт. Ён сапраўды імпэтна і пачысціў усё, і пафарбаваў, і смецце будаўнічае за сабою павыносіў. Выдатны атрымаўся рамонт — вока ажно радавалася. А як надышоў час расплачвацца з рабочым, дык плакатыст стаў хітрадушнічаць: маўляў, грошай пакуль няма, маўляў, выплачу па частках. Ну і выплачваў месяцы са тры. Рабочы ажно чаравікі стаптаў, ходзячы ў вежу над «Караваем» па тыя грошы. «Ты яшчэ пашкадуеш, стары скнара, што мяне сто разоў прымусіў па нейкія капейкі хадзіць!» — на развітанне пагрозліва сказаў рабочы сквапнаму плакатысту. Стары толькі яхідна пахіхікаў. Дарэмна ён з'едліва пахіхікваў, бо пачалі ў майстэрні дзіўныя рэчы адбывацца. Як толькі выключалася святло, дык распачыналіся тамака дзікунскія танцы. Спачатку грала ціхая музыка, паступова яна рабілася грамчэйшай і грамчэйшай, ажно пакуль не ўзмацнялася да аглушальнасці, а тады з'яўляліся калматыя людзі і скакалі, і крычалі, і раўлі, і білі-грукаталі падкаванымі абцасамі ў падлогу. Запаліш святло — прападуць кудлатыя танцоры, як і не было нікога і нічога. Ціша! Плакатыст усіх суседзяў паабыходзіў, але ніхто нічога не чуў і нікога не бачыў. Танцы ладзіліся выключна ў ягонай цёмнай майстэрні. Праз гэтыя танцы з аглушальнай музыкаю плакатыст ледзь не звар'яцеў, ледзь розум не страціў. Давялося яму наноў адшукаць рабочага і прасіць напраміль бог, каб спыніў ён, калі зможа, тыя чортавы танцы. «Заплаціш — спыню!» — паабяцаў злы рабочы.

Плакатысту давялося па другому разу заплаціць за той жа ж рамонт. Рабочы падняўся на вежу, зайшоў у майстэрню, адарваў ад сцяны плінтусную дошку і дастаў з-пад сцяны папяровую Шэрую ляльку. «Ты, стары скнара, усё жыццё думаў ды спадзяваўся, што ты мастак абалдзенны. Лайно ты на дошцы, а не мастак. Сапраўдны мастак я, бо магу з простай абгортачнай паперы скруціць Шэрую ляльку, якая зладзіць такія танцы з музыкаю, што галава адарвецца!»

**Залаты грабянец**

Калі паехаць з Браслава ў Друю, дык, не даязджаючы да Слабодкі, праваруч ад дарогі можна ўбачыць невялікае азярцо. У тым азярцы вядуцца русалкі. Тамтэйшы краязнаўца настаўнік Віктор пра тых русалак сабраў і назапісваў цэлы тоўсты сшытак розных аповедаў. Людзі расказвалі, як золатавалосыя дзеўкі заказытвалі відных мужчын, як палохалі дзяцей і як тапілі п’яных. Віктор мне казаў, што і сам аднойчы бачыў тых русалак. У ясную месячную ноч яны сядзелі на беразе азярца і адна адной Залатым грабянцом расчэсвалі доўгія шаўкавістыя валасы. Хацеў Віктор падысці да іх бліжэй, але русалкі, пабачыўшы чужаніцу, увобмільг схаваліся пад вадою. Апошнім часам яны пачалі хавацца ад людзей, бо пазамінулым летам адзін кульгавы электрык са Слабодкі забіў русалку. Ён яе каменем па галаве ўдарыў, з вады выцягнуў, на бераг паклаў і ў Слабодку пабег, каб людзей паклікаць ды мёртвую жанчыну-рыбіну паказаць. Людзі ішлі глядзець, а электрык паперадзе кульгаў і ўсё распавядаў пра русалчын вялікі хвост з чорнай пералівістай лускою. Прыйшлі людзі да азярца, а мёртвай русалкі на беразе не знайшлі. Пэўна ж, іншыя русалкі яе паспелі схаваць пад глыбокай вадою. Кульгаваму ніхто б і не паверыў, каб не Залаты грабянец, які ляжаў акурат на тым самым месцы, дзе электрык пакінуў забітую русалку.

**Шэры шынель**

Малады чалавек вырашыў як найдалей зазірнуць ва ўласную будучыню. Нічога лепшага, як звярнуцца да варажбіткі, не прыдумалася. Чарнавокая варажбітка паглядзела ў крыштальны шар, заплюшчыла вочы і механічным голасам пачала прарочыць: «Прыйдзеш дамоў, падыдзеш да шафы, з той шафы дастанеш дзедаву апранаху. Надзенеш ты тую апранаху і зробішся непераможным ваяром. Ворагі падацьмуць прад табою на калені, а сябры насіцьмуць цябе на руках...» Развітаўшыся з варажбіткаю, малады чалавек не стаў адкладаць у далёкую скрыню сваё цудоўнае пераўтварэнне ў вялікага ваяра. Дома ён дастаў з шафы Шэры шынель і надзеў яго. Дзедаў шынель быў замалы, рукавы кароткія, у плячах вузка. Настойлівая спроба зашпіліць гузік прывяла да таго, што на спіне шынель разарваўся напалам. Малады чалавек, злуючыся, сцягнуў з

сябе парваную апранаху і кінуў яе на падлогу. Якую хвіліну ён думаў, ці можна на што патрэбнае пусціць кавалкі сукна, але нічога цікавага не прыдумаўшы, склаў Шэры шынель у пакет і занёс на сметнік. Гэтаму маладому чалавеку чамусьці больш не хочацца заглядаць далёка ў будучыню.

**Чырвонае крэсла**

Позна ўвечары да мужчыны зайшоў сусед, сказаў, што заўтра ў яго дзень народзінаў і трэба схадзіць да знаёмых ды пазычыць крэслы, бо заўтра збярэцца шмат народу, і лепей загадзя падрыхтаваць крэслы. Сусед так упэўнена і пераканаўча казаў пра крэслы, што мужчына нават і не насцярожыўся, і не спытаў: «Чаму ты ў мяне тыя крэслы не пазычыш?» Зрэшты, можа, на свой дзень народзінаў чалавек вырашыў паставіць якія адмысловыя крэслы. Хто іх, гэтых людзей, разбярэ з вычварэнскімі жаданнямі ды маньякальнымі памкненнямі. Прыйшлі мужчыны да знаёмых, узялі тры крэслы: два звычайныя, а адно выбітнае — цяжкае і вялікае. Колер у таго выбітнага крэсла таксама быў надзвычайны — запамінальна-чырвоны. Нясе мужчына Чырвонае крэсла і адчувае, што сілы хутка пакідаюць яго, крэсла робіцца ўсё цяжэйшым ды цяжэйшым, нібыта якім свінцом наліваецца. Тут сусед і прапаноўвае прыпыніцца, кажа: «Пастаў Чырвонае крэсла, сядзь на яго ды адпачні». Мужчына паслухаў суседа, сеў на Чырвонае крэсла, і так яму захарашэла, што ён ажно вочы заплюшчыў. Сядзіць ён і раптам адчувае, што пачаў мерзнуць, што холадна зрабілася навокал, няўтульна зрабілася і золка. Расплюшчыў мужчына вочы і бачыць, што сядзіць ён не на Чырвоным крэсле, а сядзіць, ногі звесіўшы, на парапеце моста. Унізе цёмная вада плыве, павярніся ты не так — і паляціш у ледзяныя хвалі кастрычніцкай рэчкі. Асцярожна мужчына злез з парапета, на слабых нагах вярнуўся ў свой дом і пастукаў у дзверы да суседа. Той доўга не адчыняў — спаў, ноч на двары. Але ж мужчына грукаў і званіў настойліва. Калі сусед адчыніў дзверы і выслухаў гісторыю пра Чырвонае крэсла, дык моцна здзівіўся, бо ніякага дня народзінаў у яго заўтра няма, і па крэслы ён нікуды не хадзіў. Каб зняць стрэс, сусед прапанаваў мужчыну выпіць. Яны выпілі дастанай з лядоўні гарэлкі і пагадзіліся на тым, што гэта дамавік абярнуўся суседам і пасадзіў мужчыну на мост.

**Чырвоны шалік**

Ты, пэўна, бачыў яго — невысокага лысаватага таўстуна ў доўгім Чырвоным шаліку. Ён увечары па праспекце Незалежнасці шпацыруе. Ад пляца Перамогі ён ідзе ажно да пляца Незалежнасці, а там заходзіць у Чырвоны касцёл. Пад саборнымі скляпеннямі ён спрабуе замаліць вялікі грэх. А грэх у яго такі: на Вялікдзень родная

маці запрасіла сына-таўстуна ў госці. Чакала яна чакала, што сын з нявесткаю прыйдуць, не дачакалася, наладавала валізку гасцінцаў і сама да дзяцей выправілася. Сын, як пабачыў праз акно, што маці да іх ідзе, дык і загадаў жонцы схаваць назад у духоўку смажаны кумпяк. «Змяя да нас паўзе, хавай ад яе мяса, а то прыпаўзе і ўсё з'есць!» — так лысы таўстун пра родную маці сказаў. Жонка паслухалася мужа і спод са свіным кумпяком у духоўку засунула. Маці аддала дзецям велікодныя пачастункі, павіншавала са святам, якую хвілінку пастаяла ў парозе ды і пайшла. Нават шклянку гарбаты выпіць адмовілася. Нявестка адчыніла духоўку і пабачыла, што на смажаным кумпяку слізка-чырвоная гадзюка ляжыць. Крыкам паклікала яна мужа, каб на бліскучую змяюку глянуў. Толькі таўстун нахіліўся да пліты і ў духоўку зазірнуў, як змяюка скочыла на яго, зубамі ўчапілася ў кадык і вакол сытай шыі абкруцілася. Як той мужчына ні спрабаваў сарваць з горла гадзюку, а нічога ў яго не атрымлівалася. Заматаўся ён шалікам, каб зырка-чырвоную змяюку ніхто з чужых не пабачыў, і да маці паляцеў выбачацца. Прыбег, а маці ўжо на ложку выпрасталася і ляжыць нежывая ў святочнай вопратцы. Колькі ён ні прасіў прабачэння ў нябожчыцы за абразу і пашкадаванае мяса, але так ніякага даравання і не выпрасіў, так і засталася на ягонай шыі кравяніста-чырвоная гадзюка. Акром жонкі і самога таўстуна, ніхто тую змяюку не бачыў і не бачыць. Але сквапны таўстун усё адно без Чырвонага шаліка на вуліцы не паказваецца. Раз на тыдзень ён абавязкова заходзіць у Чырвоны касцёл і просіць Божую Маці, каб зняла з ягонай шыі даўгахвостую гадзіну. Абазнаныя людзі кажуць, што толькі маці-зямля можа дараваць яму такі грэх, але да маці-зямлі лысаваты таўстун ісці ўсё яшчэ не хоча. Так і ходзіць у Чырвоным шаліку ён па праспекце Незалежнасці, так і спадзяецца ўсё на ласку Божай Маці.

### Ружовыя радзімкі

У мужчыны было шмат радзімак, а ў жанчыны іх зусім не было. Мужчыну спадабалася жанчына без радзімак, а жанчыне глянуўся мужчына з Ружовымі радзімкамі, і яны закахаліся адзін у аднаго. Яны так цалаваліся і кахаліся, так абдымаліся і прыціскаліся, так перапляталіся і любіліся, што палова Ружовых радзімак нейкім чынам узяла і перапаўзла з мужчыны ды на жанчыну, але праз гэта каханкі не разлюбілі адзін аднаго.

### Шэры кот

Мужчына дабудаваў на лецішчы дом і запрасіў свайго брата пафарбаваць дах. За суботу той дах зрабіўся нябесна-блакітным; вока цешылася, гледзячы на яго. Браты вырашылі адзначыць падзею і селі выпіваць. «Ты ні ў кога не верыш?» — спытаў гаспадар. «Ні ў чорта, ні

ў Бога я не веру!» — запэўніў яго госць. »Добра, тады ты кладзіся спаць каля дзвярэй, а я лягу пад акном…» Дапілі мужчыны гарэлку і спаць леглі так, як гаспадар прапанаваў. Толькі святло патушылі, толькі леглі, як госць убачыў Шэрага ката. Вялізны кот скочыў ад дзвярэй на грудзі да госця, паставіў пярэднія лапы яму на шыю і пачаў душыць. І так чалавек спрабаваў скінуць Шэрага ката і гэтак спрабаваў, а рады даць не змог. Так бы і памёр, каб святло не загарэлася. Як толькі лямпачка ўспыхнула, кот знік. «Ну як ты? Бачыў Шэрага ката?» — спытаў, смеючыся, гаспадар. «Хіба ты мог бачыць мой сон?» — здзівіўся госць. «Ды не сон гэта быў! Гэта дамавік абярнуўся ў Шэрага ката і душыў цябе, а ты стагнаў і ўскрыкваў на ўвесь дом. Каб я святло не запаліў, дык і прыдушыў бы цябе дамавік, бо ты на ягонай дарозе спаць лёг…» — «Дзе ты мяне паклаў, я там і лёг!» — «А паклаў я цябе на дамавіковай дарозе, каб ты яго пабачыў і паверыў…» Госць аблаяў гаспадара і хацеў пайсці, але той угаварыў яго перасунуць ложак ад дзвярэй пад акно і заставацца спаць. Так яны і зрабілі, перасунулі ложак і зноўку спаць леглі, і Шэры кот больш не з'явіўся. Праўда, госць не даў брату пагасіць святло. Так яны і праспалі ўсю ноч пад зыркай лямпачкаю і галубова-нябесным дахам.

**Чорныя адмычкі**

Хлопец вярнуўся з ліцэя, кінуў бацькам, якія збіраліся палуднаваць, «прывітанне» і прайшоў у свой пакойчык. Там яго напаткала поўная неспадзяванка. За ягоным камп'ютарам, на ягоным крэсле сядзеў чалавек у скураной куртцы з бабровым каўняром. Каб на вуліцы не стаяла ліпеньская задуха, скуранка не выглядала б так недарэчна. А каб мужчына не нагадваў абліччам бацьку хлопца, той бы адразу закрычаў з перапалоху. Хлопец не закрычаў, а павольна спінаю наперад выйшаў з пакойчыка. Акрамя скуранкі, яшчэ адна рэч моцна ўразіла хлопца. Незнаёмец пакручваў у руцэ велікаватае сталёвае кольца з Чорнымі адмычкамі. Адмычкі яшчэ дробна пазвоньвалі, калі хлопец запытаўся ў маці з бацькам: «Хто гэта ў нас?» — «Дзе?» — бацькі, відавочна, не разумелі пытання. «У маім пакоі, за маім камп'ютарам сядзіць і палясквае Чорнымі адмычкамі!» Бацькі зайшлі ў сынаў пакой, але чалавека ў скуранцы тамака ўжо не было. Ні маці, ні бацька не паверылі б сыну, каб не кольца з Чорнымі адмычкамі. Яно ляжала на крэсле. «Такі інструмент нават з анёла можа зрабіць кватэрнага злодзея!» — кінуў заўвагу бацька. Хлопец спакусіўся і ўзяў Чорныя адмычкі. «Лепш бы ты іх не чапаў!» — пачала ўшчуваць маці. «Я толькі пагляджу, якія яны ў справе…» У кватэры не знайшлося ніводнага замка, які б мог супрацьстаяць Чорным адмычкам. Нават гадзіннікі разбіраліся і збіраліся тымі адмычкамі на раз-два-тры. «Не ведаю, хто там сядзеў за маім працоўным сталом,

але падарунак ён мне пакінуў цудоўны!» — падсумаваў хлопец, скончыўшы тэставанне Чорных адмычак. Папалуднаваўшы з бацькамі, ён зачыніўся ў сваім пакойчыку. Хлапечае ўяўленне пачало выбудоўваць планы адмыкання сейфаў, поўных каштоўных рэчаў і каштоўных папер, як ён убачыў у люстэрку чалавека ў скураной куртцы. Незнаёмец пяшчотна пагладзіў бабровы каўнер і жэстам паклікаў хлопца падысці да люстэрка. Хлопец хацеў было адмоўна хітнуць галавою, але нейкая сіла штурханула яго ў плечы так, што думкі пра супрацію зніклі. «Я тутака выпадкова пакінуў Чорныя адмычкі. Дай іх мне, і ўсё скончыцца добра. Ведаеш, я — тутэйшы дамавік. Без адмычак мне працаваць цяжкавата. Канешне, я магу і праз сцяну прайсці, але куртачка мая скураная хутка папсуецца ад такіх пераходаў. Давай адмычкі! Хутка! Узяў, паднёс і аддаў! Цяпер ты забудзеш усё, што сёння бачыў! Бацькі твае гэтаксама забудуцца на ўсё, што сёння бачылі і чулі!» Хлопец колькі хвілін паразглядаў у люстэрку сваё адлюстраванне, а потым гучна сказаў: «Мама, тата, мы палуднаваць збіраемся? Ці не?»

**Зялёна-зялёныя вочы**

У мястэчку Крутагор'е жыла знакамітая чарадзейка. Не было такой хваробы, якую яна б не ўтаймавала. На які час яна розныя хваробы перапыняла, іншае пытанне. Але крутагорская вядзьмарка дапамагчы магла любому чалавеку. Па дапамогу людзі прыходзілі ды прыязджалі з розных краёў, неслі ды везлі яны падарункі; так што чарадзейка была адной з самых заможных у Крутагор'і. Дом яна выбудавала прасторны, грошы ў тым доме вяліся, нават машына ў яе была з шафёрам, апранутым у адмысловую форму. Ды дабро без бяды не жыве. Мела местачковая вядзьмарка дачку, а дачка тая была дурніцаю. Яе нават у звычайную школу не ўзялі, а ў спецінтэрнат адзіную дачушку маці здаваць адмовілася. Дурніца пры маці жыла, гуляла ў прасторных пакоях пад высокай столлю, зрэдзьчасу прагульвалася ў садзе і нават за браму ніколі не выходзіла. Прыйшоў час, і чарадзейка сабралася паміраць, а памерці не змагла, бо нікому сваіх ведаў перадаць не здолела. Спрабавала яна сваю дурніцу вучыць варажбе, ды нічога з той справы не атрымалася. Каб пакінуць наш свет, чарадзейка абярнулася ў кацянятка і села пад кола сваёй жа машыны. Шафёр кацянятка не заўважыў, крануўся з месца і расціснуў жывёлу. А з-пад машыны яму давялося выцягваць ужо не кацянятка, а сваю знявечаную гаспадыню. Ніхто ў мястэчку не стаў шафёра асуджаць, бо ўсе паверылі ягоным расповедам пра кацянятка, ды і сведкі былі ў яго надзейныя. А яшчэ чарадзейка-самазабойца адпісала на свайго шафёра ўсе свае грошы з умоваю, што ён будзе даглядаць дурніцу да самай яе смерці. Даглядаў шафёр

вядзьмарчыну дачку выдатна, бо ўсе яе бачылі ў садзе і на падворку ў святочных сукенках ды дарагіх чаравічках. Доўгія рудыя валасы ў той дурніцы былі заўсёды памытыя і расчасаныя. Каб хто з хлопцаў не ведаў пра яе слабы розум, мог бы ў яе нават і закахацца. Але пра душэўную хваробу дзявулі ведалі ўсе. Праз некаторы час местачкоўцаў занепакоіла тое, што шафёр пачаў співацца. Не было такога дня, каб ён у краме не ўзяў сабе бутэльку каньяку. І яшчэ адна з'ява турбавала публіку: усю ноч навылёт у доме чарадзейкі гарэла святло, і не электрычныя лямпачкі паблісквалі за шыбамі, а дрыжэла там трапятлівае полымя свечкі. Таму і наказалі местачковыя бабы п'янаватаму шафёру, каб пайшоў ён уночы да дурніцы і забараніў ёй свечку запальваць. Дурніца сказала шафёру, што яна ніякай свечкі не паліць, а запальвае свечку маці-нябожчыца. Шафёр вырашыў застацца і пачакаць мёртвую чарадзейку. Ну які ў п'янага мужчыны розум? Як толькі сцямнела на вуліцы, дзверы ў дом адчыніліся і нехта нябачны галасна заплакаў у цемрадзі. Дурніца сказала, што гэта плача яе маці, бо баіцца шафёра, які задушыў яе машынаю. Шафёр раззлаваўся на дурніцу і сказаў, што неадкладна пойдзе на могілкі і загоніць у магілу крутагорскай чарадзейкі асінавы кол. На п'яны розум шафёру падалося гэта найпатрэбнай і неадкладнай справаю. Дзе ён там у лесе ды пасярод ночы асіну адшукаў, адно д'ябал ведае. Але ж адшукаў! Пэўна, ён даўно наважыўся кол у капец загнаць і асіну загадзя прыгледзеў, і сякеру прыхапіць не забыўся. Так што і гадзіны не прайшло, як асінавы кол у капцы вядзьмаркі тырчэў. І добра, што ён там тырчэў, бо менавіта гэты свежы кол уратаваў шафёра ад турмы. Пакуль шафёр валэндаўся на могілках, дурніца вырашыла, не чакаючы маці, сама запаліць свечку. Ну які ў хворай розум? Запаліць свечку яна запаліла, але незатушаную запалку паклала на льняны абрус. Той пачаў тлець, дурніца кінулася абрус тушыць ды перакуліла сподак са свечкаю на гардзіну. Полымя выкаціла ўвесь дом. Дурніца са свайго дома выбрацца не змагла, і згарэла яна жыўцом. Крутагорцы казалі, што гэта ёй пакута была такая за матчына чарадзейства ды вядзьмарства. Шафёра ніхто не асудзіў, ён яшчэ з год піў штодня, пакуль яго не падабрала адна перастарка. Пікць яна шафёра адвучыла хутка, і праз год у іх нарадзілася дзяўчынка з зялёнымі вачыма — такімі Зялёна-зялёнымі вачыма, як у знакамітай крутагорскай чарадзейкі.

### Чорны дзік

У заможнага рэстаратара была запаветная мара — упаляваць дзіка. Ён гады са два да таго палявання рыхтаваўся: ружжо набыў даражэзнае, вопратку прыдбаў адмысловую, з удачлівымі паляўнічымі пасябраваў і нават з кухарам дамовіўся, каб той свежаніны з дзіка

панасмажыў. Нарэшце ўсё было нарыхтавана-падрыхтавана і з усімі было дамоўлена-перадамоўлена, хіба што яшчэ сам дзік не ведаў пра грунтоўныя намеры рэстаратара. Толькі сабраўся рэстаратар з дому выходзіць, а ягоная жонка і кажа: «Не трэба табе, Лапа, сёння ў пушчу ехаць, не твае, Лапа, цяперака дні!» Ад такіх словаў у рэстаратара ажно мову заняло, ён ледзь стрымаўся, каб жонцы не гахнуць прыкладам ды па галаве. Не гахнуў, моўчкі з дому сышоў, сеў у машыну і з ветрыкам паімчаў у пушчу. Там на адным з вялікіх дубоў была зроблена хованка-лежбішча. У той хованцы трэба было і чакаць дзіка, які мусіў прыйсці па жалуды. Цэлую ноч рэстаратар прасядзеў на дубе, а пад самую раніцу прыйшоў пад той дуб Чорны дзік. Рэстаратар хацеў быў навесці ружжо ды стрэліць жывёліне паміж вачэй, але рукі не слухаліся Лапу. Чорны дзік узняў лыч ды пачалавечы сказаў: «Спаралізавала цябе, дружа! Скруціла цябе, беднага! Бывай, Лапа ты мой дарагі!» Паеўшы жалудоў, Чорны дзік спакойна патупаў у ранішнія туманы. Няўдачлівага паляўнічага знялі з дрэва толькі праз суткі. Яго не толькі спаралізавала, ён яшчэ і застудзіўся страшэнна — так застудзіўся, што праз два тыдні і памёр. Дарма ён жонку не паслухаў, бо не ягоныя тады былі дні, адназначна.

**Чырвоная папарацьь**

Адзін крутагорскі юнак вельмі любіў ездзіць на ровары ў грыбы. Ён ведаў запаветныя месцы уляску, каля рэчкі Рудзіца, дзе пад імхом хаваліся лісічкі. Ровар ён клаў пад вялікую елку, хаваў так, што, не ведаючы, і не ўбачыш. Назбірваў ён зазвычай цэлы кошык пругкіх лісічак і вяртаўся на досвітку. Аднаго разу юнак вырашыў вярнуцца з грыбоў як раней, таму і выехаў з мястэчка зусім цёмным часам. Ён і ў лес прыехаў, яшчэ цёмна было. Паклаў ён ровар пад знаёмую елку, ды на мяккі мох сеў, каб святла дачакацца, бо дзе ты ў цемрадзі лісічкі пазнаходзіш — іх і светлай парою ў імхах ледзь відаць. Паціхупатроху неба пачало святлець. Юнак узяў кош і пайшоў па свае рудыя грыбы. Назбіраў ён цэлы кош досыць хутка, вярнуўся да елкі, а ровара пад ёю нямашака, ды і елка выглядала не зусім той елкаю, пад якой ровар пакідаўся. Юнак яшчэ раз абышоў невялічкі лес, нават на бераг Рудзіцы колькі разоў выходзіў, і ўсё навокал было нібыта і знаёмым, а быццам бы і чужое, з'інакшанае. Ухадзіўся юнак так, што вырашыў сесці на мох і адпачыць. Толькі юнак прысеў, як убачыў на суседняй палянцы мігатлівае чырвонае святло, нібыта нейкае невялічкае вогнішча хто расклаў. Пайшоў хлопец да той агністай чырвані і пабачыў Чырвоную папараць. Папараць па форме была звычайная, але колер у яе быў чароўна-чырвоны. Юнак, не асцерагаючыся, узяў ды і вырваў з зямлі надзвычайную расліну. Толькі ён сарваў Чырвоную папараць, як увесь навакольны свет

зрабіўся пазнавальным, зразумелым і празрыстым. Елку сваю вялікую юнак адразу ж пазнаў, і ровар пад ёю знайшоўся. Тутака з-пад моху і вылез даўгалыгі чорт. «Папа-рацы, тата-рацы, мама-рацы, баба-рацы, дзеда-рацы! — праспяваў даўгалыгі рознымі галасамі і дадаў: — Які ж ты дурань, якое ж ты боўдзіла Крутагорскае. Табе шчасце выпала, якое раз у жыцці здараецца. Чырвоная папараць выконвае самае запаветнае жаданне! А ты чаго пажадаў? Ровар знайсці! Такое ў цябе было самае вялікае жаданне. Знайшоў! Цяперака аддай мне расліну чароўную і кацісся адсюль на сваім іржавым ровары!» Чорт выхапіў з юнаковае рукі Чырвоную папараць і пад смарагдавы мох зашыўся. Юнак выкаціў ровар на бераг чыставоднай Рудзіцы. Паглядзеў на бруістую плынь, супакоіўся і падумаў: «Не магло таго быць, каб зялёная папараць ды зачырванела. Не магло і не было!»

### Белы знаёмы

Выпівалі даўнія сябры. Падчас пятнічнай вечаровай выпіўкі адзін аднаму і расказаў дзіўную гісторыю. Выпіваў той мужчына з іншым чалавекам. Прасядзелі яны вечар пад універсамам «Цэнтральны», а калі кавярня «Акварыум» зачынілася, перайшлі пад кінатэатр «Перамога» — тамака таксама неблагую вулічную кавярню пабудавалі ў скверыку. Пасядзелі мужчыны, папілі гарэлкі з апельсінавым сокам, пагаварылі пра жанчын і развіталіся. Тут да мужчыны і падышоў Белы знаёмы. «Як ты пасівеў!» — здзівіўся мужчына. «Час ляціць. Давай адзначым сустрэчу…» — «А давай!» — пагадзіўся п’яны мужчына. «Пайшлі, я табе новую кавярню пакажу…» Мужчына паслухаўся знаёмага, і яны пайшлі. Ідуць ды ідуць, а кавярні ўсё няма ды няма. Мужчына пачаў непакоіцца, бо перастаў пазнаваць вуліцы. Быццам бы і Мінск свой ведаў добра, а тут усё навокал чужое. Ды не проста чужое, а нейкае казачнае, яркае і зіхатлівае. «Слухай, я бачу, што ў цябе знаёмы твар, толькі як ні намагаюся, а дзе мы раней бачыліся, згадаць не магу. Ты хто?» — «Зараз ты мяне ўзгадаеш!» — непрыемным голасам сказаў Белы знаёмы і зарагатаў. Мужчына адчуў моцны ўдар. Ён расплюшчыў вочы і пабачыў ліхтарны слуп. З пабітага лба пацякла кроў. Мужчына абцёр разбітую галаву насоўкаю і агледзеўся. Стаяў ён на вуліцы Янкі Маўра. Такую гісторыю пра Белага знаёмага расказаў адзін сябрук другому ў гэтую пятніцу, а напрыканцы дадаў: «Цяперака я пад кінатэатр «Перамога» вечарам не хаджу, я нават удзень стараюся тое месца абысці пятай дарогаю…»

### Зялёная бутэлька

Дзяўчына бегла па сцежцы, якая ішла ўздоўж дарогі. Бегла дзяўчына таму, што падавалася ёй, нібыта нехта нябачны едзе за ёю на матаролеры, пераследуе яе і вось-вось дагоніць, і вось-вось саб’е ды пераедзе яе тым матаролерам. Бегла дзяўчына ад Рыжаўскага лесу,

куды на досвітку выбралася па маліну, бегла да самага Крутагор'я і па мястэчку бегла ажно да свайго дома. Заляцела яна ў дом, а тамака толькі адна зусім старая бабуля. Задыханая, узмакрэлая, ускудлачаная дзяўчына, захлынаючыся ўласнымі словамі, расказала бабулі пра нябачны матаролер. Бабуля дастала з буфета Зялёную бутэльку, наліла з той бутэлькі поўную шклянку вады, пашаптала на тую ваду ды і плёхнула на дзверы. З мокрай пляміны проста ў пакой выехаў чорт на чорным матаролеры. «Каб не твая хітрая бабуля са сваёй святой вадою, забраў бы я цябе, дзяўчына-прыгажуня, у падземны лабірынт! Там бы мы з табою і паелі маліны!» — так сказаў чорт, а потым зрабіў вялікую дзірку ў падлозе і праз яе выправіўся на чорным матаролеры ў падземны лабірынт.

## Шэрая вежа

Стаяла ў Крутагор'і Шэрая вежа. Паставілі яе пажарнікі яшчэ ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя. Калі з той вежы глянуць, дык увесь наш Крутагорскі раён ляжаў як на далоні. Гадоў з пяцьдзясят прасядзелі пажарнікі на Шэрай вежы, а потым закінулі той пост, бо паўсюль правялі тэлефоны. Знесці вежу было шкада, але і адрамантаваць грошы не знаходзіліся. Рамонт патрабаваўся грунтоўны, бо вежа пачала пакрысе спаўзаць з падмурка. Пакуль улады думалі і маракавалі, пад што-якое вежу прыстасаваць, здарылася ў Крутагор'і горкая гісторыя. Пачалася яна з таго, што адна дзесяцікласніца за які тыдзень да выпускнога вечара патанула ў возеры. Травень выдаўся такі цёплы, што крутагорцы хадзілі купацца па два разы на дзень. Купаліся, плёхаліся, нырцавалі, плавалі тым разам вясёлыя школьнікі, а калі сыходзіць сабраліся, ды і спахапіліся, што дзяўчыны няма. Вопратка на траве ляжыць, чаравічкі побач стаяць, а гаспадыня прапала. Знайшлі яе за паўгадзіны, але ўратоўваць ужо было запозна. Хавала дзяўчыну ўсё мястэчка. Праз тыдзень у школе быў выпускны баль. Спачатку ладзілі баляванне ў школьнай сталоўцы, а выпіўшы і натанчыўшыся, выпускнікі пайшлі гуляць па Крутагор'ю, каб апошні раз разам сустрэць золак. Пасярод ночы выпускнікі праходзілі каля Шэрай вежы. Нехта з дзяўчатак сказаў, што з вежы сонца можна пабачыць значна раней, але ніхто на тую вежу не палезе, бо ўсе збаяцца. Ну і сапраўды, чаго на старую вежу лезці, калі яна вось-вось абваліцца. Пастаялі выпускнікі пад вежаю, пагаварылі, пасмяяліся і сабраліся ўжо сыходзіць, калі адзін хлопец сказаў, што, каб яго папрасіла Ліда, якая ў возеры патанула, ён бы палез на вежу не задумваючыся. Ні для каго сакрэтам не было, што хлопец любіў Ліду і моцна перажываў праз яе смерць. Выпускнікі прамаўчалі. Што тут скажаш? Але хлопец знайшоў словы і сказаў, што ён дзеля памяці пра Ліду на Шэрую вежу ўзлезе і ліхтарыкам з вежы

пасігналіць. Адгаворваць хлопца ніхто не стаў. І палез ён па струхнелых драўляных прыступках на самы верх, а тамака пабачыў ён нябожчыцу Ліду. Яна сядзела ў куточку на падлозе і глядзела на хлопца не міргаючы. Той спрабаваў загаварыць з нябожчыцаю, але яна не адказвала. Хлопец зняў з нябожчыцы белую вэлюмную хустачку. Паміргаў ліхтарыкам сваім аднакласнікам і паціху асцярожна спусціўся з вежы. Хацеў быў той хлопец пахваліцца белай хустачкаю, але стрымаўся. Хто ж паверыць, што на Шэрай вежы сядзела нябожчыца, якую тыдзень таму закапалі ў магілу, і закопванне тое бачыла ўсё Крутагор'е. Нічога нікому не сказаўшы, хлопец пайшоў дамоў. Толькі ён у хату зайшоў, як у дзверы пагрукалі. Хлопец думаў, што нехта з аднакласнікаў яго дагнаў і вырашыў паклікаць, каб разам золак сустрэць. Адчыніў ён дзверы, а на ганку Ліда стаіць і кажа: «Хустачку маю белую вярні…» Хлопец хустачку кінуў пад ногі нябожчыцы. А тая кажа: «Не так! Ты як яе браў, так і вяртаць мусіш. Ідзі за мною…» Пайшоў хлопец за Лідаю праз усё мястэчка, узняліся яны на Шэрую вежу. Там і пацалавала Ліда свайго хлопца салодка-салодка… І невядома, чым бы той салодкі пацалунак скончыўся, каб сонца не ўзышло. Хлопец спусціўся з вежы, знайшоў аднакласнікаў і расказаў пра пацалунак нябожчыцы. Праз дзень пра белую хустачку і салодкі пацалунак ведала ўсё Крутагор'е. Каб гісторыя тая змрочная не мела працягу, Шэрую вежу ўзялі ды знеслі.

## Чорныя грошы

Малады чалавек вёз сумку з Чорнымі грашыма. Яшчэ ў юнацтве стары местачковы вядзьмак сказаў, што будзе ён бессмяротны ажно да той пары, пакуль не закахаецца. Можна было не слухаць сівабровага ведзьмака, але юнак паверыў у сваю выключнасць і абранасць. Чалавеку хочацца верыць у бессмяротнасць, і ён шукае любой нагоды для такой веры. Неўзабаве з'явіўся доказ. У час навальніцы хлопец бег па вуліцы. Вецер быў такі моцны, што паваліў на дарогу вялікую таполю. Дрэва падала на хлопца, і шмат хто бачыў, як таполя завярнулася і ўпала на юнака. У людзей нават сумневу не было ў тым, што дрэва забіла чалавека ў іх на вачах. Ніводная галіна нават не зачапіла хлопца. Як тут не паверыць ва ўласную бессмяротнасць? Хлопец вырас, перабраўся ў сталіцу і ўладкаваўся да заможнага палітыка. Ён выконваў самыя рызыкоўныя даручэнні. Гэтым разам ён вёз, каб перахаваць, вялікую сумку з Чорнымі грашыма. За горадам, на пустой дарозе, машыну прыпыніў міліцыянт. Мужчына выйшаў з машыны і пабачыў чорнае вочка пісталетнай рулі. Ён бы мог і не перажываць, мог бы спадзявацца на сваю абранасць, але ўчора ўвечары малады мужчына зразумеў, што закахаўся ў дачку гаспадара. Ён адчуў, што закахаўся моцна і

безнадзейна. Таму на дарозе сполах ахапіў мужчыну. У чорнай дзірцы ён убачыў дзюбку кулі, якая высунулася з рулі і пачала набліжацца да маладога сэрца. Мужчына нахіліў голаў і зазірнуў у сваё сэрца. Там ён убачыў дзірку, вялікую дзірку. Верагодна, яна ўтварылася з-за кахання. Куля праляцела роўна праз дзірку. Мужчына вырваў пісталет з рукі чалавека ў форме, застрэліў яго і павёз Чорныя грошы ў дом сівабровага ведзьмака.

**Ружовая гарэлка**

Бацька з сынам любілі выпіць, любілі акуратна пасядзець з бутэлькаю белай гарэлкі. Напівацца яна не напіваліся, але паўлітроўку прыгаворвалі. Бацька састарэў і ціха памёр, а праз пэўны час і сын выправіўся ў лепшы свет. Прайшоў сын чысцец, прыходзіць у рай, а тамака бацька яго сустракае: «Доўга я цябе чакаў, але ж дачакаўся. Пайшлі, сядзем і вып’ем за сустрэчу Ружовай гарэлкі. Тут яна самая найлепшая. Раніцай ад Ружовай гарэлкі галава не забаліць, ты не хвалюйся…» — «Тата, ты ж навіну не ведаеш. Шэсць гадоў мінула, як я піць кінуў…» — сын заўсміхаўся, а на бацькавым твары з’явіўся сум.

**Шэры сабака-1**

Свята было — Дзень будаўніка. Хто з мужчын не будаўнік? Калі ты не будаўнік, ты не мужчына. Як свята, то і выпіўка. Якое свята без гарэлкі? Мужчыны выпівалі. Якая гарэлка без размовы? Мужчыны выпівалі і гутарку вялі. Што за гутарка без спрэчкі? Зачапіліся… Адзін кажа: «Дом збудаваць — палова справы! Дом ахоўваць трэба. Няма лепшага ахоўніка за сабаку. У мяне такі сабака, што ні адзін злодзей не пралезе…» Пра таго сабаку ўсё нашае Крутагор’е ведала. Мянушка ў яго была Шэры. Пасадзілі таго Шэрага сабаку на ланцуг яшчэ шчанюком. Вырас ён на ланцугу, а праз гэта стаў лютым зверам. Бывае, сарвецца з ланцуга, дык палова мястэчка баіцца з дому выйсці. Сядзяць людзі па хатах, пакуль гаспадар свайго Шэрага сабаку зловіць ды на таўсцейшы і навейшы ланцуг пасадзіць. Другі мужчына, яго Ясем звалі, пачаў спрачацца з гаспадаром Шэрага сабакі: «Кажаш, ні адзін злодзей у твой дом не зойдзе? Кажаш, шэры сабака злодзея на шкамуты парве? Я не злодзей, але ў дом твой зайду, а сабака нават не гаўкне…» Заспрачаліся мужчыны, ледзь не пабіліся. Каб скончыць спрэчку, Ясь мусіў паказаць, як ён у чужы дом зойдзе. Ён і паказаў: люты сабака-ланцужнік толькі пабачыў Яся, як адразу хвастом і заматляў. Пагладзіў Ясь Шэрага сабаку па лабастай галаве, спусціў з ланцуга, а той нікуды і не пабег, стаіць каля Ясевай нагі як навязаны. Мужчыны пайшлі дапіваць гарэлку, а гаспадар Шэрага сабакі вынес з дому ружжо і прыстрэліў жывёлу. Мужчынам ён сказаў, што прыстрэліў сабаку за здраду. Ніхто не асуджаў забойцу Шэрага сабакі. Твой сабака? Ты яго карміў і гадаваў? Хочаш

застрэліць? Страляй! Адзін Ясь адмовіўся піць выспрачаную гарэлку, сказаў: «Мне ўжо досыць…» Так крутагорскія мужчыны пагулялі на Дзень будаўніка.

**Шэры кут**

Увечары жанчына заўважыла, што ў спачывальні адзін кут пад самай столлю пашарэў. Нічога страшнага ў тым яна не ўбачыла. Вырашыла, што заўтра абавязкова пагаворыць з мужам пра рамонт, які яны даўно збіраліся распачаць. Была яшчэ адна нагода для пераносу размовы з вечара на раніцу. Муж той жанчыны працаваў шафёрам і з’ехаў у доўгатэрміновую камандзіроўку. Якраз наступным ранкам ён і планаваў вярнуцца. Жанчына лягла спаць, але ўначы ёй давялося прахапіцца, устаць і запаліць святло. Шэры кут цяжка і па-чалавечы стагнаў. Перапужаная жанчына пабегла да суседкі, пабудзіла яе і распавяла пра Шэры кут ды чалавечыя стогны. Суседка была абазнанай у розных надзвычайных з’явах і адразу сказала, што нешта нядобрае здарылася з шафёрам, бо кут зазвычай цямнее ад жалобы, а стогны чуюцца тады, калі Дамавік хоча даць знак гаспадыні, што яна хутка страціць гаспадара. Словы пра дамавіковы знакі так расхвалявалі і ўзрушылі жанчыну, што яна азлілася і пачала клясці суседку: «Каб цябе, злыязыкую падлюку, жыўцом у зямлю закапалі! Каб ты, чарнадушная вядзьмарка, у закапанай труне стагнала!..» Жанчына яшчэ і ў сваёй кватэры з Шэрым кутом кляла суседку, калі пачаў званіць тэлефон. Дарожны інспектар паведаміў жанчыне пра смерць яе мужа.

**Шэрае вока**

Банкір запрасіў жывапісца на вілу, каб той напісаў ягоны партрэт. Жывапісец угаварыў замоўцу папазіраваць некалькі сеансаў. Пасля вячэры гаспадар вілы курыў цыгару, і ў гэты час жывапісцу было дазволена зрабіць замалёўкі. Банкір пускаў дым, распавядаў вясёлыя гісторыі са сваёй далёкай маладосці і папіваў духмяны каньяк. Апісваючы чарговую перамогу над апетытнай плэйбоеўскай бландзінкаю, банкір шырока ўзмахнуў рукою, нейкім неверагодным чынам маленечкая іскарка вылецела з цыгары і патрапіла ў Шэрае вока жывапісца. У таго мастака былі розныя вочы: адно — Шэрае, другое — шэра-зялёнае. Жывапісцу падалося, што сталёвая іголка прабіла наскрозь вокавы яблык, а яе дзюбка спынілася глыбока ў мозгу. Мастак хацеў быў сказаць утаймавальніку гарэзлівых плэйбоеўскіх бландзінак, што іскра з цыгары апякла вока, але прамаўчаў. Пра тое, што пачало бачыць пакалечанае Шэрае вока, лепей было маўчаць у цёмную палатняную анучку. Замест самаўпэўненага сытага банкіра, якім быў замоўца, падкалечанае вока бачыла бруднага рагатага чорта. Жывапісец вырашыў перапыніць

сеанс малявання з натуры. Але замоўца пачаў настойваць на тым, каб мастак зрабіў яшчэ адзін малюначак. Мастак пачаў рабіць накід, рука не слухалася, яна нібыта жыла асобна ад чалавека і вокамгненна намалявала рагатую галаву. «Якім вокам ты бачыш мае рогі?» — пяшчотным галаском запытаўся чорт у мастака. «Пра...» — толькі і паспеў сказаць мастак, як чортавы кіпці спрытна вырвалі з галавы правы вокавы яблык. Прытомнасць вярнулася да жывапісца толькі ў бальніцы. «Вы наноў з'явіліся ў наш каляровы свет? І выдатна, і віншую вас! Пратэз мы вам зробім класны! Ніхто не адрозніць ваш пратэз ад вашага сапраўднага вока! Міргніце, міргніце нам сваім здаровым вокам!» — доктар нахіліўся над хворым мастаком, і той разгублена міргнуў сваім адзіным Шэрым вокам.

## Чорная машына

Мужчына прыехаў да сябрука на дзень народзінаў. Усе госці выпіваюць, жартуюць, смяюцца, а мужчына сумны сядзіць. «Што маркотны?» — пытаецца сябрук. «За стырном!» — «Не бяды! Пі, еш, весяліся, танчы. Спаць тут застанешся!» — «Машыну баюся ў тваім двары на ноч пакідаць». — «Не бойся! Я за тваю Чорную машыну адказваю. Калі ўгоняць, новую адкуплю. Толькі не ўгоняць з майго двара тваю Чорную машыну. Павер!» Мужчына паверыў сябруку, выпіў, закусіў, песні з гасцямі паспяваў, патанчыў, стаміўся і спаць лёг. Раніцай прачнуўся, выйшаў на гаўбец і на машыну сваю зірнуў. Тая стаяла на месцы, а вакол яе хлопец кругамі хадзіў. Ходзіць і ходзіць. Пабудзіў мужчына сябрука: «Вакол машыны хлопец кругамі ходзіць. Паглядзі!» — «Ведаю. Ён ужо пятую гадзіну ходзіць. Хай яшчэ паходзіць. Хай ногі да крыві паб'е. Ён хацеў тваю машыну скрасці, а я зрабіў так, каб ён вакол яе кругам хадзіў, а сысці не мог. Зараз прымем душ, паснедаем, а потым са злодзеем разбярэмся». Так і зрабілі. Мужчына да машыны пабаяўся падыходзіць, бо хлопец вакол яе хадзіў з заплюшчанымі вачыма. Сябрук хлопца не збаяўся, падышоў да яго і сказаў: «Што, зладзюга, не можаш сысці? Не чую адказ!» — «Не магу!» — «Зараз я цябе адпушчу, і будзеш ты бегчы адсюль, не азіраючыся! Не чую адказ!» — «Буду! Буду бегчы, не азіраючыся!» — сказаў хлопец і пабег з заплюшчанымі вачыма. Сябрук паляпаў мужчыну па плячы: «Больш на мой дзень народзінаў ты не прыедзеш на Чорнай машыне? Не чую адказ!..»

## Зялёная яма

На ўскрайку Крутагор'я ляжала Зялёная яма. Яна пачыналася за яўрэйскімі могілкамі і ішла да Захаравага балотца, якое месточкоўцы называлі Захар'яш. Вясною і летам у той яміне пасля дажджоў збіралася вада. Праз дзень-другі тая вада паціху-патроху сыходзіла ў Захар'яш. Трава ў Зялёнай яміне была самая найзелянейшая, самая

найгусцейшая і самая найсакавіцейшая ва ўсім Крутагор'і. Людзі казалі, што ў той яміне падчас вайны парасстрэльвалі і пазакопвалі людзей. Якіх людзей там парасстрэльвалі? Ці то палонных рускіх вайскоўцаў, ці то польскіх партызанаў, ці то немцаў якіх… Ніхто не ўдакладняў. Адно ясна: пазабівалі і пазакопвалі тамака людзей не тутэйшых — чужых, прышлых, і ўтварылі той гвалт таксама чужынцы. Гуляць у Зялёнай яміне дзецям забаранялася, і траву тамака не касілі, і коз там ніхто не пасвіў. Крутагорцы збіраліся Зялёную яму засыпаць, каб ад яе і следу не было, але ўсё нагоды не знаходзілася, і засыпанне адсоўвалася ды адкладалася, пакуль не здарылася дзіўная гісторыя… Пасля грымотных жнівеньскіх навальніц Зялёная яма стаяла поўная вады. Берагам ямы праходзіла швачка Ядзвіга з унукам Валодзем. Хлопчык заўважыў на траве, пад вадою, жалезную місу. «Якая міса выдатная! Якраз нашаму сабаку падыдзе!» Ядзвіга і сказаць нічога не паспела, а ўнук ужо дастаў цёмную, хрыху папабітую іржою эмаліраваную місу. «Жулік наш узрадуецца!» — «Узрадуецца твой Жулік, калі ў місу кавалак мяса кінуць!» — удакладніла Ядзвіга. Мяса ў той дзень Жуліку не дасталося, але нейкія курыныя скуркі ды костачкі сабака са сваёй новае місы павыбіраў. Уночы Жулік пачаў брахаць. Ён так брахаў, ажно заходзіўся, так брахаў, што як толькі не парваўся. Валодзя з Ядзвігаю папрачыналіся і ў акно выглянулі. Пад акном стаяў чалавек у вайсковай форме. «Місу трэба вярнуць!» — не адкрываючы рота, загадаў вайсковец і прапаў. Сабака яшчэ разы два гаўкнуў, заціх і схаваўся ў будцы. Ядзвіга з Валодзем дачакаліся раніцы і на досвітку занеслі місу ў Зялёную яму. Вестка пра мёртвага вайскоўца, які прыходзіў ноччу па сваю місу, імгненна абляцела Крутагор'е. Зялёную яму ў той жа ж дзень засыпалі пяском па самыя берагі. Швачка Ядзвіга з унукам Валодзем тое здарэнне перажылі, а вось іх сабака Жулік занядужаў і пакрыўся ружовымі лішаямі. Давялося яго прыстрэліць і закапаць у пясок на тым самым месцы, дзе некалі была Зялёная яма з самай сакавітай травою ва ўсім Крутагор'і.

**Белакрылыя анёлы**

Крутагорскі банкір меў аднаго сына, а крутагорскі аптэкар — адну дачку. Дачка аптэкара закахалася ў сына банкіра, а сын банкіра палюбіў дачку аптэкара. Хацелі яны пажаніцца, ды банкір выказаўся супраць няроўнага, на ягоную думку, шлюбу і загадаў сыну з'ехаць з Крутагор'я. Хлопец так заперажываў з-за немінучага расстання з каханай, што праз тое перажыванне раптоўна памёр. Дачка аптэкара пачала штоночы хадзіць на магілу свайго любага і горка плакаць. Так яна плакала, так сыходзіла няўцешнымі слязьмі, што нябожчык не вытрываў і выйшаў з магілы: «Чаго ты так плачаш, мая ты любая?

Чаго ты так галосіш, мая ты каханая? Што я магу зрабіць для цябе, мая ты няўцешная?» — «Бяры ты мяне, мой каханы, да сябе ў зямлю!» Узяў мёртвы хлопец жывую дзяўчыну за руку і павёў у садовы дамок. Тамака ляглі яны на ложак і нацешыліся, і налюбіліся, і наталіліся адно адным. Па сканчэнні ўцехаў цялесных жывая жанчына правяла мёртвага мужчыну ў ягоную магілу. Так любіліся жывая з мёртвым ажно сем месяцаў. Праз сем месяцаў у садовым дамку жанчына раптоўна нарадзіла хлопчыка. Роды былі такія цяжкія, што жаночае сэрца не вытрывала, і яна памерла. Каханка нябожчыка памерла, а ён прыйшоў, узяў яе на рукі і занёс на могілкі, тамака апусціў яе ў сваю труну і сам побач лёг. Зямля накрыла мёртвых каханкаў цёплай пясчанай коўдраю. Ранкам садоўнік знайшоў у дамку маленечкага хлопчыка. Сад той належаў банкіру, дык і хлопчыка таго банкір забраў сабе, выгадаваў і выправіў у Венецыю вучыцца спевам. Цяпер ён там і спявае ў царкве. Калі сын жывой жанчыны і мёртвага мужчыны пачынае спяваць, у царкву прылятаюць анёлы. Хлопчык спявае, а высока, пад самым купалам, танцуюць Белакрылыя анёлы ў залатым венецыянскім святле.

### Чорны сабачка

Крытык у друку аблаяў паэта, звінаваціў творцу ў антыдухоўнасці. Паэт зазлаваў; ягоная душа сцялася ў цёмны кулачок, пакінула цела, узнялася да аблокаў і там, у бясколернай прахалоднай вільгаці, паслала на крытыка чорны праклён. Праз тыдзень паэт завітаў у рэдакцыю тыднёвіка, дзе працаваў зласлівы крытык. «Як маешся, дружа?» — спытаў паэт. «Цякучка заела. Да пенсіі засталося два гады. Дапрацую і з’еду ў вёску…» — «Што ў цябе з пальцам?» — «Сабачка хапануў. Дачка прынесла ў хату бяздомнага Чорнага сабачку. Схадзіла на жывадзёрню, дзе ўсыпляюць валачашчых катоў і сабак, выбрала маленькага цюцьку і забрала сабе. Ён толькі яе любіць, а на мяне і на жонку брэша. А як ён брэша на мянтоў і бамжоў! Каб ты толькі чуў! Яны яго, мусіць, раней ганялі, дык цяпер ён на іх кідаецца і гырчыць. Яно і зразумела. А тут днямі скакаў-скакаў ды сікнуў мне на калашыну, я на яго рукою махнуў, а ён хапануў зубамі за мой безыменны палец. Парваў палец, гад, ды яшчэ ж на правай руцэ парваў. Як мне цяпер пісаць? Як працаваць? Палец баліць, не гоіцца…» — «Загоіцца!» — паэт упэўнена суцешыў крытыка. «Ты, праўда, думаеш, што палец хутка загоіцца?» — «Дзень-два і загоіцца. У майго аднаго сваяка такое было, тыдзень пабалела-пабалела і зажыло».

### Шэры воўк

Загадчыцай клуба ў нашым Крутагор’і працавала гадкая баба, а дачка ў яе была дурніца-дурніцаю. Маці сваю дурную дачку лічыла

за вельмі разумную, бо тая магла ў галаве імгненна перамножыць пяцізначныя лічбы, шасцізначныя ёй не даваліся, а пяцізначныя ды меншыя множыла імгненна. Заманулася перамнажальніцы замуж пайсці, выбрала яна сабе хлопца і прыгожага, і высокага, толькі беднаватага — бязбацькавіча Валодзю. Яна да Валодзі то адным бокам падкоціцца, то другім, а ён ад яе ўцякае. Ты б таксама збягаў, бо твар у дзеўкі быў як пакамечаная падушка, а вочкі на той падушцы сядзелі маленькімі, крыва прышытымі гузікамі. Тоўстая яна была страшэнна і галаву мыла гады ў рады. Страх, а не дзеўка. Убачыла загадчыца клуба пакуты сваёй дачушкі, падпільнавала сірату Валодзю пасля кіно ды пачала палохаць: або ён возьме яе дачку замуж, або будзе хадзіць па свеце ў звярыным абліччы. Валодзя не паверыў бабе, нават са смехам пераказаў сваёй мамцы пра пагрозы. Ды не прайшло і трох дзён, як чортава сіла абярнула хлопца ў ваўка. Тры леты ён прахадзіў па лесе Шэрым ваўком. А на зіму па першым снезе прылятаў да маткі — тая яго ў хляве і перахоўвала да цяпла. Як снег з палёў сыходзіў, дык Шэры воўк зноўку ў лясы збягаў. Добра, што чарадзейства было не надта дужае, яго хапіла толькі на тры гады. Роўна праз тры гады, дзень у дзень, Шэрага ваўка адвярнула ў хлопца Валодзю. Ён збіраўся помсціць гадкай бабе і яе бруднагаловай дурніцы, але маці яго спыніла, сказаўшы: няма ў помсце праўды. Валодзя не стаў з маці спрачацца, яна ж яго перахавала і ратавала ў чорныя гады. Спрачацца не стаў, але і жыць у Крутагор'і не застаўся, з'ехаў некуды далёка, каб ніхто не знайшоў і не нагадаў пра Шэрага ваўка. А з дурніцаю выйшла непрыемнасць. Ішла яна праз свой сад, задумалася, не нахілілася і ўдарылася лобам аб сук. Так далася галавою аб яблыню, што з таго дрэўца ўсе яблыкі, нават недаспелыя, паабсыпаліся. На лбе вырас гузак, але ён хутка рассмактаўся, а вось здатнасць перамнажаць вялікія лічбы прапала ў дзеўкі, як і не было. Цяперака нават загадчыца клуба сваю дачку лічыць нікому не патрэбнай дурніцаю.

### Сіняя бутэлька

З ніадкуль з'явіўся ў Крутагор'і прадказальнік будучыні. Хадзіў ён з двара ў двор і расказваў даверлівым жанчынам пра іх радасці ды набыткі ў недалёкай і зусім блізкай будучыні. Дурыў людзям галовы, браў за тое задурванне грошы і, пэўна б, сышоў той прадказальнік з Крутагор'я ў сваё нікуды, каб не завітаў у двор да тутэйшага чарадзея Яся. Выйшаў Ясь на ганак, паглядзеў на чужаніцу злым вокам, а той з крывой усмешачкаю на твары дастаў з заплечніка пустую пляшку з-пад мясцовага піва, паставіў яе на зямлю і залез у яе ўвесь цалкам, нават разам са сваім пакоўным заплечнікам улез. Станцаваў чужы чарадзейнік на бутэлечным донцы вясёлы танец ды і вылез на свет

божы. Спахмурнеў наш Ясь, падышоў да пустой бутэлькі, нахіліўся, сціснуў яе ў кулаку так, што яна рассыпалася ўся на дробна-драбнюткія аскепачкі. Чужаніца пачаў смяяцца з нашага Яся, пачаў казаць, што няма на свеце шкляной бутэлькі, якую ён двума пальцамі не расцісне. Пайшоў Ясь у склеп і прынёс Сінюю бутэльку. Пачаў яе ціснуць прышлы чарадзей, спачатку пальцамі ціснуў, а потым і абедзвюма рукамі сціскаў — тут бутэлька і луснула напалам, ды так луснула, што паўскрывала вены ў чужаніцы. Кроў паляцела такімі струменямі, што праз якое імгненне ляжаў чужаніца ў вялікай чырвонай лужыне збялелы і мёртвы. Пахавалі прадказальніка лёгкай будучыні ў самым далёкім куточку Крутагорскіх могілак, закапалі ў пясок, зараўнялі зямлю і дзёрнам тое месца заклалі. Каму ў Крутагор'і патрэбна магіла чужога чарадзея, калі яна не патрэбна нават тутэйшаму чараўніку Ясю, які яго перамог…

## Чорна-белыя календары

Такое здараецца: быццам бы ты ў сне, а нібыта і не спіш… Еxаў я з аднаго канца на другі канец Барселоны. У падземнай электрычцы сеў на крэсла і вочы мае самі заплюшчыліся. Бачыцца вялікая шэрая шматпавярховая бальніца, у якой мяне нібыта чакае доктарка-нарколаг. Стаю і не магу згадаць, у якім кабінеце сустрэча прызначана. Іду ў рэгістратуру. Тамака пуста, усе акенцы зачыненыя, даводзіцца чакаць. Стаю і разглядаю Чорна-белыя календары — імі тамака ўсе сцены паабклееныя, жывога месца няма, спрэс календары і каляндарыкі шматгадовыя. Ад манахромных календароў ажно ў вачах пацямнела. Чую за спінаю малады мужчынскі голас: «Даўно чакаеце?» Абарочваюся — юнак праз мяне на Чорна-белыя календары пазірае. «Ды толькі прыйшоў…» — «А колькі тут чакаць, не скажаце?..» — «Не ведаю, бо ў гэтай лякарні я сам першы раз…» Пакуль я з юнаком гаварыў, каля акенцаў з'явілася высокая і статная жанчына. Убранне ў яе чорнае і зялёна-яшмавае. І ўся яна была нібыта складзеная з каштоўных камянёў і каменьчыкаў. Твар у яе быў стары-стары, але светла-белы з яснымі блакітна-зялёнымі вачыма. Яе твар быў нібыта знаёмы, нібыта я бачыў яго ў нейкай сваёй далёка-далёкай сваячкі. Каб Ісус Хрыстос быў беларусам і жанчынаю, Ён выглядаў бы менавіта так і меў такі ж твар. Мне б адразу зразумець, што нешта тутака няправільнае творыцца і несвоечасовае адбываецца. Мне б ціхенька пастаяць у куточку і паназіраць, папрыглядацца, асвойтацца. Замест гэтага я ў сварку палез: «Без чаргі, мая шаноўная, ты тутака не ўлезеш!» — няправільным голасам насунуўся я на яснавокую жанчыну. «Паэт, а такім кепскім голасам гаворыце…» — яна праплыла паўз мяне да юнака. «Магу я правільным голасам сказаць, магу і кепскім паўтарыць… Без чаргі, радасць мая,

тут ніхто не ўшчэміцца і не ўплішчыцца!» — выгаварыў я гнюсным голасам, павярнуўся да жанчыны спінаю, адышоў як мага далей, стаю, чакаю, на Чорна-белыя календары гляджу. Чую — нехта ў пакой зайшоў і з юнаком перашэптваецца, голас нібыта знаёмы, але паварочвацца я асцерагаўся, бо чамусьці мне не захацелася болей сустракацца са светлымі вачыма каменнай жанчыны. Пашаптаўся мужчына з хлопцам, пашаптаўся… Колькі ні прыслухоўваўся я, а ніводнага слова не разабраў. Адно разабраў, што шаптаў ён правільным голасам. Чую — сышоў мужчына. Я да юнака і пытаюся: «Ну што ён табе пра рэгістратуру сказаў? Калі акенца адчыніцца?» — «Пра рэгістратуру ён нічога і не казаў. Ён вам прывітанне перадаваў ад сваякоў… Прасіў сказаць, што Казік Кісель перадае вам прывітанне ад усіх сваякоў…» — «Які Казік? Які Кісель? Казік Кісель даўно памёр, даўно ляжыць у нашай крутагорскай зямлі… Што ён тутака можа рабіць?» — «А самі вы дзе?» Мой мозг нібыта маланкаю асвяціла… Гэта ж не жанчыну я бачу, а сваю ўласную персанальную смерць, з такімі яснымі і такімі светлымі вачыма. Зірнуў я ў тыя вочы зноў, ад сполаху здрыгануўся і прахапіўся ў падземнай электрычцы, якая ўсё яшчэ несла мяне з аднаго краю Барселоны ў другі…

**Чырвоная сякера**

Была ў Крутагор'і адна дзеўка — Вера Попел, якая ў ноч перад Калядамі наваражыла сабе мужа. Хто з нас не хоча зазірнуць ва ўласную будучыню? Хто з дзяўчат не марыў паглядзець хоць бы адным вокам на сваё вяселле, на свайго хлопца, які стане мужам? Вера, не доўга думаючы, папрасіла чорта прывесці і паказаць ёй будучага мужа. Чорт хутка азваўся, узяў і прывёў лесніка з бензапілою і Чырвонай сякераю. Ляснік абтрос снег з шапкі, паставіў пілу з сякераю ў куток і наважыўся сесці за стол, як напужаная Вера загула: «Згінь-згінь, прападзі! Разам з ліхам сыдзі!!!» Ляснік пад чортаў рогат схапіў бензапілу ды ў дзверы выкаціўся, а Чырвоная сякера засталася ў кутку стаяць. Трэба было, каб Вера Попел сякеру на возеры ў палонцы ўтапіла, а яна вазьмі ды схавай яе ў кладоўку, за кубелец з салам. Пад наступныя Каляды Вера пайшла на танцы ў клуб, дзе зноўку сустрэла маладога лесніка. Пратанчылі ляснік з Вераю цэлы вечар да самай ночы, а ноччу яны злюбіліся і вырашылі пажаніцца. Год Вера і ляснік пражылі душа ў душу, а напярэдадні Калядаў прыйшлі да іх госці. Выпілі госці, закусілі і сталі гаспадароў расхвальваць. Нехта вазьмі ды спытай: «Скажы ты нам, Верка, як ты сабе мужа такога прыгожага ды працавітага знайшла?» Трэба было Верцы лгаць, а яна ўзяла ды ўсю праўду пра чорта расказала. Ахапіла лесніка рэўнасць, пачалі яму паўставаць прад вачыма жончыны любошчы з рагатым і казланогім чортам. «Не можа… Не можа такога

быць, каб мая жонка ды з чортам справы мела! Няпраўду Верка гаворыць!!!» — закрычаў гасцям п'яны ляснік. П'янаватая Вера вырашыла ўсім давесці чортаву праўду. Злётала яна ў кладоўку, дастала з-за кубельца леснікову Чырвоную сякеру і на стол перад гасцямі паклала: «Наце! Глядзіце! Твая сякера?» Ляснік узважыў у руцэ Чырвоную сякеру, сказаў: «Мая!» — і зняў з жончыных плячэй галаву. Госці таксама паўцякаць не паспелі, усіх пазабіваў ляснік Чырвонай сякерай. Калі розум нейкай сваёй маленечкай частачкаю вярнуўся да лесніка, ён вырашыў сябе пакараць. Падпаліў ляснік дом Веры Попел з чатырох куткоў, і ў тым ахопленым полымем доме сам сабе перарэзаў горла сякерай. Тыя з крутагорцаў, хто бачыў пажар, казалі, што чулі ў гудзенні палымяных языкоў чортаў рогат. Здавалася б, што пасля забойства Веры Попел крутагорскія дзяўчаты перастануць спрабаваць лезці ў будучыню, ды дзе там: як толькі набліжаюцца Каляды, так і пачынаецца варажба.

## Чорны матылёк

Адкуль у Крутагор'і пайшла мода лавіць і засушваць матылькоў? Каб хто сказаў… Дзятва панакупляла і панарабіла марлевых сачкоў і лётала з імі цэлымі днямі па садах ды гародах. Увечары хлопцы і дзеўкі выхваляліся адзін перад адным, хто большых ды прыгажэйшых матылькоў налавіў і да ласцікаў булаўкамі папрышпільваў. Якіх толькі матылькоў ні паказвалі: і лімонніц, і капусніц, і паўлінава вока… За матылькамі пачалося паляванне на жукоў і конікаў, мух і стракозаў… Лавілася і сушылася ўсялякая жамяра. І невядома, чым бы тыя паляванні скончыліся і куды б паляўнічы азарт завёў крутагорскіх дзяцей, каб не здарэнне з Кастусём Харытонавым. Выйшаў Косцік на паляванне з вялікім жоўтым сачком. У садах і гародах ён ужо напаляваўся і вырашыў паспытаць шчасця на полі, каля лесу. Там яго і чакала неспадзеўка — вялікі, з жаночую далонь, Чорны матылёк. Пабег Кастусь за матыльком, а той ад яго крышку адляцеў, хлопец да матылька, а матылёк ад хлопца… Як Харытонаў апынуўся на купіне пасярод непралазнай багны, ён і сам не мог успомніць. Матыльку што? Паляцеў і паляцеў… А чалавеку зямля пад нагамі трэба, а тамака адна багна хістаецца. Кастусь і ў адзін бок паспрабаваў сачком зямлі дастаць, і ў другі, і ў трэці… Няма дна пад багнавай муляю. Ступіш і правалішся, і засмокча цябе з галавою, і захлынешся ты смярдзючай муляю… Толькі бурбалкі пойдуць. Сеў Кастусь Харытонаў на сухой купіне і заплакаў, заплакаў хлопец, як дзеўка… Самому стала брыдка за ўласныя слёзы. І пачаў Косцік гукаць-крычаць, і крычаў-гукаў, ажно пакуль голас не сарваў. Ён голас сарваў, а на ягоныя крыкі так ніхто і не адгукнуўся. Змораны хлопец лёг на купіну, скруціўся абаранкам і заснуў. Сніўся яму Чорны матылёк, які абяцаў праз багну

правесці, з адной толькі ўмоваю, што Кастусь Харытонаў сам больш ніколі жамяру лавіць не будзе і ўсім распавядзе пра Чорнага матылька. Устаў Кастусь, а Чорны матылёк вакол купіны кружляе, пакружляў і над багнаю паляцеў, а Харытонаў за ім пайшоў, і пайшоў Харытонаў па багне, як па сухой гравійцы. Вярнуўся хлопец у Крутагор'е, дзе расказаў пра багну і Чорнага матылька. З Косціка ўсе пасмяяліся, але пасля гэтага здарэння мода на ловы сачкамі рознае жамяры ў нашым мястэчку пачала сыходзіць і хутка сышла на нішто.

**Чырвоны парасон**

Каб мне хто іншы расказаў пра дзіва, што адбылося пад Чырвоным парасонам, я б не паверыў, але Віктару Чаду не давяраць неяк не выпадае. Ён чалавек сур'ёзны і сам з сябе насміхацца не стане, не яго гэта стыль — іранізаваць. Чад у Крутагор'і самы аўтарытэтны міліцыянт. Якія жарты могуць быць у чалавека, які бандытаў лавіць ды за краты садзіць? Карацей... Прыйшоў Віктар Чад у кавярню «Ветрык», сеў за столік і чакае, пакуль афіцыянтка Марына каву прынясе. Кожную раніцу па дарозе на працу маёр Чад выпівае кубачак кавы за белым круглым столікам пад Чырвоным парасонам. Вядома, пад Чырвоным парасонам кава п'ецца ў цёплыя і не надта халодныя дні, зімою Чад п'е сваю каву ў памяшканні «Ветрыка». Тым разам быў ясны і празрысты вераснёвы дзень. Чад сядзеў у чаканні кавы, калі да яго пыдышоў сябрук Валодзя Куль. Без усялякіх прывітанняў і «як жывеш?» Куль прапанаваў: «Чад, давай гарэлкі вып'ем!» Не тое каб Чад гарэлку не любіў і не піў, але па дарозе на работу ён такога не рабіў ніколі. «А я паважаю людзей, якія могуць раніцай выпіць сто грамаў і пайсці на працу!» — не супакойваўся Куль. «Раніцай я адно каву... І мне дастаткова, і мне добра...» — «Не хочаш, як сабе хочаш, а мне замоў!» — сказаў Куль і прапаў. Проста ўзяў чалавек і прапаў, быў і знік. У такое Чад паверыць не мог, ён вырашыў, што Куль у прыбіральню пайшоў, а таму замовіў у Марыны сто гарэлкі і канапку з салам на закуску. Калі выпіць, дык жа і закусіць трэба. Прачакаў Чад Куля з паўгадзіны, а потым здагадаўся на сотавік яго набраць. Куль слухаўку ўключыў і сябруку нават узрадаваўся, але сказаў, што толькі выйшаў ад стаматолага і ніякай гарэлкі замовіць не прасіў. Чад не паленаваўся і ў бальніцу схадзіў, і ў людзей параспытваў, і выходзіла, што ягоны сябра ніяк не мог быць у кавярні «Ветрык», бо ў гэты час яму доктар з медсястрою пламбавалі зуб. Запеpажываў наш маёр. Як тут не запеpажываць, калі бачыў ён на свае вочы Куля, размаўляў з ім пра гарэлку, а насамрэч Куля пад Чырвоным парасонам і не было зусім. Як мог, я нашага міліцыянта суцешыў і нават вечарам выпіў з ім гарэлкі пад тым жа Чырвоным

парасонам. Дзіўная гісторыя можа здарыцца з кожным, нават з самым сур’ёзным чалавекам у форме.

## Чорная рыдлёўка

На высокай гары па-над возерам стаяў у Крутагор’і замак з шырознымі мурамі ды высознымі вежамі. Войны каціліся праз Крутагор’е адна за адной, і застаўся ад замка адно кавалак сцяны, урослы ў зямлю. На замкавай гары цяперака паставілі беласценную бальніцу; а вакол гары, дзе некалі быў глыбозны роў, поўны вады, зараз ідзе вуліца Падгорная. Тамака жывуць звычайныя людзі і ходзяць простыя дзеці. Летам хлопчыкі з Падгорнай гулялі пад замкавай сцяною ў лапту. Пазней яны скажуць, што юнак з Чорнай рыдлёўкаю выйшаў да іх наўпрост са старой сцяны. А тады кожны з хлопцаў падумаў: гэта ж толькі мне падалося, нібыта чалавек са сцяны выходзіць. Юнак паклікаў хлопцаў да сябе і прапанаваў пайсці ў лес і выкапаць зямлянку, каб было дзе хавацца ад прыхадняў і злыдняў. Усе чамусьці неверагодна ўзрадаваліся такой прапанове пра таемную хованку. Хлопцы разбегліся па дамах, а праз дзесяць хвілін ужо ўсе разам — хто з сякераю, хто з пілою, а хто і са звычайнай рыдлёўкаю — шыбавалі ў бок Рыжаўкаўскага лесу. Сышлі дзеці ў лес і не вярнуліся. Не было іх цэлую ноч. Тую ноч вуліца Падгорная спаць не клалася. Як заснуць, калі тваё дзіця сышло і не вярнулася? Як развіднела, усёй вуліцай пачалі дзяцей шукаць. Знайшлася цётка, якая бачыла, што хлопцы з рыдлёўкамі заходзілі ў Рыжаўку. Людзі пратапталі Рыжаўкаўскі лес тры разы ўздоўж і ўпоперак, а дзяцей сваіх не адшукалі. Пазней дзеці скажуць, што чулі нейкія крокі над зямлянкаю, але вылезці з-пад зямлі баяліся, бо юнак сказаў: калі хто вылезе, дык адразу будзе засечаны Чорнай рыдлёўкаю. Позна ўвечары перапужаныя цёткі з дзядзькамі прыйшлі на двор да чарадзейніка Яся. Напрамілы бог пачалі яго прасіць-маліць, каб знайшоў-вярнуў іхніх хлопчыкаў. Ясь запаліў стары, на газе, ліхтар і адзін пайшоў у начны лес. Цэлу ноч праблукаў Ясь па лесе з ліхтаром, а пад раніцу знайшоў замаскіраваны лаз у зямлянку, дзе сядзелі-калаціліся агаладалыя дзеці. Па дарозе ў Крутагор’е хлопцы расказалі чарадзейніку пра юнака з Чорнай рыдлёўкаю. Распавялі і пра тое, як завёў ён іх у самыя лясныя нетры, як выкапалі яны тамака яму, як накрылі яму бярвеннямі, скрадзенымі ў лесасекаў, як заклалі бярвенні дзёранам, як знішчылі ўсе сляды сваёй новабудоўлі і як схаваліся пад зямлю. Юнак паабяцаў ім прынесці вады і ежы, а яшчэ прыпалохаў: як хто вылезе, таго адразу мая Чорная рыдлёўка і засячэ. Добра, што ўсе крутагорскія дзеці навучаныя ў лес хадзіць з бутэлькай вады ды сабойкаю. Таму і ў зямлянцы ніхто ад голаду прытомнасць не траціў. Ясь папрасіў дзяцей пра Чорную рыдлёўку і юнака, што са сцяны

выходзіў, бацькам не распавядаць. Самі пайшлі ў Рыжаўку, самі выкапалі зямлянку, самі схаваліся і самі не аказваліся… Жарт такі задумалі зрабіць, каб Крутагор’е пацешыць. Бацькі даруюць за кепскі жарт. Бацькі і даравалі. Дзеля выгляду, канешне, бацькі на хлопцаў насварыліся, асабліва лаялі за скрадзеныя ў лесасекаў бярвенні. Ну то гэта не страшная сварка і не страшная лаянка. Страшна тое, што апошні гаспадар Крутагорскага замка пачаў са сцяны выходзіць і хаваць жывых дзяцей пад зямлёю. Чарадзейнік паабяцаў перакрыць дарогу прывіду і перакрыў. Гадоў з дваццаць ужо ніхто юнака з Чорнай рыдлёўкаю не бачыў, але помняць пра яго ўсе, як на вуліцы Падгорнай, так і ў Крутагор’і.

**Чырвоная коўдрачка**

Можа, у іншых гарадах і мястэчках дамавікі і не такія ўважлівая да пакінутых дзяцей, а ў нашым Крутагор’і пакідаць дзіця адно ў доме забаронена. Ведаць усе ведаюць, але здараецца — забавяцца і забудуцца на свае веды. Надоечы Ада Касцевіч глядзела свайго брата Алесіка. Малы, яшчэ года няма, спаў сабе на шырокім бацькоўскім ложку, Ада вышывала крыжыкам белую ружу на сурвэтцы. Забеглі да Ады суседкі Яня з Маняю і ўгаварылі пайсці на вуліцу ды згуляць у выбівалы. Маўляў, нічога Алесіку не зробіцца, калі ён і адзін паспіць. Нагулялася Ада з мячыкам, нашпурлялася, навыбівала і навыбівалася, прыбегла ўся ўзмакрэлая дамоў, глянула на бацькоўскі ложак, а брата на ім няма. Прапаў Алесік! Халодны пот высыпаў на лбе ў дзяўчыны. Яна ў адзін пакой, у другі… Бачыць: ляжыць брат на яе вузенькім ложку, спіць сабе пад Чырвонай коўдрачкаю. Схапіла Ада дзіця на рукі, прытуліла да грудзей і заплакала шчаслівымі слязьмі. Калі бацькі з працы вярнуліся, паказала Ада ім Чырвоную коўдрачку і павінілася за тое, што дзіця ў доме адно пакінула, а сама на вуліцы з мячыкам забаўлялася. Касцевічы Чырвоную коўдрачку ў зямлю закапалі, бо так яно трэба. Дарэчы, коўдрачку закапалі разам з памперсам, які дамавік не паленаваўся памяняць на прынесены чырвоны. Здаецца, усе ж ведаюць, што гэта дамавік дзіця пераклаў і коўдраю накрыў, гэта ён такі трывожны знак падаў: «Глядзіце дзіця, бо наступным разам нячысцікі вашага хлопчыка возьмуць і звалакуць у вір незваротнасці!» Ведаць ведаюць, а Чырвоныя коўдрачкі час ад часу закопваюць.

**Блакітная русалка**

Ніколі ў Крутагорскім возеры русалкі не вяліся, а тут завялася. То адзін скажа, што бачыў Блакітную русалку, то другая распавядзе, як чула русалчыны спевы. Таму і вырашылі маладыя мужчыны Блакітную русалку падпільнаваць. Паставілі яны на беразе палатку, замаскіраваліся пад рыбакоў, склалі графік дзяжурства і пачалі

паляванне. Задума ў іх была такая: падпільнаваць водную жанчыну і ў сетку злавіць. Пільнавалі-пільнавалі і дапільнаваліся; выплыла Блакітная русалка на бераг каля бальніцы, лягла на пясок і паспрабавала паўзці па зямлі, але поўзаць у яе не атрымлівалася. Мужчыны ўжо зусім блізенька да русалкі падкраліся, ужо і сетку разгарнулі, каб кідаць, а тут метамарфоза пачала дзеяцца. Блакітная русалка стала павялічвацца і павялічвацца, зрабілася яна такой вялікаю, даруй мне за параўнанне, як крутагорскі касцёл. Мужчыны стаяць не жывыя і не мёртвыя, не ведаюць, ці ўцякаць ім, ці на месцы заставацца. Тым часам Блакітная русалка выцягнула наперад рукі, і тыя рукі пачалі выцягвацца і выцягвацца і выцягнуліся ажно да аптэкі. Улезлі русалчыны рукі ў аптэку і забралі трохлітровы бутаць з нашатырным спіртам. Мужчыны добра разгледзелі, як Блакітная русалка зменшылася, запаўзла ў возера і разам з вялікай бутэлькаю схавалася пад вадою. Нашто Блакітнай русалцы трохлітровая бутля з нашатырным спіртам? На гэтае пытанне ні ў каго ўцямнага адказу не знайшлося. Як ніхто не мог патлумачыць, чаму цэлы тыдзень у возеры рыбы не было. Рыба ў возера вярнулася, а за бутаць і нашатырны спірт загадчык аптэкі выплаціў са сваёй кішэні, бо русалка русалкаю, а матэрыяльная адказнасць матэрыяльнай адказнасцю.

**Шэрая паперка**

На чыгуначнай станцыі «Крутагор'е» з'явіўся жабрак. Пэўна, ехаў ён з нікуды ў нішто, і глянулася яму наша станцыя. Сеў ён на прыступкі, кепку зняў і перад сабою паклаў. Каб і дурню было ясна, дзеля чаго кепка на зямлі ляжыць, кінулася туды некалькі пакамечаных рублёў. Якраз у той дзень Света Бохан везла з Мінска розныя пачастункі на свой дзень народзінаў. Выйшла яна з электрычкі і ледзь не наступіла на кепку з грашыма. «А маё ты дзіцятка, а мая ты любка-галубка, а дай ты старому, нямоглаиу на хлеб і да хлеба», — заспяваў сівабароды жабрак. «Каб жа ты здох, стары дурыла! Гэта ж трэба так жанчыну напалохаць! Сеў пад нагамі і яшчэ скуголіць! Каб ты не дажыў да свайго наступнага дня народзінаў!!!» — выказалася Святлана і пайшла на аўтобус. Прыехала яна дадому, пачала распакоўваць валізу і пачула галасы… «Як даехаў, Дых?» — «Добра, Тэх!» — «Будзем пачынаць, Дых?» — «Пачынай, Тэх! Насып ёй магілкавага пяску ў цукарніцу!» — «Насыпаў! А ты, Дых, вырві дрот з лядоўні, ды так вырві, каб «з мясам»!» Галасы Света чуе, а нікога не бачыць. Зазірнула яна ў цукарніцу, а тамака і сапраўды поўна жоўтага пяску. Адсунула яна лядоўню ад сцяны, а дрот вырваны… За гадзіну нябачны Тэх і нябачны Дых перавярнулі ўвесь дом Боханаў дагары нагамі. Пабегла Света на станцыю жабрака сівабародага шукаць, а яго няма. Што рабіць? Як ратавацца ад Дыха і

Тэха? Заляцела Света ў царкву і ўгаварыла святара, каб той паспрабаваў сваім крыжам выгнаць нячысцікаў. Поп толькі дзверы адчыніў у дом Боханаў, як атрымаў чапялою па лбе. Перапужаўся поп, і Света не змагла яго затрымаць. Сказаў, каб разбіралася сама са сваімі дэманамі, і ўцёк. Света вырашыла паклікаць на дапамогу чараўніцу Пэлю. Хто-хто, а Пэля ведала ўсё чыста пра дробных і найдрабнейшых нячысцікаў. Адно што грошы за свае паслугі Пэля брала вялікія. Не хочаш, каб Пэля дапамагла? Хочаш жыць з дробнымі паскуднікамі накшталт розных Дыхаў і Тэхаў? Жыві! Сплаціла Света чарадзейніцы аванс, тая спакойненька зайшла ў дом, панюхала паветра і дастала са Свецінай валізы маленечкую Шэрую паперку. На той паперцы было напісана толькі два кароткія словы; з аднаго боку — Дых, а з дугога — Тэх. Света, як убачыла тую паперку, дык адразу парваць хацела, але Пэля спыніла: «Ты маеш права на адно жаданне! Можаш папрасіць Дыха і Тэха што заўгодна зрабіць. Яны зробяць, а потым ты Шэрую паперку парвеш і спаліш. Толькі не спяшайся, падумай...» Света Бохан схапіла чароўную Шэрую паперку і закрычала на ўсё Крутагор'е: «Ад-ра-бляй-це назад усё, што на-ра-бі-лі!» Увобмільг усё ў доме Боханаў стала на свае спрадвечныя месцы. «Такую магчымасць ты, Светка, страціла! Такі шанец ты ўпусціла. Дурная ты баба...» — Пэля ледзь стрымалася, каб не ляснуць Свету па патыліцы. «Ты, вядзьмарка, памаўчы, бо не атрымаеш другую палову заробленага! Ясна? А зараз мы паглядзім, як гэтыя нячысцікі з майго цукру свой могілкавы пясок павыбіралі!» — Света Бохан адкрыла цукарніцу, а там быў толькі снежна-белы цукар і ні драбочка пяску. Света па-дзіцячы ўзрадавалася, парвала і ў попельніцы спаліла чароўную Шэрую паперку, якую падклаў ёй у валізу стары жабрак.

**Чорны крук**

Гулялі ў Крутагор'і вялікае вяселле: дачка дырэктара маторарамонтнага завода ішла за сына галоўнага тэхнолага швачнай фабрыкі. Асноўным на трохдзённым вяселлі быў надзвычайны падарунак маладым: бацькі склаліся і паставілі дом на тры паверхі з падземным гаражом і басейнам у садзе. Зроблены той дом-карцінка пад ключ, заходзь, жыві і радуйся. Маладыя — Аліна ды Юрась, адгуляўшы на вяселлі, паехалі жыць у прасторны дом. Зажылі яны ў сваім доме, як маглі і як умелі. Хутка высветлілася, што нічога яны не могуць і не ўмеюць. Калі Юрась яшчэ хадзіў на работу да маці на швачную фабрыку тое-сёе дапамагаць, дык Аліна адно шкоду ў доме рабіла. Возьмецца яна падлогу мыць, дык толькі бруд анучамі размажа. Пачне гатаваць, дык нешта абавязкова згарыць. Праз які месяц дом было не пазнаць: смецце, пыл, ні парадку, ні ладу, ні складу. Зрэшты... Каму якая справа да чужога ладу і парадку?

Высветлілася: не ўпадабаў Аліну дамавік. Пачаў яе палохаць: стукаць, грукаць, свістаць, гукаць. Маладая жанчына, адпаведна, не залюбіла дамавіка. Пачала яго клясці, пачала брудна лаяцца на яго. Муж на фабрыку, а жанчына з дамавіком перагыркваецца. Перагырнваліся яны перагыркваліся, і надакучыла лаянка дамавіку. Вылез ён з-пад ложка і сказаў: «Калі ты да заўтрашняе раніцы чысціню ў доме не зробіш, я цябе, гадасць такую, паб'ю і згвалтую!» Жанчына замест адказу плюнула ў дамавікоў твар, дамавік і прапаў. Расказваць мужу пра дамавіка Аліна не стала, але і прыбрацца ў доме не паспяшалася. Таму ў дамавіка былі ўсе падставы біць і гвалтаваць непаслухмяную брудніцу. Як яна супраціўлялася! Як крычала і лямантавала! Нават калі дамавік яе ўсю збіў і згвалтаваў, яна не сунялася. Ён сыходзіў, а яна яму хвігу ўслед паказала: «На! Дулю табе з макам, вырадак! Напалохаў ён бабу чэлесам!!!» Дамавік так бразнуў дзвярыма, што жаночую хвігу і раструшчыў ушчэнт. Алесь знайшоў сваю жонку непрытомную, з пакалечанай рукою. Завёз ён яе ў бальніцу. Нічога лепшага, як адрэзаць кісць, у бальніцы не прыдумалі. Засталося ў Аліны толькі пятнаццаць пальцаў і лютая злосць на дамавіка. Як толькі кульця загаілася, Аліна пайшла да бацькі на завод і замовіла ў майстроў сталёвы крук. Майстры зрабілі ёй Чорны крук з варанёнай сталі. Жанчына замацавала яго на кульці і пачала вучыцца жыць і працаваць з Чорным крукам. І так у яе добра пайшла навука, так добра пайшло жыццё, што ўсе навокал толькі дзіву даваліся. А як жа спраўна яна ўсё робіць! А які чысты ў яе дом! А які дагледжаны і шчаслівы ў яе муж! Аліна, а можа, табе дзякуй сказаць дамавіку, які навучыў цябе жыць? Пасля такога пытання жанчына рабілася белай як смерць і адказвала: «Хай толькі патрапіцца мне на вока, гад! Парву на часткі! Чорным крукам выдзеру сэрца, падсмажу з цыбуляю і з'ем без солі і перцу!»

## Празрысты Свістун

Прыехаў у Крутагор'е мастак. Сказаць па праўдзе, у Крутагор'і і сваіх мастакоў хапае, але гэты атрымаў замову ад рэспубліканскага краязнаўчага музея на шэсць гравюр — сталічны музей вырашыў зрабіць стэнд, прысвечаны Крутагорскай Незалежнай Рэспубліцы. Была і такая слаўная старонка ў нашай гісторыі, калі тутэйшыя людзі са зброяю ў руках абвясцілі аб стварэнні ўласнай дзяржавы. Прастаяла наша КНР чатыры дні. Як для сусветнай гісторыі, то і мала, а як для мястэчка з навакольнымі вёскамі, дык і нішто сабе. Паспрабуй ты павыганяць прыхадняў і чужынцаў ды абвясціць дзяржаву. Азірнуцца не паспееш, як цябе затопчуць. А ў нас людзі сабраліся, узброіліся, выгналі бальшавікоў і пражылі чатыры дні ў сваёй вольнай дзяржаве. Бальшавікі вярнуліся на браневіках,

пазабівалі і парасстрэльвалі паўстанцаў-незалежнікаў ды ўсталявалі дыктатуру. Пакуль камуна-бальшавіцкая дыктатура стаяла, ніхто пра Крутагорскую рэспубліку і не згадваў, а як людзі разбурылі і знішчылі дыктатуру, дык грэх было не ўспомніць пра сваіх мужных папярэднікаў, што не пашкадавалі жыцця свайго дзеля свабоды. Сталічны музей сабраў матэрыялы пра паўстанцаў і выправіў у творчую камандзіроўку мастака. Той, канешне, мог, не выходзячы са сваёй сталічнай майстэрні, выразаць лінарыты, але мастак меў сумленне і жаданне выканаць замову як найлепш. Таму і прыехаў у Крутагор'е, каб намаляваць з натуры краявіды і архітэктурныя пабудовы, у якіх разгортваліся падзеі, звязаныя з незалежнай анархічнай рэспублікай. Пасяліўся мастак не ў гатэлі, а ў дамку сваёй даўняй знаёмай настаўніцы малявання. Некалі яны разам займаліся ў мастацкай вучэльні. Жанчына рана аўдавела і жыла адна ў прасторным доме. Яна так угаворвала мастака пасяліцца ў яе, што той не змог адмовіцца. Праблемы пачаліся ў першую ж ноч, але зусім не тыя, што ўзнікаюць, калі гожы мужчына з вабнай жанчынаю застаюцца адны ў доме. Праблема была ў скразняку. Мастак, седзячы за сталом, маляваў тушшу на паперы, калі адчуў, як холадам пацягнула па нагах. На вуліцы стаяў цёплы жнівень, а па нагах цягнула кастрычніцкім холадам. Мастак зачыніў акно, дзверы ў пакой і так былі зачыненыя. Сеў зноў за стол і адчуў ледзяны скразняк — цяперака дзьмула на спіну. Мастак пашукаў іншае месца, каб не дзьмула, але скразняк дзьмуў з чатырох куткоў. Цяпер да холаду дадаўся тонкі пранізлівы свіст. Мастак не наважыўся пайсці да ўдавы і паскардзіцца на свіст, бо, падумаў, калі ён прыйдзе пасярод ночы да жанчыны, тая зразумее гэта як прапанову сагрэцца пад адной коўдраю. Таму мастак разабраў ложак і залез пад сваю коўдру з галавою. Пад тоўстай коўдраю было цёпла і ўтульна, але, як толькі мужчына высунуў з-пад коўдры галаву, нехта небачны так моцна свіснуў яму ў вуха, што галава ад болю развалілася напалам. Ратуючыся ад скразняку, мастак вылез праз акно ў сад і да раніцы прагуляў па Крутагор'і. Ноч была цёплая, з поўняю, вялікімі зорамі і Млечным шляхам. Мастак блукаў па ціхіх пустых вулках і ўяўляў, як ён зробіць гравюры з крутагорскімі змагарамі за свабоду, і будзе на тых гравюрах вялікая поўня, буйныя зоры і Млечны шлях. Раніцаю мастак вярнуўся праз акно ў дом удавы і выйшаў з пакоя ў залу на сняданак. Ні пра свіст, ні пра скразняк мастак не згадаў бы, каб у яго не забалела вуха. Яно забалела і «застраляла» так, што слёзы пакаціліся з мужчынскіх вачэй. Давялося распавядаць і пра свіст, і пра начную прагулянку, і пра скокі праз акно. Удава параіла мастаку схадзіць да чараўніка Яся. Мужчына не паверыў у бабскія забабоны і

пайшоў у аптэку, дзе набыў антыбіётык для закапвання ў вушы. Кроплі не дапамаглі, і пад вечар боль у вуху зрабіўся такі, што трываць яго далей сіл не засталося. Удава завяла мастака да чарадзейніка. Той выслухаў гісторыю пра свіст і скразняк, спахмурнеў і сказаў: «Муж-нябожчык ніяк не супакоіцца, не хоча ён жонку жывую адпусціць, устае ён з магілы, абарочваецца Празрыстым Свістуном і дзьме на людзей, што побач з жонкаю з'яўляюцца, дзьме лютым сіберам ды жалезным свістам. Каб табе паправіць вуха, трэба купіць гарэлкі, занесці бутэльку на могілкі і выліць на капец мужа-нябожчыка. Ліць трэба не шкадуючы, сабе адно на донцы пакінуць некалькі кропель на кампрэс. Зробіш сабе гарэлачны кампрэс, ноч з кампрэсам праспіш, а раніцаю будзеш слухаць саловак абодвума вушамі». Мастак з удавою набылі на ўсялякі выпадак дзве пляшкі гарэлкі, з адной зрабілі тое, што нараіў чарадзейнік Ясь, а другую выпілі за вячэраю. У гэтую ноч муж-нябожчык не ўставаў з магілы, палітай гарэлкаю, і не абарочваўся ў Празрыстага Свістуна. Таму ў доме ўдавы было і цёпла, і хараша, і салодка. Таму ўсю тую ноч мастак праспаў з гарэлачным кампрэсам і… Не пры дзецях гаворачы… З удавою праспаў мастак. Раніцаю мужчына з жанчынаю разам слухалі крутагорскіх салаўёў і абмяркоўвалі, як будуць жыць разам у сталіцы, а дом Празрыстага Свістуна яны прададуць. Можаш мне і не паверыць, але мастак звёз з Крутагор'я ўдаву і ажаніўся з ёю. Дом Празрыстага Свістуна яны так і не прадалі. Параіўшыся з чарадзейнікам, яны цяпер кожнага разу перад тым, як улетку засяліцца ў дом, выліваюць на магілу Свістуна Празрыстага цэлую пляшку добрай гарэлкі, а сабе нават кроплі не пакідаюць. Ён супакойваецца і не турбуе ні іх, ні іхнюю маленькую дачушку. Ага, каб не забыцца… Замоўленыя гравюры мастак зрабіў. Ён старанна вымаляваў і мужныя твары паўстанцаў, і зброю ў працавітых руках, і Крутагор'е, і поўню, і зоры, і Млечны шлях. Сталічны музей гравюры набыў і схаваў, бо зноўку надышлі часы, калі мала хто згадвае пра Незалежную Крутагорскую Рэспубліку.

**Рудыя чарты**

Журналіст газеты «Сцяг Крутагор'я» з'ездзіў у доўгую камандзіроўку. Вярнуўся ён з падарункамі, пачастункамі і віном. За святочна прыбраным сталом жонка і спыталася ў мужа-вандроўніка: «Сама не ведаю чаму, а захацела даведацца… У Жыроне ты чарцей бачыў?» — «Бачыў!» — «Якія яны — тамтэйшыя гады?» — «Поўсць на іх кароценькая, чорная і бліскучая, вочы вялізныя, жоўтыя, зубы рэдкія і крываватыя, самі худыя, хвасты тонкія і без кутаса. Гадкія яны, як памыйныя каты. З нашымі тутэйшымі Рудымі

чартамі не параўнаць. Нашы, канешне, кудлатыя і нячэсаныя, але калі іх з шампунем памыць, калі іх расчасаць — ільвы!»

## Белы манекен

Толькі-толькі ў Крутагор'і адчыніўся начны клуб «Тарнада», як і здарылася гісторыя з Белым манекенам… Віця Нацэўскі прыехаў на выхадныя да бацькоў. Ён паступіў у медыцынскі і марыў стаць псіхіятрам. Жыў Віця ў мінскім інтэрнаце, бацькоў адведваў раз на месяц. Прыехаў, а ў Крутагор'і навіна — начны клуб. Як не схадзіць? Пратанчыў, правесяліўся, праклубіўся Нацэўскі ўсю ноч з пятніцы на суботу. Пад раніцу выйшаў з «Тарнада» з сяброўкаю Галяю Бабіцкай. Правёў Галю да самага дома. Дамы Бабіцкіх і Нацэўскіх побач стаялі. Віця з Галяю сябравалі з дзяцінства, потым ён з'ехаў вучыцца, а яна засталася працаваць прадавачкаю ў краме гатовага адзення. У кожнага свая дарога. Але часам адразу дваім людзям ісці па дарозе замінае адна рэч. Так і ў гэтай гісторыі… На дарозе, якраз перад дамамі Бабіцкіх і Нацэўскіх, з'явіўся Белы манекен і пачаў танчыць. Віктар не спалохаўся а ні на кроплю: «Што нам гэтая пустая лялька можа зрабіць?» — сказаў ён Галіне і пакрочыў насустрач манекену. Той падскочыў да хлопца і ўдарыў даланёю па скроні. Нават не ўдарыў, а дакрануўся — дакрануўся і прапаў. Галя пабегла ў свой дом, а Віктар зайшоў у свой і лёг спаць. Раніцаю ён паскардзіўся бацькам на моцны боль у галаве. Тыя спачатку думалі, што іх хлопец ператанчыў у «Тарнада», але Віктар праляжаў у ложку ўсю суботу і ўсю нядзелю. У панядзелак выклікалі доктара, але пакуль той прыехаў, Віктар ужо памёр. Перад смерцю ён расказаў бацькам пра танец Белага манекена, які дакрануўся да яго, каб забіць. Яшчэ Віктар сказаў, што гэта Галіна забіла яго Белым манекенам, бо ён не захацеў з ёю любіцца і жыць. Галя сапраўды любіла Віктара і хацела з ім жыць, а калі той з'ехаў у Мінск і пакінуў яе ў Крутагор'і, паабяцала адпомсціць. Яшчэ Віктар папрасіў бацькоў знайсці ў сутарэннях крамы гатовага адзення стары Белы манекен і спаліць яго. Пачуўшы бацькоўскія абяцанні спаліць Белы манекен, ён і памёр. Пасля пахавання сына бацькі пайшлі да дырэктара крамы і распавялі пра апошнія запаветныя словы Віктара. У сутарэннях сапраўды знайшоўся Белы манекен з паўтыканымі ў яго доўгімі іголкамі. Нацэўскія завезлі манекен у лес і спалілі. У вогнішчы Белы манекен устаў і затанчыў. Ён танчыў і смяяўся, віхурыўся і клубіўся, пакуль не рассыпаўся ў пыл. Што да Галіны, дык яна не прызнала сябе за вінаватую, сказала, што ніякага Белага манекена не бачыла і нічога кепскага нікому не рабіла. Бабіцкія з Нацэўскімі цяперака не размаўляюць — гэтым гісторыя і скончылася.

## Сінія рукі

Іра Александровіч і Паўліна Шушкевіч пайшлі ў кіно на апошні сеанс. Вярталіся дзяўчаты позна, блізу дванаццатай ночы. Паўліна запрасіла Іру да сябе пераначаваць. Прыйшлі дзяўчаты ў дом Шушкевічаў, а тамака ўсе ўжо спаць пакладаліся. Ціхенька, каб нікога не пабудзіць, Іра з Паўлінаю запарылі сабе гарбаты і селі вячэраць. Тут і пачула Паўліна, што нехта нібыта ў шыбку пастуквае. Падняла яна вочы, а за акном стаіць старая жанчына і Сінімі рукамі па шкле водзіць. Іра заўважыла, што сяброўка ў акно глядзіць, і сама туды зіркнула, а тамака старая з Сінімі рукамі ў дом просіцца. Паднялі дзяўчаты вэрхал, усіх пабудзілі, усім расказалі пра Сінія рукі. Але пакуль старэйшыя прачыналіся, пакуль да акна дайшлі, старая з Сінімі рукамі прапала. Пра гэтае здарэнне хутка забыліся б, каб Сінія рукі не пачалі з’яўляцца ў розных крутагорскіх вокнах, і каб старая не прасілася пусціць яе ў дом. Тыдзень усё Крутагор’е толькі і гаварыла пра Сінія рукі, а самае цікавае з усіх расповедаў было тое, што Зіна Ладаўшчук пазнала ў старой з Сінімі рукамі нябожчыцу Антаніну Крывалевіч. Дом Крывалевічаў некалі стаяў на ўскрайку Крутагор’я — каля дарогі, што ішла з мястэчка ў вёску Бакінава. Была зіма, завіруха круціла такая, што з дому не выйсці. Пасярод ночы да Крывалевічаў пастукаліся чужыя мужчыны і папрасілі гаспадара паказаць дарогу на Мінск, маўляў, ехалі ды заблукалі. Чаму ж людзям адмаўляць, калі яны ў бяду трапілі? Стары Крывалевіч апрануў кажух і выйшаў у завіруху. Не ведаў стары, што гэта не яны, а ён у бяду патрапіў. Бандыты (а гэта былі бандыты) застрэлілі старога Крывалевіча на ганку, а самі ў дом заляцелі. Сына Крывалевіча яны зарэзалі адразу і нявестку адразу застрэлілі. Нават унука, які і год у нашым свеце не пабыў, бандыты зарэзалі, не вымаючы з калыскі. А старую пакінулі. Яны білі і катавалі яе, каб сказала, дзе грошы і золата прыхавана. Пэўна, яна ўсё пра ўсё распавяла людарэзам, а яны яе ўсё адно застрэлілі як небяспечную сведку свайго злачынства. Дом бандыты вырашылі спаліць. Падпаліць яны яго падпалілі, але суседзі, неяк адразу пабачыўшы агонь, прыбеглі і полымя патушылі. Тут усе і пабачылі, якая жудасць здарылася з Крывалевічамі. Банду людарэзаў крутагорцы не злавілі, бо тыя на машыне былі, а ў які бок з’ехалі, ніхто не бачыў. Дом Крывалевічаў — праўдзівей кажучы, тое, што засталося ад дома, — прыбралі і паставілі на тым месцы, побач з дарогаю на Бакінава, помнічак. Яго там паставілі, бо і пахавалі сям’ю пакутнікаў у тым жа ж месцы. Чаму іх не завезлі на могілкі? Ніхто ўцямна сказаць не змог. Пэўна, вырашылі зрабіць як хутчэй і як лягчэй. Ды і час быў суровы, паваенны. Толькі не ляжалася, не спалася пакутнікам у прыдарожнай

магіле, вось і пачала старая з Сінімі рукамі ўставаць з зямлі і хадзіць па Крутагор'і, і прасіць, каб пахавалі яе сям'ю разам з людзьмі, на могілках. Крутагорцы сям'ю Крывалевічаў перазахавалі, балазе ў тых мясцінах, дзе некалі стаяў іх дом, пачалі будаваць ільнозавод. Пасля перазахавання больш ніхто і не бачыў на сваім акне Сінія рукі.

### Белая пятля

Крутагорцы, як і ўсе тутэйшыя людзі, добра ведаюць, што бацькоў сваіх трэба любіць і паважаць. Ведаў пра тое і дзесяцікласнік Анатоль Варакса. Праўда, з бацькоў у яго была адна маці — Маня. Пра прыгажосць Мані можна было б вершы пісаць, а вось жа з мужчынамі ёй не шанцавала. Два разы яна выходзіла замуж і два разы выганяла мужоў з дому за п'янства. Ад першага замужжа застаўся ў Мані Толічак. Любіла Маня свайго Толічка да бяспамяцтва. Часам здавалася, што, акром Толічка, для Мані і людзей на свеце не існуе. Ад гэткай вялікай любові і ад бясконцай увагі Анатоль стаміўся, ды так стаміўся, што вырашыў маці сваю напужаць. Узяў ён вяроўку, прывязаў да крука пад столлю, зрабіў пятлю, стаў на крэсла пад пятлёю і думаў: як маці праз акно ўбачыць, дык засуне сваю галаву ў пятлю і з крэсла саскочыць. А маці як пабачыць, што сын павесіўся з-за яе, дык напалохаецца і больш не будзе да яго прыставаць са сваёй увагаю ды любоўю. Дурныя думкі. Ніхто і не кажа, што яны добрыя. Дурота. А вось жа ўлезла такая дурота хлопцу ў галаву, і стаяў ён на крэсле з Белай пятлёю ў руках і чакаў сваю маці. Наўпрост са столі выплыў да Анатоля Маціцовы чалавек і сказаў, што нельга з пятлёю забаўляцца. Хлопец паслухаў Маціцовага чалавека, адвязаў вяроўку ад крука. Толькі ён вяроўку адвязаў, як наўпрост з падлогі вылецеў чорт і выбіў крэсла з-пад Анатолевых ног. Моцна тады пабіўся Анатоль Варакса. Маці як вярнулася, як пабачыла пабітага сына, дык праплакала ўсю ноч, а ён яе суцяшаў, казаў, што моцна яе любіць і больш ніколі-ніколі не будзе забаўляцца з вяроўкаю і Белай пятлёю.

### Жоўты гатэль

Паціху-патроху Крутагор'е разбудоўваецца: то завод узвядуць, то фабрыку паставяць. А дзе прадпрыемствы растуць, там і камандзіровачныя людзі з'яўляюцца. Як было не адкрыць у гарадку нашым прыстойны гатэль? Збудавалі яго і пафарбавалі ў сонечна-жоўты колер. Напісалі на ім проста «Крутагорскі», але ў народзе яго пачалі называць Жоўты гатэль. Дырэктаркай у новым гатэлі працавала Каміля, яна і распавяла мне гісторыю пра Дамавіка і Суседніка… Адразу пасля шумнага і святочнага адкрыцця ў гатэль засяліўся інжынер, які прыехаў на фабрыку наладжваць швачныя машынкі. Ціха чалавек прыехаў, ціха засяліўся і ціха спаць лёг, а раніцаю не прачнуўся. Памёр чалавек ціха, ну і вырашылі ўсе, што

нікому не трэба шуму, нікому не трэба казаць, што ў Жоўтым гатэлі першы жыхар у першую ж ноч развітаўся з нашым сонечным светам. Міліцыянты з салдатамі завезлі нябожчыка да сваякоў у Мінск. Недзе з месяц у Жоўтым гатэлі ўсё ішло спакойна, пакуль адной раніцаю ў кабінет да Камілі не прыйшоў жыхар у адных нагавіцах. Ён распавёў дырэктарцы пра жудасную ноч… Вечарам ён зайшоў у свой нумар, разуўся, кашулю зняў, тут у нумар і заваліўся здаравенны мужчына, а мо і не мужчына, а чорная малпа. Інжынер ад перапуду ажно вочы заплюшчыў. Сэрца ягонае кудысьці ў кішкі звалілася і нават тахкаць перастала. Сядзіць і думае: гэта ж канец мне прыйшоў. А з-пад ягонага ложка пачало нешта невялікае вылазіць. Зірнуў ён адным вокам на гэта невялікае, а тамака маленечкі мужчына, а можа, і не мужчына, а белая малпа. Маленечкая істота спытала чалавечай моваю: «Суседнік, ты чаго зноўку на маю тэрыторыю заваліўся?» — «Дамавік, я прыйшоў сюды, бо гэтыя людзі селяцца ў дом, не спытаўшыся дазволу. Аднаго я задушыў, задушу і другога. Буду душыць іх кожны месяц, пакуль не навучацца прасіць дазвол!» — «Не ты тут распараджаешся. Каміля папрасіла ў мяне дазволу, і я дазволіў. А ты, мяне не спытаўшы, задушыў падушкаю першага жыхара. Цяпер прыйшоў душыць другога. Таму зараз ты будзеш пакараны, я дастану з тваёй галавы адно вока і растапчу! Калі ты, Суседнік, яшчэ раз сюды з'явішся, дык выпаўзеш адсюль сляпым калекаю…» Не паспеў інжынер і вокам міргнуць, як Дамавік ускочыў на шыю да Суседніка і кіпцямі выдраў з ягонай галавы вока, шпурнуў вока на падлогу і растаптаў яго босымі пятамі. Суседнік вылецеў з нумара, а Дамавік пад ложак запоўз. Да раніцы інжынер прасядзеў на ложку, а як пачуў крокі на калідоры, дык адразу да Камілі ў кабінет і прысунуўся. Тая ўгаварыла мужчыну нікому не казаць пра здарэнні ў Жоўтым гатэлі. Каму такая вядомасць патрэбна? І сама яна доўгі час нічога пра бойку Дамавіка і Суседніка не распавядала. Яна ціхенька прасіла ў Дамавіка дазвол на засяленне кожнага чалавека і ўсё. Нават калі Каміля сышла на пенсію, яна доўгі час маўчала. А потым расказала гісторыю мне, бо ў Крутагор'і адчыніўся новы лепшы і прасторнейшы гатэль, а Жоўты гатэль знеслі. Разбудоўваецца Крутагор'е паціху-патроху.

**Шэрая кепка**

Аднойчы ўвечары зайшоў у рэстарацыю «Крутагорскі вецер» чужы мужчына. Спакойна зайшоў, спакойна выбраў самы лепшы стол каля вялікага акна, сеў, зняў Шэрую кепку і паклаў на белы абрус. Галоўны афіцыянт, а ім ужо гадоў пятнаццаць працуе Генадзь Ладаўшчук, абурыўся такімі нахабнымі паводзінамі чужынца. Палітон не зняў, сеў за найлепшы стол ды яшчэ старую кепку на новы абрус паклаў.

Чужынец прапанаваў Генадзю Шэрую кепку аднесці ў гардэроб. Ладаўшчук хацеў кепку скінуць са стала на падлогу, ды не змог яе падняць. З выгляду — кепка як кепка, а цяжар у яе неверагодны. Гена здолеў толькі брыль над абрусам на які сантыметр прыўзняць ды пальцы пад Шэрую кепку падсунуць, як яму пальцы і прыціснула. Так Генадзь Ладаўшчук і прастаяў, сагнуўшыся, каля стала, пакуль чужынец павячэраў. Той з'еў вячэру з чатырох страваў, разлічыўся, надзеў Шэрую кепку і пайшоў. А Ладаўшчуку яшчэ з месяц прыціснутыя пальцы з пачарнелымі пазногцямі балелі так, што ён нават грошы лічыць не мог.

### Чырвонае віно

Якое вяселле без віна? І дзе ўжо тое віно наліваецца без шкадаванняў, як не на вяселлі! Колькі я таго віна выпіў на розных вяселлях? Не перамераеш! Ідзеш па якім мястэчку, чуеш музыку, падыходзіш, а тамака вяселле спраўляецца. І заўсёды табе чарку прапануюць. Свята павінна быць ва ўсіх. Так і стары Нарко думаў, калі да Гелякевічаў у двор заходзіў. Ядзя Валахановіч ішла за малодшага з братоў Гелякевічаў. Стаяла Ядзя пасярод двара і машыну чакала, каб паехаць распісвацца. Падышоў да яе Нарко і папрасіў наліць яму шклянку Чырвонага віна. Ядзя — дзеўка наравістая — вазьмі ды скажы: «Я ў гэтым доме яшчэ не гаспадыня!» Закрыўдаваў Нарко і сказаў, што пашкадуе яна моцна за адмову. Якраз машына падышла, жаніх з нявестаю ўрачыста селі ў машыну, думалі, паедуць. Не завялася машына, дык трэба маладым пешкі ісці. Трэба ісці, а ў Ядзі ногі не ідуць. Добра, што на вяселле запрасілі Петухоўскую. Яна загадала маладой зняць чаравічкі і паклала ў кожны чаравік па сто рублёў. Ногі пачалі Ядзю слухацца. Сходзілі маладыя ў Дом шлюбаў, распісаліся, а калі вярталіся, сустрэлі на дарозе старога Нарко. Ядзя не вытрывала і як закрычыць: «А каб жа ты, стары чорт, ды не сваёю смерцю памёр!!!» Нарко з нявесты смяяцца пачаў і дарэмна смяяўся: праз нейкі месяц яго на шашы машына збіла, і памёр ён не сваёй смерцю. На ягоных хаўтурах я выпіў шклянку Чырвонага віна і падумаў, што на хаўтурах віно таксама наліваецца без шкадавання.

### Блакітная малпа

У каірскім музеі культуры старажытнага Егіпта маю ўвагу спыніла каменная малпа. Яна ўважліва глядзела на мяне. Я зазірнуў ёй у вочы і згадаў Блакітную малпу, якую бачыў аднаго разу ў сваім Крутагор'і. У мяне быў знаёмы паэт, ён піў без продыху гадоў з дваццаць. Ад такога несупыннага п'янства розум ягоны аслаб. Таму ніхто асабліва не ўслухоўваўся ў паэтычныя расповеды пра блакітнага звера, які нібыта пасяліўся ў скверы. П'янае трызненне. Якая можа быць малпа ў крутагорскім скверы? Адным светлым кастрычніцкім ранкам я

завітаў да паэта, бо збіраўся надрукаваць у альманаху ягоны верш. Мы сядзелі ў варэльні і пілі: ён — разбаўленае халоднай гарбатаю таннае віно, а я — каву. Паэт распавядаў пра свой намер напісаць эпічную паэму пра лён. За вокнамі пахістваліся высокія клёны. На адным — самым чырвоным — сядзела Блакітная малпа. Я хацеў быў паказаць паэту незвычайную малпу, але перадумаў. Ён і так пра яе ведае, а два прыхільнікі Блакітнай малпы на адно Крутагор'е зашмат. Таму я разам з іншымі крутагорцамі смяяўся, калі гутарка заходзіла пра незвычайнага звера. Хіба ж можа ў беларускім мястэчку жыць вольная малпа? Не! Такія малпы жылі ў старажытным Егіпце, іх даўно няма, як даўно няма і нашага паэта.

**Рудая дзяўчына**

Спрабую ўявіць Крутагор'е без бара «Ветрык» — не ўяўляецца. Колькі сябе памятаю, столькі і «Ветрык» стаіць каля дарогі на Мінск. Канешне, можна пацікавіцца ў старэйшых і спраўдзіць дату пабудовы нашага «Ветрыка», але мне лепей сказаць так: у Крутагор'і «Ветрык» быў заўсёды. Прадавачкі і гаспадары мяняліся, а «Ветрык» вечна стаяў пад прыдарожнымі вербамі. Раней у «Ветрыку» гаспадарылі жанчыны, і быў ён неахайны, брудны і няўтульны. Зайшоў, выпіў і пайшоў. Так было, пакуль Славік Сарока не забраў «Ветрык» у свае спрытныя рукі. Год ён прастаяў за прылаўкам, разабраўся ва ўсіх складанасцях працы прыдарожнага бара і выкупіў яго ў дзяржавы. «Ветрык» пачаў квітнець. Цяпер там, акрамя гарэлкі і піва, можна выпіць кавы і гарбаты, можна пасядзець і пагутарыць у чысціні, святле і цяпле. Бармэн Сарока не спыніўся на «Ветрыку». Ён выкупіў сталоўку і зрабіў рэстарацыю «Крутагорскі вецер». Справы ў Сарокі пайшлі выдатна, і ён адчыніў начны клуб «Тарнада». На прэзентацыю клуба Слаўка прыехаў на новым «мерсэдэсе». Нехта павінен быў ездзіць па Крутагор'і на белым «мерсэдэсе». Чаму не рэстаратар Сарока? А вось чаму… Наш Сарока — страшэнны бабнік, жонкі не мае, а каханак паназаводзіў процьму. Дзявулі любілі вясёлае жыццё рэстаратара. І катаў ён лёгкадумных дзявуль на белым легкавіку кожную ноч. Часам надакучвалі Славушку дзеўкі, і тады гнаў ён сваю хуткую машыну куды вочы глядзяць. А куды могуць глядзець вочы крутагорскага рэстаратара? У бок сталічных рэстарацыяў і начных клубаў. Лётаў наш Сарока з Крутагор'я ў Мінск і з Мінска ў Крутагор'е па тры разы на тыдзень, лётаў, пакуль не наляцеў на Рудую дзяўчыну. Глыбокай ноччу яна стаяла на мінскай кальцавой дарозе. Сарока праімчаўся паўз яе, а потым нейкая сіла яго спыніла і прымусіла вярнуцца. Надта ўжо прыгожая дзеўка стаяла пад ліхтаром. Слаўка вярнуўся і прапанаваў Рудой дзяўчыне пакатацца. Тая села ў машыну. Славік паспрабаваў крануцца з месца і не змог. «Мерсэдэс»

памёр! Новы, белы, дарагі «мерсэдэс» памёр у тое самае імгненне, як у яго села Рудая дзяўчына. Сарока так запеpажываў, ажно слёзы пацяклі. Славік заплакаў, а Рудая дзяўчына засмяялася. Яна зарагатала злым рогатам, абярнулася з маляванай прыгажуні ў кудлатую чарціху, выскачыла з мёртвай машыны і паскакала ў лес, памахваючы кароткім хвастом. Перапужаны рэстаратар выклікаў дапамогу, сеў у таксоўку і з'ехаў у Крутагор'е. Свой мёртвы «мерсэдэс» ён прадаў на запчасткі. Мусіць, не яму наканавана ездзіць па Крутагор'і ў белым «мерсэдэсе», пэўна — не яму. Каму? Пажывём, пабачым.

## Чырвоны камар

Здарылася тое каля прадуктовай крамы. Хлопцы стаялі і гаманілі, вырашалі, куды лепей пайсці: у кіно ці ў клуб. Вечар быў летні, цёплы і сонечны. У хлопцаў было дзве бутэлькі віна на траіх. Так што можна было нікуды не ісці, а сесці ў скверыку ды за вясёлай гутаркаю выпіць. Хлопцы вагаліся, і якраз у гэты час да іх падышоў незнаёмы мужчына. Ён сказаў, што можа праходзіць праз сцяну. Чамусьці такая заява ўсіх страшэнна развесяліла. Хлопцы спыталіся, ці зможа мужчына зайсці ў зачыненую краму і вынесці бутэльку віна. Ён запэўніў, што зробіць тое лёгка. Хлопцы на свае вочы бачылі, як мужчына прайшоў праз сцяну і апынуўся ў краме. У тое імгненне, калі ён здымаў з паліцы бутэльку, аднаго з хлопцаў укусіў Чырвоны камар. Укус быў такі балючы, што хлопец ажно вочы заплюшчыў, а калі расплюшчыў, дык убачыў мужчыну, які рухаецца не ў краме, а побач з ёю. «Падман! Ён не ў краме, ён побач з ёю! Ён шальмуе…» — закрычаў укушаны Чырвоным камаром. «У цябе кашуля на спіне гарыць!» — спакойна сказаў чужынец. Хлопец азірнуўся на сваё плячо і пабачыў вялізныя языкі полымя. Ён упаў на зямлю і пачаў качацца, каб збіць агонь. Сябрукі спрабавалі яго суняць, спрабавалі сказаць, што ніякага полымя нямашака і ён дарэмна качаецца па зямлі. Хлопец не чуў, бо крычаў, каб яму дапамаглі патушыць полымя. Калі ён змогся і крыху супакоіўся, хлопцы — усе ўтрох — кінуліся шукаць падманшчыка. Шукалі доўга, абшукалі ўсё Крутагор'е, але нідзе нават следу ягонага не знайшлі. Змучаныя і злыя, яны вярнуліся ў скверык, селі і моўчкі выпілі свае дзве бутэлькі.

## Шэры сабака-2

У Чэся Тарнагурскага быў люты сабака. Чэсь пасадзіў на ланцуг маленькага шчанюка і выгадаваў злосную звяругу памерам з ваўка. Сваім зверам Тарнагурскі вельмі ганарыўся і выхваляўся. Пад Новы год у доме Тарнагурскіх здарыліся госці. Гаспадар, як заўжды, пачаў хваліць свайго сабаку-ахоўніка. Ясь Калечыц сказаў Тарнагурскаму, што зараз выйдзе на двор, а сабака нават не гаўкне. Паспрачаліся

Чэсь з Ясем на бутэльку каньяку. Калечыц выйшаў на ганак, сабака ўскінуўся, стаў на заднія лапы і весела заматляў воўчым хвастом. Калечыц пагладзіў сабаку па галаве і вярнуўся за святочны стол. Чэсь спахмурнеў. Ясь сказаў, што бутэльку ён не будзе спаганяць, і яшчэ сказаў, што бачыць у Чэся чорны намер — застрэліць сабаку-здрадніка. Тарнагурскі нават не спрачаўся з Калечыцам, бо сапраўды хацеў прыстрэліць звяругу. Ясь узяў з Чэся слова, што той не заб'е сабаку. Чэсь слова даў. Гадзіннік паказаў дванаццаць, і госці з гаспадарамі выпілі за Новы год.

**Чырвоны гэблік**

Адбылася тая містычная драма ў доме Шотаў. Стары Шот займаўся сталярствам, меў ён добрую майстэрню, дзе рабіў мэблю. Ні сыны Паўлюка Шота, ні ўнукі ягоныя вучыцца сталярнай справе не захацелі, а як толькі стары Шот выправіўся ў іншасвет, папрадавалі ягоныя інструменты. Прадавалі ўсё танна, абы прадаць, абы хто даў хоць нейкую капейчыну. На Дзяды старэйшаму з сыноў прыснілася, што бацька прыйшоў да яго з могілак і папрасіў Чырвоны гэблік. Мужчына нават у сне памятаў: нябожчыку нельга нічога даваць. Таму сын і адмовіўся даць роднаму бацьку ягоны любімы Чырвоны гэблік. Паўлюк Шот раззлаваўся і сказаў, што сам забярэ гэблік. Сказаў, забраў і сышоў. Праз тыдзень раптоўна памёр самы малодшы ўнук старога Шота. Людзі казалі, што стары Паўлюк забраў малога да сябе, бо няўдзячныя дзеці моцна зняважылі яго, калі паспешліва разбурылі майстэрню.

**Чорныя вусені**

У Яніны Драздоўскай на агародзе завяліся Чорныя вусені. У суседзяў іх не было, а тут што ні пасадзі, усё з'ядаюць. І апырсквала Яня свой агарод, і збірала вусеняў у вядро з саляркаю, каб спаліць, і насенне ездзіла купляць у Мінск. Нічога не дапамагала: напрыканцы вясны з'яўляліся Чорныя вусені і нішчылі агарод Драздоўскай. Знаёмыя параілі схадзіць да чараўніка — Яся Калечыца. Яня ў чарадзействы не верыла, але глядзець, як трэці год запар вусені сточваюць агарод, сіл не было. Калечыц паабяцаў прыйсці і прыйшоў праз дзень з новенькім, зробленым з ядлоўцу, кіем. Абышоў Ясь вакол агарода Драздоўскай тры разы, потым загнаў кій у зямлю і стаў чакаць, пакуль Чорныя вусені не спаўзліся на кій. Абабраў ён вусеняў з кія і паскідаў у мех, а той мех закапаў на дне Вараксавай ямы. Больш Чорных вусеняў у агародзе Яніны Драздоўскай ніхто не бачыў.

**Белае вуха**

Новую школу пабудавалі каля старых могілак. Тамака працаваў настаўнікам Казімір Сачко. Вучыў ён хлопцаў з металам працаваць. Вучням так падабалася слясарыць, што яны слясарны гурток

арганізавалі. Усім крутагорскім хлопцам хацелася мець свой уласны нож. Дзе ты яго зробіш, калі не ў майстэрні? Заседжваліся хлопцы ў школе да самай ночы. Аднойчы вучні ўбачылі за акном Белае вуха. Чалавека не відаць, адно вуха вісіць у паветры і нібыта прыслухоўваецца. Хлопцы станкі павыключалі, прыслухаліся: музыка з могілак далятае. Страшна, але пайшлі хлопцы да старых могілак і пабачылі, як каля плота пад ціхую плаўную музыку ў паветры плаваюць часткі людзей — нага, палец, сэрца, вока, нос… Кінуліся хлопцы ўцякаць, прыбеглі да настаўніка свайго, Казіміра Сачко, і распавялі пра Белае вуха і музыку на старых могілках. Настаўнік сказаў, што некалі даўно за старымі могілкамі вайскоўцы пазабівалі невінаватых людзей. Кроў тых невінаватых ніяк супакоіцца не можа, вось і выходзіць яна раз у дзесяць гадоў з зямлі на паветра і танчыць пад ціхую музыку.

### Шэры факельшчык

На левай руцэ ў Шэрага факельшчыка быў гадзіннік. Спярша гадзіннік, як і ўвесь факельшчык, меў срэбны колер, але пад дажджамі фарба пажухла і пацямнела. У Крутагор'і факельшчык з'явіўся разам з аленем, двума мядзведзямі, вясляркай і дзяўчынай з талеркаю. Бетонныя скульптуры прывезлі са сталіцы, каб упрыгожыць беднае пасляваеннае мястэчка. Факельшчыка паставілі каля ўвахода на стадыён. Там ён і стаяў са сваім высока ўзнятым вострым носам. Там яму і знявечылі руку. Толік Мазуркевіч упадабаў гадзіннік. Нашто было хлопцу браць камень і адбіваць ад скульптуры кавалак? Адбіў. Як той казаў, ні сабе ні людзям. Увечары Мазуркевіч папсаваў скульптуру, а ўночы Шэры факельшчык прыйшоў у дом Мазуркевічаў. Ён загадаў сабраць усе гадзіннікі, што былі ў доме, выбраў сабе найлепшы, надзеў і паабяцаў спаліць дом таму, хто яго зачэпіць. Мазуркевічы распавялі пра начное здарэнне і рабаванне ўсяму мястэчку. Ніхто не паверыў, але, калі са сталіцы прыйшоў загад знішчыць усе скульптуры, бо яны антымастацкія, Шэрага факельшчыка не кранулі. Зламалі аленя, разбілі мядзведзяў, павалілі вяслярку і дзяўчынку з талеркаю, а Шэры факельшчык застаўся стаяць. Усе скульптуры вывезлі на сметнік, адзін факельшчык усё яшчэ стаіць каля стадыёна. Штогод вясною яго фарбуюць, а ён за догляд сплочвае крутагорцам удзячнасцю. Калі табе не хапае часу, каб зрабіць нейкую справу, напрыклад, напісаць кантрольную па матэматыцы, ты можаш схадзіць да Шэрага факельшчыка і дакрануцца да ягонага гадзінніка, і твой час зробіцца іншым. У тваёй гадзіне будзе не 60, як ва ўсіх, а 70 хвілін. Шэры факельшчык дапамагае хірургам рабіць цяжкія аперацыі, дапамагае школьнікам пісаць складаныя кантрольныя, дапамагае каханкам расцягнуць

салодкі час спаткання. Шэрага факельшчыка ў Крутагор'і любяць усе, акром Мазуркевічаў.

### Чырвоныя яблыкі-2

Дом Скуратовічаў стаяў побач з домам Тодара Баравіка. У садзе Скуратовічаў вырасла высокая яблыня, і яблыкі з яе пачалі падаць на паўмежак Тодара, а той збіраў іх і даваў свінням. Скуратовічы пачалі абурацца. Яны абураліся не тым, што Баравік збірае яблыкі з-пад чужой яблыні, а тым, што чужымі Чырвонымі яблыкамі корміць сваіх парсюкоў. Рассварыліся суседзі так моцна, што Скуратовічы не паклікалі Баравіка на вяселле свайго сына. Усю вуліцу запрасілі, а Тодара абмінулі. Тры дні і тры ночы гуло вяселле, а на чацвёрты дзень маладыя выправіліся ў падарожжа. Мядовы месяц яны збіраліся пражыць на выспе Кіпр. Ды не суджана. Самалёт, у якім ляцелі маладыя Скуратовічы, упаў і разбіўся. Большасць людзей казала, што гэта проста супадзенне, а некаторыя былі перакананыя, што не запрошаны на вяселле Тодар Баравік наваражыў, каб адпомсціць.

### Шэры хвост

Табе падабаецца наш сэкс? Маўчыш? Значыцца, табе наш сэкс не падабаецца? Ці падабаецца? Чаму ты маўчыш? Чаму не спытаеш, а ці падабаецца мне наш сэкс? Баішся? Думаеш, я скажу, што мне наш сэкс не падабаецца? Думаеш, я пабаюся пра гэта сказаць? Думаеш, я нічога не прыдумала, каб наш сэкс стаў лепшы? Здагадайся, што я прыдумала? Няўжо табе не цікава? Глядзіш? І як табе мой Шэры хвост? З хвастом я значна прыгажэйшая і больш сэксуальная, праўда?..

### Зялёнае вядро

На вуліцы Чыгуначнай жыла злая баба — Маня Дудкоўская. Замуж яе ніхто не ўзяў, яна і састарэла ў пустой адзіноце. Ад злосці на свет пачала баба Маня людзям шкоду рабіць. Як хто з суседзяў збярэцца ісці ці ехаць па справах, дык Дудкоўская яму дарогу перабяжыць з пустым Зялёным вядром. У чалавека не толькі настрой сапсуецца, а і справа ягоная не пойдзе. Людзі з Чыгуначнай пайшлі да чараўніка Яся Калечыца. Сказалі, што раніцаю збіраюцца ехаць у Мінск прадаваць парэчкі, але баяцца Мані з Зялёным вядром. Ясь паабяцаў дапамагчы і дапамог. На досвітку Дудкоўская выбегла на вуліцу з пустым вядром, набрала ў калонцы вады і пайшла з той вадою не дамоў, а на шашу. Зялёнае вядро, поўнае да самых краёў чыстай вады, Маня Дудкоўская з Крутагор'я данесла ажно да Фаніпаля. Толькі ў Фаніпалі нейкі добры чалавек спыніў яе, спытаўшы: «Куды вы, цётачка, ваду несяце?» Маня адказала, што ваду нясе дамоў, і глянула на свае пасціраныя да крыві рукі. Тут яна і зразумела, што прайшла з поўным вядром дваццаць кіламетраў, — зразумела і

спалохалася. Добры чалавек яе суцешыў, сказаў, каб не баялася, але галоўнае, каб не рабіла людзям шкоды, і ўсё будзе добра.

**Чорнае віно-2**

Генрых Варатніцкі разлюбіў сваю Марыю. Год разам пражылі, і ён яе разлюбіў. Плакала Марыя, перажывала. А Генрых пусціўся ў загулы: піў і да дзевак у інтэрнат швачнай фабрыкі хадзіў. Марыя так заперажывалася, ажно твар змяніўся. Была віднай жанчынаю, а зрабілася жывой нябожчыцаю, страшна глянуць. Ваця Грушэўскі вазьмі і пашкадуй Марыю. Ваця сябраваў з Генрыхам і шчыра радаваўся, калі той узяў сабе ў жонкі Марыю. А цяперака заперажываў і прыдумаў, як загульнага Генрыха вярнуць у сям'ю. Ваця завёў Марыю да чарадзейкі Фрузы, а тая дала ім бутэльку Чорнага віна, сказаўшы, што як муж вып'е таго віна, дык зноўку палюбіць жонку. У нядзелю Марыя прыгатавала святочны абед, паставіла на стол гарэлку і віно. Толькі яны селі за стол, а Генрых кажа: а давай гасцей паклічам. Як не адгаворвала жонка мужа, а той усё адно паклікаў сяброў. Ніхто з сяброў не прыйшоў, усе былі занятыя, акром Ваці Грушэўскага. Той прыйшоў, паабедаў з сябрамі, трохі выпіў і сышоў. Не паспеў ён выйсці з двара Варатніцкіх, як адчуў неверагодную ласку да Марыі. З таго дня ён не мог думаць ні пра каго, акрамя Марыі Варатніцкай. Пачаў Ваця Марыю пераследаваць, пачаў казаць ёй пра сваё каханне неадольнае. Пакутаваў мужчына. І невядома, чым бы тыя пакуты скончыліся, каб Ваця і Марыя не зляцеліся да самага грэшнага. Злюбіліся яны, а пасля любошчаў пайшлі разам да Фрузы, пайшлі прасіць, каб адчаравала яна Вацю. Фруза мела ў любоўных чарах вялікі спрыт і адчаравала Грушэўскага за адно імгненне. Аказваецца, разлюбліваць лягчэй, чым пакахаць. Ваця аддзячыў Фрузу і зажыў з лёгкай душою. А Генрых? Пасля Чорнага віна Генрых наноў палюбіў сваю Марыю, але палюбіў не так моцна, як раней. Ён палюбіў яе спакойнай любоўю, якой было больш чым дастаткова на доўгае-доўгае сямейнае жыццё.

**Сідар і крылы**

Сідар сеў — пасадзілі за золата. Знайшлі ў Сідара залатыя зліткі і пагналі за краты. Сідар не разгубіўся: «Не мае зліткі! Адкуль у кватэры золата? Не ведаю!» Жарты жартамі, а як давесці, што золата ягонае? Знайшоўся сведка — былы сябручок. Ён сказаў, што гэтыя зліткі належаць менавіта Сідару. Як ён злітак ад злітка адрознівае? Загадка. Адвакат запатрабаваў вочную стаўку. Паглядзеў Сідар на сябручка былога, той ад сваіх словаў і адмовіўся. Сказаў, што Сідар ягоную жонку трахаў, таму захацелася адпомсціць, вось і абгаварыў. У Сідара ад радасці крылы выраслі. Ён мне сам казаў. У камеру Сідар ляцеў на крылах. І ў камеры лётаў на крылах. Праз гадзіну зайшоў у камеру

адвакат і агаломшыў. Сябручок свае папярэднія паказанні зноў пацвердзіў. Адсядзеў Сідар за золата сем гадоў, выйшаў і яшчэ пражыў сямнаццаць гадоў, а крылы свае помніць выдатна. Так мне і кажа: «Ведаеш, нічога ў жыцці не шкада… акрамя крылаў!»

**Фіг і Нафіг**

«Фіг, фіг, фіг табе!» — трапятаўся Фіг. «На фіг ідзі», — адмахнуўся Нафіг. «А фігушкі, а фігулюшкі, а разфігулялюшкі табе!» — «На фіг, я сказаў!» — «Фіг!» — не сунімаўся зларадны Фіг. Тады Нафіг абарваў з Фіга фігавы лісток. Фіг бессаромна зрабіў тое ж самае. Нафіг падняў з зямлі асліны чэрап, размахнуўся і з усяе моцы трупнуў Фігу па галаве. Той паваліўся, скурчыўся і аддаў душу богу. «Фігова выйшла!» — сказаў Нафіг і пусціў слязу.

**Белая нітка**

Ёсць у Крутагорскім лесе маленькае возера — Бяздонніца. Ляжыць азярцо пасярод балота, таму ніхто да яго асабліва не ходзіць. Рыбы ў ім няма. Колькі ні спрабавалі карасёў запусціць, яны не прыжываліся. Дык што хадзіць да Бяздонніцы? І ўсё ж ходзяць. Няма ў Крутагор'і хлопца, каб там сваё шчасце не пашукаў. Ёсць паданне, нібыта можна на цёмнай азёрнай вадзе ўбачыць Белую нітку. Калі за тую нітку пацягнуць, дык з глыбіні на паверхню выплыве цэлы Залаты горад. Той, хто выцягне Залаты горад, ператворыцца ў непераможнага волата. Колькі я сябе памятаю, ніхто ніякай ніткі ў Бяздонніцы не бачыў. Але людзі кажуць, што яшчэ да Першай сусветнай вайны адзін крутагорац Белую нітку знайшоў, пацягнуў за яе, і паўстаў перад ім Залаты горад. З гарадской брамы выйшла да крутагорца белатварая жанчына і сказала, што не стане ён волатам, бо заўтра пачнецца вайна. Разззлаваўся крутагорац і парваў Белую нітку. Залаты горад пайшоў пад ваду. Жанчына прасіла крутагорца, каб выратаваў яе, каб не даў патануць у балотнай вадзе. Крутагорац не дапамог жанчыне, і яна захлынулася. Сам ён таксама загінуў на вайне, трапіў пад артабстрэл. Я, канешне, таксама шукаў Белую нітку, ды не суджана мне — стаць непераможным волатам. Можа, і добра, што ніхто ў Бяздонніцы нічога не знаходзіць, а то пацягнеш ты за Белую нітку і выцягнеш вайну.

**Марыя і спарон**

«Не ведаю… Ці трэба каму маё дзіця?» — «А табе, хіба табе не трэба дзіця?» — «Кажу: я не ведаю… Сэрца адчувае, што дзіця, калі яно народзіцца, будзе шмат пакутаваць…» — «Адкуль ты, Марыя, можаш ведаць пра пакуты свайго дзіцяці, якое яшчэ нават і не нарадзілася?» — «Сэрца маё ўжо цяпер адчувае вялікія пакуты. Лепей я зраблю спарон, будзе пакута, але пакута будзе кароткай…» — «Марыя, ніхто ніколі ў гэтым свеце не прынясе табе столькі святла і

столькі радасці, як тваё дзіця!» — «Думаеш?» — «Веру. Ты не зробіш спарон, ты народзіш дзіця. Нашыя дзеці будуць радаваць свет…» — «Лізавета, а ты думала пра спарон? А ты задумвалася пра пакуты свайго будучага дзіцяці?» — «Задумвалася, усе жанчыны задумваюцца… Я выбрала ягонае жыццё, і ты выбераш жыццё. Веру, што ты выбераш жыццё разам з пакутаю і святлом…»

**Дубовая трэска**

У Хведара Покуця памёр сын. Тры гады радаваў хлопчык бацькоў, а потым згарэў ад запалення лёгкіх. Ратаваць яго ратавалі, ды не выратавалі. Хведар ад гора счарнеў і азліўся на божы свет. Злосць ягоная была такой горкай і моцнай, што не дай ты, божа, чалавеку яе на сабе зведаць… Ідзе Покуць праз парк, бачыць: дзеці з мячыкам гуляюць. Думае злыдушны Хведар: «Яны гуляюць, а мой у зямлі ляжыць! Дзе справядлівасць? Хай і гэты — самы вясёлы — у зямлю ляжа!» Праз тры дні той, на каго зіркне Покуць левым вокам, паміраў. Хведар Покуць і сам пакутаваў ад уласнай чарнаты, але стрымацца не мог. Чаму гэтае, і гэнае, і вунь тое дзіця жыве, а маё ў труне пад крыжам ляжыць? Ніхто адказаць не мог… Няма такіх словаў, каб на такое пытанне адказаць! Ад неўтаймоўнага гора задумаў Хведар Покуць сам сябе забіць, каб невінаватым людзям болей не шкодзіць. Ён і задавіўся б у падрыхтаванай вяровачнай пятлі, каб не дубовая трэска. Вырашыў Покуць перад смерцю добрую справу зрабіць: жонцы дроваў накалоць. Накалоў ён дроваў цэлую падпаветку, а калі ўвагнаў сякеру ў апошні цурбэлак, дык ад таго дубовага цурбэлка адскочыла трэска і выбіла Покуцю злое левае вока. Разам з вокам Хведар Покуць згубіў і д’яблаў дар. Цяпер жыве Покуць з адным вокам і перахварэлай, але добрай душою.

**Анёл і цуд**

Анёл спазніўся. Дзьмуў вецер гарачы, моцны, з пяском. Анёл ляцеў на ўсіх крылах, ён спяшаўся, як мог, ён не павінен быў спазніцца, але ён не паспеў. Анёл спазніўся, і бацька забіў свайго сына. Бацька замахнуўся і загнаў вялікі нож у хлапечыя грудзі. Хлопчык быў ужо нежывы, калі анёл спусціўся з гарачага неба. «Што ж ты нарабіў?» — усклікнуў анёл, пабачыўшы бацьку над мёртвым сынам. «Прырода сказала мне: прынясі сына ў ахвяру. І я забіў сына, каб улагодзіць прыроду, каб паказаць ёй сваю любоў да яе. Каб яна бачыла, што мая любоў да яе большая за маю любоў да ўласнага сына! Што я не так зрабіў?» — «Ты ўсё зрабіў правільна! Але прырода загадала мне спыніць тваю руку з нажом, а я не спыніў. Надоечы я вывіхнуў крыло, а сягоння вецер, сягоння вецер з гарачым пяском. Я спяшаўся, як мог, я ляцеў на ўсіх крылах, але не паспеў. Я павінен быў спыніць цябе, павінен быў уратаваць сына твайго, павінен быў паказаць табе

ягнятка, якое захрасла ў кустоўі. Ты мусіў тое ягня забіць замест сына! Такі быў мой план...» — «Ты хочаш сказаць, што я дарэмна забіваў сына, і мая ахвяра нікому не патрэбна?.. Якая несправядлівасць!» — «Так! Я паспрабую ўсё выправіць! Я ператвару жывое ягня ў твайго сына, я ператвару твайго сына ў ягня. Мы ўсім скажам, што я паспеў у час і спыніў руку тваю з нажом. Мы так скажам, і нам паверацы!» Анёл ператварыў хлопчыка ў ягня, а ягня ён ператварыў у хлопчыка. Бацька нечувана ўзрадаваўся такому цуду і ніколі нікому не сказаў пра тое, што анёл можа спазніцца.

**Муфтый і Муфта**

Муфтый глыбока любіў Муфту. Муфта давала Муфтыю пачуццё цяпла, утульнасці і палёгкі.

**Двухпудовы камень**

Было тое даўно — так даўно, што гісторыю гэтую дзяды нашыя пачулі ад сваіх дзядоў... Ішоў праз Крутагор’е салдат, спыніўся каля калодзежа біклажку напоўніць. Якраз тады прыгажуня Ліда выйшла са свайго двара з каромыслам. Як там у салдата з Лідаю каханне зладзілася, ніхто не бачыў, але праз дзевяць месяцаў нарадзіліся ў яе хлопчыкі-блізнюкі. Мястэчка ведала: яны нарадзіліся ад салдата, які ішоў праз Крутагор’е ў Слуцк. Больш пра таго салдата ў Крутагор’і нічога сказаць не маглі. Ліда выгадавала сыноў адна. Хлопцы былі добрыя і разумныя, з выгляду яны не адрозніваліся ад раўналеткаў. Бязбацькавічаў ніхто не крыўдзіў, а каб хто і захацеў пакрыўдзіць, дык наўрад ці змог бы. Блізнюкі валодалі нечалавечай сілаю. Дзеля забаўкі яны маглі адзін аднаму перакідваць праз рэчку двухпудовы камень. Свае гульні з двухпудовым каменем блізнюкі старанна хавалі ад чужых вачэй. Асілкі думалі, што ў мястэчку не ведаюць пра іх надзвычайную сілу. Так яны думалі, пакуль дурнаваты Юрачка Юроўскі не выскачыў з прырэчнага кустоўя і не пачаў крычаць, што бачыў гульню з двухпудовым каменем. Блізнюкі спыталі ў Юрачкі, хто яшчэ ведае пра іх нечалавечую сілу. Юрачка сказаў, што ўсё Крутагор’е ведае пра перакідванне двухпудовага каменя праз рэчку, толькі ўсе баяцца і не загавораць з волатамі пра іх страшэнную моц. А ён — Юрачка Юроўскі — смялейшы і не збаяўся выйсці да волатаў у час іх таемнай гульні. Блізнюкі пахвалілі Юрачку за смеласць і сышлі з Крутагор’я. Нават да роднай маці Ліды блізнюкі не зайшлі развітацца; сышлі ў свет, як некалі іх родны бацька сышоў, сышлі ў бок Слуцка. Ніхто ніколі больш не бачыў крутагорскіх волатаў. Адно свой двухпудовы камень пакінулі яны каля рэчкі. Камень той дзяды нашых дзядоў паклалі ў падмурак царквы, ён і цяпер тамака ляжыць.

### Блудны сын

Было ў бацькі два сыны. Кожнаму з сыноў бацька даў вялікія грошы. Адзін сын завёў гаспадарку, а другі паехаў у вандроўку. Гаспадар хадзіў да бацькі, слухаў парады і ў хуткім часе сам зрабіўся заможны. Вандроўнік аб’ездзіў свет, паваяваў за чужую незалежнасць, павесяліўся на стракатых карнавалах, параспуснічаў, пап’янстваваў, спусціў усе грошы і вярнуўся дамоў. «Ідзі туды, адкуль прыйшоў!» — сказаў бацька свайму блуднаму сыну. «Як так? У кнізе напісана, што ты ўзрадуешся майму вяртанню, зладзіш баль у мой гонар, зноўку дасі мне грошы…» — «Кніга не пра нас…»

### Чырвоная шапачка

За губу сябе кусаеш, каб стрымацца, лепей сябе пакусаць, чым іншага, лепей сябе, лепей… Зараз я цябе з’ем, Чырвоная ша-ша-шапачка!

### Бэзавы Будапешт

Журналіст Сяржук Смоўж прыехаў на сустрэчу ў Будапешт. Пад бэзавым небам Будапешта яго чакала размова. Чалавек з сінім падбароддзем так сказаў Смаўжу: «Мы дадзім грошы на часопіс, у якім вы зоймецеся крытыкай радзімы!» — «Радзімы ці рэжыму?» — на ўсялякі выпадак перапытаў журналіст. «Хіба я сказаў «радзімы»?» — пытаннем на пытанне адгукнулася сытае падбароддзе. «Прабачце, мне так пачулася…» — завыбачаўся Сяржук. Грошы яму далі, палову Смоўж вярнуў чалавеку, які паблытаў словы «рэжыму» і «радзімы». На беразе бэзавага Дунаю, пра які некалі даўно любілі спяваць на радзіме Смаўжоў, Сержуку захацелася ўтапіцца. Ён стаяў на мосце, пад бэзавым небам, паміж Пештам і Будай, над шырокім Дунаем, і паціху пераўвасабляўся з журналіста ў журнагліста. За якія сем хвілін Смоўж цалкам пераўвасобіўся, жаданне тапіцца выпарылася, і з’явілася прага моцна, да бяспамяцтва, напіцца ў бэзавым Будапешце.

### Шэрая шэрань

У шэра-шэрай шэрані стаіць шэра-шэры горад. Праз шэра-шэры горад ідзе шэра-шэры праспект. На шэрым праспекце стаіць шэры дом. У тым доме, у вялікай кватэры, ёсць маленькая спачывальня. У спачывальні, на шырокім ложку, пад цёплай коўдраю ляжыць голая жанчына. У жанчыны п’яная похва. У похве танчыць п’яны чэлес. Перадкалядная ноч. Золка. Шэрая шэрань.

### Жанчына-сарока

Паляўнічы Казік Кісель распавядаў пра такое здарэнне ў Налібоцкай пушчы. Ягоная сучка Тайга, убачыўшы на паляне жанчыну, кінулася да яе так, нібыта гэта быў не чалавек, а звер які. Казік нават крыкнуць не паспеў, каб спыніць Тайгу, а яна ўжо

падляцела да жанчыны. Тая паводзіла сябе так, нібыта толькі і чакала вялізнага сабаку, каб папераўтварацца ў пташку. Нос яе зрабіўся дзюбаю, вопратка перакінулася ў пёры, а рукі сталі крыламі. Сарока ўзнялася высока над пушчаю і прапала ў нізкім шэрым небе. Тайга лягла на траву ў тым самым месцы, дзе стаяла Жанчына-сарока, і здохла. Казік моцна перажываў смерць сучкі Тайгі, бо яна была зусім і не старая як для паляўнічага сабакі — было ёй толькі сем гадоў.

**Каханы дуб**

Надоечы мне распавялі гісторыю пра Юрася, які закахаўся ў дрэва. Ён хадзіў да вячыстага дуба ўночы, абдымаў яго, цалаваў і плакаў. Юрась нават каханнем займаўся толькі з тым дубам. Дома ў Юрася віселі фотаздымкі любімага дрэва. Быў у яго і альбом з засушанымі дубовымі лістамі. Мелася ў шафе і палічка з акуратна раскладзенымі жалудамі ды жалудовымі каптурыкамі. Увосень Юрась збіраў жалуды, высушваў іх і малоў. З цёмнай мукі ён кожную раніцу варыў сабе на сняданак густую жалудовую каву. Ва ўсім астатнім Юрась быў самы звычайны і малапрыкметны чалавек. Незвычайнае каханне ён пранёс праз усё сваё доўгае жыццё. У запавеце Юрась папрасіў, каб ягоны попел пасля крэмацыі развеялі ў лесе, пад старым дубам. Так і зрабілі.

**Мастак і лісты**

Мастак Вінцэнт адрэзаў сабе левае вуха, паклаў яго ў капэрту і адаслаў каханай жанчыне. Яна не адказала на ліст. Вінцэнт адрэзаў сабе правае вуха і адаслаў найлепшаму сябру. Той не адгукнуўся. Мастак адрэзаў сабе нос, зрабіў пакет і паслаў брату. На адказ Вінцэнт ужо і не спадзяваўся. Ён рэзаў уласнае цела на часткі, раскладаў кавалкі плоці па капэртах і пакетах і адсылаў усім, каго толькі ведаў. Калі спадзевы на водгук скончыліся, калі ад мастакоўскага цела засталося ўсяго нічога, Вінцэнт застрэліўся. Ад мастака засталася адно чыстая душа. Пасля пахавання сваякі і знаёмыя сабралі ўсе капэрты і пакеты з плоццю мастака ды зрабілі музей, у якім і цяпер жыве чыстая душа Вінцэнта.

**Шэрая царква**

Некалі даўно, калі местачкоўцы верылі ў рай на зямлі, стаяла на ўскрайку Крутагор’я, за старымі могілкамі, маленькая Шэрая царква. Нават у Вялікдзень тамака збіралася адно некалькі стагадовых бабулек ды дзядоў. Здавалася, памруць старыя, і давядзецца маладому папу з пападдзёю шукаць іншы праваслаўны прыход, у іншай старане. Ды здарылася ў Крутагор’і дзіва, і здарылася яно з семнаццацігадовай Алесяй. На Радаўніцу прыбірала Алеся магілу сваёй прабабкі, як з-за старой неабдымнай таполі выйшла да яе Дзева Марыя. Яна сказала Алесі, каб тая кожную нядзелю наведвала Шэрую царву. Сказала і сышла за старую таполю. Акром Алесі, ніхто не чуў і

не бачыў Марыю. Шмат хто з крутагорцаў і не верыў у праўдзівасць слоў дзяўчыны пра Божую Маці, бо часы стаялі атэістычныя, але ўсе крутагорцы ведалі, што раніцай у нядзелю Алеся моліцца ў царкве. Паслухаць шчырыя малітвы і спевы крутагорскай прыгажуні хадзілі цяпер местачковыя хлопцы. У маленькай царкве стала збірацца шмат народу. Атэістычныя ўладатрымальнікі не надта пераймаліся гэтай з'яваю, а пападдзя запераЖывала. Рэўнасць пасялілася ў яе чорным сэрцы. Язык пападдзі пачаў распускаць гнюсныя плёткі пра Алесю: нібыта яна вар'ятка, нібыта — распусніца, якая ў свае сямнаццаць гадоў паспела зрабіць ажно тры аборты. Местачкоўцы паверылі пападдзі і абыходзілі маладую верніцу. Шэрая царква зноўку амаль апусцела, і тады здарылася ў Крутагор'і другое дзіва. На Дзяды Алеся зноў пабачыла каля таполі Дзеву Марыю. Яна сказала, каб Алеся ўночы спаліла Шэрую царкву. Паверыць у тое, што Божая Маці наказала Алесі спаліць храм, ніхто не мог. За спальванне царквы дзяўчыну асудзілі на тры гады турэмнага зняволення. У турме Алеся захварэла на сухоты і за паўгода згасла. У дзень, калі крутагорская дзяўчына памірала ў турэмнай бальніцы, у мястэчку здарылася трэцяе дзіва: маланка забіла пападдзю. Каб супакоіць местачкоўцаў, улады дазволілі адчыніць царкву, што стаяла на цэнтральным пляцы і выкарыстоўвалася хіжымі гандлярамі як склад мэблі. На першую службу ў зноўку адчыненай царкве сабралася ледзь не ўсё Крутагор'е, балазе быў якраз Вялікдзень. Даўно забыліся крутагорцы пра Алесю, якая спаліла Шэрую царву за старымі могілкамі, але няма цяпер у Крутагор'і і веры ў рай на зямлі.

**Сталічная Баба Яга**

Калі ты трэці дзень запар сустрэнеш на праспекце Незалежнасці Бабу Ягу, будзе зусім не страшна.

**Жоўтая труна**

Жыў-быў у нашым мястэчку Крутагор'е прадказальнік будучыні Кастусь Атраховіч. Ён сам пра свае надзвычайныя здольнасці і распавядаў. Ніхто старому Атраховічу не верыў, бо не можа чалавек ведаць пра дзень уласнай смерці. А Кастусь казаў, што ведае пра хвіліну, калі спыніцца ягоны зямны шлях. Ён казаў, што і пра чужыя сыходы ў іншасвет ведае, але расказваць і прарочыць не будзе, каб выпадкам не парушыць правільны ход быцця. Над байкамі старога Атраховіча местачкоўцы ціха пасмейваліся да таго часу, як ён сам сабе замовіў адмысловую Жоўтую труну з негабляваных сасновых дошак. «Мая труна павінна пахнуць жывіцаю, бо перад смерцю я хачу ў астатні раз набраць поўныя грудзі здаровага духу», — тлумачыў усім цікаўным Кастусь. У нядзельную раніцу Атраховіч апрануўся ва ўсё чыстае, лёг у труну і папрасіў сыноў, каб да заходу сонца яго

пахавалі. Сыны бацьку паслухаліся, закрылі века, занеслі Жоўтую труну на могілкі і закапалі ў зямлю. Цэлую ноч сыны Кастуся прасядзелі за жалобным сталом, а пад раніцу апанавалі іх сумневы. Ці не зарылі яны ў пясок жывога чалавека? Вярнуліся мужчыны на могілкі, раскапалі зямлю, паднялі века Жоўтай труны і пабачылі, што бацька іх, як і казаў, быў мёртвы. На твары нежывога Кастуся была жывая ўсмешка. Цяпер ніхто ў Крутагор'і не сумняваецца, што Кастусь Атраховіч быў праўдзівым прадказальнікам будучыні. А самае важнае тое, што крутагорскі прадказальнік ніколі не выкарыстаў свой дар дзеля якой-небудзь, нават дробнай, выгоды.

**Срэбны спод**

Хадзіла па Крутагор'і паданне пра безразважную танцорку Ірыну. Казалі, што Ірына так танчыла, што ўсе мужчыны вар'яцелі, калі бачылі тое вядзьмарскае танчанне. Каб пабачыць Ірыніны танцы, мужчыны прапаноўвалі ёй розныя рознасці. А Ігар Брайдэр нават сказаў, што можа зрабіць усё, што яна загадае. Ірына танцавала перад Ігарам больш як гадзіну, танцавала да поўнага бяссілля і страты прытомнасці. Калі свядомасць вярнулася да танцоркі, яна загадала свайму адданаму кавалеру забіць лепшага сябра — Яна Хроснага. Іра загадала забіць Яна, бо той у свой час паабяцаў ёй за танец пярсцёнак з рубінам. Паабяцаць паабяцаў, а падараваць не падараваў. Ігар Брайдэр забіў Яна Хроснага, адсек ягоную галаву, паклаў яе на срэбны спод і прынёс акрываўлены спод у дом да Ірыны. Ён паставіў срэбны спод на падлогу, да ног дзяўчыны, і папрасіў танцорку выйсці за яго замуж. Ірына дала згоду. Жаніх з нявестаю ў той жа ж дзень з'ехалі з Крутагор'я, і больш іх ніхто з крутагорцаў ніколі не бачыў.

**Шэры нос**

Нос памёр… Пачалося ўсё з пераносся. У жанчыны было затонкае пераноссе і маленькія, блізка пасаджаныя вочы. Сам нос быў доўгі і мясісты, таму пераноссе выглядала зусім затанюткім, а слезніцы ледзь не датыкаліся адна да адной. З-за тонкага пераносся жанчына лічыла сябе брыдкатварай, а ўсе гароты і бядоты спісвала на брыдкатварасць. З юнацтва жанчына марыла пра пластычную аперацыю, якая пашырыць яе нязграбнае пераноссе. Назбіраўшы сродкі на аперацыю, жанчына аддала сябе ў рукі хірурга. Той крыху пашырыў пераноссе, але гэта кепска адбілася на блізка пасаджаных вачах. Жанчына пачала касавурыць і губляць зрок. Каб вярнуць зрок, хірургу давялося надаць пераноссю першапачатковую тонкасць. А змаганне з брыдкатварасцю прывяло да таго, што хірург падкараціў даўжыню і зменшыў мясістасць носа. У выніку аперацый твар набыў нейкую кволую прыгажосць, што моцна пацешыла

жанчыну. Праўда, радасць яе была нядоўгай, бо нос пачаў мяняць колер. Праз які месяц нос памёр. Аднойчы раніцай у люстэрку жанчына пабачыла на сваім тварку мёртвы Шэры нос. Куды яна толькі ні хадзіла і ні ездзіла, каму яна толькі ні паказвала сваю бяду, з кім толькі ні кансультавалася і ні раілася... Ніхто нічым не мог дапамагчы і не дапамог. Нос памёр, і ўваскрасіць той нос не было аніякай магчымасці. Змучаная жанчына адрэзала нажніцамі Шэры нос, загарнула яго ў белую хустачку і закапала пад кустом барбарысу. На гэтым гісторыя з Шэрым носам і скончылася.

**Чорны камень**

Па дарозе з Крутагор’я ў Негарэлае ёсць чыгуначны пераезд. На тым пераездзе стаіць белы дамок. У тым дамку некалі даўно жыла старая Стася. Калі яна была маладою, дык зацяжарыла. Жыла Стася адна, мужчыны да яе не хадзілі. Так, не зведаўшы мужчыны, Стася і зацяжарыла. Праўда, быў ёй пададзены знак: з-пад залатых вечаровых аблокаў спусціўся на чыгуначны пераезд чырвоны галубок. Ён пахадзіў каля ног здзіваванай Стасі і прапаў. Праз адзінаццаць месяцаў Стася нарадзіла Чорны камень. Той камень Стася паклала ў палісадніку, і ён пачаў расці. Чорны камень рос павольна, нібыта дзіця. Каб я на свае вочы не бачыў, як растуць камяні, я б, канешне, і не паверыў у гісторыю з каменем, народжаным крутагорскай жанчынаю. Стася кожны божы дзень палівала свой камень вадою. Чуткі пра жывародны камень абляцелі Крутагор’е, і знайшліся людзі, якія паверылі Стасі. Яны паверылі і ў Чорны камень. У нядзелю тыя вернікі збіраліся каля чыгуначнага пераезда і маліліся каля Чорнага каменя. Вернікаў было мала, таму на іх ніхто асаблівай увагі і не звяртаў. Чорны камень пражыў трыццаць тры гады і тры дні, пакуль у яго не трапіла маланка. Была навальніца такая, што людзі баяліся не толькі з дому выйсці, яны баяліся нават блізка да акна падысці. Неба грымела так, нібыта з яго сыплюцца на зямлю вялізарныя камянюкі. Дзень быў чорны, як ноч. У той грымотнай навальніцы раз-пораз успыхвалі сталёваколерныя маланкі. Адна з іх і разбіла Чорны камень на дробнае зерне. Вернікі аплакалі страту. Стася звольнілася з чыгункі і, кажуць, з’ехала ў праваслаўны манастыр.

**Чырвоныя сляды**

Вяселле адгуло. Малады з маладою зачыніліся ў пакоі. Праз нейкі час бацькі маладой пачулі крык дачкі: «А-ёй, балюча як!» Маці маладой сказала, што звычкі да любові дачка не мае, таму і енчыць. Бацька маладой пагадзіўся з жонкаю. Раніцай бацькі пагрукалі ў пакой да маладых, але ніхто не аказаўся. Калі і на трэцяе пагрукванне маладыя не адгукнуліся, бацькі наважыліся зазірнуць у ціхі пакой. Там іх чакала страшнае відовішча: на акрываўленай прасціне ляжала

іх нежывая дачушка з параздзіранымі і павыяданымі вантробамі. На чыстай падлозе і на белым падваконні чырванелі звярыныя сляды. Пазней маці маладой узгадае, што чула праз сон ваўчынае выццё. Так ваўкалак, абярнуўшыся ў хлопца, спакусіў дзяўчыну, пагуляў на сваім вяселлі і пакінуў няшчасным людзям адно Чырвоныя сляды.

**Апостал і неба**

У вачах апостала заўжды ёсць блакіт чыстага неба…

**Залатыя завушніцы**

Да ювеліра Шпунта прыйшла ў майстэрню цешча-нябожчыца. Яна паспрабавала замовіць у зяця Залатыя завушніцы для дачкі. Шпунт азліўся і пачаў папракаць нябожчыцу: «Вы для маёй жонкі столькі ўсяго панавыпрошвалі ў свайго Бога… І работу ёй добрую, і заробкі ёй, і машыну ёй… Цяпер і золата ёй на завушніцы прынеслі… Вы б і для мяне што харошае ў вашага Бога папрасілі…» — «Папрашу-папрашу, калі ты, Юрачка, каханку кінеш!» — «Якая каханка? Што вы такое гаворыце? Як вам толькі не сорамна? Забірайце золата ды ідзіце прэч!» — «З неба добра відаць, што на грэшнай зямлі робіцца, творыцца і параблаецца!» — сказала нябожчыца і прапала. Ювелір на ўсялякі выпадак перахрысціўся, хоць у Бога і д'ябла ён ніколі не верыў. Пасля размовы з цешчаю працаваць Шпунту расхацелася, і ён вырашыў пайсці дамоў. Па дарозе зазірнуў у бар, дзе распавёў бармэнцы пра нябожчыцу, неба і Залатыя завушніцы. Бармэнка дзеля ветлівасці спытала, што за завушніцы замаўляла цешча. Ахмялелы Шпунт ужо збіраўся брудна вылаяцца на неба, як адчуў у сваім сціснутым кулаку метал. Ён асцярожна расціснуў пальцы і пабачыў Залатыя завушніцы. Бармэнка не паверыла ў расповеды п'янага ювеліра, але папрасіла даць ёй прымераць Залатыя завушніцы. Шпунт завушніцы не даў, разлічыўся і пайшоў да каханкі. Ён збіраўся на зло небу і цешчы падараваць Залатыя завушніцы сваёй каханцы. Ён бы і падараваў іх, каб заспеў каханку. Яе не было, бо яна павезла да ветэрынара хворага на лішай сабачку, павезла, каб усыпіць спакутаваную жывёлу. Пра ўсыпленне лішаістага сабакі ювеліру расказала суседка каханкі. Злы і п'яны Шпунт прывалокся дамоў і падарыў Залатыя завушніцы жонцы. Тая ўзрадавалася, накарміла мужа гарачым курыным булёнам, памыла ў душы і паклала спаць. У сне Юрась Шпунт зноў пабачыў цешчу. Яна маўчала і прыязна ўсміхалася зяцю. Той спаў і ў сне думаў, што прысніць нябожчыка — добры знак.

**Белы спявак**

Хто з нас не хацеў бы ўваскрэснуць? Ёсць, вядома, людзі, якія не вераць у магчымасць паслясмяротнага жыцця, але і яны не адмовяцца паспрабаваць узнавіцца… Шафёр Дук верыў ва

ўваскрашэнне іншых, а таму любіў гуляць па могілках. Ён прагульваўся па начных могіках з мэтаю атрымаць доказы веры. Хто шукае, той знойдзе! Сказана пра Дука. Ён знайшоў! На старых могілках ён пабачыў, як рассоўваецца зямля, як адкрываецца труна, як падымаецца белабароды прывід. Нябожчык выйшаў з магілы і пачаў спяваць: «Ave, Maria, gratia plena…» Праспяваў, прашаптаў Amen і накіраваўся да падземнай спачывальні. «Стой! Чакай! Адкажы… Як ты змог уваскрэснуць?» — гукнуў шафёр да Белага спевака. «Паабяцаў я Богу, што сто тысяч разоў праспяваю «Ave, Maria, gratia plena…», але, пакуль жыў, і тысячу разоў не паспеў праспяваць. Цяпер штоночы паўстаю з мёртвых і спяваю…» — «Чаму ты абяцаў Богу спяваць?» — «Дзіця хварэла. Я прасіў Бога ўратаваць дзіця. Сын паправіўся. Дактары дзівіліся, не маглі паверыць у цуд. Я разоў сто праспяваў «Ave, Maria, gratia plena…», надакучыла і я кінуў. Пасля смерці мне нагадалі пра доўг…» Шафёр Дук, займеўшы неабвержны доказ уваскрашэння, вырашыў і сабе знайсці богапатрэбную справу. Ён намерваўся распачаць яе і не скончыць у гэтым жыцці, каб дарабіць пасля смерці. Ніякіх талентаў і здольнасцяў у Дука няма. Ён пакутуе, бо не можа прыдумаць сабе богапатрэбнай справы. Ён ходзіць па Мінску, распавядае пра Белага спевака і просіць дапамагчы са справаю. Ды хто ж з нас паверыць шафёру Дуку?

### Белы голуб

На пляцы Свабоды жанчына ўбачыла сіняга чорта з Белым голубам у кіпцюрыстай руцэ. «Пусці пташку!» — папрасіла жанчына вастрарогую пачвару. «Галодны я! Суп з голуба варыцьму!» — «Папрасі выкуп і адпусці Белага голуба». — «Пойдзеш за мяне, за Сіняга чорта, замуж, адпушчу яго!» — «Праз сем дзён прыходзь да мяне, згуляем вяселле!» — паабяцала жанчына, і чорт адпусціў голуба ў чыстае неба. Праз тры дні на пляцы Свабоды жанчына сустрэла крывую гарбуху з рудым сабакам. Гарбуха цягнула сабаку ланцугом за ашыйнік. Той лапамі ўпіраўся ў асфальт і жалосна паскугольваў. «Не мучце сабаку!» — папрасіла жанчына ўскудлачаную старую. «Нельга так абыходзіцца з даверлівай жывёлай!» — «Моцы няма, каб даглядаць сабаку. Вяду да ветэрынара, каб усыпіў…» — «Давайце сабаку мне, буду глядзець, абяцаю!» Гарбуха кінула канец ланцуга жанчыне і пакульгала за ратушу. Праз чатыры дні, уночы, Сіні чорт пагрукаў хвастом у дзверы да жанчыны. Яна не адчыніла, выключыла святло і сцішылася. Чорт выбіў дзверы і заляцеў у кватэру. Напярэймы Сіняму чорту ўскінуўся сабака. Счапіўся чорт біцца з сабакам. Біліся яны ў чорнай цемрадзі доўга, ажно пакуль не парвалі і не загрызлі адзін аднаго насмерць. Жанчына прыбралася ў кватэры, а назолку пайшла

на пляц Свабоды, каб ля касцёла падзячыць лёсу за сваё выратаванне і выратаванне Белага голуба.

## Рудая котка

Яны пазнаёміліся ў мінскім батанічным садзе. Яна малявала акварэллю палахлівыя пялёсткі макаў. Ён фатаграфаваў прахалодную свежасць белых нарцысаў. Яны любілі кветкі, мо таму і палюбілі адзін аднаго адразу ж і назаўжды. Яны пражылі разам год. Ён прывёз яе да свайго знаёмага фермера ў Станькава. Прыяцель жыў на ўскрайку мястэчка, у высокім катэджы. Вялізны сабака ахоўваў двор. Сабака забрахаў на гасцей, ды так моцна вызверыўся, што нават гаспадар напалохаўся. Жанчына папрасіла мужа як хутчэй з'ехаць. Мужчына пачаў супакойваць жонку: нічога страшнага не адбываецца, сабака прывязаны на ланцуг, пабрэша ды супакоіцца. Тут сабака і парваў ашыйнік, і паляцеў на жанчыну. Тая ўвобмільг абярнулася ў Рудую котку і заскочыла на яблыню. Гаспадар кіем адагнаў сабаку. Мужчына зняў з дрэва жанчыну-пярэваратня, схаваў пад кашулю і, не развітваючыся з сябрам, з'ехаў. Пад Мінскам пярэварацень з Рудой коткі зноўку зрабіўся жанчынаю ў вогненна-чырвонай сукенцы. «Не буду псаваць тваё чалавечае жыццё! Каб ты не сумаваў без мяне, раз на год, у дзень нашага знаёмства, я буду прыходзіць да цябе на цэлую ноч!» — прамуркатала жанчына і, абярнуўшыся Рудой коткаю, праз акно выскачыла з машыны. Мужчына развярнуў легкавік, вярнуўся ў Станькава, дзе прап'янстваваў з прыяцелем тры дні і тры ночы.

## Шэры камень

Каля вёскі Варакомшчыны ляжыць Шэры камень. Ён аброс сіваватым мохам. Колькі ён там ляжыць? Ніхто не скажа. Над каменем узвышаецца драўляны крыж. Яго паставілі ў час апошняй вайны, каб абараняў вёску. Папярэдні крыж згарэў. Немцы абстралялі Варакомшчыну з гармат. Полымя выкаціла ўсе хаты. Вёска адбудавалася. Мужчыны паставілі новы крыж каля Шэрага каменя. Пра крыжы варакомцы ўсё памятаюць, а пра камень ніхто нічога ўцямнага сказаць не можа. Адно ведаюць: каля каменя таго спыняюцца ўсе пахаванні. Вязуць чалавека ў апошні шлях на Наваеленскія могілкі, прыпыняцца, каб душа ў маўклівым спакоі развіталася з роднай вёскаю, а потым можна і далей ісці. Рытуал! Але аднойчы мужчыны, хаваючы стагадовую Разэлю, не спыніліся каля каменя. Спехам завезлі труну на засыпаныя снегам могілкі, дый закідалі мерзлай зямлёю. Душа Разэлі закрыўдавала. Прывід яе пачаў з'яўляцца да мужчын, што не спыніліся каля Шэрага каменя. Разэля-нябожчыца папракала пахавальнікаў за паспешлівасць і знявагу святога каменя. Яна штоночы хадзіла па Варакомшчыне, ажно пакуль не памёр васьмідзесяцігадовы Тодар. Хаваючы Тодара, людзі

прастаялі на лютым ветры каля Шэрага каменя цэлую гадзіну. Пасля гэтага душа Разэлі супакоілася і яе прывід больш не турбуе варакомцаў.

### Залаты абраз

Крутагорскі царкоўнік вырашыў аздобіць свой дом абразом на палатне. У Мінску ён знайшоў мастака і, паабяцаўшы добрую ўзнагароду, замовіў Залаты абраз. Мастак залатой фарбаю напісаў мадонну і прывёз у Крутагор'е. Царкоўнік сплаціў абяцанае, але праз хвіліну пашкадаваў свае грошы. Ён пайшоў следам за мастаком і, дагнаўшы каля чыгуначнай станцыі, перарэзаў яму горла, а грошы забраў. Дома царкоўнік выявіў дзве надзвычайныя рэчы: Залаты абраз быў сапсаваны — спаласаваны нажом, а вернутыя грошы зрабіліся газетнымі абрыўкамі. Царкоўнік перапужаўся, тыдзень сядзеў дома і піў з парэзаным абразом. Працверазеўшы, ён рызыкнуў — затэлефанаваў мастаку. Той узрадаваўся званку ад царкоўніка, бо спадзяваўся на новую замову. Царкоўнік распавёў пра насланнё з забойствам і знявечаным палатном. Мастак супакоіў царкоўніка, паабяцаўшы за невялікую ўзнагароду напісаць мадонну наноў. Царкоўнік пабачыў у неверагодным здарэнні божы знак, а мастак — шчасце.

### Залатая маланка

Гаспадар крутагорскага льнозавода наняў ахоўніка, лепшага з найлепшых. Той мусіў распрацаваць новыя планы аховы як завода, так і гаспадарскага дома. Ахоўнік працаваў тыдзень, а потым з планамі зайшоў у кабінет да гаспадара, які тым часам рабіў сэкс з сакратаркаю. Ахоўнік выбачыўся і рэтыраваўся. Праз гадзіну ахоўнік яшчэ раз папрасіў прабачэння і сказаў, што выканае любы загад. Якраз тады распачыналася вялікая навальніца. Гаспадар папрасіў ахоўніка злавіць маланку. Той узняўся на дах завадской вежы і ўзняў рукі да чорнага неба. Грымотная хмара выпусціла маланку, якая забіла ахоўніка. Праз год, як і належыць у падобным выпадку, удзячны гаспадар паставіў на могілках помнік адданаму ахоўніку. У першую ж навальніцу маланка ўдарыла ў помнік і разбіла яго напалам. Гаспадар загадаў змацаваць кавалкі каменя Залатой маланкаю. Так з'явіўся ў Крутагор'і помнік маланцы.

### Сіні гуз

У Казіміра Бортніка на лбе вырас Сіні гуз. Казімір абышоў усіх дактароў, шаптух і чарадзеяў. Ніхто не даў рады Сіняму гузу. Местачковыя пляткаркі пачалі кпіць: «Хутка ў Казіка на лбе адкрыецца трэцяе вока!» Бортнік пайшоў на магілу жонкі, якую любіў бязмерна, і папрасіў ратунку. З'явіўся цёмнакрылы анёл і сказаў: «Жонка твая нудзіцца. Яны тры гады прабыла ў чыстцы. Яшчэ тры

гады яна прабудзе там, а потым перабярэцца ў рай. Яе глыбокую маркоту павялічваюць твае пакуты і слёзы. Можа, ты пагодзішся адведаць і супакоіць жонку?» Бортнік згадзіўся. Анёл завёў яго ў падземны чысцец. Казік згуляў з жонкаю партыю ў даміно. Яны заўжды любілі пасля вячэры згуляць у даміно. Казімір заўжды рабіў усё, каб жонка выйграла. Яна і гэтым разам лёгка абыграла мужа. Анёл вярнуў Казіміра Бортніка ў роднае Крутагор'е. Як жа ўсе здзівіліся, калі пабачылі, што Сіні гуз прапаў з ілба, нібыта і не было ніколі!

# БЛОГУС

Блогус — блог Адама Глобуса ў Жывым Часопісе, які быў перакампанаваны для штодзённай газеты «Звязда», а пазней сабраны ў кніжны фармат.

*Блогус*

## Брат і бензазапраўка

На бензазапраўцы мне заўсёды хочацца закурыць. Толькі заеду на запраўку, адразу рука цягнецца да цыгарэтнага пачка. А выеду з бензакалонкі, і курыць зусім не хочацца. А на запраўцы хочацца дастаць запальнічку «Зіпа» і прыпаліць цыгарэту, і набраць поўныя грудзі тытунёвага дыму. Што за жаданне такое? Сягоння заехаў з братам на запраўку і пытаюся: «Слухай, а табе закурыць хочацца?» — «Хочацца, — кажа брат, — на бензазапраўцы мне заўсёды хочацца закурыць...» Ён так сказаў, і стала мне лягчэй.

## Гамер і жаночыя шчыкалаткі

У Гамера шмат загадак і таямніцаў. Чаму паэт называў прывабных жанчын прыгожашчыкалаткавыя? Сам я на такое пытанне адказ не знайшоў. Але, калі пачуў сварку паміж жанчынаю і дзяўчынаю, мне згадаўся старажытны грэк... Раніцай жанчына паставіла на стол перад дачкою талерку з грэцкай кашай, добра запраўленай маслам. Такая ж талерка ўжо стаяла і каля мяне. Каша была смачная, і я еў з апетытам. Дзяўчына не ела і злосна глядзела на сняданак. «Ты чаго не ясі?» — маці падсунула талерку бліжэй да дачкі. Тая ўскочыла з крэсла і закрычала: «Не буду я есці тваю кашу! Я не хачу, каб у мяне былі такія ж тоўстыя шчыкалаткі, як і ў цябе. Божа, няўжо ў мяне будуць такія тоўстыя ногі і такія сальныя шчыкалаткі, як у маці? Божа, я ніколі не буду есці кашу з маслам...» Дзяўчына выбегла з варэльні. Я даеў кашу і падзякаваў гаспадыні за сняданак. Дзяўчыне за разгадку адной з таямніцаў Гамера я дзякаваць не стаў.

## Валя і сала

На вуліцы сустрэў знаёмую паэтку Валю. Як не сустрэну Валянціну, дык яна абавязкова ідзе з прадуктовай крамы і нясе вялікі цяжкі пакет. Калі ў мяне ёсць пяць хвілін, я бяру пакет і падношу да яе двара. У паэткі дома поўна хлопцаў, яны любяць паесці, а Валя любіць іх карміць. Гэтым разам у пакеце быў вялікі кавалак сала, такі ружовы, з залацістай скуркаю. І мне захацелася таго сала, а гаварыць пра паэзію я не змог, бо ў галаве круцілася толькі адна думка: «Прыйду дадому і з’ем сала з часнаком!» Прыйшоў, а ніякага сала ў лядоўні няма. «Чаму ты падумаў, што ў нашай лядоўні ёсць свіное сала?» — спытала жонка. «Таму, што яно проста мусіць тамака быць!»

## Эсміральда і роля

Роля звычайнага чалавека такая ж цяжкая, як і роля абранніка лёсу. Асабліва цяжка яна даецца тым, хто ўжо выконваў ролю абранніка. Мая знаёмая (назаву яе Эсміральда Верас) некалі спявала ў вядомым вакальна-інструментальным ансамбліку. Згадкі пра той ансамблік даўно сцёрліся ў памяці слухачоў і гледачоў, але Эсміральда ніяк не хоча тое відавочнае прызнаваць. Яна апранаецца ў стракатасцэнічныя строі. Яна зазірае ў вочы невядомых людзей, спадзеючыся пабачыць пазнаванне. І дзіва! Яна чужое здзіўленне прымае за пазнаванне сябе. Яна падманвае і падманваецца. Яна выглядае вар'яткаю, вартай спачування... Здавалася б, я мушу прапанаваць Эсміральдзе Верас ролю простага чалавека, але не прапаноўваю, бо не веру, што Эсміральда зможа яе выканаць.

## Кірыл і спявачка

Інжынер Кірыл вырашыў параіцца: «Мяне запрасілі на свята песні ў Нясвіжскі замак. Запрасіла каханка, бо яна там будзе прэзентаваць новую песню. А мне хочацца паехаць туды з жонкаю. Уяўляеш, я буду сядзець з жонкаю ў замку, а мая каханка спявацьме. Як табе расклад?» — «Не падабаецца. Па-першае, ты не ведаеш, колькі каханкаў тваёй каханкі будзе сядзець побач з тваёй жонкаю. Па-другое, наколькі я ведаю тваю спявачку, ёй ніколі асабліва не падабаліся мужчыны. Падарункі і грошы падабаліся, а любіла яна жанчын». — «Што ты кажаш? Можа, мне яе кінуць?» — «Каго? Жонку?» — «Ды не! Спявачку!» — «Кінь. І з'ездзі з жонкаю ў Мірскі замак на рыцарскі турнір...»

## Сакрат і спакой

З дзяцінства я люблю скульптурную галаву Сакрата. Мяне заўсёды радаваў спакойны выраз на твары гэтага барадатага і бульбаносага мужчыны. Цяпер, прачытаўшы выказванне Ксанціпы, што яе муж ніколі не губляў душэўны спакой і не аддаваў сябе ва ўладу маркоты і страхаў, я зразумеў: менавіта душэўны спакой я любіў і люблю ў Сакрату.

## Гандлярка і загадка

У стракатым вакзальным натоўпе цяжка вылучыцца. Ёй гэтую задачу ўдаецца вырашыць бліскуча. Як? Яна мае цэлы букет запамінальных рысаў. Каляровыя спалучэнні ў вопратцы настолькі вырвівочныя, што міжволі спынішся і рот раскрыеш. Атрутна-блакітныя пантофлі, хімічна-малінавыя нагавіцы і залаціста-гнойная кашуля відаць здалёк, а зблізу ты пабачыш ведзьмакаватыя вочы. Ад такіх вачэй, дзе зрэнкі памерам з масліну, мужчыны пачынаюць абмацваць прарэх, а жанчыны ашчэрваюцца, як цяжарныя коткі. Гэта вакзальнае дзіва гандлюе кветкамі. Хто толькі не гандлюе на

вакзале кветкамі, і якімі толькі кветкамі на вакзале не гандлююць, але ў яе заўсёды самы вялікі і самы найлепшы букет. Я табе кажу. У яе ў руцэ букет букетаў. Адкуль? Загадка. І вось сягоння вакзальная гандлярка ехала са мною ў метро. Вагон быў поўны, але ніхто побач з малінавымі нагавіцамі не апусціў сваю дупу. Ад гандляркі яшчэ і смярдзела салодкім вінцом. Бррр! Выйшла яна на маім прыпынку — Пляц Перамогі. Выйшла і, пахістваючыся, паплялася ў бок крамы з сабачым харчаваннем. Няўжо ў крамцы з кацінымі прысмакамі прадаюць наркату? Так я падумаў. Памыліўся. Гандлярка пасунулася да Вечнага агню, да помніка невядомаму салдату. Яна пайшла забіраць букет букетаў. Так! Мяркую, невядомы салдат, каб мог, дык сам бы прывёз букет букетаў на вакзал і падарыў гандлярцы, але ён не можа. Карацей, я разгадаў загадку букета букетаў, і стала мне ад гэтай разгадкі млосна.

**Тамара і тэфтэлі**

Сны бываюць вельмі розныя, прынамсі, у мяне. Жахі са слізкімі змяюкамі, містыка з пакурочанымі рэлігійнымі сімваламі, нябожчыкі з непрыстойнымі прапановамі... Неаготыкі з неарамантыкаю ў маіх снах процьма. Але ж бываюць і зусім іншыя сны. Днямі я так стаміўся, што не змог павячэраць. Прыйшоў дамоў, наклаў у талерку тэфтэлі, прыгатаваныя домработніцай Тамарай, а есці расхацелася. Паставіў я талерку ў лядоўню ды заваліўся спаць. Усю ноч мне сніліся бліскучыя тэфтэлі з маркоўнай паліўкаю і грэцкай кашай, запраўленай маслам. Раніцай я звычайна аўсянку ем, але гэтым разам снедаў тэфтэлямі з грэчкаю, і так мне было смачна, што я нават Тамару пахваліў.

**Міхась і будучыня**

Міхась старанна чакаў лепшых часоў. Ён чакаў так доўга, што і сам не заўважыў, як стаў чакаць лепшага не ў нашым, а ў іншым свеце. У гадзіны роспачы Міхась набывае латарэйныя квіткі і дорыць жонцы.

**Бармен і рэшта**

Барселонскі бармен узяў дый насыпаў мне поўную жменю грошай. Не скажу, што тамака была вялікая сума, і ўсё ж прыемна трымаць на далоні важкія манеты. Я замовіў у вакзальным барчыку адну каву, можна было і віскі замовіць, але я люблю ў апошнюю хвіліну перад адпраўкаю цягніка глынуць горкай і вогненнай кавы. Глыток бадзёрасці ніколі не зашкодзіць у дарозе. Папрасіў я экспрэса, выклаў купюру, а бармен — завушніца ў адным вуху — насыпаў мне песетаў, якія цяперака еўра. Шкада толькі — еўра былі не мае, а суседа па барнай стойцы. Давялося аддаваць.

## Валодзя і трыста слонікаў

Схільнасць да працы з дробнай пластыкай у Валодзі была заўсёды. Вучачыся на першым курсе мастацкай вучэльні, ён зляпіў з каляровага пластыліну цэлую хакейную каманду і падарыў тых сіне-чырвоных хакеістаў майму чатырохгадоваму брату. Той папрасіў зляпіць яшчэ іншаколерных гульцоў, каб займець магчымасць забаўляцца ў настольны хакей чорным гузікам замест шайбы. Валодзя сеў і зляпіў зялёна-чырвоных ліліпутаў з драцянымі клюшкамі. Слава аматара цацачнай скульптуры ў Валодзі была вялікая, таму ён і не здзівіўся, што перад Новым годам да яго ў майстэрню завітаў салідны мужчына ў касцюме і гальштуку. Той мужчына і замовіў ажно трыста слонікаў з шамоту. За кожнага слоніка паабяцаў заплаціць тры рублі. Валодзя ляпіў, ён ляпіў і ляпіў слонікаў, ажно пакуль не сцяміў, што трыста скульптурак у тэрмін ён адзін не зробіць. Нават падключыўшы сяброў-аднакурснікаў, ён не выканае замову ў тэрмін. Таму слонікаў ляпілі ўсе скульптары мастацкай вучэльні тры дні і тры ночы. Зляпілі, а замоўца не прыйшоў. А яшчэ высветлілася, што Валодзя не ведае, як таго замоўцу завуць і дзе яго шукаць. Спадзевы, што нехта жорстка пажартаваў з нашых скульптараў, таксама не спраўдзіліся. Так і засталіся шамотныя слонікі ў скульптурнай майстэрні стаяць. Так і стаялі напамінам, што не ўсе замовы эканамічна выгадныя.

## Чалавек і страх

У Гатычным квартале Барселоны страшных людзей хапае. Але калі ты там гуляеш часцяком на працягу чатырнаццаці гадоў, дык паціху-патроху прывыкаеш да самых рознаабліччных персанажаў. Здаецца, нічым цябе ўжо не здзівіш і ніщто цябе ўжо не ўразіць, толькі Гатычны квартал можа і ўразіць і напалохаць. Па вузкай вуліцы насустрач мне ішоў высокі худы мужчына са звераватым тварам. Выраз твару ў яго быў такі, што хацелася залезці на сцяну. І гэта быў менавіта выраз на досыць прывабным і правільным твары. Мужчына набліжаўся да мяне, размахваючы вялізным кулаком. І тут я ўбачыў, што ў руцэ ён сціскае тоўстую змяю. Змяіная галава вытыркалася з кулака, а цела тугімі коламі абвілося вакол запясця. Страшнатвары прайшоў паўз мяне, ледзь не зачапіўшы мяне змяюкаю. Добра, што апошнім часам я перастаў баяцца змей, а так бы мог і памерці ад пераляку.

## Апелес, Пратаген і сцяна

Аднойчы Апелес прыйшоў да Пратагена і, не заспеўшы таго дома, узяў пэндзаль з жоўтай фарбаю і правёў па яго сцяне тонкую-тонкую лінію. Вярнуўшыся дамоў, Пратаген зразумеў: толькі Апелес мог пісаць так тонка! — схапіў пэндзаль і правёў па Апелесавай лініі яшчэ больш тонкую сваю, чырвоную. На другі дзень зноў прыйшоў Апелес,

пабачыў лінію ў лініі і ўпісаў у іх яшчэ адну, чорную, самую тонкую. Пратаген прызнаў сваю паразу. Кавалак сцяны, на якім спаборнічалі мастакі, пасля быў асцярожна выразаны, і ў галерэі імператара Аўгуста сярод шматфігурных міфалагічных карцін гэты белы квадрат з трыма тонкімі лініямі здаваўся зусім пустым і выклікаў асаблівае захапленне... Чытаеш такое і згадваюцца сучасныя мастакі, якія адзін за адным спрабавалі стварыць пусты квадрат з тонкімі ды найтанчэйшымі лініямі. Стваральнікаў квадратаў стала столькі, што на выставах не засталося месца для шматфігурных карцін на біблейскія і міфалагічныя сюжэты. Чым болей з'яўлялася квадратаў, тым меншае захапленне яны выклікалі. Расчараваныя ў квадратах гледачы павярнуліся тварамі да шматколерных ды пазалочаных абразоў. Тады хітравокія мастакі навыперадкі пачалі пісаць шматфігурныя абразы вялікіх памераў. Абразоў стала столькі, што вочы самі шукаюць неабрэкламленую і не завешаную абразамі чыстую сцяну...

## Краўчанка і слова

У маладосці я запойна чытаў дэтэктывы. Сярод іх прамільгнуў і раман Войтэха Стэклача «Як забіць залатога салаўя». Акрамя крымінальнай інтрыгі, у рамане дакладна апісвалася пражскае музычнае асяроддзе. Маладыя музыкі стваралі біт-ансамблі, каб змагацца з засіллем псеўда-фальклорных калектыўчыкаў. Пазней галоўны герой скажа: «Лепшыя з нас пачалі граць джаз і джаз-рок, а самыя разумныя заняліся стварэннем чэшскай папулярнай музыкі. Я ніколі не належаў да лепшых і разумных...» Нешта падобнае адбывалася і ў Беларусі. Ствараліся рок-гурты, якія супрацьстаялі афіцыйнай эстрадзе. «Мы не будзем іграць мёртвыя ноты! Мы не будзем спяваць мёртвыя словы!» — казаў мне Сяржук Краўчанка, бас-гітарыст з гурта «Бонда». Музыка «Бонды» была жывая. І раптам словы прапалі, і «лепшыя» зайгралі джаз, а «разумныя» перасунуліся ў папсу. Але ні там і ні там не было сапраўднага і жывога слова, былі тэксты і тэксцікі, рыфмы і рытмы, а слова і выразнасці не было. Краўчанка пайшоў гандляваць музычнымі інструментамі. Разумею.

## Пятро і праўда

Ён казаў, і яму верылі. Ён шмат гаварыў і гаварыў, а яму верылі і верылі. Ён пачаў ілгаць, а яму верылі, бо зрэдчас ён прагаворваў праўду. Ён стаў столькі лгаць і падманваць, столькі падманваць ды лгаць, што страціў усялякі давер. Цяпер ён зрэдку спрабуе сказаць праўду. Хто паверыць? Ніхто.

## Лабруер і сумленне

У кнізе «Характары, альбо Норавы сучаснага стагоддзя» мараліст Жан дэ Лабруер піша: «Разумны, сумленны і прастадушны чалавек з

вялікай верагоднасцю можа трапіць у пастку: яму і ў галаву не прыйдзе, што некаму заманецца злавіць яго на памылцы і ператварыць у пасмешышча... « Я не буду пытацца пра тое, дзе Лабруер бачыў разумнага, сумленнага і ў той жа час прастадушнага чалавека. Паверу маралісту. А вось у тое, што разумны чалавек не ведае, як людзей ловяць на памылках і выстаўляюць на ўсеагульны смех, паверыць не змагу. Большасць літаратараў якраз толькі тым і займаюцца, што высмейваюць чалавечыя заганы, бо яны цудоўна ведаюць, што за маскамі прастадушша і сумлення якраз і хаваюцца грахі чалавечыя.

### Жанчына і сабачка

Побач з жанчынаю бег сабачка такога памеру, што яго не палохаліся нават вераб'і.

### Каравай і песня

Яна была ўся кругла-круглая, і прозвішча мела круглае — Каравай. Мы выпівалі ўтраіх у паэта Сыса. Выпівалі і спявалі песеньку: «Каравай, Каравай, каго хочаш выбірай! Выбераш, вядзі у рай... Каравай, Каравай...» І спявалі мы тую песеньку бясконца, бо Каравай падабаўся Сыс, мне падабалася Каравай, а Сысу падабалася гарэлка. Песня круцілася і круцілася, пакуль Каравай не запусціла магнітафон, у якім загучала песня пра сон у трамваі. Каравай сказала, што гэта яе любімая песня, я абвясціў, што песня напісалася на мае вершы, спадзеючыся, што Каравай узрадуецца і... «Не мог ты такую песню напісаць! Я цябе даўно ведаю, ты — паскудны чалавек, а паскудны чалавек не можа напісаць добры верш!!!» Сыс мяне бараніў, казаў, што верш пра сон у трамваі адназначна мой. І чым больш ён мяне хваліў, тым больш злавалася Каравай. Яе вялікія круглыя вочы рабіліся яшчэ большымі і круглейшымі, я выдатна памятаю, як яе вочы павялічваліся і павялічваліся, а больш нічога, забі, не помню.

### Астрашэўскі і цвярозасць

Саша Астрашэўскі гаспадарыць у барах і рэстарацыях. Іх у яго шмат — «Стары Мінск», «Лондан», «Грунвальд», «Пціч» і «У бабулі». Каб спраўна разліваць людзям гарэлку, трэба самому быць цвярозым. Таму і гутарку пра кіданне піць я завёў з Аляксандрам Альбертавічам. «Кінуць піць зусім і не цяжка, — разважаў Альбертавіч. — Цяжка прыдумаць сабе цвярозае жыццё!» Сапраўды, так. Мала хто з нас сам сабе прыдумляе работу, зазвычай людзі спадзяюцца, што нехта мудры прыдумае працу за іх і скажа, што, дзе і калі зрабіць, а за зробленае заплаціць грошы. Пасля працы з тымі грашыма чалавек трапляе ў краму, а там... Ну што можа быць лепшым для мужчыны за пляшку гарэлкі? Тут трэба думаць, тут варта спыніцца і задумацца. Тут і трэба прыдумаць сабе цвярозае жыццё, а яно не прыдумляецца,

а гарэлка зусім побач, а яна кліча і вабіць. Купляеш бутэльку, п’еш, засынаеш, прачынаешся, становішся пад душ і зноўку ідзеш на працу. Кола замыкаецца. Жыццё цячэ, як тая гарэлка з рыльца. Ты, як і ўсе. Ці патрэбна табе тое іншае жыццё без гарэлкі? Мне яно спатрэбілася, я прыдумаў сабе жыццё з маляваннем аголеных натуршчыц, пісаннем хайку і нататак пра сучаснікаў, чытаннем кніжак і любоўю да іншых людзей. Каб некага любіць, трэба быць цвярозым. А да Аляксандра Альбертавіча я заходжу кавы папіць і пагаварыць пра літаратуру.

**Арысціп і бура**

Лягчэй развітацца з жыццём нікчэмным і поўным бяды, чым з жыццём шчаслівым. Гэта заўважыў Арысціп, калі патрапіў на караблі ў буру. Страх згубіць шчасце, большы за страх страціць малапатрэбнасць, гэта хоць нейкая, а кампенсацыя прыніжаным і пакрыўджаным за іх пакутлівае жыццё.

**Віталь і гаўбец**

Віталь мае самы найлепшы гаўбец у горадзе. Пагадзіцеся, атрымаць у спадчыну добры гаўбец не так і мала. Бацька ў Віталя быў архітэктарам, ён сам і спраектаваў дом, а гаўбец стаў вяршыняю ягонай творчасці. Той, хто не далюблівае наш сталічны ампір, можа паспрачацца з Віталём, можа прыйсці ў скверык, дзе стаіць бронзавая дзяўчынка з падраным парасонам, задраць галаву, ацаніць гаўбец і распачаць спрэчку. Я спрачацца з Віталём не буду, бо калі чалавек лічыць свой гаўбец найвыдатнейшым, яму бессэнсоўна пярэчыць. Больш за тое, Віталь на маіх вачах здзейсніў подзвіг. Можна па-рознаму трактаваць слова «подзвіг», але я лічу ўчынак Віталя подзвігам. Стоячы на сваім гаўбцы, Віталь вырашыў нічога не рабіць. Працаваў Віталь архітэктарам у рэстаўрацыйных майстэрнях. Яму захацелася паставіць эксперымент: нічога не рабіць і атрымліваць заробак. Віталь прыходзіў у майстэрні і зусім нічога не рабіў. Першыя два тыдні ніхто нават не заўважыў, што адзін чалавек не працуе. Потым заўважылі, пачаліся розныя размовы, дайшло да пагрозаў і скаргаў, а калі сам дырэктар выклікаў Віталя, каб звольніць, толькі тады эксперыментатар і распавёў праўду пра свае паводзіны. Не працаваў ён роўна 52 дні. На агульным сходзе рэстаўратары прызналі ўчынак Віталя за мастацкі жэст і даравалі яму такую лайдакоўскую выхадку. Зразумела, што ніхто больш не змог у рэстаўрацыйных майстэрнях прагуляць нават адзін дзень, бо ўсе цяперака пільна сачылі за працаздольнасцю сваіх калегаў. А ўсё дзякуючы Віталю, ну і гаўбцу, на якім прыйшла геніяльная ідэя здзейсніць антыпрацоўны подзвіг.

## Ігар і гаршчок

Ігар запрасіў мяне ў майстэрню і пачаў паказваць велізарныя палотны, на якіх ён спрабаваў намаляваць Бога. Цяжкае было відовішча. «Падабаецца?» — наўпрост запытаў Ігар. «Падабаецца...» — адказаў я, і не стаў удакладняць, што менавіта мне спадабалася. А спадабаўся мне чырвоны гаршчок. Я ўважліва агледзеў усю майстэрню і нічога мастацкага ў ёй не знайшоў, акрамя старога глінянага гаршка з новымі пэндзлямі.

## Жонка і дарога

Раніца. Снег за вокнамі падае мякка і ціха. «Якая раніца! Настрой у мяне выдатны! Я такая шчаслівая... Рамонт скончыўся! Мы снедаем у светлай і чыстай кватэры. Я і падумала, што мы заўтра паедзем у Вільню, а дарога кепская — слізгата, і мы можам разбіцца на машыне, і ў нас застаўся толькі адзін снежны, белы і марозны дзень, але ж у нас ёсць вялікі дзень, і я шчаслівая. А ты?» Я ем аўсяную кашу са скрылікамі персіка, і мне не хочацца думаць пра заўтрашні дзень. «Ты шчаслівы?» — «Даем кашу і стану шчаслівы...» Вечар. У металічных дзвярах нашай адрамантаванай кватэры заклініла замок, і паездка ў Вільню перанеслася на наступны тыдзень.

## Бероўз і формула

Часам паводзіны цэлай краіны можна звесці да простай формулы. Пісьменнік Уільям Бероўз так акрэсліў паводзіны амерыканцаў ды ўсёй Амерыкі наогул: «Хто гэта там пад дзвярыма? Дай ёй крыху грошай. Хай сыходзіць». Як падумаю я пра тых, хто стаіць пад дзвярыма Амерыкі, мне ажно смешна робіцца. Зараз ім дадуць капейку і папросяць сысці. А яны ж спадзяюцца зусім на іншае, бо яшчэ не ведаюць простай формулы паводзінаў вялікай Амерыкі.

## Лабруер і весткі

Прага навінаў часам набывае вычварэнскія формы, пра іх Лабруер напісаў так: «Ёсць людзі, якія пагадзіліся б другі раз пабачыць, як вораг падыходзіць да муроў Дзіжона або Корбі, як на вуліцах узводзяць барыкады і працягваюць жалезныя ланцугі, каб толькі першымі паведаміць альбо пачуць вестку пра гэта...» У наш час падобныя людзі прагнуць другі раз паглядзець на руйнаванне хмарачосаў у Нью-Ёрку. Змяніць такіх людзей? Не зменіш. Застаецца толькі самому дыстанцыявацца ад падобных індывідаў. І галоўнае: ніколі не трэба слухаць іх развагі і парады, бо сам можаш апынуцца ў самалёце, які ляціць у сцяну.

## Барселонцы і мой выгляд

Раніцай на пляжы да мяне падышоў гей. На ўсім пляжы, акром нас, нікога не было. Я абмываў ногі ад пяску пад цёплым струменем прэснай вады. Гей падышоў і таксама стаў абмываць ногі. Ён

абмываў ногі і зазіраў мне ў твар, а яшчэ і аголеным плячом дакранаўся да майго пляча. І не выпадкова ён дакранаўся, бо і не выбачаўся зусім. Пэўна, ён думаў, што я таксама гей, і мне будзе прыемным ягонае дакрананне і ягоны флірт на пустэльным пляжы. Рамантык ён. Я абмыўся, пайшоў у гатэль, прыняў душ, паснедаў і пайшоў на метро. Калі я спрабаваў сесці ў вагон, мяне за руку схапіла японка. На малазразумелай ангельскай яна паспрабавала высветліць, ці ідзе гэты цягнік да дома-бутэлькі. З пачуццём радасці, што я ўсё зразумеў і магу адказаць на сваёй кепскай ангельскай, я запэўніў японку, што яна правільна выбрала накірунак. Разам з японкаю я даехаў да дома-бутэлькі. І не паспеў я з ёю развітацца, як мне загарадзіла дарогу англічанка, якая на лонданскай мове пачала высвятляць, як даехаць у Фігейрас. Мне стала сорамна за сваю кепска-ангельскую мову. Мне зрабілася так сорамна, што я замест таго, каб патлумачыць пра дарогу ў гэты чортаў Фігейрас, дзе жыў гэты чортаў Сальвадор Далі са сваёй непрыгожай Галаю, сказаў, што не разумею па-ангельску і выбачаюся за сваё невуцтва. А калі ў кавярні QU-QU зусім маладзенькі гей пачаў мне падміргваць, я ўзрадаваўся. Праўда, я вырашыў, што выдатна адпачыў і цяпер цудоўна выглядаю, а таму ўсе звяртаюць на мяне сваю ўвагу і звяртаюцца да мяне па дапамогу. Настрой у мяне палепшыўся. Яго нават не сапсавала карліца, якая на пляцы Каталонія прапаноўвала прыдбаць у яе квіток імгненнай латарэі. Ну не гуляю я ў латарэю і ўсё тут. А ўвечары на пляжы я склаў хайку:

**Сарамліва-ружовая поўня**
**над морам узыходзіць...**

Колер мяне зачапіў. Мне здалося, што можна ў колеры бачыць чалавечыя пачуцці. Абразліва-чырвоны, раўнадушна-шэры, узбуджана-аранжавы... Не сустракаў, каб хто небудзь так пісаў пра колеры, так іх ачалавечваў. Пакуль я думаў над чалавечнасцю колераў, поўня зрабілася самаўпэўнена-чырвонай. І да мяне дайшло, што людзі прыставалі да мяне з-за поўні. Так, не мой выгляд іх прывабліваў, а поўня бударажыла іх кроў і розум. А я думаў... Наіўны.

**Навум і Бухара**

Пра што можна пагаварыць з беларускім паэтам Навумам Гальпяровічам? Ды пра што заўгодна. Але Навум любіць распавядаць пра яўрэйскія тэматы, таму і я зазвычай не перапыняю яго, калі гутарка плыве да такой тэмы... «Паехаў я з пісьменнікамі ў Бухару. Сустрэча. Гарэлка з салам. Усё, як заўсёды. Тут падчас п’янкі-гулянкі знаёмяць мяне з бухарскім яўрэем, а той вазьмі ды спытай... А ў Беларусі яўрэі ёсць? Ну што тут сказаць, што? Ёсць! Кажу... Ёсць! А якія яны? Пытаецца. Пасля гарэлкі з салам што я магу сказаць? Ну

якія-якія, крыху падобныя да мяне. А ён хітры, гэты бухарскі яўрэй. Моцна падобныя да цябе? Пытаецца. Не-е-е, не моцна!»

**Хлопчык і шкарпэткі**

На прэзентацыях я сумую. Такі ў мяне характар, не прымае ён запланаванай весялосці. Трэба радавацца, а мне маркотна. Так і на прэзентацыі кнігі «Імёны свабоды» было. Так і прагараваў бы я на сцэне ўсю тую ўрачыстасць, каб не хлопчык. Ён мяне па-сапраўднаму развесяліў. «У вас шкарпэткі новыя ці свежапамытыя?» — шэптам запытаўся трэцякласнік. «Свежапамытыя!» — «І ў мяне, гляньце, свежапамытыя. Я ў мамы папрасіў новыя, а яна сказала, што на гэтае мерапрыемства дастаткова свежапамытых...»

**Колас і фатаграфаванне**

Сфатаграфаваўся я для «ЖЖ» — жаночага часопіса. Фатаграфаваў мяне Слава Поталах. Яму хацелася зрабіць містычны партрэт. Чаму містычны? Так яму бачылася. Мая справа была пазіраваць. Трэба дэманізацыя? Рабі. Зажадалася містычнасці? Калі ласка. Слава рабіў здымкі, а я згадваў верш Коласа:

**Калі на з'ездзе ці на сходзе**

*К табе фатограф не ідзе,*
*Дык так і ведай: ты не ў модзе,*
*І не патрэбен ты нідзе,*
*І думай, браце, аб бядзе.*

Такі верш напісаў наш Колас у 1938 годзе. Тады гэта было страшна, і актуальна, і містычна, а цяперака, калі якая фатаграфіня адварочвае ад мяне службовы аб'ектыў, дык я толькі радуюся, што маіх кепскіх і справаздачных здымкаў будзе крыху паменей.

**Леанід і ўніверсітэт**

«Мы вашых універсітэтаў не сканчалі!» — са смакам казаў Леанід у кампаніі шматлікіх прыхільніц. У маладосці, на хвалі папулярнасці і фінансавых поспехаў, гэткае нахабства выглядала даволі пікантна. Толькі поспехі Леаніда скончыліся, а фінансы хутка прагуляліся з прыхільніцамі, якія тыя ўніверсітэты неяк пасканчалі.

**Магрыт і труп прыроды**

Разглядаючы палатно аднаго зусім кепскага мастака, я прыйшоў да высновы: ён малюе труп прыроды. Толькі мастак той быў настолькі бяздарны, што маляваць такую складаную рэч, як труп прыроды, ён сам прыдумаць не мог. Я прааналізаваў ягоныя палотны і вырашыў: ён перамалёўвае свае нягеглыя краявідзікі з палотнаў сюррэаліста Рэнэ Магрыта. Калі хто і вынайшаў сюррэалізм, з ягоным канструяваннем з дзвюх рэальнасцяў адну звышрэальнасць, а папросту — казачнасць, дык гэта Магрыт. Ён браў галаву рыбіны і ніжнюю частку жанчыны ды зляпліваў іх у адну антырусалку. Ён не клаў яблык на

стол, а ставіў маленечкі стол на велізарны зялёны яблык. На ягоным палатне чырвоная кроў цякла з белай гіпсавай маскі. Магрыт думаў, што стварае новую рэальнасць, а насамрэч ён маляваў і маляваў труп прыроды, ад якога павявала ледзь чутнай прахалодаю меланхалічнага жыцця.

**Брыль і «Галя»**

«Перачытваў сваё апавяданне «Галя» і... плакаў...» — прызнаваўся Янка Брыль. Перачытваць свае творы я амаль не перачытваю. Кепска тое, напэўна. Перачытванне, хутчэй за ўсё, ратавала б мяне ад паўтораў. Толькі хай я лепей паўтаруся, чым пушчу сентыментальную слязу над уласнай старонкай, дзе напісана такое: «А ты крычы, ты ўспамінай, раздзірай сваю душу, дурніца, хоць да крыві...» Раздзіраць душу да крыві? Плакаць над такім сказам? Не.

**Анюха і злыя кветкі**

Твар у Анюхі пусты. Ні вачэй сапраўдных, ні вуснаў прыстойных, ні заўважнага носа на ім нямашака. Апранаецца яна ў нешта-нейкае, сплеценае з павуціння ды пылу. А галасок у Анюхі адметны, з такім галаском добра жабраваць, добра капеечку ў сердабольных людцаў выпрошваць. Сваім паўдзіцячым галаском Анюха і прыгандлёўвае на розных радыёстанцыях. Ну хто што мае, той тым і гандлюе. Каротканогай Анюшцы прырода кінула запамінальны галасок... Я, калі чую яе галасок, дык адразу думаю: а што ёй даць-падараваць. Зазвычай я даваў ёй пару-тройку цукерак. У Анюхі ад першага мужа хлопчык застаўся. Харошы такі спраўны хлопчык, па ім нават не відаць, што ён сын міліцыянта. Калі глядзіш на хлопчыка, можна падумаць, што ён дзіця мастака. Таму я і даваў Анюсе некалькі цукерачак, каб і яна пасаладзіла ў роце і хлопчыку салодкае занесла. Даваў я ёй цукеркі і думаць не думаў, што Анюха хоча, каб ёй дарылі кветкі. Ну хто гэта пустатварай жанчыне здагадаецца кветкі падарыць. Я не здагадаўся, ажно пакуль не пачуў па радыё яе развагі пра тыя кветкі. Слухаю і вушам сваім веры не даю. Анюха кажа, што ў Беларусі мала кветак людзі высаджваюць. Ну што за хворае трызненне? Крыўдна мне стала, і не за сябе, бо асабіста я тых кветак не гадую. Закрыўдаваў я на Анюху з-за школьнага настаўніка. Ёсць у мяне добры знаёмы настаўнік біялогіі Аляксандр Казіміравіч Карпейчык. Ён штовесну высаджвае каля сваёй школы кветкі. За свае грошы купляе насенне і разам з вучнямі цэлае лета і нават восенню тыя кветкі даглядае. Харошы чалавек робіць добрую справу і вельмі не любіць, калі хто з начальства нагадвае яму пасярод зімы пра неабходнасць упрыгожваць кветкамі школьны двор. Можна зразумець такіх людзей, яны за сваю капейку робяць жыццё прыгажэйшым, а іх яшчэ і папіхаюць у плечы. Таму я і зазлаваў на

Анюху, бо такое склалася адчуванне, што яна папросту абкрадае Казіміравіча. Ён рабіў, ён працаваў, ён на ўласным прыкладзе вучняў выхоўваў, а тут нейкая пустаслоўка праз радыё нахабна ілжэ. Яе, вядома ж, можна зразумець, не хапае ёй кветак, не дораць ёй букетаў закаханыя мужчыны, але гэта яшчэ не нагода пляваць на тых, хто тыя кветкі дорыць іншым. Так я думаю, а яшчэ я думаю, што мужы кінулі Анюху не за тое, што ў яе караткаватыя ногі ды пусты твар. Твар і ногі яны бачылі і да жаніцьбы, я вось пра тое, як Анюха нахабна ілжэ, яны даведаліся пазней. А калі даведаліся, дык і прагналі яе ад сябе, пагналі і правільна зрабілі.

**Зміцер і гімназісткі**

На Дзень настаўніка я сустрэў у горадзе свайго даўняга знаёмага — Зміцера. Апошнім часам ён выкладае гісторыю ў гімназіі, а таму небеспадстаўна быў на добрым падпітку. «Ты толькі ўяві сабе сітуёвіну, — без прывітання пачаў Зміцер. — Па газетнай аб'яўцы я выклікаю сабе вясёлых дзявуль, а да мяне прыязджаюць дзве мае гімназісткі!» Мне зрабілася няёмка, і няёмка не за дзяўчат, а за пяцідзесяцігадовага выкладчыка гісторыі. Ён гэта адчуў і сказаў, што пажартаваў, маўляў, выдумаў гісторыю з гімназісткамі, але мне лягчэй не стала, бо я так і не змог разабрацца, у якім варыянце гісторык ілгаў.

**Шура і Алёнка**

Шура меў жонку з дваімі дзецьмі, а ў Алёнкі была двухпакаёвая кватэрка на ўскрайку горада. І загуляў Шура з Алёнкаю, моцна так зараманіўся, ажно жанчына пачала спадзявацца на нешта большае, чым звычайны загул. Толькі Шура нічога не збіраўся мяняць у сваім сямейным жыцці, і, зразумеўшы гэта, Алёнка кінула Шуру. Той запіў. Ён тыдзень смактаў піва ў цёмным бары Траецкага прадмесця. Ён і далей піў бы кіслае піва, каб Алёнка не папрасіла мяне пагаварыць з ім. Давялося валачыся ў няўтульны бар, замаўляць перасоленую рыбу і ўгаворваць Шурыка спыніць запой. Угаварыў! Сам сабе здзіўляюся, але я ўгаварыў Шуру адмовіцца ад пракіслага піва і пайсці працаваць у дзіцячы часопіс. Яшчэ ў бары з нізкімі столямі я зразумеў, што нічым добрым для мяне тое выцягванне Шуры з піўнога балота не скончыцца, але хацелася дапамагчы Алёнцы. Дапамог, як мог. Нейкі час Шура не піў піва і старанна працаваў. Алёнка выйшла замуж і нарадзіла дваіх дзяцей. Здавалася б... Не! Шура напампоўваецца півам штодня, і ніхто мяне больш не просіць яму дапамагаць. Алёнку кінуў муж, уцёк за мяжу з гастраномнай прадавачкай. Алёнку, вядома, шкада, але не настолькі, каб пайсці дапамагаць, бо ліміт маёй дапамогі для Шуры і Алёнкі вычарпаны да рэшты.

## Эліян, Фрына і Фрына

Ёсць імёны, якія рэдка трапляюцца не толькі ў нашых краях, а нават і на кніжных старонках не часта сустракаюцца. У жыцці я ведаў толькі адну Фрыну. Яна мне выкладала ў вучэльні гісторыю старажытнага мастацва. А тут, чытаючы «Стракатыя апавяданні» Эліяна, бачу амаль забытае імя: «У Дэльфах на высокай калоне эліны паставілі статую гетэры Фрыны. Не хачу сказаць — усе эліны, а найбольш з іх неўтаймаваныя, каб не падумалі, што я асуджаю цэлы народ, які люблю больш за ўсіх. Статуя была залатая». Ад прачытанага мяне ахапіла радасць, нібыта я выпадкова ўбачыў у святочным натоўпе любімую жанчыну. За неўтаймаваных элінаў я гэтаксама ўзрадаваўся. А вось погляд самога Эліяна на залатацелую гетэру мяне крыху засмуціў. Безумоўна, я здагадаўся, што Эліяну хацелася, каб не гетэра Фрына, а сама калона — сімвал мужнасці ды мужчынскасці — была залатою, можна нават сказаць: для Эліяна адной залатой калоны ў храме Апалона было б больш чым дастаткова. Разумець разумею, але прымаць не прымаю.

## Нацэўскі і карціна

Нацэўскі жыве з таго, што выдзёўбвае літары на плітах. Часам яму замаўляюць і партрэты нябожчыкаў. Замоваў хапае, грошы ёсць і на хлеб, і на гарэлку, але Нацэўскаму карціць быць жывапісцам. Жаданне пэцкаць палотны пераследуе яго. Калі тое жаданне робіцца нясцерпным, Нацэўскі піша карціну. Так і жыве. Бывае, што ён заходзіць да мяне і за кубкам гарбаты дзеліцца сваімі творчымі планамі: «Буду пісаць карціну: ляжыць залаціста-жоўтае поле, на ім стаяць невялічкія снапкі, а над снапкамі неба вісіць лёгкае такое, такое дзіцяча-блакітнае. Палатно невялікае. Рама залатая. Карціна ўвесь час сніцца. Пераследуе яна мяне. Пакуль не напішу, не супакоюся. А як табе задума?» — «Бачыў я такую карціну сто разоў. Яна ж на этыкетцы гарэлкі «Пшанічная» намалявана...»

## Лышчык і замова

Да скульптара Лышчыка ў майстэрню прывялі патэнцыйнага замоўцу. Той не стаў валэндацца і расказаў, што трэба зрабіць: «Катэдж у мяне прасторны. Каля каміна ніша ёсць, у нішу паставім скульптуру, бронзавую. Грошы не маюць значэння. Грошы маюць значэнне, але на скульптуру ў мяне бабла хопіць і яшчэ крыху застанецца на піва. Да справы... Зробіш дзяўчыну, худзенькую і стрункую, ну разумееш, а твар — мая Натаха. Жонка ў мяне — Натаха, яна не стрункая, але твар у яе нармальны. Твар бяром у Натахі, я фотку дам. Праваруч ад Натахі будзе куст, а з-за куста хай тыгр выскоквае, здаравенны такі тыгр стаіць на задніх лапах, а пашча разяўленая, а ў пашчы іклы ваструшчыя. Леваруч ад

Натахі — стаю я, да пояса голы, як Тарзан. У руцэ я сціскаю турэцкую шаблю, крывую. Твар у мяне мужны, як у таго самага Тарзана. Глядзі сюды...» Замоўца паказаў Лышчыку патрэбны твар. Скульптар прыкусіў язык, але стрымаўся і не ўсміхнуўся нават. За прыкушаны язык Лышчык атрымаў замову, адліў Натаху ды Тарзана з бронзы, так і зарабіў шмат даляраў.

**Лабруер і сУчаснікі**

«...насміханне немагчыма даравацъ, бо яно з асаблівай з'едлівасцю паказвае абразлівую грэблівасць, разбурае апошнюю схованку чалавека — павагу да сябе, робіць яго смешным ва ўласных вачах, пераконвае ў заклятай варожасці насміхальніка да яго і тым самым абавязвае быць непрымірымым», — пісаў Жан дэ Лабруер. Здавалася б, пасля прачытання такіх словаў варта было перастаць насміхацца з людзей. Прынамсі, мне трэба было перастаць называць сваіх знаёмых сучаснікамі і мярзотнікамі, нядзарамі ды зладзюгамі. Я ніколі не сумняваўся, што апісаныя мною трагікамічныя здарэнні будуць выклікаць у гэтых тыпусаў-прататыпаў нянавісць і злосць. Не было кроплі сумневаў і ў тым, што яны мне ніколі не даруюць здзеклівага пахіхіквання ў саркастычных тэкстах. Але я злосна пасміхаюся з чалавечай мізэрнасці, слабкасці ды сябелюбскасці. Ну не плакаць жа мне праз гэта адчайнымі і горкімі слязьмі.

**Сурыа і палітэканоміка**

Мастакі ніколі не грэбавалі размовамі пра грошы. Бо талент, калі доўга не развважаць, — гэта і ёсць грошы. Таму я і чытаў эсэ Мішэля Сурыа «Грошы. Руйнаванне палітыкі», дзе ён заўважае: «Няма такой палітыкі, над якой не ўзялі верх грошы, бо няма палітыкі, у якой грошы не вырашалі б усё чыста. Грошы да такой ступені ўсё вырашаюць, што няма больш палітыкі, нават палітыкі грошай». Мая цікавасць да палітыкі значна меншая, чым цікавасць да грошай і мастацтва. Але падобныя развагі я шматкроць чую ад мастакоў: «Няма такога мастацтва, над якім не ўзялі верх грошы...» І можна было б пайсці за Сурыа, напісаць тэкст «Грошы. Руйнаванне мастацтва» ці «Грошы. Руйнаванне літаратуры». Толькі мастацтва існуе, будуецца і разбудоўваецца. Мастакі-графітысты, як і літаратары-блогеры, яшчэ раз давялі ўсяму свету, што была, ёсць і будзе незалежная мастацкая рэальнасць, дзе грошы адыгрываюць зусім мізэрную ролю. Што да палітыкі, дык не Сурыа заўважыў, што палітыка — канцэнтраваная эканоміка. Было б дзіўна, каб у палітыку ішлі людзі, недасведчаныя ў экамічных пытаннях. Таму прафесійнай палітыкай збольшага і займаюцца домакіраўнікі-матэрыялісты, якія добра ведаюць кошты на цэглу, хлеб і віно, і якія не абяцаюць людзям зніжэнне коштаў у загробным царстве.

## Люда і рабаўнікі

Каб зарабіць вялікія грошы, патрабуецца шанец. Без шанцавання ты, хоць памры, сапраўдны капітал не зробіш. Але Фартуна — жанчына капрызлівая, сягоння яна да цябе павярнулася ўсмешлівым тварком, а заўтра ты пабачыш яе халодную спіну, а пазаўтра можаш апынуцца і пад яе абцасам. Таму мяне заўсёды цікавілі людзі, што не толькі зарабілі шмат, а і змаглі доўгі час ахоўваць і памнажаць заробленае. Зараз я раскажу пра Люду і рабаўнікоў... Калі аднаго разу Люда падышла да мяне на прэзентацыі кнігі Сяргея Міхалкова і павіталася, я не ведаў, куды падзець вочы. «Валодзя, ты мяне зусім не пазнаеш?» Голас быў нібыта і знаёмы. Але я мог паклясца, што бачу гэтую жанчыну першы раз. «Я — Люда! Я — жонка Яна! Няўжо я так змянілася?» Змянілася? Я здагадваўся пра майстэрства пластычных хірургаў і цудатворства стаматолагаў. Але на свае вочы такое пераўвасабленне пабачыў упершыню. Пабачыў і засаромеўся. Люду мая прысаромленасць пацешыла. «Ян, а Валодзя мяне не пазнаў!» Напэўна, для Яна непазнаванне ягонай жонкі навіною не было, таму ён хуценька перайшоў да спраў будзённых. Будзённыя справы Яна знітаваныя з рухам вялікіх грашовых плыняў у кнігагандлі. Не будзе перабольшаннем сказаць, што кожная чацвёртая руская кніжка, так ці інакш, належыць яму. І апошнія дзесяць гадоў кожная чацвёртая кніга, што выходзіць па-руску, не можа выйсці без візы Яна. Такія ў Яна справы будзённыя, а ў выхадныя... У Яна няма выхадных. Але дом пад Масквою ў яго ёсць, дом, куды ён нібыта павінен ездзіць на суботу і нядзелю. У тым доме, на Рублёўскай шашы, і жыве Люда з домработніцаю, ахоўнікам і коткаю. На гэты дом і зрабілі напад рабаўнікі. Яны звязалі Люду, ахоўніка, домработніцу і пачалі пытацца пра каштоўнасці. Тут з Людаю здарылася істэрыка. Яна крычала і патрабавала ад рабаўнікоў паказаць ёй яе котку. Яна абвінавачвала людзей з пісталетамі ў забойстве невінаватай жывёлы. Яна заявіла, што пакуль ёй не пакажуць жывую котку, яна нічога не скажа ні пра грошы, ні пра золата, ні пра іншыя каштоўнасці. Рабаўнікі пачалі шукаць котку. Не ведаю, як тая котка, а мой кот Чарлі можа схавацца ад чужых людзей так, што ты яго і за суткі не знойдзеш. Пакуль бандыты шукалі котку, Люда развязалася, і гэта ў той час, калі ахоўнік з домработніцай угаворвалі яе не развязвацца і паводзіць сябе ціха. Сумневаў у рашучасці бандытаў ні ў кога не было. Але Люда развязалася, разбіла аконную шыбу, выскачыла на двор і ўцякла. Ці маглі яе застрэліць? Адназначна, маглі. Але бандыты не толькі не застрэлілі Люду, яны сышлі з яе дома з пустымі рукамі. Гісторыю пра Люду я расказаў, каб было зразумела, што не так проста абрабаваць

людзей, якія маюць вялікія грошы, нават калі ў цябе ў руках зброя, а ў іх толькі любоў да сваёй маленькай коткі.

### Мікола і песні

Любіць ён запісваць і натаваць, фатаграфаваць і замалёўваць. Ніхто з маіх знаёмых не назбіраў столькі розных рознасцяў, колькі змог зафіксаваць Мікола. Адны толькі песні з роднай вёсачкі складаюць больш за пяцьсот адзінак. Герой? Безумоўна. Толькі ляжыць Міколаў збор сваіх і чужых твораў паўмёртвым скарбам. Як той скарб расчараваць і з паўмёртвага зрабіць жывым? Хто ведае? А Мікола працягвае замалёўваць, здымаць, натаваць і запісваць, бо верыць, што прыйдзе наступнік і разграбе-разбярэ ягоныя архівы і адкрые свету... У такі цуд я не веру, бо песні трэба не толькі запісваць, іх трэба спяваць, ды так спяваць, каб цябе слухалі; і тады не трэба пяцьсот, а хопіць і тры песні.

### Халамаў і душа

Сяргей Халамаў маляваў карціну «Дэмагог» і пісаў таемны трактат пра душу. Ён настойваў на тым, што ў душы няма рота. Я не спрачаўся з Халамавым. Я ведаў — душа спявае.

### Жэнік і фальшак

Жэнік купляе і прадае антыкварыят. Якую рэч яму ні пакажы, пра што ні загавары, абавязкова пачуеш: «Фальшак!» Фальшак — ёмістае слова, якое азначае танную падробку. Жэнік так часта і так гучна прамаўляе гэтае шурпатаватае слова, што складаецца непрыемнае адчуванне — наш свет суцэльны фальшак, і няма ў ім нічога існага ды сапраўднага. Зразумела, у свеце мастацтва шмат ілюзорнага і віртуальнага, шмат гульняў і ўмоўнасцяў, але сутнасць мастацтва застаецца ў праўдзівасці, у мастакоўскай шчырасці і разумнасці. Мастак тым і адрозніваецца ад гандляра антыкварыятам, што для яго далёка не ўсё навокал з'яўляецца фальшаком.

### Света і рабаўнікі

Маскоўскія ды мінскія ўладальнікі прыгарадных катэджаў любяць пагаварыць пра напады рабаўнікоў. Апошнім часам банды добра абучаных і прафесійна падрыхтаваных зладзеяў здзяйсняюць напады досыць часта. Бяда. А падзяліцца сваёю бядою з іншымі — справа карысная. Света расказала мне, як на яе падмаскоўны дом наляцелі рабаўнікі. Яны звязалі і збілі ўсіх: Свету, яе дачку і зяця, нават пяцігадовага ўнука не пашкадавалі, абышліся з ім, як з дарослымі. Бандыты забралі з катэджа ўсё, што маглі панесці, пагрузілі нарабаванае на зяцеву машыну і з'ехалі. «Добра, што нікога не забілі!» — самасуцяшалася Света. Сапраўды, маглі б і пазабіваць. А яшчэ ў аповедзе пра напад мяне здзівіла адна дэталь: усе рабаўнікі,

звяртаючыся да саўдзельнікаў, называлі іх Вася. Яны ўсе былі Васі. Такі цяпер у рабаўнікоў стыль — васючызм.

**Гаўрыіл і цемра**

Некалі я вучыўся ў мастака Гаўрыіла зарабляць маляваннем на хлеб. Вывучыўся. Цяпер я паглядзеў на ягоную новую карціну і пабачыў, што ў Гаўрыіла ўсярэдзіне цёмна. Я на карціну глядзеў, а бачыў мастака і бачыў, што ў ягонай свядомасці суцэльная цемрадзь. Як так? Чаму я раней не бачыў той цемры? Раней я вучыўся, я разглядаў паверхню і не заглядаў за яе.

**Дарвін і эвалюцыя**

Мяне не столькі цікавіла сама тэорыя эвалюцыі сэра Дарвіна, колькі момант адкрыцця гэтай тэорыі. Усе ведаюць: як Ньютану падаў на галаву яблык, як Архімед, выскокваючы з ванны, крычаў «эўрыка», як моцна піў Мендзялееў… А Дарвін? Як ён убачыў выпаўзанне рыбіны на бераг і пераўтварэнне трытона ў яшчарку? Загадка. Дарвін штотыдзень наведваўся ў царкву. Мо якраз у царкве ён і сутыкнуўся з азарэннем ды зрабіў адкрыццё? Напрыклад: сэр Дарвін пачуў гісторыю, як Бог скінуў з нябёсаў ганарыстага анёла… Непакорлівы анёл грымнуўся аб глебу, крылы ў яго і паадвальваліся. І аброс анёл поўсцю, і вырас у анёла хвост, і з’явіліся на анёльскай галаве рогі, і стаў анёл чортам. Калі так, тады робіцца зразумелым, чаму царкоўныя людзі так не любяць сэра Дарвіна, бо па ягонай тэорыі чорт стаіць на больш высокай прыступцы эвалюцыйнага развіцця, чым анёл. У анёла крылы, а ў чорта і рогі гладкія, і поўсць калматая, і магутныя капыты.

**Сыс і каньяк**

Яму заўсёды было мала выпіўкі. Колькі б яе ні было, а яму не хапала. Яму трэба было мераць выпіўку вёдрамі. І ён мог набыць скрыню каньяку і пераліць яго з бутэлек у вядро, і любавацца гэтым вядром, і піць каньяк з вядра ён мог. Таму і выпіўкі з ім мелі заўсёды нечаканы працяг. Тым разам мы выпівалі ў бары дома літаратараў. Мы прапілі ўсе мае і ягоныя грошы. Мы пазычылі гарэлкі ў бармэнаў. Бар зачыніўся. Мы апынуліся на вуліцы. «Паедзем да Мятліцкага!» — сказаў Сыс. «Дванаццаць ночы!» — удакладніў я. «Ну і што? У Мятліцкага заўсёды ёсць каньяк!» — «Ноч!» — «Паэты могуць прыйсці да паэта і ў гадзіну ночы, а ў Мятліцкага заўсёды ёсць каньяк. Ён запаслівы…» Мы паехалі праз увесь горад. Мы пабудзілі Мятліцкага. Каньяк у яго сапраўды знайшоўся. Мы пілі каньяк да раніцы. Мятліцкі часам мне нагадвае, як я з Сысам цэлую ноч піў ягоны каньяк. Сумленне мяне зусім не грызла за тую п’яную ноч. Нават калі Анатоль Сыс памёр і я застаўся адзін, які вінен Мятліцкаму за той каньяк, мяне сумленне не турбавала. Бестурботна я зайшоў

у краму, лёгка купіў бутэльку каньяку і занёс Мятліцкаму. Ён паспрабаваў быў аднеквацца, але я сказаў: «Паэт паэту можа падараваць бутэльку каньку? Можа! І не трэба ля-ля…»

**Асташонак і бібліятэка**

Пісьменнік Алесь Асташонак ганарыўся сваёй бібліятэкай. Аднойчы ён мне паказаў уласны і досыць вялікі кнігазбор. Той сапраўды мяне здзівіў, бо ў ім не было ніводнай кнігі, цікавай мне.

**Гётэ і таямніца**

«Матэрыял бачыць кожны перад сабою, змест знаходзіць толькі той, хто хоць бы крыху з ім звязаны, а форма застаецца таямніцай для большасці», — фармуляваў Гётэ. Не паверыць вялікаму майстру слова немагчыма; адно крышку засмучае: у гэткім варыянце мастак ніколі не стане на бок большасці.

**Стральцоў і грыбы**

Міхась Стральцоў пагадзіўся напісаць новую прадмову да майго забароненага савецкімі цэнзарамі зборніка вершаў. Я зайшоў да яго, каб абмеркаваць далейшы лёс нешчаслівай кніжкі. Стральцоў прачытаў мне прадмову, і мы выйшлі на гаўбец перакурыць. Быў цёплы сонечны дзень ранняй восені. «Трэба нам з табою ў грыбы выбрацца. Я тут, пад Ракавам, ведаю грыбныя мясціны…» — Стральцоў расказваў і расказваў пра нашую паездку ў лес, а я думаў зусім пра іншае. Якія грыбы? Што гэта за падлеткаўскія летуценні? Не паеду я ў грыбы. Трэба працаваць: пісаць карціны, афармляць кнігі. Трэба грошы зарабляць. «Калі паедзем?» — спытаў Стральцоў. «Не ведаю…» — «Як знойдзеш час, заходзь, і мы паедзем…» Не знайшоў я час, і мы не выбраліся ў грыбы, і я не ведаю грыбных мясцінаў пад Ракавам. Стральцова даўно няма. Часам я перачытваю ягоныя вершы і кожнага разу шкадую, што не схадзіў з ім у тыя грыбы.

**Антон і прагулянка**

Ёсць гісторыі, якія заўсёды знаходзяць працяг. Згадайце ў кампаніі сяброў, як згубілася і знайшлося вашае дзіця, і пачуеце расповед пра падобнае здарэнне. Мае знаёмыя прыйшлі ў госці. У апошні момант гаспадыня заўважыла, што ў доме няма хлеба. У краму яна пайшла з сынам знаёмых — шасцігадовым Антонам. У перадсвяточны дзень крама была бітма-набітая народам. Жанчына сказала хлопчыку пачакаць на ганку крамы «Каравай». Пазней Антон скажа, што яму пачулася не «пачакай», а «пагуляй». Антон схітруе. Але тое будзе толькі праз суткі. Жанчына з боханам выйдзе з крамы і не знойдзе Антона. Яна аббегае ўсе вуліцы і двары вакол пляца Перамогі, але так і не адшукае хлопчыка. З горкім настроем яна вернецца домоў, дзе страціць апошнюю надзею хутка пабачыць Антона. Замест запланаванага і падрыхтаванага банкету дзве сям’і атрымаюць

бяссонную ноч са званкамі ды паходамі ў міліцыю. Што Антон? Яму надакучыла чакаць на крамным ганку, і ён выправіўся на прагулянку. Ад пляца Перамогі ён прайшоў пешкі ажно да вуліцы Янкі Маўра. Там спыніў маладога мужчыну і сказаў, што хоча есці і спаць. Мужчына трапіўся чулы: завёў незнаёмага хлопчыка да сябе дамоў, накарміў і паклаў спаць. Толькі раніцай ён распытаў Антона пра бацькоў і завёў у міліцыю. Гэта ў міліцыі Антон настойваў, што яму сказалі «пагуляць», а не «пачакаць». І колькі яго ні спрабавалі пераканаць у адваротным, ён не пагаджаўся і застаўся стаяць на сваім «пагуляй».

## Нямцоў і часнок

Сустрэў... Люблю выпадковыя сустрэчы і кароткія неабавязковыя размовы. У гэткіх, кінутых на прыпынку словах, часам можна ўбачыць усё жыццё чалавека... Сустрэў свайго даўнейшага выкладчыка малявання — Віктара Нямцова. Выгляд ём меў стомлены: «Надакучылі бясконцыя святы. Іх столькі, што яны ўжо не весяляць а стамляюць». — «Хіба з-за гэтага варта засмучацца. Во да мяне сягоння натуршчыца не зможа прыйсці, а я ўсё адно не расстройваюся. Пайду ў майстэрню і намалюю нацюрморт з часнаком...» — «З малявання нацюрмортаў і натуршчыц усё пачынаецца, і ўсё гэтым жа заканчваецца. А я захоўваю твае малюнкі ў асобнай папачцы. Памятаеш, як мы вечарамі разам малявалі натуршчыцу? Калі тое было?..» Я хутка палічыў адваротны час: «Трыццаць гадоў мінула». — «Правільна я сказаў: з чаго пачалося, тым і скончыцца...» Мы развіталіся да наступнай неабавязковай сустрэчы, якой насамрэч можа ніколі і не адбыцца.

## Чаран і цывілізацыя

Эміль-Мішэль Чаран, пішучы «Партрэт цывілізаванага чалавека», асудзіў цікавасць такога «чалавека» да так званых адсталых народаў. Ён, як і ў свой час Мантэнь, які усхваляў канібалаў, паспрабаваў апраўдаць і пахваліў цемрашальскі лад жыцця ў закінутых кутках свету. «У дабрадушшы місіянера або апостала праглядаецца помслівасць. У веру абарочваюць зусім не дзеля таго, каб вызваліць, а каб закаваць ланцугамі...» — напісаў Чаран. Калі я слухаю сучасных заходніх і ўсходніх місіянераў, якія прыязджаюць да нас у Беларусь, дык выдатна чую звон ланцугоў. Але пагадзіцца з Чаранам усё адно не магу. Мяне вабіць еўрапейская цывілізацыя. У кожным беларусу ёсць пакліканне да Еўропы. А яшчэ, ведаючы той факт, што сам Эміль-Мішэль перабраўся з адсталай Румыніі ў цывілізаваную Францыю, вядзе да думкі пра ягоную няшчырасць. Адзінае, у чым мяне пераканаў Чаран, — мы не настолькі адсталі ад цывілізацыі, каб

прадаваць Беларусь місіянерам за шкляныя пацеркі і шакаладную цукерку.

## Анатоль і дзве рэчы

Любоў мусіць увасобіцца ў нейкую рэч, а інакш у яе цяжка паверыць. Хай гэта будзе самы звычайны кубак для гарбаты, але гледзячы на такі просты кубак, ты можаш згадаць любоў, можаш пераканацца ў яе існаванні. На дні нараджэння маёй мамы я ўбачыў стары сіні кубак. Гэты кубак прынёс у наш дом мамін стрыечны брат — Анатоль. Ён пражыў у нашай кватэры восем гадоў. Вечарамі Анатоль піў гарбату з малінавым сочывам са свайго цёмна-сіняга кубка. Ажаніўшыся, Анатоль перабраўся ў кватэру да жонкі. Чаму ён не забраў кубак? Мусіць, не было патрэбы. Анатолеў кубак так і застаўся жыць на мамінай варэльні. Потым я напісаў апавяданне пра Анатоля, напісаў з любоўю, як мне падавалася. Але ён успрыняў тое апавяданне як абразу. Раз’юшыўся, ды так, што аднаму нашаму агульнаму знаёмаму — Вішнеўскаму — паказаў доўгую шрубоўку на дне сваёй сумкі і сказаў, што гэтай шрубоўкаю мяне заб’е. Нянавісць, як і любоў, мусіць увасобіцца ў рэч, а інакш у яе цяжка паверыць.

## Ігнаценка і нацюрморты

Маляваць нацюрморты простым алоўкам мяне вучыў Трафім Ігнаценка. Ён ясна выкладаў акадэмічныя патрабаванні, і дастаткова было выслухаць Ігнаценку, каб на тваёй паперы з’явіўся выразны нацюрморт. З выкладчыкам мне пашанцавала, дый не толькі мне, уся наша група выдатна малявала гіпсавыя конусы, кубы і шары. Аднойчы я пабачыў нацюрморт, зроблены дачкой Трафіма. Яна вучылася на курсе вышэй і мусіла маляваць значна лепей за мяне і маіх аднагрупнікаў. Больш за тое, маючы такога цудоўнага бацьку, маляваць кепска было сорамна. Толькі сорамна зрабілася мне. Я глядзеў на брудна-шэры малюнак Трафімавай дачкі і не мог адвесці вачэй, бо я не верыў таму, што бачыў. Так кепска ў нашай вучэльні не маляваў ніхто. Убачанае я не стаў ні з кім абмяркоўваць. Здавалася, я павінен быў расчаравацца ў выкладчыку, але гэтага не здарылася.

## Пчалінцаў і Нью-Ёрк

Графік Сяргей Пчалінцаў перабраўся з Мінска ў Нью-Ёрк. Каб Сяргею было дваццаць пяць, а не пяцьдзясят тры, я яго зразумеў бы лёгка. Малады мастак выправіўся адкрываць і скараць Амерыку, усё зразумела. А калі чалавеку за пяцьдзясят, і ён едзе жыць у далёкі і чужы свет, дык у мяне да яго шмат пытанняў узнікае. Таму, сустрэўшы Пчалінцава на мінскім вакзале, я прапанаваў папіць кавы. Мы замовілі каву, Сяргей распавёў пра сваю працу ў ювелірнай майстэрні, дзе ён малюе эскізы ўпрыгожванняў, расказваў ён і пра свае выстаўленыя ў галерэях палотны. У мяне было адчуванне, што

нам з ім сапраўды па дваццаць пяць, таму я спытаўся: «А што ты думаеш пра будучыню?» — «Я не думаю пра будучыню!» — «Зусім?» — «Першае, што я навучыўся рабіць у Нью-Ёрку, гэта не думаць пра будучыню...» Мы развіталіся, я ішоў па сваім заснежаным Мінску і думаў, што час і мне перастаць штодня зазіраць у сваю будучыню.

## Піфагор і бессмяротнасць

Чаму ты смяротны? Здавалася, адказ не знайсці, а тут чытаю меркаванне Піфагора: казаць праўду і рабіць дабро — дзве вартасці з прыроды бессмяротнага. Перачытваю і разумею, чаму ўсе людзі, без выняткаў, смяротныя.

## Касірка і Vittel

Разважаючы пра краму народнага адзення Zara, Бегбедэр зрабіў прапанову: забараніць багатым людзям апранацца ў Zara. Сапраўды, калі чалавек мае сродкі, ён мусіць спраўляць абновы ў шыкоўных буціках, а не лезці падчас распродажу за танным швэдрыкам. Тое самае можна сказаць і пра рэстарацыі... Заможным трэба абмежаваць уваход у народныя сталоўкі, кшталту Lido ды McDonald's! Трэба паставіць ахоўнікаў з заданнем — багатых не прапускаць. Толькі тут адна праблема, бо гэты багацей паспеў, гад, купіць сабе швэдрык у Zara, а на твары ў яго не напісана, колькі грошай мае на картачцы. Але ён усё адно сябе выдасць, як я выдаў сябе ў віленскім Lido. Паставіў на спод талерку з рысам і гароднінай ды бутэлечку вады Vittel. Падышоў да касіркі. На мне шэры ў палосы швэдрык ад Zara. А тут і пачалося: «Вы што? Вы будзеце піць гэтую ваду за 4 літы? Ідзіце і пастаўце на месца! У нас такой вады поўна, такой і не дарагой! А гэта простая вада, нават без газу, а каштуе ажно 4 літы! І хто толькі прыдумаў простую ваду прадаваць за такія грошы? Вы што, лянуецеся схадзіць па ваду? Я магу схадзіць, а Вы тут касу павартуйце...» — «Не трэба; я, з вашага дазволу, вып'ю ваду за 4 літы». — «Ну і чалавек! Я яму прапаную быць разумным, а ён яшчэ і ўпіраецца... Не разумею я такіх!» Касірка, відавочна, закрыўдавала на мяне. Ну і я на сябе зазлаваўся. Якога ражна папёрся ў Lido? Хіба мала ў Вільні рэстарацыяў, дзе ніхто цябе не спытае пра выбраную ваду? Ды процьма тых рэстарацыяў, але там дачэпяцца да рысавай кашы, пачнуць прапаноўваць да той кашы аленя з шакаладнай паліўкаю ці каплуна, запечанага на вуглях. Карацей, лепей за маю домработніцу ніхто не гатуе, але і яна, калі злуецца, кажа: «Вы што, мяса сабе шкадуеце? Чаму ўвесь час я гатую вам зялёнае бацвінне?»

## Рэня і «Петушок»

У горадзе Сочы жыве мая цётка, родная цётка Рэня. Неяк, ад няма чаго рабіць, я сеў і палічыў, колькі пражыў у Рэгіны, атрымаўся цэлы год. Вялікі, суцэльна летні год я прагуляў на беразе Чорнага мора,

сярод платанаў і бананавых дрэў. Таму я абсалютна не хваляваўся, калі ў сне прыляцеў на самалёце ў тыя Сочы. У аэрапорце я зайшоў у кнігарню, дзе і пазнаёміўся з тамтэйшым аматарам букіністычных выданняў. Мы загаварылі пра літаратуру, а потым і пра мову. Высветлілася: букініст — беларус. Ён паскардзіўся, што ў Сочы няма з кім пагаварыць па-нашаму. Я паспачуваў. Дарма! Нашае знаёмства мы вырашылі адзначыць у бары «Петушок». Мы ішлі ў бар па незнаёмай мне вуліцы і завярнулі ў нейкі тупік. У тупіку новы знаёмы прапаў, знік, як пад зямлю праваліўся. Я хацеў быў выйсці з тупіка на вуліцу, але дарогу загарадзілі бандзюкі. Іх было чалавек шэсць-сем. Адзін з іх схапіў мяне за шыю, а другі так моцна ўдарыў у твар, што я ажно прачнуўся... Пакуль прачынаўся, я яшчэ паспеў пашкадаваць свой дарагі гадзіннік, які збіраліся адабраць бандзюкі, а яшчэ паспеў праклясці сочынскага беларускамоўнага букініста. У сне шмат што паспяваеш зрабіць за адно імгненне. Прачнуўшыся, я задумаўся... Якога чорта я павалокся ў бар «Петушок»? А якога ражна я вечарам павалокся ў рэстаран «0,5»? Выпадкова. Выйшаў прайсціся, сустрэў Віцьку, мянушка Банкір, і Сяргея, мянушка Нарзан. Яны захацелі выпіць гарэлкі, і мы пайшлі ў «0,5». Нарзан з Банкірам замовілі гарэлку і салаты, а я — гарбату чорную. Музыка... Ну, тое, што выконвалася на музычных інструментах у «0,5»... Тое, што павінна быць вясёлым і лёгкім, было гучным, цяжкім і безнадзейным. Музыка рэстаранных лабухаў безнадзейная, у сутнасці сваёй безнадзейная. Калі віп'еш гарэлкі, ты гэтага не пачуеш, а на цвярозую галаву — чуваць. Тут яшчэ дзеўкі з'явіліся. Каб я выпіў гарэлкі, яны б папрыгажэлі, а так яны былі прыгожыя толькі для Банкіра і Нарзана. Я развітаўся і пайшоў спаць, і прысніўся мне горад Сочы... Дарэчы, даўно я не тэлефанаваў Рэгіне! Як там яна? Трэба затэлефанаваць. А можа, злётаць на пару дзён? Затэлефанаваць трэба абавязкова, толькі не ў пяць гадзін раніцы. А пятай раніцы варта яшчэ спаць. І я засынаю, а перад тым як заснуць, уяўляю сочынскі тупік з бандзюкамі. Яны зноўку пераймаюць мяне на дарозе. Адзін хапае за шыю, а другі намерваецца ўдарыць. Ха! У мяне ў руцэ сякера, такая невялічкая сякера для рассякання мяса. Я з усяе моцы сяку нагу таму бандзюку, што ўчапіўся ў маё горла. Лязо глыбока заходзіць пад калена. Бандзюк скурчваецца. Я вызваляюся і сяку другога па галаве, за вухам. А што ж яны сабе думалі? Што не вярнуся? Мой сон, хачу — прахопліваюся, а хачу — і вяртаюся, прыхапіўшы сякеру.

**Ядзя і «Фрэскі»**

Дачка робіць кулінарную кнігу. Знакамітыя людзі гатуюць улюбёную страву, распавядаюць гісторыі, адкуль даставаліся рэцэпты, а Ядзя фатаграфуе і запісвае. Просценькі праект, які будзе

трымацца на вядомасці кухараў-аматараў. Што ні кажы, а добра, калі дзеці нейкім чынам працягваюць справу бацькоў, у маім варыянце — робяць кнігі. У рэстарацыі «Фрэскі» мы з дачкою ядзім сушы і разважаем пра кулінарны праект. Ад кнігі пераходзім да абмеркавання якасці рысу ў сушы. «Самае цяжкае ў сушы — правільна зварыць рыс», — кажа дачка. «Праўда? А я думаў: у сушы галоўнае — свежасць прадуктаў». — «Ага! Толькі гэта не пра сушы ў Мінску. У Бостане, у японскай рэстарацыі, я замовіла амара. Кухар прыгатаваў яго так, што трэба было есці амара ў той час, як ён яшчэ варушыў клюшнямі...» — «Смачны быў амар?» — «Свежы!»

**Цяжарная і татуіроўка**

Каралеўскай хадою яна спускалася ў метро. У большасці цяжарных жанчын у паставе з'яўляецца значнасць, упэўненасць, арыстакратычнасць. Высокая, загарэлая, яна несла паперадзе сябе вялікі жывот, шчыльна абцягнуты белай майкаю, а на плячы ў яе красавалася круглая татуіроўка з тварам сонца. І мне ўявілася нованароджанае дзіця з блакітнай татуіроўкаю на маленечкім плячы.

**Тамара і гузікі**

У стракатым натоўпе я ўбачыў Тамару, сваю першую жонку. Яна была элегантна-чорная, як заўжды. Я схапіў Тамару за руку. Так я заўсёды раблю, каб яна не ўцякла. Не схаплю — і пачне ўцякаць, а ты даганяй-лаві. Цяпер яна ўжо ведае пра мой суровы намер пагаварыць і не ўцякае, стаіць і ягамосна пасміхаецца. «Куды ты, Тамара Іванаўна, кіруешся?» — «Нікуды!» — «Адкуль ты, Тамара Іванаўна, ідзеш?» — «Ніадкуль!» — «Як ты жывеш?» — «Добра!» — «Як дачка?» Знарок не кажу «наша», бо для Тамары наша дачка — толькі яе дачка. «Таксама добра!» — «Працуе?» — «Працуе!» — «Дзе?» — «Табе назву фірмы сказаць ці проста яе спецыяльнасць?» — «Яна, як разумею, працуе па сваёй спецыяльнасці?» — «Працуе ў камп'ютарнай фірме...» — «Ёй падабаецца?» — «Не падабаецца. Ёй не падабаецца сядзець восем гадзін на адным месцы...» І мне ніколі не падабалася сядзець восем гадзін на адным месцы. «Чаго мы стаім? Ты куды ішла? Я цябе правяду...» — «Я іду ў ГУМ па гузікі...» — «Пайшлі ў ГУМ па гузікі...» Мы ідзём у краму па гузікі, і я моцна трымаю Тамару за руку. «Табе што, таксама трэба гузікі?» — «Не, мне гузікі не трэба. Мне трэба карціны. Я зноў малюю карціны...» — «Ты малюеш пэндзлямі на палатне?» — «Менавіта пэндзлямі на палатне я малюю голых жанчын!» — «Гэта ўсё памерла яшчэ ў мінулым стагоддзі. Намаляваныя на палатне жанчыны нікому не трэба. Табе проста няма чаго рабіць, і ад няма чаго рабіць ты малюеш нікому не патрэбных голых жанчын!» — «Часам мне за малюнкі плацяць. Мала, але плацяць... А ты што, шыць пачала, што гузікі спатрэбіліся?» Тамара

пяшчотна пагладжвала чорны гузік. «Мне трэба такі, толькі без узораў, а без узораў у іх няма...» — «Тамара Іванаўна, хочаш я куплю табе гэтыя гузікі?» — «Купі іх сабе!» — «А мне не трэба, у мяне ўсё ёсць!» — «Усё ёсць, як у каньяку “Крышталь”?» Я сумеўся, я не ведаў, што казаць, я нічога не чуў пра каньяк «Крышталь». «Тамара, я не ведаю такі каньяк. Тамара Іванаўна, я так даўно не п’ю, што не ведаю назвы сучасных каньякоў!» — «І зараз ты цвярозы?» — «Канешне!» — «Ты цвярозы прыйшоў глядзець гузікі? Так я табе і паверыла...» Сапраўды, паверыць, што цвярозы чалавек, які два гады не бачыў сваю былую жонку, пайшоў з ёю ў краму разглядаць гузікі, — цяжка. Але я цвярозы, і я стаю ў краме, і я трымаю яе за руку. Трэба адпускаць. Я адпусціў руку Тамары Іванаўны. Яна ўзрадавалася. «Для цябе, Тамара, я заўсёды п’яны. Нават калі я крыштальна цвярозы, для цябе я застаюся п’яным». Яна не адказала. Яна знікла ў стракатым натоўпе.

**Хадыка і непатрэбнасць**

Ці тлумачыў табе нехта пра непатрэбнасць тваёй прафесіі? Не? А мне патлумачылі на першых занятках, калі я толькі паступіў у мастацкую акадэмію. Я быў шчаслівы, мяне раздзімала ад пыхі, я верыў у сваю абранасць і выключнасць. А тут як вядро вады на галаву вылілі: «Вы думаеце, што вы неабходныя ў гэтым свеце са сваімі вітражамі і роспісамі? Памыляецеся! Людзі могуць цудоўна абыходзіцца без вашых малюнкаў на вокнах і сценах. Таму, калі ў каго яшчэ засталіся сілы, уцякайце адсюль. Знайдзіце сабе іншы, сапраўды патрэбны людзям занятак, і працуйце, і атрымлівайце радасць ад жыцця...» Першая лекцыя, пачутая мною ад Алега Хадыкі, была прысвечана малапатрэбнасці манументальнага мастацтва і жорсткай волі замоўцы, які цалкам кантралюе працэс работы. Ці паверыў я тады ў словы выкладчыка? Не так і важна. Галоўнае: я запомніў мэсідж, і пыхі ў мяне крыху зменшылася.

**Міхась і сон**

Ён паехаў у Сібір зарабляць грошы. Два месяцы яго не было. Да мяне ён завітаў з бутэлькаю віна. Мы пілі, я глядзеў на ягоны бяскроўны твар, і мне было шкада хваратварага Міхася. Ён распавёў, як згубіў сон: «Першы месяц усё было нібыта нармальна. Мы рабілі роспісы ў школах, малявалі райскія сады на сценах, малявалі ў доўгіх безаконных калідорах светлыя адчыненыя наросхрыст вокны, поўныя аблокаў і ластавак. Нас кармілі і нам плацілі. Здавалася, што сцены і калідоры ніколі не скончацца. Яны і не скончыліся. Скончыўся я, згубіўшы сон. Увечары я клаўся на ложак і ляжаў да раніцы. Я ляжаў як мёртвы, я нават не варушыўся, проста ціха ляжаў у ложку. Я нічога не думаў. Мне здавалася, што ў наступную ноч я або памру,

або засну, але ні памерці, ні заснуць я так і не змог. Я прыляцеў у Мінск і дома праспаў цэлыя суткі. Цяпер я магу выпіць, я магу прыйсці да цябе, але я больш ніколі не змагу паехаць у Сібір зарабляць грошы. Ты мяне разумееш?» А я Міхася так і не зразумеў.

### Вова і качар

Хадзілі з унукам на рэчку, дзе крышаным батонам кармілі качак. Галодны нахабны качар схапіў унука за палец. Вова плакаў.

### Кісялёў і папера ў клетку

Тады мужчыны не падфарбоўвалі валасы, не было такой моды. А Кісялёў пайшоў у цырульню разам з Палікарпавай і пафарбаваўся. Яна зрабілася чарнява-цыганістаю, а ён — саламяна-славянскім. Ёй чарнявасць ну зусім не пасавала, а яму фарбаваная прычоха падыходзіла. Відавочна Кісялёў пахарашэў пасля цырульні. Усе, не саромеючыся, казалі пра тое. Цяпер у Кісялёва былі дзве адметныя рэчы: выфарбаваныя валасы і фінка пад рукавом пінжака на левай руцэ. Ён сам пашыў скураныя похвы з раменьчыкамі, якія зашпільваў на руцэ. Фінка была шырокая, люстраністая, з касцянымі тронкамі. Праз гэтыя дзве рэчы Кісялёў і прапаў. У пятніцу ён пайшоў на танцы і натанцаваўся, як апошні раз. Нейкім вырадкам не спадабаліся фарбаваныя валасы. Кісялёў з танцаў сышоў, і сышоў разам з дзяўчынаю, з якой натанцаваўся першы і апошні раз. Вырадкам не спадабалася, што хлопец з фарбаванымі валасамі сышоў разам з дзяўчынаю. Яны пабеглі ў пагоню і дагналі Кісялёва. Ён чуў, як пагоня вырадкаў бяжыць да яго. Ён дастаў фінку і развярнуўся. Ён нават нікога не біў той фінкаю. Проста самы хутканогі наляцеў на шырокае лязо сваім жыватом. «Парэзалі!» — прахрыпеў хутканогі і скурчыўся на зямлі. Кісялёў паспрабаваў уцякаць і хавацца, але ў панядзелак яго знайшлі і забралі. Кісялёва асудзілі на пяць гадоў. З мінскай турмы, што ўсё яшчэ стаіць каля надчыгункавага моста на вуліцы Апанскага, ён дасылаў лісты Палікарпавай. У лістах былі малюначкі турэмных дамкоў ды асуджаных мужчын у ватоўках. Малюначкі былі кепскія, зусім кепскія былі тыя малюнкі, зробленыя сіняй ручкаю на паперы ў клетку. Кепскія былі малюнкі, але страшэнна запамінальныя.

### Прынцып і вайна

Першая сусветная бойня распачалася з правінцыйнай трагедыі. У Сараеве гімназіст забіў эрц-герцага Франца Фердынанда і ягоную жонку. Тэрарыстычная акцыя сербскага нацыяналіста зрушыла з месца арміі розных імперыяў і краін. Гісторыя той вайны вядомая, бо колькасцю ўдзельнікаў і ахвяраў яна пераўзышла ўсе папярэднія бойні. Раней, чытаючы падручнікі і кнігі па гісторыі, я чамусьці не звяртаў увагі на прозвішча гімназіста, а звалі яго Гаўрыла Прынцып.

Так-так… Сусветная вайна распачалася з ахвярнай прынцыповасці гімназіста Прынцыпа.

## Нацэўскі і душа

Загаварыў я з Нацэўскім пра душу. Так бывае: вып’еш, абгаворыш з добрым сябруком усё чыста, а калі нічога не застанецца, згадаецца душа. З Нацэўскім можна пра такое гаварыць, мы з ім у касцёле працавалі. Тым разам ён сам пра душу і расказаў. Устаў ён раніцаю, прыняў душ і раскашляўся, кашляў ён кашляў ды так кашлянуў, што душа і выкашлялася. Вылецела з рота сівенькай аблачынкаю і разарвалася ў паветры на дробныя шматочкі. Перапужаўся Нацэўскі свайго абяздушвання і пайшоў да доктара. Той выслухаў і папрасіў дэталі згадаць. Нацэўскі ўспомніў, што душа ягоная была смярдзючай, і патыхала ад яе тытунёвым дымам. Доктар параіў Нацэўскаму кінуць паліць і патлумачыў пра нейкую закаркаванасць часткі лёгкага. Маўляў, Нацэўскі раніцаю выкашляў цыгарэтны дым, якім надыхаўся ўвечары. З доктарам давялося пагадзіцца і Нацэўскаму, а за ім і мне; толькі нейкі глыбінны страх, што сваю душу можна выкашляць, так і застаўся і ў мяне, і ў сябрука майго — Нацэўскага.

## Бэн і легенда

Перачытваючы лірыку Готфрыда Бэна, натрапіў на думку, што мары народаў жывуць адно толькі ў вершах, дзе гукі і словы бессмяротныя. Гэта замацавала маё перакананне, што кожны народ раней ці пазней увасабляецца ў легенду. Народ можа знікнуць, а легенда пра той народ застаецца жыць. Каб не знікнуць бясследна, Іспанія ўвасобілася ў легенду пра Дон Жуана, Галандыя нарадзіла Лятучага галандца, а Германія — доктара Фаўста. Беларусь, дзякуючы Максіму Багдановічу, мае легендарную Пагоню. Нашаму народу наканавана быць Пагоняю, якая пераследуе і забівае здраднікаў.

## Ядзя і салата

Жонка на карнавале ў Венецыі, домработніца ў бальніцы, абедаць у рэстарацыях я не люблю, а гатаваць — часу няма. Праблема! Жонка ўгаварыла дачку папрацаваць кухарам. У Ядзі ўсё атрымлівалася выдатна, але, калі ўсё робіцца добра, тады пра што размова. А пра кепскую салату гаворка. Ядзя зрабіла салату з тунцом без цыбулі. Нясмачная атрымалася салата, я так і сказаў: «Дачка, салата дрэнь!» — «Не еш!» Але мне хацелася есці, і я еў даўкую салату. Я непераборлівы, ем усё, і ніколі я не кажу кепска на тое, што ем. А тут не стрымаўся, сказаў. Дарма. Пасярод ночы мне забалеў жывот, ды так моцна. Ён спачатку тупа балеў, а потым востра. Наеўся я вугалю. Жывот балець перастаў, але і спаць больш не хацелася. Я стаяў каля

акна і глядзеў на туман і цёмную вуліцу. Глядзеў і думаў, што трэба было проста накрышыць цыбулі ў салату і пахваліць дачку.

### Сакрат і выява зямнога круга

Эліян апісаў гісторыю размовы Сакрата з Алківіядам пра зямлю… Сакрат, заўважыўшы, што Алківіяд выхваляецца сваім багаццем, асабліва землямі, якія яму належалі, павёў яго туды, дзе ў Афінах захоўвалася карціна з выяваю ўсяго круга зямнога, і прапанаваў знайсці Атыку. Калі ж юнак знайшоў, Сакрат папрасіў адшукаць свае ўладанні, а на словы Алківіяда: «Іх тут наогул няма» — сказаў: «Глядзі, ты ганарышся тым, што не складае і самай малой часткі зямлі». Ні Алківіяд, ні Эліян не паспрабавалі аспрэчыць Сакрата, не збіраюся і я спрачацца з мудрым грэкам, але ў мяне з’явілася жаданне прапанаваць Сакрату паглядзець на землі Алківіяда праз мікраскоп.

### Твардоўскі і аплёўванне

У нашым сямейным архіве захоўваецца ліст ад паэта Аляксандра Твардоўскага, у якім ён віншуе тату з публікацыяй апавядання «Кароль Нябожа» ў часопісе «Новый Мир». У тыя часы, калі Твардоўскі пачаў публікаваць Салжаніцына і Быкава, а «Новый Мир» займеў славу аднаго з найлепшых часопісаў у свеце, атрымаць ліст з віншаваннем было за вялікі гонар. Можна па-рознаму ставіцца да паэтычнай спадчыны Твардоўскага, але ягоная грамадзянская пазіцыя заслугоўвае самай высокай адзнакі. Дзякуючы мужнасці і прынцыповасці рэдактара Твардоўскага свет змог прачытаць новую літаратуру, якая паказала праўдзівую карціну тагачаснага СССР з канцэнтрацыйнымі лагерамі, з жорсткай і абсурднай вайною, з абрабаванай і зганьбленай вёскаю. Зрэшты, той, хто цікавіцца літаратураю, выдатна ведае пра ўсе гэтыя факты. Але я пачаў расповед пра Твардоўскага з нагоды аднаго выказвання… Аднойчы ў паэта спыталі, чаму ён, столькі папаездзіўшы па ўсім свеце, ніколі не пісаў пра замежжа. «Я не з тых, хто аплёўвае чужую краіну, каб з’ездзіць у яе яшчэ раз!» — адказаў паэт. Цяпер свет змяніўся так, што некаторым з маіх былых сяброў, каб з’ездзіць у замежную краіну, даводзіцца аплёўваць сваю Радзіму. Абсурд! За савецкім часам маласумленныя літаратары пісалі лухту пра замежны свет, і мне здавалася, што нічога больш агіднага і быць не можа. Цяперака высветлілася, што ёсць рэчы больш гнюсныя. Згадаўшы светлымі словамі Аляксандра Твардоўскага, мне давядзецца сказаць услед за ім: «Я не з тых, хто аплёўвае Радзіму, каб утульна жыць за мяжою!»

### Іра і цукерка

У кавярні «Акварыум» частую феміністку Іру чырвоным вінам і згадваю сказ з рамана «Цынікі» Анатоля Марыенгофа: «У абдымках

мужчыны яна атрымлівала менш задавальнення, чым ад добрай шакаладнай цукеркі».

**Эліна і патрэбныя людзі**

Паслухаць параду разумнага чалавека — насалода. А выслухаць глупства, якое выдаецца за разумны праект? Спецыфічнае пачуццё ўзнікае, ніякаватасць перамешваецца з сорамам і выклікае нездаровы смех. У мяне так было падчас кароткай размовы з Элінай. Бег я праз ранішні парк, дзе насустрач мне выйшла Эліна — мілае стварэнне з доўгім і гнуткім торсам. Эліначка ўсміхнулася тонкімі вуснамі, але блізкія вочкі засталіся безнадзейна-брунатнымі. «Ты ўсё народныя кніжкі выдаеш?» — «А як твой часопіс, нідзе не магу знайсці…» — «Гэта ты робіш кнігі для людзей, а я выдаю свой часопіс для патрэбных людзей. Атрымліваю грант на 5000 асобнікаў, друкую 50, дасылаю патрэбным таварышам і год жыву…» — «Лічыш гэта разумна?» — «Пра што ты пытаешся?..» — «Жарт!!! Ха-ха-ха…» Эліна панесла сваю роўную спінку ў зялёную алею, а я пабег уздоўж рэчкі.

**Ажгірэй і шкляны горад**

Іду праз ледзяны вецер і чую званок сотавіка ў кішэні. Тэлефануюць з акадэміі мастацтваў, каб паведаміць сумную навіну. Памёр мой даўні знаёмы мастак-манументаліст Віктар Ажгірэй. Хаваюць яго сягоння ў мястэчку Ратамка, што пад Мінскам. Паехаць і развітацца з Віктарам не магу, бо і ў нядзельны дзень у мяне шмат неадкладнай працы ды абавязковых сустрэч. Стоячы пад ветрам і снегам, я згадваю, як працаваў з Ажгірэем у касцёле, як ён запрашаў мяне ў Ратамку, дзе захоўваў свае і мае копіі з касцёльных фрэсак, як я абяцаў яму прыехаць… Тут да мяне падышлі дзве маладзенькія дзяўчынкі: «Скажыце… А дзе ў вас тут шкляны горад?» — «У нас няма шклянога, у нас ёсць падземны горад…» — «А там ёсць шкляныя купалы?» — «Ёсць!» — «Далёка ісці?» — «Паспееце замерзнуць. Лепей праехаць адзін прыпынак на метро…» Дзяўчаткі пайшлі ў бок метро, каб ехаць у шкляны горад, а я застаўся стаяць на скрыжаванні, каб яшчэ дзве хвіліны паўзгадваць Віктара Ажгірэя.

**Эліян і харчаванне**

Адна з самых прыбытковых галін у маёй выдавецкай справе — зборнікі кулінарных рэцэптаў. Больш за трыста найменняў такіх кніжак я падрыхтаваў і выдаў. Даводзіцца ўважліва сачыць за тэндэнцыямі ў кухарскай справе. Мяне нават захапляе тэма харчавання. Але мяне непакоіць колькасць таўстуноў на вуліцах. Іх усё болей і болей. Апошнім часам з’явілася шмат тоўстых кітайцаў, але ім, відавочна, яшчэ далёка да таўстуноў амерыканскіх. Грамадзяне менавіта гэтых імперыяў вылучаюцца сваёю непатрэбнай тлустасцю і залішняй вагою. Напэўна, надыходзіць час, калі варта падумаць не

толькі пра абмежаванні, звязаныя з алкаголем і тытунём, але і пра абмежаванні на прадукты харчавання. Прыклад такога рэгулявання апісаны сафістам Эліянам: «У спартанцаў і рымлянаў быў аднолькавы закон, які абмяжоўваў набыццё харчоў і тычыўся ён як якасці, так і колькасці прадуктаў. Тож бо спартанцы і рымляне патрабавалі, каб грамадзяне ва ўсім, а ў ежы асабліва, прытрымліваліся разумных межаў». Дактары і святары спрабуюць хоць неяк паўплываць на бязладнае харчаванне, але гэта ў іх атрымліваецца кепска, бо гіперкрамы зрабіліся больш уплывовымі ўстановамі за храмы і бальніцы, што зусім і не цешыць.

**Юрась і крэсла**

У букіністычнай краме, што на праспекце Незалежнасці, з год назад для чытачоў паставілі крэсла. Цяперака той, хто прытаміўся, можа пагартаць кнігу седзячы. Але гэта толькі гіпатэтычна ты можаш прысесці; бо тое крэсла, зазвычай, займае чорнабароды вар’ят. Так кнігарня займела свайго заўсёднага чытача. Цяперака мне нават з цяжкасцю ўяўляецца тая крама без сагнутага над тэкстам чорнагаловага шаленца. А тут раптам замест цёмнай і каротка пастрыжанай галавы я пабачыў галаву безнадзейна-белую і сівабародую. Юрася я пазнаў не адразу, а калі і прызнаў, дык не стаў перарываць ягонае захапленне старымі альбомамі па мастацтве. Разам з Юрасём я некалі займаўся ў мастацкай вучэльні. Зараз ён выглядае такім нямоглым і старым, што нават вар’ят саступіў яму сваё крэсла. Мне зрабілася так шкада Юрася і сябе, што я хутка сышоў з прапыленай букіністычнай крамы на свежае паветра.

**Напалеон і Латыголь**

Школьны настаўнік Карпейчык праехаў на ровары па старой беларускай дарозе ад Беразіно да Маладзечна. Ён выбраў гэткі маршрут, бо ім у свой час з Масквы ў Парыж вяртаўся Напалеон. У мястэчку Латыголь ваяр спыніўся. Напалеонаўскі маршал Мюрат у мемуарах згадвае Латыголь, бо тамака сцягі найвялікшай арміі здымаліся з дрэўкаў, а дрэўкі закопваліся ў балоцістую беларускую зямлю. З якім непрыхаваным захапленнем настаўнік распавядаў пра авангард і ар’ергард напалеонаўскага войска! Я ажно заслухаўся, бо і сам быў у той Латыголі, вакол якой і дагэтуль ляжаць пракаветныя лясы, поўныя гадзюкаў. Схамянуўшыся, я падумаў, што мяне ўсё ж мала цікавяць уланы і драгуны, якія скарылі Маскву. Мне значна прыемней згадаць Латыголь з іншай нагоды, бо менавіта там я злюбіўся са сваёй першай жанчынаю, якая, між іншым, насіла французскае імя — Жанна.

## Алесь і люстэрка

Ідучы ў прывакзальнай пасажыраплыні, я падумаў, што навокал шмат людзей, якім не варта глядзецца ў люстэрка. Ад такога відовішча можна моцна заперажываць. Зірнеш раніцай на ўласнае адлюстраванне, а потым цэлы дзень будзеш маркоціцца. Лепей не глядзець. Несумненна, прызвычаіцца можна да рознай выродлівасці, але змірыцца з уласным страхалюдствам найцяжэй. Таму шмат хто і пазбягае сустрэчы з люстэркам. Мой знаёмы Алесь у люстэркі амаль не глядзіцца. Ён нават галіцца навучыўся навобмацак. Голіць ён не толькі падбароддзе, але і ўсю галаву цалкам, бо валасоў на галаве засталося зусім мала. За апошні год Алесь згубіў два пярэднія зубы, але ў зубапратэзны кабінет яго не загнаць. Так і сядзіць у бары лысы і бяззубы, а калі які чалавек пачынае побач нешта фатаграфаваць, Алесь уцягвае голаў глыбока ў плечы і, прыкрываючы твар каўняром курткі, хутка сыходзіць у праспектную пасажыраплынь.

## Дзёма і пятля

Ён зарабіў грошы. Ён кінуў жонку. Ён пабудаваў дом. Ён сеў на крэсла ў сваім вялікім пустым доме, і слодыч жыцця перапоўніла яго так, што Дзёму захацелася зашморгнуць пятлю на ўласнай шыі. Ён патэлефанаваў знаёмаму аптымісту і сказаў: «Мне так добра, так добра, што хочацца павесіцца!» Аптыміст не зразумеў Дзёму і пачаў казаць банальнасці. Ад тых прэсных ісцін у Дзёмы прапала пачуццё паўнаты жыцця, і ён перадумаў засільвацца.

## Бусалара і каньяк

Дзень нараджэння заўсёды прыносіць сюрпрызы. Можа ў іншы дзень ты б на гэты факт і ўвагі не звярнуў, але ў святочныя дні нават звычайныя рэчы набываюць значнасць. Таму я стараюся пазбягаць святочных метамарфозаў. Мяне радуе будзённасць, а святы прыгнятаюць. Толькі ад святаў і ўрачыстасцяў нідзе не падзецца. Куды можна падзецца з дня нараджэння жонкі, з якой пражыў дваццаць пяць гадоў? Сядзіш за сталом і ясі пасту з марскімі грабеньчыкамі, прыгатаваную венецыянцам Даніэле Бусалара. Паста смачная, але ніхто не збіраецца з'ядаць дзве порцыі. І Бусалара ў дадатак да свайго кулінарнага шэдэўра пачынае расказваць класічны венецыянскі анекдот: «У бар заходзіць зусім п'яны наведнік і пачынае патрабаваць літр віна. Барман дае толькі паўлітра. Мужчына выпівае паўлітра і просіць яшчэ столькі ж. Барман пагаджаецца даць толькі шклянку. Пасля выпітай шклянкі п'яніца ўгаворвае бармана наліць яму чарачку «на пасашок». Барман налівае, і п'янтос задае сакраментальнае пытанне: «Скажы ты мне, чаму, п'ючы ўсё меней і меней, я п'янею ўсё болей і болей?» Усе смяюцца, усе радуюцца, радуюся і я, бо, распавядаючы показку, Бусалара разыграваў яе па

ролях. У ролі віна быў каньяк, які наліваўся ў келіх. Бутэлька каньяку пасля показкі пра венецыянскага цікаўнага п'яніцу была пустою, і гэта мяне несказана ўзрадавала.

**Цяжарныя і прыгажосць**

Кажуць, што цяжарная жанчына — прыгожая. Няпраўда. На вуліцах Барселоны з'явілася шмат старых цяжарных жанчын. Сярод іх трапляюцца ну зусім не прыгожыя. Адно можа суцешыць… Старыя цяжарныя мужчыны выглядалі б яшчэ горш.

**Сяргей і шараватнасць**

Радыёжурналіст Сяргей забівае цвікі ў вату. Сам так і кажа: «Працую, як у вату цвікі забіваю». Ён спадзяецца, што цвікі ў яго сапраўдныя, жалезныя. Ды дзе там… За столькі гадоў ні плямінкі ржы не з'явілася на тых цвіках, бо яны таксама ватныя. У Сяргея ўсё, што ні возьмеш, шараватнае і сярэдняватнае. Талент сярэдні, машына сярэдняя і запыленая, вершы нішто сабе так, жонка — шэрая мышка, заробкі невялікія, густ звычайны. Сяргей любіць паразважаць пра значную ролю сярэдняга класа ў грамадскім жыцці. Чаму такому Сяргею карціць разважаць пра значную ролю? Ну хваліў бы сабе ролю сярэднюю, дык жа не, трэба пра галоўныя ролі муркатаць-буркатаць у радыёэфіры. Зрэшты, ніхто тое буркатанне-муркатанне не слухае, бо дзе ты што пачуеш праз тоўсты ватны пласт.

**Іспанка і рукі**

У паўпустым вагоне метро насупраць мяне села маладзенькая іспанка. Акуратная стрыжка, вузенькія акуляры на правільным носе, чырвоная майка не можа схаваць вострыя смочкі… Сэксуальнасць дзяўчыны псуюць адно рукі. Іспанкам трэба галіць не толькі ногі, але і рукі.

**Барыс і рыба**

Барыс рана ўстае. Ён любіць прачынацца а пятай. Зазвычай ён робіць прабежку ў парку, але гэтым разам ён узяў вуду, прыйшоў на рэчку і стаў сярод рыбакоў. У дарагім спартовым строі «бос», з вудаю «шэкспір» Барыс выглядаў недарэчна ў шэрагу бамжаватых рыбалюбаў. Недарэчна ён выглядаў толькі да таго моманту, як у яго пачало кляваць. А кляваць у яго пачало адразу ж, як ён закінуў свайго «шэкспіра». Праўда, клявала ў яго зусім нядоўга, бо Барыс спрытна падсёк і выцягнуў вялікую рыбіну. Напэўна, зайздрослівыя рыбакі павіншавалі б Барыса з поспехам, каб ён не дастаў з кішэні нож, не абрэзаў жылку, і не выкінуў рыбіну разам з кручком у ваду. Але Барыс зрабіў менавіта так, адпусціў рыбу з пірсінгам.

**Сенэка і вогненная стыхія**

Луцый Анэй Сенэка вучыў-вучыў Нерона, як абыходзіцца з запалкамі, ды так і не вывучыў.

## Леанід і залёт

Седзячы ў студыі пад кандыцыянерам, я пачуў званочкі. Харугвы плылі пад вокнамі. Я вырашыў прайсціся з каталікамі. Урачыстасць і спакой — вось дзве асноўныя рысы каталіцкага шэсця па нашых сталічных вуліцах. Сонца пякло страшна. Я схаваўся пад парасонам кавярні. Тут і пачаўся скандал… Чырванатвары наведнік кавярні крычаў на ўсю вуліцу: «Паглядзіце на быдла! Куды яны ідуць? За кім яны ідуць? У папа павінна быць барада! А ў гэтых барады няма. Якія яны папы? Масоны хрэнавы, куды вы ідзяце?..» Як жа мне закарцела звездануць гэтаму дурню паміж вачэй?! Стрымаўся. Паўз мяне важна прайшоў гісторык Алесь Белы, за ім ішоў літаратар Юльян Гайдук. «Юльян, ты чаго бяз шапкі? Сонца жудаснае…» — «Не падумаў… Пойдзеце?» — «Не, я тут пастаю, павартую спакой…» Да крыклівага п'янтоса падышла афіцыянтка з талеркай смажанай бульбы. «Так, я за бульбу плаціць не буду!!! У меню напісана, што бульба смажыцца трыццаць-сорак хвілінаў, а вы прынеслі яе праз сорак дзве хвіліны! Не буду плаціць!» Удзельнікі шэсця пайшлі далей. Сярод замыкаючых калону я пабачыў усмешку паэта Такіндага, але падыходзіць не стаў. Я сеў пад парасон і пачаў душыць у сабе жаданне пабіць п'яную скаціну. Афіцыянтка выклікала міліцыянта. Прыйшоў Леанід у маленькай берэтцы. Ён перасмыкнуў плячыма, склаў рукі за спінаю і агучыў афіцыйнае папярэджанне. П'яны пачаў быў размахваць рукамі, ды зачапіў шклянку з півам, тая паляцела на ходнік, захрабусцела і рассыпалася. «Гэта залёт!» — канстатаваў Леанід. Пра залёт ён сказаў вясёла, але настрой мой змяніўся кардынальна. Мне стала шкада п'яніцу. Яшчэ імгненне таму я хацеў разбіць яму твар, а цяпер я сядзеў пад парасонам і шкадаваў хама, якога павялі ў міліцыянскую машыну. Я працягнуў руку да прынесенага афіцыянткаю кубачка з каваю і ўбачыў, што пальцы мае дрыжаць.

## Паліклет і натоўп

Існуе легенда пра скульптара Паліклета, які зрабіў дзве статуі, што паказвалі адно і тое ж; адну — па густах натоўпу, другую — па законах мастацтва. Першую ён рабіў так: паводле жадання кожнага, хто заходзіў у майстэрню, Паліклет паслухмяна ўносіў у твор змены і папраўкі. Нарэшце ён выставіў абедзве скульптуры на ўсеагульны прагляд. Адна статуя выклікала захапленне, другую людзі зганілі. Тады Паліклет сказаў: «Статую, якую вы ганіце, зрабілі вы, а тую, якой захапляецеся, — я». Гэтую легенду варта памятаць, калі слухаеш стракатыя меркаванні натоўпу, як пра скульптуры ды архітэктурныя пабудовы, так і пра буйныя палітычныя фігуры.

## Сыс і бутэлечка

Напрыканцы жыцця ўся веліч паэтычнага голасу Анатоля Сыса звялася да слова «бутэлечка». Бог мой, з якой пяшчотаю ён прамаўляў «бутэлечка». Часам і цяпер я ўсё яшчэ чую ягонае: «Глёбус, пайшлі, у мяне бутэлечка ёсць...» Хрысціцца не хрышчуся, але казаць кажу: «Не хачу!»

## Слюнчанка і арфа

У часы маёй маладосці сярод студэнтаў было модна задаваць пытанні, накшталт: «Якую карціну варта ўзяць з сабою на касмічны карабель, каб паказаць яе іншапланецянам?» Зазвычай бралі «Зіму» Брэйгеля (мужыцкага), «Чорны квадрат» Малевіча і «Джаконду» Леанарда. Карацей, карціны браліся з падручнікаў. Мяне гэта засмучала, як маркоціла і тое, што людзі называлі карціны, якіх ніколі не бачылі ў арыгінале. Днямі я пачуў падобнае пытанне пра кніжку: «Якую кнігу ты ўзяў бы з сабою на бязлюдную выспу?» І мне згадалася маладосць, прыгадаўся вялікі аматар кніжак — архітэктар Слюнчанка, якому мастакі-рэстаўратары на дзень нараджэння падаравалі «Самавучыцель ігры на арфе». Падручнік той выйшаў у мінскім выдавецтве накладам 3000 асобнікаў, на той час як у Беларусі мелася толькі чатыры арфы. Кніга шматкроць уцэньвалася і ў выніку прадавалася не за 3 рублі, а за 8 капеек. Зразумела, што падарунак быў жартоўны, але было ў ім нешта большае за просты камізм. І таму, адказваючы на пытанне сябра пра кнігу на выспе, я назваў «Самавучыцель ігры на арфе».

## Шульпякоў і чытанні

У бібліятэцы пачытаў я вершы разам з расійскім паэтам Глебам Шульпяковым. Я мусіў лепей чытаць свае тэксты, але прачытаў кепска, бо даходзіў да сярэдзіны верша і пачынаў хваляваца: «Які слабы радок! Трэба тэрмінова правіць, неадкладна перапісваць...» Даводзілася чытаць далей і далей, а мяне пачынала проста трэсці ад саманезадаволенасці. Відавочна, не хапае ў мяне самаўпэненасці для публічных чытанняў. І на радыё я гэтаксама торгаюся, і голас здрадліва ўздрыгвае, і я захлынаюся ўласнымі словамі. Шуплякоў чытаў крыху раўней, прынамсі, так мне здавалася, бо, калі шчыра, я не слухаў яго зусім, бо думаў, як бы спакайней агучыць наступны тэкст. Каб не праваліць вечарыну, я прынёс і паказаў кліпы з малюнкамі. Шульпякову малюнкі спадабаліся. Напэўна, каб Глеб паказаў мне свае малюнкі, яны б мне спадабаліся таксама. А вось Зміцеру Вішнёву не спадабалася тое, што Шульпякоў зусім не ведае беларускай літаратуры і культуры. Пра сваю незадаволенасць Зміцер вырашыў абвесціць прысутным. Пакрычаў і пакінуў залу. Без такіх выхадак не абыходзіцца ні адна вечарына. Людзі прывыклі. Публіка

сабралася паэтычная, што парадавала, і слухалі ўсе спакойна і ўважліва, што дзівіла і дзівіць. Пасля вечарыны да мяне падышоў Андрэй Хадановіч і сказаў, што злавіў кайф ад майго верша «Адліга ў Вільні». Глеб падарыў мне сваю кнігу «Жолуд», якую я спакойна пачытаю пад настольнай лямпаю. З «Жолудам» у кішэні я вышаў на халодную вуліцу, і стала мне добра.

### Пятроў і тытунёвы дым

Хто з нас — тых, хто любіць тытунёвы дым — не марыў кінуць паліць? Колькі пра тое сказана і пераказана?.. А мне ўвесь час згадваюцца словы вітражыста Пятрова: «Я кіну курыць у тое ж імгненне, калі прыдумаю сабе іншы занятак на аўтобусным прыпынку. Ну што я павінен рабіць на прыпынку, калі не паліць цыгарэту?»

### Барыс і вушы

У сталоўцы «Лідо» Барыс еў свіныя вушы. «Я так люблю свіныя вушы, што раз на тыдзень абавязкова сюды прыходжу, каб іх з’есці. Хутка паеду на стажыроўку ў Германію. Цікава, там можна будзе знайсці такія ж смачныя вушы?» Сам я ў Нямеччыне ніколі не быў, і пра наяўнасць свіных вушэй у тамтэйшых сталоўках нічога сказаць не змог. «Я спадабаўся немцам, і яны мяне запрасілі на тры месяцы. Яны прыехалі сюды, паглядзелі на тутэйшых мастакоў і выбралі мяне. Я ім спадабаўся і цяпер падвучваю нямецкую мову. Дык пра свіныя вушы ў Германіі ты нічога сказаць не можаш?» Мне чамусьці зрабілася шкада Барыса з ягоным недаедзеным свіным вухам на сальнай талерцы.

### Электрык і настрой

Ідзеш, спяшаешся, бяжыш, сам сябе падганяеш, імчыш, ажно ног не чуеш. Цябе чакае праца. Ты напланаваў, ты панамалёўваў перспектыў, ты наскладаў планаў, рабіць не перарабіць. Кожная хвіліна на ўліку, кожнае імгненне даражэйшае за вечнасць. Пралятаеш цёмны калідор, завальваешся ў майстэрню, а тамака няма святла. Пстрыкай не пстрыкай тымі выключальнікамі, а нічога не выкрасаецца. Цёмна, чорна, змрок. Ты стаіш на дне чарнаты і ўслухоўваешся, як абсыпаецца шапаткім пясочкам твой выбудаваны ў марах замак. Канец. Ты чакаеш на вуліцы электрыка. Табе абрыдла чаканне, і ты сыходзіш бадзяцца па горадзе. Ты вяртаешся. П’яны электрык вылазіць з сутарэнняў і кажа, што ўсё склалася выдатна і святло гарыць. Лямпачкі сапраўды гараць, толькі СВЯТЛА няма. Ну няма СВЯТЛА, а нябачны пясок шапаціць і сыплецца, сыплецца, сыплецца ў бездань.

## Вісарыён і антырэха

У маёй памяці яшчэ не сцерліся часы, калі ў кабінетах рэдактараў ды школьных класах рускай літаратуры цараваў партрэт апантанага Вісарыёна Бялінскага. Нешта маньякальнае свіцілася ў тым партрэце, нешта ад Раскольнікава было ў ім. Што? Чаму штатныя аматары літаратуры так настойліва ўпрыгожвалі свае гнёзды гэткім бяскроўным тварам? Я спрабаваў вычытаць сакрэт у тэкстах Бялінскага. Марна, бо ў параўнанні з Гогалем, якога Вісарыён спрабаваў крытыкаваць і вучыць, ён простая нікчэмнасць.

І раптам я пачуў разгадку, я пачуў у гучанні імені Вісарыён антырэха ад імя па бацьку Вісарыёнавіч. Партрэт апантанага Вісарыёна проста замяняў партрэт Язэпа Вісарыёнавіча, партрэт Бялінскага іграў у пэўных установах ролю партрэта Сталіна.

## Чарлі і пераезд

Дачка перабралася ў новую кватэру і забрала ката — свайго прынца Чарлі. Я злавіў сябе на думцы, што моцна сумую без Чарліка. Дачка тэлефануе, заходзіць на працу і дамоў. Яе прысутнасць у маім жыцці амаль не зменшылася, а рэальны Чарлі прапаў зусім. На месца рэальнага ката прыйшоў кот уяўны. Здаецца, вось зайду зараз у пустую кватэру, а кот мяне сустрэне. Ведаю: не выйдзе і не пазяхне... Але маё ўяўленне з нейкай асаблівай упартасцю працягвае маляваць і маляваць Чарліка. І гэты ўяўны кот значна лепшы за рэальнага: ён і дабрэйшы, ён і ласкавейшы. Адзінае, што ён не любіць, дык гэта адной маёй думкі: «А ці не завесці мне новага ката?»

## Вова і шыльда

Жонка замовіла шыльду на наш новы дом «Вуліца БЭЗАВАЯ, дом № 7». Зараз жыву я на Чырвонай, а буду жыць яшчэ і на Бэзавай. Мне падабаецца, як гучыць адрас, і ўнук Вова лёгка запомніць: «Вёска Сёмкава, Бэзавая, сем».

## Ракіцкі і этажэрка

Рэстаўратар Ракіцкі, пабачыўшы мой фотаальбом з дзіцячымі здымкамі, звярнуў увагу на адну картачку, дзе я двухгадовы сяджу каля этажэркі з кніжкамі. Рэстаўратар пачаў разважаць на тэму майго мастакоўскага жыцця: «Табе, каб стаць мастаком, трэба пазбавіцца ад вобраза, які склаўся на гэтай фотакартачцы. Трэба адкінуць прэч пісьменніцкую пыху, што была ў цябе з дзяцінства. Толькі выйшаўшы з вобраза пісьменніка, ты зможаш стаць мастаком...» Я паслухаў Ракіцкага і паспрабаваў пазбыцца таго вобраза, што быў зафіксаваны фатографам. Чым болей я спрабаваў аддаліцца ад этажэркі з кнігамі, тым больш яна вабіла мяне. Пэўна, я так і не стаў тым мастаком, якога бачыў у ва мне рэстаўратар

Ракіцкі, але я не наракаю на лёс, які назаўсёды звязаў мяне з кніжнымі паліцамі.

### Юнгер і радаслоўная

У 1956 годзе Эрнст Юнгер заўважыў: «…менш за ўсё падазрэнняў выклікае чалавек без якасцяў. Нельга дапусціць, каб цябе аднеслі да арыстакратаў, да памешчыкаў, капіталістаў, кулакоў, цыганоў, яўрэяў ці нават проста да гараджанаў. Таму сёння правадыры народных дзяржаў імкнуцца мець як мага больш нязначную радаслоўную». Разважаючы ўслед за Юнгерам, варта сказаць, што толькі чалавек з малазначнай радаслоўнай можа выглядаць у вачах народа як асоба ні ў чым не вінаватая і са спакойным сумленнем.

### Вольга і даведка

Атрымаць даведку пра сваю хваробу значна лягчэй, чым засведчыць сваё здароўе. Чамусьці дактары з большай радасцю гавораць пра паталогіі і з меншай пра нармальнасць і здароўе. Калі ты адчуваеш сябе добра, дык чаго прыйшоў у паліклініку? Вольга вырашыла атрымаць вадзіцельскія правы, таму і наведалася да доктара ды папрасіла сваю медыцынскую карту. А карта не знайшлася. Доктар уважліва агледзеў наведніцу і змрочна сказаў: «Вашых дакументаў у нас няма, бо вы памерлі». — «Якое глупства! Я сяджу перад вашымі вачыма жывая і здаровая. Заўважце, я не толькі не мёртвая, я — цалкам здаровы і адэкватны чалавек. А вы што мне гаворыце? Вы набраліся нахабства і сказалі, што я памерла…» — «Не трэба хваляваца. Нічога страшнага не здарылася…» — «Вы яшчэ здзекуецеся з жанчыны? Забаўку знайшлі?» — «Я не здзекуюся, я дзейнічаю па інструкцыі. Колькі гадоў вы не звярталіся ў паліклініку?» — «Не памятаю…» — «Вось так. Вы больш за пяць гадоў не звярталіся ў паліклініку, а таму дакументаў вашых больш няма. Калі чалавек пяць гадоў не звяртаецца ў паліклініку, значыць што? Значыць, ён памёр!» — «Выдатна, я памерла, а цяпер нарадзілася. Што мне трэба зрабіць, каб атрымаць даведку пра сваё добрае здароўе?» — «Усе прышчэпкі ад розных воспаў мы вам рабіць не станем, але супрацьслупняковы ўкол давядзецца зрабіць!» І зрабілі! А толькі потым выдалі Вользе даведку, што яна жывая і здаровая.

### Гандляр і жонка

Сытатвары гандляр брыльянтамі паскардзіўся: маўляў, працуе ён два гады ў амстэрдамскай краме, а сказаць уласнай жонцы пра сваю работу нічога не можа, бо скажы, і захоча яна каштоўны камень. А так не ведае і не хоча. На расповед лысаватага гандляра я і ўвагі не звярнуў, бо заняты быў падлікамі. Якая мне справа да жаданняў чужой жонкі, калі я выбіраю брыльянт у падарунак для любай дачкі? У мяне свае праблемы, а ў яго свае перажыванні, ды бачымся мы

першы і апошні раз. Выйшаў я з брыльянтавай крамы з пярсцёнкам у кішэні і забыўся пра мяккарукага гандляра. Успомніў я пра яго выпадкова, у віленскай рэстарацыі глянуў на руку дачкі, брыльянт востра бліснуў мне ў вока, і згадаўся гандляр з аповедам пра жонку. Тут і падумалася: гандляр ілгаў мне пра тое, што ён не можа набыць камень. Зразумела, расповеды побытавых казак — ягоная праца, але мне ад той даўняй прафесійнай хлусні чамусьці стала кепскавата.

**Света і паштоўкі**

Мае аднакласніцы збіралі паштоўкі з тварамі савецкіх кінаартыстаў. Яны б з радасцю куплялі паштоўкі з тварамі замежных артыстаў, але ў савецкіх шапіках «Саюздруку» прадаваліся адно эсэсэраўскія кіназоркі. Толькі ў адной Светы былі паштоўкі з усмешкамі замежных кіназорак. Тыя паштоўкі ёй дасылалі сваякі з Польшчы. Усе дзяўчаты зайздросцілі Свеце, ад зайздрасці яны казалі, што сама яна — брыдкатварая.

**Арыстоцель і гняўлівасць**

Каб супакоіць ды абразуміць раз'юшанага цара, Арыстоцель напісаў Македонскаму так: «Раздражнёнасць і гняўлівасць павінна накіроўвацца не супроць ніжэйшых, а супроць вышэйшых. Роўных табе няма». Не буду казаць пра тых, хто крыўдзіць слабейшых ды нікчэмнейшых за сябе, іх не ўратуем. Скажу пра тых, хто скіроўвае неўтаймоўную гняўлівасць на вышэйшых за сябе. Выглядаюць яны гнюсна, не раўнучы — падлалюбівыя гіены побач з ільвом. На мой розум: у спрэчках і змаганнях павінна быць адпаведнасць, мусіць быць роўны шанец, як на перамогу, так і на паразу. Выказванне Арыстоцеля ў сутнасці сваёй нагадвае нам пра роўнасць, а не пра ніжэйшасць ды вышэйшасць.

**Літаратары А. і Б.**

Зрабіцца літаратарам дастаткова проста, бо трэба мець усяго дзве рэчы: уласную гісторыю і ўменне пісаць. Што можа быць прасцей? Толькі шмат у каго нічога не атрымліваецца. Возьмем спадара А., у яго ёсць гісторыя з рэвалюцыяй, турмою і ўцёкамі ў эміграцыю, але выкласці сваю гісторыю ён не можа, піша-піша і ніяк не напіша. А. — нелітаратар. Глянем на таварыша Б., у якога выдатна атрымліваюцца складаназалежныя сказы, а гісторыі пшык, дый светагляд ягоны вузенькі, як карэньчык графаманскага зборнічка, выдадзенага саматугам. Б. — непісьменнік. А здавалася ж, усё так проста і ясна.

**Харошыя мясціны**

Найлепшае, з напісанага і намаляванага мною, прыйшло да мяне перад сном. Ёсць некалькі імгненняў, калі ты знаходзішся паміж рэальнасцю і сном; для мяне яны самыя каштоўныя і самыя творчыя. Тваё цела ўжо амаль адсутнічае, а розум яшчэ не прыняў знікненне

намацальнай рэчаіснасці, ён яшчэ тут, ён яшчэ малюе апошнюю харошую мясціну, апісвае астатні найкаштоўнейшы фрагмент з усяго перажытага. Далей — небыццё сноў. Яшчэ далей — раніца з цялеснымі практыкаваннямі, дзень з працаю ды вечар з адпачынкам. А перад сном, перад самым сном трэба знайсці апошнія сілы ды на маленькім кавалку паперы напісаць слова ці некалькі словаў пра найлюбімейшае ў тваім свеце. Трэба накрэмзаць кароткі ліст самому сабе, каб раніцай ведаць пра сваё найлепшае, каб удзень помніць і каб вечарам не забыць.

**Дзверы і вера**

Зірні ў мінулае і ўбачыш, як з каталіцкіх кляштараў выходзяць самыя апантаныя атэісты. У сучаснасці наадварот: былыя атэісты вышнуроўваюцца ў пакорлівую чаргу да царкоўнай брамы. Такое ўражанне, што для большасці людзей самай важнай дэталлю ў саборы з'яўляюцца дзверы. Выйшаў, і ты — атэіст; зайшоў, і ты — вернік…

**Рэкламшчыкі і рэчы**

Вока бачыць абрыс рэчы і яе вобраз, а не саму рэч; так і наш розум больш хвалюе меркаванне пра рэч, а не сама рэч. Лепш за ўсё гэта выкарыстоўваюць рэкламшчыкі, якія запаўняюць розумы абрысамі і меркаваннямі пра малапатрэбныя і нават зусім непатрэбныя рэчы… «Купі лядоўню, і атрымаеш прас бясплатна!» Ты папаўся… Ты думаеш, што добра было б наадварот: набыць прас і атрымаць бясплатную лядоўню. Ты думаеш пра прас і лядоўню, пра лёд і полымя, пра полымя і лёд, пра лядоўню і прас, а самі рэчы табе зусім непатрэбныя, бо яны ж у цябе даўно ёсць. Таму я, гледзячы на рэкламу, навучыўся думаць і разважаць пра якасць самой рэкламы і таленты рэкламшчыкаў, а не пра рэчы, якія яны спрабуюць мне прарэкламаваць.

**Рывароль і кот**

Французскія маралісты, пішучы пра чалавека, часам натавалі і назіранні за жывёламі. У іх, як і ў людзях, яны шукалі розныя характары… «Жывёл можна падзяліць на разумных і адораных: сабака і слон разумныя, салавей і шаўкавічны чарвяк таленавітыя,» — напісаў мараліст Рывароль. Прачытаўшы такое, я паглядзеў на свайго старога ката. Сярод разумных кот таленавіты, а сярод адораных ён разумны.

**Карціны і перспектывы**

Куды падзець кепскія карціны? Сяджу ў майстэрні і сам сябе мучаю пытаннем. З добрымі карцінамі ўсё проста і ясна, іх можна прадаць, занесці на выставу, падарыць, на сцяну павесіць… Яны радуюць вока і цешаць самалюбства. Яны ж у нас добрыя. З дрэннымі карцінамі ўсё складаней і цяжэй. Іх нельга перапісаць, бо

палатно перагружана фарбамі, іх нельга выкінуць ці спаліць, бо знічтажэнне нават сваіх палотнаў — вандалізм. Кепскія карціны можна паставіць на паліцу тварам да сцяны, але ў свядомасці яны паварочваюцца выяваю да маіх вачэй. Яны нібыта здзекваюцца з мяне, насміхаюцца над маёю няздатнасцю рабіць добра. А самае дрэннае, гэтых кепскіх карцін усё больш і больш. Перспектывы вымалёўваюцца зусім кепскія: добрыя карціны паціху-патроху пакінуць маю студыю, і я застануся сам-насам з карцінамі кепскімі, і буду так сядзець і паўтараць пытанне… Што рабіць з кепскімі карцінамі?

## Погляды і натуральнасць

Мужчына глядзіць на жанчыну, правільны погляд. Жанчына пазірае на мужчыну, нармальная з'ява. Мужчына ўтаропіўся на мужчыну, жанчына зіркае на жанчыну… Такое таксама прымаецца, бо прырода праявілася так, а не інакш, і гэта з'ява прыроды, а не хімера, народжаная ўзбудараджаным розумам. Мы мусім прымаць прыроду такой, якая яна ёсць. Калі мы ўжо зразумелі, што вялікі скульптар адно частка прыроды, і не ён стварыў яе, а яна спарадзіла яго, тады наракаць і спадзявацца на скульптара, які зляпіў Адама і Еву, ужо не выпадае. Але хворы розум бунтуецца: жанчына пачынае глядзець на мужчыну, які пaглядае на іншую жанчыну, і замест таго, каб знайсці сабе другі аб'ект, яна лямантуе, яна спрабуе давесці, што Адам няправільна глядзіць на Еву. Тым часам Адам бярэ човен, садзіць у яго сваю Еву і выпраўляецца ў плаванне, а з берага, услед човену, ляцяць лаянка і праклёны, ляціць лаянка дурной, нікому не патрэбнай бабы, якая ніяк не можа навучыцца глядзець на свет натуральна.

## Параўнанне і лішні круг

Адно з самых недарэчных параўнанняў — гэта калі побач з мастаком ставіцца спартовец. Наогул, усе параўнанні і метафары кульгавыя, бо няма ў прыродзе роўнасці, але нічога лепшага за параўнанне літаратара з бегуном я не магу знайсці, прынамсі, зараз. Таму, каб распавесці пра літаратурную працу, згадаю спартоўца, які прабег на алімпійскім стадыёне лішні круг. Стаяла жудасная гарачыня, і алімпійцы мусілі прабегчы ў ёй дзесяць тысяч метраў. Яны беглі. Гарачыня была такая, што адзін бягун памёр ад абязводжвання проста на дарожцы. Упаў і памёр. Астатнія, каб не сканаць, сыходзілі з дыстанцыі. Сышлі ўсе, акром аднаго, які бег і бег. Суддзі перасталі судзіць, гледачы пакінулі стадыён, а спартовец бег, бег і бег. Ён прабег лішні круг. Пазней у яго спыталіся, што ён думаў, калі бег. «Трэба бегаць да канца! — сказаў спартовец і яшчэ раз паўтарыў: — Трэба бегаць да канца, да канца!» Пішучы сваю кнігу, я

пішу яе да канца. Выдаю я кнігу, не дапісаўшы. Рэцэнзенты яе піяраць, пакупнікі яе набываюць, чытачы яе прачытваюць. А я тым часам дапісваю кнігу і перавыдаю. Журналісты яе не заўважаюць, пакупнікі яе амаль не набываюць, чытачоў у дапісанай кнігі мала. Але я ўсё адно дапісваю кнігу да канца, я пішу больш, чым трэба пакупнікам, рэцэнзентам і чытачам, я прабягаю лішні круг у сваім маленкім прыватным літаратурным пекле, бо інакш не магу, я павінен выпісаццца да рэшты, да пустаты.

**Дзяржава і жонкі**

Цяжка пагадзіцца на тое, што твая ўласная жонка непрыгожая; а вось знешнія заганы суседавай жонкі не выклікаюць аніякіх сумневаў. Падобнае атрымліваецца і з дзяржавамі: свая дзяржава заўсёды прыгажэйшая за суседнія. Ніякія аб’ектыўныя доказы ні ў першым, ні ў другім выпадку не спрацоўваюць.

**Бродскі і рай**

Язэп Бродскі ў нататніку за 1970 год мае такую максіму: «Страшны суд — страшным судом, але наогул чалавека, які пражыў жыццё ў Расіі, варта было б без размоў змяшчаць у рай». Уяўляецца, колькі ахоўнікаў канцэнтрацыйных лагераў і featuresнарэжымных турмаў патрапяць у такі рай без суда ды следства. Малюючы рай, Бродскі намаляваў пекла. Пэўна, той, хто пражыў жыццё ў Расіі, інакшы, бестурэмны і бессудовы, рай і ўявіць сабе не можа.

**Пустэльнік і сонца**

Адзін хрысціянскі пустэльнік кожны суботні вечар станавіўся спінаю да сонца, каб, узняўшы рукі да нябёсаў, маліцца да той пары, пакуль сонца не асвеціць ягоны твар. Прачытаўшы пра такую самаахвярнасць старажытнага пустэльніка, я падумаў, што галоўнымі героямі ў гэтай гісторыі з’яўляюцца ўсё ж не пустэльнік з нябёсамі, а зямля і сонца.

**Крымінальнікі і замаральнасць**

Дробны крымінальнік Максім выказаўся так: «Міліцыянты з бандытамі жывуць разам у замаральным свеце, бо калі ў звычайнага чалавека сям’я з’яўляецца паказчыкам моцы, дык у гэтых людзей сям’я — самае слабое месца…» Больш аўтарытэтны крымінальнік Уладзіслаў паспрабаваў падправіць выказванне калегі і параўнаў бандытаў з вайскоўцамі. На мой розум, абодва параўнанні кепскія, бо сям’я ва ўсіх варыянтах адымае ў чалавека значна меней, чым яму ж дадае.

**Салдаты і нагавіцы**

На атрыманыя за прададзеную карціну грошы набыў спартовыя нагавіцы. Думаў: з самай раніцы пабягу па зялёным парку ў абнове, і ўсе знаёмыя парадуюцца за маю новую рэч. Мо каму і непрыемна

глядзець на чалавека ў абноўках, а ў мяне ад падобнага відовішча ўздымаецца настрой. Прачынаюся, за вокнамі такі дождж, што добры гаспадар і сабаку на вуліцу не павядзе выгульваць. Але я надзеў абнову і ў парк пабег. Нікога са знаёмых я там не пабачыў. Парк быў надзіва пусты. Тут з-пад моста выбегла чалавек трыццаць салдатаў. Так я і прабегаў пад моцным дажджом з маладымі салдатамі, якім усё роўна, якія на мне нагавіцы.

## Джун і святы

Адам Глобус Завітаў на дзень народзінаў да Лёшы. Той прапанаваў мне пачаставацца гарачым супам, прыгатаваным Джунам. «Смачны суп!» — пахваліў я пачастунак. «Заўваж, прыгатаваны ён проста з яйка і памідора...» — «Ён такі густы, мусіць, тут ёсць нешта акрамя памідора і яйка...» — «Курыны булён і крышку белага курынага мяса...» — «А я бачу яшчэ і перкі зялёнае цыбулі...» — «Цыбуля і нейкія кітайскія траўкі...» — «Траўкі і майстэрства кітайца Джуна, усё проста. Купляеш памідор і яйка, выклікаеш кітайскага кухара і запрашаеш гасцей на смачны суп!» — «Прыблізна так...» — «А дзе Джун?» — «У яго неадкладныя кітайскія справы...» — «Ты так гаворыш, што можна пачуць: усе кітайскія справы неадкладныя...» — «Так і ёсць...» — «Нешта халодна ў цябе, нават гарачы суп не дапамагае сагрэцца...» — «Сапраўды халодна. Нават мой карлікавы трус пачаў абрастаць зімовым футрам. Адключаецца ацяпленне, і ў труса наступае зіма, такі ўрбаністычны трус. А ноччу ён вылазіць з клеткі і садзіцца на вагі. Я выключаю святло, трус ціхенька выбіраецца з клеткі, «шчоўк» — сеў на вагі, і да самай раніцы на вагах сядзіць, а як развіднее, трус у клетку вяртаецца». — «Твой урбаністычны трус сочыць за сваёй вагою...» — «Напэўна...» — «Маёй знаёмай прысніўся сон, што яна стала на вагі, а стрэлка не скранулася з месца...» — «Кепскі сон!» — «Ведаю. Трэба будзе ў Джуна спытацца, што ў кітайцаў азначае такі сон пра адсутнасць уласнай вагі. Зрэшты, іх кітайская трактоўка сноў наўрад ці нешта нам праясніць...» Джуна я так і не дачакаўся, каб пахваліць ягонае кухарскае майстэрства. Ідучы дамоў, я думаў пра лета і пра пучок свежай травы, які трэба прынесці з вуліцы майму кату Чарліку, хай і ў ката будзе маленькае свята.

## Стральцоў і сена

Міхась Стральцоў прыдумаў вобраз чалавека шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, укладаўся той вобраз у словы «сена на асфальце». Здавалася, ніякай загадкі ў тым вобразе няма. Вясковыя хлопцы і дзяўчаты прыехалі з вёсак у гарады і жывуць на тым асфальце з сентыментальнымі ўспамінамі пра бацькоўскія вёскі. Толькі трэба ведаць Стральцова, каб расчытаць вобраз. Трэба ведаць пра ягонае

заўсёднае захапленне французскай літаратураю і жывапісам імпрэсіяністаў. «Стог сена» Клода Манэ згадваецца адразу. А вось назва рэчкі, што цячэ праз Парыж, схавана ў стральцоўскім вобразе значна глыбей. Але і Сена, і «Стог» у вобразе, створаным Міхасём Стральцовым, безумоўна, ёсць. Адкрыў я тое зусім выпадкова. Ішоў па вуліцы, з якой рабочыя здымалі асфальт і закладалі ходнікі пліткаю. Побач стракаталі сваімі апаратамі газонакасільшчыкі. Згадаўся Стральцоў, згадалася наша размова пра непатрэбнасць юбілейных банкетаў і штучнасць вялікіх помнікаў. Згадваючы Стральцова, я прайшоў з пляца Перамогі да маста праз Свіслач. Менавіта на мосце я і здагадаўся пра Сену. Падумалася: тут Свіслач зроблена такой шырокаю, не раўнуючы, яна Сена. Загадка Стральцова разгадалася. Вобраз «сена на асфальце» раскрыўся. Цяпер я зразумеў, як спрацоўвала спружына падтэкстаў, закладзеная ў вобразе. Горад у стральцоўскіх словах быў не толькі асфальтам, не толькі горадам, дзякуючы слову «сена» ён рабіўся вялікай сталіцаю, рабіўся сталіцаю ўсяго свету.

**Яблычніца і гарэлка**

Нельга мне хадзіць на кірмаш. Усім можна і трэба, а мне забаронена. Ведаю! Але ж усе туды ідуць, свята заўтра, усім нешта нейкае трэба да святочнага стала, і мяне цікаўнасць зацягнула ў гандлёвыя рады на Камароўскі кірмаш. Стаю, рукі ў кішэнях, і разглядаю прадавачку яблыкаў. Якіх толькі яблыкаў у яе няма!? Смачна-чырвоныя, салодка-жоўтыя, гладка-зялёныя… Выбірай, купляй, частуйся… Не! Яблыкі мяне не зацікавілі, а сама яблычніца зацікавіла моцна. Гладкатварая, галаплечая, васільковавокая, ружавагубая… Варта яе выбраць, і варта ёю пачаставацца. Ды без гарэлкі яе не спакусіш, без гарэлкі яе не возьмеш. Тутака мне і захацелася гарэлкі, ды так, што свет пацямнеў, счарнеў свет, і пяты мае зазудзелі. Ледзь не самлеў я, гледзячы на велікацелую яблычніцу. Сцяўся ўвесь, рукі з кішэняў дастаў і сышоў з Камароўкі, так нічога і не купіўшы. Ну, нельга мне туды хадзіць, нельга, і ўсё тут.

**Наста і сорам**

Закахаліся ў цябе, дык парадуйся. Не атрымлівалася радавацца, бо сорамна мне было за яе і за сябе чамусьці. Як толькі ўбачу Насту, так і чырванею. Яна мне вершы пісала, выдатныя вершы, цалкам прыстойныя, а мне ўсё адно было сорамна, асабліва за пазначанае прысвячэнне. Наста мне зусім не падабалася. Іншым яна падабалася, а мне дык не. Я ў ёй бачыў толькі адмоўнае: нямытая галава, акуляры на ўвесь твар, кароценькія ручкі, тоўстыя лыткі, шырокі крыж. Хто што ў ёй знаходзіў? Не пытаўся, бо саромеўся прызнавацца пра нашыя скасабочаныя ўзаемаадносіны. Пра какетлівасць Насты можна складаць кепскія песні. Яна пачынала гаварыць дзіцячым

галаском, памахваць ручкамі і прысядаць. Ад такога інфантыльнага какецтва каго заўгодна сорам возьме. Як Наста раскахалася, я не ведаю, але падыходзіць да мяне яна перастала, і вершы яна кінула. Вершаў шкада, але сябе шкада значна больш.

## Сітнік і красоўкі

Выдатны чалавек Валодзька Сітнік, залаты чалавек. Дапамагаў ён мне шмат разоў, ды я яму ўдзячнасцю сплочваў. Так мы і жылі і дапамогі свае не рахункавалі. Яму нешта нейкае спатрэбіцца — ён тэлефануе; у мяне надарыцца нявыкрутка — я да яго бягу па параду і падтрымку. Аднойчы мы выпадкова сустрэліся на праспекце, узрадаваліся, пайшлі ў бар, гарэлкі замовілі. Сядзім, гаворка ідзе. Адчуваю, штосьці ў Сітніку змянілася, нешта нейкае перакулілася-перавярнулася. Агледзеў я Валодзьку з ног да галавы. Новыя красоўкі на Сітніку з’явіліся. Белыя, чыстыя, толькі што куплёныя; паглядзеў я на тыя красоўкі ўважліва і зразумеў: больш мы не сябры. Можаш мне сказаць, што прычына зусім і не ў белых красоўках. Спрачацца не стану. Нашто? Мы даўно не сябруем і не бачымся, нават выпадкова не сустракаемся, і не тэлефануе ён мне. Я мог бы патэлефанаваць яму, але нешта нейкае стрымлівае. Я нават ведаю, што мяне трымае: мяне стрымлівае ўспамін пра тыя белыя красоўкі на Сітніку.

## Яна і карціна

«Ты куды?» — «У студыю!» — «Зноў да сваіх галадупых дзевак, да сваіх інтэлектуальных мышэй? Добра, я цябе адпускаю. Ідзі, глядзі і пішы шэдэўр! Калі ты не напішаш шэдэўр, больш я цябе не адпушчу! Ты мяне чуеш?» — «Безумоўна…» Пайшоў я ў студыю і пачаў новую карціну. Захапіўся так, што на наступны дзень не пайшоў на працу. Карціна ў мяне атрымалася. Так бывае, што здольнасці супадаюць з жаданнямі, а майстэрства хапае роўна на столькі, каб не сапсаваць палатно і своечасова спыніцца. Сам сабе я даўно не веру, сам сябе я навучыўся падманваць, таму запрасіў у студыю Сцяпана, каб ён сказаў колькі слоў пра палатно. «Больш не чапай! Добра? У мінулы раз ты сапсаваў палатно. У цябе атрымалася, а ты пачаў дапрацоўваць і знішчожыў усё найлепшае. Цяпер спыніся, замоў дарагую раму. Не металёвую акантовачку, а шырокую багетавую музейную раму трэба зрабіць…» Каб замацаваць поспех, пачаў новае палатно. Цяпер я ведаю, як трэба! Цяпер… Нічога ў мяне не выйшла. Быццам і не я маляваў добрую карціну, нібыта нехта іншы яе намаляваў. Ну чаму так? Цяперака давядзецца зрабіць дзесяць пасрэдных палотнаў. Нідзе не дзецца. Сябе я падмануць змагу, але гледача не падманеш. Адно ў гэтай гісторыі добра: калі яна спытае: «Ты куды?» — скажу: «У студыю! Пайду пісаць кепскія карціны з выдатных натуршчыц!» Я ж маю поўнае права на дзесяць пасрэдных карцін.

**Жонка і душ**

Стаю пад душам, а жонка нешта расказвае. Яна накладае белую маску на твар і гаворыць-гаворыць. Слоў я разабраць не магу. Стаю пад прахалоднымі струменямі, а жонка, стоячы перад вялікім люстэркам, мне пра нешта распавядае, а я не магу разабраць, пра што. Калі што важнае, дык яна абавязкова паўторыць распавед за сняданкам. Праз тры гадзіны жонка паляціць здымаць прыгажуню Вікторыю ў Версалі. Праз шапаценне вады я чую слова «Версаль». Я праз паўгадзіны пайду ў студыю дапісваць чарговую грызайль. Апошнім часам мяне захапляе сціпласць грызайлі. Сваю апошнюю працу я так і назваў — «Мадам Грызайль». Шуміць, шуміць, шуміць вада.

**Попел і барбарыс**

Барыс Попел пражыў доўгае жыццё. I ваяваў ён, і працаваў, і дзяцей павыгадоўваў. Напрыканцы жыцця пабудаваў ён сабе невялічкі дамок каля лесу. Вакол дамка плот паставіў, а каля брамы пасадзіў барбарыс. Ён пасадзіў барбарыс, а жонка ягоная пасадзіла каліну. Так яны і жылі з калінаю ды барбарысам. Гэтай зімою жонка Попела памерла, а вясною Барыс убачыў, што жончына каліна засохла. Хацеў быў Барыс Попел ссекчы сухое дрэўца, ды рука не паднялася. Так ён цяпер і жыве ў сваім дамку з чорнай калінаю ды зялёным барбарысам.

**Хіменас и мора**

«Лепш за мора толькі рэчка,» — сказаў паэт Хуан Рамон Хіменас. Сапраўды так. Рэчка больш беражлівая і значна дабрэйшая за мора.

**Адольфа і склад**

Калі выпіваў, дык вечарам любіў завітаць у краму-склад да Адольфа. Ён выдатна ведаў, што я выберу, і я таксама цудоўна разумеў, на чым спыніцца разгляданне бясконцых шэрагаў размаітых пляшак. Але ж працэс сузірання мяне радаваў, я хадзіў ад стэлажа да стэлажа і чытаў налепкі, узважваў пляшкі ў руцэ, разглядаў вадкасці на святло. Адольфа цярпліва чакаў. Ён даўно падрыхтаваў папяровы пакет з літровай пляшкаю віскі «Балантай». I ён, і я ведалі, што склад я пакіну менавіта з гэтым пакетам. Толькі я расцягваў, як мог, асалоду чакання вечаровай выпіўкі. Адольфа мяне разумеў, ён разумеў глыбіню мужчынскага пачуцця перад выпіўкаю, і я ўдзячны яму за разуменне.

**Тата і «Дзікі голуб»**

У час маркоты я бяру татаву кнігу «Дзікі голуб» і немаведама ў які раз перачытваю яе. З усёй бацькавай спадчыны мне найбліжэй гэтыя дзевяць апавяданняў, сабраныя ў зборнік невялічкага фармату. Учора перачытаў аўтабіяграфічны тэкст «Маці» — распавед пра выпадкова

ўбачаную ў тралейбусе жанчыну, якая была чымсьці падобная на татаву маці, нашу бабу Броню. Я чытаў і думаў, што так шмат людзей, якіх любіў я і якія любілі мяне, ужо адышлі ў незваротнасць. Ці чакаюць яны мяне? Хацелася б верыць, што яны мяне чакаюць са сваёй любоўю. Толькі я не веру, што некалі пабачу тых, хто адышоў. Таму, калі мне хочацца пабачыць мінулае і сустрэцца з тымі, хто мяне любіў, я зноў бяру з паліцы «Дзікага голуба».

**Данута і цішыня**

Зайшоў у сваю вёску. Даўно не быў, доўга збіраўся з'ездзіць, ды ўсё нешта адкладалася, нешта перашкаджала... У снах вёска бачылася закінутай, урослай у зямлю па коміны і пустой... За дзесяць гадоў мая вёска Варакомшчына мала змянілася. Непадалёк ад дзедавай хаты стаялі тры бабы і цікаўна пазіралі на мяне. Даўшы «добры дзень», сказаў, што я старэйшы сын Чэсіка. «Памятаю я цябе. Ты — Вова!» — пачала гутарку старэйшая з жанчын. «Помню, як Чэсік цябе першы раз сюды прывёз, а ты выбег з падворка і пабег па вуліцы, пабег з гары да рэчкі. Табе гады два было. Ты таго і не помніш. Чэсік бег за табою, баяўся, што ў рэчку ўвалішся. Колькі табе цяпер?» — «Хутка будзе пяцьдзясят». — «А я з трыццаць першага. Я — Данута, я з тваім бацькам у школу хадзіла. Ты ў Мінску жывеш?» — «У Мінску». — «А я ў горадзе не магу. Мне трэба цішыня і прастора. Мне трэба штодня выйсці на гару, рукі раскінуць і пастаяць у цішыні. Мне тады добра, а ў сценах мне не дыхаецца і не жывецца. Ты ў вёску не будзеш вяртацца?» — «Не. Мне трэба, каб усё рухалася, шумела, мітусілася, стракацела навокал, тады мне па-сапраўднаму добра». — «Розныя людзі на свеце, розныя». Я развітаўся з бабамі, падышоў да дзедавай хаты, пастаяў і вярнуўся на дарогу, да машыны.

**Караліна і Егіпет**

Пацяплела, і кавярні панавыстаўлялі столікі з крэсламі на вуліцу. У «Акварыуме» назбіралася процьма знаёмых. Усе так радаваліся цёпламу вечару і магчымасці пасядзець пад вялікімі парасонамі, што не радавацца было проста немагчыма. Караліна падсунула сваё крэсла да майго: «Ты мастак? Ты павінен мне сказаць, ці прыгожая я. Паглядзі! Паглядзі ўважліва. Я прыгожая?» — «Сумняваешся?» — «Так! Я сумняваюся! Раней я ніколі не сумнявалася ў сваёй прыгажосці, а цяпер засумнявалася. Я засумнявалася і купіла падарожжа ў Егіпет. Там я буду купацца ў Чырвоным моры, буду загараць і пахудзею. Мне трэба пахудзець? Скажы, ты ж мастак...» — «Калі табе хочацца пазагараць, паплаваць і пахудзець, ты з'ездзі на Чырвонае мора...» — «Я вярнуся загарэлая і стройная! Я вярнуся прыгожай, і ты будзеш мяне маляваць!» — «Во як!» — «Толькі так! Я буду такая прыгожая і памаладзелая, што ты проста не зможаш адмовіцца!» — «Хіба я цяпер

адмаўляюся?» — «Ты не адмаўляешся, але я тоўстая, бляклая і стомленая. Мне трэба ў Егіпет. Вярнуся і патэлефаную…» Караліна адсунула сваё крэсла ад майго. У Егіпет яна злётала. У сваім дзённіку Караліна панавыкладала процьму кепскіх здымкаў, зробленых на параходзіку, які плыў па бруднаму Нілу. Мне яна не патэлефанавала. Пэўна, з пахудзеннем і памаладзеннем у Караліны так нічога і не атрымалася.

**Хадыка і сукі**

Як там у Жуля Рэнара? Дрэвы, прыміце мяне ў свае браты, я ўжо навучыўся стаяць і маўчаць. Так, здаецца, напісаў імпрэсіяніст Рэнар. Можа я іншымі словамі выклаў думку вялікага літаратара, але сэнс яе захаваў. Я запамінаў рэнараўскі вобраз фізіялагічна, запамінаў усім целам. Стаяць і маўчаць. Я запомніў дакладна, бо прыдумаўся працяг. Стаяць, маўчаць і расці. Пра здатнасць расці аднойчы разважаў выкладчык Хадыка. Ён казаў, што ў мастака шмат спакусаў расці не ўгору, а ў розныя бакі. Кепскае дрэва лянуецца ўздымацца, а ідзе ў сукі. Мастак мусіць сябе даглядаць, як садоўнік даглядае дрэва. Мастак павінен жорстка забараняць сабе быць сукаватым, нязграбным, кепскім дрэвам. Дзякучы Алегу Хадыку, я запомніў вобраз Рэнара. Сапраўды, трэба стаяць, маўчаць, расці ўгору, і можа быць тады дрэвы прымуць цябе ў сваё брацтва.

**Матросы**

У Мінску на пляцы Перамогі а дзесятай раніцы біліся матросы. Іх было чалавек з трыццаць. Выглядалі яны ў сваіх безрукаўных цяльняшках ды чорных бесказырках рэвалюцыйна і анархічна. Якое такое марацкае свята яны сабраліся адзначаць на мінскім пляцы Перамогі? Не ведаю… Але большасць матросаў была на моцным падпітку. Раптам самы маленькі матросік падбег да худога і ўдарыў яму ў нос. Той заліўся крывёю і паспрабаваў схапіць маленькага за грудкі, не атрымалася, бо маленькі быў даўгарукі. Ён бы худога збіў канчаткова, каб не тоўсты, які схапіў маленькага за каўнер, павярнуў тварам да сябе і з усяе моцы даў яму кулаком у грудзі. Маленькі паваліўся на зямлю і паспрабаваў ударыць нагою тоўстага ў пахавінне. Тоўсты раз’юшыўся, схапіў маленькага за рэмень і нагавіцы, прыўзняў і зашпурнуў праз кусты ды пад елку. Худы, выціраючы нос ужо добра ўчырванелай насоўкаю, падзякаваў тоўстаму за абарону і збіццё маленькага. Той ляжаў пад елкаю і лаяўся, але падняцца баяўся, бо тоўсты паабяцаў яго прыбіць, калі толькі паспрабуе ўзняцца на ногі. Публіка, што чакала на аўтобусным прыпынку і назірала за бойкаю п’яных матросаў, адназначна радавалася, бо выглядала ўсё па-цыркавому захапляльна, камічна і зусім не праўдзіва.

## Авіяносец

У горадзе Гаета я разглядаў амерыканскі авіяносец. Штораніцы з яго ўздымаліся самалёты, каб бамбіць Югаславію. Калі ў цябе няма камеры і фотаапарата, дык ты спакойна можаш прагульвацца па прычале і глядзець на вайсковы карабель колькі заўгодна. Я глядзеў, стаяў і глядзеў, побач дзеці лавілі вудамі рыбу, ім было нецікава разглядаць агромністы карабель. Дзеці даўно прызвычаіліся да авіяносца ў сваім старажытным горадзе. А мне ўсё было за дзіва: і авіяносец, і магіла Цыцэрона, і старажытная Гаета, і амерыканскія лётчыкі. Яны здзіўлялі мяне найбольш, бо яны белазуба ўсміхаліся ўсім сустрэчным, яны павольна гулялі па сонечнай Гаеце, яны паводзілі сябе так, як звычайныя адпачыннікі. Нібыта гэта не яны штораніцы ўздымаюць самалёты з палубы авіяносца, нібыта не яны руйнуюць цэлую краіну, нібыта свет справядлівы і ціхамірны…

## Амбасады

Схадзіў у пасольства Вялікабрытаніі на прэзентацыю кнігі пра мядзведзя Віні-Пыха, якую зрабіў і выдаў Віталь Воранаў. Стоячы са шклянкаю пустой вады сярод заўсёдных фуршэтнікаў, падумаў: нават пасрэдны літаратар, жывучы ў Беларусі, увесь час наведвае самыя розныя амбасады са шматлікімі мерапрыемствамі, а нашы выбітныя творцы, якія знайшлі прытулак за мяжою, ходзяць адно ў беларускія амбасады, і тое зрэдку.

## Светлацень

Святло — жывапіснае, цень — графічны. Калі прамалёўваеш святло, малюнак робіцца жывапісным; калі прапісваеш цень, жывапіс робіцца графічным.

## Сквар

У горадзе пачаўся такі сквар, такая гарачыня, такая спякота, што людзі пачалі нагадваць кавалкі зваранага сала. Ратунак быў адно ў прахалодзе вады. Яна бясконца пілася і лілася на скуру, пад яе падстаўлялася перагрэтая цяжкая галава. Вада дапамагала мне ўвесь дзень, дапамагла яна і ўночы. Лежачы пад свежаю прасцінаю, я прыгадваў рэчку: бруістую, крынічную, заўсёды прахалодную Ятранку. У дзяцінстве, вярнуўшыся з сонечнага поля і загнаўшы карову ў цёмнае гумно, я прыходзіў на корч, сядаў на яго конна і звешваў у ваду натомленыя ногі. У празрыстую пругкую плынь я апускаў руку і спрабаваў схапіць рэчку, а яна цякла-ўцякала праз пальцы. Ратуючыся ад задухі, я так і прасядзеў цэлую ноч на старым карчы, пад срэбналістай вярбою, якая прыйшла да мяне з далёкага вясковага мінулага.

## Карціна

Вырашыў напісаць невялікую карціну, з якой хацелася б выпіць. Палатно мусібыць спакойнае па колерах. На ім будзе намаляваны ідэальны сабутэльнік. Карціну можна павесіць над сталом у варэльні. Менавіта ў варэльні над сталом нейкі час правісела скрадзеная з Луўра Джаконда. Трэба сказаць, што ў варэльні яна ўсміхалася так жа, як і ў Луўры. Увечары, калі заманецца, можна будзе, вярнуўшыся з працы, выпіць з ідэальным сабутэльнікам і пагаварыць з ім. Шмат хто размаўляе ды выпівае з тэлевізарам, многія ўжо навучыліся п’янстваваць з камп’ютарам, але і тэлевізар, і камп’ютар задужа гаваркія, занадта яны шматслоўныя, і настроі ў іх зменлівыя, ды і характары ў іх мітуслівыя, як у кепскіх паэтаў. Мой намалёваны сабутэльнік гаварыць наогул не стане, ён будзе слухаць цябе. Ён выслухае і шчыра паспачувае. Калі ты не захочаш з ім выпіць сягоння, ён не пакрыўдзіцца, бо я навучу яго чакаць. Яшчэ ў ім будзе загадкавасць Сфінкса… Спадзяюся, у мяне атрымаецца новая карціна.

## Антыгероі

Вайна на Каўказе пачала затухаць, але яе смуродлівы дух усё яшчэ лётае па свеце. Шмат хто паспешліва пачаў казаць пра заканчэнне Каўказскай вайны. Чаму людзям не пацешыцца ў хвіліны часовага замірэння? Чаму? А таму, што не скончылася вайна, ідзе чарговая перагрупіроўка сілаў, ідзе падрыхтоўка да новых баявых дзеянняў. Я і сам бы хацеў памыліцца, толькі, хутчэй за ўсё, не памылюся. Аглядаючы віртуальны краявід пасля бітвы, я заўважыў адну акалічнасць, якой не было ў вялікіх папярэдніх войнах: герояў няма. Колькі ні спрабаваў я знайсці хоць бы аднаго героя, а не знайшоў. Усе ведаюць пра сумнавокага блазна Кікабідзэ, які адмовіўся ад расійскага ордэна. Толькі які ж ён герой? Дзе просты рускі салдат, які выратаваў асяцінскую дзяўчынку? Дзе мужны грузінскі афіцэр, які ахвяраваў жыццём дзеля абароны сваёй зямлі? Ёсць такія? Чаму ніхто не ведае іх прозвішчаў? Чаму іх партрэты не друкуюцца на першых палосах у газетах і на вокладках часопісаў? Трупы невядомых салдатаў паўсюль. Замест твараў герояў вайны мы бачым толькі бясконцую галерэю самых розных партрэтаў палітычных дзеячаў. Такога цынічнага нахабства не было ў папярэдніх войнах. Раней кожны слой удзельнікаў вайны атрымліваў сваіх герояў. Цяпер яны вынішчаны як непатрэбная ці незапатрабаваная публікай з’ява. Цяпер, ідучы на вайну, вайсковец ведае, што героем ён не стане. І не важна, выйграе ён тую вайну ці прайграе, а героем ён усё адно не будзе. Вайна цяпер прыроўніваецца да працы. На вайне можна падзарабіць. Калі ваяваць-працаваць прафесійна, можна не трапіць

у антыгероі, кшталту расейца Буданава, які згвалціў і задушыў чачэнскую дзяўчыну. Выглядае на тое, што вайна робіцца антыгераічнай справаю, накшталт працы на могілках.

## Тамтамнасць

Савецкая эстрада выклікала ў мяне ўстойлівую агіду. Я не прымаў масавае захапленне глупствамі, што тварыліся на шматлікіх сцэнах. Глупствы раздражнялі не толькі мяне. Савецкае тэлебачанне правяло конкурс на самую горшую песню. Тады перамог малавядомы ансамблік. Дзядзькі каталі электрагітары, да мікрафона падскокваў саліст у белым касцюмчыку, ён хістаў пухнатай кучаравай галавою і крычаў дурнаватым голасам:

— Там! Там! Гдзета там, гдзе ні знаю сам!!!

Пасля такой антырэкламы, як перамога ў конкурсе на самую найгоршую песню ў СССР, ансамблік мусіў прапасці. Эстрадна-інструментальны ансамбль не прапаў, наадварот, ансамблік стаў знакамітым. Праўду скажу, саліста я таго больш ніколі не бачыў, песню тую не чуў, а з ансамблікам нават пасупрацоўнічаў. Кампазітар, з якім я працаваў, занёс адну з нашых песень у гэты ансамблік. Песню выканалі, і на тэлебачанні нешта падобнае на кліп запісвалася з маім удзелам. Я наіўна пачаў спадзявацца, што ўсё можна выправіць, што, прыклаўшы намаганні, эстраду можна палепшыць. На нейкі час, з прыходам на сцэну рок-н-рольшчыкаў, становішча і сапраўды выправілася. Словы, сказаныя са сцэны, набылі сэнс. Толькі час прасвятлення быў кароткі. Эстраднае глупства ўзяло рэванш. Цяпер эстрада ў такім заняпадзе, што я не здзіўлюся, калі зноў пачую тамтамны крык ідыёта:

*Там! Там! Гдзета там, гдзе ні знаю сам!!!*
*Там! Там! Гдзета там, гдзе ні знаю сам…*

## Басё і чужая незалежнасць

Як патлумачыць людзям, што народ, які дамогся незалежнай дзяржавы, варты павагі? Ніяк. Ледзяныя вятры імперскіх прапагандаў дзьмуць з чатырох бакоў. Яны так люта выюць у інфармацыйнай прасторы, што ніхто не чуе святочных спеваў абхазаў і асяцінаў. Людзі, збольшага, жывуць праблемамі велізарных дзяржаў-монстраў, якія ганяюць па Чорным моры вайсковыя караблі. Мяне зразумее толькі той, хто перажываў прыніжэнне за сваю мову, культуру і нацыянальнасць. Можа, такіх і не шмат, іх меншасць, але яны ёсць.

У далёкай старажытнай Японіі пра паразуменне паэт пісаў так:

*Восеньскі вецер! Мяне зразумее той, хто ў полі засне…*

Той жа ж Басё склаў верш на старым полі бітвы:

*Летняя трава там, дзе зніклі ваяры, нібыта мроі…*

## Добрыя рукі

Больш не буду казаць, што прадаў карціну ці малюнак, бо гэта не дакладна. Варта гаварыць, што я перадаў палатно ці графічны ліст у добрыя рукі. Днямі Андрэй і Аляксандра выйшлі з маёй студыі з карцінамі. Андрэй упадабаў маленькі партрэт паэта, на стварэнне якога мяне натхніў фотаздымак, зроблены на мітынгу. Аляксандра нагледзела сабе найлепшыя палотны, напісаныя за апошні год: аголеную «Мадам Грызайль» і краявід «У белым доме, ля сіняй бухты…». Маціцова-шэрую «Мадам…» я вельмі любіў і ганарыўся, што нейкім незразумелым чынам мне ўдалося напісаць такое палатно. Без гэтай карціны ў студыі ўтварылася пустата. Пакуль яна вісела на сцяне ці стаяла на мальберце, студыя была запоўнена своеасаблівым мастацкім жыццём. Цяпер давядзецца стварыць тое жыццё наноў.

## Бар-Эбрая і людзі

У вясёлых аповедах асірыйца Бар-Эбрая, вядомага яшчэ як Абуль-Фарадж, прачытаў, як у аднаго мусульманскага правіцеля спыталі: «Якіх межаў дасягнуў твой розум?». Правіцель адказаў: «Мой розум дасягнуў такіх межаў, што я не веру ніводнаму чалавеку і нікому не давяраю». Адказ правіцеля цяжка назваць вясёлым, але праўда ў ім, безумоўна, ёсць… Аднойчы распавядаў пра свае працоўныя планы гаспадару кафэ «Грунвальд» Аляксандру Астрашэўскаму. «Ты верыш людзям?» — здзівіўся Аляксандр. Я сумеўся і адказаў: «Не веру! Але ж часам, насуперак праўдзе, усё яшчэ хочацца верыць».

## Феафраст і прысабечванне

Ёсць кнігі, якія пажадана мець ва ўласнай бібліятэцы, ці хоць бы мець іх тэкст у сваім прыватным камп'ютары. Але на гэтым жаданне мець не спатольваецца. Напрыклад: у мяне тры выданні кнігі Феафраста «Характары», і тэкст у камп'ютары ёсць, але гэта ўсё рэчы агульнага карыстання, такія кнігі і тэксты ёсць шмат у каго, а гэта крыху трывожыць маю эгаістычную душу. Мне патрэбен свой персанальны Феафраст. Здаецца, што задача невырашальная. Ды рашэнне знаходзіцца, я пераназываю Феафраста, я прыдумваю яму мянушку Тэахвост. У выглядзе Тэахвоста вялікі грэк мне значна бліжэй.

## Мур і Шабіб

Да мяне ў студыю завітаў арабскі прынц Шабіб. Ён сказаў, што мае пошукі ў жывапісе выбудоўваюцца на змешванні ідэй Пікаса і Батэра. Давялося прызнацца ў сваёй нелюбові да саладжавага Батэра і любові да брутальнага Мура, для якога ідэальнай формаю быў чэрап слана. Тут і высветлілася, што ў Шабіба было ажно дзве скульптуры Мура, але адну ён падараваў свайму лекару.

## Ігнат і маска

Ён заводзіць сабе на форумах некалькі псеўданімаў і спрабуе імітаваць думку народу. Маўляў, не адзін чалавек падтрымлівае ягоныя перакананні, а шмат. Толькі таленту ў Ігната — брак. З кожнага псеўданіма тырчаць вушы ўседлівага графамана. Ён прыкладае неверагодныя намаганні для напаўнення сваіх рабоўвіртуалаў характарамі і моўнымі асаблівасцямі, нават памылкі ў тэкстах робяцца запланавана, але і такі ход не дапамагае, бо таленту ў Ігната — брак. Ён злуецца, мацюкаецца, п'е… Праз няштатныя сітуацыі спрабуе скочыць вышэй за галаву, але намаганні марныя, бо графаману наканавана быць адно графаманам. Ігната я не шкадую. Раней шкадаваў, бо верыў, што працаздольнасць, упартасць і адданасць беларушчыне, раней ці пазней, а ператвораць графамана ў паэта. Колькасць напісанага мусіла зрабіць якасны скачок. Так і адбылося, толькі змены пайшлі не ў лепшы, а ў горшы бок. Маска віртуальнага ідыёта прырасла да твару Ігната. Не зняць, не змяніць, ні атадраць! Шкадаваць злосную і крывую маску не буду, а намаляваць і апісаць магу. Што і маем.

## Вова і код нацыі

А восьмай раніцы сын прывёў да мяне ўнука Вову, таму ў парку я бегаў разам з ім. За сняданкам я вучыў шасцігадовага бяззубага Вову простаму вершу: «Мой родны кут, як ты мне мілы. Забыць цябе не маю сілы». Унук хутка запомніў і паўтарыў скарочаны варыянт: «Мой родны кут, забыць цябе не маю сілы». За гарбатаю ён ведаў і паўтараў верш цалкам: «Мой родны кут, як ты мне мілы. Забыць цябе не маю сілы». Звычайныя рэчы, здавалася б. Але на самай справе радкі Якуба Коласа надзвычайныя, бо ў іх захоўваецца код нацыі.

## Пудра

Кардонная, цыліндрычная каробачка з пудраю стаяла пад люстэркам. Такая каробачка не магла быць аніякай іншаю акром як цёпла-ружоваю з тонкім залатым арнаментальным малюнкам. Побач з каробачкаю ляжала гладкабокая марская ракаўка, падобная да вялікага рабога жука з чарадзейнай казкі. Пудраніца з ракаўкаю, безумоўна, самае жаноцкае, самае маміна з усяго таго, што было ў нашым беднаватым койданаўскім доме. Часам я зазіраў у пудраніцу і любаваўся тонкім лёгкім пылам духмянае пудры, якую нібыта нехта назбіраў лёгкай рукою з матылькоых крылцаў. Паслухаць шум ракаўкі я таксама любіў. Маці казала, што так шуміць далёкае мора, яшчэ яна казала, што мы абавязкова паедзем на тое мора паглядзець. Мама мяне не падманула, яна звазіла мяне і да мора Балтыйскага, і да мора Чорнага. Да таго самага Чорнага мора, дзе цяпер ідзе бясконцая вайна за незалежнасць. Ідзе вайна, а паўмужчыны з

напудранымі насамі і шчочкамі залезлі ў тэлескрынкі і нахабна хлусяць даверлівым людзям пра чарнаморскую вайну. Разумею, гэтыя паўмужчынкі не могуць не хлусіць, бо тэлескрынка даўно ператварылася ў базарную батлейку з чалавека-лялькамі. Кожны, патрапіўшы ў яе, хоцькі-няхоцькі робіцца блазнюком, які начытвае з паперчыны чужыя думкі пра чужыя войны ды чужыя смерці. Нікчэмныя паўмужчынкі ніколі не выклікалі ў мяне спачування, а вось пудры, якая ляжыць на іх насах, мне заўсёды было шкада.

### Манікюр

З-за пільнай справы сямейнай давялося ўчора з братам з'ездзіць у Вільню. Пляменнік Чэсь паступіў у тамтэйшы ўніверсітэт, і трэба было набыць для яго ложак, стол і крэсла. На беларуска-літоўскай мяжы прасядзеў я блізу чатырох гадзін: адну, калі накіроўваўся ў Вільню, і тры, вяртаючыся. Каб не нудзіцца на нейтральнай зямлі, я разглядаў памежніц і заўважыў, што манікюр у беларускіх памежніц зроблены значна лепей, чым у літоўскіх.

### Шары (shar)

Калі ў тваёй сям'і ёсць шарападобнае прозвішча Глобус і ты выбраў яго сабе за літаратурны псеўданім, дык чаму не палюбіць паветраныя шары? Спрабаваў я іх палюбіць і нават у 1983 годзе намаляваў карціну з празрыста-чырвонымі паветранымі шарамі. У карціны быў незайздросны лёс: яе не ўзялі на выставу, прысвечаную спорту. Можна было суцешыцца тым, што яе набыў Максім Клімковіч, я і суцешыўся, але дарэмна, бо карціна загінула. Яе паставілі за шафу, каля батарэі. Фарба адышла ад грунтоўкі, патрэскалася і аблупілася. Даведаўся я пра гібель карціны, калі беларускія лётчыкі збілі амерыканскі паветраны шар, які выпадкова заляцеў на нашую тэрыторыю. Збіванне шара з людзьмі выглядала такой жорсткай акцыяй, што я вырашыў напісаць у тыднёвік «Наша Ніва» пра сваё абурэнне дзеяннямі вайскоўцаў, а ў якасці ілюстрацыі змясціць карціну. Тут і высветлілася, што карціна не падлягае аднаўленню. Паглядзеўшы на тое, што засталося ад палатна, я перадумаў друкаваць сваё абурэнне неадэкватнымі дзеяннямі вайскоўцаў. Мусіць, дарма не надрукаваў, бо гады са два ў розных кутках свету, дзе мне даводзілася паказваць пашпарт, людзі нагадвалі мне пра тое, што ў маёй Беларусі быў збіты амерыканскі паветраны шар, а пілоты загінулі. Было крыўдна за Беларусь, сорамна за вайскоўцаў і ніякавата за сябе. Гэтым разам я згадаў пра карціну і збіты шар, калі на вёску Сёмкава, у якой мая жонка будуе нашую новую студыю, упаў паветраны шар. Пілот з дзяўчынкаю вываліліся з кошыка і моцна пабіліся, але ім яшчэ пашанцавала, бо бацькі дзяўчынкі, застаўшыся ў кошыку, загінулі падчас выбуху балонаў з газам. Пілота

судзілі, ён цалкам прызнаў сваю вінаватасць, але ад гэтага не робіцца лягчэй. Вось чаму я не вельмі люблю паветраныя шары і не радуюся, калі бачу іх марудны палёт у высокіх нябёсах.

**Бяспека**

Адчуць бяспеку ў самалёце складана, але я прызвычаіўся ў самалёце спаць. Спіш сабе і пра бяспеку-небяспеку не думаеш. Згадваю я пра бяспеку ў самалётнай прыбіральні. Розныя сінія ды чырвоныя кнопкі, розныя металёвыя ды пластыкавыя рычажкі выклікаюць пачуццё небяспекі, здаецца: націснеш ты нешта не тое і катапультуешся разам з унітазам.

**Ротка і быццё**

У хвіліны адчаю варта пагадзіцца з Маркам Роткам, які казаў, што толькі мастацтва можа дапамагчы вытрываць жах і абсурднасць быцця.

**Генадзь і пахаванні**

У горадзе Сочы на семдзесят першым годзе жыцця памёр ад інсульту Гена Сахарцаў — муж маёй цёткі Рэгіны. Усё жыццё ён прапрацаваў кухарам у рэстарацыях. Штораніцы хадзіў на мора купацца. Простае і светлае жыццё пражыў наш Генадзь Піліпавіч. Мяне ён навучыў заходзіць і выходзіць з мора ў любое надвор'е… На пахаванне я не паехаў. Патэлефанаваў, выказаў спачуванне цётцы, сказаў, што чакаю яе ў Мінску. Потым перабраў фотаздымкі, паўглядаўся ў твары тых, каго ніколі больш не пабачу ў нашым зямным святле… А ўночы мне прыбачыўся кепскі сон. Нібыта я хаджу па нашым доме ў Койданаве. У руках у мяне вялікі букет з белых вяргініяў. Я прыехаў у свой першы дом на пахаванне. У зале стаіць залаціста-жоўтая дамавіна. І святло ў доме вячаровае, вераснёўскае, залатое. У дамавіне ляжыць мая дачка Ядзя. І мне так пякуча-балюча, што трэба крыкма крычаць, а я моўчкі нахіляюся над дамавінаю, а яна пустая. У дамавіне адно белая абшытая шоўкам падушачка, якая пахне адэкалонам. Я адхінаюся ад апусцелай дамавіны і бачу цётку Рэгіну, што стаіць над блакітнай труною маці сваёй — нашай бабы Ядзі. Свет робіцца шэры, як на фотакартачцы. І ў руцэ маёй сапраўды фотакартачка, зробленая на пахаванні бабы Ядзі… Я прачнуўся а трэцяй і да раніцы больш не заснуў.

**Міліцыянтка і форма**

Жанчына ў форме міліцыянта выглядае гермафрадытычна… Так мне ўбачылася ў метро. А шыкоўныя доўгія светлыя валасы міліцыянткі, наогул, глядзеліся чужымі і прыклеенымі да сінявата-шэрай пілоткі. Калі ўжо жанчына пайшла ў сілавыя структуры, калі ўжо яна пагадзілася на міліцыянцкую форму, дык і форма мусіць праектавацца і шыцца менавіта для жанчын. Форма не павінна

капіяваць і падпарадкоўвацца мужчынскаму строю, яна мусібыць асобным, іншым і выразна жаночым убраннем.

**Фрыш і Валера**

Прачытваеш аповесць, раман, прачытваеш тры тамы выдатнага пісьменніка Макса Фрыша... Што запомніцца, што застанецца? У мяне застаўся вобраз, адно апісанне сітуацыі ў ванне. Фрыш пісаў, як стомлены ляжыць у ваннай, як сабраўся быў вылазіць і ўжо адкрыў вадасцёк, і не вылез, і застаўся ляжаць, а вада выцекла, а ён усё ляжаў і не мог устаць. Ён так ляжаў і ляжаў, ажно пакуль яго не выгнаў з той ванны холад. З усіх прачытаных твораў Макса Фрыша больш за ўсё мяне ўсхвалявала дзённікавая нататка пра ляжанне ў ваннай, з якой выцякае вада... Седзячы за столікам кавярні «Акварыум», я распавёў знаёмым пра занатоўку Фрыша. На што Валера расказаў пра свае нядаўнія паводзіны ў ванным пакоі. Валера трое сутак ехаў на машыне, спаў ён таксама ў машыне, не распранаючыся. Ехаў ён з Урала ў Беларусь. А калі прыехаў дамоў, дык зайшоў у ванны пакой, зняў з сябе ўсё, акрамя шкарпэтак. «Я ўсё зняў, а зняць шкарпэткі сілаў не было. Так я ў шкарпэтках і залез у ванную. Ляжу брудны, ляжу ў бруднай вадзе, ляжу ў брудных шкарпэтках. Хвілінаў дваццаць я так праляжаў. Потым ваду спусціў, шкарпэткі сцягнуў і памыўся пад душам...»

**Ірусік і каханкі**

«Каханкі майго мужа — мае каханкі!» — так Ірусік і самасуцяшаецца.

**Падслепаваты і сабачка**

Бачыў, як крываногі сабачка цягнуў па бульварчыку падслепаватага, некалі моднага рыфмаплёта. Сабачку было шкада.

**Фатограф і квадратны метр**

На вуліцы мяне спыніў знаёмы фатограф: «Ты ўсё ў нас ведаеш. Скажы... Куды можна прадаць мой фотаархіў?» — «Цяжкае пытанне...» — «У мяне ёсць усе нашыя шэсці і мітынгі! Партрэты ўсіх нашых артыстаў і мастакоў, літаратараў і палітыкаў. Няўжо ніхто не купіць?» — «Бацькаў архіў я нікому не прадаваў...» — «Колькі можна ўзяць за архіў? Ты думаеш, што я шмат прашу. Не! Колькі ў нас каштуе квадратны метр кватэры? Тысячу даляраў. Я прашу адну тысячу, адзін квадратны метр за працу ўсяго майго жыцця. Ніхто не дае. Маё жыццё нікому не трэба...»

**Кудлаты і фінансавая піраміда**

Фінансавыя піраміды мяне заўсёды цікавілі. Што за людзі іх робяць? Чаму чалавек, ведаючы пра вялікую ступень рызыкі, укладае свае грошы ў піраміду? Як бы паглядзець на пірамідчыкаў зблізу? Такі шанец мне падараваў Кудлаты — паэт Анатоль Кудласевіч.

Усхваляваным і салодкім голасам ён запрасіў мяне на сустрэчу ў таннае піўное кафэ «Крыніца» і пачаў распавядаць, як мае грошы будуць працаваць дваццаць чатыры гадзіны ў суткі. За суседнімі столікамі сядзелі іншыя агітатары-пірамідчыкі і на розныя галасы паўтаралі тое ж самае, што казаў Кудлаты. Вярбоўка ў піраміду ішла поўным ходам. Мая цікаўнасць да піраміды змянілася на спачуванне да Анатоля. «Ты лічыш сябе разумнейшым за мяне?» — сканууў я. «Не!» — Кудлаты здзівіўся. «Тады паслухай… Піраміда разбурыцца. Ты згубіш свае грошы. Адзінае, што ты можаш зрабіць, гэта паназіраць за пабудоваю піраміды, а потым напісаць пра гэта сумленную аповесць!» Кудлаты паспрабаваў зрабіць выгляд, што зразумеў мяне, але чарнавусы твар застаўся пакрыўджаным. На гэтым маё знаёмства з пірамідаю не скончылася, бо праз год Кудлаты прынёс мне рукапіс кнігі «Як зарабіць мільён даляраў…». «Анатоль, піраміда разбурылася?» — «Так!» — «Ты грошы згубіў?» — «Згубіў!» — «Чаму ты думаеш, што можна падмануць чытача? Чаму ты думаеш, што чытач набудзе кнігу беднага Анатоля Кудласевіча «Як зарабіць мільён…»? Каб напісаць кнігу пра мільён даляраў, трэба той мільён зарабіць або напісаць кнігу ў суаўтарстве з людзьмі, якія мільёны зарабілі…» Не пераканаў я Кудлатага. Ён панёс рукапіс у іншае выдавецтва. А я падумаў, што фінансавыя піраміды будуюцца людзьмі з вялікай пыхаю. Пірамідчыкі вераць у сваю хітрасць, у свой розум, у сваю выключнасць. Яны перакананыя ў тым, што лепшыя за астатніх. Калі разбураецца фінансавая піраміда, яны думаюць, што ім не пашанцавала гэтым разам, але наступным разам ім абавязкова пашанцуе. На руінах адной фінансавай піраміды яны пачынаюць будаваць наступную. Піраміды будуюць адны і тыя ж пірамідчыкі. Яны няшчасныя ў сваёй зацятай веры ў фарт. Яны няшчасныя, але яны ніколі не паверацца у гэта, як мне два разы ўзапар не паверыў Кудлаты.

**Віктар і сітаўка**

Раніцай я сустрэў сітаўку. Яна выбегла з-пад куста, падбегла да мяне, пастаяла і вярнулася пад свой куст. Гэтую сітаўку я ведаю добра, бачу ледзь не кожную раніцу, ідучы ў майстэрню. А сягоння я пашкадаваў, што няма ў мяне ў кішэні нічога такога, каб пачаставаць знаёмую пташку. Тут мне і згадалася карціна Віктара «Чалавек, якога не баяцца пташкі». Раней я заўсёды думаў, што чалавек, намаляваны Віктарам Папковым, нейкі надзвычайны. Той чалавек стаяў на беразе мора і маляваў вялікіх бела-блакітных чаек. Тых чаек вакол чалавека была процьма. Пэўна ж, Віктар схітраваў, ён не намаляваў рыбу, якой чалавек карміў пташак… Так мне падумалася, калі мая знаёмая сітаўка забягала пад свой куст.

### Глобус і адкладанне

Сваё прозвішча можна пачуць зусім нечакана, як зараз я... Іду праз чыгуначны вакзал і чую абвестку па радыё: «Старшы насільшчык — Глобус, тэрмінова зайдзіце ў адміністрацыю вакзала!» Я ледзь было сам не пайшоў у тую адміністрацыю, але спыніўся і вырашыў адкласці знаёмства з цёзкам па прозвішчы маёй маці. Нідзе ён не дзенецца з чыгуначнага вакзала, пазнаёмлюся другім разам. Прыдумаецца нагода, і пазнаёмлюся, а не прыдумаецца, і не буду знаёміцца са старшым насільшчыкам Глобусам, бо не лёс.

### Брат і карыда

З Барселоны брат даслаў эсэмэску: «Карыда — не цукерка з гематагену... Учора быкі забадалі дваіх тарэадораў. Аднаго бык падняў на рогі і матляў, як ляльку з анучаў. Другога бык патаптаў».

### Ядзя і заяц

Толькі чалавек пачне збірацца ў падарожжа, як вакол яго ўсчынаецца мітусня. Калі ж той чалавек — твая малодшая і любімая дачка Ядзя, дык той мітусні робіцца ўдвая болей. А калі яна выпраўляецца на працу ў Парыж, дык хоць ты схавайся куды ад гурбы яе праблемаў. «Дзе валіза? Якія красоўкі браць? У гэтай сукенцы я нармальна выглядаю? Ты ведаеш, чалавек, з якім я павінна ехаць на машыне, не вельмі ўзрадаваўся, калі пачуў мой голас у тэлефоне!!! Можа мне зусім не ехаць? Ён жа яшчэ сабраўся ў Кёльн заязджаць на два дні... Што я буду ў тым Кёльне рабіць два дні? Сам падумай... На чорта мне ў той Кёльн заязджаць?» — «Не едзь! Можаш зусім не ехаць ні ў Кёльн, ні ў Парыж!» — «І не паеду!» — «Не едзь! Вазьмі квіток на самалёт і ляці! І чым хутчэй ты паляціш, тым лепей!» — «І вазьму, і палячу!» — «Ляці!» Узяла квіток і паляцела, і прызямлілася, і патэлефанавала, каб хлопцу, які збіраўся ехаць у Парыж праз Кёльн, перадалі фотаўспышку, якую яна забылася дома. «Дык ён жа ж выехаў раней, чым ты паляцела...» — «Ён позна ўвечары даехаў да Брэста, а перад самай мяжою на дарогу выскачыў заяц. Ён не захацеў давіць зайца і павярнуў у лес. Машыны ў яго больш няма. Заўтра ён вылятае ў Парыж, і трэба аддаць яму фотаўспышку...» Фотаўспышка паляцела ў Парыж. Два дні жыву без мітусні. Дома ціха, як у начным лесе.

### Тата і лецішча

Тата любіў сваё лецішча з крыху недагледжаным садам і двухпавярховым дамком, пафарбаваным у лёгка-блакітны колер. Тое лецішча я недалюбліваю, колькі маці ні запрашае туды пад'ехаць, адмаўляюся катэгарычна. Усе звыкліся з тым, што я на лецішча ні нагою. Мусіў прывыкнуць і я, а не прывык. Учора ўначы, праязджаючы непадалёк ад Лысай гары і бацькавага летняга дамка, я

нечакана для сябе знайшоў адказ на пытанне, чаму я не хачу туды наведвацца. Пэўна, гэта адзінае месца, дзе бацька застаўся для мяне нібыта жывы. Пасля ягонае смерці я так ні разу і не падняўся на другі паверх блакітнага дома, дзе тата працаваў з вясны да восені. Для мяне ён усё яшчэ там, ён усё яшчэ працуе над сваёю беларускай прозаю.

## Прынцэса Аль Саід

Расказваеш-расказваеш казкі і сам не заўважаеш, як апынаешся ў казцы. Ты трапляеш не ў простую тутэйшую казку, а ў казку арабскую, туды, дзе тысяча і адна ноч. Учора ўночы прыйшла эсэмэска, што мая добрая знаёмая Вікторыя цяперака прынцэса Аль Саід. Але ўсё трэба распавесці ад самага пачатку… Пачалося тое даўно… Мне было чатырнаццаць, і я марыў змяніць сваё жыццё. Школа з яе занудствам і пахам хлоркі так абрыдла, што я вырашыў паступіць у мастацкую вучэльню. Там займаліся мае старэйшыя таварышы — Валодзя і Анатоль. Да іх я і прыйшоў. Анатоль пісаў карціну «Вяселле», а Валодзя — «Акоп». Іх сяброўка Люда пруткамі вязала шкарпэтку. Маленькая Люда сядзела пад вялікім палатном, на якім быў намаляваны эшафот з шыбеніцаю і нарадавольцамі. Змагары за волю чакалі смяротнага пакарання, а Люда спакойна вязала, бо сваю карціну яна скончыла. Побач з палатном Люды стаяла палатно не скончанае, на ім была балетная студыя з артыстамі ў чорных майках і чорных трыко. Выкладчык Дубар казаў, што трэба маляваць артыстаў з натуры, а Зарына — аўтарка палатна з балетнай студыяй — адказвала, што ёй няма дзе ўзяць натуршчыкаў. Выкладчык Дубар паглядзеў на мяне і спытаўся, што я раблю сярод дыпломнікаў. Я прамаўчаў. Тады Дубар прапанаваў Зарыне пamаляваць мяне. Сказаць выкладчыку, што мне трэба рыхтавацца да іспытаў і ў мяне няма часу пазіраваць, я, вядома, мог, але я падумаў: можна пазіраваць і рыхтавацца адначасова. Зарына прынесла мне чорнае трыко і чорную майку. Я стаяў і вучыў вершы, а Дубар з Зарынаю малявалі. Я вучыў верш Цёткі пра бурнае мора і цара, якога абавязкова трэба павесіць. Люда вязала шкарпэтку, а Валодзя і Анатоль мне зайздросцілі. Ты падабаешся самай прыгожай дзяўчыне ў мастацкай вучэльні!.. Казалі яны. Ну і што з таго? Яны не разумелі майго раўнадушша да прыгажосці Зарыны. Для мяне Зарына была проста мастаком, якому спатрэбіўся натуршчык на некалькі сеансаў. Безумоўна, я змог здзівіць і Зарыну, і Дубара тым, што ведаў харэаграфію. Раней я думаў, што чортава харэаграфія ў маім мужчынскім жыцці ніколі не спатрэбіцца. Іншая рэч акрабатыка, якую я любіў. Акрабатыкай і харэаграфіяй я займаўся ў секцыі фігурнага катання. У першым класе мне хацелася катацца на

каньках, як хлопчыку Каю з казкі Андарсана пра ўсёмагутную Снежную Каралеву. Мяне запрасілі ў секцыю фігурнага катання, і я пракатаўся ўсю зіму, а вясною празаймаўся акрабатыкаю і харэаграфіяй. Таму пазіраваць у якасці артыста балета ў мяне атрымлівалася выдатна. Дубар і Зарына былі мне ўдзячныя. І ўсе чатыры гады, пакуль я займаўся ў мастацкай вучэльні, Дубар мною апекаваўся, дапамагаў у цяжкія хвіліны, а іх, павер ты мне, хапала. А Зарыну я больш ніколі і не бачыў. Я зусім пра яе забыў, і можа ніколі б і не згадаў, каб у мяне дома не з'явілася Вікторыя. Яна фатаграфавалася ў маёй жонкі…

Скажу праўду, я ведаю далёка не ўсіх, хто фатаграфуецца ў маёй жонкі. Яна здымае так шмат, яна фатаграфуе столькі жанчын, што я проста не магу ўсіх ведаць. Але Віка вылучылася тым, што яе твар быў знаёмы, я пацікавіўся і высветліў, што Вікторыя — дачка Зарыны, якой я пазіраваў у чорным трыко і чорнай майцы. Віка сказала мне пра тое, што Зарыны даўно няма. Заўчасная смерць яе мамы прымусіла мяне ставіцца да Вікторыі па-бацькоўску. Такое прыязнае і цёплае стаўленне мела свае наступствы… Аднойчы яна прывяла ў маю майстэрню прынца Шабіба Аль Саіда. Шабіб паразважаў пра мой жывапіс і набыў палатно ў падарунак для свайго старэйшага сына архітэктара. Прынцы з Амана могуць сабе дазволіць набываць творы не толькі вялікіх мастакоў з вялікіх краін, але і творы звычайных мастакоў з краін маладых і малавядомых. Вікторыя таксама звезла ў Парыж два мае палатны. З Парыжа Шабіб з Вікаю паехалі ў Аман, адкуль і прыйшло паведамленне, што наша Вікторыя цяперака прынцэса Аль Саід.

Вядома, я парадаваўся за прынцэсу Аль Саід, але мне захацелася вярнуцца ў мінулае, вярнуцца ў прасторную майстэрню, дзе мае таварышы Валодзя і Анатоль пісалі карціны «Акоп» і «Вяселле», дзе Люда вязала пруткамі ваўняную шкарпэтку. Вярнуцца і сказаць Зарыне, што яна народзіць дачку, якая стане сапраўднай прынцэсаю з казкі, дзе тысяча і адна ноч.

**Кніга-люстэрка**

Казачны вобраз люстэрка, якое само шукае адлюстраванне, навёў мяне на думку, што такім люстэркам якраз і з'яўляецца кніга. Чытач шукае ў кнізе сваё адлюстраванне, знайшоўшы, ён застаецца задаволены. Калі табе падасца, што мой вобраз кнігі-люстэрка не дастаткова праяснены, можна ўзяць уласны пашпарт і зазірнуць у яго. Дзяржавы, ведаючы пра люстэркавую якасць кнігі, даўно карыстаюцца гэтым і прадаюць сваім грамадзянам кніжачкі пашпартоў.

## Рублёў і цень

Візантыйская, а лепей сказаць, грэцкая школа хрысціянскага іканапісу, да якой, безумоўна, належаць і творы Андрэя Рублёва, каб намаляваць святых, малявала іх не з саміх людзей, як гэта рабіла школа рымска-каталіцкая, а малявала іх з чалавечых ценяў; таму абрысы праваслаўных святых такія мяккія, цякучыя і плаўныя, а постаці іх выцягнутыя, таму ў вобразах, намаляваных Рублёвым, ёсць лёгкасць, нават бязважкасць, якая характэрная для ценю, і якой няма ў рэчы.

## Гарбун

П'ю ранішнюю каву з хрумсткім круасанам, а за вітрынным шклом віленскай кавярні праходзіць доўгавалосы гарбун. Чаму гарбуны так любяць адпускаць доўгія валасы? Пэўна, разглядаючы свае арыстакратычныя твары ў ранішніх люстэрках, яны ўяўляюць сябе абраннікамі лёсу, уяўляюць сябе каралямі. А які ж гэта кароль без доўгіх валасоў? Толькі непраўдзівы кароль будзе насіць кароткую прычоску. Дакладна. Доўгія валасы робяць жыццё гарбуна крышку лепшым, яму так лягчэй зазіраць у ранішняе і вечаровае люстэрка.

## 1964. Ваця і салодкі смак блізкай смерці

Кажаш: пазітыў? Абрыд мне пазітыў са штучным прэсным смакам няўежнай гумы. Надакучыў прэзерватыўны пазітывізм. Хай пад тваім акном зайграюць пахавальны марш вялікага Шапэна. Хай сэрца тваё сціснецца ад жалобы, і можа тады ты ўспомніш салодкі смак блізкай і немінучай смерці... Мне згадваецца смерць дзеда Ваці. Ён памёр у нашым доме, ягоны ложак стаяў за сцяною ад ложка, дзе я спаў. Дзед Ваця быў смяротна хворы, мы чакалі ягоную смерць і шматкроць гаварылі пра яе. Дзед быў гатовы да яе прыходу. Слабым, як папяросная папера, голасам ён аддаваў апошнія распараджэнні па гаспадарцы. Смерць спарадзіла мітусню. Усе забегалі, загаварылі, заплакалі... Я застаўся адзін перад блакітным тварам ушчэнт схуднелага дзеда Ваці. Мне ніхто ні разу не сказаў: «А ні круціся ты тут у нас пад нагамі!» Уразіла вялізная машына з паадкіданымі бартамі. На ёй мусілі везці труну на могілкі. Як жа мне захацелася праехацца на вялікай машыне, седзячы над адкрытай труною з мёртвым светлатварым дзедам. Я ўзяў са стала фотапартрэт Ваці і падышоў да машыны. Ідучы з партрэтам у светла-блакітнай зашклёнай рамцы, я добра ведаў, што на машыну мяне не возьмуць, мяне гэтым разам наогул не возьмуць на могілкі. Я падам рамку на машыну бабе Мані і вярнуся ў дом, сяду за жалобны стол і пачну есці смажаную рыбу. Гэта будзе залацісты і салодкі карп. Тым разам я пераем смажанай рыбы, бо ніхто мяне не спыніць, ніхто і лічыць не

будзе, колькі кавалкаў смажанай рыбы я з’ем. Мне зробіцца млосна. У доме запануе цяжкі гарэлачны дух, я выйду на ганак і буду стаяць і глядзець у бок могілак, куды назаўсёды завезлі нашага дзеда Вацю. З таго дня я буду ведаць салодкі смак блізкае смерці і яе гарэлачны дух.

### Арыстоцель і навука

Ты ведаеш Арыстоцеля як вялікага настаўніка, таму будзе цікава падумаць над ягоным выказваннем пра тое, чаму нельга навучыцца. «…Асабліва важна быць майстрам у метафарах, бо толькі гэтаму нельга навучыцца ў іншых», — сцвярджаў аўтар «Паэтыкі». Аспрэчваць вялікіх — справа няўдзячная. Таму я паспрабую не аспрэчыць, а толькі пракаментаваць і ўдакладніць выказванне Арыстоцеля. Менавіта ў метафарах найбольш выразна праяўляецца паэтычны дар, робіцца відавочнай паэтычная магія розных пераўвасабленняў і нечаканых адухаўленняў. Метафара стаіць на той мяжы, якая раздзяляе мастацтва і навуку. Для навукоўца метафара — слабавытлумачальная з’ява, ён бачыць яе, але абгрунтаваць яе патрэбнасць ён няздатны. Больш за тое, ён не можа гарантаваць навуковага навучання метафарычнаму пісьму. Сапраўды, майстэрству стварэння метафары нельга навучыцца ў навукоўцаў, але даволі лёгка навучыцца метафарычнаму мысленню ў творцаў — паэтаў і мастакоў.

### Слепата

Людзі часта нагадваюць адно аднаму пра сляпое каханне і сляпую любоў, а пра сляпое зло забываюцца. Думаю, зло асляпляе чалавека значна хутчэй, чым каханне і любоў, і аслеплены злом чалавек больш небяспечны за чалавека закаханага.

### Кішчанка і зялёная вазачка

Мастак-манументаліст Кішчанка ў сваёй велізарнай майстэрні, пазастаўлянай блакітна-чорнымі палотнамі, частаваў мяне цукеркамі. «Я што — дзіця? Чаго гэта ён частуе мяне шакаладнымі цукеркамі? Мог бы і гарэлкі наліць, як Савіцкі, ці каньяку, як Анікейчык… А ён: «Ніна, прынясі хлопцу цукерак!» Так я думаў, калі еў цукеркі ў высакастольнай майстэрні Аляксандра Кішчанкі. Цяпер, праз дваццаць гадоў пасля таго пачастунку, я падумаў інакш. Ідучы каля цукерачнай крамы «Камунарка», я вырашыў завесці ў сваім мастакоўскім атэлье шкляную зялёную вазачку з шакаладнымі цукеркамі для дзяцей, жанчын і таварышаў.

### Дыяген і натоўпы

Дыяген заўважыў: красамоўцы і прамоўцы — рабы натоўпу. Да прамоўцаў і красамоўцаў, не памыліўшыся, можаш дадаць папулярных артыстаў, журналістаў, спартоўцаў і блогераў; апошняе папаўненне рабоў мяне як паслядоўнага блогера асабліва цешыць.

**Ван Гог і лыжкамыйка**

Лыжкамыйка пражыла сто гадоў. Пра яе соты дзень народзінаў знялі тэлесюжэт, які паглядзеў увесь свет. Старая сядзела ў крэсле і шаптала пра парыжскую кавярню. Усё сваё даўжэзнае працоўнае жыццё лыжкамыйка прапрацавала ў кавярні. Аднойчы ў тае мясціны завітаў Вінцэнт Ван Гог, ён намаляваў асветленую залатымі ліхтарамі кавярню пад сінім начным небам. У стагадовай лыжкамыйкі спыталі, ці памятае яна Ван Гога. Старая прашархацела непаслухмяным сухім языком, што помніць скандальнага і п’янага мастака, які вечарам маляваў яе кавярню. Ван Гог не спадабаўся лыжкамыйцы. Праз восемдзесят пяць гадоў яна так і не змяніла свайго стаўлення да экспрэсіўнага генія. Ён застаўся для яе маларослым, няголеным, непрыемным тыпусам, перапэцканым у алейныя фарбы. Ад лыжкамыйнага тэлесюжэта мне зрабілася млосна. Каб Ван Гог пабачыў і пачуў стагадовую лыжкамыйку, каб вялікі Вінцэнт зноў сутыкнуўся твар у твар з нязменным ідыятызмам навакольнай рэчаіснасці, ён зноўку дастаў бы пісталет і зрабіў бы дзірку ва ўласным чэрапе.

**Сяргей і прыём**

На выставе малюнкаў да мяне падышоў жывапісец Сяргей. Ён пачаў расхвальваць маю кампазіцыю, якую я зрабіў на першым курсе мастацкай вучэльні. Сяргей казаў, што тая кампазіцыя была выдатная, што ён яе запомніў. Мне было прыемна слухаць кампліменты, ажно пакуль я не зразумеў прыём… Сяргей хваліць старую, даўно страчаную працу, каб не заўважаць маіх новых малюнкаў. Ты думаеш, я памыляюся і дарэмна нагаворваю на Сяргея? Правяраў! Іншым мастакам ён таксама казаў пра іх цудоўныя малюнкі, зробленыя яшчэ ў дзіцячай студыі, якія ён усё жыццё памятае. Класны, між іншым, прыём. Можаш пры нагодзе яго выкарыстаць, калі сумленне дазволіць.

**Прадавачка і слойка**

Па дарозе ў майстэрню зайшоў у краму, дзе вырашыў узяць сабе слойку са шпінатам. Замест тысячы рублёў даў я прадавачцы пяцьдзясят тысяч, а яна вазьмі ды вярні. Не, каб парадавацца сумленнасці чалавека, я раззлаваўся на сябе. Так раззлаваўся, што нават не стаў палуднаваць слойкаю. Пакінуў яе на ноч у майстэрні, каб ляжала і яшчэ заўтра паўдня дакарала мяне за разяватасць.

**Сэй-Сёнагон і спіны**

Выкшталцоная літаратарка Сэй-Сёнагон у сваіх нататках «Пра тое, што страціла каштоўнасць…» назвала і спіну барца, які атрымаў паразу. Чытаеш і ўяўляеш потную шырокую мужчынскую спіну пераможанага барца сумо. Бачыш, як барэц схіляе галаў, як ён —

зганьбаваны паразаю — сыходзіць… Цяжкае відовішча. Спіна скаронай жанчыны выклікае цалкам супрацьлеглыя пачуцці. На спіну пераможанай жанчыны глядзець і прыемна, і радасна.

## Баба і бульба

Баба з дачкою самай раніцаю выбралася ў грыбы. Патупала баба па лесе, зрэзала колькі сухаватых сыраежак, стамілася, выйшла на поле, прысела на камень і залюбавалася бульбоўнікам. «Які спраўны бульбоўнік, — падумала баба, — пэўна, тут і бульба добра ўрадзіла. Я соваюся па лесе, шукаю нейкія сухія ды чарвівыя сыраежкі, а можна ціхенька, пакуль ніхто не бачыць, накапаць цэлы кош добрай бульбы!» Стала баба на калені і пачала рукамі капаць-выбіраць бульбу. Недзе з палову каша награбла, калі пачула за спінаю вокрык. Кінула баба кош, кінула бульбу і дала лататы. Ляцела яна праз лес што было духу, ляцела, ажно вецер у вушшу свістаў, ляцела, пакуль конча не засаплася. Спынілася, азірнулася… Куды ісці? Не ведае. Здавалася, свой лес. Хадзіла па ім і ўдоўж і ўпоперак. А тут, куды ні пойдзе, усё нейкае чужынскае і незнаёмае. Ледзь не да самае ночы баба праблукала па лесе, нарэшце яна выбралася да таго самага месца, дзе бульбу крала. Кош, як яна кінула, так і ляжаў. Баба падумала-падумала ды накапала поўны кош бульбачкі, прыкрыла яе травою з сыраежкамі ды дадому прынесла. Дачка даўно дамоў вярнулася і чакала бабу з пытаннем… Чаму, калі яна — дачка яе родная — гукала, баба кінула на полі кош і ў лес уцякла? Што тут адкажаш? Хто гэта сам сябе палахлівым злодзеем назаве?

## Дзед і бульба

Хто што, а мы бульбу капаем. Нават злачынствы і злачынствы ў беларусаў бульбяныя. Надоечы брат распавёў пра зладзейства і злачынства, што адбыліся на ўскрайку Мінска, там, дзе яшчэ захаваліся прыватныя аднапавярховыя дамкі з садамі і градамі. У гародах, вядома, бульбу садзяць, а як час надыдзе, то і выкопваюць. З-за бульбы зло і адбылося. Брат ішоў па сваім завулку Скарыны і пабачыў натоўп і машыну хуткай дапамогі. Санітары грузілі ў машыну старога з разбітай галавою. На зямлі валяліся два вядры, капач і бульба. Суседзі расказалі пра падзею… Баба з дзедам накапалі ў сваім гародчыку два вядры бульбы. Баба сказала дзеду, каб той занёс накапанае ў пограб. Дзед абмінуў пограб, пралез праз плот і крадком пашыбаваў пад краму, каб бульбу прадаць і ўзяць якую бутэльку віна. Баба, як пабачыла, што дзед бульбу зносіць, дык схапіла капач і за дзедам паляцела. Дагнала і галаву капачом разбіла. Дзякаваць Богу, не забіла баба чалавека. А магла б, далібог, магла б і забіць. Каб крышку мацней ударыла, дык і загінуў бы чалавек за два вядры ўласнай бульбы. Беларусы, бульбашы, за бульбу могуць

капачом па галаве гахнуць і забіць могуць. Хто што, а мы ўсё вакол бульбы круцімся ад нараджэння да самае смерці. І я бульбу люблю, асабліва яе пяшчотна-бэзавыя кветкі.

**Герой**

На першы погляд, наш час выглядае як антыгераічны. Можна дапусціць, што для большасці людзей гэта добра, а мне сумна жыць у антыгераічным часе, дзе няма месца для велічы і мужнасці. Замест помнікаў героям на беларускіх вуліцах ставяцца павялічаныя статуэткі і шахматныя фігуркі. Жанчынка разам з лаўкаю адліваецца з дарагой бронзы. Дзяўчынка з драным парасонам гэтаксама набывае бронзавае аблічча. З бронзы робіцца і нікчэмны чалавек, які стаіць на каналізацыйным люку. Хто яны? Ніхто! Нашы гарады абстаўляюцца скульптурамі безыменных авербуяў. Ёсць і коні без гаспадара, ёсць і брычкі без кучара, ёсць бабы з семкамі, паштары з роварамі… Ёсць легіён карыкатурных вобразаў, якія занялі месца помнікаў. Як тут не задумацца?.. Калі прапалі героі? У час маёй маладосці героі былі. Здавалася, што герояў так шмат, што хопіць не на адно пакаленне помнікаробаў. Выйшла не так, на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя пачаўся стыхійны дэмантаж помнікаў. Дэмантавалі ленінаў, марксаў, паўлікаў марозавых… Дэмантаж разгортваўся хутка, але ўсе новыя планы манументальнай прапаганды былі бяздарныя і не жыццядзейныя. Дэмантаж прыпыніўся. Помнікаробы думалі, што вось-вось напішацца найноўшы план, абвесціцца спіс новых герояў, вартых металічнага і каменнага аблічча. Плана ўсё не было і не было. Было пустое балабольства пра ідэалогію, былі тузанні паміж хрысціянскімі канфесіямі, былі базарныя шоу і шоу на базарах і кірмашах… Планаў манументальнай прапаганды ў дзяржавы Беларусь як не было, так і няма. Што было? Крыжы ў Курапатах — помнік чалавечай жорсткасці, чалавечай пакуце, чалавечай пакоры. Ад адных думак пра Курапаты душу можа ахапіць невылечны страх. Зрэшты, у Курапатах не помнік, а надмагілле. Апроч Курапатаў у Беларусі было толькі дзве спробы паставіць народны помнік за праўдзівыя народныя грошы: сцяна Цоя і помнік паэту Анатолю Сысу. Сцяна Цоя разбурана, бо зроблена была бяздарна. Курапаты знаходзяцца ў стане перманентнага разбурэння. Адзіны помнік герою, які паставіў беларускі народ, — помнік Анатолю Сысу, але, зноў жа, паставілі яго на магіле, што ў маім разуменні з’яўляецца ракавою памылкаю. Яшчэ? Толькі не трэба казаць мне пра павялічаныя шахматныя фігуркі з надпісамі, выцягнутымі з кепска напісаных школьных падручнікаў. Гэтыя фігуркі не маюць ніякага дачынення да манументальнай прапаганды і дзяржаўнай ідэалогіі. Яны — імітацыя дзейнасці, а не дзейнасць. Такой жа імітацыйнай дзейнасцю цяпер

займаюцца шоумены, калі прапаноўваюць выбіраць з дапамогаю фальшывага галасавання імя Расіі. Расчараваны ў бясконцых выбарах народ прагаласаваў за Сталіна. Не сумняюся, што падобную дзейнасць паспрабуюць разгарнуць некаторыя тэлешулеры і ў Беларусі… Не пачынаў бы я пісаць пра нашую слабасць і кепскасць, каб не меў ідэі. Мая ідэя простая. Беларуская дзяржава мусіць паставіць помнік Хрысту. Помнік павінен быць надканфесійны. Усе грамадзяне Беларусі возьмуць удзел у стварэнні помніка. Помнік будзе стаяць на самай высокай кропцы беларускай зямлі, на Святой гары. Гэтым помнікам беларускі народ і беларуская дзяржава выкажа ўдзячнасць сваёй гісторыі і хрысціянству. Святая гара стане месцам прымірэння. Тым месцам, дзе могуць сустрэцца і весці перамовы прадстаўнікі розных рэлігій і розных канфесій.

Хто, калі і як паставіць на Святой гары помнік Хрысту? Адказ на такія пытанні для мяне малаістотны. Сваю мастацкую задачу я вырашыў: намаляваў маленечкі крыжык на карце Беларусі.

**Сабор-самалёт**

У самалёце маліцца значна лягчэй, чым у наземных ці падземных збудаваннях. Яно і зразумела: у самалёце ты бліжэй да неба, бліжэй да высокай чысціні і стваральнага святла. Канструкцыя самалёта амаль не выкарыстоўваецца ў саборабудаванні, а дарма.

**Браты і сёстры**

Надараецца цёмная часіна са змрочным настроем, і тады я думаю пра братоў. Калі стане яшчэ горай, думаю, я паеду ў Брэст да брата Андрэя, і ён абавязкова дапаможа. Ці паеду ў Койданава да Віці, а мо і ў Сочы паеду да Зміцера. А яшчэ лепей паехаць мне ў Амерыку, паехаць у Чыкага да Віктара… Ад такіх думак свет крыху святлее. Я цудоўна ведаю: калі насамрэч здарыцца нешта вельмі кепскае, дык я, хутчэй за ўсё, паеду не да братоў, а паеду да сёстраў. Сёстры заўсёды дабрэйшыя за братоў. Ведаць я пра гэта ведаю, але думаю ўсё адно пра Андрэя, Віцю, Зміцера, Віктара, а не пра Алену і Волю. У светлыя часы я амаль ніколі не згадваю пра сваіх сясцёр і братоў. Чаму? Спадзяюся: у іх і без мяне ўсё выдатна.

**Сакрат і Хрыстос**

У апошні дзень свайго жыцця Сакрат быў вясёлы. «Сакрат, цябе асудзілі на смерць, чаму ж ты вясёлы?» — спытаў ягоны вучань. «Яны асудзілі мяне на смерць, а жыццё асудзіла іх!» Так апісваў апошні дзень Сакрата Платон, той самы Платон, які пісаў пра бессмяротнасць душы. Людзі верылі ў мужнасць Сакрата, верылі Платону, верылі ў бессмяротнасць уласнай душы, а таму спакойна ставіліся да смяротнага пакарання. За вераю ў весялосць асуджанага на смерць Сакрата прыйшла вера ва ўваскрэсенне Хрыста. Яго асудзілі на

смерць. Ён пакутліва сканаў на крыжы пад бязлітаснымі промнямі сонца. Хрыстос памёр і ўваскрос. Так апісалі падзею Мацвей і Марк, Лукаш і Ян. Ім верылі, як у свой час верылі Платону. Ім верылі, і смяротнае пакаранне выглядала не такім безнадзейным і не такім незваротным, як яно выглядае сягоння, калі мы ведаем, што прырода асудзіла нас на смерць, але не маем доказаў праўдзівасці словаў Платона, Мацвея, Марка, Лукаша і Яна. Сягоння смяротнае пакаранне выглядае жудасным і цёмным, як беззаконныя сутарэнні. Таму я не прымаю смяротнае пакаранне, лічу яго ганебным, а людзей, што прыспешваюць смерць іншых людзей, лічу недальнабачнымі дзікунамі.

**Ціхія краявіды**

Маленькія, на адно акенца, дамкі агароднікаў пад Барселонаю заўсёды напаўняюць маю душу спакоем і вераю ў гарманічныя ўзаемаадносіны чалавека з навакольным светам. Падобны душэўны спакой я адчуваю, калі гляджу з летняй дарогі на далёкую блакітна-зялёную беларускую вёску.

**Ёлкае сала**

Іспанцы і каталонцы любяць вэнджаныя свіныя кумпякі і крыху ёлкае сала. У нашых краях пажаўцелае ёлкае сала зразалі, ніхто яго не еў. А ў Барселоне я паціху прывучыўся да ёлкага сала і цяперака нават смачным яго лічу.

**Эліан і цэнзура**

Антычны літаратар Эліан пачуў і запісаў, што ў Фівах закон загадваў майстрам, жывапісцам і скульптарам надаваць сваім выявам больш узнёслыя параўнальна з рэальнасцю рысы, а за змяншэнне якасцяў таго, што служыла ўзорам для статуі альбо карціны, жывапісцам і скульптарам пагражаў грашовы штраф. Калі сягоння ўключыць тэлевізар з прымусовым пазітывам ды бясконцай рэклама-прапагандаю ўсяго і ўсіх, можа скласціся адчуванне, што форма цэнзуры, вынайдзеная ў старажытных Фівах, дзейнічае і зараз.

**Канец словаў?**

Канец словаў... Ты так сказаў? Канец словаў... Ты сказаў... Напачатку — слова, слова — у Бога, слова — Бог. Так ёсць. Так было і так будзе. Будзе тое, што было, а было тое, што будзе. Хваля марская падае на пясок. Так ёсць, так было і так будзе. За адной хваляю коціцца наступная хваля, а за ёю наступная. За меншай хваляю прыходзіць большая, за большай ідзе меншая, але яны прыходзяць адна за адной, адна за адной. Яны падаюць на пясок. Яны рассыпаюцца, каб сабрацца, яны збіраюцца, каб рассыпацца. Святло аддзяляецца ад цемрадзі, цемра паглынае святло, каб святло зноў аддзялілася ад цемры, а цемрадзь паглынула святло. Ён бачыць, што

гэта добра. А ты не бачыш? Ты кажаш пра канец словаў? Ён аддзяляе пясок ад вады. Ён бачыць, што гэта добра. Чаму ты ўсё яшчэ не бачыш? Вада падае на зямлю, зямля родзіць траву, сеецца насенне, паўстаюць дрэвы плодныя, падаюць плады на зямлю, сеецца насенне, падае вада... Ён бачыць, што гэта добра. Лётае жамяра, плаваюць рыбіны, поўзаюць паўзуны, лётаюць пташкі, ходзяць звяры і ў цемрадзі, і ў святле, і пад Сонцам, і пад Месяцам. Ён любіць іх. Дык чаму ты не бачыш, што гэта добра? Ты чуеш? Чуеш, як падае хваля на пясок? Ты стаіш паміж цемраю і святлом, пад небам і на зямлі. Ты стаіш і ўслухоўваешся ў падзенне хвалі.

**Палатно**

У сутарэннях Палаца мастацтваў набыў маленькае, трыццаць на сорак сантыметраў, палатно. Яно льняное, нацягнутае на акуратны драўляны падрамнік. Яно ўсё яшчэ запакавана ў поліэтылен. Яно стаіць у студыі на паліцы і чакае. Яно чакае, калі я зніму з яго мутнаватую плеўку. Зніму плёнку, і палатно пачне дыхаць паветрам студыі, каб прывыкнуць да яго і пачаць чакаць вугалю ды фарбаў. Цяпер усё значна прасцей з палотнамі, цяпер можна пайсці і набыць сабе палатно, падрыхтаванае да працы. Раней даводзілася самому рабіць падрамнік, самому нацягваць палатно і самому ж грунтаваць яго. О, як пах сталярны клей! Менавіта на сталярным клеі я рабіў грунт. Клей варыўся на нізенькай электраплітцы і пах. Ён пах вялікімі жывёламі, пах быкамі. Падгарэлы сталярны клей пахне сінкрэтызмам. Я сумую па гэтым цэльным паху. Цяпер мае палотны пахнуць толькі ільном. Для майго жывапісу дастаткова расліннага ільнянога водару. Такі водар здатны супрацьстаяць сінтэтычнаму і камбінатарычнаму свету танных цацак. Люблю лён, бо ён мяне натхняе. Ён мяне радуе. Мяне моцна радуе маленькае, сорак на трыццаць, палатно.

**Чалавек-штатыў і танцы**

У маёй сям'і шмат фотаапаратаў. Тата здымаў сваю бедную вёску, цесць фатаграфаваў балет і гарадскія панарамы, жонка здымае прыгажуноў і прыгажунь, брат фатаграфуе добрыя рэчы і добрых знаёмых, дачка фіксуе камераю вясёлае і тэмпераментнае жыццё спартоўцаў і артыстаў. Так што я наглядзеўся на танцы з фотаапаратам побач з сабою і вакол сябе. Мне здавалася — пра фатографаў і фотатэхніку я ведаю ўсё і нават крыху больш, чым мне трэба ведаць. Так мне падавалася, пакуль я не пабачыў Чалавека-штатыва на плошчы Перамогі. У яго была камера з вялізным аб'ектывам, ён здымаў асветлены пражэктарамі абеліск і казаў памагатаму, які трымаў ягоны фотакуфар: «Сядзець дома на свята? Не ўтыкае! На свята трэба выходзіць на вуліцу і здымаць. Фатаграфаванне ў час свята мне ўтыкае. Жыццё павінна ўтыкаць!»

Нават голас у Чалавека-штатыва быў механічны і халодны. Цяпер я ведаю, што пра фотамастацтва я нічога не ведаю, бо назіранне за Чалавекам-штатывам прывяло мяне да адкрыцця: недзе ж ёсць і Чалавек-аб'ектыў з Чалавекам-успышкаю.

**Адламаны палец**

Жудаснае пачуццё выклікае добра апрануты манекен з выламаным пальцам. Скульптура ўжо нібы і не сапраўдная і не мастацкая скульптура, калі ў яе нешта не абабіта, не падрапана, не зашмуляна і не зашаравана. З манекенам усё дакладна наадварот. Ён мусібыць і гладкі, і чысты, і цэлы, не раўняючы, нібыта дзіця. Манекен і шкадуеш, як тое дзіця, і перажываеш за яго, і спачуваеш. Скульптура — рэч дарослая, на ёй павінна адбівацца доўгае і няпростае жыццё. Манекен мусіць ззяць. Які адламаны палец? Схаваць як мага хутчэй... Калі яны яго не хаваюць, тады я сыходжу да іншых, новых, светлых манекенаў, у якіх жыццё наперадзе.

**Хірасіга і дождж**

На гравюрах японца Хірасігі ўсё нібыта выштукавана з бамбуку, нават дождж у яго бамбукавы.

**Цукерка ў чужой руцэ**

Дапамажы хворым дзецям! Падары кнігі ў дзіцячы дом! Купі сіротам цацкі і цукеркі!.. Заклікі, просьбы, прапановы... Нібыта ўсё правільна, нібыта ўсё гуманна і чалавечна. Толькі я сваіх дзяцей вучыў іншаму, вучыў так, як вучылі ў свой час мяне дзед і бабы: «Ніколі не загаворвай з чужым чалавекам! Ніколі нічога не бяры з чужой рукі! Хай ён табе нават шакаладную цукерку прапануе — не бяры!» Можа ты падумаў, што я выступаю супраць дапамогі сляпым, глухім і хворым? Не! Прыніжаным і пакрыўджаным трэба дапамагаць, але дапамога тая павінна рабіцца спакойна і ціха, без ляманту ў сродках масавай інфармацыі, без шоу, а найлепшы варыянт — падтрымай нябогаў ананімна. Чаму так? Публічна і галасна трэба падтрымліваць прыгожых і разумных, таленавітых і дужых, яны вартыя менавіта публічнай падтрымкі. Такіх лягчэй палюбіць, калі ты яшчэ здатны некага палюбіць і падтрымаць, акрамя сябе.

**Ладзімір
і стос чыстай адзежы**

Дзед Ладзімір памёр седзячы. Сабраўся пераапрануцца ў чыстае сподняе і прылегчы. Не паспеў. Прысеў на ложак і сканаў. У чыстае, што ляжала стосам на ложку, яго пераапранулі іншыя людзі. Апошнія два гады дзед жыў адзін. Суседзі раніцаю пабачылі, што сцежка да дзедавага калодзежа замецена снегам, глянулі ў акно. Пад запаленай лямпачкаю дзед, схіліўшы галаў, сядзеў на ложку, нібыта спаў. Суседзі пагрукалі ў шыбу, гукнулі: «Ладзімір!» Яго ўжо не было сярод жывых.

Усе мае блізкія сваякі паміралі лежачы, а дзед Ладзімір — седзячы. Ён нядоўга чакаў сваю смерць, яна з’явілася ў хаце раптоўна. Стаіцызм дзеда Ладзіміра заўсёды служыў для мяне прыкладам.

### Аўгустын і спадзевы

Больш за паўтары тысячы гадоў таму Аўрэлій Аўгустын паспадзяваўся, што адзінай прыкметаю высакароднасці хутка стане веданне літаратуры. Спадзяюся і я.

### Тры талеркі з халадцом

На сваё сямідзесяціпяцігоддзе мама накрыла стол і запрасіла гасцей. Адкаркоўвалася шампанскае і чырвонае віно, гаварыліся доўгія тосты, пілося лёгка і елася-закусвалася са смакам, жартавалася дасціпна і смяялася незнарочыста. Мама сачыла, каб ва ўсіх было поўна на талерках і няпуста ў келіхах.

«Пакаштуйце грыбы, я іх сама збірала. Рыба вельмі смачная. Каму яшчэ гарачай бульбы пакласці? Печаную курыцу з яблыкамі варта паспрабаваць. Пакаштуйце халадзец!» — мама частавала гасцей. Настрой у яе быў цудоўны. Госці казалі, як яны любяць і паважаюць маю маму. Яны жадалі ёй доўгага веку і здароўя.

«Чаму халадзец ніхто не пакаштаваў? Я так старалася, а ніхто не пакаштаваў і не ацаніў…»

Каб зрабіць яшчэ адну прыемнасць маёй маме, госці парэзалі бліскучы халадзец на скрылікі і расклалі па талерках.

Тут Галіна Васілеўская і распавяла гісторыю пра тры талеркі з халадцом.

У тысяча дзевяцьсот сорак шостым годзе сям’я Васілеўскіх атрымала кватэру на трэцім паверсе новага дома на вуліцы Чырвонай, што ў Мінску. Пераезд адбыўся якраз напярэдадні Новага года, таму ўлазіны вырашылі адсвяткаваць каля ўпрыгожанай ёлкі. Час быў паваенны, галодны, і асноўнай святочнай страваю мусіў стаць халадзец. Яго доўга варылі, потым разлілі ў тры талеркі, але а дзясятай вечара ўбачылі, што халадзец усё яшчэ не застыў, таму, паставіўшы талеркі ў начоўкі, вынеслі яго на гаўбец і пакінулі на марозе.

За дзесяць хвілінаў да Новага года хацелі Васілеўскія паставіць галоўную страву на стол, ды ўсе тры талеркі прапалі. Начоўкі стаялі на гаўбцы, а талерак не было. Залезці на трэці паверх не так і лёгка, паверхі высокія, без лесвіцы не дабярэшся. І як ты ўбачыш з зямлі талеркі з халадцом у глыбокіх начоўках?

«Гэта мужчыны з чацвёртага паверха скралі наш халадзец! Спусціліся на вяроўцы і забралі талеркі! Трэба хутчэй падымацца да іх, пакуль яшчэ ўсё не з’елі! Я ведаю гэтых вечна галодных мужыкоў з бліскучымі ваўчынымі вачыма!» — цётка Галіны Васілеўскай павяла сям’ю на чацвёрты паверх.

На званкі і грукат у дзверы ніхто не адгукаўся.

«Сякера! Нясіце сякеру! Будзем дзверы выломліваць! Я ведаю, яны тамака ёсць! Яны ядуць наш халадзец!» — закрычала цётка.

Адзін злодзей пашкадаваў дзверы і адчыніў іх. Рот у злодзея быў напханы халадцом так, што шчокі раздзьмуліся. Другі злодзей сядзеў за сталом, бліскаў злымі вачыма з-пад ілба і запіхваў у рот апошні кавалак халадцу з першай талеркі. Ад такога дэманстратыўнага нахабства Васілеўскія ажно разгубіліся. Скарыстаўшы агаломшанасць прысутных, злодзей, што сядзеў за сталом, выцягнуў з рота відэлец і пачаў ім пароць халадзец у другой талерцы. Ён пароў яго абсліняным відэльцам, каб Васілеўскія пагідзіліся есці папораты халадзец і пакінулі яго агаладалым суседзям.

Здагадлівая цётка, ачомаўшыся ад пабачанага, схапіла трэцюю некранутую талерку з халадцом і выбегла з кватэры рабаўнікоў.

«Хай ядуць! Няхай задавяцца нашым халадцом! У нас яшчэ ёсць адна поўная і чыстая талерка! Пайшлі хутчэй, а то спознімся сустрэць па-чалавечы Новы год!»

Так Васілеўскія сустрэлі тысяча дзевяцьсот сорак сёмы год у новай кватэры з талеркаю смачнага халадцу.

А сёлета мая мама адсвяткавала свой сямідзесяціпяцігадовы юбілей зноў жа з беларускім халадцом на святочным стале.

Еў той халадзец з хрэнам і я. Еў і думаў… Калі ў некага тры талеркі з халадцом, а ў кагосьці ніводнай, дык злачынства здарыцца абавязкова. Злачынства — форма голаду.

## Вова і сон

Вова хварэе, хутка стамляецца і засынае. Учора ён заснуў на маім ложку. Я сядзеў на ягонай канапе і глядзеў фільм «Пасля прачытання спаліць». Вова хацеў паглядзець пра агента 007 і казіно «Раяль», але я адмовіўся, бо мы з ім ужо тры разы разам сачылі за прыгодамі агента Бонда ў Монтэ Карла. Засмучаны Вова пайшоў у маю спачывальню чытаць і тамака з кнігаю «Птушкі Еўропы» ў руцэ заснуў. Я спрабаваў яго пабудзіць, але ён капрызіўся і адмаўляўся прачынацца, давялося перанесці яго на руках. Нёс я нашага соннага хлопчыка і думаў: для мяне сон унука Вовы вельмі важны, для мяне мала што ў свеце важнейшае за сон Вовы, ды нічога і няма ў гэтым свеце больш важнага за сон дзіцяці… Таго, хто не зразумеў, мне зусім не шкада, бо шкада Вову, які захварэў, нэньдзіцца і хутка стамляецца.

## Памежныя колеры

Пад раніцу ў неглыбокім сне ўбачыліся колеры: цёмны задумліва-бэзавы і светлы знервавана-зялёны. Зялёны пачаў заплываць залаціста-лімонным, і я канчаткова прачнуўся ў сонечным пакоі.

## Радэн і сабор

Скульптар Радэн, малюючы натуршчыцу, прымушаў яе хадзіць па майстэрні. Ён маляваў пяром і тушшу, падфарбоўваў малюнкі акварэллю, а натуршчыца хадзіла і хадзіла па атэлье да знямогі. У Радэна быў свой погляд на чалавека, ён называў чалавека саборам у руху. Але для паўнаты такога светагляду ў Радэна не хапае натуршчыка. Для гарманічнага чалавека-сабора, акром натуршчыцы Евы, павінен быць і натуршчык Адам, тады іх рухі набудуць сэнс. Ці маляваў Радэн з натуры натуршчыка з натуршчыцаю ў час эратычнае гульні? Дакладна невядома, але скульптур з падобным зместам у Радэна шмат.

## Самсон і сям'я

Яшчэ ў часы Самсона ваяры ведалі, што сямейных людзей нельга браць у партызаны. Ведаць усе ведалі, але беларусы гэты закон у час апошняй вайны парушалі. Яны ішлі ў партызаны, пакідаючы жонак і дзяцей безабароннымі. Чаму так? Хай гісторыкі разбіраюцца. Галоўнае, не забыць бы пра гэты партызанскі закон…

## Смаляк і подзвіг

Маё сяброўства з Андрэем Смаляком скончылася тады, калі я кінуў піць. Пакуль піў гарэлку, у мяне было шмат знаёмых, з якімі я любіў цэлую ноч прасядзець за сталом, пазастаўляным бутэлькамі. Піць са Смаляком было адно задавальненне; бо і закуска мелася, і пітво не сканчалася. Так, Андрэй мог сто разоў за адзін вечар паўтарыць: «Я — геній!» Спрачацца за гарэлачным сталом не трэба. Дзевяноста адсоткаў забойстваў у нашай талерантнай і лагоднай Беларусі здараюцца за сталом з гарэлкаю ці віном. Выпівалі, спрачаліся, адзін схапіўся за нож, і маем яшчэ адно злачынства з халодным трупам пад раніцу. Ні мне, ні Андрэю труп сабутэльніка не патрабаваўся. Мы пілі, разважалі пра жывапіс, гаварылі пра пакупнікоў карцін, абмяркоўвалі заможных замоўцаў парадных партрэтаў… Жонкі глядзелі на нашае п'янства даволі скептычна, але выпіваць не заміналі. Каб я і далей выпіваў, дык і цяпер па сто разоў на вечар чуў бы Андрэева «Я — геній! І ты — геній! І яна…» Працверазеўшы, я інакш глянуў на творчасць Смаляка. Што б ты мне ні казаў, а подзвіг Андрэй здзейсніў. Бясконцымі паўторамі ён прысабеціў слоўца «геній». Мастак Смаляк стаў геніем, і дзякучы гэткаму пераўтварэнню астатнія мастакі парабіліся анёламі, бажкамі, кумірамі, культавымі творцамі, паўбагамі жывапісу, ідаламі, крэатыўшчыкамі, багамі…

## Іра і Ядзя

Цэлы дзень пісаў на палатне малочна-белую спіну натуршчыцы Іры. Вечарам у студыю зайшла дачка Ядзя. Мы пасварыліся. Яна казала, што я няўважлівы да яе творчасці; я гаварыў, што яна

злоўжывае ненарматыўнай лексікай у размовах з чужымі людзьмі. Дачка заплакала і ўцякла, нават свой ружовабокі сотавік пакінула на маім стале. Я расхваляваўся так, што ажно сашкрэб і змыў з палатна спіну малочнацелай натуршчыцы.

**Фелікс і боль**

Надыходзіць такі момант у жыцці, калі ты пачынаеш рухацца праз боль. Цябе папярэджвалі пра тое, але ты не думаў пра кепскае, спадзяваўся на лепшае. Мяне папярэджваў Фелікс Кучар. «Толькі праз боль і можна ісці, усё лепшае робіцца праз боль!» — ён так сказаў. Я пагадзіўся, бо Фелікс аднаго ўзросту з маім бацькам. Мы абмяркоўвалі сыход майго таты з жыцця, калі Фелікс нагадаў пра боль. Як я мог яму запярэчыць? Цяпер і Фелікса няма. «Часам людзі паміраюць!» — так ён сказаў на развітанне. Боль яго адпусціў, спадзяюся.

**Мора і чалавечнасць**

Мора так ачалавечылася, што нават на пустым даляглядзе людзям бачацца караблі.

**Давер і дзверы**

Ключ ад сваёй кватэры я спакойна магу пакінуць у суседзяў. Учора дачка занесла мае ключы да Граковічаў. Я падзякаваў ім за турботы, адчыніў кватэру і падумаў, што колькі жыву, столькі пакідаю ключы ў суседзяў, а яны, у сваю чаргу, пакідаюць ключы ў мяне. Добра гэта ці кепска? Не задумваўся, бо ўсё жыццё пражыў, так атрымліваецца, з незачыненымі дзвярыма. Нашы ключы былі ў Сурковых і Караткевічаў, а іх ключы былі ў нас. Вера Арэстаўна і Валянціна Браніславаўна, так здарылася, былі ахоўніцамі кватэр, дзе я жыў. Можа толькі мне заўсёды шанцавала з суседзямі? А можа ў мяне няма чаго хаваць ад людзей? Ну няма ў мяне сакрэтных дакументаў, няма вайсковых таямніцаў і шпіёнскіх шыфраў… Але ў мяне ёсць давер да людзей. А хіба можна без даверу да чалавека пакінуць у яго ключы ад дома?.. Не, канешне.

**Гузік і Ван Гог**

Разглядаючы аўтапартрэт Ван Гога з параненым вухам, я лавіў сябе на думцы, што моцна шкадую чужога мне чалавека. Ён у калматай зімовай шапцы ды летне-зялёным палітоне пасмоктвае чорную піпку і пазірае на мяне сцюдзёна-блакітнымі вачыма. Ягонае вуха заматана белай анучай. Празрыста-белы дым клубіцца над піпкаю… Адкуль бярэцца шчымлівае пачуццё шкадобы? Напачатку я меркаваў, што белая павязка на вуху выклікае гэткае моцнае пачуццё, бо такую ж самую павязку рабіла баба Ядзя, калі мне ў дзяцінстве разбалелася вуха. Яно страляла, боль працінаў галаву наскрозь, было кепска, я не мог глядзець на сонечнае святло і ляжаў у пакоі з закрытымі шторамі. Гарачы кампрэс пах халаднаватаю

гарэлкаю. Мае асабістыя ўспаміны накладаліся на аўтапартрэт вялікага галандца і нараджалі пачуццё шкадобы, так я думаў, пакуль не звярнуў увагу на вялікі, на круглы непамерна вялікі зялёны гузік на палітоне. Гузік такі вялікі, што здатны ператварыць дарослага чалавека ў дзіця. Мне шкада дзіця, мне шкада маленькага хлопчыка з хворым вухам.

**Прафесійнае вока**

Вакзал. Натоўп. Дзяўчына! Такую трэба маляваць. Карціна, а не дзяўчына. Боты на абцасах, чорны кароткі палітон, шалік ласкавабэзавы. Каштанавыя кудзеры рассыпаліся па плячах. Светлы твар. А вочы! Якія вочы! Яны цябе заварожваюць сіняй чарнатою. Мне трэба на працу, спазняюся, але спыніўся і разглядаю дзяўчынукарціну. І разумею, што я ўжо маляваў такую дзяўчыну, маляваў шмат разоў. Маляваў я яе даўно, трыццаць гадоў таму. Я маляваў маці гэтай карціны-дзяўчыны, маляваў чорную сінечу яе магічных вачэй. Дакладна, я яе маляваў, бо дзяўчына — мая старэйшая дачка…

**Парадак у майстэрні**

У майстэрні павінен быць парадак. Карціна, хочаш ты таго ці не хочаш, адлюстроўвае асяроддзе. Калі ў майстэрні брудна і поўна рознай непатрэбшчыны, дык і на тваім палатне з’явіцца бруд і смецце. Заявы кшталту: «У мяне хапае сілаў толькі на тое, каб навесці парадак у сваіх творах!» — несусветнае глупства і самападман. Чысціня майстэрні ў пэўнай ступені гарантуе чысціню тваёй творчасці. Таму я старанна прыбіраю майстэрню, імкнуся не трымаць у ёй выпадковых і неабавязковых рэчаў. Таму я складваю свае рэчы акуратна і з любоўю. Але здараюцца і супярэчнасці… Акрылавыя фарбы, якімі я працую на палатне, найлепш змешваць на белай талерцы. Я сам зрабіў гэтае адкрыццё, а толькі потым прачытаў, што гэта звычайная практыка. Свае талеркі з фарбамі падчас працы я старанна мыю па некалькі разоў. Вымытыя талеркі я пакідаў на падлозе, пад чарупінай. Там яны сохлі. Ставіць талеркі на падлогу — кепская звычка, як і звычка класці на падлогу палітру ці камп’ютар. Ведаеш, а кладзеш, бо не надаеш гэтай дробязі асаблівай увагі, пакуль не наступіш на камп’ютар ці не ўлезеш у палітру са свежымі фарбамі. У маім выпадку ўсё скончылася без асаблівай шкоды для рэчаў. Я проста заўважыў, што тры белыя талеркі стаяць побач з унітазам. Мне зрабілася млосна ад такога вялікага белага нацюрморта, які можна было б назваць «Мара капрафага». Пры ўсёй сваёй светласці, бялюткасці і чысцюткасці нацюрморт быў жудасна брудны. Цяпер я не стаўлю свае талеркі на падлогу, цяпер я іх старанна выціраю анучкаю пасля мыцця і стаўлю на адмысловую паліцу, дзе ім добра побач з пластыкавай палітраю і каробкай з

фарбамі. Можаш папракаць мяне за дробязнасць і раздражнёнасць малаістотным, але твае папрокі я не прыму, бо парадак у майстэрні неабходны, бо твая майстэрня, як і твая карціна, адлюстроўвае парадак і чысціню розуму, як сабор адлюстроўвае сусвет.

### Постправаслаўнае штукарства

Углядаючыся ў сучасныя абразы праваслаўных мастакоў, я зрабіў для сябе адкрыццё… Яны пішуць свае наватворы з навуковым падыходам. Разумею, як парадаксальна гучыць мая думка, але інакш пра іх і не скажаш. Ніякіх рэлігійных пачуццяў, ніякіх мастацкіх перажыванняў у постабразах няма. Ёсць камерцыйны разлік, ёсць праявы рамяства, ёсць рацыя. Раней падобную дзейнасць называлі халтураю, але слова «халтура» зашмулялася ад бясконцага ўжытку. Таму я, выключна для сябе, назаву іх дзейнасць постправаслаўным штукарствам.

### Дабужынскі і grosse Linie

Графік Мсціслаў Дабужынскі згадваў, як ягоны настаўнік Ашбе патрабаваў grosse Linie. «Працаваць толькі вялікімі лініямі», — загадваў настаўнік сваім вучням. Мудрае патрабаванне тычылася не толькі графікі і жывапісу, яно тычылася ўсяго жыцця наогул. Сваё жыццё, сапраўды, варта маляваць не дробнымі рыскамі, а выразнымі вялікімі лініямі.

### Хрыстос і грушы з яблыкамі

Хрыстос, напісаны Сурбаранам, уражвае так, што перахоплівае дыханне. Табе здаецца, што лепшага палатна ты ніколі ў сваім жыцці не пабачыш. Ты стаіш, а Хрыстос уздымаецца над табою і ляціць над светам. Няма словаў… Прыгаломшаны, ты паварочваешся спінаю да рукатворнай велічы, робіш некалькі крокаў і бачыш «Грушы». Звычайныя, крыху зеленкаватыя грушы, напісаныя тым жа ж Сурбаранам. Спакой і цішыня вакол груш. Табе робіцца добра. Ты адчуваеш, што грушы ў Сурбарана атрымаліся значна лепей за Хрыста. Адчуваеш, але ўслых не прагаворваеш сваё адкрыццё. Каб яго спраўдзіць, ты разглядаеш «Зняцце з крыжа», вымаляванае рукою Сезана, і параўноўваеш яго з яблыкамі. Яблыкі ў Сезана зроблены больш пераканаўча за вобраз Хрыста. Здавалася б, пасля такой відавочнай і пераканаўчай з’явы ты не павінен маляваць Ісуса. Ты мусіш загадзя прызнаць сваю паразу і пісаць чырвоныя яблыкі з зеленкаватымі грушамі, пісаць шкляныя бутэлькі і металёвыя кубкі. Не, ты не скараешся, ты спрабуеш напісаць Хрыста. Ведаеш, што з гэтага амаль нічога не атрымаецца, але верыш у абавязковасць такой спробы, як верылі Сезан і Сурбаран.

## Правадыры

Шархаценне слухаю. У шолахі, у шэпты, у пасвістванні і ў пастогванні ўслухоўваюся. На большае я і не здатны. Ляжу і прыслухоўваюся, як павольна і з заміраннямі сыплецца тонкі пясок увушшу. Кроў рухаецца ў маім змораным ды ператомленым целе. Знешні свет сцямнеў, страціў каляровасць і згубіў гучанне, таму ляжу з заплюшчанымі вачыма і ўслухоўваюся ў свой непраяснены ўнутраны стан. Занураюся я ў яго, запакоўваюся, нібыта — я немаўля, і нехта спавівае мяне ў мяккую пялюшку. Мне мулка, цесна, задушліва і няўтульна, але расплюшчыць вочы не магу і сказаць нічога не здатны, язык не паварочваецца. У такі момант я згадваю сваіх праважатых: Казіка і Броніка з Кісялёў…

Некалі майму таварышу з паэтаў споўнілася трыццаць тры, мы адзначалі ягоны дзень народзінаў, пілі белую на маёй кухні. «Адчуў, што мяне цягне да зямлі… Быў лёгкі, светлы, паветраны, а тут — трыццаць тры — і пацягнула да глебы. У трыццаць тры мяняецца стыхія чалавека, для мяне яна змянілася з паветранай на зямную…» — так казаў мне таварыш з паэтаў, і яшчэ ён казаў: «Паміраць не баюся, зусім. Бо на небе мяне будуць чакаць добрыя людзі. Тут я памру, а тамака яны накрыюць стол з пачастункамі. Я прыйду да іх і вып'ю з імі белай так, як сягоння выпіваю з табою… Не страшна мне паміраць…»

Днямі мой таварыш, той, што з паэтаў, памёр у Кёльне, ён заснуў і не прачнуўся, лёгкі сыход. Ён і не баяўся сысці, бо яго чакалі тамака добрыя людзі. Чамусьці ён уяўляў сустрэчу з людзьмі знакамітымі і сусветна вядомымі. Ён казаў, што сустрэнецца тамака з Мантэнем. Не было ў майго паэта і сумневаў наконт таго, што трапіць ён адразу ў райскі сад. Ён так метафарычна апісваў рай са сталом, на якім з талеркі выкіпае вінаград, што я нават паверыў яму. Ён выбудоўваў свой рай з дзедам марозам, снягуркаю і пеўнем на ланцужку, з морам, складзеным з веласіпедных рулёў, і са скарбонкамі, падобнымі да чарапах, і з чарапахамі, падобнымі да аздобленых каштоўнымі камянямі скарбонак.

Які ў мяне рай? Ці чакаюць мяне там? Калі чакаюць, дык хто? Такія пытанні і я пачаў задаваць сабе пасля трыццаці трох. Мяне не пацягнула да зямлі, мая лёгкая паветраная сутнасць змянілася на прахалодную бруістую празрыстую водную стыхію. Мая сутнасць плыла ў зменлівай плыні, а на беразе мяне чакалі правадыры. Я іх пазнаў. Як я мог іх не пазнаць? Гэта былі мае сваякі — нябожчыкі Бронік і Казік, сыны Ваці і Мані Кісялёў. У руках Броніка я бачу чамаданчык, невялічкі чорны чамаданчык, поўны жоўтых антонаўскіх яблыкаў, пазагортваных у газеты, каб не пабіліся. Калі

нехта мяне і сустрэне ў іншасвеце, дык гэта Казік і Бронік, мужчыны ў брунатных капелюшах. Яны пачастуюць мяне духмяным антонаўскім яблыкам, каб крыху перакусіць з дарогі. Мы пойдзем… Далей я нічога не бачу, адно чую шархаценне пяску, які сыплецца павольна, з заміраннямі.

Часам у тым шолаху чуецца голас маці Броніка і Казіка, голас бабы Мані: «Людзі, што з'яўляліся ў нашым лагеры ў лакіраваных чаравіках, не выжывалі. Той, хто прыязджаў у ботах ці простых чобатах, неяк трымаўся, неяк жыў, неяк спадзяваўся на вяртанне. Людзі ў лакіраваных чаравіках хутка паміралі… Унучка (Маня звяртаецца да Казікавай дачкі — Валі), не купляй ты болей лакірак. Не абутак гэта для нашых людзей. Крый Бог, трапіш у лагер, дык і не выжывеш, а табе трэба жыць і жыць…»

Сыплецца, сыплецца пясок часу… Хутка мая водная стыхія зменіцца на вогненную, а пазней і на зямную. У цяжкі для сябе час я бачу сваіх правадыроў — Казіміра і Браніслава. «Яшчэ не час, — кажуць яны мне, — яшчэ…»

## Хвалі, хвалі…

Не шкадую страчанага часу, не пераймаюся змарнаванымі на нішто днямі ўласнага жыцця. Сэнс? Знайсці памылковыя крокі, ганебныя ўчынкі, раскаяцца, каб пашкадаваць пра несвоечасовае раскаянне? Але позна ўвечары я люблю пасядзець у кабінеце з выключаным святлом, каб падумаць пра няздзейсненае. Мо сярод былых намераў яшчэ засталося якое разумнае жаданне? Учора задумаўся пра марскую хвалю. Яна заўсёды вабіла і вабіць чалавека. Мастакі пільна ўглядаліся ў хвалю, спрабавалі спыніць няспыннае. Хакусай, Айвазоўскі, Ван Гог, старажытны грэчаскі меандр… Першае, што згадалася. Мастакі ўсіх часоў ушаноўвалі хвалі. Паэты, услухоўваючыся ў пошум марской хвалі, выбудоўвалі паэтычныя рытмы. Навукоўцы… Каб я меў магчымасць вярнуцца ў юнацтва і тамака наноў выбраў сабе занятак жыцця, пэўна, я стаў бы матэматыкам, бо лічба зачароўвае мяне гэтак жа моцна, як і слова. Стаўшы матэматыкам, я ўсё адно прыйшоў бы на марскі бераг, да хвалі, і гэтак жа позна ўвечары думаў бы пра яе жыццядайнасць. Ці, магчыма, я б задумаўся пра хмару…

## Міцкевіч і д'ябал

Люблю натоўп стракаты, гаманкі, вясёлы. Неаднойчы я распавядаў і пісаў пра сваю любоў да людных месцаў. Пра небяспеку ў людной таўкатнечы я таксама ведаю, але выказванне Адама Міцкевіча мяне насцярожыла… «Д'ябал — баязлівец, ён баіцца адзіноты і заўжды хаваецца ў натоўпе», — сцвярджаў польскі рамантык. І прачытаў я гэта пасля нядзельнага шпацыру па горадзе, у якім католікі

святкавалі Вялікдзень, а праваслаўныя — Вербную нядзелю. Наступнае назіранне Міцкевіча за д'яблам яшчэ больш збянтэжыла… «Д'ябал шукае цемры, і трэба ад яго хавацца ў святло», — казаў Міцкевіч. Было б усё лагічным, каб у святле і сонечнасці не віравалі натоўпы. Дзеля супакаення я пачаў згадваць бязлюдныя саборы. Што-што, а саборы я люблю наведваць у будзённыя дні, калі людзей тамака амаль няма.

## Развод і нуда

Калі дзеці пачынаюць казаць пра развод, на цябе навальваецца нуда. Ты нібыта бачыш, як разрываецца і разыходзіцца каштоўная тканіна, а ў цябе няма ні чароўнай іголкі, ні патрэбнай ніткі, каб тую тканіну сшыць. Уяўленне малюе марныя спробы зрабіць хоць нейкае шво на цяжкай тканіне, шво ўяўляецца нязграбным і нетрывалым. Тканіна распаўзаецца і разлазіцца. Нуда мацнее. Такое адчуванне, што вось-вось страціш і дзяцей, і ўнука. Страціш іх усіх разам. Самападманы не дапамагаюць. А якім непатрэбным выглядае ўспамін пра вялікае і гаманкое вяселле! Зрэшты, на вяселлі сваіх дзяцей ты таксама безнагодна нудзіўся.

## Кантраст і гарманічнасць

Не веру тым, хто піша выключна пра пазітыў. З юнацтва ў мяне выклікалі гідоту заклікі кшталту «Рабяты, давайце жыць дружна!» Бо гэта было нішто іншае як перароблены для вялых інфантылаў лозунг «СССР — краіна дружбы народаў!» Газетныя калонкі з назвамі «Толькі добрыя навіны» і «Светлыня» я нават не спрабую чытаць. Святло мы бачым і любім, дзякуючы ценям. Выразнасць, наогул, будуецца на кантрасце. Можна працаваць і на паўтанах, і разважаць пра вельмі зблізаныя афарбоўкі, можна любавацца бліцамі і захапляцца рэфлексамі, але толькі тады, калі правільна ўбачыш кантраст. Можна і трэба есці дэсерт, але перад гэтым ты мусіш з'есці і салату, і суп, і другое… Кепска пачынаць святочны абед з выкалупвання ў торце ружовых цукатаў. Выбачай, што кажу спрошчана, нібыта для дэбілаў. Але дэбілізм апаноўвае свет, а гэта небяспечна. Дэбілы будуць гуляцца са святлом, будуць патрабаваць усё болей і болей пазітыву. Яны будуць прагнуць больш і больш феерычнасці, ажно пакуль не падпаляць дом. Яны ж не разумеюць, што заўсёды светла каля турэмнай сцяны. Не разумеюць, што цень і цемрадзь адсутнічае толькі ў тым доме, які гарыць з чатырох вуглоў. Разбэшчаным пазітывам можна нарабіць шкоды не менш чым самым найчарнейшым негатывам. Гармонія знаходзіцца ў збалансаванасці светлага і цёмнага, у правільнасці прапорцый пазітыўнага і негатыўнага, а не ў наданні святлу адназначнай перавагі над цемраю.

## Укусы і жывапіс

Так бы й з’еў, думаеш, гледзячы на апетытнае жаночае цела колеру адтопленага малака. Яна сядзіць сабе на крэсле, пазіруе, ты малюеш яе торс з цяжкаватымі грудзямі, малюеш яе гладкія і светлыя плечы. Ты малюеш і думаеш: так бы й з’еў. Жаданне ўкусіць жанчыну натуральнае, яно можа выліцца ў пацалунак, а можа застацца жывапісам на палатне. Большасць маіх жаданняў застаюцца ў малюнках і на палотнах. Ёсць у гэтым біялагічная няправільнасць, ёсць пэўная адхіленасць ад прыроды, ад той вялікай і непадзельнай прыроды, у якой прайшло маё дзяцінства. Там раззлаваны Пэлька ўкусіў каня за губу. Ягоны конь спыніўся пасярод рэчкі, і што Пэля ні казаў каню, як ні лупцаваў яго лейцамі, конь не слухаўся свайго гаспадара Апалінарыя, стаяў сабе ў плыткай халаднаватай вадзе пад спякотным сонцам. Ад злосці ды крыўды Пэля і ўкусіў каня за губу. Той спалохаўся і выйшаў з рэчкі на дарогу. Даўно няма таго каня, даўно памёр Апалінарый, абязлюдзела і наша вёска Babакомшчына, але гісторыя пра Пэлю, які ўкусіў свайго каня за ніжнюю губу, усё яшчэ помніцца. Гэтым разам гісторыя згадалася мне, калі чытаў апавяданне Жуля Рэнара пра асла і ягонага гаспадара. «Жако манатонна, без выразу цягне, нібыта храпе ў сне: «Но-о! Но-о!» Час ад часу асёл спыняецца: ці то яго спакусіў дзядоўнік, ці то ён проста пра нешта задумаўся. Тады Жако абхоплівае яго за шыю і папіхае наперад. Калі асёл заўпарціцца, Жако пакусвае яму вуха...» Чытаеш пра пакусанае аслінае вуха, згадваеш укушаную конскую губу, і з’яўляецца жаданне вярнуцца да вялікай прыроды, стаць такім Жако ці Апалінарыем. Але ты не вернешся туды, ты застанешся маляваць сваю натуршчыцу, а твой намер укусіць яе перальецца ў сціплы жывапіс на льняным палатне.

## Фарба ў майстэрні

Развітаўся з чарговым малюнкам. Паляцелі ў далёкі свет мае восеньскія лісты. Заўтра пайду і панакупляю на заробленыя грошы палатна і фарбы. Раней не было жадання назапасіць матэрыялаў для жывапісу, купляў пакрысе. Цяпер накупляю шмат рознакаляровай фарбы і акуратна пастаўлю ў майстэрні. Яны будуць мяне чакаць. Некага дома чакае ласкавая і муркатлівая котка, некага — вясёлая сучка ці пташка ў клетцы, а мяне будзе чакаць, моўчкі стоячы на паліцы, фарба.

## Салалайка і гандаль

У дзіцячым садзе мы праходзілі школу маладога байца. Нас вучылі арыентавацца на мясцовасці, знаходзіць у лесе поўнач і поўдзень, нас вучылі хавацца, вучылі бегаць, вучылі хутка засцілаць ложак і хутка апранацца... Нашыя выхавальніцы, зенітчыца Клаўдзія Іванаўна і

разведчыца Эма Казіміраўна, лічылі, што вайсковай навукаю трэба займацца з самага дзяцінства. Нас выхоўвалі мужнымі салдатамі Радзімы, якія ў цяжкія часы абароняць яе ад ворагаў. А яшчэ Эма Казіміраўна вучыла нас гандляваць. Мы з ёю ўвесь час гулялі ў краму. Адзін мусіў быць пакупнікам, а другі гандляром, потым мы мяняліся ролямі, пакупнік рабіўся прадаўцом, а гандляр — наведнікам крамы. У маім фотаальбоме і зараз захаваўся здымак, на якім Алег Салалайка гуляе са мною ў краму. Я прадаю яму вылепленую з каляровага пластыліну гародніну, ён разлічваецца самаробнымі грашыма. Апошні раз я бачыў Салалайку ў 1965 годзе, калі мы з дзіцячага сада перайшлі ў розныя школы. Што з ім стала, не ведаю, але веру: салдацкая і гандлярская навукі яму, як і мне, дапамагаюць усё жыццё.

**Недавукі і перавучкі**

Пра недавукаў шмат гаварыць не трэба, іх і так усе ведаюць. Вучыўся, заленаваўся, пакінуў навучальную ўстанову, праз нейкі час спахапіўся і саматугам спрабуе давучыцца, але навука яму не даецца, ён да апошніх сваіх дзён будзе спрабаваць давучыцца, але так і не скончыць навучальнай установы, так і не атрымае сістэмных ведаў. З перавучкаю іншая праблема. Вучыўся, давучыўся, і замест таго, каб пайсці працаваць, ідзе вучыцца далей. Яму трэба працаваць, а ён усё вучыцца і вучыцца, жыве на стыпендыю, жыве на гранты, жыве жабраком, і вучыцца-вучыцца, спадзеючыся даведацца нейкі сакрэт ці нейкую запаветную таямніцу. Ніякай таямніцы яму не адкрываецца, але ён спадзяецца, бо верыць у моц навучання. Так ён давучваецца да самай пенсіі, так ён і не папрацаваў, так нічога і не зрабіў, бо ён жа вучыўся. Пра перавучак гэтаксама не трэба шмат разважаць, бо людзі яны пустыя, у адно вуха заляцела, з другога вылецела. Раней у нашым грамадстве было шмат недавукаў, а цяпер зашмат перавучак.

**Алег і капуста**

**КОЖНУЮ РАНІЦУ ЁН ВАРЫЦЬ КАПУСТУ. НЕХТА ВАРЫЦЬ РЫС, ХТОСЬЦІ — ГРЭЧКУ ЦІ АЎСЯНКУ, А ЁН ВАРЫЦЬ НА СНЯДАННЕ І ВЯЧЭРУ КАПУСТУ. КРЫШЫЦЬ, КІДАЕ Ў РАНДЭЛЮ, ЗАЛІВАЕ ВАДОЮ І ВАРЫЦЬ КАПУСТУ. СНЕДАЕ, ІДЗЕ НА ПРАЦУ... НЕІСТОТНА, ДЗЕ І КІМ ЁН ПРАЦУЕ, ЁН ЁСЦЬ ТЫМ, ШТО ЕСЦЬ, А ЁН ЕСЦЬ КАПУСТУ І РАНІЦАЮ, І ЎВЕЧАРЫ. ПА ДАРОЗЕ З ПРАЦЫ ДАМОЎ ЁН КУПЛЯЕ САБЕ ГАРЭЛКІ ЦІ ПІВА. БЫВАЕ, ЁН КУПІЦЬ ГАРЭЛКІ, А ЗДАРАЕЦЦА, НАБЯРЭ ПІВА ЦІ ВІНА, У ПІТВЕ АЛЕГ НЕПАСЛЯДОЎНЫ, ЁН ПАСЛЯДОЎНЫ Ў ШТОДЗЁННЫМ, ШТОРАНІШНІМ ДЫ ШТОВЯЧЭРНІМ ПАЯДАННІ КАПУСТЫ. КАЛІ ЁН ПАКІНЕ НАШ**

**СВЕТ, ПРА ЯГО МОЖНА БУДЗЕ СКАЗАЦЬ: «ЁН ЕЎ КАПУСТУ. УСЁ АСТАТНЯЕ НЕІСТОТНА...»**

**Алена і пяць рублёў**

Жонка прачнулася радаснай, ажно ўся свяцілася. «Добры сон бачыла?» — пытаюся ў Алены. «Снілася... Здала я наш «мэрс» на станцыю тэхабслугоўвання, вяртаюся дамоў на таксоўцы. Прыехала. Даю таксоўшчыку дзесяць рублёў, а ён кажа, што мала і трэба яшчэ пяцёрка. Мы на дзесяць дамовіліся... Кажу. Мала... Кажа. Тут і прачнулася. Добра! Пяць рублёў зэканоміла».

**Птушыны вандалізм**

Бывае, ночы ў нашай сталіцы напоўнены выбухамі петардаў, ад таго вароны ў суседніх скверах і парках зрываюцца з дрэваў і лётаюць над маёй вуліцаю з гучным незадаволеным карканнем. Разглядаючы палёты ўстрывожаных пташак, я згадаў гісторыю, расказаную жонкай па вяртанні з Монтэ-Карла. Там яна назірала птушыны вандалізм. Чарада паўпапугаяў-паўвераб’ёў сядала на дрэва і пачынала абдзіраць з яго лістоту, той, хто першы заўважаў птушыны напад на дрэва, адразу ж выклікаў паліцыю. Машына з паліцэйскімі з’яўлялася імгненна. Яна спынялася пад дрэвам і пачынала гучна каркаць, дробныя птушкі-вандалы палохаліся, чарада ўзвівалася высока ў неба і тамака прападала. У Беларусі яшчэ не назіраюцца акты птушынага вандалізму, у нас, у адрозненне ад Манака, вандалізм творыцца людзьмі, а птушкі праз яго пакутуюць.

**Цесць і чарка**

Цяжка жыць, калі табе пад дзевяноста. Хваробы, слабасць, незадаволенасць светам, падрыхтоўка да сыходу... У цесця здарыўся другі інсульт. Дактары настойваюць на шпіталізацыі. Цесць упарціцца, адмовіўся ехаць у лякарню, патлумачыў гэта тым, што ў бальніцы яму не дадуць выпіваць штодзённую чарку каньяку. Доктарка — былая аднакласніца маёй дачкі Ядзі — паабяцала дамовіцца з медсёстрамі, каб яны дазволілі пацыху выпіваць. «Не хачу я пацыху выпіваць, я буду выпіваць каньяк, седзячы за сваім сталом, выпіваць са сваёй любімай чаркі!» — сказаў цесць, і дактары адступіліся.

**Басё і дарога**

Калі не спыніцца, застанешся паэтам і не станеш настаўнікам... Ёсць такое меркаванне. Паэзія — падарожжа ў невядомае. Паэзія — вечнае вандраванне. Паэт — вандроўнік, які не можа спыніцца нават у час смерці. Доказам можа паслужыць перадсмяротная песня Басё:

*Змогся ў дарозе,*
*па колу ляціць мой сон*
*над полем пустым...*

## Песня з чужой кватэры

За сцяною сусед слухаў песню. Дзень слухаў, два слухаў, тыдзень слухаў адзін і той жа дыск. Мне песня надакучыла з другога праслухоўвання, а яму яна легла на душу. Ён ставіў і ставіў яе зноў наноў. Калі я сабраўся пайсці і сказаць, што песня мяне дастала, сусед, нібыта пачуўшы пра мой агрэсіўны намер, перастаў слухаць зненавідную песню. Я пра яе ўжо пачаў забывацца, я яе амаль забыўся, і тут ён зноў завёў яе на поўны гук… Так паўгода і прайшло, мы з суседам слухалі адну і тую ж песню, ён слухаў любімую, а я — зненавідную. Тыдзень таму раніцай я ўбачыў ключы ў суседскіх дзвярах. Ключы тырчэлі ў замку, а дзверы былі зачыненыя. Шанц! Можна пайсці і зламаць ягоны прайгравальнік, ці дыск з песняю пашкодзіць, каб больш за маёй сцяною не гучала тратататацкая песня. Не пайшоў, не зламаў, не пашкодзіў і не папсаваў. Мог і не зрабіў. Стрымаўся. Але шанц мой ад гэтага не прапаў, бо ў дзверы мне пазваніў сусед з паверха вышэй. Ён прапанаваў забраць мне забытыя ў дзвярах чужыя ключы. Я адмаўляўся, бо зусім не хацелася звязвацца з ключамі чалавека, якія слухае кепскую песню. Сусед з верняга паверха настойваў. Сам ён з дома сыходзіць, таму лагічней будзе, каб ключы засталіся ў мяне. Я напісаў запіску і забраў ключы. Думаў: праз якую гадзіну гаспадар ключоў з'явіцца і інцыдэнт вычарпаецца. Ніхто не з'явіўся ні праз гадзіну, ні праз дзве, ні праз тры. Я дапісаў у запіску номер свайго сотавага тэлефона і сышоў дамоў… Падзеі, пра якія я распавядаю, адбываліся не ў доме, дзе я жыву, а ў доме, дзе знаходзіцца маё мастакоўскае атэлье, што на сталічным праспекце Незалежнасці. Вокны атэлье выходзяць на праспект, як і вокны кватэры з дурной песняю. Я вырашыў паспадзявацца на лёс і пачакаць. Чакаць давялося тыдзень… Мяне крыху непрыемна здзівіла адна акалічнасць. Мая запіска знікла на другі ж дзень. Новую запіску я не стаў пісаць, сэнсу не бачыў і паленаваўся. Вырашыў: буду званіць у суседскія дзверы два разы на дзень, калі прыходжу ў атэлье і калі сыходжу. Званіў я спраўна, ніхто не адгукаўся. Нарэшце, і мне пазванілі ў дзверы. «Я атрымаў запіску пра ключы!» — сказаў мне аматар паганай песні. «На ключы! З цябе бутэлька!» Сусед пакруціў ключы ў руцэ, здзівіўся і сказаў: «Не мае ключы! Яны сапраўды былі ў маіх дзвярах?» — «Праўда!» — «Яны ж зусім не падобныя да маіх ключоў! Яны падобныя да ключоў Алены з кватэры насупраць! Давай паспрабуем адчыніць дзверы Алены…» Сусед уставіў ключ у замок суседкі. «Стой!» — спыніў я суседа. «Чаму?» — «Таму, што ты будзеш разбірацца з гэтымі ключамі ўжо без мяне…» — «Чаму?» — «Не хачу і ўсё!» Зачыніў дзверы. Пайшоў да прайгравальніка і запусціў песню, я запусціў песню, якую любіў сусед.

Каб яна мяне перастала раздражняць, я вырашыў яе палюбіць і палюбіў. Цяпер я слухаю і слухаю песню сербскіх партызанаў «Бэла, чао» па некалькі разоў на дзень. Калі яна гучыць у маім атэлье, яна мне вельмі падабаецца, у маёй студыі яна гучыць зусім не так, як з-за суседавай сцяны. Паслухай: «Адзіны шлях мой да партызанаў… Чакае нас няроўны бой…»

## Малевіч і шчырасць

«Мне не патрэбна шчырасць, мне патрэбна ісціна!» — казаў праўдзівы мастак Казімір Малевіч. Доўгі час мне падабалася жорсткае выказванне, бо навокал віравала столькі шчырых мастачкоў-аматараў і пісьменнікаў-паўграфаманаў, што сапраўды была вялікая патрэба ў прафесіяналізме, які абапіраецца на ісціну. Сягоння ў нашым грамадстве іншая бяда: прафесіяналізм выпхнуў на маргінэз творчага жыцця шчырасць. За рамяством і агульнавядомымі ісцінамі цяпер хаваюцца ледзяная раўнадушнасць і звычайная хлусня. Таму скажу ўслед за Малевічам… Мне не патрэбны вядомыя ісціны, мне патрэбна чалавечая шчырасць!

## Бацацыркі

На сучаснай жанчыне ўсяго-ўсялякага столькі накладзена, намазана, насыпана, начапляна, нацягнута, што ўзнікае жаданне зацягнуць яе ў душ і адмыць, адскрэбці, адшараваць. Лакі, фарбы, пудры, карункі, бразготкі, бацацыркі, пярсцёнкі, бранзалеткі, ланцужкі, завушніцы, стразы, памадкі паблісваюць, паміргваюць, зіхацяць, пазвоньваюць, стракацяць, пастукваюць, шапацяць, шархацяць, пакалыхваюцца, пагойдваюцца. Яны ілгуць, падманваюць, хлусяць! Вока адмаўляецца глядзець, вуха адмаўляецца слухаць, нос не жадае адчуваць. За нос крыўдна найбольш, яго гвалтуюць хвалямі саладжава-ванітнай парфумы, змяшанай з потным духам. «Ідзі ты ў баню!» — ёмкі выраз, які варта кінуць у кожную другую сучасную жанчыну. Не пачуюць, не паслухаюцца, не зразумеюць. Будуць жыць з лішкамі непатрэбшчыны на сабе, вакол сябе і ў сабе. Нават пасля смерці яны сыдуць пад траву забыцця, пад цёмную зямлю, пад жоўты чысты пясок у штучных, танных і непатрэбных бацацырках.

## Гальштуканосцы

У маёй шафе для вопраткі вісяць гальштукі, якія пражылі там цэлы год без усялякай патрэбы. Раней я любіў насіць кашулю пад пінжак і гальштукі любіў падбіраць да кашулі. У мяне іх шмат назбіралася розных: аднатонных і стракатых, каляровых, шэрых і чорных. Цяпер я не заціскаю вузел на шыі. Змяніў стыль. Мастаку ды літаратару гальштук насіць неабавязкова, калі ён не імкнецца зрабіць кар’еру ў дзяржаўных іерархіях. Кар’ерны рост мне ніколі не пагражаў, таму я

ніколі і не быў штодзённым і заўзятым гальштуканосцам. Я насіў кашулі з гальштукамі, бо мне падабалася выдавецкая офісная эстэтыка. Цяпер мяне прываблівае стыль мастакоўскага атэльє, дзе гальштук выглядае чужынцам. Разглядаючы свае сумныя гальштукі, я прыдумаў слова «гальштуканосец». Раней светам кіравалі крыжаносцы, а цяперака — гальштуканосцы. Яны вераць, што, заціснуўшы вузел на ўласнай шыі, хапаюць Бога за бараду і ўвесь свет належыць ім. Гальштуканосцы ў нас паўсюль, але сягоння не іх час. Сягоння крызіс гальштуканосцаў, яны разгубіліся, яны страцілі твар, яны не ведаюць, што казаць людзям пра заўтрашні дзень. Свет гальштуканосцаў скасабочыўся. Яны глядзяць на спартоўцаў, на святароў, на мастакоў і дзівяцца, што ў тых няма ніякага крызісу. Чаму? Чаму крызіс толькі ў гальштуканосцаў? А таму, што ў нашым свеце перавытворчасць, у нас перапрысутнасць гальштуканосцаў. Іх трэба скараціць. Каму патрэбныя легіёны дробных гальштуканосцаў, апроч саміх гэтых мізэрных гальштуканосцаў? Ды нікому. Але калі ты думаеш, што я зараз пабягу выкідаць свае дарагія гальштукі, ты памыляешся. Не пабягу, бо я запланаваў зрабіць касметычны рамонт у сваім выдавецкім офісе. Я павыкідаю непатрэбнае, пафарбую сцены ў святлейшыя колеры, на вокны павешу новыя жалюзі і зноў пачну з гадзіны да пяці насіць белую кашулю і чорны гальштук.

**Брытва**

Жанчыны мяне, хутчэй за ўсё, не зразумеюць, бо небяспечная брытва — мужчынская рэч. Зараз я галюся Gillette Mash 3, задаволены цалкам, але люблю сапраўдныя небяспечныя брытвы. У дзяцінстве, калі дзед Бронік правіў на скураным пасе трафейную нямецкую брытву, я марыў пра той час, як стану дарослы, як завяду памазок і місачку для мыльнага шума, як стану чыста галіцца. Чапаць дзедаву брытву мне, само сабой, не дазвалялася. Таму жаданне займець спраўную брытву здзейснілася значна раней, чым я стаў галіць уласны твар. Брытваю я не галіўся, брытваю я вастрыў алоўкі, каб маляваць. Я вастрыў мяккія алоўкі і часам думаў пра малявальшчыка Ван Гога, які хацеў такой жа ж брытваю зарэзаць найлепшага таварыша — малявальшчыка Гагена. Ван Гог бег па вуліцы французскага мястэчка Арль з брытваю ў руцэ, ён даганяў Гагена, той спыніўся і азірнуўся, Ван Гог сумеўся. Ён зніякавеў і вярнуўся ў майстэрню, дзе небяспечнай брытваю адхапіў сабе вуха. Ван Гог адмыў ад крыві адрэзанае вуха, паклаў у капэрту і падараваў капэрту з вухам сяброўцы Рашэль. Жанчына не зразумела такога ахвярапрынашэння. Жанчыны кепска разумеюць небяспечныя мужчынскія гульні з брытвамі і адрэзанымі вушамі, ад гэтага

неразумення наш свет крышку дабрэйшы, чым мог бы быць, калі б жанчыны зразумелі сутнасць жорсткай мужчынскай гульні.

**Чаравікі**

Выйшаў з майстэрні і сустрэў Святлану. Яна несла з крамы вялікі пакет з прадуктамі. «Давай пакет, паднясу да метро…» — «Не дам. Такому саліднаму мужчыну прадуктовы пакет не пасуе!» — «У мяне няма ніякіх комплексаў наконт пакетаў. Я іх столькі ўсім пападносіў… Света, а чаму ты вырашыла, што я — салідны мужчына?» — «Ты паглядзі, як блішчаць твае чаравікі. Яны так блішчаць, нібыта ты іх толькі купіў!» — «Дык я іх першы раз сягоння абуў. Раніцаю схадзіў у краму і набыў сабе чаравікі prada» — «Ты адзін ходзіш у абутковую краму?» — «Адзін…» — «Думала: ты ходзіш з любімай жанчынаю, каб яна дапамагла ацаніць і выбраць табе чаравікі…» — «Крама маленькая, у ёй не змесцяцца ўсе мае любімыя жанчыны. Адзін хаджу, а то пойдзеш з жанчынамі, яны панавыбіраюць чаравічкаў сабе, давядзецца іх купляць, а я чалавек эканомны. Наогул, не хацеў купляць новыя чаравікі, але старыя парваліся. Натуральна, парваўся адзін чаравік. Я так моцна зацягнуў матузкі, што чаравік не вытрымаў. Я заўжды моцна зацягваю матузкі. Звычайна рвуцца матузкі, а гэтай раніцаю парваўся чаравік. Хацеў быў занесці яго ў абутковую майстэрню, пачаў разглядаць уважліва, а ён за зіму ўвесь знасіўся. Выкінуць шкада, а і насіць не паносіш…» — «Не веру я табе, ты каму іншаму распавядзі пра свае чаравікі, а мне не трэба. Дзесяць гадоў я цябе ведаю, і дзесяць гадоў ты ходзіш у выдатных чаравіках. Так што пакет я табе не дам!» І не дала.

**Мядовы палац**

Куды ні глянь, паўсюль у нашай краіне набудавалі лядовых палацаў. Ганяюць людзі шайбу па лёдзе і мячыкі па траве качаюць, на здароўе. Часам у палац спорту прыходзяць іншыя людзі і ладзяць там мядовы кірмаш. Нешта антымастацкае ёсць у мядовым кірмашы, калі яго праводзяць у палацы для спартовых гульняў. Чаму не збудаваць мядовы палац? Мядовы палац… У дзяцінстве мне падабалася мінская крама «Дары прыроды», дзе прадавалі арэхі і мёд. У ёй заўжды смачна пахла свежай садавіною. Мядовы палац — архітэктурны праект, варты ўвасаблення, так мне падаецца.

**Знікненне жаданняў**

Чуў і чытаў пра знікненне жаданняў з узростам: чым ты старэйшы, тым меней у цябе розных памкненняў і хаценняў. Цяпер я чакаю, калі ў мяне прападзе ранкавае жаданне курыць. Устаю раніцаю і прыслухоўваюся да арганізма… Мо ў яго, нарэшце, знікла прага да кавы з цыгарэтаю? Паслухаю яго, пакуль зубы чышчу ды апалосквваю твар халаднаватай вадой, паслухаю і зноўку пераканаюся: арганізм

жадае ўжыць тытунёвы дым і моцную чорную горкую каву. Добра, што ён не хоча выпіць гарэлкі. Раней хацеў. Ён і цяперака можа пажадаць гарэлкі, але я яму цвёрда адмаўляю. Выдатна, што ягоныя ранішнія пажаданні абмяжоўваюцца каваю і цыгарэтаю. За сваю каву і цыгарэту ён у мяне мусіць яшчэ шмат чаго зрабіць, напрыклад: прабегчы вакол парку, прыняць душ, пагаліць твар, апрануцца ў працоўны строй, з'есці талерку аўсянай кашы… Калі даядаецца каша, я ўжо не спадзяюся на сягонняшняе знікненне жадання пакурыць, я спадзяюся на заўтрашняе знікненне…

**Рэклама ў Маскве**

Рэкламны рынак Масквы абрынуўся ў крызіс. Што рэкламаваць на шэрых і брудных вуліцах, калі ў людзей усё меней і меней рублёў па кішэнях? Учора я пабачыў на рэкламным стэндзе чырвонага каня. З халоднай і вільготнай шэрасці на мяне ляцеў чырвоны конь з залатым хлопчыкам вершнікам, той самы конь, якога напісаў Пятроў-Водкін. Праз сто метраў на дарозе Шарамецьева— Масква я зноў сустрэўся з вогненна-чырвоным канём. На карціне быў надпіс «Шэдэўры сусветнага жывапісу…» Прачытаць далей я не паспеў, але праз сотню метраў над дарогаю ўзвышаўся стэнд з садавіною Машкова. Пад метровымі фіялетавымі слівамі я прачытаў запрашэнне наведаць Траццякоўскую галерэю. Уся Масква завешана сакавітым жывапісам. Ружовыя бабы Архіпава, чырвоныя бабы Малявіна, белатварыя дзяўчаты Сярова клічуць у галерэю. Мяне такі рэкламны крызіс пацешыў. Жывапіс выйшаў на вуліцы ратаваць Маскву, выйшаў ратаваць і на нейкі час выратаваў.

**Клінаў і гермафрадыт**

Авангардыст Артур Клінаў атрымаў развод, у судзе ён скасаваў свой шлюб. Разводзіцца Артур задумаў на ўласным вяселлі, але больш за пятнаццаць гадоў ішоў да рэалізацыі задуманага. Здзейснілася мара: Артур зноўку вольны мужчына, які шукае роднасную мастакоўскую душу для сумеснага пражывання. Патрабаванняў да душы ў Артура даволі многа. Душа мусіць любіць ці палюбіць наш Мінск — горад сонца, яна абавязана шанаваць сучаснае мастацтва і найноўшую літаратуру, душа павінна разумець авангардыста Артура Клінава. Цікава тое, што сэксуальных патрабаванняў Артур не высунуў. Таму душа можа быць як у жаночым, так і ў мужчынскім целе, нават душа мае поўнае права знаходзіцца ў целе гермафрадыта. У такіх абставінах можна парадавацца за гермафрадытаў, бо мы пра іх зазвычай нават і не згадваем.

**Ракіцкі і біяграфія**

Мастак Хобатаў сказаў мастаку Ракіцкаму, што ў яго няма біяграфіі. Ракіцкі спытаў у Хобатава, як прадаць свае малюнкі, а той

параіў звярнуцца да спецыяліста, які напіша яму шыкоўную біяграфію мастака ўсяго за дзве тысячы долараў. Калі Ракіцкі распавёў мне пра кошт на біяграфію, я адразу зацікавіўся дарагім жанрам літаратуры. За такія грошы можна напісаць шыкоўную біяграфію з сапраўдным дзівам накшталт таго, што мастак Хобатаў адрэзаў сабе вуха, а яно ў яго прырасло назад, і нават шнар разгладзіўся да незаўважнасці. Можна прыдумаць іншае дзіва пра руку, якая ўначы лётае ў майстэрню і ў поўнай цемрадзі піша нацюрморты… Ракіцкі адмовіўся ад паслуг Хобатава. Дарма. Трэба было замовіць сабе біяграфію, а потым адмовіцца ад яе, калі не спадабаецца. Я абавязкова б замовіў.

## Ганулька і Даніла

На прэзентацыі жончынага фотаальбома «Жанчыны Еўропы» сярод гасцей была і вучаніца маёй жонкі — Ганулька. Яна спраўна здымала вечарынку, а потым заснула на канапе. Стамілася? Але не ў тым яна ўзросце, каб так хутка стамляцца. Напілася? Але не выглядае маладзенькая і сціплая Ганулька на чалавека, які здатны напіцца на фуршэце так, каб заснуць на канапе. Да соннай Ганулькі прыставілі ахоўніка, і на праблему забыліся. На другі дзень Ганулька распавяла, што на вечарынцы да яе падышоў дзевяцігадовы Даніла з фужэрам чырвонага віна. «Цётачка, выпіце…» — папрасіў Даніла. Ён так сказаў гэтае «Цётачка, выпіце…», што Ганулька не змагла адмовіцца. Яна выпіла вялікі фужэр гарэлкі, зафарбаванай віном. Апошняе, што паспела зрабіць Ганулька перад тым як заснуць, гэта сфатаграфаваць хлопчыка Данілу, які зафарбоўвае чарговы фужэр гарэлкі дарагім італьянскім віном. Кадр атрымаўся змазаны, такія кадры не могуць служыць доказамі, але не паверыць Ганульцы няма падставаў. Дый і так, без усялякіх доказаў, мы ўсе цудоўна ведаем, што д'ябал спакусы любіць прымаць форму хлопчыка-анёла.

## Вова і сабака

Сабачка прапаў! Вой-вой-вуй, мой кабялёк уцёк! Людцы добрыя, дапамажыце мне сабачачку знайсці! Лямант на ўвесь інтэрнэт разлятаецца. І знаходзяцца спачувальнікі, і бягуць яны шукаць сабаку, які збег на сакавіцкі загуляж. Вясна, інстынкт пагнаў сабаку ў гайню. Пагуляе і вернецца, нідзе не дзенецца падлюка хвастаты. Голад прыгоніць яго ў цёплую гаспадарову кватэру…

Мог бы я паспачуваць кабялю з ягоным гаспадаром, ды нешта мне не спачуваецца. А не спачуваецца мне з-за Вовы. Пайшоў мой унук з прабабаю Ядзяю ў палац школьнікаў на заняткі па маляванні. У палацы ён запатрабаваў у Ядзі грошы на порцыю какавы з цукрам і вяршкамі. У фае палаца стаіць апарат з каваю, гарбатаю і какаваю.

Ядзя грошы не дала. Маўляў, няма грошай і ўсё, а як памалюеш, бацька Мікалай прыйдзе цябе забіраць і купіць какавы.

Бацька прыйшоў, але Вовы ў студыі не было. Выкладчык Іваноў сказаў, што Вова пазычыў у яго тысячу і пабег піць какаву. Мікалай пачакаў крыху і пайшоў сына шукаць. Абышоў ён увесь палац, а Вову не знайшоў. Іваноў расхваляваўся: дзіця згубілася, недаглядзеў. Дзіця — гэта табе не сабачка, дзіця — гэта сур'ёзна. Чутка пра знікненне хлопчыка ўвобмільг абляцела палац. Шукалі ўсе, хто толькі мог шукаць. Тым часам Вова з пластыкавым кубачкам у руцэ ціха сядзеў у студыі, за сейфам. Прасядзеў ён за сейфам хвілін сорак і выйшаў. Мікалай Вову не біў, але пакараць пакараў — не пусціў на фотавыставу да бабы Алены. На выставе толькі размоў было, што пра Вову, які схаваўся ў сейф. Вядома, як адзін чалавек другому навіну пераказвае: дакладнасць страчваецца, а экспрэсія дадаецца з кожным пераказам.

Літоўскі дыпламат Артурас да гісторыі пра сейф прыляпіў гісторыю пра куфар… Чацвёра дзяцей залезлі ў куфар, закрыліся векам, пачалі задыхацца, але адчыніць цяжкое века не змаглі і сканалі. Ад гісторыі пра куфар Алена ўся збялела. Давялося ёй растлумачыць, што кожнае вясковае і местачковае дзіця ведае страшныя гісторыі пра куфар і шафу, у якіх пазадыхаліся дзеці. Каб падшыванцы не лазілі ў куфры і шафы ды не камечылі адзежу з бялізнаю, дарослыя распавядаюць ім пра жудасныя здарэнні ў зачыненай мэблі. Развесяліць жонку я не здолеў, гісторыя пра Вову і сейф цэлы вечар не давала ёй спакою. Бо дзіця гэта дзіця, гэта не сабака, за дзіця ты перажываеш так, як нават за самога сябе не перажываеш.

### Вова і самалёцік

Вова навучыўся дасылаць эсэмэскі. Унук даслаў мне намаляваны самалёцік, я выправіў той самалёцік яму. Так і лётае самалёцік ад яго да мяне і ад мяне да Вовы.

### Забойцы

Дзяржава, у якой ёсць смяротнае пакаранне, плодзіць забойцаў. Пракурор, які патрабуе смяротнае пакаранне для злачынцы, — забойца. Суддзя, які асуджае злачынцу на смерць, — забойца. Кат, які забірае ў злачынцы жыццё, — забойца. Знішчаючы аднаго злачынцу, грамадства атрымлівае некалькі забойцаў. Узнікаюць правамоцныя пытанні… Ці патрэбна нам столькі забойцаў у грамадстве? Ці можа лічыцца нармальным чалавек, які забівае іншага абяззброенага чалавека? Пытанні гэтыя не рытарычныя. Мне даводзілася сутыкацца з чалавекам, які расстрэльваў злачынцаў. Адразу пасля Другой сусветнай вайны наш сваяк быў накіраваны ў Германію, дзе паляваў на ваенных злачынцаў. Злоўленых злачынцаў расстрэльвалі ў камеры.

Спецыяльнага ката не было, таму ўсе, хто лавіў злачынцаў, іх і расстрэльвалі. Стралялі па чарзе. Прыйшла твая чарга? Ідзі і страляй. Наш сваяк падчас расстрэлу атрымаў нервовы зрыў. Ён зайшоў у камеру і стрэліў у немца. Той узняўся з крэсла і пачаў люта лаяцца. Сваяку давялося страляць і страляць у чалавека, які ішоў на яго і крычаў. Ён крычаў: «Чаму ты забіваеш мяне?» Ён ішоў, пытаўся і лаяўся, ажно пакуль не паваліўся на свайго ката. Пасля гэтага здарэння сваяк страціў сон. Як толькі ён заплюшчваў вочы, адразу ж бачыў акрываўленага немца, які крычаў і ішоў на яго. Нервовы зрыў быў такі моцны, што нашага сваяка камісавалі з войска, ён вярнуўся ў Беларусь і пайшоў працаваць гандляром. Расстраляныя людзі пераследавалі нашага сваяка да самага канца жыцця. Я адведваў яго ў ракавым корпусе мінскай бальніцы, дзе ўглядаўся ў вялікія светлыя вочы, у ягоны спакутаваны ад моцнага болю і схуднелы да касцістасці твар. Я хацеў яго падтрымаць. Але як яго падтрымаць, я не ведаў. Чалавечы лёс нязменны, нельга вярнуцца ў мінулае і выправіць змарнаванае і скалечанае жыццё, але можна паспрабаваць змяніць да лепшага жыццё цяперашняе. Трэба адмяніць смяротнае пакаранне. Трэба даць шанц на лепшае жыццё, можа і пэўна не столькі злачынцам, як пракурорам, суддзям і тым, хто па абавязку службы вымушаны забіваць бяззбройнага чалавека.

**Расстрэлы**

«Нас вышнуравалі на пляцы. Салдаты прывялі звязанага кантрабандыста. Нам загадалі ўзняць вінтоўкі, прыцэліцца і стрэліць. Я падумаў… Не буду страляць у чалавека. Ніхто не заўважыць. Хай нехта іншы яго заб’е. Спачатку я так падумаў, а потым падумаў інакш… Пацэлю яму ў нагу і, калі што якое, скажу — прамахнуўся. Страляў, рука здрыганулася, і я прамахнуўся. Хто іншае давядзе? Мы стрэлілі. Бандыт паваліўся. Усе, каго мы затрымлівалі за нелегальны пераход мяжы, лічыліся бандытамі. Ён упаў. Камандзір палічыў раны. Іх было тры. Мая куля папала бандыту ў нагу. Ён быў цяжка паранены ў грудзі, у жывот і нагу. Камандзір загадаў пакласці параненага ў дашчатую скрыню і закапаць. Будзеце закопваць жывога чалавека! Каб у наступны раз усе пацэлілі і забілі, каб вам больш не даводзілася закопваць жывых. Бандыт яшчэ стагнаў у забітай дошкамі скрыні, калі мы закідвалі скрыню зямлёю. Больш я не цэліў у нагу ці руку, я цэліў у грудзі ці ў галаў. Цэліў так, каб мая куля забіла чалавека, і мне не давялося зноўку закапваць жывога…» — распавядаў мне дзядзька Антак. Ён служыў на мяжы СССР і Фінляндыі. Служыў доўга, больш за тры гады, служыў цяжка, вярнуўся са службы цяжка паранены. Ягоныя аповеды мала каго ўражвалі ў нашай сям’і, бо старэйшыя перажылі высылку і вайну.

Расповеды пра расстрэлы нейкіх кантрабандыстаў іх мала хвалявалі. Яны хвалявалі мяне, бо мяне чакаў прызыў у савецкае войска, дзе давядзецца страляць і забіваць. У войска я не пайшоў, васямнаццаць разоў мяне прызывалі, і васямнаццаць разоў у мяне была аргументацыя, каб не пайсці. Сямнаццаць разоў я прыносіў у ваенкамат даведку з месца вучобы, а на васямнаццаты раз прынёс даведку, што маю дваіх малых дзяцей. Савецкі закон дазваляў чалавеку з двума дзецьмі не хадзіць у войска. Такі быў тагачасны гуманізм. Цяпер у нас іншая дзяржава, і беларусам не трэба расстрэльваць людзей на мяжы Фінляндыі і СССР. Але беларусы ўсё яшчэ расстрэльваюць беларусаў. У нашай не самай кепскай у свеце дзяржаве ўсё яшчэ ёсць смяротнае пакаранне, і некаму даводзіцца страляць, каб забіць, бо прымусяць закопваць у зямлю жывога чалавека. Таму вымушаны сказаць: я супраць смяротнага пакарання і супраць закопвання ў магілы жывых людзей.

**Нормы**

Каб у нашай сённяшняй дзяржаве расстралялі чалавека законна, трэба прызнаць яго свядомым. Злачынца забіваў і гвалтаваў, рабаваў і здзекваўся з ахвяраў, ён звёў са свету дзясяткі чалавек, а яго прызнаюць нармальным? Хіба можа чалавек з адэкватнай свядомасцю душыць дзяцей, гвалтаваць людзей і забіваць чалавека у пошуках вычварэнскіх задавальненняў? Хіба можа нармальны грамадзянін рабаваць і забіваць, бо працаваць яму лянотна і нецікава? А іх — маньякаў і вычварэнцаў — часам прызнаюць нармальнымі. Іх прызнаюць нармальнымі, каб забіць. Хто прызнае паводзіны і розум такіх людзей за норму? Дактары? Мне давялося размаўляць з адным з такіх дактароў — Віктарам Феліксавічам Круглянскім. «А ты ведаеш, колькі я людзей ад расстрэлу выратаваў?» — спытаў ён у мяне. Я не сказаў яму, што кожны злачынца можа задаць падобнае пытанне… «А ты ведаеш, колькі я людзей не згвалтаваў і не абрабаваў?» Віктар Феліксавіч — ахвяра абставінаў. Ён вельмі здольны доктар, ён сапраўды дапамагаў людзям. Ягоныя заслугі я не збіраюся змяншаць, але тут пытанне прынцыповае. Тут нельга «ўстрымацца», тут трэба сказаць «за» ці «супраць». Я не лічу забойцаў і вычварэнцаў за нармальных людзей. Той, хто дайшоў у сваіх паводзінах да найвышэйшай меры пакарання, не можа лічыцца адэкватным чалавекам, не можа быць свядомым у маім разуменні гэтага паняцця. Дактары, якія падпісваюць дакументы пра нармальнасць маньяка, з'яўляюцца саўдзельнікамі ў забойстве. Яны могуць распавесці пра сваё разуменне нармальнасці і ненармальнасці, адэкватнасці і вар'яцтва. Але іх аргументацыю, што Чакаціла быў свядомы і ў цвярозым розуме

закатаваў дзясяткі ахвяраў, я не прымаю. Таму і лічу: варта змяніць норму, і змяніць яе трэба ў заканадаўстве, адмяніўшы смяротнае пакаранне. Тады дактары больш не стануць саўдзельнічаць у забойствах і атрымаюць магчымасць доўгатэрмінова даследаваць хваробы і паводзіны злачынцаў, якія жорстка знішчалі людзей. Замена смяротнага пакарання пажыццёвым зняволеннем і прымусовым лекаваннем выратуе сумленне і дасць ім магчымасць не так паспешліва праводзіць мяжу паміж ненармальнасцю і нормаю.

**Звяругі**

Ёсць важкі аргумент, які людзі гавораць у абарону смяротнага пакарання. Яны кажуць: каб тваё дзіця забілі, як бы ты сябе паводзіў ў падобных абставінах? Такім зласлівым людзям варта сказаць: ды за такія словы я зараз выдзеру з горла твой паганы язык! Злыязыкія людзі будзяць асабіста ўва мне звяругу. Яны абуджаюць помслівую звяругу з недастраўленым харчам у вантробах і з цёмнай крывёю ў сэрцы. Я-звяруга вылазіць з чалавека з намерам бараніцца, помсціць і нішчыць усё варожае і падазронае навокал. Для я-звяругі няма нічога акром яе асабістай і яе блізкай крыві. Калі хто чэпіць яе кроў, я-звяруга паспрабуе парваць агрэсара на шкамуты. Часам твой я-чалавек не можа стрымаць і падпарадкаваць сабе ўласную я-звяругу. Каб такую звяругу стрымліваць і кантраляваць, існуе дзяржава з яе «мы». Дзяжаўныя інстытуты і заганяюць я-звяругу ў падпарадкаванне я-чалавеку. Мы з’яўляемся людзьмі толькі ў тым выпадку, калі кожная я-звяруга знаходзіцца пад кантролем. Каб называцца чалавекам, трэба ім заставацца нават у самыя драматычныя моманты жыцця. Як асабіста я буду сябе паводзіць, калі нешта жудаснае здарыцца з маім дзіцёнкам? Пэўна, пабягу і адгрызу галаву ў злачынцы. Хутчэй за ўсё, я ад жудасці страчу розум і ператваруся ў аслепленую помстаю звяругу. Але пакуль я знаходжуся ў светлым розуме і з блізкімі мне людзьмі нічога страшнага не здарылася, я мушу дамагацца адмены смяротнага пакарання для чужой я-звяругі. Мы — людзі, і павінны пашыраць чалавечае за кошт звяружнага, а не множыць забойчае і звяружнае. Наша дзяржава абавязана скасаваць смяротнае пакаранне, каб стаць дзяржаваю чалавека…

**Тэртуліян і абсурд**

Сто разоў я сам сабе задаваў пытанне: «Ты верыш людзям?» і дзевяноста дзевяць разоў адказваў: «Не веру!» Безумоўна, дзевяноста дзевяць разоў я адказаў разумна. Калі я так адказаў на пытанне пра людзей, дык прыблізна такі ж адказ мусібыць і пра Бога. Што зноў жа ж — разумна і лагічна. Але вера не лагічная і не разумная, вера абсурдная. Пра абсурднасць веры сказаў Тэртуліян: «Credo

quia absurdum est ( Веру, бо абсурдна )». Ніякай іншай веры, акром як абсурднай, не існуе…

**Выбіранне**

Заўважыў за сабою такую рысу: заўжды выбіраў сабе жанчыну, што знаходзілася найбліжэй да мяне. Чым бліжэй, тым лепей. Ні прыгажосць, ні розум, ні талент не мелі такога значэння, як адлегласць. Чым бліжэй да мяне жанчына, тым яна разумнейшая, таленавіцейшая і прыгажэйшая ад астатніх.

**Чорныя семкі**

Зімою пасля вячэры ў мяне ёсць абавязак — засыпаць у пустую кармушку дзве жмені чорных семак. Кожны вечар я сыплю семкі ў кармушку, зробленую з пластыкавай бутэлькі. Аднаго разу я набраў жменю семак, а бутэлька аказалася усё яшчэ поўнай. Чаму сініцы, вераб'і і галубы прапусцілі цэлы дзень і не падзяўблі семкі? Не ведаю. У мяне нават няма часу, каб палюбавацца птушкамі за маімі вокнамі, але ў мяне ёсць час напоўніць кармушку. У наступны вечар яна была па-заўсёднаму пустая, і я насыпаў у яе дзве жмені чорных семак. У які-небудзь з выходных я абавязкова палюбуюся заваконнымі галубамі, вераб'ямі і сініцамі… І што з таго, што ў мяне няма выходных? Некалі я ўсё адно імі палюбуюся без усялякіх абавязкаў.

**Ваенная эвалюцыя**

Маракі былі самымі рамантычнымі з усіх вайскоўцаў. Ветразі, хвалі, штормы, буры, далёка-далёкія краіны… Маракі былі самымі-самымі, пакуль не з'явіліся лётчыкі. Неба зрабілася блізкім. На змену лётчыкам прыйшлі лётчыкі-касманаўты і лётчыкі-астранаўты. Тут усе хлопчыкі зразумелі, што астранаўтамі-касманаўтамі яны ніколі не стануць. Хлопчыкаў многа, а касманаўтаў-астранаўтаў зусім мала. Тут і адбыўся эвалюцыйны скачок у ваеннай справе. Самымі рамантычнымі ваярамі зрабіліся фінансісты. Не вока за вока, не зуб за зуб, а рубель за рубель, рубель за вока, рубель за зуб. У ваенналюбівых хлопчыкаў зноў ёсць надзея на вялікую перамогу.

**Піва і зніжкі**

Ідзеш па сталіцы, а навокал процьма прапановаў: набудзь, прыдбай, купляй, бяры, пакаштуй, паспрабуй… Хутка слова «зніжкі» пачнуць пісаць большымі і ярчэйшымі літарамі, чым пішуцца назвы на крамах. Можа «зніжкі» адразу з металу адліваць і ў назву шыльды ўстаўляць? Не! Хай мастакам-афармляльнікам застаецца іх праца. Фінансавы крызіс, працы і так мала. Хай пішуць пра зніжкі і адсоткі вялізнымі літарамі на ўсю вітрыну. Хай жывуць… З такімі развагамі я ішоў па праспекце, калі мяне перанялі дзве ўсмешлівыя жанчынкі: «Мужчына, мы запрашаем Вас на дэгустацыю новага піва!» Ну трэба ж, піва новае і дармовае наліваюць, а я піва не піў і не п'ю. Пачынаю

адмаўляцца, а яны настойваюць… «Чаму Вы мяне запрашаеце?» — «Бо Вы — мужчына!» Так, я сапраўды мужчына, але ад піва дармовага адмовіўся, і камерцыйныя хітрыкі са зніжкамі мяне, шчыра кажучы, не спакушаюць.

**Падаткі**

Пасля паходу ў падатковую інспекцыю ўзнікае неадольнае жаданне выкурыць дзве цыгарэты ўзапар. Дастаткова адной цыгарэты, але жаданне было такое, нібыта я тры дні не паліў тытунь. Пасля размовы з падатковымі інспектарамі мне карціць закурыць. Не скажу, што размова была непрыемнай. Вы спяшаецеся заплаціць падаткі? Спыталі ў мяне. Не спяшаюся… Тады чакайце да першага жніўня. Раней трэба было ўсё аплаціць да пятнаццатага сакавіка… Цяпер інакш, мы да першага жніўня вышлем вам рахунак, а вы яго мусіце аплаціць да першага лістапада. Давядзецца пачакаць… Ад думкі пра доўгае чаканне мне таксама хочацца курыць, як і пасля выхаду з кабінета падатковага інспектара. У маіх сяброў іншая рэакцыя. Некаму цісне пасікаць, некаторым хочацца з’есці трохсотграмовы біфштэкс з крывёю. Маё жаданне самае сціплае. Я выкурыў цыгарэту і задумаў суцешыць сябе невялікім ганарарам за літаратурнаю творчасць. Па свой ганарар я паслаў дачку. Яна атрымала грошы і радасна паведаміла, што ёй далі сто, але ў сотні толькі семдзесят адсоткаў ганарару, таму я вінен рэдакцыі трыццатку. Выдатны ганарар — мінус трыццаць адсоткаў. «А можна падзяліць ганарар сумленна?» — сціпла спытаў я ў сваёй любімай дачкі. «Сумленна — гэта як? — Ты вернеш ім трыццатку, а семдзесят я табе падару. — Абдымаю, цалую…» — смеючыся, сказала добрая дачка і адключыла тэлефон. Нішто так не суцяшае і не супакойвае чалавека ў фінансавых узаемаадносінах, як круглы нуль.

**Вяртанне**

Забраў з мастацкага салона дзве свае карціны. Яны там правіселі паўгода і не прадаліся. Ніхто не хоча пераплачваць галерэйшчыкам. Ніхто не хоча аддаваць дадатковыя трыццаць адсоткаў перакупшчыку. Зразумела. Але калі ты нясеш карціны з галерэі ці выставы назад у майстэрню, настрой кепскі. Думаеш пра ўласную бяздарнасць, пра сваю нікому непатрэбнасць, пра свае недальнабачнасць і глупства. На што спадзяваўся, калі рабіў рамы і заносіў карціны ў салон? Вядома, спадзяваўся, што нехта набудзе недарагія палотны. Адно з трох набылі. Суцяшэнне, безумоўна. Але ёсць і выдаткі: адно палатно крыху прадавілі, на другой карціне трохі абабілі раму. Нёс я карціны і сам сябе ганіў і зневажаў. Нават аблайваў сам сябе гнюснымі словамі, ажно пакуль не спусціўся ў падземны пераход. У пераходзе ўсё кардынальна змянілася. Пад

зямлёю я, нібыта чалавек, які тоне і дастаў дна, адштурхнуўся ад мінулага і пачаў думаць пра будучае, думаць не пра старыя і непрададзеныя карціны, а пра новыя малюнкі і палотны, пра новыя, яшчэ не выдадзеныя і не дапісаныя кнігі. З падземнага перахода я выйшаў самаўпэўненым творцам, які верыць у сваю зорку.

## Баба Ядзя, бацька і вялікія рэчы

Мне было гады тры, можа крышачку болей, але, хутчэй за ўсё, мне было тры. Перад тым як заснуць, я плакаў, глядзеў на белую абкладзеную кафляй грубку і ціха плакаў. Баба Ядзя суцяшала мяне, гладзіла па галаве і пыталася — чаго я румзаю. Я спрабаваў растлумачыць бабе прычыну свайго страху і, адпаведна, нагоду для слёз. Я тлумачыў, а яна мяне не разумела, яна не разумела, што ўсе рэчы ў пакоі павялічваюцца і пашыраюцца. Шафа, ложак і белая грубка растуць. Яны раздзьмуваюцца і запаўняюць сабою ўвесь пакой. Паветра ў пакоі змяншаецца, мне робіцца цяжка дыхаць, праз гэта я і плачу. Баба Ядзя казала, што рэчы расці не могуць, што мне гэта толькі падаецца, што мне трэба адпачыць, а каб адпачыць, неабходна выспацца. Нават з заплюшчанымі вачыма я чуў, як рэчы разрастаюцца і грувасцяцца. Я плакаў з заплюшчанымі вачыма і так, у горкіх слязах, засынаў. Раніцай рэчы ніколі не раслі, яны некалькі разоў раслі позна ўвечары. Ужо ў дарослым веку я аднойчы згадаў пра разрастанне рэчаў на ўвесь пакой, і распавёў пра гэта свайму бацьку. Ён сказаў, што ў сваім дзяцінстве таксама бачыў, як растуць рэчы, і гэтаксама моцна спалохаўся гэткага дзіва. Бываюць моманты, калі мне моцна хочацца вярнуцца ў той дзіцячы стан, хочацца паглядзець, як разрастаецца цёплая абкладзеная бліскуча-белай кафляю грубка, хочацца заплакаць…

## Дзёма і штучны крышталік

Катаракта прывяла Дзёму ў лякарню. Там замест свайго мутнага яму паставілі ў вока празрысты, але штучны крышталік. Пасля аперацыі доктар забараніў Дзёму тужыцца ў час спраўлення вялікай патрэбы. Ён і не пнуўся… Выйшаўшы з прыбіральні, Дзёма вярнуўся ў палату, дзе вылёжваў тыднёвы рэабілітацыйны тэрмін, і пачуў ад свайго аднапалатніка: «Ты ж не тужыўся, Дзёма?» — «Не!» — «Прасядзеў на ўнітазе паўгадзіны і ні разу не напнуўся?» — «Ні разу!» — «Дык можа ты, Дзёма, нічога і не змог зрабіць?» — «Усё зрабіў, як мае быць! Я ж не вораг сабе…» — «Зрабіць ты, Дзёма, відаць і чуваць, зрабіў, а ваду зноўку не спусціў! Устаў, Дзёмка, з ложка і пабег, Дзёмка, спускаць ваду! Толькі не нахіляйся рэзка, бо рэзкі нахіл яшчэ горш, чым пнуцца, Дзёма». Прысаромлены Дзёма пасунуўся з палаты ў прыбіральню, мармычачы сабе ў чорныя вусы: «Чорт, забыўся! Чорт, зноў забыўся! Чорт з ім, галоўнае не забыцца і не

патужыцца, бо выскачыць, далібог, выскачыць з вока крышталік, і будзе гамон ды чорныя кропачкі ўваччу!»

## Міла і лісты

Міле не хапала кахання. Ёй не хапала менавіта кахання, бо любоў і любошчы ў яе былі. Міла папрасіла мяне напісаць ёй пару лістоў пра каханне. Я пісаў ёй лісты пра каханне, а яна мне адказвала лістамі пра любошчы і любоў. Міла не ўмела пісаць лісты пра каханне, а потым узяла і навучылася. Яна навучылася пісаць лісты пра каханне ад трэцяй асобы да самой сябе. Цяпер у Мілы ёсць лісты пра каханне. У яе ёсць мае лісты і свае лісты пра каханне, але ўласна кахання ў Мілы як не было, так і няма.

## Сяржук і маляванне

Дызайнер Сяржук не ўмее маляваць. Чорт бы з ім, чорт бы з ягоным няўмельствам чыркаць па паперы, каб Сяржук не выкладаў менавіта маляванне. А ён, няздара-крываручка, якраз малюнку і спрабуе навучыць студыёзусаў. Як пісаў разумны турак Актай Рыфат пра такога ж крывалёснага недарэку: «Матэматыцы я не абвучаны, але ж служу ў канторы лічбаводам. Абажаю баклажаны ў алеі. Я яе люблю, яна мяне не любіць». Так і Сяржук служыць у канторы настаўнікам малявання. Кантору тую ён ненавідзіць, а студыёзусаў ён лічыць тупарозумнымі. Сваёй вінаватасці ў тым, што студыёзусы не могуць навучыцца маляваць, Сяржук не бачыць. На ягоным месцы сумленны чалавек... Ды дзе ты бачыў сумленнага чаландрэка? Сумленны выкладчык... Гэта, дакладна, не пра Сержука. Сумленны даўно б пакінуў кантору, але гэты крываарукі кантору не пакіне, кантора для яго — адзіная крыніца харчавання. Сяржук з канторы грошы цягне і цягне. Студэнты і бацькі студэнтаў плацяць, бо спадзяюцца за свае грошы атрымаць кавалак навукі, а Сяржук тыя грошы грабе і нікога не вучыць. Мо ён бы і хацеў навучыць маладзёнаў і маладзіц маляваць, але ж не можа. Ён не можа нават жанчыну аголеную намаляваць! На маляванні аголенай жанчыны якраз і правяраецца талент малявальшчыка. Можаш аголеную — малявальшчык, не можаш — ідзі прэч роўненькай дарожкаю. Кепскае стварэнне Сяржук — гнюснае, злоснае і бяздарнае. І бяда не ў тым, што ёсць на свеце дызайнер Сяржук, а бяда ў іншым: у канторах, якія прапануюць за грошы паслугі па навучанні, такіх крывагаловых Сержукоў пераважная большасць. Таму, калі на дарозе навучання твайго ці дзяцей тваіх трапляўся ці трапіўся добры выкладчык, яго трэба слухаць, любіць і шанаваць.

## Рэлігійны чалавек
## і рытуальны чалавек

Той, хто мае глыбокія рэлігійныя пачуцці, можа быць названы рэлігійным чалавекам, што справядліва. Такі чалавек спрабуе свае пачуцці суаднесці з той ці іншай царквою. Цэрквы прапаноўваюць рэлігійнаму чалавеку шэраг рытуалаў. Рэлігійны чалавек можа прыняць рытуалы. У большасці выпадкаў рэлігійныя людзі пагаджаюцца з нейкай колькасцю рытуалаў і ніякіх канфліктаў з царквою ў іх няма. Але ёсць сярод рэлігійных людзей і такія, што бачаць ненатуральнасць і штучнасць царкоўных рытуалаў. Яны бачаць у царкве шмат рытуальных людзей, якія старанна выконваюць правілы, але не маюць у сабе глыбокага рэлігійнага пачуцця. Рытуальныя людзі значна больш паспяховыя ў інстытутах царквы, чым людзі рэлігійныя. Рытуальны чалавек і ў царкве выбудоўвае свае паводзіны рацыянальна і лагічна. Рэлігійны чалавек алагічны, і чым больш моцнае ў яго рэлігійнае пачуццё, тым далей ён стаіць ад рытуальнага чалавека і ад царквы. Мне як мастаку аднолькава цікавыя абодва такія чалавекі. Мяне цікавіць сваёй прасветленасцю рэлігійны чалавек, але не менш цікавы для мяне і рытуальны чалавек, бо ён здатны займацца саборабудаваннем.

## Вясновы эцюд

Вясна для мастака — свята. Сонечнасць. Пацяплела. Снег сыходзіць. Можна пайсці маляваць краявіды. Я паехаў у раён, дзе прайшло маё школьнае дзяцінства. Даўно хацелася зноўку паглядзець на заводскі краявід з высознай паласатай трубою. Юнаком я напісаў гэты краявід гуашшу. Тая гуаш не захавалася. Мне чамусьці захацелася зноўку напісаць трубу. Бздурнасць. І ўсё ж… Я пайшоў да школы, дзе некалі вучыўся мой малодшы брат і працавала бібліятэкаркаю наша маці. Стаў каля школы і пачаў разглядаць трубу і наш стары раён. Мёртваколернасць была паўсюль. Шэрасць, бруднасць, няўтульнасць і цішыня. У нашым раёне ніколі нічога значнага і адметнага не было. Турма, могілкі, пахавальнае бюро і розныя заводы за высокімі парканамі. Каля школы моцна пахла саляркаю. Маляваць расхацелася, але я ўсё роўна зрабіў некалькі накідаў з трубы. Ад школы я пайшоў у бок пахавальнага бюро, дзе некалі працавалі мае аднакурснікі з мастацкай вучэльні. На чорных стужках яны пісалі залатой фарбаю добрыя і цёплыя словы, адрасаваныя нябожчыкам. Як добра, што я не працую ў пахавальным бюро, як добра, што я зараз паеду на метро ў цэнтр сталіцы, дзе ў сваёй майстэрні пачну пісаць краявід з паласатай трубою, каб пераадолець чужую і сваю мёртваколернасць.

## Тасліцкі і Луўр

Парыжскі малявальшчык, блізкі да левaрадыкальных колаў — Барыс Тасліцкі, — напісаў у сваёй аўтабіяграфічнай кнізе: «Камуністы здаваліся мне адзінымі людзьмі, здатнымі абудзіць мае сімпатыі, але было агульнавядома, што яны хацелі спаліць Луўр». Тасліцкаму варта паверыць. Сярод тагачасных парыжскіх камуністаў былі Лежэ і Пікаса. Яны выклікалі сімпатыі малявальшчыкаў усяго свету. Не сумняваюся я і ў тым, што французскія камуністы планавалі спальванне Луўра. Можна сабе ўявіць: як бы скурчылася ў полымі Джаконда разам з тысячамі іншых шэдэўраў мінулых эпох. Не дзіва, што Тасліцкага такі падыход да мастацтва напалохаў. Калі я сягоння гляджу на камуністаў, на розных зюзюкіных, ганганавых… мне робіцца не страшна, а брыдка. Чырванамордыя, тлусталобыя, чараватыя сучасныя, відавочна, не плануюць спаліць Луўр, яны нават не плануюць спаліць які-небудзь маленькі краязнаўчы музейчык у правінцыі. Яны плануюць зусім іншае, яны плануюць свае камандзіроўкі да амерыканскага прэзідэнта, каб разам з ім (увага!) па-ма-лі-цца. Малітвы амерыканскіх прэзідэнтаў мяне не хвалююць. Хай сабе моляцца столькі, колькі пажадаюць. А на маленне і халуйства выраджэнцаў камуністаў глядзець брыдка.

## Аднарубельны чалавек
## і дзесяцірубельны чалавек

Калі ў чалавека ў кішэні адзін рубель, ён глядзіць на свет праз гэты адзін рубель. Яму здаецца, што ён можа паглядзець на свет так, нібыта ў яго ў кішэні дзесяць рублёў. Памыляецца аднарубельны чалавек. Але памылку сваю ён упарта не прызнае. Больш за тое, ён яшчэ спрабуе навучыць чалавека з дзясяткаю, як яму трэба правільна жыць. Колькі разоў мы чуем, што трэба купляць нагавіцы за семдзясят долараў, бо яны найлепшыя ў свеце. Мы так шмат разоў чуем пра найлепшыя нагавіцы за семдзясят, што тым, у каго нагавіцы каштуюць семсот, павінна зрабіцца сорамна. Расказваць чалавеку ў танных штанах пра вартасць і зручнасць дарагой рэчы бессэнсоўна, бо ён будзе прыводзіць адзін важкі аргумент: нас легіён у танных нагавіцах, нас легіён, і мы — сіла, а праўда на баку моцных. Аднарубельных людзей і сапраўды шмат. У такім разе, чалавеку з дзясяткаю лепей зрабіць простую рэч, дастаць са свайго кашалька дзевяць рублёў і пакінуць адзін. Зрабіць яму гэта значна прасцей, чым аднарубельнаму чалавеку пакласці ў свой кашалёк дадатковыя дзевяць. У яго гэты фокус не атрымаецца, бо няма дадатковых дзевяці рублёў. У дзесяцірубельнага чалавека такі фокус атрымліваецца лёгка. А калі аднарубельны чалавек зноў скажа дзесяцірубельнаму, што найлепшыя ў свеце штаны каштуюць

семдзясят долараў, той мусіць спакойна адказаць: «Не семдзясят, не семдзясят, дарагі ты мой, а роўна пяцьдзясят…»

## Мікалай і плач

Мікалай, наш сын, сягоння плакаў у сне… Так мне нявестка Юля сказала. У сне ён доўга плакаў… Напярэдадні ён цэлы дзень прazajмаўся падрыхтоўкаю да пахавання сваёй любай бабулі Жэні. Ён першы і заўважыў, што яна пачала астываць. Ён так і сказаў «пачала астываць». Ён штодня ездзіў адведваць дзеда з бабаю. А тут прыехаў і знайшоў бабу Жэню нежывою. У свае трыццаць два Мікалай цалкам самастойны чалавек, і ён узяў на сябе самае цяжкае: размовы з міліцыянерамі, размовы з дактарамі, замовы ўсіх рытуальных паслугаў… Я з дзівам глядзеў на сына, бо ён так спакойна і разважліва ўсё гэта рабіў. Сам я на такое не здатны, таму ў горкую хвіліну суцяшаўся тым, што маю дарослых дзяцей. Яны і апекаваліся старэнькімі дзедам з бабаю, а ў цяжкую хвіліну знайшлі ў сабе дастаткова мужнасці і разважлівасці… Ядзя, наша дачка, плакала, яно і зразумела. А Мікалай заплакаў толькі ў глыбокім сне…

## Крэсла і месца

Для мяне самае чалавечнае з усёй мэблі — крэсла. Ёсць у ім адданасць і добразычлівасць, супакой і разумнасць. Калі я разглядаю карціны, дзе засмучоны Хрыстос сядзіць на камені ў шэрай пустэльні, хочацца прапанаваць яму зручнае крэсла. Гэта ж так па-чалавечы — прапаноўваць крэсла і саступаць сваё месца старэйшым і паважаным людзям. Колькі там таго месца ты займаеш? А ёсць імгненне, калі варта і яго саступіць, дзеля іншага. У кожным крэсле тоіцца чалавечнасць з саступаннем свайго месца, чым яно і каштоўнае. Аднойчы, на занятках па архітэктурнай кампазіцыі, мы разбіралі гульню словаў, і ў якасці адмоўнага прыкладу згадваўся гадкі каламбур: «Садзіся, калі ласка, садыстка!» У літаратурнай газеце гэты сказ падаваўся як гумар, але, відавочна, у сказе было больш абразы, чым весялосці. Саступаць сваё месца і прапаноўваць крэсла трэба з лёгкай душою, а каб так было, варта ведаць і бачыць акрэсленасць свайго месца і мець уласнае крэсла.

## Гарбузы

Гарбузы — назва вёскі, у якую я марыў з'ездзіць у дзяцінстве, а так і не выбраўся. У Гарбузы ездзілі нашы суседзі да сваіх сваякоў. Вярнуўшыся, суседзі распавядалі пра Гарбузы дзівосныя рэчы: і яблыкі тамака былі найсмачнейшыя, і слівы найсаладзейшыя, і грушы духмяныя-духмяныя. Наслухаешся такіх аповедаў, і Гарбузы ўяўляюцца райскім месцам на тутэйшай зямлі. Прасіць суседзяў, каб наступным разам узялі і мяне ў падарожжа, было няёмка, таму я вырашыў адкласці вандроўку ў Гарбузы. Вось выраслу і абавязкова

туды паеду, каб пакаштаваць тамтэйшыя яблыкі, слівы і грушы. Не паехаў і, пэўна ж, не паеду, каб не разбураць казку, пачутую ў дзяцінстве, казку пра райскае месца на зямлі, казку пра вёску Гарбузы.

**Адно сэрца**

Адзін вельмі далёкі ад нас, беларусаў, народ пэўны час пражыў пад лозунгам «Сто мільёнаў — адно сэрца!». Ці маглі б беларусы жыць пад падобным лозунгам? Ці можам мы сказаць «Дзесяць мільёнаў — адно сэрца!»? Мусіць, не можам. Рызыкоўна. Жыццё пад такімі лозунгамі вядзе да катастрофы. Адно сэрца лягчэй спыніць, чым дзесяць мільёнаў нашых асцярожных сэрцаў...

**Торт і сэрца**

Дваццаць пяць гадоў цешча пякла мне на дзень нараджэння торт «Сэрца паэта». Насамрэч гэта быў торт «Напалеон» у выглядзе вялікага сэрца. У маёй цешчы атрымліваўся найсмачнейшы торт у свеце, можаш мне паверыць. У сераду сэрца цешчы спынілася, у чацвер яе адвезлі ў крэматорый. Каля труны і за жалобным сталом сваякі згадвалі торт «Сэрца паэта», згадвалі яе любоў да мяне. Балюча губляць не толькі тых, каго любіш ты, вельмі балюча губляць і тых, хто моцна любіў цябе.

**Недачытаныя кнігі**

Ёсць кнігі, якія немагчыма дачытаць, і не таму, што ты не здатны прачытаць увесь тэкст ад першай да апошняй старонкі, а таму, што дачытаўшы апошні сказ, ты пачынаеш перачытваць кнігу зноў. Неабавязкова перачытванне пачынаецца адразу, ты можаш вярнуцца да прачытанага і праз пяць, і праз дзесяць гадоў. Такія кнігі падаюцца бясконцымі. Асабіста ў мяне падобных кніжак нямнога. Ёсць сярод іх агульнавядомыя: «Быццё» і «Эклезіяст» з Бібліі, «Паэтыка» Арыстоцеля і «Характары» Феафраста, «Хоку» Басё і «Запіскі каля ўзгалоўя» Сэй-Сёнагон. Ёсць і беларускія кнігі, да якіх я звяртаўся шматкроць: «Вянок» Багдановіча і «Тутэйшыя» Купалы. Ёсць кнігі, якія, спадзяюся памыліцца, выглядаюць бясконцымі толькі для мяне: «Міг бліскавіцы» Адамчыка і «Ядлоўцавы куст» Стральцова. Усе гэтыя бясконцыя кнігі дапамагаюць мне ў хвіліны смутку і адчаю.

**Цудоўныя рэчы**

Ёсць выдатныя рэчы, на якія мне давялося паглядзець у сваім жыцці. Некаторыя з іх вартыя таго, каб палюбавацца імі яшчэ раз. Піраміды фараонаў у Гізе, яны нібыта вылепленыя са светла-залацістай халвы... Вялікія лялькі, што танчаць на плошчах святочнай Барселоны ў стракатым і гаманкім натоўпе... Палотны венецыянца Тыцыяна «Святы Себасцьян» і «Уцёкі ў Егіпет» на сценах невялікай залы Эрмітажа, што мокне пад дажджамі ў паўночна-шэрым Санкт-

Пецярбургу… Бліскуча-белая квадратная ванна ў вясёлым доме вечна-начнога і вечна-салодкага Бангкока… Надмагільная тумба Цыцэрона, што праплывае за акном цягніка, які няспешна ідзе з Неапаля ў Рым… Рымскія фантаны… Так бы лічыў і лічыў, згадваў і пералічваў цудоўныя рэчы, на якія я паглядзеў.

**Маленькае задавальненне**

У бальніцы я не мог ноччу ўключаць святло. Дома, у гадзіны бяссоння, запальваю настольную лямпу і чытаю, пакуль сон не зморыць мяне. У бальнічнай палаце я ляжаў без сну ў цемрадзі і думаў, што, нават маючы лямпу, я ўсё адно не змагу чытаць, бо моцна баляць вочы. Цяпер я зноўку вярнуў сабе начное чытанне і шчаслівы.

**Перахопленае дыханне**

Уздымаешся на высокі будынак, выходзіш на дах, падыходзіш на край, і маленечкі камень, падбіты мыском чаравіка, ляціць уніз. І адкуль толькі на дахах самых высозных будынкаў бяруцца тыя каменьчыкі?! Ты, нібыта прывязаны да каменьчыка, сочыш за падзеннем. У такое імгненне, хочаш не хочаш, а дыханне тваё спыніцца… Дзіця выбегла на дарогу. Машыны яшчэ далёка, тры разы ты паспееш дагнаць сваё дзіця і вярнуць на бяспечны тратуар, але дыханне ў цябе раз і перахапіла… Пачуеш у тэлефоне благую вестку пра здароўе любімага чалавека, змоўкнеш, знямееш, бо сэрца скамянела і дыхання няма…

**Сябры вечаровыя**
**і ранішнія таварышы**

З ранішнімі таварышамі я п’ю каву, гавару хутка, паводжу сябе тэмпераментна і бадзёра. З ранішнімі таварышамі ў мяне ўсё выдатна, а вось з вечаровымі сябрамі пачаліся праблемы. Надышла летняя цяплынь, і яны пасыходзілі ў запоі. У цёмныя халодныя вечары я з імі вяду доўгія размовы пра таемныя супольнасці ды геапалітычныя тэндэнцыі, пра гіштаlі і метафізіку адсутнасці. А тут — банальныя і брутальныя запоі. Мае вечаровыя сябры перасталі галіцца, замест галення яны з самай раніцы п’юць гарэлку, каб удзень заваліцца спаць, а ўвечары сядзець у змрочным настроі. Таму ў апошнія дні я не хаджу вечарам у сваю кавярню «Акварыум». Цяпер праводжу вечары за чытаннем крытычных артыкулаў пра святыя дабравесці і займаюся вывучэннем тэкстаў пра таемную вячэру з удзелам Хрыста ды апосталаў.

**Лёсы апосталаў**

Праца з сюжэтам «Таемная вячэра» прывяла мяне да знаёмства з лёсамі апосталаў, што прысутнічалі на ёй з Ісусам Хрыстом. Лёсы ў іх страшныя… Здраднік Юда Іскарыёт задавіўся. Апостала Фадзея

засеклі мячом. Апостала Пятра распялі ўніз галавою ў Рыме. Апосталу Якаву (старэйшаму) адсеклі галаву. Апостал Андрэй быў распяты на касым крыжы. Апостала Якава (малодшага) скінулі з Іерусалімскага храма, і ён разбіўся насмерць. Апостала Піліпа распялі дагары нагамі. З апостала Барталамея жыўцом садралі скуру. Апостала Тамаша забілі стралою падчас малітвы. Апостала Сымона (Зілота) распялі. З апостола Мацея садралі скуру. Адзіны з іх, хто памёр сваёй смерцю, — апостал Ян, але і ён памёр у зняволенні. Жахлівая гісторыя… Застаецца паўтарыць: «У вялікіх ведах вялікі сум…»

### Двайнік і двайніца

У мяне завёўся двайнік! Пазаўчора яго разам з маёй жа жонкаю нібыта бачылі каля шакаладнай фабрыкі «Камунарка». Не гуляю я каля той фабрыкі! І жонка мая не гуляе каля «Камунаркі». Прынамсі, пазаўчора маёй жонкі там дакладна не было. Жонка ў Монтэ-Карла, а я днямі навылёт сяджу ў майстэрні і пішу невялічкія палотны з яблыкамі ды грушамі. Часам я спускаюся ў кавярню «Акварыум», а потым зноў падымаюся ў майстэрню. У «Акварыуме» я і даведаўся пра свайго двайніка. Валера бачыў яго каля «Камунаркі», а Віктар сягоння сустрэў каля гадзіннікавага завода «Прамень». Чаму двайнік ходзіць увесь час з двайніцай маёй жонкі? Бог з ім. Хай ходзіць як хоча, куды хоча і з кім хоча. Галоўнае, ён не ходзіць з маёй жонкай.

### Прадавачка і нацюрморт

Дамовіўся з унукам, што той прыйдзе ў майстэрню námаляваць. Каб практычнае сумясціць з прыемным, я пайшоў у краму набыць рознакаляровай садавіны. Я выбіраў жоўтыя і чырвоныя яблыкі для нацюрморта, а потым папрасіў прадавачку ўзважыць вялікую зялёную грушу. «Мне патрэбна самая прыгожая, самая смачная груша! — сказаў я і дадаў: — Мне ж у бальніцу трэба…» — «Калі вам у бальніцу, я зараз знайду яшчэ большую і яшчэ лепшую грушу…» Чаму я раптам сказаў пра бальніцу? Надакучыла мне нахабства прадавачак садавіны і гародніны, а скажы ты ёй пра бальніцу — і прадавачка робіцца цалкам нармальным чалавекам, яна нават зрабілася ветлівай. Дзякучы спагадлівай прадавачцы, нацюрморт у майстэрні стаіць выдатны, і ў Вовы на палатне ўсё добра атрымалася, і можна пачынаць есці грушу… Сапраўды, смачная! Не падманула прадавачка, і не падманула толькі таму, што падманулася сама.

### Шылер і Піндрык

На вуліцы Кузьмы Чорнага ў адным двары жылі мае раўналеткі Шылер і Піндрык, немец і яўрэй. Ім было цяжка. Аднаго называлі «фашыстам», другога — «жыдам». Савецкі антысемітызм, як і савецкі антыгерманізм, — з’явы брутальныя. Шмат хто з немцаў і яўрэяў не

вытрымліваў гнятлівага ціску ды мяняў прозвішча. Шылеры перарабляліся ў якіх Шытавых, а Піндрыкі — у якіх Пятровых. Мае суседзі былі хлопцамі зацятымі, яны не толькі не збіраліся мяняць прозвішчы, яны ўсяляк падкрэслівалі ўласную адметнасць. Шылер насіў на правай руцэ чорную скураную пальчатку і быў заўжды гатовы да бойкі. Піндрык заўсёды меў грошы, мог шмат чаго купіць і пазычаў рублі пад працэнты. Шылер лічыў сябе моцным, а Піндрык — разумным. Здарэнне, пра якое я збіраюся распавесці, вымагае пэўнага ўдакладнення акалічнасцяў. У тагачаснай савецкай імперыі былі адны сапраўдныя духі — «Красная Масква». У кожнай сям'і меўся флакон у выглядзе крамлёўскай вежы. Дзецям кранаць флакон забаранялася. Большасць тых крамлёўскаформенных флаконаў, што ўпрыгожвалі этажэркі, серванты ды трумо, былі пустымі. А так хацелася панюхаць чароўны водар раскошы… Шылер з'явіўся ў двары з флаконам «Краснай Масвы». Піндрык за дзесяць капеек купіў дазвол першым панюхаць духі. Ён заціснуў пальцам адну ноздру і з усяе моцы ўцягнуў паветра. Вочы Піндрыка закаціліся, ён страціў прытомнасць і ўпаў. Шылер пільна ўглядаўся ў збялелы твар Піндрыка, бо сачыў за эксперыментам. Папярэдне ён наліў у флакон нашатырны спірт. Праз колькі хвілін Піндрык ачуняў і разам з усім дваром смяяўся. Тады і я смяяўся…

**Стандарт**

Дзяўчына спытала ў мяне: «Ці прыйшоў час, каб змяніць стандарт жаночай прыгажосці 90-60-90?» — «Прыгажосць вымяраецца каханнем і любоўю, а не сантыметрамі».

**Мадэль і Цэль**

Не бывае непрыгожых жанчын, але бываюць жанчыны з брутальнай гісторыяй. Кароткая шыя ці апендыцытны шрам на жываце мяне ніколі не раздражнялі ў натуршчыцах, як і крываногасць з валасатасцю не бянтэжылі. Формы жаночых целаў мяне натхнялі і натхняюць заўжды, а іх разнастайнасць падштурхоўвае да стварэння характараў у малюнках і на палотнах. Але жудасная гісторыя жанчыны можа мяне адвярнуць ад самага прывабнага цела. Пазнаёміўся я з натуршчыцай Іраю з вайсковага пасёлка Цэль. Яна падпрацоўвала фотамадэллю ў маёй дачкі. Да Іры як да фотамадэлі ніякіх прэтэнзій у мяне няма. Яна выдатна працавала і выдатна атрымлівалася на здымках. Я збіраўся прапанаваць ёй папазіраваць для жывапіснага эцюда. Іра сядзела ў мяне дома на кухні, піла чырвонае віно, і я збіраўся сказаць ёй пра свой намер. Збіраўся і не сказаў, бо даведаўся, што яе дзядзька адрэзаў нажом галаву яе бацьку. Браты выпівалі, панапіваліся, пасварыліся і адзін другому адрэзаў галаву. Іра ў адзін вечар засталася і без бацькі, і без дзядзькі ў

лясным пасёлку Цэль. Пры першай магчымасці яна ўцякла са зненавіднага месца ў Мінск, дзе ўладкавалася ў мадэльнае агенцтва да Тамары. Менавіта Тамара і прывяла Іру да мяне дамоў. Іра піла чырвонае віно, а мне здалося, што яна п'е кроў. Я так і не прапанаваў ёй пазіраваць… Іра не затрымалася ў мадэльным агенцтве. Іра з'ехала ў Італію, у горад Перуджа, і там жыве. Спадзяюся, яна там за бутэлькаю чырвонага віна не распавядае тамтэйшым мастакам пра адрэзаную галаву свайго бацькі, і ў яе ўсё складаецца выдатна.

**Танец на Інтэрнацыянальнай**

Вяртаюся з кніжнага кірмашу. Там распродаж, тое, што каштавала дваццаць, цяпер прадаюць па сем. Замест адной заўсёднай нядзельнай кнігі ўзяў тры. Я-кнігавыдавец засмуціўся, але ж я-чытач узрадаваўся. Добры настрой перамог маркоту. Я-шпацырнік перайшоў мост праз Свіслач і павярнуў да рэстарацыі «Журавінка». Па вуліцы Інтэрнацыяльнай насустрач ішла загарэлая дзяўчына ў блакітнай сукенцы. Яна заступіла мне-мужчыну дарогу і пачала танчыць. «Я прыгожая?» — спытала танцорка. «Ты прыгожая!» — кажу я-мінак, а я-мужчына думае: «На ўсіх мяне не хопіць!»

**Таццяна і званок**

Звоніць мне Таццяна Заміроўская. Мой сотавік паказвае, што звоніць Заміроўская, і я яму веру. «Прывітанне, Таццяна!» — кажу. «Паглядзі, паглядзі якая птушачка!» — чую голас Заміроўскай. Аглядаюся навокал. Няма ніякай птушачкі. «Адчапіся!» — чую ў слухаўцы чужы мужчынскі голас і разумею, што мне пазваніў тэлефон, а не Таццяна. Яго выпадкова прыціснулі, і ён мне затэлефанаваў, і я ненаўмысна стаў сведкам інтымнай размовы пра птушачку. Раней казалі, што сорамна чытаць чужыя лісты, зараз можна сказаць, што сорамна падслухоўваць чужы інтым праз выпадкова ўключаны сотавы тэлефон. Я чалавек не сарамлівы, але, зразумеўшы, што птушачку я не пабачу, тэлефон свой ад сувязі з Заміроўскай адключыў.

**Тата і ап'яненне**

П'ю і не п'янею! Са мною такога ніколі не было. Як выпіваў, дык заўсёды хмялеў. Дзеля ж таго і п'юцца віно ды гарэлка. Тата мой скардзіўся, што ў маладосці ён раптоўна страціў здатнасць хмялець. Ён выпіваў, не п'янеў і баяўся гэтага так моцна, што кінуў піць на цэлы год. Ён лічыў, што страта здатнасці п'янець ідзе ў яго ад нервовага расстройства. Пэўна, яно так і было. Пазней да таты вярнулася жаданне выпіваць, ён выпіваў і хмялеў, і радаваўся жыццю. А мяне ён папярэджваў, што калі вып'еш і не захмялееш, гэта кепска. Я яму верыў. А цяпер я навучыўся хмялець без віна і гарэлкі, я хмялею ад паўнаты жыцця. Я п'ю жыццё і п'янею. Жыць і не п'янець! Я так не ўмею…

**Любоў**

Ты толькі збіраешся прыйсці ў наш свет, а цябе ўжо чакаюць блізкія людзі са сваёй любоўю. Ты прыходзіш у свет любові сваіх бацькоў, дзядоў і братоў. Ты жывеш і вакол цябе ўсё меней і меней людзей, якія любяць цябе так, як любілі яны. Ты дажываеш да таго дня, калі ніводнага з іх больш няма ў нашым свеце. Ты яшчэ жывеш тут, а яны ўжо чакаюць цябе са сваёй вялікай любоўю там.

**Конь Арцём**

Не шкадаваць пра мінулае, не ўскладаць вялікіх надзей на будучыню, жыць як набяжыць і радавацца таму, што ёсць… Падумаў пра мінулае, і згадаўся мне конь Арцём — вялікі, нязграбны, худы. Арцёма я запрагаў і ехаў з вёскі Рудня ў вёску Вуглы па хлеб і мяса для сваіх студэнтаў-аднакурснікаў, якія капалі бульбу. Добра б было мець свайго каня, і назваў бы я яго зноў жа ж Арцёмам, але мне больш не трэба ездзіць з вёскі Вуглы ў вёску Рудня, таму мне больш чым дастаткова аднаго хуткаплыннага ўспаміну пра чорнага каня, на якім я еду праз цёплы вераснёўскі лес.

**Гумовыя боты**

Жаданне зайсці ў лужыну неадольнае, але ты стаіш на самым беразе, пазіраеш у перакулены дагары нагамі свет і не заходзіш у ваду. Табе дзесяць гадоў. Бацькі забаранілі прыходзіць дадому з мокрымі нагамі. За мокрыя ногі яны сварацца на цябе, а ты сцінаешся і праз слёзы просіш купіць гумовыя боты. Маці абяцае табе купіць боты. Нарэшце, вы з ёй схадзілі ў краму, намералі і набылі бліскучыя чорныя гумовыя боты. Ты бегма ляціш да любімай шырознай лужыны. Цяпер можна… Ты асцярожна заходзіш у ледзяную ваду. Нават праз гуму чуваць яе холад. Ты брыдзеш па вадзе. Шчасце — ісці праз вясновую лужыну ў новых гумовых ботах.

**Ліда і грошы**

Самотная саракагадовая мінчанка — Ліда Данілевіч — прадала кватэру. Ніколі ў жыцці Ліда не атрымлівала столькі грошай, як за трохпакаёўку мамы-нябожчыцы. Адразу пасля мамінай смерці Ліда паспрабавала кватэру здаваць, але кватаранты ёй трапляліся несумленныя. У рэшце рэшт кватэра прадалася. На атрыманыя грошы Ліда планавала купіць новую мэблю ў сваю аднапакаёўку, а яшчэ яна запланавала справіць касцюм і паліто палюбоўніку — дальнабойшчыку з Віцебска. Карацей, планаў на грошы ў Ліды хапала. Але на яе грошы ў іншых людзей былі зусім іншыя планы. Два рабаўнікі высачылі жанчыну. Уночы адзін з іх спусціўся па вяроўцы з даху на гаўбец да Ліды Данілевіч. Другі рабаўнік забраў вяроўку і па сходах прыбег да дзвярэй самотнай жанчыны. Рабаўнікі лічылі Данілевіч з грашыма лёгкай здабычай. Ліда і сапраўды была лёгкай

здабычай, але якраз у тую ноч у яе ложку ляжаў магутны дальнабойшчык. Ён не толькі зламаў руку рабаўніка, які лез праз гаўбец. Ён яшчэ да з'яўлення міліцыянтаў прымусіў скалечанага чалавека распавесці ўсё чыста пра напарніка і пра наводчыцу з агенцтва нерухомасці. Наступным днём Ліда Данілевіч купіла палюбоўніку два паліто і зімовую куртку.

**Вільнюс і пытанне**

Ідучы па Вільнюсе, абавязкова сустрэну чалавека з пытаннем: «Што ты тут робіш?» Безліч разоў я казаў: «Жыву». Але зноў і зноў знаходзіцца новы чалавек са старым пытаннем. Я нічога ніколі ў Вільнюсе не рабіў, толькі жыў. Прыязджаў я сюды і жыў. Калі нехта мне прапаноўваў нешта нейкае рабіць, я адмаўляўся. Былі выпадкі, калі я адмаўляўся не адразу, але адмаўляўся заўжды.

**Бронік і зэдлік**

Дзед Бронік зрабіў мне персанальны зэдлік, каб я мог разам з дарослымі сядзець за сталом. Той зэдлік быў збіты доўгімі цвікамі з трох невялікіх, але тоўстых дошак. Ён меў дзве шырокія нагі ды гладкае сядзенне. Дзед добра зашкурыў зэдлік наждаком і пакрыў яго алейнай фарбаю з пакостам. Зэдлік займеў брунатна-чырвоны хатні цёплы колер. Я любіў сядзець на зэдліку і глядзець на полымя ў рускай печы, калі баба Ядзя гатавала сняданак, пякла тонкія залатыя бліны. Я важна сядзеў на сваім новым зэдліку, спінаю да сіняга зімовага акна, і глядзеў на трымцлівыя языкі агню. Дзе падзеўся мой зграбны двухногі зэдлік? Магу здагадацца: нейкі час ён яшчэ паслужыў у нашай вялікай сям'і меншым за мяне дзецям. Калі замест шырокай лавы і вялікіх чатырохногіх зэдляў вакол стала паставіліся крэслы, малы зэдлік прапаў. Пэўна, марознымі вечарамі ён, разам са старой лаваю і старымі зэдлямі, весела згарэў у грубцы.

**Грышкевіч, Грышкавец і Макарэвіч**

За сталом, пазастаўляным высокімі шклянкамі з півам, беларускі краявідапісальнік Грышкевіч распавёў, як у яго купляў палотны расійскі артыст Грышкавец. Барадаты мастак казаў, што кепска паголенага артыста зацікавіла сугучнасць прозвішчаў Грышкевіча і Грышкаўца, таму прадаўся не адзін, а два краявіды. «А ў мяне мінорны комік, Грышкавец, нічога не купіў!» — уздыхнуў я. «У цябе купляюць карціны толькі таму, што цябе ведаюць як пісьменніка. Так і ў Андрэя Макарэвіча купляюць карціны, бо ўсе ведаюць песні Макарэвіча!» — сказаў сівабароды краявідапісальнік і зрабіў вялікі глыток светлага піва.

**Вова і канапа**

У кватэры з'явілася новая скураная канапа. Старую канапу, якую рапаравалі ўжо тры разы, я пераставіў у кабінет, а новая заняла яе

месца ў зале. Унук Вова сеў на абнову і спытаў: «Чыя гэта канапа?» — «Твая!» — кажу. «Праўда?» — Вова не ведаў, ці можна верыць, вочы ягоныя поўніліся сумневамі. Я згадаў, як у маленстве пытаўся ў дзеда Браніслава пра канапу, як ён казаў, што канапа з люстэркам і фаянсавымі слонікамі мая, і я ў любы час магу прыязджаць і спаць на сваёй канапе. У хвіліны роспачы я згадваў канапу ў дзедавым доме, і рабілася лягчэй жыць. «Вова, канапа твая! І ты ў любы час можаш прыйсці да мяне, і можаш спаць на сваёй канапе колькі захочаш!» — «Калі нехта іншы захоча паспаць на маёй канапе, ён будзе пытаць у мяне дазвол?» — «Будзе». — «І я магу ўсім забараніць спаць на сваёй канапе?» — «Можаш». Вова мне паверыў…

**Змены**

Чалавек памяняў багоў на Бога, а Бога — на прыроду. Чалавек жахнуўся ад яе бязлітаснасці. Чалавек паспрабаваў быў вярнуць Бога на месца прыроды, але яна не дазваляе зрабіць такую рэстаўрацыйную змену…

**Выхаванасць**

Ёсць тры ступені выхаванасці. Першая, калі ты ведаеш, што за сабою трэба зачыняць дзверы. Другая, калі здагадаешся зачыняць іх акуратна. Трэцяя, калі навучышся зачыняць бязгучна…

**«Таемная вячэра» і Алег**

Забраў з майстэрні рамы, паўстаўляў у іх фрагменты свайго нацюрморта «Таемная вячэра», саставіў з фрагментаў агульную кампазіцыю і задумаўся… Ці скончыў я працу? Ці трэба працягваць? Дзе і як «Таемную вячэру» выстаўляць? Столькі пытанняў! Мусібыць знак! Ён не прымусіў сябе чакаць. Званок! «Што парабляеш, брат?» — «Раблю карціну «Таемная вячэра»!» — «Значыць, не дарэмна я табе тэлефаную са святой жыровіцкай зямлі! Калі ты прыедзеш да нас, у манастыр?» — «Адклаў я гэтае падарожжа! Адклаў…» — «Час ёсць! Ты малады! Але ўсё ж прыязджай да нас, намалюеш манастыр і сабор! У нас цудоўныя мясціны, яны будуць цябе натхняць на жывапіс!» — «Прыеду, Алег! Абавязкова! Мне трэба з табою пра апосталаў пагаварыць! Ты ў гэтым абазнаны лепей за мяне!» — «Буду чакаць! Хай табе дапамагае твой анёл-ахоўнік…» Такі знак. Праца скончана. Крыху нечакана для мяне. Але званок паэта Зніча яшчэ большая нечаканасць. Апошні раз я размаўляў з ім па тэлефоне ў 1979 годзе. Трыццаць гадоў прамінула, а нашыя адносіны не змяніліся, зусім не змяніліся. Дзіва.

**Рывера і хамячыха**

Пясняр мексіканскай рэвалюцыі Дыега Рывера спарадзіў плойму эпігонаў з эпігоншамі. Ягоныя манументальныя сценапісныя вобразы перамалёўваліся і зараз яшчэ тыражуюцца рознымі мастачкАмі і

мастАчкамі. Рывера вельмі выразна маляваў чарапы, індзейцаў, самбрэра, коней і вінтоўкі. Наколькі выдатна ён маляваў рэвалюцыянераў, настолькі ж гадка ён вымалёўваў рэвалюцыянерак. І на сонцы ёсць плямы. Таму мяне зусім не дзівіць той факт, які падаецца ў кнізе пра Рыверу з расійскай серыі «Жыццё надзвычайных людзей»... У дзяцінстве Дыега трымаў хамякоў, калі адна хамячыха зрабілася тоўстай ад цяжарнасці, ён узяў скальпель, разрэзаў хамячыху і змесціва яе жывата спусціў ва ўнітаз. Дзеянні будучага генія мексіканскай рэвалюцыі аўтар кнігі патлумачыў звышцікаўнасцю хлопчыка ды ягонай прагаю спазнаць найгалоўнейшую таямніцу быцця. Мяне гэты факт падштурхнуў да іншай думкі... У Рыверы была прыродная схільнасць да палавой паталогіі, таму можна паверыць і ў тое, што ён сапраўды моцна любіў апантаную вар'ятку са скалечаным у дарожнай аварыі целам — Фрыду.

## Энгельс, жонка і каханка

Кінуць жонку цяжка. Як падумаеш пра посуд, які давядзецца зноў наноў купляць, так жаданне кідаць робіцца меншае. Можна яшчэ падумаць пра мэблю, бялізну, кватэру, дом за горадам. Меў рацыю Энгельс, калі змітоўваў паходжанне сям'і з прыватнай уласнасцю і капіталам. Але жонку можна кінуць гэтак жа, як можна кінуць піць. Будзе цяжка, пакутна, балюча, але праблема вырашальная. Зазвычай кіданне піць і заканчваецца кіданнем жонкі. Ты цверазееш і з дзівам глядзіш на праяснены, яскравы і жорсткі свет. Як я мог жыць у алкагольнай каламутнасці? Як я мог столькі гадоў праспаць з гэтай трыклятай сучкай? Жонка кідаецца так, як кідаецца запойнае піццё гарэлкі. Каханка кідаецца зусім інакш. Каханка кідаецца так, як кідаецца паленне тытуню. Кінуць паліць цяжэй, чым кінуць піць. Думкі пра побыт і капітал не дапамагаюць. Таму каханка спачатку мяняецца на іншую, больш маладую і больш дарагую, так, як паленне цыгарэт мяняецца на паленне цыгары ці люлькі. Ты адкладаеш і адкладаеш кіданне каханак, а потым усё адно кідаеш. Кінуць можна ўсё і ўсіх. Было б рашэнне...

## Букоўскі і шынэль

Амерыканскі пантовы апавядальнік Чарльз Букоўскі заўважыў, што «Вайна і мір» Льва Талстога — другая пасля гогалеўскага «Шыняля» галоўная параза расійскай літаратуры. Такое стаўленне да Гогаля мяне спыніла. Чаму галоўная і асноўная параза расійскай літаратуры — аповесць «Шынэль», аповесць, з якой, па справядлівых словах Дастаеўскага, і выйшла ўся наступная расійская літаратура? Тыдзень я прахадзіў з пытаннем пра шынэль у галаве. Учора, у размове з Лёшам Андрэевым пачуў ад яго новы тэрмін «негалоўнае пакаленне» — так у сучасным Кітаі называюць маладую генерацыю,

што захварэла на шапагалізм. Калі асноўная падзея ў тваім жыцці — набыццё звычайных ботаў, а ты падаеш гэта — як прыдбанне чароўных ботаў-скараходаў — тваё існаванне нікчэмнае, і ты сапраўды належыш да прамежкавага малазначнага пакалення. Таму я пагаджаюся з галівудскім артыстам Букоўскім, які назваў геніяльны твор Мікалая Гогаля «Шынэль» галоўнай паразаю вялікай расійскай літаратуры.

**Міліцыянеры і гарачыня**

У бальнічным буфеце я замовіў сабе сасіску, запечаную ў цесце. Доктарка Вера паведаміла мне добрую навіну, а добрую навіну варта адзначаць. Доктарка сказала, што вока маё паправілася, і цяпер засталося плаўна вызваліцца ад кропель і мазяў. Яна пастукала кулаком па драўляным стале, каб яе словы спраўдзіліся, а я вырашыў адзначыць падзею паяданнем гарачай сасіскі. Я еў сасіску з горкай чорнай каваю і быў амаль шчаслівы. Цяпер я магу нават сказаць, што я быў цалкам шчаслівы. У мой ясны і шчаслівы свет зайшоў міліцыянер з аўтаматам. Ён агледзеў бальнічны буфет і накіраваўся да лядоўні з напоямі. Міліцыянер узяў з лядоўні двухлітровую бутэльку вады і стаў у чаргу. Чалавек з аўтаматам на плячы стаў у чаргу цывільных людзей. Я быў упэўнены, што ён не будзе стаяць у чарзе. Ёсць пэўны дыскамфорт, калі ўзброены чалавек стаіць у чарзе. Ці, можа, я яшчэ не прызвычаіўся да таго, што ўзброеныя людзі стаяць у чарзе? Напэўна, не прывык я да такога. Таму ўзяў я свой пластыкавы кубак з каваю і выйшаў на ганак. Там стаяў бандыт, якога ахоўваў другі міліцыянер з аўтаматам. Пакуль я дапіваў сваю горкую каву, у бальнічны двор заехаў сіні мікрааўтобус, з якога выйшлі яшчэ два міліцыянеры. Тут я і пачуў расповед пра бандыта, які выцягнуў з кішэні ў паўсляпога мужчыны сотавы тэлефон. Мужчына затрымаў рабаўніка, але той паспеў перадаць скрадзены тэлефон свайму памагатаму, які ўцёк. Міліцыянеры запакавалі бандыта ў мікрааўтобус і з’ехалі. Я падумаў, што гэтым разам міліцыянеры знойдуць скрадзены тэлефон. У іх жа ёсць два літры халоднай вады, а ў спёку за глыток вады любы бандыт раскажа ўсё, што ты толькі пажадаеш.

**Пытанні і адказы**

На кніжным кірмашы сівагаловы яўрэй спытаў у мяне: «Вам нешта паказаць ці падказаць?» — «З вашага дазволу, я проста пагляджу на кнігі, можа якая светлая думка прыйдзе ў галаву…» — «Харошы адказ, нават безадносна кніжак…» На выставе самадзейных мастакоў даўгавусы беларус спытаў: «Вам дапамагчы?» — «Дзякуй, у мяне і так усё добра!» — «Выдатны адказ, даўно такога не чуў…» У майстэрню патэлефанаваў сябра Сцяпан: «Што робіш?» — «Нічога не раблю, усё

зрабіў!» — «Выдатна…» Бываюць такія нядзелі, калі ў мяне атрымліваецца адказваць на пытанні.

**Лядаштасць**

У суботу пад маім віленскім акном праплываюць чорныя шыракаполыя капелюшы. Барадатыя вернікі накіроўваюцца ў сінагогу. Шэсце людзей у чорным выглядае ўрачыстым. Аднойчы спакусіўся я ды й наведаўся ў сабор. Уразіла лядаштасць. А скарыла мяне карункавая старызна ўсіх тамтэйшых рэчаў. Здалося: паспрабуеш дакрануцца — і ўсё тут рассыплецца, развеецца, знікне і прападзе ў незваротнасці. Інтэр'ер сінагогі нібыта асвятляўся слабым святлом ветаха. І ў ясны сонечны дзень там панавала месячнае святло. Дзівосная была старызна, пракаветнасць і запаветнасць. Пасля наведвання сінагогі добра перачытвалася кніга «Лікі» са «Старога запавету».

**Дарожныя знакі і смяротныя грахі**

Задумаў у мяне заўжды ўтрая больш, чым магчымасцяў і здольнасцяў іх павыконваць. Зазвычай мае знаёмыя мастакі скардзяцца на адсутнасць свежых ідэй. Я скарджуся на адсутнасць часу на выкананне задумаў. Убачыўся новы праект… Сем дарожных знакаў, якія забараняюць здзяйсняць смяротныя грахі. Знакі: «Шмат не жары!», «Не лютуй!», «Не будзь ганарысты і пыхлівы!», «Не сквапнічай!», «Не блудзі!», «Не зайздросці!», «Не лянуйся!»… Палянуюся выканаць, дык хоць распавяду пра антыгрэшны праект.

**Гаўдзі і ракеты**

Каля ста гадоў будуецца сабор у гонар святой сям'і па праекце Антоніа Гаўдзі. Узводзяцца, уздымаюцца ў каталонскае неба неагатычныя, мадэрновыя вежы, уганараваныя пампезнымі крыжамі. Пятнаццаць гадоў я назіраю за гэтай будоўляю ў Барселоне. Мільёны вандроўнікаў прайшлі пад вежамі, яшчэ мільёны пройдуць. «Гэта трэба ўбачыць! Гэта абавязкова трэба ўбачыць да таго, як памрэш!» Ідуць і глядзяць, едуць і глядзяць… Што яны бачаць? Хай самі і скажуць… Бачу ракеты, якія ніколі не ўзляцяць. Раней вежы-ракеты ўздымаліся высока ў нябёсы, цяпер саборы заціснуты і прыціснуты хмарачосамі. Гаўдзі яшчэ спадзяваўся! Ён апошні, хто спадзяваўся на тое, што вежы ягонага сабора ўзляцяць… Гляджу на вежы і бачу: дождж пайшоў.

**Беларускі пазітывізм**

«Пашанцавала!» — так беларус спрабуе ацаніць любую сітуацыю. Незалежнасць? Пашанцавала! Атрымаў заробак? Клас! Любую норму беларус спрабуе перавярнуць у станоўчасць. Нават зароблене, зробленае, здзейсненае ён адносіць на шчаслівы шанец, які яму падарыў лёс. Беларус прыедзе на край свету, заселіцца ў пасрэдны

гатэль, атрымае пасрэдны сняданак з яечняй і салам, пап'е гарбаты і скажа сваё «пашанцавала!». Расеец распачне скандал з-за перасмажанага сала, амерыканец будзе прыніжаць афіцыянта, немец паспрабуе выбраць найлепшы кавалак… Беларус прыме сітуацыю такой, як ёсць, і самасуцешыцца медытацыйным «пашанцавала». Сваю вінаватасць, безыніцыятыўнасць, вяласць, нягегласць беларус будзе хаваць за «Не пашанцавала!». Але зноў жа і ў «не пашанцавала» ён будзе ўкладаць пэўны станоўчы сэнс, каб «я» беларуса заставалася невінаватым у кепскасці. А пры першай палёгцы будзе сказана сакраментальнае: «Пашанцавала!»

**Нольдэ і нямецкасць**

Разглядаючы краявіды экспрэсіяніста Эміля Нольдэ, заўважыў: у яго ўсё наскрозь нямецкае. Нямецкія хмары, нямецкія хвалі, нямецкія палі… Нават зорачкі ў начным небе ў Эміля Нольдэ нямецкія. Колькі ён ні спрабаваў маляваць Афрыку ці Палесціну, Акіянію ці Рай нябесны, у Нольдэ атрымліваецца Нямеччына, убачаная вачыма немца. Надзвычайнае бачанне.

**Лозунг і паэт**

Лозунг асляпляе. У асляпленні ўся моц і сутнасць лозунга. Лозунг заўжды кароткі, невытлумачальны і энергетычна ёмісты. Безумоўна, лозунг — паэтычная форма, паэтычны код, паэтычны знак. Лозунг належыць народу. Усялякае аўтарства моцна прыніжае і хутка разбурае лозунг. Адсюль і ўсім вядомая думка, што паэт-прарок толькі прагаворвае-агучвае словы, што ліюцца са светлых нябёсаў.

**Маркава і лісты**

«Гэта складана — напісаць ліст паэту, — аднойчы разважала Вера Маркава. — Напісаць просты ліст няпроста, а напісаць паэту вельмі складана. Трэба змяніць абстаноўку. Варта выйсці ў парк ці знайсці цяністую алею, каб там пад пошум лістоты накідаць чарнавік. Лісты да паэтаў пішуцца пад вялікімі дрэвамі…» Не стаў я распытваць паэтку Маркаву, прыняў словы на веру. Цяпер лісты да паэтаў пішу ў парках. Але паэтаў мала, і лісты да іх я амаль не пішу.

**Экалагічна чысты прадукт**

Мужчыны пілі тры дні. Увечары трэцяга дня яны выкапалі сакрэтны бітон з самагонам, які хаваўся на вяселле. Тут маці нявесты і не вытрымала: «Уся вёска чакала таго вяселля, рыхтавалася… А тут мужчыны адкаркавалі бітон. Жывёліны! Інакш іх і не назавеш!» Жанчына падчапіла на вілы вялізны каравяк, прытараніла ў хату і ўкінула яго ў бітон з самагонам. «А што? Каравяк — экалагічна чысты прадукт!» — сказаў старэйшы з п'янтосаў, і мужчыны працягнулі запой.

## Барынаў і шчасце

**СЕДЗЯЧЫ Ў БАРАНАВІЧАХ, Я ДУМАЎ, ШТО ШЧАСЦЕ ЖЫЦЬ У МАСКВЕ. У МАСКВЕ, ТОПЧУЧЫ БРУДНЫ СНЕГ, ДУМАЎ, ШТО МАЁ ШЧАСЦЕ Ў ІСПАНІІ. ТАМ ПАЛЬМЫ І МОРА, КАРАБЛІ І ВІНО! ЦЯПЕР Я ЛЯЖУ ПАД ВЫСОКАЙ ПАЛЬМАЮ, ПОБАЧ СТАІЦЬ ВЯЛІКАЯ БУТЭЛЬКА ВІНА, Я КУРУ ТРАВУ І... Я ПРАЦУЮ КОКАМ НА КАРАБЛІ. У МЯНЕ ПРОЦЬМА ВОЛЬНАГА ЧАСУ, Я ПІШУ І ПРАДАЮ КАРЦІНЫ І... ШЧАСЦЯ НЯМА! У МЯНЕ НЯМА ШЧАСЦЯ. «У ЦЯБЕ ЁСЦЬ?» — ПАЧУЎ Я АД МІКОЛКІ БАРЫНАВА. «ЁСЦЬ! СЯГОННЯ Я КУПІЎ САНДАЛЕТЫ ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ. НІКОЛІ НЕ ЛЮБІЎ САНДАЛЕТЫ. А СЯГОННЯ КУПІЎ ІХ У АПТЭЦЫ. ДАЖЫЎСЯ! КУПЛЯЮ АБУТАК У АПТЭЦЫ. ПЛЯВАЦЬ Я ХАЦЕЎ НА ЭЛЕГАНТНАСЦЬ, ШЫК І ЗНЕШНЮЮ ПАМПЕЗНАСЦЬ. МНЕ ПАТРЭБНА ЗРУЧНАСЦЬ, І Я АБУЎСЯ ЗРУЧНА; Я ПЕРААБУЎСЯ Ў АПТЭЦЫ. І ШЧАСЛІВЫ...»**

## Пірандэла і паэтычны семінар

Як жа даўно я не ездзіў на літаратурныя семінары! Запрашаюць і запрашаюць, а я ўсё знаходжу розныя нагоды і адмаўляюся. Гэта з-за таго, што ў маладосці наездзіўся на іх, набадзяўся на шмат гадоў наперад. Я назнаёміўся з рознымі паэтамі і празаікамі, з драматургамі і перакладчыкамі, з кнігавыдаўцамі і кнігапрадаўцамі. Стаміўся ад знаёмстваў, стаміўся падтрымліваць калялітаратурныя сувязі. Нават удзячнасці я стаміўся выказваць. А цяпер прыняў запрашэнне і прыехаў у Вільню на міжнародны форум па хайку. І не дзеля сябе я паехаў, а дзеля ўсіх сваіх сяброў, з якімі была створана школа беларускага хайкускладання. У Вільню прыехаў я з братам, Міраславам. Пасля тлумнага, перапоўненага новымі тварамі дня ён выпіў брэндзі і лёг спаць, а я пачаў чытаць навелу Пірандэла «Свіння»... «Свіння выцягнулася, зморшчыла ад задавальнення свой лычык, нібыта яна жадала ўсміхнуцца ад звычнай гаспадарскай пяшчоты, і падставіла шыю. Тады Сару вольнай рукою ўсадзіў у яе нож, у самае сэрца...» Як добра паміраць свінні, якая прынясе шмат радасці сваёй смерцю! Падумалася мне перад сном. А яшчэ мне падумалася, што наш Міхась Стральцоў, пэўна ж, чытаў навелу Пірандэла перад тым, як напісаць сваё геніяльнае апавяданне «Смаленне вепрука».

## Бан'я і гальштук

Што мяне ўразіла ад сустрэчы са старшынёю сусветнай асацыяцыі хайку (WORLD HAIKU ASSOCIATION) — спадаром Бан'я? Ружовы гальштук! Такога шаўкавіста-ружовага гальштука ў мяне няма. Я наогул ніколі не бачыў, каб мужчыны насілі гальштукі такога жанocha-ружовага колеру.

**Радрыгес і віно**

За вячэраю за мой стол падсеў паэт з Партугаліі — Давід Радрыгес. На вячэру ён крыху спазніўся. Партугалец замовіў сабе шклянку чырвонага віна. Пакуль афіцыянтка хадзіла па віно, Давід паспеў расказаць пра сваю маці. Ёй дзевяноста шэсць (!) гадоў, і кожны вечар яна выпівае шклянку чырвонага. Афіцыянтка вярнулася і сказала, што чырвонае віно скончылася, але яна яшчэ зможа прынесці белага. Каб такое здарылася ў Беларусі, мы б сказалі, што такое можа здарыцца толькі ў Беларусі. Але, дзякуй Богу, здарэнне з чырвоным віном адбылося не ў Беларусі. Давід ні на кроплю не засмуціўся. Ён пахваліў белае віно і распавёў, што ягоны тата працаваў дэгустатарам партвейнаў.

**Асака і ружжо**

Японец Шынтаро Асака сказаў партугальцу Давіду Радрыгесу, што партугальцы цалкам змянілі культуру Японіі, бо прывезлі на японскія выспы ружжо. На гэта партугалец адказаў тым, што моцна спачувае тагачасным і сёняшнім самураям.

**Таўшнер і святло**

Прыемна, калі ўбачыш чалавека, які ў начным горадзе стаіць на пустым скрыжаванні і чакае зялёнае святло. Ён чакае дазвол на пераход вуліцы, як яго чакаюць беларусы. Але ён не беларус, а ён аўстрыец Дэтмар Таўшнер. Ён, як і ты, піша хайку і пераходзіць вуліцы на зялёнае святло, што прыемна.

**Брэдзіс-Макавей і аўтографы**

Малады латышскі аматар японскага вершаскладання — Адрыян Брэдзіс-Макавей пачаў збіраць аўтографы ў новенькую анталогію хайку. «Як зборы?» — пацікавіўся я ў яго праз пару гадзінаў. «Японцы цяжка паддаюцца ідэнтыфікацыі!»

**Сучы і стома**

Прафесар такійскага ўніверсітэта падышоў да мяне і спытаў, каго з японскіх паэтаў я люблю. На пытанне прафесара Сучы я адказаў, як вучань настаўніку, пералічыў чатырох вялікіх: Басё, Бусона, Ісу і Сікі, а потым дадаў пятага — п’яніцу Сантока. Прафесар дастаў з кішэні капэрту з фотаздымкамі і падарыў мне «Дамок Ісы ў парку». А яшчэ ён паскардзіўся на тое, што ў WORLD HAIKU ASSOCIATION адказвае за пераклады вершаў з нашага рэгіёна, і яму вельмі цяжка, і ён стамляецца. Я паспачуваў Сучы. І яшчэ... Цяжка паверыць, але любімы паэт у прафесара Сучы — наш зямляк Адам Міцкевіч.

**Кудра і сябар**

Іду ў рэстарацыю на ланч, а з рэстарацыі выходзіць расійскі хайдзін Кудра. «Пятровіч, вы так хутка паелі?» — пытаю Зміцера Кудру, які падпісвае свае хайку псеўданімам Petrovich. «Не, я бягу

нашых паклікаць...» Праз пяць хвілін Кудра з'явіўся ў рэстарацыі. Ён быў адзін. Пад пахаю ў Пятровіча паблісквала пляшка гарэлкі. «Бачу, вы добрага сябра паклікалі!» — кажу Пятровічу. А ён мне ў адказ праспяваў кароткі расійскі неперакладальны верш: «Можем вместе бутылочку приголубить».

### Лідзія і Андрэйка

Паэтка з Аўстраліі — Лідзія — спытала ў мяне: «Ці ўсе беларускія паэты моцна храпуць?» Каб не кінуць калегу-суайчынніка ў бядзе-адзіноце, я запэўніў чуйную аўстралійку, што храпуць — усе. Але літоўскі паэт не пагадзіўся з маім талерантным абагульненнем. Ён сказаў, што наш Андрэйка Хадановіч хроп неверагодна гучна, хроп ажно захлынаўся ўласным храпеннем. Аўстралійка ўсю ноч адпакутавала, хоць спала яна і не з Андрэйкам, а ляжала праз дзве сцяны ад яго. Каб пераканаць прысутных у праўдзівасці сваіх словаў, літоўскі паэт прадэманстраваў храпенне Андрэйкі. Размова адбывалася ў віленскім касцёле святой Кацярыны, дзе мы чыталі са сцэны свае вершы. Ахоўнік падышоў да літоўскага паэта, папрасіў яго выйсці на вуліцу і храпці там.

### Плечкаў і лекі

Здараецца, што жывапісцу захочацца нешта нейкае вылепіць з гліны; а бывае і наадварот, скульптар возьме фарбы і напіша карціну на палатне. Мой таварыш, Плечкаў, вучыўся на скульптара. Аднойчы ён захварэў, нічога страшнага — проста прастудзіўся. Стаяла восень, скульптар патрапіў пад дождж, вымак і пачаў кашляць. Лежачы ў ложку, Плечкаў чытаў кнігу пра Клода Манэ. Імпрэсіянізм, з ягонымі сонечнымі краявідамі, так захапіў прастуджанага скульптара, што ён узяў эцюднік з палатном ды паехаў у лес. Там ён доўга блукаў, пакуль не зайшоў у глухое балота. Стоячы на хісткім дзёране, пад якім ляжала багна, Плечкаў напісаў на палатне рудое балота і блакітнае неба. Ён зрабіў імпрэсіяністычны эцюд і паправіўся. Плечкаў сам са здзіўленнем казаў, што вылекаваўся менавіта жывапісам.

### Каткоў і батутныя гімнасты

Трэба было напісаць «батутныя акрабаты», але мы — я і Міша Пракоф'еў — лічылі сябе батутнымі гімнастамі. Мы разам хадзілі ў студыю выяўленчага мастацтва, якой кіраваў Сяргей Каткоў. Студыя тая была ў палацы піянераў і школьнікаў, на трэцім паверсе. У студыі, вядома ж, меліся і рукамыйнік з прыбіральняю. Гэтыя выгоды былі агульнымі з гімнастычнай залаю. А ў той зале стаяў вялікі белы батут! Часам у нядзелю мы прасілі Сяргея Каткова пакінуць нас у студыі, маўляў — не паспелі падамалёўваць карціны. Каткоў пакідаў ключ і сыходзіў, а мы ляцелі ў гімнастычную залу, каб скакаць на батуце. Мы скакалі на ім у чаравіках. Недаравальны ўчынак! Каюся! Я скакаў на

батуце ў чаравіках і крычаў на ўсю залу: «Я — батутны гімнаст!» Міша Пракоф’еў таксама скакаў і крычаў. А яшчэ і рэха за намі крычала: «Я — батутны гімнаст!» Пазней я даведаўся, што скачкі на батуце — самы небяспечны від спорту, бо ў ім найбольшая колькасць смяротных выпадкаў, спартоўцы часцяком ломяць сабе шыі на такім прыгожым белым батуце. Нам пашанцавала, нас — Мішу Пракоф’ева і мяне — ні разу не злавілі і не пакаралі за тое, што мы скакалі на батуце ў чаравіках.

**Грышкевіч і нітка**

Загаварыў я з краявідазнаўцам Грышкевічам пра п’янства. З мужчынамі цікава пагаварыць пра жанчын і пра грошы, але пра п’янства і лягчэй, і цікавей. Грышкевіч распавёў, з-за чаго на восем гадоў ён кідаў піць... «Я нітку мастацтва згубіў. Устаю пасля п’янкі, станаўлюся каля мальберта, пэцкаю палатно, а нітка мастацтва не даецца ў рукі. Раней пачну пісаць карціну і адчуваю, што ўхапіў за нітачку, цягну тую нітачку да сябе, асцярожненька так выцягваю яе з нябыту, а карціна сама пачынае пісацца, колеры праяўляюцца, абрысы становяцца на свае месцы. Ад такой працы адна радасць! А тут стаю як той баран, вачыма лыпаю і разумею: мастацтва ад мяне ўцякло! Паехаў я ў Магілёў, да спецыялістаў. Яны дапамаглі. Праз пару месяцаў я зноўку намацаў нітачку чароўную. Восем гадоў не піў, цяпер п’ю і нітку трымаю, не адпускаю. Калі нітку згублю, піць кіну!» Цікава распавёў Грышкевіч, але нітка мастацтва — рэч у гаспадарцы неабавязковая. Іншая гісторыя, калі ты праз п’янства губляеш нітку сноў. Так усё проста: лёг, вочы заплюшчыў, пацягнуў за нітку, і сон агарнуў цябе, і праспаў ты да самай раніцы, і ўстаў бадзёры пасля добрага адпачынку. А тут праз праклятую гарэлку заснуць ніяк не можаш. Ляжаш, заснеш на якія пару хвілінаў і прахопліваешся, і цэлую ноч не спіш. Удзень сонны бадзяешся, думаеш, што гарэлкай можна падлекавацца, сам сябе падманваеш. Тут трэба кідаць піць, бо без ніткі сноў доўга не працягнеш, без ніткі сноў жыцця няма.

**Барыс і абкраданне кватэр**

Мой знаёмы Юрась распавёў пра свайго знаёмага Барыса, а я занатаваў, бо сам я з падобнымі сучаснікамі ніколі не размаўляў. Барыс — кватэрны злодзей, дамушнік. Ён злодзей прафесійны, а восьмай раніцы ідзе на справу, домоў вяртаецца а пятай увечары. У Барыса ёсць некалькі залатых правілаў, што дапамагаюць доўгі час гуляць на волі. Дамушнік павінен знаходзіцца ў чужым памяшканні не больш за тры хвіліны. Што ўзяў за тры хвіліны — тваё, астатняе застаецца гаспадару. Калі ты за тры хвіліны нічога каштоўнага ў чужой кватэры не знайшоў, гэта азначае — гаспадар разумнейшы за цябе. Ён не толькі добра хавае свае грошы, ён можа ўпалёваць

дамушніка. Зазвычай людзі хаваюць грошы за лядоўняю, спадзяюцца, што злодзей палянуецца адсоўваць цяжкую лядоўню. Раз на год Барысу даводзіцца пераязджаць з горада ў горад. Пераезды ён лічыць самым цяжкім момантам у сваёй справе. Усім астатнім Барыс цалкам задаволены.

### Сачык і сметнікі

Воўка Сачык малюе абразы. Ён паціху п'е гарэлку і на дубовых дошках выпісвае лікі праваслаўных святых. З Воўкам я вучыўся на мастака, і адносіны ў нас захаваліся прыязныя. Днямі я сутыкнуўся з Сачыкам на вуліцы Кірава. Ён узрадавана сказаў: «Чытаю цябе! У часопісе «Даберман» прачытаў абразкі пра алкаголікаў. Не думай, я часопісы і газеты не купляю. Часопісы і кнігі я на сметніках бяру. Штораніцы раблю абыход суседніх сметнікаў. Колькі ўсяго добрага і патрэбнага людзі выкідаюць! Ты сабе і ўявіць не зможаш. На сметніку я знайшоў цэлы стос «Даберманаў», пагартаў, убачыў твой твар і прачытаў увесь часопіс. Мне падабаецца корпацца на сметніках. Большасць хлопцаў з нашага пакалення даўно належаць сметніку. Заўваж, пераважная большасць. Яшчэ якіх пяць—дзесяць гадоў — і на сметніку апынуцца нашы ўсе...»

### Люда і эпідэмія

У краіне пачалася эпідэмія. Усе толькі і гавораць пра «свіны» грып. Але размовы застаюцца размовамі, пакуль нейкі, блізкі табе, чалавек не паедзе ў бальніцу на машыне «хуткай дапамогі». Пасля такога ты пачынаеш хвалявацца па-сапраўднаму. Так і я, слухаў пра людзей, памерлых ад скарацечнай хваробы, і не надта сабе перажываў. Тут мне патэлефанавала Люда і сказала, што на занятkі не прыйдзе, бо яе паклалі ў бальніцу. Люда прыходзіць раз на тыдзень, і я паціху спрабую навучыць яе пісаць дзённік. Поспехі ў нас даволі сціплыя, але яны ёсць: занатоўкі маёй вучаніцы друкаваліся ў часопісах «Монолог» і «Нёман». Якраз «Нёман» са сваёй публікацыяй Люда і не паспела купіць, бо нечакана патрапіла на бальнічны ложак. Я захваляваўся. Тэлефаную ў бальніцу, дзе ўсе палаты і калідоры, як сказала Люда, «заваленыя хворымі». Перажываю за вучаніцу. Сёння, пасля ўколаў, ёй стала лепей, і мне таксама зрабілася крыху лягчэй.

### Вова і прамалёўванне жыцця

Прамаляваць сваё жыццё так жа ж добра, як праспяваць ды пратанцаваць яго. Сёння я накупіў у краме яблыкаў з грушамі. Унук Вова іх намаляваў. Пасля малявання мы елі сакавітую садавіну. У маёй майстэрні яшчэ засталася адна груша і невялічкая іспанская дыня. Паціху я вучу Вову прамалёўваць жыццё. Танцаваць і спяваць яго навучаць іншыя, спадзяюся.

## Мастакі і выгоды

Мастакі гавораць па-беларуску безвыгодна. Раней я гэта не мог сфармуляваць. Ведаў, што мастакі і літаратары размаўляюць па-рознаму, але пра моўны меркантылізм не задумваўся. Вашчанка мне кажа: «Ты пахудзеў...» Пасміхаюся і пагаджаюся, бо даўно няма таго — налітага вінам Валодзі Адамчыка, які старанна вучыўся ў Гаўрылы Вашчанкі рабіць вітражы ў сабор. Усміхаюся, а сам сабе думаю: няма ў мове Гаўрылы Вашчанкі правільнасці, але і штучнасці ў ёй нямашака. Сваё адкрыццё я вырашыў неадкладна пераправерыць. Пагаварыў з Бараноўскім пра Браслаўшчыну, дзе мы разам пісалі азёры. Паразмаўляў з Фэлем Янушкевічам пра ягоны жывапісны Ракаў. Няма ў мове нашых мастакоў рацыянальнасці. Яны прамаўляюць беларускія словы, бо так атрымліваецца ямчэй. Гэта не азначае, што нашы мастакі зусім бескарыслівыя. Яны гадзінамі могуць абмяркоўваць плату за майстэрні, могуць з зайздрасцю і зласлівасцю абгаворваць сваіх калег, але сама мова застаецца безвыгоднай. Цэлы вечар я прыслухоўваўся да мовы мастакоў. Спачатку слухаў іх у Нацыянальным мастацкім музеі, дзе адбывалася адкрыццё юбілейнай выставы Валодзі Тоўсціка, а потым у рэстарацыі Дома журналістаў, на вялікім банкеце. Мастакі віншавалі Валодзю, выпівалі за ягоныя талент і здароўе, танчылі, весяліліся. А я ўсё слухаў і слухаў іх беларускую мову, такую адрозную ад мовы пісьменнікаў і журналістаў.

## Нольдэ і кветкі

Эміль Нольдэ навучыўся пісаць карціны не мазкамі, а пялёсткамі, і напрыканцы жыцця ён пасадзіў вялікі сад з вялікімі кветнікамі.

## Для сур’ёзных узаемаадносінаў...

Пасля моцнай кавы захацелася выпаліць цыгарэту. Сыпаў дождж, давялося схавацца пад арку каля выхаду з метро. Можна было пакурыць пад парасонам, але я не люблю курыць пад дажджом. Стоячы пад аркаю, я разглядаў людзей, якія выходзілі і заходзілі ў метро. З асалодаю я паліў і разглядаў жанчын. Адна з іх злавіла мой позірк: «Вы мяне чакаеце?» Трэба было адразу сказаць, што я нікога не чакаю, а проста палю пасля чорнай кавы. Не паспеў! «На здымку Вы глядзеліся крышку маладзейшым. Куды пойдзем?» Варта было сказаць, што я нікуды з ёй не пайду. «Я пагадзілася на спатканне толькі таму, што мы сустрэліся для сур’ёзных узаемаадносінаў!» Тут я заўважыў мужчынку з букецікам бурачковых ружачак. Мужчынка, дарэчы зусім не падобны на мяне, палахліва зіркаў у мой бок. Я раскрыў свой срэбна-шэры парасон і выйшаў з-пад аркі пад дробны дождж.

## Падманная прывабнасць

У самалёце, у вагоне цягніка, у аўтобусе выбіраю найпрывабнейшую з жанчын і разглядаю. Часам я нават паспяваю ў яе закахацца, бо яна ж найлепшая з усіх магчымых у гэты момант. Але я ведаю, як толькі адчыняцца дзверы ў аэрапорт, на вакзал, на аўтобусны прыпынак, яе прыгажосць і прывабнасць знікнуць… Цікава, ці ведаюць пра тое жанчыны? Рытарычнае пытанне. Канешне, ведаюць і ўсімі сіламі спрабуюць адгарадзіць свайго мужчыну ад жанчын, прыгажэйшых і маладзейшых за сябе.

## Павелічэнне адпачынку

Каб удвая павялічыць свой адпачынак, трэба спаць не толькі ўначы, але і ўдзень. Замест аднаго дня атрымаецца два, і ты выдатна, па-сапраўднаму адпачнеш. Я правяраў, формула працуе. Калі ты не ў адпачынку, і адпачынак твой яшчэ далёка, дык можаш паспрабаваць павялічыць удвая свае выхадныя дні.

## Падарунак і прапанова

Саша Карпейчык зрабіў мне падарунак, прынёс дзевяць кніжак з серыі «Скарбы сусветнай лірыкі». «Адарваў ад душы!» — сказаў Саша і выклаў кніжкі з папкі на стол. «Што я табе вінен?» — «Нічога ты не вінен. Я ж сказаў: дару, адрываю ад душы і дару… Я гэтую серыю ўсё жыццё збіраў, у мяне былі падвойныя асобнікі, каб мяняцца. Цяпер у Мінску не засталося тых, хто збірае «Скарбы сусветнай лірыкі»…»

З падарункам у сумцы я пайшоў дамоў праз парк. Было цёпла. Паветра ў парку стаяла густое і па-жніўеньску духмянае. Было ціха. Гэтым летам птушкі ўжо адспявалі.

На выхадзе з парку мяне запыніў мужчына майго веку: «Слухай, дзе тут можна ўзяць піва?» Я паказаў краму. «Хадзем, возьмем па бутэльцы…» — «Не магу…» — «Не хвалюйся, грошы ёсць. Возьмем піва, пасядзім у парку, пагаворым… Надвор’е якое стаіць! Цёпла! Трэба ўзяць піва і пасядзець каля рэчкі…» — «Сваё я выпіў. Сем гадоў не п’ю…» — «Зразумеў! Прабач! А я вазьму бутэльку, вярнуся ў парк і пасяджу каля рэчкі…»

Я ішоў далей з найцудоўнейшым настроем, бо не ведаў, што праз два месяцы майго сябра — школьнага настаўніка біялогіі Аляксандра Казіміравіча Карпейчыка — не стане.

## Натуршчыца і спеласць

Маляванне — страсць. Такое ў мяне стаўленне да малявання, іншага стаўлення не прызнаю. Размова пра мядзведзя, якога можна навучыць маляванню, выклікае крывую ўсмешку на маім твары. Добразычлівая ўсмешка з’яўляецца ў мяне тады, калі гляджу на жанчыну, якую варта намаляваць. Днямі на выставе «Беларускі павільён» я сустрэў менавіта такую жанчыну. Была дзяўчына, а тут

яна выспела ў жанчыну. Зафіксаваць у малюнку працэс выспявання — такое жаданне апанавала мяне. «Добра было б цябе намаляваць!» — сказаў я. «Ніколі не пазіравала мастаку, толькі аднаму фатографу пазіравала…» — адказала яна. «Заўтра сустрэнемся ў «Беларускім павільёне» і дамовімся пра пазірванне з маляваннем…» У наступны дзень мы не сустрэліся, мы сустрэліся праз дзень. «Учора я не змагла прыйсці, бо пазаўчора так загуляла, што раніцай прачнулася паміж двух мужчын…» Пераспела яна, а я не паспеў намаляваць момант яе найвышэйшай спеласці, не паспеў, не лёс.

**Ван Данген і анёл**

На адным з палотнаў Дангена чарнакрылы анёл танчыць з аголенай жанчынкай, ён танчыць і цалуе жанчынку ў шыю. Сам ён танчыць у жаночых лакавых чаравічках з высокімі абцасамі. Ён танчыць так, што я чую пацокванне ягоных капытоў.

**Неапалітанская жоўтая**

Ёсць меркаванне, што прафесійны мастак павінен любіць усе фарбы аднолькава. Так яно так, але ж любіць не загадаеш. Сягоння мне падабалася неапалітанская жоўтая. Фарбаваў ёй палатно і радаваўся. Не буду казаць, што берлінскі лазурак ці цэрулíум з ультрамарынам я люблю меней за неапалітанскую жоўтую. Але іх, разам з рознымі кадміямі, я любіцьмуць заўтра, а мой сённяшні апошні дзень кастрычніка афарбаваны неапалітанскай жоўтай, ёй і толькі ёй.

**Псеўданім і пашпартнае прозвішча**

Тата вельмі любіў і ганарыўся нашым прозвішчам — Адамчык. У гутарках пра сваё прозвішча ён заўжды падкрэсліваў ягоную чалавечнасць. Не стану казаць, што я не люблю сваё пашпартнае прозвішча; і люблю, і ганаруся ім, але падпісваю свае літаратурныя і мастацкія творы псеўданімам, бо не люблю блытаніны. Тата — Вячаслаў Уладзіміравіч Адамчык, я — Уладзімір Вячаслававіч Адамчык, падабенства настолькі вялікае, што кожная другая бухгалтарка блыталася, выпісваючы ганарары, таму я вырашыў падпісвацца прозвішчам маці — Глобус. А каб не крыўдзіць тату, дадаў да Глобуса імя Адам. Так з’явіўся мой псеўданім — Адам Глобус. Большасць маіх чытачоў лічаць псеўданім прыдуманым і штучным, але я да такога памылковага стаўлення прызвычаіўся. На пытанні пра псеўданім я адказваю разгорнута, згадваючы некалькі цёзкаў па прозвішчы…

**Глобус і Напалеон**

Пасля першай публікацыі маіх вершаў у маскоўскай «Літаратурнай газеце» я атрымаў ліст ад сям’і Глобусаў з Тбілісі. Яны пісалі, што іх продкі некалі жылі ў Гародні. У сям’і захавалася легенда пра

паходжанне прозвішча Глобус… Сам Напалеон звярнуўся да іх сваяка — заможнага і разумнага яўрэя, — каб той паказаў на карце найлепшы шлях да Масквы. Разумнік дапамог Напалеону, а той назваў яго «жывым глобусам». У памяць пра сустрэчу з Напалеонам яўрэй змяніў сабе прозвішча на Глобус… Нашчадкам гарадзенца я даслаў паштоўку з падзякаю за казку. На гэтым ліставанне і скончылася.

**Глобусы і Букоўскі**

Я моцна дзівіўся, прачытаўшы прозвішча Глобус у цітрах геніяльнага фільма «П’янтосы», які быў пастаўлены французскім рэжысёрам Барбетам Шродарам па творах амерыкаскага літаратара Чарльза Букоўскі. Галоўную ролю гіперрэальнага п’янтоса выканаў Мікі Рурк. Прадзюсарамі шэдэўра былі пазначаны Менахем Голан і Ёрам Глобус. У мяне нават узнікла жаданне напісаць ім ліст у Галівуд. Але сваё жаданне я не здзейсніў. Пасаромеўся, пэўна ж. Пасля заўчаснай смерці Ёрама Глобуса Менахем Голан вярнуў сабе сваё сапраўднае прозвішча. І не трэба здзіўляцца! Ён стаў Глобусам. Голанам Менахем зрабіўся ў 1948 годзе, калі служыў у ізраільскіх ваенна-паветраных сілах. Тады ён мяняў прозвішча з патрыятычных меркаванняў, Голан гучала ў Ізраілі больш патрыятычна за лацінскае Глобус.

**Глобус і караімы**

Не ведаю, наколькі патрыятычна гучыць прозвішча Глобус для караімаў, але старшынёй таварыства караімаў у сучаснай Літве з’яўляецца менавіта Глобус. Караімы — татары, што спавядаюць іўдаізм. Таму можна ўпэўнена казаць, што прозвішча Глобус носяць людзі з самых розных нацый і народаў.

**Глобус і Сікорскі**

У Архіве Польскага інстытута і музея імя генерала Сікорскага ёсць дакумент ад 17.VI.1944, у якім згадваецца Сцяпан Глобус, праваслаўны з Баранавіцкага павета, ён служыў у першай танкавай дывізіі, у дзявятым стралецкім батальёне. Выпіску ў архіве зрабіў для мяне навуковец Ігар Войніч.

**Глобус у «Канвееры смерці»**

Сярод кніжак серыі «Архіў найноўшай гісторыі» ёсць зборнік дакументаў, сведчанняў, успамінаў, складзены Ігарам Кузняцовым, — «Канвеер смерці». У раздзеле «Мартыралог. Спіс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных на тэрыторыі Заходне-Сібірскага края (Томская вобласць) у 30— 40-я гады і ў пачатку 50-х гадоў» я знайшоў такі запіс: «ГЛОБУС Мірон Ільіч (1895, Шчучын) жыў у Томску, загадчык кафедры № 2 Томскага ўніверсітэта. Арыштаваны ў 1937. Расстраляны».

## Глобус — поўны кавалер ордэна Славы

У капэрце, якую я атрымаў ад галоўнага рэдактара віцебскага часопіса «Мішпоха» спадара Аркадзя Шульмана, быў укладзены ліст з Арэнбурга. У ім я прачытаў пра Льва Глобуса — поўнага кавалера ордэна Славы. «…22 снежня 1944 года, падчас блакіравання вялікага дома на ўскраіне горада Секешфехервара, што ў Венгрыі, Глобус выявіў на гарышчы гэтага дома кулямётчыка. Прабраўшыся на гарышча, ён знішчыў кулямётны разлік і двух аўтаматчыкаў. Там жа ён захапіў варожую радыёстанцыю і перадаў яе ў штаб палка…» Леў Глобус загінуў у Будапешце 1 студзеня 1945 года. Нарадзіўся ён «у 1914-м, быў сяржантам і камандаваў аддзяленнем штурмавога інжынерна-сапёрнага батальёна. Да вайны ён жыў па адрасе: Чкалаўская (цяпер Арэнбургская) вобласць, горад Орск, вуліца Сцяпана Разіна, дом 78». За свае подзвігі Леў Глобус «быў узнагароджаны, акрамя ордэна Славы ўсіх трох ступеняў, ордэнамі Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі і трыма медалямі «За адвагу». Кожная з гэтых узнагарод — сведчанне доблесці, мужнасці, высокага вайсковага майстэрства». «Пакуль што не знойдзена сваякоў нашага славутага земляка». Пісаць у Арэнбург я не стаў…

## Леду і ўлада

Разважаючы пра архітэктуру, Клод-Нікола Леду заяўляў: «Усё ёй падуладна — палітыка, норавы, заканадаўства, рэлігія, урад». Чалавек сапраўды падпарадкоўваецца архітэктурным сітуацыям. І палітык, і заканадаўца, і святар, і ўрадавы чыноўнік залежаць ад архітэктуры, у якой існуюць, але яны залежаць ад яе не настолькі моцна, каб не паднаўляць свае старыя будынкі і не будаваць новыя дамы, саборы, гарады і сталіцы.

## Баба Броня і скрутак палатна

У час Другой сусветнай вайны мая баба Броня выкупіла ў немцаў дзеда Ладзіміра за скрутак ільнянога палатна. Хату нашу немцы спалілі, але палатно было закапана ў зямлю, таму і захавалася. Дзед працаваў грузчыкам на чыгуначнай станцыі Наваельня. Сям’і за спаленую падчас баёў хату далі пакой у прыстанцыйным дамку. Разам з дзедам на станцыі працавалі зладзеі з вёскі Таўкуны. Яны пакралі ваўняныя коўдры. Немцы агледзелі прапажу і пахапалі ўсіх грузчыкаў. Пачуўшы пра арышты, баба Броня схадзіла ў нашу спаленую вёску Варакомшчыну, выкапала скрутак палатна і занесла яго ахоўнікам. Уночы ахоўнікі адпусцілі дзеда, а нараніцу ўсіх арыштаваных таўкуноўцаў немцы пастралялі. З дзяцінства я ведаў сямейную гісторыю пра скрутак палатна, а таму да палатна ставіўся з павагаю. Лён я шанаваў заўжды. Цяпер, пішучы карціны на льняным

палатне, я часцяком згадваю гісторыю пра выратаванне дзеда. Нашто ахоўнікам было рызыкаваць і браць у бабы скрутак палатна? Каб памяняць лён на гарэлку.

**Гогаль і душы**

Вочы мае праз хваробу зрабіліся палахлівымі, таму стараюся ні ў што не ўглядацца, каб іх лішні раз не напружваць, таму і па тэатральнай афішы адно слізгануў адным вокам. Прачытаў і ўтрупянеў. ЧОРТАВЫ ДУШЫ было напісана вялікімі літарамі. Быць такога не можа! Падышоў бліжэй, зняў чорныя акуляры — і ўсё стала на свае звычайныя месцы. Дзюбаносы і хітрадушны Гогаль усміхаўся мне з рэкламнай тумбы і прапаноўваў паглядзець інсцэніроўку паэмы (ну, вядома ж!) МЁРТВЫЯ ДУШЫ. Толькі цяпер намалёваны Мікалай Гогаль не мог мяне падмануць, цяпер я ведаю, што паэма ягоная напісана не пра МЁРТВЫЯ, а пра ЧОРТАВЫ душы.

**Люстэрка і нябожчыкі**

Жонка вярнулася ад стаматолага ў кепскім настроі: «Ён выпісаў такі рахунак, што ў мяне не хапіла грошай, каб разлічыцца! Выглядаю я жахліва! Гляну ў люстэрка — і бачу нябожчыцу маці замест сябе…» — «Не перажывай, я таксама часам бачу ў люстэрку нябожчыкаў, бачу бацьку, а то і дзеда Ладзіміра. Гэта нармальна…» — «Ты лічыш нармальным, што я выглядаю на васьмідзесяцігадовую нябожчыцу?» — «Некалі Алеша разважаў пра свой пачварны адбітак у люстэрку… Што за чалавека я бачу ў халодным шкле? Хіба гэты страшны стары чалавек — я сам? Алеша пачынаў смяяцца са свайго адлюстравання. Ён смяяўся і казаў… Але ж ты пажыў! Але ж ты жывеш, стары!» Жонка, пэўна, уявіла вясёлага Алешу і крыху супакоілася. А я наадварот, расхваляваўся. Зразумела, усе нябожчыкі ў маёй фантазіі, іх няма і не будзе, але ж так хочацца, каб яны і сапраўды былі ў люстэрку, ну хоць бы там — у люстэрку…

**«Інтэр'ер з жанчынай**
**каля клавесіна»**

Спаў кепска. Прахопліваўся. Каб супакоіцца, разглядаў рэпрадукцыі з карцін галандскіх мастакоў сямнаццатага стагоддзя. Асабліва доўга затрымаўся на «Інтэр'еры з жанчынай каля клавесіна» Эмануэля дэ Вітэ. Заснуў. Прысніўся мне чорт, танканогі і танкарукі. Ні рагоў, ні хваста ў чорта не было, але я ведаў: ён — чорт. Ён бегаў па маёй спачывальні і перавешваў карціны з адной сцяны на другую. Усе карціны былі мае, акром палатна Эмануэля дэ Вітэ, знакамітага «Інтэр'ера з жанчынай каля клавесіна». Чорт гучна тупатаў. Ад чортавага тупату я і прачнуўся. Тупаталі людзі над маёй столлю. Не выспаўшыся, я ўсё адно пайшоў у майстэрню, каб дарабіць карціну «Дзве душы, Марыя і Лізавета». Карціну скончыў. Калі я

вярнуўся з майстэрні, дачка сказала, што ў кватэры над намі памёр сусед Міша: шырокі інфаркт.

**Даносчыцы і Юда**

Займаючыся зборам матэрыялаў для напісання крымінальнага чытва, абавязкова натрапіш на нейкую дрэнь! Гэтым разам я даведаўся, што ў наш час пераважную большасць даносаў пішуць жанчыны. Можна было б парадавацца за мужчын, якія вырашаюць свае праблемы іншым чынам. Але я засмуціўся, бо жанчына-даносчыца — з'ява больш гідкая і з'ява больш новая. Калі мужчыну-даносчыка ты цудоўна ўяўляеш дзякуючы хрыстапрадаўцу Юду, дык даносчыца-жанчына ў падобны хрэстаматыйны вобраз яшчэ не ўвасобілася. Гэткая перспектыва жаночага ўвасаблення мяне таксама моцна засмучае.

**Уладзімір і муза**

Мяне мала цікавіць чужое меркаванне пра літаратуру, бо ў мяне ёсць сваё. Каб маё меркаванне не страчвала актуальнасці, даводзіцца хадзіць у кнігарні, купляць свежыя выданні і праглядаць перыёдыку. Добра, што у крамах «Белсаюздруку» можна пагартаць часопісы і тыднёвікі, нават не набываючы іх. Так я і гартаў адзінаццатыя нумары сёлетніх «Полымя», «Маладосці» і «Нёмана», калі побач з'явіліся паэты — Вадзім з Уладзімірам. «Валодзя, а мы зайшлі часопіс купіць з маімі вершамі! А часопіс якраз у тваіх руках…» — Уладзімір узрадаваўся нашай выпадковай сустрэчы. «Ты купіш часопісы, каб падарыць музе?» — «Я падару вершы бухгалтару!» — «Разумна, але ты лепей падары часопіс музе!» — «Я ж не простаму бухгалтару падару, я падару часопіс галоўнаму бухгалтару!» — «Ты можаш падарыць свае вершы і міністру фінансаў, але гэта не выключае таго, каб вершы занесці музе! Муза мусіць атрымаць апублікаваныя вершы!» — «Добра. Нікому не расказваў, а табе раскажу. Ты як паэт зразумееш…» Уладзімір з Вадзімам ужо добра адзначылі выхад вершаў. Уладзімір як аўтар адзначыў мацней. Вадзім як таварыш паэта адзначыў не так моцна, таму і выглядаў спакайнейшым. Відавочна, Вадзім не вельмі хацеў, каб Уладзімір распавядаў мне сваю таямніцу, і нават паспрабаваў спыніць шчырую размову паэтаў. Але Уладзімір працягнуў: «У дзевяноста шостым майму бухгалтару сказалі, што трэба ісці на курсы галоўных бухгалтараў. Або яна ідзе вучыцца, або яе звальняюць з працы. Яна сказала, што пойдзе на курсы толькі тады, калі і я пайду разам з ёю. Тры з паловай месяцы я хадзіў на курсы галоўных бухгалтараў. Сядзеў я на бухгалтарскіх курсах і пісаў вершы пра сваю любоў да музы…» Вадзім з Уладзімірам набылі часопісы і пайшлі далей адзначаць выхад вершаў. А я накіраваўся ў

кнігарню «ў», каб распавесці чытачам свае думкі і меркаванні пра часопіс «Маналог».

## Стваральнік і крэатыўшчык

У беларускім прачытанні і прамаўленні «крэатыўшчык» бліжэй да вычварэнца, чым да стваральніка.

## Шакаладная фабрыка ў Нароўлі і мост у Мазыры

Напачатку быў малюнак… Шмат хто пачынае інакш, а я пачынаю з малюнкаў. Мяне навучылі думаць з алоўкам у руцэ. Так склалася: малюю абрысы, малюю вобразы, замалёўваю важныя для мяне матывы і сюжэты. Малюнкаў назбіралася безліч, яны ляжаць у розных папках і каробках. Каб напісаць нават невялічкае палатно, я мушу панамалёўваць безліч эскізаў, перабраць мноства варыянтаў. Калі ўсе яны мяне не задавальняюць, я пачынаю перабіраць старыя малюнкі. Можа некалі даўно я намаляваў нешта важнае, нешта значнае і забыўся пра яго? Мо там, у далёкім мінулым, засталася пластычная знаходка, якая вымагае пераасэнсавання і ўцялеснівання ў фарбы на палатне? Так я знайшоў накід, зроблены алоўкам на тонкай светлай шэра-зялёнай паперы. Некалькімі рысамі была накрэслена цукерачная фабрыка ў гарадку Нароўля…

Цёплым днём позняга лета, калі ўжо за даляглядамі хаваецца зусім блізкая восень, я з Тамараю пайшоў на Прыпяць. Зусім выпадкова мы зайшлі на прычал, ад якога адыходзіў прагулачны катар, які ўсе называлі ракетаю на падводных крылах. На тым катары мы і паплылі ў Нароўлю. Чаму менавіта ў Нароўлю, а не ў Пінск ці Кіеў? Каб мне хто растлумачыў… Мы плылі ў Нароўлю. На катары працаваў буфет, дзе можна было купляць маленечкія бутэлкі з крымскім вінoм «Вочы чорныя». Мы плылі ў Нароўлю і пілі «Вочы чорныя». Нам было соладка. Мы верылі ў сваё доўгае агульнае шчаслівае жыццё, якое нас чакае наперадзе. Дзе? Ды хоць бы ў той жа Нароўлі. У Нароўлі было сумна, горача і пыльна. Нічога цікавага ў той Нароўлі не было, акром шакаладнай фабрыкі з жоўтай вежаю. Я намаляваў фабрыку. Мы дапілі апошнюю цёмна-зялёную бутэльку «Вачэй чорных», леглі на траву на беразе Прыпяці і злюбіліся моцна-моцна, як могуць злюбіцца людзі, якіх чакае агульнае вялікае і шчаслівае жыццё. Мы ж не ведалі, што у нас не будзе ніякага агульнага жыцця, што жыць мы будзем у розных гарадах, кожны са сваімі турботамі і праблемамі. Мы нават не ведалі, што ў нас будзе агульная дачка. Пра што я тады думаў? Пра цукерачную фабрыку, пра тое, што добра было б уладкавацца мастаком на тую фабрыку і маляваць абгорткі для цукерак і аздабляць сваімі малюнкамі цукерачныя каробкі. Я нават падзяліўся сваімі думкамі з Тамараю.

«Ты ніколі сюды не вернешся!» — сказала тады значна цверазейшая за мяне Тамара.

Яна заўжды была значна цверазейшая за мяне. Нават калі я і яна былі абое цалкам цвярозыя, яна ўсё адно заставалася цверазейшай за мяне. За ўсё жыццё я толькі адзін раз бачыў яе сапраўды п’янай. У той вечар яна сказала, што цяжарная і жыць больш не хоча. Яшчэ сказала, што мяне не любіць і глядзець на мяне не можа. Як я супакоіў тады яе? Адкуль узялася пяшчота для супакойвання? Не ведаю. Цяпер я думаю, што яна засталася ад таго дня, калі мы разам прыплылі з Мазыра ў Нароўлю, дзе я моцна выпіў і спяваў песню пра ландышы. Тамара не любіла мае спевы. Я ведаў, што яна не любіць мае спевы і што песня пра ландышы ёй не падабаецца. Але мне заманулася спяваць, мне хацелася спяваць пра ландышы і вясну, хоць навокал было позняе гарачае лета. У Мазыр мы прыплылі позна ўвечары. Неба было чырвонае, а вада ў Прыпяці сіняя. На зваротным шляху я працверазеў. Я працверазеў настолькі, што папрасіў Тамару пачакаць, пакуль я намалюю мост праз Прыпяць. У мяне захаваўся малюнак таго моста. Ён захаваўся, бо мне наканавана напісаць карціну «Мост у Мазыры», як наканава напісаць палатно «Шакаладная фабрыка ў Нароўлі». Наканавана і ўсё, як Тамары было наканавана дачку нашу нарадзіць.

## Сорам і сыходы

Задумаўся я над простым пытаннем… Што дапамагала і дапамагае ў жыцці? Сорам дапамагаў! Ён прымушаў варушыцца, рухацца, распачынаць новыя справы. Я трапляў у якоесьці асяроддзе, жыў і працаваў разам з таварышамі і знаёмымі, а потым мне рабілася сорамна і за іх, і за сябе. Што б я з імі ні зрабіў, атрымлівалася кепска, і было сорамна за зробленае. Нельга казаць, што мы працавалі несумленна; як не скажу, што вакол мяне было мала таленавітых і здольных. Наадварот, асяродкі былі і цікавыя, і творчыя, і працавітыя. Толькі свой сорам я не мог пераадолець. Ён быў мацнейшы за астатнія пачуцці. Ёсць рэчы большыя за чалавека. Ёсць пачуцці, якія выглядаюць нелагічнымі, супярэчлівымі і нават шкоднымі, і адно з іх — сорам. Але я ў сваім жыцці шматкроць кіраваўся менавіта сорамам, і не шкадую пра гэта.

Першы раз я адчуў невыносны сорам у школе. Нейкія зладзеі абакралі кабінет фізікі. За той кабінет адказваў наш клас. Каму і нашто спатрэбіліся амперметры? Здагадацца цяжка. Настаўнікі з дырэктарам пашнуравалі вучняў у калідоры, і дырэктарка пракрычала: «Буду ўглядацца вам у вочы, а хто пачырванее, той і абрабаваў кабінет фізікі, той і звалок амперметры!» Мне зрабілася сорамна за гарлапаністую дырэктарку, за слабахарактарных і ліслівых

настаўнікаў, за прыніжаных і пакорлівых вучняў, за сваю занядбаную і бедную школу. Я пачырванеў, але той чырвані для дырэктаркі не хапіла, каб абвінаваціць мяне ў крадзяжы амперметраў. Той чырвані хапіла мне, каб сысці са школы; балазе, да канца навучальнага года заставалася пару тыдняў. Я здаў іспыты, забраў дакументы і сышоў у мастацкую вучэльню.

У мастакоўскім асяродку мне было добра. Майстэрні, музеі, натуршчыцы, фарбы, палотны... Пасля занудлівага і паўтурэмнага школьнага жыцця мастакоўскае асяроддзе падалося найлепшым у свеце. Такім яно і было ажно да моманту забароненай выставы, якую я зладзіў з сябрамі. Маю выставу забаранілі, прыйшлі людзі ў шэрых палітонах і загадалі зняць палотны са сценаў. Зняў. Спрачацца не мела сэнсу, бо людзі ў шэрых палітонах на ўсялякі выпадак выклікалі міліцыянтаў. Тыя перакрылі ўсе ўваходы ў памяшканне і гледачоў не пусцілі. А каб канфлікт з забаронаю не меў розгаласу, мне дазволілі выставіць свае палотны на адзін вечар у цёмным калідоры Саюза мастакоў. За гэты чортаў вечар розныя народныя і заслужаныя мастакі мусілі сказаць мне ў твар, які я паганы мастак, і тым замацаваць пазіцыю людзей у шэрых палітонах. Народныя, заслужаныя, ардэнаносныя сацрэалісты прыйшлі і нагаварылі гадасцяў. Мне было сорамна! І не за сябе, і не за свае палотны зрабілася сорамна, а за гэтых ілжывых нікчэмных людзей, якія верылі ў нейкі сацыялістычны і хімерычны рэалізм. Мне больш не хацелася працаваць поруч з імі. Не хацелася выстаўляць свае палотны на адных з імі выставах. Дваццаць пяць гадоў я з імі не выстаўляўся. Яны адышлі, саюз мастакоў пераехаў у іншае памяшканне, і сорам знік, і я зноў паказваю свае палотны на розных выставах. Гэта я кажу дзеля таго, каб ты ведаў, што можна ператрываць і перачакаць сорам, што ён не ўсемагутны і можа знікнуць так жа ж, як і з’явіўся.

А вось сорам за тэлевізійны асяродак у мяне адно мацнее. Уключаючы DVD-плэер, я часам бачу фрагменты тэлепрадукцыі мясцовых тэленяўмекаў. Бачу і чырванею ад сораму. Мне сорамна за іх і за сябе. І я не ведаю, ці змагу пазбыцца гэтага сораму. Узнік ён даўно. Напрыканцы васьмідзясятых — на пачатку дзевяностых гадоў я працаваў на тэлевізіі. Разам з сябрамі рабіў перадачы і здымаў фільмы. Свет мяняўся, мянялася тэлебачанне, і можна было наўпрост у камеру казаць тое, што ты думаеш. Можна было спрачацца, разважаць, пераконваць, палемізаваць. Можна было сесці ў студыі разам з якім кіраўніком і распачаць спакойную гутарку пра цяжкі эканамічны стан у краіне. Толькі тое «можна» хутка змянілася на «нельга». Яно ўжо змянілася, а я ўсё не мог паверыць у абсурдную змену. Я ездзіў са здымачнай групай і рабіў сюжэты: пра мастакоў

у вар'ятні, пра дзяржынскіх міліцыянераў, якіх прымусілі пасяліцца ў дамках, пастаўленых проста на яўрэйскія могілкі, пра панявечаныя курганы і замчышчы… Мы здымалі, а людзі ў шэрых пінжаках размагнічвалі нашы стужкі. Мы здымалі, а яны ціхенька нішчылі зробленае. Калі я даведаўся пра знішчэнне адзнятых матэрыялаў, мне стала сорамна. Не злосць, не крыўда, не жаданне помсты, а менавіта сорам запоўніў маю душу.

Цяпер я раблю кнігі. Часам у кнігарні мяне ахоплівае сорам за зробленае іншымі, а вось за свае кнігі мне ўсё яшчэ не сорамна. Гэта зусім не азначае, што я ў захапленні ад зробленага, ці мне заўсёды падабаецца тое, чым даводзіцца займацца ў кніжным асяродку, але ж не сорамна. Калі стане сорамна, адразу сыду. Часам недасведчаныя людзі, як тая хамуйлаватая школьная дырэктарка, спрабуюць абвінаваціць мяне ў крадзяжы нейкіх амперметраў. Толькі я ўжо не школьнік і магу спакойна сказаць дурню, што ён дурань і што ў яго няма сораму.

**Горыч і слодыч**

Раніцай люблю горкае. Горкая кава, горкі дым цыгарэты, прэсная і крыху падсоленая аўсянка з ледзь адчувальнай гаркатою. Раніца для мяне павінна быць крыштальнай, цвярозай, бадзёрай і горкай. А вечарам хочацца салодкага. Салодкая гарбата, салодкі вінаград, шакаладная цукерка і салодкае печыва з салодкай грушаю. Вечар я стараюся зрабіць сабе салодкім, бо інакш не засну.

**Маркс і попыт на кнігі**

Як толькі нехта скажа, што кніга — тавар, мне з такім чалавекам робіцца нецікава размаўляць. Вядома, кнігі прадаюцца ў крамах і на выставах. Пэўная колькасць людзей, сапраўды, бачыць у кнізе толькі тавар. Для гэткіх людзей робяцца і заўсёды рабіліся адпаведныя кнігі. Яшчэ Маркс заўважыў: «У грамадстве, заснаваным на беднасці, самыя кепскія прадукты непазбежна карыстаюцца найбольшым попытам». Як раней, так і сёння на кніжных кірмашах найбольшым попытам карыстаюцца кепскія кнігі. Такія кнігі можна называць таварам, але яны мне малацікавыя як чытачу і як літаратару.

**Постмадэрнізм
і правінцыйная правіца**

Якія палітычныя перакананні былі ў стваральнікаў постмадэрнізму? Простае пытанне, здавалася б… Каб не закручваць інтрыгу там, дзе яе не трэба закручваць, скажу адразу: постмадэрнізм стварылі і ствараюць новыя левыя. Удакладню: праўдзівы постмадэрнізм рабіўся і робіцца мастакамі, журналістамі і літаратарамі, чые погляды блізкія да ліберальных і левых. Новы стыль мастацтва і жыцця выбудоўваўся пасля катастрофы, пасля Другой

сусветнай вайны. Правыя таталітарныя рэжымы прывялі свет на бойню, у якой пацярпелі і адпакутавалі ўсе без выняткаў. Сёння зноў уздымае сваю паганую брудна-зялёную галаву правінцыйная правіца. Ёсць рысы ў паводзінах правінцыйнай правіцы, па якіх яе можна пазнаць. Вось яны: псеўдарэлігійны фанатызм, шальмаванне навукі, табуяванне эротыкі і прыніжэнне сучаснага мастацтва. Правінцыйная правіца смярдзіць, як гнілая тушонка з вайсковых складоў. Каб не атруціцца, трэба «закапаць» такую «тушонку» разам з яе носьбітамі і распаўсюднікамі глыбока ў зямлю.

**Лірыка і пташкі**

Лірыка — маленькая пташка ў руцэ паэта. Моцна сціснеш кулак — задушыш, а ў слабых пальцах — не ўтрымаеш. Адны паэты, накшталт Анатоля Сыса, яе задушылі; іншыя, падобныя да Леаніда Галубовіча, яе выпусцілі.

**Радасці і сродкі**

Каб радавацца напоўніцу, патрэбна шмат сілаў. Лепей цяпер аддаваць большую частку сваіх здольнасцяў і сілаў на вясёлае задавальненне, чым марнаваць іх дзеля памнажэння ды збірання сродкаў для будучых радасцяў у нямоглай старасці. Ведаць ведаеш, а робіш усё наадварот.

**Яйка і птушкі**

Напрыканцы восені, у цёмныя і бяссонечныя дні, прачынацца не хочацца, так бы спаў і спаў, як той мядзведзь у глыбокім берлагу. Але ж трэба прачынацца, трэба ісці на працу, трэба грошы зарабляць-ляць-ляць-ляць. Устаю позна, галюся, мыюся, апранаюся і разумею, што паснедаць не паспяваю. Кладу ў кішэнь зваранае курынае яйка і выходжу пад хмурнае дажджыстае неба. Іду праз сквер, да метро. У скверы пуста, пахне вільготнай зямлёю і апалай лістотаю. Самы час з'есці яйка. Пастукваю ім аб металёвую ручку парасона. Абіраю яйка. Ем. На вершалінах дубоў пачынаюць каркаць устрывожаныя вароны. Ім непрыемна і страшна глядзець, як я з'ядаю птушыную душу. Каб можна было не есці, дык і не еў бы зусім, а спаў бы, спаў бы і спаў да самага лета.

**Хемінгуэй і рыба**

У мяне ўвесь час пытаюцца... Што ты больш любіш: пісаць ці маляваць? Цікава... Каб хто спытаў у Хемінгуэя, што ён больш любіць — пісаць ці рыбу лавіць. Стары Хэм сказаў бы, што ловы марской рыбы цікавейшыя. А можа, і не сказаў бы. Хто яго ведае. Так і я не ведаю... Ёсць жаданне маляваць — малюю. З'явіцца жаданне напісаць навелу — зраблю навелу... У кожнай рыбіны, карціны і навелы свой час.

## Тры фарбы

Калі б мне дазволілі пакінуць сабе толькі адну фарбу, я ўзяў бы чорную. Каб дазволілі мець дзве, да чорнай я дадаў бы чырвоную. Каб дазвол пашырыўся да трох фарбаў, на палітры з'явілася б фарба белая, каб ёй выпраўляць чорныя і чырвоныя памылкі.

## Час і Чаплін

Навокал навагодняе свята. Яно засыпана лічбамі, гадзіннікамі і датамі. Як тут не паўглядацца на тонкія вусікі гадзіннікавых стрэлак? Як тут не задумацца пра няспынны кругазварот, у якім усё нараджаецца і ўсё памірае, нараджаецца, каб памерці, і памірае, каб нарадзілася новае. З новым годам! З новым часам! Новы час нараджае новы стыль. А што ёсць стыль? Стыль і ёсць час. Стыль мацнейшы за чалавека, за асобу і яе перакананні. Не? Тады пытанне... Чаму ж у Адольфа Гітлера былі вусікі Чарлі Чапліна? Чаму Катоўскі і Гартны таксама насілі вусы рыхтык як у Чапліна? Таму што час і ёсць стыль.

## Яснасць раніцы

Прачынаешся, і яшчэ з нерасплюшчанымі вачыма адчуваеш, што недзе там, высока-далёка ў небе, усё змянілася, перасклалася і выправілася. Выходзіш у ціхі парк. Ліхтары ззяюць зычліва-залатым святлом. Галасы качак над спакойна-сіняй вадою вітаюць цябе. Да тваіх ног падбягае белы пудзель. Ён вясёлы і рухавы. «Харошы, харошы!» — кажаш пудзелю. Навокал прахалода і крыштальная яснасць раніцы.

## Вёска

Як яна далёка ад мяне, мая вёска. Тая вёска, дзе пражылі мае дзяды, прадзеды і прапрадзеды. Здавалася б, сеў ды паехаў, і праз якіх дзве-тры гадзіны ты ў вёсцы, ты ў сваёйВаракомшчыне. Не едзеш, адкладаеш, бо ніякай пільнай патрэбы адведаць вёску ў цябе няма, а ты жывеш актуальным і тэрміновым, неадкладным і выгодным. Якая патрэба ў адведванні старой вёскі, дзе ні дзеда, ні бабы даўно няма? Ніякай відавочнай патрэбы няма, але ж нейкая сіла цягне цябе туды, нейкія галасы клічуць.

Сніцца яна табе часта. Сніцца яна кепска.

Хаты, паўрасталыя ў зямлю па самыя коміны. Чужыя бруднатварыя бабы ў тых земляных хатах жывуць. Ад тых хат ты кіруешся на рэчку, на тваю Ятранку, а яна поўная высокай вады. Плынь глыбокая, але празрыстая, вада чыстая і насычаная сонцам, такая чыстая вада ў Ятранцы, што ты можаш разглядаць кожную пясчынку на дне. Ты разглядаеш, а з-за вербаў за табою цікуюць старыя мурзатыя бабы. Табе робіцца кепска, і ты прачынаешся.

Ты ляжыш і думаеш, што як толькі пацяплее, як сыдзе снег і пойдзе трава, ты абавязкова выберашся ў вёску, у сваю Варакомшчыну. Туды, дзе некалі даўно-даўно ты пасвіў пакорлівых авечак і вялікіх кароў, дзе лавіў срэбнабокіх плотак і паласатых акунёў, дзе прыносіў з лесу кашы маслякоў.

Ты засынаеш са светлай душою, з вераю ў хуткае падарожжа.

Раніца поўніцца будзённымі абавязкамі, і пра сваю вёску ты забываеш.

Ты б і не выбраўся ў Варакомшчыну, каб не дзятлаўскія гімназісты. Табе патэлефануюць з мястэчка Дзятлава і запросяць у гімназію. Ты прыедзеш, бо адмаўляць дзецям — апошняя справа. Дзеці зладзяць чытанне сваіх першых навуковых прац, прысвечаных творчасці твайго бацькі. Ты будзеш сядзець і слухаць, як тата любіў свой край, як цудоўна ён апісаў сваю вёску і сваіх вяскоўцаў. Пасля цябе правядуць у музей, дзе з-за шкла на цябе зірнеш ты сам. Бог мой, як жа гэта страшна, калі ў музеі ты глядзіш сам на сябе. Такое адчуванне, быццам ты даўно памёр, і нехта іншы стаіць сярод настаўнікаў і гімназістаў. Ад цябе жывога засталася адно маленечкая шэрая фотакартачка… Ты пахваліш гімназістаў і настаўнікаў, пахваліш дырэктара гімназіі і падзякуеш яму за моцную каву. Ты выедзеш з Дзятлава, паедзеш у бок Наваельні, а за Наваельняю ты спынішся, выйдзеш з машыны.

Ты зойдзеш у сваю вёску, у сваю Варакомшчыну.

Пасыплецца дождж. Дробны, халодны, занудлівы дождж пасыплецца на вёску. Табе заўсёды снілася сонечная і цёплая Варакомшчына. А вярнуўся ты ў халодную і мокрую шэрую вёску. На якое імгненне табе падасца гэта несправядлівым, але ты скарышся, бо адчуеш як расплываешся ў гэтай шэрасці і дажджы. Адчуеш, як трава прарастае праз цябе, а кроплі дажджу ляцяць скрозь тваё цела. Ты станеш адным цэлым са сваёю вёскаю, з дзедавым домам і са сваёю зямлёю.

Згадаюцца кроплі, якія сыпаліся з поўнага вядра ў глыбокі калодзеж. Вядро цяжкае, вада крыштальна-чыстая і ледзяная. Кроплі сыплюцца ў калодзеж.

У шэрым дажджы, у шэрай вёсцы сваёй ты ўбачыш празрыстыя цені. Ты пабачыш тых, каго даўно няма, хто пакінуў наш цяжкі свет. Ты ўбачыш сваіх дзядзькоў, ты ўбачыш бацьку і дзеда з бабаю. Усе яны будуць займацца будзённымі і патрэбнымі справамі. Дзядзькі пілавацьмуць дровы, дзед ставіцьме новы плот, баба карміцьме курэй. Гаварыцьме за ўсіх іх будзе твой бацька, ён і скажа, што ты вінен гэтай зямлі і гэтай вёсцы, ты вінаваты нашай Варакомшчыне, і ты

мусіш адрабіць тое, што вінаваты, мусіш апісаць і намаляваць вёску…

Насланнё.

Каб ушчэнт не змокнуць, ты вернешся да машыны і з’едзеш са сваёй вёскі, з’едзеш са сваёй Варакомшчыны, ты з’едзеш, каб вярнуцца.

**Эній і графаманы**

Графаман верыць, што пісьменнік паходзіць ад графамана, як чалавек ад малпы. Калі графаману сказаць, што паходжанне пісьменніка мае іншую прыроду, вера графамана можа пахіснуцца, і ён пачне згадваць Бога і д’ябла. Усіх да сябе падобных графаманаў ён абвесціць боганатхнёнымі стварэннямі, а пісьменнікаў пачне клясці і называць служкамі д’ябла. У такі момант варта згадаць верш рымскага паэта Энія: «Вось малпа, а як, мярзотнае стварэнне, да нас падобная!» Гэты верш захаваўся дзякучы цытаванню ў трактаце Цыцэрона «Пра прыроду багоў». Ён захаваўся, каб нагадваць нам, што падабенства яшчэ не з’яўляецца доказам роўнасці і не кажа пра агульнасць паходжання.

**Мама і жоўтыя пацеркі**

Маме маёй споўнілася дзевяць гадоў. Жыла яна тады ў дзеда Яна, у вёсцы Старая Рудзіца. Дзед з’ездзіў на санях у мястэчка Койданава і прывёз сваёй любай унучачцы падарунак — жоўтыя пацеркі. Дзяўчынка цешылася тымі круглымі пацеркамі тыдзень, а потым схавала іх. Яна пакінула пацеркі ў дзедавай хаце, бо пабаялася браць іх з сабою ў дарогу. Прыйшла вестка, што немцы збіраюцца паліць Старую Рудзіцу. Карнікі наважыліся спаліць цэлую вёску, бо ў ёй партызан застрэліў паліцыянта. Людзі сышлі з вёскі, хто куды змог сысці ці з’ехаць у сярэдзіне марознага студзеня. Жанчыны нашай сям’і схаваліся ў сваякоў, у лясной вёсцы Масцішчы. Карнікі расстралялі і спалілі ўсіх мужчын, якіх знайшлі ў Старой Рудзіцы. На пажарышчы нашага дома мама доўга шукала свае жоўтыя пацеркі. Ёй вельмі хацелася знайсці хоць бы адну, хоць бы самую маленечкую жоўтую пацерку з белымі прожылкамі. Не знайшла яна ніводнага шарыка. Колькі ні поркалася, колькі ні граблася ў чорным вуголлі, а так і не знайшла нічога. Шэсцьдзясят пяць гадоў мая мама ўсё згадвае жоўтыя пацеркі, падораныя ёй дзедам Янам у Старой Рудзіцы.

**Тата і падушка**

Люблю сваю падушку. Часам мне здаецца, што мая падушка жывая і разумная, і ў яе нават ёсць маленечкая душа. Жарт, зразумела. На чужых падушках я сплю кепска. Нават у шыкоўных гатэлях некалькі начэй даводзіцца прывыкаць да падушак. Адзіныя,

на якіх мне спалася добра, былі падушкі бабы Броні ў нашай вясковай хаце з земляным токам замест падлогі. На тых вялікіх падушках мне спалася салодка і глыбока. Можа, таму я ніколі не здзіўляўся гісторыі, што днямі зноў згадала мама. Гісторыя тая пра тату і ягоных хросных бацькоў. Тата нарадзіўся позняй восенню, на Дзяды. У той год снег лёг рана. Таму дзіця, якому быў толькі тыдзень, павезлі хрысціць на санях. Баба Броня спяшалася пахрысціць сына, бо баялася, што ён не выжыве і памрэ няхрышчаным. У Варакомшчыне такіх няхрышчаных дзяцей хавалі не на могілках, а на моглiцах. Месца тое на беразе рэчкі Ятранкі я добра памятаю. Ніякіх капцоў і помнікаў на ім не было, адно выкладзеныя са скочак блякла-зялёныя крыжыкі на дзірване. Вясковыя кабеты, ідучы з працы, часам спыняліся і моўчкі стаялі на моглiцах, згадваючы сваіх нехрышчоных дзяцей-нябожчыкаў. Каб якія мужчыны стаялі на моглiцах, я не бачыў. На моглiцах было цяжка. Таму і спяшалася баба Броня, таму і паклала сына ў падушку, а падушку занесла на сані. Калі хросныя — ліха на іх, бо ўсю дарогу яны працалаваліся — прыехалі на царкоўны падворак, дык падушкі на возе не было. Давялося ім вяртацца. Падушка з дзіцёнкам, дзякаваць лёсу, знайшлася на скрыжаванні ў прыдарожным сумёце. Тату майго Чэся хуценька пахрысцілі і прывезлі з царквы дамоў. Ні баба Броня, ні дзед Ладзімір два гады нічога не ведалі пра згубленую падушку. А праз два гады хросны бацька майго таты сказаў бабе Броні: «Глядзі ты! Бегае твой Чэсік, вырас і бегае! Мы ж думалі, што не выжыве. Думалі, што застудзіўся і хутка памрэ. А ён, глядзі ты на яго, бегае…»

## Іваноў і Расія

Мароз такі, што за хвіліну робішся нібыта шкляным. Здаецца, зачапіся ты за нешта — і разаб'ешся, і рассыплешся на востравугольныя аскепкі… У вечаровых Ашмянах пуста і чыста. У марознай чысціні зіхацяць рознакаляровыя лямпачкі. Касцёл, царква і прывакзальны пляц падсветлены белымі пражэктарамі. Неба бяздонна-чорнае.

З нейкай настойлівай пастаяннасцю ў гэтым месцы мне згадваюцца словы масквіча Аляксандра Іванова, які, вандруючы па Беларусі, паўтараў: «Не Расія!» Здавалася б: такі рускі мароз, такая руская царква і зусім ужо «Рускае радыё» ў халодным аўтобусе «Каўнас— Мінск», а не Расія, і ўсё тут. Можа, тут і не тая Беларусь, пра якую мы марылі. Мо яна яшчэ не тая родная Беларусь, якую б мы хацелі пабачыць, але тут «Не Расія!», гэта ўжо стоадсоткава і назаўжды.

## Надзвычайныя рыфмы

Ёсць рыфмы і рыфмы. У рускай паэзіі ёсць рыфмы надзвычайныя. Напрыклад, Пушкін і Гогаль. Недасведчаны можа і не пачуць такой

рыфмы, але яна, безумоўна, ёсць. Як ёсць і такія рыфмы: Цютчаў і Фет, Талстой і Дастаеўскі, Маякоўскі і Ясенін, Чэхаў і Бунін… У беларусаў гэтаксама ёсць надзвычайныя рыфмы: Купала і Колас, Багушэвіч і Багдановіч. Ёсць яшчэ Быкаў і Караткевіч, але да гэтай рыфмы маё вуха яшчэ не прызвычаілася. Для падобных рыфмаў патрабуецца час. Менавіта час і стварае такія ўнікальныя рыфмы, як Гётэ і Шылер, як Платон і Арыстоцель.

**Маня і вайна**

«Не ўсіх дурных вайна пабіла!» — казала прабаба Маня Кісель, калі нехта з яе ўнукаў рабіў шкоду. Больш беларускага, больш нашага, больш жаночага стаўлення да вайны я ніколі не чуў.

**Жанчына і мароз**

Яна стаяла на аўтобусным прыпынку і спявала. Мароз быў такі моцны, што жанчына спявала з закрытым ротам. Яна хітала галавою ад аднаго пляча да другога і мыкала: «Мммы-ы-ы… Мы, мы, мы…» Акром жанчыны на прыпынку нікога не было, калі не лічыць мяне, які праходзіў побач. Мяне і сапраўды не трэба залічваць у прысутныя, бо я не адгукнуўся на жаночае мыканне. Жанчына зазірала мне ў вочы і спявала, а я думаў, што варта апісаць самотную спявачку на цёмным зімовым прыпынку. Я думаў чорт ведае пра што замест таго, каб адгукнуцца.

**Паэт і крытык**

Які паэт, такі ў яго і крытык… Так і думаю, так і ёсць. Мне пашанцавала з крытыкамі. Пра мае кнігі напісана шмат сабачых водгукаў. Раней я іх збіраў, у мяне была цэлая скрыня з-пад абутку, наладаваная выразкамі з газетаў і часопісаў, дзе аблайвалі мае творы. Надакучыла збіраць, і я выкінуў скрыню на сметнік. Цяпер у мяне ёсць падобная скрыня ў інтэрнэце, яна называецца «Фаны Адама Глобуса». Каб яе можна было занесці на сметнік, я б занёс. Абрыдла. Але што ёсць, тое ёсць, і пра тое, што было, я не забыўся.

Я дабро памятаю. Крытыкі мяне баранілі ад сабачых літзграй. Мяне баранілі найлепшыя з беларускіх крытыкаў, разумнейшыя з іх. Хто? Шмат хто… Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў, Валянцін Акудовіч, Леанід Галубовіч, Сяргей Дубавец, Андрэй Савіцкі, Людміла Рублеўская, Андрэй Дынько, Ганна Кісліцына… Ім і шмат каму іншаму я ўдзячны за дапамогу, за разумныя словы, за разуменне літаратуры. Карацей… Які паэт, такі ў яго і крытык.

**Мясціны**

У маладосці, калі чалавечы век здаваўся доўгім і вялікім, я выбіраў сабе мясціны для жыцця. Ездзіў я па свеце, прыглядаўся, прымерваўся. Такіх мясцін назбіралася не так і шмат, а дакладней іх было ўсяго тры: Мазыр, Тарту і Сочы. Каб у тыя часы не было

«жалезнай заслоны», што падзяляла свет на два варожыя палітлагеры, і мне можна было б выехаць за межы савецкай імперыі, месцы б выбраліся зусім іншыя. Толькі легальна пакінуць імперыю я не мог, а на ўзброены канфлікт на мяжыісці не было намеру з-за сваіх пацыфісцкіх перакананняў, праз якія нават у… войска я не пайшоў. Таму ўсе найлепшыя мясціны майго хіповага юнацтва былі ў межах адной, хай сабе і велізарнай, дзяржавы.

Ціхі Мазыр я ўпадабаў з-за жанчыны. На стромкім беразе шырокае Прыпяці жыла мая Тамара. Мы гулялі з ёю ў летнім духмяным сасонніку, плавалі на рачным параходзіку, пілі «масандру», набытую ў параходным буфеце, цалаваліся і мілаваліся. Як жа ж было не палюбіць спакойны Мазыр? Мне бачылася нашае жыццё з Томаю і дачкой Вольгаю ў ціхамірным Мазыры. Замоў на розныя сценапісы і вітражы ў Мазыры і Гомелі было шмат. Заробкі ў тагачасных мастакоў-манументалістаў былі вялікія. Так што я сур'ёзна думаў кінуць Мінск і перабрацца ў Мазыр, але адносіны з Тамараю сапсаваліся, я застаўся ў Мінску.

Універсітэцкі гарадок Тарту мяне ўразіў сціпла-зялёным колерам дамкоў, ашаляваных дошчачкамі і цішынёю. У Тарту было ціха, як у вялікай майстэрні мастака. А яшчэ там было чыста. Тады ў Тарту было чыста, як чыста цяпер у Мінску. Савецкі Мінск быў брудным горадам, не такім брудным, як Масква ці Ленінград, але ўсё адно смецця на вуліцах было шмат. Тарту са сваёй чысцінёю, выхаванасцю, адкрытасцю ўсіх дзвярэй мяне зачараваў. Каб у Тарту было мастацкае жыццё, каб у тамтэйшым універсітэце меўся мастацкі факультэт, я туды пераехаў бы. Але Тарту быў горадам навукоўцаў, а не мастакоў і музыкаў. Музыкі з мастакамі туды прыязджалі толькі на фестывалі і выставы, а мне такога выстаўна-фестывальнага жыцця было замала, мне трэба было штодзённае жыццё ў мастакоўскім асяродку, таму я не перабраўся з шэрага Мінска ў зялёны Тарту.

З Сочы мае ўзаемаадносіны складваліся надзіва шчасліва. Мая цётка Рэгіна выйшла замуж за Генадзя і перабралася жыць да яго, на бераг Чорнага мора. З трэцяга класа я ездзіў да цёткі ў Сочы. Бацькі давалі мне грошы на квіток у адзін бок, цётка купляла мне другі квіток. Сочы я ведаю зусім не так, як яго бачаць прыбітыя сонцам турысты і адпачыннікі. Сочы я ведаю наскрозь. Але жыць у вялікім Сочы мне ніколі не хацелася, пакуль Рэня не купіла маленькі дамок у гарах, над мястэчкам Мацэста. Менавіта ў гарах мне захацелася жыць. Я сядзеў на беразе горнага ручая і прыдумляў сабе паэтычнае жыццё з вырошчваннем гародніны і маляваннем горных ды марскіх краявідаў. Лес, які абступаў цётчын дамок, людзі называлі

Лесам дэзерціраў. У часы Другой сусветнай вайны ў тым лесе хаваліся мужчыны, што не хацелі ваяваць. Бясконцыя згадкі пра вайну ў Беларусі так мне надакучылі і так абрыдлі, што Лес дэзерціраў выглядаў простым і правільным раем. Але мае намеры жыць у горным райскім дамку прапалі, яны прапалі ў маленечкай прадуктовай краме, дзе я зазвычай набываў сякія-такія прадукты перад паходам у горы. Папераздзе мяне ў чарзе стаяў горац, такі звычайны селянін у вялікай кепцы са спрацаванымі на зямлі вялікімі рукамі. Селянін папрасіў у прадавачкі сто кілаграмаў солі і сто пачкаў з запалкамі. У дзяцінстве мая баба Броня наказала мне ўважліва прыглядацца да простых людзей у прадуктовых крамах. «Як пабачыш простага мужчыну, які бярэ мяшок солі, ведай — гэта вайна!»

Калі я сказаў цётцы, што ў іх хутка пачнецца вайна, Рэгіна мне не паверыла. Не паверыў мне і Генадзь. Ён, як кожны рускі, верыў у неперсможнасць і магутнасць Расіі. «Ды мы гэтых горцаў за адзін дзень скруцім!» — са смехам казаў мне падвяселены гарэлкаю Генадзь.

Паверыць у заўтрашнюю вайну амаль немагчыма. Як мне цяжка паверыць у страту сваіх найлепшых месцаў для жыцця. Цётчын дамок горцы спалілі. Лес дэзерціраў запоўніўся каўказскімі партызанамі. Ціхі і чысты Мазыр нечакана апынуўся зусім побач з Чарнобыльскай забруджанай радыяцыяй зонаю. А Тарту? Эстонцы пасля абвяшчэння сваёй незалежнай дзяржавы пачалі прыходзіць да людзей, якія ім не падабаліся, і прапаноўваць ім пакінуць Эстонію на працягу 24 гадзінаў. Пэўна, эстонцы мелі права так сябе паводзіць, але майму знаёмаму мастаку Яўгену давялося з'ехаць. І так здарылася, што ў Мінску ён прыйшоў да мяне і папрасіў здаць яму маленькі працоўны пакой. Я не адмовіў Яўгену.

У сталым веку, калі чалавечае жыццё падаецца кароткім і нязначным, я не шукаю сабе лепшых мясцін для жыцця, бо іх проста няма.

### Сцяпан і курыва

Сцяпан сказаў, што кінуў курыць. Замест таго каб здзівіцца, я распавёў, што кінуў паліць на дзень раней. Мы не дамаўляліся кідаць курыць разам. У нас гэта выпадкова атрымалася. «Цяжка?» — пытаюся. «Цяжка! Але ніхто не паміраў ад таго, што кінуў паліць!» — «Канешне! Нашто паміраць, калі можна проста закурыць. Ніхто не паміраў, бо, каб не памерці ад пакутаў, яны закурвалі. Яны закурвалі, а мы не закурым!» — «Не закурым! І ў нас хутка адкрыецца другое дыханне!» — «Сцяпан!» — «Што?» — «Сцяпан, у нас не адкрыецца другое дыханне, бо мы кінулі курыць з-за таго, што першае дыханне пачало канчацца!» — «А я веру, што адкрыецца!» — «Вер! Ведаеш, калі

я кідаў піць, я штораніцы бег у парку і думаў, што зараз вазьму і выбегу з сябе-п’яніцы, я-п’яніца застанецца ў мінулым, а я-цвярозы пабягу далей. І дапамагло! Цяпер я прыдумаў для сябе новы вобраз. Я не выбягаю з сябе, а пераступаю праз сябе-курца. Я-курэц спыняецца і закурвае, а я пераступаю праз яго і іду сабе далей. Цяжка пераступіць праз я-курца, калі і ты сядзіш, і ён сядзіць, даводзіцца ўставаць і сыходзіць. Усё, хопіць пра цыгарэты, пайшлі на мароз!» — «Пайшлі! Мароз бадзёрыць, і на марозе меней хочацца закурыць…»

**Паліна і памяць**

Памяць — тканіна тонкая. Неакуратна павернешся і парвеш, паспрабуеш латку паставіць, дык шво будзе глядзецца як шнар на скуры. Таму і страшна гучаць словы «ён ад памяці пачаў адыходзіць». Пра адыход ад памяці я згадаў, калі прачытаў напісанае Палінай: «…дык Сыс наогул не быў алкаголікам». Прачыталася тое ў каментарах да дзённіка Алеся Козіка. Калі ў Козіка з памяццю заўсёды было слаба, дык Паліна раней мела нармальную памяць. Але час, няўмольны і ўсёразбуральны час робіць сваю справу. Вось і Паліна забылася пра алкагалізм Анатоля Сыса. А мо і не забылася, а нязграбна, па-бабску пачала прыхарошваць успаміны? Так яна ў свой час спрабавала прыхарошваць Максіма Багдановіча, хаваючы ягоны эратычны дзённік. Цяпер узялася прыхарошваць Толіка. Але нават добры намер не апраўдвае адыход ад памяці, бо такі адыход — параза розуму.

**Сыс і ноч**

У рэдакцыі часопіса «Крыніца», каля майго працоўнага стала паўсядзіць-паўляжыць паэт Сыс. Гучна грудным голасам ён абвяшчае: «Пяшчотны травень! Песня «Сівая ноч»!» Пасля працяглай паўзы зацягваецца: «І зноўку сівая ноч… І толькі ёй давяраю я…» Больш слоў Сыс не ведае. «Глобус, чаму ты не любіш гурт «Пяшчотны травень», а ў ім працуеш? Чаму я люблю гурт «Пяшчотны травень», а ў ім не працую!» — «Ты п’еш!» — «Дык і ты п’еш… Чаму табе прапанавалі чытаць вершы на стадыёне, а ты адмовіўся?» — «Прапанавалі, бо, пэўна, ведалі, што адмоўлюся. Дзеля ветлівасці прапанавалі». — «Каб мне прапанавалі выступаць з «Пяшчотным траўнем», я выступаў бы!» — «Я працую, а ты мне замінаеш…» — «Пайду!» — «Ідзі…» — «І зноўку сівая ноч… І толькі ёй давяраю я…» — грудны голас Сыса гучыць у калідоры. А сапраўды, чаму Сыс не працаваў у гурце «Ласкавы май»»? Мусіць, ён быў іншы, водар у яго быў іншы. У «Ласкавы май» хлопцы падбіраліся па водары. Наш ці не наш? Вырашалася імгненна. Я не ганаруся тагачасным сваім водарам, бо хлопцы ў «Ласкавым маі» пахлі не ружамі.

**Пэлька і любоў**

Пэлька любіла аднаго, а іншых адно падлюблівала.

**Букоўскі і кніжны фармат**

Фенамен Чарльза Букоўскага ў тым, што, дачытаўшы ягоную кнігу, ты яе выкідаеш, каб праз нейкі час зноў купіць, прачытаць і выкінуць. Раман «Макулатура» я выкідаў двойчы і набываў тройчы. Ні з якім іншым аўтарам у мяне такога не здаралася.

**Ядзя і трыццаць італьянцаў**

«Тата, у нас дома трыццыць італьянцаў…» — вясёлым голасам паведамляе дачка. «Толькі трыццаць?» — перапытваю ў Ядзі. «Можа і трыццаць пяць, я іх не лічыла! Яшчэ ў нас столькі ж не італьянцаў. Званю, каб расказаць табе смешнае пра аднаго ідыёта! Слухай… Я стаю каля барнай стойкі і разліваю напоі, а Эмануэле вялізным цесаком стругае свіны кумпяк. Я адказваю за выпіўку, Эмануэле закуску падае. Падыходзіць нейкі ідыёт і кажа… У вас тут на сценах карціны Глобуса вісяць! Я хітаю галавою і разліваю тэкілу па чарачках. Вы ведаеце, якая скаціна гэты Глобус? Каб вы ведалі, якая ён скаціна, вы б ніколі не павесілі ў сваім доме ніводнай ягонай карціны! Ён, калі вучыўся ў акадэміі, хадзіў з нататнікам і запісваў усё і пра ўсіх! Ён запісваў кожны пачуты сказ, кожнае пачутае слова, а потым узяў і ўсё паназапісванае ўставіў у кнігу! Ну хіба прыстойны чалавек так робіць? (…) Тата, бываюць жа на свеце такія ідыёты! (…) Твар у мяне змяніўся так, што нават Эмануэле заўважыў. Ён у мяне пытаецца, што гаворыць гэты чалавек? Я пераказваю яму, па-італьянску, словы ідыёта. А-а-а! Крычыць Эмануэле! А-а-а! І ўзмахвае цесаком. Тут набеглі не італьянцы, пачалі выбачацца за ідыёта, якога хуценька вывелі з нашага дома. Ты не ведаеш, хто гэта такі?» — «Ядзь, з трыццаці пяці італьянцаў я ведаю толькі Эмануэле і ягонага сына! Астатніх я не бачу! Я ж на працы сяджу! Можа я нікога з іх не ведаю зусім…» — «Ведаеш, ведаеш ты іх! Тут табе прывітанне перадавалі Крыштаповіч і Дубінін! А хто такі Дубінін?» — «Ён у часопісе «Бярозка» мастаком працаваў, пасля Міхала Анемпадыстава. Зараз ён у Італіі працуе. Слухай, Ядзь, і асцярожна вы там з цесаком! Скажы Эмануэле, што я сказаў!»

**Пытанні з Хармса і Чэхава**

Мяне заўжды ўражвалі пытанні, што ставіліся рубам у рускай класічнай літаратуры. Пытанні, на якія шукалі адказы вялікія рускія літаратары, падобныя на стрэлы з рэвальвера! «Ну чаму, ну чаму я лепш за ўсіх?» — выстрэльвае Данііл Хармс у дзённіку за 1936 год. Я адкладаю фокусніка Хармса і пачынаю чытаць Антона Чэхава. «Ну, хіба ж можа брунэт любіць брунэтку?» — выстрэльвае Чэхаў у апавяданні «З дзённікаў адной дзяўчыны». Я адкладаю доктара

Чэхава і разгортваю «Беларускі эпас», там дабро пераможа зло, там асілкі очышчуюць (ачысцяць) свет ад цмокаў.

**Лера і Цютчаў**

Загаварыў з Лераю пра паэзію. З натуршчыцаю вельмі добра паразмаўляць пра лірыку. Такія размовы настройваюць на творчы лад. Я сказаў, што перакладаю рускага паэта Мізгуліна, а ў Міці Мізгуліна любімы паэт — Фёдар Цютчаў. «Няўжо сягоння ў некага можа быць любімым паэтам Цютчаў? Неверагодна!» — «Чаму ты так дзівішся?» — «Ну праходзілі мы ў ліцэі Цютчава. Зрэшты, каго мы толькі не праходзілі ў школе і ліцэі… Мы ўсіх іх прайшлі! Мы прайшлі Цютчава! Прайшлі…» Для Леры ўсё дзевятнаццатае стагоддзе, як для мяне і Міці Мізгуліна васямнаццатае, якое і мы прайшлі… Няўжо прайшлі? Чаго дзівіцца… Але дзіўлюся і перакладаю чатырохрадкоўе:

*Не дадзена нам адгадаць,*
*Як слова наша адгукнецца, —*
*І спачуванне нам даецца,*
*Як дадзена раскашаваць…*

**Валянціна і Чэхаў**

Мая маці любіла чытаць Чэхава. Маці працавала ў бібліятэцы, дзе было безліч кніжак Антона Чэхава, якога выдавалі і перавыдавалі, якога ніхто ніколі не забараняў, бо мала хто бачыў, як грэбліва Чэхаў ставіўся да людзей з іх мізэрнымі справамі і спраўкамі. Чэхава чыталі, перачытвалі, экранізавалі і ставілі ў тэатрах. Чэхаў быў паўсюль. У нашай суседкі Валянціны было ажно дваццаць тамоў з прозай і лістамі доктара Чэхава. Мая мама любіла гэты цёмна-вішнёвы дваццацітомнік. Мы, я і мама, прыходзілі да суседзяў. Цётка Валя частавала нас гарбатаю з вішнёвым варэннем, маці вяртала прачытаны том і брала наступны. Амаль год Чэхаў быў самым любімым літаратарам маёй маці. Мне падабалася хадзіць у госці да суседзяў на гарбату.

Вішнёвы дваццацітомнік Антона Чэхава я згадаў, калі ўбачыў вішнёватварага бамжа, які, стоячы над кантэйнерам са смеццем, нешта жаваў. Бомж падмацоўваўся адкідамі з такім выглядам, нібыта ён п’е каву за барнай стойкаю ў шыкоўнай рэстарацыі. Які высокі бомж, заўважыў я. Зазвычай бамжы невысокія, а гэты — высачэзны. Былі моманты ў маім жыцці, калі мне не хапала сантыметраў пяць росту. Мне падавалася, што калі б у мяне рост быў не метр восемдзесят, а метр восемдзесят пяць, дык шмат якія бойкі проста і не пачаліся б. Мае супраціўнікі пабачылі б відавочную перавагу і адступіліся б. А так жа давялося… А каб мне ды такі рост… А ён, маючы выдатны рост, есць адкіды, выцягнутыя з кантэйнера. Чаго яму не хапае ў жыцці? Чаму нам усім нечага не хапае? Чаму маёй

маме трэба было хадзіць да суседзяў і чытаць менавіта вішнёвы збор твораў Чэхава? Чаму Валя Матукоўская, маючы столькі дабротаў у гэтым жыцці, раптам вырашыла з яго сысці? Яна выпіла каньяку, яна выпіла сонных таблетак і не прачнулася. Чаму? Чаму мы не цэнім таго, што маем? Чаму мы такія падобныя да нікчэмных персанажаў, якіх доктар Чэхаў апісваў саркастычным пяром? Пэўна таму, што мы моцна любім салодкае.

**Петрашэўскі і плямкі**

Андрэй Петрашэўскі запрасіў мяне ў госці. Ён з гонарам паказаў сваю мэблю і свой посуд. Паказваючы посуд, ён пачаў распавядаць пра мыццё крыштальных чарак… Іх трэба мыць раз на месяц, нават калі ты імі не карыстаешся, бо на донцах утвараюцца плямкі. Там збіраецца вільгаць, а на вільгаць асядае пыл. Чарка з плямкаю на донцы — рэч недапушчальная ў гаспадарцы… Я выслухаў Андрэйку, пахваліў ягоную адпаліраваную мэблю і цудоўна павымываныя чаркі. Потым мы выпілі гарэлкі і павячэралі. Больш Андрэй Петрашэўскі не запрашаў мяне ў госці, і я пра гэта зусім не шкадую.

**Алесь і люстэрка ў шырокай раме**

Ён ведаў, што ў лазенцы над чарупінаю вісіць люстэрка ў шырокай раме. Алесь зайшоў у лазенку, зачыніўся і абмацаў люстэрка. Ягонае ўяўленне намалявала яго — Алеся, які абмацвае люстэрка. Сляпы Алесь асцярожна абмацваў люстэрка з таемным спадзевам намацаць у ім свой адбітак.

**Тата і бальніца**

Учора ішоў па вуліцы Акадэмічнай і разглядаў ледзяніста-белыя карпусы бальніцы. У адным з іх я некалі ляжаў. Схапіла жывот, ды так схапіла, што слёзы з вачэй пырснулі. Бацька выклікаў «хуткую», і мяне — пяцікласніка — завезлі ў халодную бальнічную палату. Тыдзень я прамёрз у бальніцы з падазрэннямі на апендыцыт. Боль мяне адпусціў яшчэ ў бальнічнай машыне, але дактары чакалі паўторны прыступ. Яго ўсё не было і не было. Я ляжаў на жалезным ложку і чытаў раман «Філасофскі камень» Сартакова. Чытаў нудныя старонкі пра сібірскіх чырвонаармейцаў і грамадзянскую вайну ў галоднай Расіі. Чытаў і спадзяваўся знайсці нешта разумнае пра таямнічы філасофскі камень. Наіўнасць школьніка правяла мяне праз увесь тоўсты раман. З бальніцы я выйшаў з кнігаю ў руцэ. «Ты што, чытаў гэтую дрэнь?» — спытаўся здзіўлены бацька. Ён ніколі не дазваляў сабе чытання бяздарных кніжак. Тады я прамаўчаў. А цяпер? Цяпер, стоячы на вуліцы Акадэмічнай, я мог бы зноў прачытаць «Філасофскі камень», каб за гэта мне далі на адну хвілінку пабачыць тату. Я нават пагадзіўся б патрываць люты боль у жываце, каб на адно імгненне зноў на тату зірнуць. Толькі таты даўно няма

сярод жывых, і мае развагі і ўспаміны нічога не мяняюць для іншых, але яны мяняюць свет, які бачу я. Карпусы бальніцы на вуліцы Акадэмічнай выглядаюць цяперака не такімі безнадзейна-белымі, як хвіліну назад.

### Мама і печаныя яблыкі

Мама адсвяткавала свой семдзесят шосты год жыцця. Пілося шампанскае. Я еў смажаную курыцу. Мама ўгаворвала мяне з'есці печаны яблык. Адмовіўся. У дзяцінстве я любіў печаныя ў духоўцы яблыкі, а цяпер не люблю. Мама забываецца на маю цяперашнюю нелюбоў да печаных яблыкаў і прапаноўвала іх тры разы за вечар.

### Генадзь і скула

Скула — мярзотная з'ява. Як скула сядзе, як пачне балець, як пачне торгаць, дык ты месца сабе не знаходзіш. А калі яна з'явіцца на дупе, дык і не сядзеш. У Генадзя скула выскачыла якраз на дупе, пад копчыкам. Тут не тое што не сесці, тут у прыбіральню не схадзіць. Давялося Генадзю ісці да хірурга. Той скулу разрэзаў, і разваліў ён скулу няўдала, ды так няўдала, што давялося яшчэ дзве аперацыі зрабіць. Хірург так моцна пашкодзіў сфіктар, што той зусім перастаў сціскацца. Гной плыў і плыў з Генадзя бесперапынна. Чалавек так змучыўся ад скулы і аперацый, што ўзяў вяроўку і задавіўся. Нават ад пераказу гэтай гісторыі мне горка.

### Ядзя і фашыст

У Беларусі мала хто адрознівае фашыстаў ад нацыстаў. Ну не папулярныя ў нас творы розных нацыяналістаў, кшталту Эрнста Юнгера, з іх праблемамі вайны і рэвалюцыі, з іх недаверам да асветы, з іх бачаннем вялікай розніцы паміж фашыстамі і нацыстамі. Для татальнай большасці беларусаў усе нацысты і фашысты на адзін зненавідны твар. Пра гэты твар я згадаў сягоння, калі пачуў тупат дзіцячых ног у сябе над галавою. Туп-туп-туп з калідора на варэльню, туп-туп-туп з варэльні ў залу. Туп-туп-туп цэлы вечар дзяўчынка бегае ў суседскай кватэры. І мне згадаўся скандал, які ўшчала Ядзя, жонка акадэміка Івана Н.Ядзя лямантавала на ўвесь пад'езд, бо мой сын — пяцігадовы Мікалай — нібыта таптаўся па галаве акадэміка, які працаваў над раманам пра летуценніка. Удзельнік вайны з фашызмам, народны пісьменнік, ардэнаносец, акадэмік працаваў, а яму заміналі. Таму Ядзя, бaронячы спакой свайго любага мужа, аблаяла мяне і маю жонку апошнімі словамі, а нашага сына абазвала фашыстам. Ну бегаў хлопчык па кватэры. Бегаў. Тупатаў. Дзіця, яно і павінна бегаць, павінна тупатаць, яно — жывое. Не! Усчаўся лямант, палілася лаянка, пасыпаліся праклёны і абразы. Калі дайшло да «фашыста», давялося казаць, што Ядзя не мае рацыі. А калі яшчэ раз яна напалохае крыкамі ды лаянкаю маё дзіця, атрымае жорсткі

адлуп. І пляваць я хацеў на тое, што жанчына, і на тое, што выкладчыца гісторыі КПСС, і на акадэміка яе мне напляваць, бо дзіця палохаць нельга нікому. Праз пару тыдняў мы ўсе замірыліся, бо суседзі, бо не так і гучна тупатаў наш Мікалай, і не так і моцна той тупат замінаў акадэміку пісаць лірычную прозу пра летуценніка. І сягоння мяне тупат у кватэры наверсе парадаваў, бо ў пакоі, дзе нядаўна памёр сусед Валодзя, з'явілася дзіця, і яно рухавае і вясёлае. Дзяўчынцы тры гады, і яна, вядома ж, не адрознівае фашыстаў ад нацыстаў, як і татальная большасць беларусаў. Не адрозніваюць? Ну і хай сабе!

**Жонка і ноч**

Прачнуўся пасярод ночы, сеў на ложку і сяджу. Голы сяджу на ложку і думаю: ці запальваць святло, каб пачытаць, ці не запальваць. Жонка спіць. Калі ўключу лямпу, дык пабуджу жонку. Ці люблю я сваю жонку? Сяджу голы на ложку, сяджу ў цемры і пытаюся сам у сябе пра любоў да жонкі. Я яе люблю. Так я адказваю сам сабе і запальваю святло.

**Гамер і памяць**

Георг Крыстоф Ліхтэнберг піша: «Арыстоцель заўважыў, што з усіх відаў аўтараў паэты любяць свае творы больш за ўсё». І сапраўды, яны ж свае творы нават вывучваюць на памяць. Прыклад са сляпым Гамерам і ягонымі «Іліядай» ды «Адысеяй» уражвае. Ні літаратар Ліхтэнберг, ні філосаф Арыстоцель не маглі вывучыць свае творы на памяць, як гэта зрабіў легендарны паэт.

**Вольга, Омфала і супакаенне**

Яму было пад трыццаць, ёй — крыху за сорак. «Жанчына пасля трыццаці павінна аддавацца мужчыну, як Омфала!» — сказала Вольга, скідаючы чаравічкі. Ён нічога не ведаў пра Омфалу, таму моцна напружыўся. Вольга аддалася яму папросту. Ён, усё яшчэ напружаны, прыйшоў дахаты, знайшоў у кнізе ружовацелую Омфалу, якая аддаецца загарэламу Гераклу, пераапранутаму ва ўсё жаночае, і супакоіўся. З Вольгаю ён больш не сустракаўся.

**Васіль і продаж Радзімы**

Мы сядзелі за сталом і пілі чачу. Мы глядзелі на Чорнае мора, на абхазскія горы і ваенную грузінскую дарогу. Мы пілі моцную чачу і разважалі пра блізкую вайну. «Хутка пачнецца вайна! Ваяваць будуць усе супраць усіх!» — сказаў тады Васіль. «Ваяваць будзе кожны за сваё!» — сказаў тады я захмялеламу сабутэльніку. «Валодзя, пісьменнік не павінен супрацоўнічаць са спецслужбамі. Яны прапануюць, а ты не пагаджайся…» — «Васіль, а чаму пісьменнік не павінен супрацоўнічаць са спецслужбамі?» — «Пісьменнік у спецслужбах заблытаецца. Ворагаў папрадае, за ворагамі папрадае сяброў,

за сябрамі прадасць Радзіму… Здрадзіць усім, каму зможа. Пісаць кіне! Дакладна, такі пісьменнік кіне пісаць. Ён сам убачыць, што піша горш і горш, піша хлусню і паскудства, убачыць і кіне пісаць зусім…» Тады мы моцна панапіваліся чачы. Вайна пачалася. Васіля я не бачыў амаль дваццаць гадоў. Убачыліся мы выпадкова, гаварыць нам не было пра што, але я спытаў: «Васіль, чаму ты пісаць кінуў?» — «Перастала пісацца! Пісалася-пісалася, а потым скончыліся словы, я і кінуў пісаць!»

**Ду Фу і пыл**

«Пыл забыцця няхай мяне накрые…» Так напісаў Ду Фу. Лепей і не напішаш, лепей і не скажаш… «Пыл забыцця няхай мяне накрые».

**Падарожнік і дамасед**

У маёй душы адначасова жывуць дамасед і падарожнік… Яшчэ ў дзяцінстве, як куды ехаць, я адразу пачынаў нэньдзіцца. Ад адной толькі думкі пра хуткі пераезд мне рабілася млосна. Бо звычны свет пачынаў хістацца, а маё маленькае «я» нібыта мусіла падзяліцца і выйсці з самога сябе. Перад паездкамі я сварыўся з бацькамі і плакаў… Адзін з самых драматычных успамінаў майго дашкольнага дзяцінства зніtаваны якраз з паездкаю з бабінага мястэчка Койданава ў бацькоўскі сталічны Мінск. Скончаўся жнівень, трэба было падрыхтавацца да школы, у нашай гарадской кватэры мяне чакаў цёмна-блакітны форменны пінжак і партфель з букваром. Ехаць я не хацеў. Разумеючы ўсё глупства сваіх паводзінаў, я ўсё ж залез пад бабін ложак і ўчапіўся абедзвюма рукамі за жалезную ножку. Выцягвалі мяне доўга, а, выцягнуўшы, адлупцавалі скураным пасам, аб які дзед Бронік правіў сваю небяспечную брытву. У цягніку пахла яблыкамі ды свежым ветрам чыгункі. Я глядзеў у акно і маўчаў. На станцыі Койданава засталося маё дзяцінства і маё непадзельнае маленькае «я», яно і цяпер недзе там, пад бабіным ложкам, трымаецца абедзвюма рукамі за гладкую жалезную ножку… У юнацтве я навучыўся маўчаць перад падарожжамі. Хваля няўтульнасці накрывала мяне з галавою, і я замаўкаў. Моўчкі пакаваў рэчы, моўчкі развітваўся са звыклым наваколлем, моўчкі ехаў… У цябе можа скласціся ўражанне, што я не люблю падарожнічаць, але гэта зусім не так. Вандраваць я люблю, але пакідаць сваё роднае месца цяжка, бо я не з тых, хто сваё звычайнае існаванне даводзіць да невыноснасці, не з тых, хто замест таго, каб навесці ў доме парадак, усім расказвае, які гадкі і паганы ў яго дом. Я люблю ўсе дамы, дзе давялося жыць, люблю вуліцы, па якіх штодня хаджу, люблю свой бацькоўскі горад, сваё бабіна мястэчка і сваю дзедаву вёску. Але ёсць адна рыса ў маім характары, якая падштурхоўвае мяне ў падарожжы. Маё «я» вельмі цікаўнае. Дзеля яго давялося навучыцца любіць транспарт. Я люблю

цягнікі, машыны, аўтобусы, электрычкі, самалёты, караблі, катамараны і гелікоптары; вакзалы, аўтобусныя і трамвайныя прыпынкі, аэрапорты і аэрадромы… Верталёт я палюбіў з першага позірку. Першы раз я ляцеў на верталёце з Адлера ў Сочы, глядзеў на горы і на мора, глядзеў на велічны Каўказ і зайздросціў сам сабе. У падарожжах я сам сабе зайздрошчу: я-падарожнік выклікае павагу і зайздрасць у я-дамаседа. Добра, што я-дамасед не агрэсіўны і не помслівы. А вось я-падарожнік у мяне тэмпераментны, ён страшэнна не любіць паўтораў. Ад бясконцых паўтораў мне і даводзіцца ўцякаць у падарожжы. Лячу ў Барселону, Маскву, Рым, Амстэрдам, еду ў Вільню, Беласток, Магілёў, іду на ўскрайкі горада. Новыя краявіды мяне клічуць, я ўсё спадзяюся на адкрыццё, на ўражанне, на азарэнне… Кожнае маё падарожжа сканчаецца прыкладна аднолькава: мне пачынае хацецца дамоў. Калі ў падарожжа мяне клічуць розныя галасы, дык дамоў мяне кліча адзін і той жа голас. Але не з голасу пачынаецца працэс вяртання, а са смаку. За сняданкам ежа раптоўна страчвае ўсялякі смак, яшчэ за вячэраю ўсё было разнастайным — і горкім, і салодкім, і вострым, і салёным… А раніцаю зрабілася папярова-прэсным. Можна сыпаць перац і соль, але ад гэтага страва зробіцца няўежнай, а смаку не набудзе. Я спрабаваў сябе падманваць, спрабаваў паабяцаць я-дамаседу, што ўсё будзе выдатна. Але абяцанкі-цацанкі не спрацоўвалі. Усё смачнае чакала мяне толькі дома… Калі вяртанне пачынаецца ў мяне з ежы, дык падарожжа — са званка будзільніка. Званок, які я чую кожную раніцу, робіцца невыносным, яго паўторнае ціліцінькане трываць няма аніякай моцы. Калі так, значыць прыйшоў час выпраўляцца ў падарожжа… Цяпер я задумаўся: каго я ў сабе люблю больш — я-падарожніка ці я-дамаседа. Адказаць не магу, бо найбольш я ў сабе люблю мастака, які бачыць сальнічку і перачніцу на стале ў барселонскай рэстарацыі і думае, як па вяртанні дадому ён напіша нацюрмот «Соль і перац», як пакажа яго сваім старым сябрам і патлумачыць, што самае цікавае ў карціне не тое, што рассякае свядомасць напапалам, а тое, што аб’ядноўвае соль і перац у адну непадзельную кампазіцыю.

**Званок з Венецыі**

Жонка з’ехала ў Монтэ-Карла рабіць здымкі ў альбом «Жанчыны Манака». Яна скінула мне эсэмэску, што даляцела добра, а мне згадаўся яе леташні званок з Венецыі… Патэлефанавала жонка, сказала, што стаіць на пляцы Святога Марка, выйшла з галерэі, дзе паглядзела Тыцыяна, Веранезе і Джарджоніа. Яшчэ яна сказала, што, нагледзеўшыся венецыянскага жывапісу, прыйшла да высновы, нібыта я — выдатны мастак. Безумоўна, прыемна атрымаць з

Венецыі, дзе кіпіць карнавал, такі цёплы званок. Толькі я сяджу ў сваёй паўночнай, марознай, пазасыпанай снегам краіне, дзе сонца бывае гады ў рады, пішу цёмна-ліловую карціну і лічу сябе простым мастаком. У маёй студыі цёпла, мая натуршчыца Тамара не мерзне. Флаконы з парфумаю натхняюць мяне на прахалодны жывапіс зусім не менш за натуршчыцу. Увечары мне прыемна сядзець пад майстэрняю, у кавярні «Акварыум», глядзець на аранжавых рыбак у сіняй акварыумнай вадзе і расказваць сябрам пра жончын званок з Венецыі. Мае цынічныя і востраязыкія сукаўнікі, сугарбатнікі і сабутэльнікі спадзяюцца, што я не лічу сябе выдатным мастаком, а лічу сябе, як і большасць з іх, нікчэмнасцю. Адзін мой сабутэльнік папрасіў, каб я затэлефанаваў да жонкі ў Венецыю і сказаў, што напраўду не лічу сябе за выдатнага мастака. Тэлефанаваць я не стаў, бо якраз у той час жонка здымала прынца Шабіба, а я не люблю замінаць чужой працы. Заўтра яна вернецца, і я ёй скажу... Хіба гэта важна, што я скажу жонцы, з якой пражыў амаль трыццаць гадоў? Напэўна, самае істотнае я ёй даўно сказаў. Цікава будзе, што яна раскажа пра карнавал. Сапраўды цікава... Яна ляжыць у ваннай і расказвае, як у венецыянскім канале ўтапіўся яе сотавік. Разам з сотавікам утапіўся і фотаапарат, а разам з фотаапаратам на марское дно пайшоў і расшыты золатам плашч. Мне зусім не шкада сотавіка, фотаапарата і плашча з залатымі крыжамі. Каб пад вадою не расшпілілася зашчапка на плашчы, я б утапілася! Кажа жонка і намыльвае галаву. Маторная лодка падплыла да палаца, дзе мы жылі, хваля ўдарылася аб прыступку і аднесла лодку якраз у тое імгненне, калі я скокнула. У сваім шыкоўным карнавальным касцюме, разам са сваім даражэзным фотаапаратам у руках я паляцела ў зялёную канальную ваду. Я апускалася на дно так імкліва, што давялося кінуць фоцік і вырваць зашчапку з плашча. Каб зашчапка не вырвалася, я і не ўсплыла б. Ахвяравала ўсім, толькі каб выплыць. Лодачнік выцягнуў мяне на прыступкі. Калі я выбіралася з вады, моцна пабіла і абадрала нагу. Паглядзі, як абадрала... Ад калена да ступака па жончынай правай назе змяіцца шырокая вішнёвая драпіна. У цябе і на локці вялізны сіняк... Локаць мне зусім не балеў і не баліць. Жонка агледзела збітую руку і пачала паліваць вадою намыленую галаву. Тут зазваніў хатні тэлефон, гэта была прынцэса Вікторыя Аль Саід. Яна пацікавілася, як жонка мая даляцела і паведаміла, што Шабіб вельмі перажывае і непакоіцца. Ён просіць даслаць усе звесткі пра фотаапарат, каб купіць такі ж новы. Пра сотавік Віка нічога не сказала. Напэўна, мне давядзецца заўтра ж купляць жонцы новы тэлефон, бо той, у які яна сказала, што я

выдатны мастак, назаўсёды застанецца ляжаць на дне венецыянскага канала.

## Лічбы вялікія і малыя

Ёсць у лічбах вялікая прыгажосць, адзін круглы нуль можа зачараваць. Сёння лічбы сыплюцца чалавеку на галаву, нібыта цукар-пясок з дзіравага пакета. Мільёны долараў, мільярды рублёў… З тэлевізара, з радыё, з камп'ютара на цябе сыплюцца і сыплюцца неверагодна вялізныя лічбы. Пуставокія і жалезнагалосыя дзядзькі ды цёткі выхваляюцца лічбамі. Яны сапраўды вераць, што той, хто назаве большую лічбу, той і толькі той мае рацыю. Здавалася б, бессэнсоўна расказваць чалавеку пра мільярды еўра, калі ў кішэні гэтага чалавека дваццаць тысяч беларускіх рублёў. Не! Гэтыя, якія з мільёнамі ды мільярдамі, наймаюць клоўна, які кажа, што трэба аддаць тысячу за латарэйны квіток, і займець магчымасць выйграць мільён! Слабы і сквапны аддае апошняе, бо таксама верыць у мільёны ды мільярды. Сыплюцца і сыплюцца лічбы… А я люблю нуль і васьмёрку, якая ляжыць на баку.

## Паэтычны вечар у музеі Купалы

Схадзіў на паэтычны вечар. Чужыя вершы паслухаў, свой прачытаў. Было шмат паэтаў, шмат лірыкі, шмат узнагародаў і прызоў, шмат слоў пра пазітыў і святы… А я пятую гадзіну не магу пазбавіцца ад гнятлівага настрою, бо, калі я скончыў выступ, сказаўшы, што з усіх вершаў, дасланых на конкурс ананімна, я не сумняваўся ў сваім выбары, бо ведаю пра свой выбар, не мог я прамінуць і не адзначыць верш, які напісала бландзінка… Толькі прагучала слова «бландзінка», як да мяне пад ногі ўпала дзяўчына. У яе здарыўся эпілептычны прыпадак. Кроў пацякла з рота. Паэтка Мартысевіч не разгубілася, дастала аднекуль грабеньчык і ўставіла яго паміж акрываўленых зубоў. Паэт Хадановіч запераджываў і прашаптаў, што прачытаны ім радок «не зваліўся ніхто з табурэткі» выглядае цяпер варажбою. Я занурыўся ў сябе. Ачомаўся толькі тады, калі вядучы Барташ гучна абвясціў, што я паабяцаў правесці вечар, прысвечаны жахалкам, — кароткім урбаністычным казкам з дрэнным заканчэннем.

## Снег і цыгарэта

Іду праз двор-калодзеж і куру. Неба хмурнае. Пад нагамі па-вясноваму брудны снег. Накіроўваюся да цёмнай аркі… Якога чорта я куру? Я ж два тыдні пратрымаўся без цыгарэт, а тут закурыў. І закурыў я механічна, не задумваючыся, выцягнуў з кішэні цыгарэту з запальнічкаю і закурыў! Які ж я — дурыбас! Цыгарэту недапаленую я кінуў на снег і вырашыў нікому не казаць пра тое, што закурыў. Нейкі час можна падманваць іншых, але ж сябе не падманеш. Сам жа

я ведаю, што не стрымаўся і закурыў у двары-калодзежы, і цяпер кідаць паленне тытуню давядзецца зноў наноў… Прачнуўся я з цяжкай галавою і ў змрочным настроі. Мусіць у снах я ўсё яшчэ пакурваў. У рэальнасці я кінуў паліць, а ў снах курыў. Але цяперака я і ў сне асудзіў сябе за нястрыманасць і курэнне. Цяпер і ў сне кінуў курыць, што добра.

**Бульба-нацюрмот**

Стоячы ў «Мастацкім салоне», што ў Мінску на праспекце Незалежнасці, і разглядаючы палотны дробнакаштоўных мастакоў, я зрабіў маленькае адкрыццё. Большасць з іх, пішучы нацюрморты, блытае садавіну з агароднінай. Замест яблыкаў у іх атрымоўваюцца бульба-яблыкі, а замест грушы вымалёўваецца няўежная бульба-груша. Каб замацаваць сваё назіранне, я прагартаў некалькі альбомаў, прысвечаных беларускаму нацюрморту. У іх я знаёйшоў гурбы бульба-яблыкаў і горы бульба-груш, асабліва мяне пацешыў бульба-вінаград.

**Задавальненне, якога няма**

Нельга атрымліваць задавальненне ад таго, чаго не маеш. Ты не выпіў гарэлкі і атрымаў задавальненне ад таго, што не выпіў? І не спадзявайся! Не выпіў і не захмялеў. Ну што можа быць больш простым і больш зразумелым? Не! Ты спадзяешся атрымаць задавальненне ад таго, што не п’еш і не курыш. Ты не атрымліваеш ад гэтага ніякай хмельнасці. Наадварот, ты пакутуеш ад таго, што чацвёрты тыдзень не курыш, ты мучышся, табе мутарна, табе цяжка, і свет навокал расплывісты, няпэўны, ускаламучаны. Ты перастаў нават спадзявацца, што атрымаеш радасць ад таго, што кінуў курыць. Ты проста верыш, бо ведаеш, што заўтра табе будзе крыху меней хацецца закурыць.

**Заняткі і адмаўленні**

**УВЕСЬ ЧАС Я ЗАРАБЛЯЮ ГРОШЫ РОЗНЫМ ЧЫНАМ. БЫЎ НАСТАЎНІКАМ МАЛЯВАННЯ, РЭСТАЎРАТАРАМ МАНУМЕНТАЛЬНАГА ЖЫВАПІСУ, КНІЖНЫМ ГРАФІКАМ, ТЭЛЕВЯДУЧЫМ, ЖУРНАЛІСТАМ У АДДЗЕЛЕ САЦЫЯЛЬНЫХ ПРАБЛЕМ, ПАЭТАМ, ПЕРАКЛАДЧЫКАМ, ПРАЗАІКАМ, КІНАСЦЭНАРЫСТАМ, ВЫДАЎЦОМ, ВЫКЛАДЧЫКАМ ПАЭТЫКІ ЛІРЫЧНЫХ МІНІЯЦЮР, КАЛУМНІСТАМ… АЛЕ, АБІРАЮЧЫ НОВЫ ЗАНЯТАК, Я НЕ ПАКІДАЎ БЕЗ УВАГІ ПАПЯРЭДНІЯ ЗАХАПЛЕННІ І ЗАРОБКІ. АД РЭСТАЎРАЦЫЙНАЙ ПРАЦЫ Я АДМОВІЎСЯ, УСЕ АСТАТНІЯ ЗАНЯТКІ ЯШЧЭ ПРЫСУТНІЧАЮЦЬ У МАІМ ЖЫЦЦІ. ВАРТА БЫЛО Б ПАДКАРАЦІЦЬ СПІС ЗАНЯТКАЎ, ДЫ ЁН НЕ ПАДКАРОЧВАЕЦЦА. НААДВАРОТ, Я ЗАДУМВАЮСЯ НАД ТЫМ, ЧЫМ БЫ ЯШЧЭ СЯБЕ ЗАНЯЦЬ.**

## Разумныя галовы

Кажуць, калі ты гладзіш дзіця па галаве, яно вырасце разумным. Сваіх дзяцей я гладзіў па галаве, калі хваліў. Сваіх жанчын я таксама гладзіў па галаве і хваліў…

## Сава ў сталічным цэнтры

У двары сваёй студыі, на прыдарожным сумёце я ўбачыў саву. Некалькі разоў я нібыта і чуў уночы голас савы, але сказаць з упэўненасцю пра голас савы ў цэнтры сталіцы не магу. Можа яна і жыла на якой дваравой яліне, а можа і я нешта паблытаў. Пташка ляжала на спіне, колер пёраў і колер снегу былі аднаго тону. У нейкі момант падалося, што сава варухнулася. Я нахіліўся і асцярожна ўзяў лёгкае цельца ў руку. Сава была цёплай. Яна была ледзь жывою ці амаль мёртвай, я не доктар, каб вызначыць ступень мёртвасці птушкі, знойдзенай на снезе. Але, на ўсялякі выпадак, я занёс саву ў студыю і паклаў на цёплую падлогу. Калі адыдзе, дык выпушчу, а не — дык і не. Праз паўгадзіны ў студыю прыйшлі жонка з дачкою, каб паглядзець на дзіва — саву, знойдзеную ў сталічным двары. Жонка затэлефанавала сваім аднакурснікам, з якімі вывучала біяхімію. Знайшоўся і арнітолаг, які сказаў, што я знайшоў самую звычайную для Беларусі саву. Калі мы яе агледзелі больш уважліва, дык знайшлі і рану на патыліцы. Напэўна, у маім двары нейкая машына збіла сонную саву. Шкада, моцна.

## Хісткая чарната

Каб я жыў у прыморскім горадзе, дык, далібог, штодня хадзіў бы ў начны марпорт, дзе ў хісткай чарнаце зіхацяць агеньчыкі. Мора і неба разліліся і сплавіліся ў адно рэчыва, у суцэльнае рухомае чарноцце, і няма ў ім ні канца ні краю, ні абрысаў ні канструкцый, толькі жаўтавата-жывыя агеньчыкі пахістваюцца ў бясконцасці, у бездані. Але ў нашай сталіцы, дзе я жыву, няма марскога порта, і таму хаджу на чыгуначны вакзал, каб паглядзець, як уцякаюць у чорную ноч вогненна-рубінавыя агеньчыкі цягнікоў.

## Тытунь і рыба

На вуліцы пабачыў, як адзін мужчына трымае другога за верхні гузік на куртцы і кажа ў блізкі твар: «Курэц рыбы не зловіць! Ты паслухай мяне ўважліва, паслухай і запомні, што я табе кажу… Той, хто паліць тытунь, добрай рыбы не зловіць!!!» Усю сваю рыбу я злавіў у далёкім дзяцінстве і далёкім юнацтве, у тыя часы, калі не курыў цыгарэты. Цяпер я зноўку не палю, але вяртацца ў рыбалоўства не буду. Я не стану набываць сабе вуды ды спінінгі, але пагаджуся з тым, што курэц не зловіць у вялікай рацэ вялікую рыбу.

**Саша і сумленнасць**

«Я стараюся жыць сумленна. Не хлушу, не краду, не забіваю… І што? Каму я патрэбны са сваім сумленным і паўжабрачым жыццём? Нікому. Толькі забойцы, злодзеі ды хлусы жывуць заможна, купаюцца ў раскошы, маюць ад жыцця ўсё тое, што пажадаюць. Грошы — зло! Багацце — зло! Я не хачу красці і забіваць, не хачу быць багатым, але жыць паўжабраком таксама цяжка і брыдка. Пэўна, я так і не знайшоў свайго месца ў жыцці,» — Саша закурваў танную цыгарэту ад таннай запалкі, я закурваў дарагую цыгарэту ад вострага полымя стыльнай запальнічкі. Сашава нянавісць да капіталаў, да грошай, да заможнасці паступова перайшла ў саркастычнае і грэблівае стаўленне да кніжнай мудрасці. І ад Сашы можна было пачуць словы кшталту: «Глупства — жыццяздольнае, а мудрасць — смертаносная…» Пры ўсім адмоўным, што ў ім было, пра Сашу варта сказаць: ён сумленна пражыў сваё нядоўгае жыццё школьнага настаўніка біялогіі.

**Пра беларусаў**

Беларусы бываюць бязмоўнымі, беларускамоўнымі і безумоўнымі.

**Вера ў лепшае**

Пераважная большасць людзей з пакалення маіх дзядоў і бацькоў жыла чаканнем, жыла вераю ў лепшае заўтра, якое абавязкова надыдзе, калі не для іх, дык для дзяцей і ўнукаў. У майго пакалення такой сляпой веры ў лепшае заўтра няма. Як няма і веры ў чалавечнасць. Маіх папярэднікаў моцна цікавіла чалавечнасць у чалавеку, і, разам з тым, яны пазабівалі безліч людзей у сусветных войнах.

**Гвалт і вядомасць**

У аднаго вельмі вядомага беларускага пісьменніка вылюдкі згвалтавалі дачку. Пакутніцы і яе бацькам усе навокал спачувалі. Пра падзею распавядалася так шмат і з такімі падрабязнасцямі, што мне падумалася: каб пісьменнік быў менш таленавіты і менш вядомы, дык гаварылі б пра дзявочыя пакуты значна меней, і драма са згвалтаваннем перажывалася б крыху лягчэй — калі ў такім выпадку можа быць лягчэй.

**Натуршчыца і змены**

Патэлефанавала натуршчыца і сказала, што ўчора так моцна напілася, ажно сёння не зможа прыйсці і пазіраваць. Звычайна ў нас напіваюцца мастакі так, што не могуць маляваць. Алё свет цячэ і мяняецца.

**Жонка і падарунак**

Што падарыць жонцы на дзень народзінаў? Дваццаць сёмы раз я пытаюся ў сябе… Што? А што ты ні падары, абавязкова атрымаецца больш для іншых, чым для яе, таму я адразу ўлічу свае пажаданні.

Маё жаданне простае — увечары хадзіць па кватэры ў сваім халаце. Прыходжу дамоў, а ў маім халаце ходзіць жонка. У яе ёсць свой халат, але яна любіць хадзіць у маім. Падкасае рукавы і ходзіць. Нават калі я прыходжу, а жонкі дома няма, дык усё адно часцяком знаходжу свой халат з падкасанымі рукавамі. Я жончын халат не бяру. Ну, можа, браў адзін ці два разы. А яна… Яна атрымае гэтым разам у падарунак вялікі цёмна-сіні халат, які вельмі, ну вельмі падобны да майго.

**Краўс і цікаўнасці**

Фальклярыст і сэксолаг Фрыдрых Салома Краўс у кнізе «Запаветныя гісторыі паўднёвых славян» напісаў каментар: «Цікавасць жанчын да мужчынскага чэлеса бязмежная; падобную цікаўнасць выклікаюць хіба што грошы і дабрабыт. Акрамя гэтага, усялякая іншая цікаўнасць — толькі крывадушнасць, ашуканства і відавочны падман. Да такой высновы можна прыйсці на падставе выключна фальклорнага матэрыялу. Але культурнаму чалавецтву вядома, што жанчына ні на кроплю не меней за мужчыну здольная на высокія альтруістычныя пачуцці, якія датычацца ўсіх бакоў чалавечай дабрачыннасці». Каментары Краўса, безумоўна, значна саступаюць у мастацкасці і вобразнасці тым паказкам і казкам, якія ён сабраў і на падставе якіх зрабіў выснову пра жаночую цікаўнасць да рознааблічнага дабрабыту.

**Яна і я**

Яна са мною спіць. Я з ёю сплю. Мы спім… Гэта не пра каханне, а, хутчэй за ўсё, пра давер.

**Руо і дарога**

Гляджу, немаведама які раз, на карціну Сергіевіча «Шляхам жыцця» і згадваю «Крык» Мунка і «Бежанцаў» Руо. Матыў бясконцай і трагічнай дарогі аб'ядноўвае гэтыя палотны. Матыў дарогі, пэўна ж, аб'ядноўвае ўсе пошукі экспрэсіяністаў і знітоўвае іх з папярэднікамі — рамантыкамі. «Жывапісец радасці» (Так называў сябе Жорж Руо) пісаў дарогу не толькі фарбамі, ён пісаў яе вершамі:

*Дарога вядзе да гарызонту,*
*Абапал яе чэзнуць дрэвы.*
*Мужчына самотны едзе,*
*У экіпажы сырым і панылым.*
*Паціху ён засынае…*
*А заўтра ён зробіць зноўку*
*Зробленае напярэдадні.*
*Дарога вядзе да гарызонту,*
*Абапал яе чэзнуць дрэвы.*

Шматкроць Жоржу Руо даводзілася чуць, як яго называлі змрочным жывапісцам. Пачуць нешта іншае, калі ты пішаш ноч,

поўню, шыбеніцу з вісельнікам і называеш сваё палатно «Homo homini lupus» (Чалавек чалавеку воўк), цяжка. Але Руо настойваў: «Жывапісец радасці… Чаму не? Жывапіс прыносіць мне такое шчасце, што я вар'яцею ад жывапісу, і забываю ўсё на свеце, нават у самыя змрочныя моманты жыцця. Крытыкі гэтага не заўважалі з-за трагічнасці маіх сюжэтаў. Хіба ж радасць змяшчаецца толькі ў сюжэце…» Радасць Руо ззяе ў ягоным жывапісе. Нават змрочна-шэрыя колеры начной дарогі ў Жоржа Руо свецяцца.

**Розніца ў краявідах**

У беларускім краявідзе ўсё поруч, побач, блізка. Падобнае можна назіраць і ў краявідах Віленшчыны. А ў рускім краявідзе ўсё далёка і вельмі далёка. У рускім краявідзе шмат прасторы, шырыні і пустаты.

**Вясна, куртка і неспадзяванка**

Пацяплела. Дастаў з шафы лёгкую куртку. Прыемна пасля зімы апрануць лягчэйшае. Лягчэйшыя чаравікі, танчэйшы швэдар, святлейшыя нагавіцы надалі нават святочнасці ў мой настрой, але ён прапаў хутка, бо ў кішэні вясновай курткі я злавіў рукою пачак забытых яшчэ ўвосень цыгарэт. Амаль тры месяцы не куру, а тут рука сціснула цыгарэтны пачак, а расціснуцца не можа. Стаю, маўчу з заціснутым у руцэ пачакам, і цісну яго, цісну, пакуль не расціскаю зусім. Знявечаны пачак ляціць у сметніцу, а на душы цяжка і моцна хочацца закурыць.

**Рэчкі на карце**

Рэчкі, якія на геаграфічных картах цякуць угару: Об, Енісей, Лена… Менавіта гэтыя тры рэчкі мне хацелася паглядзець. Усё разумею, але на школьных геаграфічных картах яны дакладна цякуць угару, а ў рэальнасці я іх так і не бачыў.

**Кабанкоў і вершы**

Паэт з Уладзівастока — Юра Кабанкоў — так выказаўся пра розніцу паміж працаю на ніве рускай і беларускай літаратуры: «У рускага паэта стаіць задача: не напісаць і не апублікаваць кепскіх вершаў. Таму рускаму паэту трэба пісаць як мага меней. Беларусу варта пісаць шмат, беларускаму літаратару можна пісаць і пасрэдныя вершы, яму варта даравацць нават вершы кепскія: бо тваёй беларускай паэзіі зусім мала ў гэтым свеце, а маёй рускай — больш чым дастаткова…» З Кабанковым мы не спрачаліся, але жаданне пісаць і публікаваць кепскія вершы ў мяне так і не з'явілася.

**Федзін і чытанне**

Каб мне хтосьці сказаў, што я вазьмуся чытаць 12 том са збору твораў Канстанціна Федзіна, я шчыра абурыўся б. Нашто, скажы мне, чытаць дзённікі Федзіна? А вось жа ўзяў і чытаў, і вычыталася такое: «Працую. Пішу добра. Магу пісаць выдатна. Магу пісаць, як бог!» Так і

напісаў Федзін у дзённіку 02.06.1945. Такое надрукавалі, такое паставілі ў збор твораў, а я такое яшчэ і чытаю. Чаму? Таму, што такой пісьменніцкай пыхі, такой самаацэнкі, такога самаўсхвалення я нідзе больш не чытаў.

**Лідзін і рэйтынгі**

Апошнія гадоў дваццаць я штодзённа займаюся рэйтынгамі паспяховых кніжак. Сачыць за тэндэнцыямі ў кнігавыдавецкай справе мой працоўны абавязак. Кнігі я люблю, таму мне цікава ўдзельнічаць у працэсе стварэння новых асартыментаў у кнігарнях і на кніжных кірмашах. Людзям недасведчаным падаецца, што кніжны свет апошнім часам зрабіўся занадта стракаты і развіваецца анархічна. Гэта не зусім так. Пераважная большасць кніжак выходзіць па добра складзеным і шмат разоў перапраўераным плане. Асабіста мне ад такой планавай гаспадаркі крыху сумнавата, таму з усіх кнігарняў я найбольш люблю букіністычныя, там можа сустрэцца нешта незвычайнае і нечаканае. Там робіцца відавочным, як хутка змяняецца кніжны свет, як моднае робіцца малазапатрабаваным, як змяняецца ўяўленне пра творы класікаў. Сярод паўзабытых імёнаў я знайшоў Уладзіміра Лідзіна, які ўсё жыццё збіраў малюнкі кніжных графікаў. Напрыканцы доўгага жыцця Лідзін напісаў кнігу «У мастакоў». Гэта зборнік кароткіх дакументальных аповедаў пра сяброў, сярод якіх ёсць вядомыя, накшталт Несцерава, Ларыёнава і Ганчаровай, а ёсць і зусім забытыя мастакі. Кніга чыталася з вялікай радасцю і задавальненнем, хоць напісана яна кепска і неталенавіта. Я нікому не параю чытаць Уладзіміра Лідзіна, але я ўдзячны яму, бо ягоная кніга яшчэ раз паказала мне хутказменлівасць кніжнага свету і праўдзівую каштоўнасць рэйтынгаў, якімі я паслядоўна займаюся два дзесяцігоддзі.

**Раўнавага ў маёй душы**

Дасягнуць раўнавагі ў сваёй душы амаль не магчыма. На нейкае імгненне такая раўнавага можа з’явіцца, але яна настолькі жыццядайная і смертаносная адначасова, што з’яўляецца і знікае ў адно і тое ж імгненне. Каб не загінуць і жыць далей, ты сам выводзіш душу з раўнавагі. Цябе пачынае расхістваць паміж дабром і злом, паміж цемраддзю і святлом, паміж мінулым і будучым, ты жывеш і зноўку імкнешся да раўнавагі ў душы.

**Часнякоў і цагліны**

Краязнаўцы знайшлі ў расейскай вёсачцы спадчыну самадзейнага мастака Часнякова. Маскоўскія рэстаўратары надалі пашкоджаным палотнам выставачны выгляд і адчынілі экспазіцыю. Глядзець на рускага Пірасмані-Русо-Генераліча-Драздовіча прыйшло шмат народу. Калі экспазіцыю закрылі, а палотны Часнякова пагрузілі ў

аўтобусы, каб завезці на радзіму, у Кастраму, да аўтобусаў падбегла купка артыстаў. Яны патрабавалі адчыніць аўтобусы і паказаць карціны рускага генія. Артысты трымалі ў руках цагліны і пагражалі паразбіваць вокны ў аўтобусах. Маскоўскі рэстаўратар з гонарам распавядаў пра паводзіны артыстаў і значнасць спадчыны Часнякова. Да выяўленчага самадзейнага мастацтва я раўнадушны, бо яно ніколі не натхняла мяне. У гісторыі з Часняковым мяне зацікавілі варварскія паводзіны маскоўскіх прафесійных артыстаў. Дзікунскі погляд на свет Часнякова выглядае не такім і дзікунскім, калі параўнаць яго з поглядамі рускага артыста з цаглінаю ў руцэ і абяцаннем разбіць акно аўтобуса і галаву шафёра. Зрэшты, які мастак, такі ў яго глядач, усё там адпаведнае і ўсё заканамернае. А для мяне гэта яшчэ адзін доказ таго, што я правільна рабіў, што ніколі не захапляўся творамі Часнякова і да яго падобных невукаў.

**Вакзальны метад творчай працы**

На першым курсе мастацкай вучэльні мы з сябрамі хадзілі маляваць людзей на вакзал. Садзіліся ў зале чакання і рабілі накіды з натуры. Мы малявалі, пакуль міліцыянт не падыходзіў і не казаў, што мы надакучылі тут усім. Мы сыходзілі, праз дзень-другі вярталіся на вакзал ці ішлі на Камароўскі кірмаш або на аўтобусную станцыю, што месцілася на пляцы Веры Харужай побач з Камароўкаю. Мы малявалі людзей, малявалі людзей выпадковых, малявалі з натуры і малявалі падобна. Мы навучыліся маляваць падобна. Шмат хто з тагачасных маіх сяброў кінуў маляванне, можна нават сказаць, што ўсе мае тагачасныя сябры даўно кінулі прафесійнае маляванне. А я ўсё малюю і малюю людзей, малюю і апісваю іх лёсы, іх гісторыі, іх казкі. Для мяне маляванне на вакзале ператварылася ў творчы метад, я нават люблю выпіць кавы і з'есці кавалачак штрудзеля ў прывакзальным буфеце.

**Юра і юрты**

Юра купляе часопісы «Вакол свету» і малюе юрты. Ён марыць паехаць у Сярэднюю Азію і памаляваць тамтэйшыя краявіды з натуры. Але ў Юры брак сродкаў, ён моцна абмежаваны ў грашах, нават сваю трохпакаёвую кватэру Юра аддае сястры, бо ў той двое дзяцей, ім зацесна ў двухпакаёўцы. Юра з маці пераедзе ў меншую кватэру, а сястра з дзецьмі ў прастарнейшую. «Жыву з маці. Мне так спакойна. Калі знойдзецца добрая жанчына...» Пакуль не знайшлася добрая жанчына, Юра жыве з маці і малюе юрты ў свае пяцьдзясят два гады.

**Алёнка, далонь і Нехта**

Літаратарка сярэдняй рукі — Алёнка — распавядала мне, што Нехта праз яе піша і піша. Нібыта не сама Алёнка настуквае на

камп’ютары паўграфаманію, а нехта ёй тую грамафонію надыктоўвае. Алёнка пастуквала сябе даланёю па патыліцы, паказваючы, як гэты Нехта дыктуе. Маўляў, стаіць той Нехта за Алёнкаю і дыктуе ёй у патыліцу. Жудасная рэч: бачыць, як чалавек пастуквае сябе даланёю па патыліцы і вочы закатвае так, што на твары застаюцца адны бельмы.

### Ісачоў і Жданаў

Мастакі не любяць мастацтвазнаўцаў, як пісьменнікі не ў захапленні ад зладзейнасці крытыкаў. Пра гэта шмат разоў паўтаралася і шмат паўторыцца. Мастакі лічаць, што мастацтвазнаўцы, у большасці сваёй, няўдалыя мастакі, як музычныя крытыкі збольшага кепскія музыкі. За такое грэбліване і ў большасці выпадкаў несправядлівае стаўленне да сябе мастацтвазнаўцы пачынаюць помсціць мастакам. Як? Яны абвяшчаюць геніямі поўных ідыётаў. Здавалася б, і дзіця разумее: каб стаць мастаком, трэба доўга вучыцца, а потым — шмат працаваць. Кожны школьнік разумее, што невук і дурань у прызнаныя мастакі не патрапіць, але мастацтвазнаўцы падлюча спрабуюць падмануць школьніка з правільнымі ведамі. Яны выцягваюць са сметнікаў мярзотныя карцінкі і пачынаюць іх ухваляць. Цынізм мастацтвазнаўцаў бяздонны, бо цяжка ўявіць, з-пад якіх гурбаў смецця можна было павыцягваць саладжавы і слінявы кіч недавука Ісачова і дурнаколерныя паперкі хворага на ўсю вечна п’яную галаву Жданава. Разгрэблі смецце, дасталі брыдоту, развесілі на сценах і спяваюць хваласпевы. «Хай квітнеюць усе кветкі! Хай кожны мастак знойдзе прызнанне...» З такіх вось «хай-хай-хай» пачынаюцца ўхваленні нікчэмнасцяў, няздараў і пасрэднасцяў з іх дрэнню. Прымірыць мастакоў і мастацтвазнаўцаў мне, як і нікому іншаму, не ўдасца, бо гэта проста немагчыма, як немагчыма прымірыць хвалю і вецер, але выказацца пра недарэчнасць ухваленняў Ісачова і Жданава я лічу неабходным, бо абодва рабілі дрэнь.

### Луся, Маша, Тамара і «Лас Вегас»

Быць залатым чалавекам лёгка. Табе кажуць, што ты запрошаны ў клуб «Нэкст» выконваць ролю зоркі. Апранаецца фіялетавая кашуля, апранаецца фіялетавы тоненькі швэдар, і ты выглядаеш выдатна-фіялетавай зоркай. Быць блакітнай зоркаю ў цябе кепска атрымлівалася, у афіцыйныя шэрастройныя зоркі ты таксама не рваўся, як і пазбягаў стасункаў з зоркамі колеру хакі. Фіялетавы колер самы твой. На сцэне была Луся, яна выпрошвала ў свайго партнёра сукенку на восьмага сакавіка. Партнёр у шырокім, як ружовая моналыжа, гальштуку абяцаў Лусі сукенку тую падарыць. «Зорак з неба я табе, дарагая Луся, не абяцаю, а сукенка ад Цыгаль будзе

таваёю!» Сукенка тая была сапраўды ад масквічкі Цыгаль. Яшчэ масквічка прывезла аксесуар. Цыгаль прывезла падушачку! Яе разыгрывалі, і я мог… Не мог! Не атрымаў я падушачку, яе атрымаў чалавек з квітком нумар 99, а ў мяне быў нумар 52. Давялося ісці дамоў без падушачкі. Я не вельмі расстроіўся, бо падушачка ад Цыгаль не спалучалася з маім фіялетавым швэдрам. Са швэдрам маім добра спалучалася Тамара Ганчарова, якая кіравала паказам калекцыі апранах, наробленых Машай Цыгаль. Тамара прывяла манекеншчыц. Тамара ўмее выбраць і прывесці дзяўчатак на паказ. Нехта за маёй спінаю сказаў, што Тамара «прывяла бракаваных дзевак». Заўжды знойдзецца паскуда, якая самых прыгожых дзяўчат назаве «бракаванымі дзеўкамі». Такім паскудам нельга верыць ні на грош, але верацы менавіта ў кепскае. Таму я скажу, што кепскім у гэты вечар быў ансамблік «Лас Вегас». Я не вялікі аматар музыкі савецкага Азербайджана. Я ніколі не захапляўся творчасцю Бюль-Бюль Аглы і Мусліма Магамаева. А тут сяджу за барнай стойкаю, п’ю яблычны сок і чую музыку савецкага Баку. Ну не маё, праўда. Для мяне гэта кепска. Можа, каму… Мне вечарына Альфа-Банка спадабалася! Праўда, самая што ні ёсць залатая праўда ад фіялетавай зоркі!

**Аляксей і кавун**

З суседзямі я стараюся не сварыцца, бо няўтульна жыць, калі ты пасвараны з тымі, хто штодня праходзіць побач. З суседзямі я суісную, але сябраваць з імі я не сябрую. Кватэр я памяняў шмат, а таму і суседзяў назбіралася многа. Днямі мама распавядала, што неяк бачыла нашага даўняга суседа Аляксея. Ён недабачваў на адно вока, ён наогул кепска бачыў, але пазнаў маму па голасе. А потым маме сказалі, што Аляксей памёр. Побач з Аляксеем мы пражылі пяць гадоў. Ён працаваў мастаком, ездзіў на Азоўскае мора лавіць рыбу і аднаго разу частаваў мяне кавуном. Аляксей купіў вялізны кавун, які варта было з’есці за адзін дзень. Аляксей паклікаў мяне. Кавун той быў незабыўна-ружовы, цукровы і сонечна-святочны.

**Манэ і Купала**

Французы змаглі змінімізаваць сваю вялікую культуру да трох рэчаў: бардо, ракфор і Манэ. Чырвонае віно, блакітны сыр і святладайны жывапіс могуць годна прэзентаваць Францыю на любым узроўні. Пра тры асноўныя культурныя з’явы я згадаў, стоячы перад марскім краявідам Клода Манэ, што вісеў на выставе ў беларускім мастацкім музеі. А як можна мінімізаваць культуру Беларусі? Пасля доўгіх размоваў з сябрамі ў мяне склаўся такі спіс: дранік, «Белавежская» і Купала.

## Прышвін і антывегетарыянства

Калі мой таварыш — Алесь Лось — абвясціў навіну, што ён становіцца вегетарыянцам і не будзе больш есці мёртвых жывёл і трупы пташак, я яму не паверыў. Лось без мяса пратрымаўся з месяц. Яму было сорамна вяртацца да звычайных беларускіх страў, мне было няёмка назіраць за гэтым сарамлівым вяртаннем. Карацей, маё першае назіранне за вегетарыянцам стала малапрыемным успамінам. Такім жа непрыемным зрабілася і маё наведванне вегетарыянскай сталоўкі ў Барселоне. Нібыта ўсё выглядала прыстойна, нават смачнымі былі катлеты з морквы, нават вельмі бюджэтным па кошце атрымаўся абед, і разам з гэтым нешта малапрыемнае вісела ў сонечным паветры той сталоўкі. Толькі на выхадзе я зразумеў, што мой тонкаарганізаваны нос улавіў смурод ванітаў. Некага вывернула на выхадзе са сталоўкі, лужыну на ганку прыбралі і зацёрлі, але смурод яшчэ не выветрыўся. Так складалася, што сам я ніколі не хацеў стаць вегетарыянцам, а тыя вегетарыянцы, каго асабіста ведаў і бачыў, не былі шчаслівымі людзьмі. Таму, прачытаўшы ў кнізе Міхаіла Прышвіна «Вочы зямлі» такія словы: «...чыстыя істоты ў прыродзе толькі расліны, і найбольш нячыстыя — вегетарыянцы, якія жаруць самае чыстае», я парадаваўся, што знайшоў паплечніка ў сваіх антывегетарыянскіх настроях.

## Шчасце і сінія тапкі

Бывае, што мне шанцуе. Заслужыў я тое шанцаванне, ці, як наш народ кажа: «Дурню шанцуе заўжды!», адразу і не вызначыш. Сваё шанцаванне я вызначаю тапкамі. Ёсць у мяне простыя тапкі adidas, звычайна-сінія, сорак трэцяга памеру. Імі я і вызначаю наяўнасць свайго персанальнага шчасця ў вялікіх гарадах. Калі я магу выйсці на галоўную вуліцу горада ў гэтых банальна-сініх тапках, значыць, мне пашанцавала, мне пакаціла, мне прэ! Зазвычай я ў гэтых самых тапках разгульваю ў мастакоўскім атэлье. А як якое падарожжа, яны выпраўляюцца ў вандроўку разам з гаспадаром, бо не люблю я хадзіць па гатэльным нумары ў шкарпэтках, а басанож зусім не хаджу, бо берагу скуру на ступаках. Таму па гатэлях у пластыкава-сініх тапках і разгульваю. Пахаджу па гатэлі, пагуляю і на вуліцу выйду. Народ увесь такі ўрачысты, народ такі парадны і радасны, народ на абцасах, а я шчаслівы і ў сініх тапках. Швейцар глядзіць на мяне і маўчыць. Швейцар у форменных бліскучых чорных чаравіках, а я ў тапках. І не сорамна мне! Я ў гэтых тапках стаяў на пляцы Каталунія ў Барселоне, бо мне моцна пашанцавала. Стаяў у Вільні на праспекце Гедыміна, бо мне крыху падфарціла. Стаяў у Мінску на праспекце Незалежнасці, бо я — незалежны паэт. А цяпер я спакаваў свае любіма-сінія тапкі, бо збіраюся пастаяць у іх на Неўскім. І

пастаю, бо мне зусім мала трэба для поўнага шчасця. Абуў сінія тапкі і…

## Андрэеў і «Ваўкі»

Вялікі горад нараджае вялікую літаратуру. Можа, пра якое іншае месца можна і падыскутаваць, але Санкт-Пецярбург падараваў свету найвялікшых літаратараў з напоўненымі паўночным вятрам паэмамі і аповесцямі. Адна з лепшых аповесцяў пра перадрэвалюцыйны і паслярэвалюцыйны Петраград — «Ваўкі» Васіля Андрэева. Аповесць прысвечана ўгарнаму жыццю і жудаснай пагібелі петраградскіх зладзеяў. Сам Андрэеў — асоба легендарная. Царскімі ўладамі ён быў высланы ў Туруханскі край, дзе пазнаёміўся са Сталіным, якога тады выпраўлялі па этапе ў Краснаярск. Андрэеў падарыў Сталіну свой кажух. Перад Другой сусветнай вайной Васіля Міхайлавіча Андрэева перасталі друкаваць. Ён застаўся без сродкаў. Казалі, што ён нагадаў Язэпу Сталіну пра падораны ў Сібіры кажух. Ці атрымаў пісьменнік ліст ад Язэпа? Невядома. Адно вядома, праз некалі месяцаў пасля распачатай фашыстоўскай Германіяй вайны супраць бальшавіцкага СССР Васіль Андрэеў прапаў. Як напісаў пра тое Данііл Гранін: «Выйшаў з дому і прапаў. Больш пра яго нічога невядома». Быў час у СССР, калі людзі прападалі тысячамі, знікалі без знаку і следу. Страшна, калі ты здалёк бачыш добра знаёмага чалавека і збіраешся яго паклікаць, ты адкрываеш рот, а чалавек заварочвае за рог будынка. Ён проста зайшоў за рог, ты проста не паспеў выгукнуць ягонае імя, а ўжо бярэ страх і абдзімае цябе гіпербарэем. А тады выйшлі з дамоў тысячы і тысячы людзей, выйшлі і папрападалі. Сярод зніклых лічыцца і літаратар Васіль Андрэеў, які напісаў плач па зладзейскаму Піцеру і назваў яго «Ваўкі».

## Чалавек з кайлом

Сімвал сучаснага Санкт-Пецярбурга — чалавек з кайлом. Жалезным ломам гэты чалавек сячэ, ломіць, крышыць лёд. Ён збівае той тоўсты лёд з ходнікаў і дахаў. Разам з лёдам кайло разбівае асфальт ходнікаў і дарог, прабівае і дзіравіць бляху на дахах, крышыць і нявечыць цэглу ды тынк карнізаў, сцен, фундаментаў. Чалавек з кайлом гучна працуе, ён б’е кайлом лёд, разам з лёдам пад ударамі кайла крышыцца, друзуецца і руйнуецца вялікі горад. Раней у Піцера меліся іншыя чалавекападобныя сімвалы: быў і цар на караблі, быў імператар на кані, быў і правадыр на браневічку, быў чалавек з ружжом, быў нават кілер з пісталетам. Цяпер паўднёвы чалавек з цяжкім кайлом зрабіўся сімвалам паўночнай расейскай сталіцы. Гэты чалавек прыехаў у белыя ночы і з-пад белага сонца Таджыкістана-Афганістана. Ён чарнавокі, цёмнаскуры, мае сінявата-чорныя валасы

і ружовыя пазногці. Таджык з кайлом — сімвал сучаснага ледзянога горада на Няве.

## Вяртанне да будзільніка

Знудзіўся па будзільніку. Апошнім часам не бяру ў вандроўкі будзільнік, бо карыстаюся тым, што ў сотавіку. А той, які дзесяць гадоў стаіць на прыложкавай тумбачцы, цяпер, калі я выпраўляюся ў падарожжа, застаецца стаяць і чакаць. Стаіць, маўчыць, чакае... Нарэшце я прыляцеў з Санкт-Пецярбурга ў Мінск праз Маскву, бо не было прамога рэйса на Мінск. Стаміўся. Адразу лёг спаць. Прачнуўся рана. Пайшоў у лазенку апаласнуць твар і чую: ціўкае мой будзільнік, жыццярадасна так паціўквае. Я — дома! Трэба прызнацца, што я моцна сумаваў па будзільніку, а раней падавалася — не вельмі яго і люблю.

## Маркаў і Шастоўскі

Паветра ў маім мастакоўскім атэлье пачало змяняцца. Два месяцы я не палю тытунь, і пракуранасць пачала паціху выветрывацца, але не гэта асноўная змена. Я вярнуўся да алейнага жывапісу. Шчыльны водар алейнай фарбы напоўніў невялікае атэлье да самай столі. Колькі я не пісаў алеем? Гадоў з дваццаць пяць... Недзе так. Год таму брат мне падарыў дзясятак розных цюбікаў з італьянскімі алейнымі фарбамі. Яны ўсё ляжалі і чакалі немаведама чаго. Можа яны чакалі, каб я два разы запар сустрэў Сяргея Крыштаповіча, і абодва разы пагаварыў з ім пра алейны жывапіс. Яму я сказаў, што збіраюся напісаць некалькі невялікіх нацюрмортаў алеем, але ўсё адкладаю і адкладаю свой намер, бо зноў і зноў пішу акрылам. У маладосці пераход з акварэлі і гуашы на алей — адзнака сталасці, а ў маім выпадку гэта адзнака зусім іншая. З гэтай нагоды мне прыгадаўся аповед майго выкладчыка жывапісу Шастоўскага. Ён вярнуўся з войска, аднавіўся ў інстытуце і зайшоў у майстэрню да свайго сябрука — скульптара Маркава. Варта сказаць, што Маркаў — адзін з найлепшых скульптараў, якія жылі і працавалі ў Беларусі. Мяне зусім не збянтэжыць той факт, што нехта не ведае скульптур Маркава. Усё ведаць не дадзена нікому. Мне пашанцавала, я ведаю Маркава і вучыўся ў Шастоўскага. Малады Маркаў сказаў Шастоўскаму, які дэмабілізаваўся, што яму варта кінуць жывапіс і перайсці на скульптуру, пасля войска вучобу ўсё адно давядзецца пачынаць з нуля, а скульпура з яе помнікамі, мемарыяламі і манументамі — занятак больш выгадны. Шастоўскі амаль пагадзіўся з сябрам, але, вярнуўшыся ў майстэрню, ён адкрыў эцюднік і пачуў водар алейнай фарбы. І ўсё, і не змог Шастоўскі кінуць эцюднік, не змог адмовіцца ад чароўнага водару. Вялікім мастаком Шастоўскі не стаў. Можа разам з Маркавым ён і больш зрабіў бы для мастацтва, але водар

алейнай фарбы скарыў Шастоўскага так, як скарыў тысячы іншых мастакоў, так, як ён другі раз у жыцці пачаў скараць мяне. Можа і нельга ў адну рэчку зайсці двойчы, але ў водар алейнай фарбы можна заходзіць бясконца.

### Іван і яйцо

За велікодным сталом маці згадала апетыт і нястрыманасць нашага былога суседа — Івана. Ягоная жонка казала так: «Яму, Івану майму, трэба не толькі зварыць яйцо, а трэба зварыць і адразу ж аблупіць. Не аблуплю, не абяру, Іван пачне лупіць сам, не вытрымае, занервуецца і з'есць яйцо разам са шкарлупінай!»

### Шалевіч і белы пінжак

Кожны зарабляе на хлеб па-рознаму. Алесь Шалевіч афармляў, друкаваў і прадаваў кнігі. Быў чытацкі бум, былі незлічоныя наклады, былі казачныя прыбыткі. З тых прыбыткаў і набыў сабе Шалевіч белы пінжак, белыя нагавіцы і белыя пантофлі. Не мужчына, не працаўнік, а тэлевядучы проста. У белым пінжаку паехаў Алесь з Мінска ў Маскву, да сваіх кампаньёнаў. Тыя паглядзелі на даражэзны пінжак і сказалі: мы тут гібеем на працы, у нас тутака ні выхадных ні прахадных, а гэты боўдзіла ў белым пінжаку флануе-шпацыруе, а пайшоў ён нафіг, разам з белымі пінжакамі, нагавіцамі і пантофлямі. Масквічы Алеся Шалевіча апусцілі, выкінулі яго з вялікай кнігагандлёвай тусоўкі. І за што? За нейкі там белы пінжак! Алесь спіўся. Алеся нават шкада, але ж кожны павінен сам здагадвацца, калі і куды надзяваць дарагі белы пінжак.

### Брусілоўскі і душа кнігі

Калажыст Брусілоўскі завёў сабе блог у Жывым Часопісе, дзе старанна змяшчаў здымкі розных каштоўных ды малакаштоўных рэчаў і рабіў пад здымкамі подпісы. Некаторыя постынгі Брусілоўскага суправаджаліся яшчэ і каментарамі ўдзячных і малаўдзячных чытачоў. Каментары хамаватых і агрэсіўных чытачоў спадар Брусілоўскі старанна выдаляў. Праз нейкі час свой блог мастак Брусілоўскі звярстаў у кнігу і выдаў яе пад назваю «Душа рэчаў». Кніга атрымалася бяздушнай. Калі ў блогу, дзякуючы розным нераўнадушным каментатарам, была дый ёсць пэўная сентыментальнасць і задушэўнасць, дык у кнізе яе няма зусім. Мусіць таму блогер Брусілоўскі і пакрыўдзіўся агулам на ўсе кнігі, ды напісаў, што век папяровай кнігі застаўся адно ў мінулым. Кніга, вядома ж, не памерла, бо душа кнігі бессмяротная і доказаў гэтаму безліч. Дый мастак Брусілоўскі насамрэч ведае, што нават ягоная бяздушная кніга жыве.

## Ніцшэ і галалёд

Ніцшэ — паэт. Хто не ведае ягоную метафару пра штуршок? Усе ведаюць, што трэба штурхануць таго, хто падае, як гаварыў Ніцшэ. Казаць лёгка, а штурхануць цяжка. На пачатку вясны я ішоў праз пазасыпаны дробным снегам двор і пабачыў на ганку, пад суседскім пад'ездам, старую жанчыну ў ружовым пухавіку. Старая ляжала на лёдзе. Я паспрабаваў прайсці міма, ды не атрымалася, бо старая закрычала на ўвесь двор: «Малады чалавек!» Для большасці людзей я немалады чалавек, але для старой бабулькі ўсё яшчэ малады. Давялося спыняцца. Тут і прыгадалася паэзія Ніцшэ пра штуршок! «Малады чалавек, мой муж не можа мяне падняць! Дапамажыце яму!» Стары дзед зрабіў яшчэ адну, апошнюю, спробу падняць з зямлі жонку і не змог. Ён не здолеў падняць сваю старую, і вочы ягоныя наліліся слязьмі. «Так!» — сказаў я і падумаў, што Ніцшэ ў дадзеным выпадку не стаў бы штурхаць старых. Ён бы сказаў: «Так… Спакойна! Зараз усё акуратна зробім!» Я ўзяў старую падпахі і падняў. Бог ты мой, яна была такая лёгкая, нібыта ў ружовым пухавіку не было чалавека. Я падняў старую жанчыну і паставіў каля пад'ездных дзвярэй. Яна абедзвюма рукамі ўчапілася ў дзвярную ручку. «Цяпер мы самі!» — сказаў мне стары з бліскуча-чырвонымі вачыма. «Здаецца, я зламала руку! Так ударылася аб ганак, што зламала руку!» — «Можа выклікаць «хуткую»?» — прапанаваў я. Напэўна, Ніцшэ не прапаноўваў бы выклікаць машыну «хуткай дапамогі», а я ўсё ж даў слабіну і прапанаваў. «Мы самі! Мы падымемся дамоў і пазвонім у бальніцу!» — стары дзед глядзеў на мяне злосна. Можа мне толькі падалося, што ён глядзеў злосна. Не стаў я настойваць з выклікам «хуткай» і пайшоў да свайго пад'езда. Я ішоў па коўзкім лёдзе і думаў, што ніколі не любіў паэта Ніцшэ і час, у якім ягоным сучаснікам давялося падаць.

## Таа Юань-Мін
## і намаганні рэстаўратараў

У старажытна-кітайскага паэта, які жыў на мяжы чацвёртага і пятага стагоддзяў, вытанчанага лірыка Таа Юань-Міна ёсць такія радкі:

*«Пакаленне другое — з ім палацы змяніліся і плошча». Значыць,*
*рацыя ў словах старых і дагэтуль жыве.*

Радкі прымусілі задумацца над гераічнымі намаганнямі рэстаўратараў і розных аматараў старызны, якія спрабуюць прыпыніць хуткаплынны час. Хочуць яны ці не хочуць, але прыйдзе новае пакаленне, палацы зменяцца, зменіцца плошча… Шмат хто не пабачыць абноўленай сталіцы. Мне шкада тых, хто сыдзе ў небыццё і не ўбачыць абнаўленняў, і не шкада струхлелых буданоў.

## Імпрэсіяністы і свет

У імпрэсіяністаў быў агульны святлагляд, а не светагляд.

## Домработніца

«У цябе няма домработніцы?» — спытаў я ў жонкі рускага банкіра. «Няма!» — заўсміхалася яна і паклала кавалак масла ў маю талерку з аўсянай кашай. «У цябе чацвёра дзяцей, і ты ўсё чыста паспяваеш зрабіць сама?» — «Паспяваю!» Пра домработніцу я вырашыў пагаварыць з банкірам, балазе, ён побач са мною еў падсалоджаную аўсянку з маслам: «Слухай, чаму ў вас няма домработніцы?» — «А ў цябе хіба ёсць домработніца?» — банкір паглядзеў на мяне з недаверам. «У мяне ёсць домработнік…» — «І як твой домработнік?» — «Прыедзеш і паглядзіш…» Неўзабаве мы сядзелі з банкірам ужо за маім сталом, елі салату з руколы, і размова пра домработнікаў займела працяг. Я сказаў сваёй жонцы, што яна павінна загітаваць нашага госця завесці сабе добрую домработніцу. «У цябе чацвёра малых дзяцей, і твая жонка ўсю гаспадарку цягне сама?» — мая жонка моцна здзівілася. «Ды ёсць, ёсць у нас домработніца Клава! Але калі я дома, яе хаваюць. Двойчы я загадваў яе прагнаць, але хатнія прасілі за Клаву, маўляў Клава — добрай душы чалавек. Я саступаў, але саступіў з умоваю — бачыць яе не хачу. Няма такой домработніцы, каб не біла посуд і не псавала рэчы, але Клава ў гэтай справе мае асаблівыя здольнасці. Былі ў мяне burштынавыя шахматы. Шахматы, як кажуць, з літоўскага золата. Мне іх падарыў мэр Вільні. Я не вялікі аматар шахмат, але да гэтых бурштынавых фігурак прывык. Аднойчы, вярнуўшыся дамоў позна ўвечары, я знайшоў каробку з шахматамі ў кабінеце на працоўным стале. Адкрыў я каробку, глянуў і ледзь не звар’яцеў. Я не змог пазнаць ні адной шахматнай фігуры! Калі я і пазнаваў галаву каня, то другая падобная галава знаходзілася на фігурцы, значна вышэйшай за першую. Гледзячы на фігуры з бурштыну, я падумаў, што розум назаўжды пакінуў мяне. Патлумачыць убачанае іншым чынам я не мог. Паўночы я прасядзеў у кабінеце, скуты страхам. Перад вачыма стаялі пачварныя фігуркі з літоўскага золата. Нарэшце я не вытрываў і пабудзіў жонку. Тая мяне паспрабавала супакоіць, сказаўшы, што Клава, робячы прыборку ў кабінеце, скінула шахматную каробку з кніжнай паліцы на падлогу, фігуркі паразбіваліся, якая на два, а якая і на тры кавалкі. Клава пасклейвала фігуры наноў, як змагла і як разумела. У тую ж ноч я загадаў Клаву звольніць. Жонка паабяцала паслухацца мяне, а яшчэ б яна не паабяцала! Але ж раніцаю ўсе пачалі прасіць за Клаву, і я даў слабіну — саступіў. Мяне ўразіла, што ўсе казалі пра дабрыню нашай нязграбнай і неабачлівай Клавы. Я вырашыў яе патрываць, але маё трыванне скончылася досыць хутка… Быў у мяне кітайскі фантан,

даволі прымітыўная цацка, у якую заліваецца з імбрычка вада. Фантан уключаецца ў разетку, вада крышку награецца і пачынае перацякаць. Цуркатанне вады супакойвае нервы, мяне яно супакойвала яшчэ і тым, што на шкле фантана быў намаляваны кітайскі горны краявід, у якім сядзела скульптурная фігурка манаха-паэта. Я слухаў фантан і ўяўляў сябе кітайскім паэтам, які сышоў ад мітусні жыцця і складае вершы пра… Ну ты мяне разумееш…» І сапраўды я разумеў банкіра, бо мы з ім сустракаліся, каб пагаварыць пра паэзію. Можаш мне паверыць! Мы любілі паразважаць пра залатое стагоддзе рускай лірыкі: Лермантаў, Цютчаў, Багдановіч… Мы гаварылі і пра нашых, пра беларускіх Купалу з Багдановічам; і нават пра кітайцаў Бо Цзюй-і ды Таа Юань-Міна… Таму я лёгка ўявіў сабе фантан з кітайскім паэтам-самотнікам. «Аднойчы вяртаюся я з чарговага ці пазачарговага, хто іх там разбярэ, банкета. Заходжу ў варэльню і бачу: з вядра са смеццем на мяне пазірае кітайскі паэт. «Не выкідаць! Я склею! Я вазьму ўсе аскепкі і заўтра ж склею фантан!» На мае крыкі прыбегла жонка: «Супакойся! Клава сказала, што фантан не склеіш. Клава сказала, што ён разбіўся ўшчэнт…» Мяне дабіла гэтае жыццярадаснае «ўшчэнт». Я сказаў, што не хачу больш бачыць добрую Клаву. Цяпер яе хаваюць ад мяне. Часам у нашым доме ламаюцца і разбіваюцца нейкія рэчы, але я за іх не перажываю… Стараюся не перажываць!»

**Парасон у фотастудыі**

Добра глядзіцца ў фотастудыі… Можна было б паставіць не тры, а дзве кропкі ды пачаць спіс розных рэчаў, а то і вядомых імёнаў, але я абмяжуюся парасонам. У фотастудыі выдатна глядзіцца мокры, толькі-толькі з-пад дажджу парасон. Ён надзіва цякуча-жывы і бліскуча-нераўнадушны. Ён не супярэчыць духу студыі. Парасон напаўняе яе свежасцю. Стаю, любуюся і вачэй адарваць не магу ад упэўнена-шэрага парасона.

**Свой час і Новы час**

Цяпер у нас свой час. Ён запаволены, марудны, вялы, крызісны… Падобны час быў, на маёй памяці, у СССР і называўся эпохаю развітога сацыялізму. У Старым часе дыхаецца… І хацеў бы сам сябе прыспешыць, ды не атрымліваецца. Новы час надыходзіць раптоўна. Раніцай адчыняеш акно і адчуваеш вецер. І пайшло, і паехала, і пакацілася, і паімчалася… Новы час праявіўся ў Беларусі нацыянальна-вызвольнай рэвалюцыяй. Нам пашанцавала, што наш Новы час не вызначыўся крыважэрнасцю і людазабойствам. Пашанцавала. Адчыняю акно, насыпаю на падваконне сланечнікавых семак для сваіх сініц і радуюся, калі да сініц далучаецца імклівая сітаўка.

## Чэхаў і думы

«Ты вось зараз глынуў, але не падумаў, верагодна, што гэты глыток каштуе грошыкаў, а грошы здабываюцца працаю. Ты еш і думай...» Так герой апавядання Антона Чэхава «Незвычайны» вытлумачвае мараль свайму сыну-гімназісту. Мараль — думанне пра грошы, думанне грашыма, думанне пра капітал. Гімназісты вырастаюць і працягваюць думаць пра капейчыну. Палітык палітыкуе і думае пра грошы, журналіст піша і думае пра іх, артыст і ўсе-ўсе-ўсе жаруць дый думаюць думу-думную пра грошы. Такое вакол нас грашова-задуменнае грамадства. Нейкі час яго нібыта і не было, на нейкі час яно нібыта і спрабавала памяняцца, але эксперыменты са зменамі ў грамадстве не далі станоўчых вынікаў. Ты вось зараз пачытаеш і падумаеш пра (...) доктара Чэхава, спадзяюся. Ты падумаеш пра Антона Чэхава, які застаўся вялікім мастаком слова ў грамадстве, якое думала пра грошы. Грамадства яшчэ думала, што той, хто не думае пра капіталы, не выжыве. Чэхаў выжыў і застаўся чалавекам, бо толькі мастак здатны заставацца чалавекам сярод зграй драпежнікаў-думаннікаў пра грошы.

## Навіна і праклятыя месцы для славянаў

Я набліжаўся да падземнага перахода, што на станцыі метро «Няміга», калі затэлефанаваў сын. Ад яго і даведаўся пра авіякатастрофу, у якой загінуў прэзідэнт Польшчы Лех Качыньскі. Урадавая дэлегацыя ляцела з Варшавы ў Смаленск, на жалобныя ўрачыстасці. Мерапрыемства было прымеркавана да сямідзясятых угодкаў Катынскай трагедыі, у Катыні знайшлі гвалтоўную смерць тысячы польскіх вайскоўцаў. У авіякатастрофе загінулі сто трыццаць два чалавекі. Я слухаў сынаў голас і глядзеў на падземны пераход, у якім задыхнуліся ў звалцы дзясяткі маладых людзей. Спрадвеку гэтае месца, дзе Няміга ўпадае ў Свіслач, лічылася праклятым, такім жа праклятым месцам для славянаў была і будзе Катынь.

## Гематаген з курагою і весніцы

Замест шакаладных батончыкаў і цукерак я часам ем гематаген. Люблю ўзяць у аптэчнай крамцы гематаген з курагою. І калі захочацца закурыць... На падыходзе да могілак мне моцна захацелася закурыць. Раней я звычайна курыў непадалёк ад татавай магілы. Пастаю, пакуру, і нібыта крыху лягчэй робіцца. Цяпер не пакурыш, бо кінуў, таму вырашыў з'есці гематаген. Есці на могілках я ніколі не любіў і ніколі не разумеў тых, хто сярод крыжоў выпівае і закусвае. Стаў я каля металічных весніц і ем. Тут нейкі малады мужчына ў чорных акулярах, заходзячы на могілкі, павітаўся са мною. Мне зрабілася прыкра і няўтульна, гематаген стаў нясмачны — засалодкі.

Пасля наведвання могілак мне разбалелася галава, а ўсе навокал казалі пра цудоўна-сонечны дзень.

### Рыльке і творы

У «Фларэнційскім дзённіку за 1998 год» паэт Райнер Марыя Рыльке запісаў: «Бог — самы стары твор мастацтва». На мой сціплы розум варта зрабіць удакладненне: «Бог — адзін з самых старажытных твораў мастацтва».

### Сініцы і заяц

Сонца зыркае, красавіцкае і ўсё яшчэ прахалоднае. Сініцы скачуць па падваконні і выпрошваюць сланечнікавых семак. Пташкі ўжо не галодныя, яны просяць семкі па звычцы. Я, зноў жа па завядзёнцы, сыплю чорныя семкі на бляшанае блакітна-нябеснае падваконне. Сініцы бяруць па семцы і ўладкоўваюцца на галіны вулічнай, акуратна паабразанай ліпы. Гляджу на вялікую ліпу і згадваю пасаджаныя жонкаю ў мінулым кастрычніку тоненькія дрэўцы чарэшні. Зімою іх моцна пааб’ядаў і скалечыў заяц. Камель быў абгорнуты яловымі лапкамі і мешкавінай, таму заяц, дачакаўшыся вялікага снегу, паабгрызаў галінкі. Чарэшань шкада, як шкада і жончынай працы. Але сябе я ўяўляю менавіта зайцам, які лютаўскай марознай ноччу прабіраецца па высокіх сумётах у вёску Сёмкава на вуліцу Бэзавая і вячэрае салодкімі галінкамі.

### Хармс і кончык языка

«Калі дзяржаву прыпадобніць да чалавечага арганізма, дык на выпадак вайны я хацеў бы жыць у пятцы», — напісаў Данііл Хармс у 1937 годзе, пэўна ж, пісаў ён, адчуваючы, што на свет насоўваецца вялікая вайна. Не ведаю, што насоўваецца на наш змучаны тэрорам і антытэрорам свет, але, калі на Еўропу насунулася вулканічнае воблака і ўсе чакалі насоўвання папяловага воблака на Беларусь, я задумаўся над ваенным жаданнем Хармса. Ён хацеў бы стаць душою, якая ад страху хаваецца ў пяткі. Я? «Калі Беларусь параўнаць з чалавечым целам, дык у час вайны я хацеў бы стаць кончыкам языка, які прыкусваюць, каб ператрываць невыносны боль».

### Летнія кавярні

Сёння здаецца, што ў Мінску летнія кавярні былі заўсёды і такіх кавярняў было шмат, але гэта не зусім так. Кавярняў, што ўлетку выстаўлялі на тратуар столікі і крэслы, было зусім мала, яны былі выключэннем з агульнага правіла.

Так, я любіў белыя круглыя столікі ў кафэ «Вясна», што было на галоўным праспекце, насупраць кнігарні «Цэнтральная». Каву ў «Вясне» рабілі дрэнную, заўжды. Тым, хто любіў менавіта каву, даводзілася шукаць іншыя месцы…

Канешне, у часы маёй маладосці ўсім хацелася ў летнія кавярні Парыжа. Там… Туды не выпускалі простых людзей, а рабіцца чалавекам складаным асабіста мне не вельмі і хацелася. У юнацтве я быў перакананы, што ніколі не ўбачу Парыж і не пасяджу ў яго кавярнях. Я з дзяцінства разглядаў карціны імпрэсіяністаў з іх сонечнымі і начнымі кавярнямі. Захапляцца жывапісам Ван Гога ў тыя часы было звышнатуральна. І я разглядаў вулічнае кафэ ў Арле, напісанае ўночы вялікім галандцам. Разглядаў і паглыбляўся ў рэпрадукцыю… І вось — дзіва — я ў Арлі, замаўляю абсент, я п'ю абсент і разважаю з сябрамі пра жывапіс і пра хамства афіцыянтак. Так! Ван Гог сварыўся з афіцыянткамі. Яны не любілі мастака. Адна з іх дажыла да свайго стогоддзя і распавяла ўсяму свету, які гэты Ван Гог быў нахаба і скандаліст. Не-не… Я даўно не скандалю ў вулічных кавярнях, бо даўно не замаўляю сабе гарэлкі і не п'ю з сябрамі абсент.

Раней, калі я замаўляў гарэлку, я любіў кавярні ў Траецкім прадмесці. Там мне добра пілося. Я піў гарэлку, запіваў яе вадою і глядзеў на рэчку. Што можа быць лепей за тое, каб сядзець цёплым вечарам на беразе рэчкі і піць моцны напой, запіваючы яго прахалоднай вадою. Ні-чо-га. Але чалавечае цела завяло сабе кепскую звычку, яно часам хварэе і з часам старэе. Я кінуў піць моцныя напоі, кінуў піць віно і п'ю моцную гарбату ці каву, стоячы каля крамных ганкаў.

У гарадах я люблю месцы, а не ўстановы. Установы неяк хутка змяняюцца, а прывабныя для адпачынкаў месцы застаюцца…

Люблю чыгуначны вакзал у Мінску. Люблю той малапрывабны куток прывакзальнага пляца, дзе на яго выходзіць вуліца Ленінградская. (Даўно трэба было б яе пераназваць. Вуліца Універсітэцкая, напрыклад.) Некалі на рагу там была хлебная крама, а цяперака фастфудаўская сталоўка «Расток» з летнімі столікамі. Ні крама, ні «Расток» мяне ніколі не вабілі, але мне было прыемна зайсці ў іх, набыць кубак кавы ці якую цукерку і пастаяць на беразе прывакзальнага пляца. Бог ты мой, колькі людзей праходзіць, прабягае, праязджае за дзень праз гэты наш пляц. Мо тысяч з дзвесце, а можа і ўсе трыста. Як для якога ўсходняга ці амерыканскага мегаполіса, дык і не шмат, а для Беларусі, то і няма больш жывога месца. Таму я і стаю на гэтым месцы з чорнай каваю ў кардонным кубачку і назіраю за несупыннай плынню жыцця.

Выдатная плынь і на праспекце Незалежнасці побач з універсамам «Цэнтральны». Я стаю там даўно, стаю больш за трыццаць гадоў. Мне падабаецца ўзяць кубак крамнай кавы і выпіць яе, стоячы на ранішнім праспекце Незалежнасці. Канешне, я магу і пасядзець у кавярні «Акварыум», і часам я тамака сяджу вечарамі, сярод

знаёмых і малазнаёмых людзей, але стоячы піць каву мне падабаецца больш.

Цудоўнае месца для кававай цырымоніі — пляц Перамогі, побач з крамаю «Каравай». У «Караваі» добрая кава па нармальных коштах. Яшчэ нядаўна я сядзеў за чырвонымі столікамі бара «Стар» на тым жа ж пляцы, але зорка бара «Стар» ўжо знікла. Зоркі нават добрых ды выдатных рэстарацый і кавярняў гаснуць хука, а добрыя месцы, дзе можна выпіць кубачак моцнай кавы, застаюцца…

**Палёт праз воблакі**

Самалёт ідзе праз воблакі і над воблакамі. Лячу з Мінска ў Маскву, а душа мая сядзіць далёка ўнізе, у мсціслаўскім касцёле, на хорах. Зазвычай яна ўцякае ў мінскі чырвоны касцёл і ўладкоўваецца пад вітражнай ружаю. Гэтым разам душа адляцела ў Мсціслаўе, што стаіць на самай мяжы Беларусі з Расеяю. Душа сядзіць на хорах, а я спакойна сплю ў самалёце. Сусед захроп. Ён так нечакана і гучна захроп, што я прахапіўся яшчэ абяздушаны і ўбачыў, як вяртаецца мая душа. Яна вярнулася, і наш надвоблачны і празвоблачны шлях працягваецца.

**Кавярня Vogue і вада**

Замовіў каву і ваду. Добразычлівыя афіцыянткі, адна, а праз хвіліну і другая, высвятлялі, якую я буду піць ваду… Газаваную ці не газаваную? Цёплую ці ледзяную? Потым прынеслі вялізную шклянку, можна нават сказаць сурвэтніцу, поўную да краёў пустой цеплаватай вадзічкі. Яна была не з-пад крана, бо Масква не Рым, у Маскве з-пад крана вады не пап’еш. Зрэшты, так ты цяпер не пап’еш трубнай вады ці не ва ўсім сучасным зурбанізаваным свеце.

**Булгакаўскі дом**

Чытаў вершы ў Булгакаўскім доме. Слухаў пераклады сваіх вершаў на рускую мову. Піў ваду на Патрыяршых стаўкАх, у той час, як усе пілі гарэлку «Маруся» і сухое чырвонае. Адзін паэт піў партвейн. Я ледзь не пачаў яму зайздросціць, але загрузіўся ў машыну да Светы, і быў адвезены на вуліцу Будаўнікоў. Еў салату і сняданак па-камчацку. У гадзіну ночы Вольга прыгатавала сняданак: свежазваранае яйцо з чырвонай ікрою. З’еў і заснуў на канапе, каля стала. Вольга, Света і Алена разважалі пра сопкі на Камчатцы, а я спаў… Чэрці мне не сніліся… Нічога не снілася… Пасярод ночы жанчыны выклікалі таксоўку, і я з жонкаю паехаў да другой Вольгі, на Цвярскую, дзе мы спыніліся ў доме нумар шэсць. На Цвярской своеасаблівы шум машын нават пасярод ночы. Пад гэты шум мне добра спіцца, нават цвярозаму.

## Чырвоная плошча

Пошукі пазітыўнасці ў грамадстве часам заходзяць так далёка, што станоўчыя эмоцыі і станоўчыя ўражанні людзі пачынаюць шукаць на пахаваннях і могілках… З-за міліцыянскіх кардонаў гляджу, як калона пад чырвонымі сцягамі ідзе-сунецца па Чырвонай плошчы да маўзалея з мёртвым целам Леніна. Гляджу і пераконваюся, што каля труны з трупам свайго павадыра камуністы не знойдуць пазітыўнасці.

## Клуб «ФабрЫк»

У клубе «ФабрЫк» запісаў некалькі слоў для тэлекампаніі «Мір». На фоне міжнароднага конкурсу маладых дызайнераў па касцюмах. Конкурс называецца «Крамлёўскія зоркі». Арганізатар конкурсу — спадарыня Петухова. Дзяўчат і жанчын у клубе было ў разоў дзесяць, а мо і дваццаць болей, чым асобаў умоўна-мужчынскага полу… Жанчын было столькі, што мужчынскасць мая знарочыстая і агрэсіўная выглядала недарэчна.

## Лондан і Масква

Георг Ліхтэнберг называе Лондан пеклам. Ні больш ні менш. «Дарогі робяцца шырэйшыя і прыгажэйшыя, калі ты пад’язджаеш да гэтага пекла (Лондана)», — так напісаў нямецкі літаратар. Ці можна тое самае сказаць пра Маскву? Набліжаючыся да Масквы, дарогі і сапраўды шырэюць, але наўрад ці яны прыгажэюць. Дый дождж у Маскве сягоння такі моцны, што я засумняваўся, што ў пекле могуць ісці такія шчыльныя дажджы. Дарэчы, і ў Лондане спорныя дажджы — з’ява звычайная. Так што дарэмна Ліхтэнберг назваў Лондан пеклам.

## АСТ і тэндэнцыі

Сустрэўся з кіраўнікамі кнігагандлёвай сеткі АСТ. Яны сказалі, што пачалі адмаўляцца ў нашай кнігавыдавецкай справе ад кепскай паперы. Там, дзе была газетная папера, будзе афсет, а дзе быў афсет, з’явіцца крэйдаваная папера. Людзі зноўку пажадалі бачыць у кнізе не толькі тэкст, але і матэрыял. Такая сітуацыя крыху бадзёрыць і нават абнадзейвае, бо апошнімі часамі навіны ў кніжным свеце з’яўляліся адно кепскія.

## Лірыка ў кнігарнях

У маскоўскіх кнігарнях зборнікі вершаў цяпер пахаваліся ў цёмныя куткі. Раней яны стаялі на паважных і шаноўных светлых паліцах, а сёння паэты загнаныя ў кут. Такое адкрыццё мяне не абурыла, бо я ніколі не верыў, што рускі народ любіць Лермантава і Пушкіна. Калі іх творы перастварыць у прымітыўнае кіно ці лубачны мультфільм, тады ёсць невялікі спадзеў, што народныя масы паэзію прымуць. Паэзія не прадаецца, таму і стаяць кнігі лірыкі ў змрочным душным закутку, і

правільна стаяць. А можа і не? Бо ў паэтычным закутку да мяне падышоў мужчына і сказаў: «Пара ўжо выкінуць рускую паэзію! Выкінуць яе зусім! Усім трэба абрэзацца і пачаць складаць вершы на ідышы! Правільна я кажу?» Можна было і прамаўчаць, але я не змаўчаў: «Паэзія ёсць!» — «Ну якая тут, скажы ты мне, паэзія?» — «Лермантаў з Цютчавым ёсць, калі яны ёсць, руская паэзія тут ёсць!» — «Ты аптыміст, сынок! Ты няправільна разважаеш, зусім няправільна, але мне падабаецца, як ты сказаў… Лермантаў з Цютчавым ёсць! Зусім без злосці сказаў. Лёгка…»

**Рублёў у Траццякоўскай галерэі**

Ад наведвання залаў з абразамі Андрэя Рублёва ў памяці застаюцца чорныя, чырвоныя і срэбныя крыжы.

**Масква і любоў**

Ёсць людзі, што любяць Маскву, і такіх шмат. А ёсць людзі, якіх любіць Масква, іх мала, іх зусім мала, і я сярод іх.

**Ала і вада**

«Сядзіш і каву сваю п’еш. Ведала, што тут будзеш сядзець і каву піць. На небе замовіла сабе сустрэчу з табой. Бывае, робіцца сумна і думаю: даўно не бачыла Глобуса. Раз, і сустракаю! Здараецца, што цябе няма ў горадзе, тады мне сустракаецца твой брат». — «Выдатна, Ала. Я радуюся нашай невыпадковай сустрэчы. Дзеля чаго ты мяне замаўляла, цікава?» — «Глобус, ты ведаеш, я чалавек вясковы, таму добра стаўлюся да вады. Яна — жывая субстанцыя. Яе нельга на доўгі час заганяць у трубы. Вы тут, у горадзе, пазаганялі ваду ў жалезныя трубы і там яе трымаеце. Потым адкручваеце кран, а самі ідзяце ў другі пакой размаўляць па скайпе ці глядзець тэлевізар. Яна цячэ і цячэ, з трубы ў трубу, з аднаго палона ў другі палон. Няправільна гэта, жорстка! Ты так не рабі з вадою». — «Ала, я так і не раблю з вадою». — «Вось і ўсё, што хацела сказаць. Дзеля гэтага і замовіла на небе нашу сустрэчу».

**Сезан і сур’ёзнасць**

Жывапісец Поль Сезан не пайшоў на пахаванне сваёй маці, пра што напісаў Бернар. Сезан не наведаў пахаванне, бо не знайшоў у сабе сілы, каб прапусціць звычайныя гадзіны працы на натуры. Сезан пісаў свой вечна-зялёны краявід, калі на могілках засыпалася зямлёю цела ягонай маці. Іншыя сведкі сцвярджаюць, што жывапісец быў чалавекам надзвычайнай дабрыні, але ніхто не аспрэчыў факт адсутнасці Поля Сезана на пахаванні роднай маці. Сезан быў сур’ёзным творцам і сур’ёзным чалавекам, але сур’ёзны мастак у Сезане быў значна мацнейшы за чалавека.

### Вал і гарэлка

Ёсць людзі, з якімі добра выкурваецца на крамным ганку вечаровая цыгарэта. А ёсць такія, з кім выдатна выпіваецца ранішні кубак кавы. З кімсьці ў парку цікава гаворыцца пра мастакоўскую свядомасць і натхненне ў сонечным краявідзе. А ёсць сабутэльнікі, з якімі добра п’ецца гарэлка. Чаму? А хто ж пра тое ведае… Гэта, не раўнуючы, як і каханне: або яно ёсць або няма. Добра п’ецца гарэлка з беларускім філосафам Валянцінам Акудовічам. Колькі разоў я з ім піў, столькі разоў мне добра пілося. Можа я з ім мала выпіваў? Можа і так. Трэба было выпіваць і болей, і часцей. Падобнае меркаванне пра Валянціна склалася не толькі ў мяне. Адзін маскоўскі літаратар так сфармуляваў свае адносіны з мінскім філосафам Акудовічам, якога ён па-сяброўску называе Валам: «Як Вала ўбачу, дык адразу хочацца бегчы ў краму, па гарэлку!»

### Вольга, залаты крыж і ланцужок

Напярэдадні Пасхі дачка маёй знаёмай Вольгі заклала ў ламбард залаты крыж з ланцужком. Вольга паскардзілася на пятнаццацігадовую дачку, якая выносіць з дому і прадае каштоўныя рэчы. Прапалі кінакамера з фотаапаратам, прапалі айфон і нэтбук… Калі жанчына заўважыла знікненні, дык абшукала дачку. Знайшлася квітанцыя. Залаты крыж з ланцужком жанчына з ламбарда выкупіла. Астатнія рэчы прапалі незваротна. Атрыманыя грошы дзяўчынка прагуляла-прапіла з сябрамі. Маці давялося правяраць сваё дзіця на наркотыкі. Кроў у дачкі была чыстая. Хоць з гэтым пашанцавала. Вольга пачала пытацца ў мяне… Што рабіць з дачкою? Як яе ўратаваць ад ненармальнасці? Хіба нармальны чалавек будзе зносіць з дому і прадаваць рэчы? Я не ведаю што і параіць знерваванай маці, бо ўсе выпадкі зладзейства ў сям’і вельмі характарныя і непадобныя адзін да другога. Залаты крыж я дзяўчынцы-зладзейцы не вярнуў бы, а ланцужок аддаў бы.

### Улад і духі

Можа гэта былі і не духі, а туалетная вада, але ва ўспамінах сведкаў фігураваў флакон з духамі, а не з ласьёнам ці водарнай вадою. Гісторыя хахалявання і рэўнасці не магла аздабляцца водарам таннай парфумы, і яна аздобілася духамі. Пачалося з таго, што Улад пасярод працоўнага дня прывёў дадому каханку. Ён прывёў яе пасярод дня, бо жонка была на працы, а старэнькая маці выправілася на лецішча. Ці нехта добры падказаў жонцы пра сэкс-прыгоды Улада? Ці яна сама высачыла мужа-здрадніка? Гісторыя пра тое маўчыць. Але толькі Улад распачаў любошчыць каханку (пазней гэты эпізод будзе апісаны Уладам сто разоў і ва ўсіх падрабязнасцях!), як жонка пазваніла ў дзверы. Яна збіралася дзверы адчыніць, балазе ключы

меліся, але прадбачлівы Казанова-Мінскі зачыніўся на засаўку. Жонка біла ў дзверы кулакамі і каленьмі, лаялася-брахала-мацюкалася на ўвесь пад'езд, а потым дастала з сумачкі духі, разбіла флакон аб дзвярную ручку і падпаліла абіўку. Колькі там было духоў? Колькі таго пажару? Паўвядра вады хапіла, каб дрогка-сіняе полымя патушыць. Добрыя суседзі і патушылі. Яны і супакоіць абражаную, зняважаную і прыніжаную спрабавалі. Жонка не супакойвалася ніяк. Яна прасядзела, прарыдала, праскуголіла пад абпаленымі дзвярыма гадзін з адзінаццаць. Потым сышла назаўжды. Каханка таксама не вытрымала напалу вогненных жарсцяў і кінула Улада назаўсёды. Добра, што старэнькая маці вярнулася з лецішча толькі праз тры тыдні, і ёй ніхто нічога не расказаў пра духі і пажар, бо дзверы на той час ужо абабіліся новым скуразамяняльнікам. Дарэчы, Улад заўжды карыстаўся парфумай толькі выдатнай якасці.

**Буало і няздары**

Французскі паэт Буало ў сваіх «Сатырах» пачаў называць імёны бяздарных рыфмаплётаў. Да Буало ў Францыі графаманаў крытыкавалі, але не называючы. Адкрыццё, зробленае Буало, мела працяг, бо няздара павінен ведаць, што ён — няздара і дрэнь. Нічога страшнага ў грамадстве не адбудзецца, калі які з графаманаў даведаецца пра сваю бяздарнасць.

**Трушын і Шчарбакоў**

У Трушына і Шчарбакова я вучыўся трудным колеразлучэнням. Можна было сказаць «цяжкія колеразлучэнні», але гэта будзе не так трапна. Каб згарманізаваць сіні з чырвоным ці зялёны з чырвоным, даводзіцца добра натрудзіць руку і вока. У Шчарбакова добра згарманізоўваліся сіні з чырвоным, у Трушына — зялёны з чырвоным. Каларысты так казалі пра Шчарбакова і Трушына ў нашай мастацкай вучэльні. Шчарбакоў тады напісаў карціну ў сініх і чырвоных тонах, на якой стаялі жанчыны з рыдлёўкамі ў свежавыкапаным акопе. Трушын напісаў вечаровы зялёна-чырвоны краявід з малочна-белымі каровамі. Каларысты напісалі па вялікай карціне і з'ехалі з Мінска ў свой змрочны Кёнігсберг, які называюць Калінінградам. Пра лёс Шчарбакова і Трушына я нічога не ведаю, але я ім удзячны за выдатныя прыклады працы з труднымі колеразлучэннямі.

**Аблокі**

Ёсць такія месцы, дзе я ніколі не быў, бо чуў пра іх кепскае… У Казахстане праз стэп цячэ рэчка Табол. Вада ў той рэчцы брудная, салёная і зусім не прыдатная для піцва. На берагах Табола няма ні кустоў, ні дрэў. Тата сказаў, што месца страшнае, і лепей мне туды ніколі не трапляць… У Карэліі бываюць такія маразы, што гарэлка, якую на вуліцы пакінуць, замерзне ў бутэльцы. Гарэлка замярзае так,

што апошнія пяцьдзясят грамаў застаюцца вадкімі ў форме яечка. Пра карэльскія і фінскія халады з ветрам мне распавядаў дзядзька Антак. Ён наказваў не ездзіць на поўнач Карэліі… На Палессі пасля міліярацыі пачаліся тарфяныя буры. Мой сваяк — Віктар Мілько — ездзіў туды капаць бульбу. У той год бульба ўрадзіла вялікая, яе было мала, але ўся была ўдвая-ўтрая большая за нашу звычайную. Студэнты, якія выбіралі з чорнай тарфяністай лёгкай зямлі бульбу, праз гадзіну працы былі чарнейшыя за афрыканскіх мурынаў. Калі ж пачынаўся вецер, працаваць было зусім немагчыма, бо над палямі лёталі шчыльныя хмары тарфянога пылу. Віктар называў Палессе пагібельным месцам… Пра Белае мора мне распявядаў Іван з Архангельска. Ён ездзіў на тое мора. Нават зняў чаравікі і ў ваду зайшоў. Вада такая, што стаяць у ёй можна было толькі на адной назе, пакуль другая грэлася на сонцы. Нават у самы цёплы летні дзень ты не акунешся ў Белае мора… Ці варта спрачацца і пераправяраць? Не… Калі згадваць самую кепскую мясціну, пра якую я ведаў, але ўсё адно трапіў у яе, дык гэта мястэчка Слабодка… Мала хто чуў, што адбывалася ў Слабодцы ў далёкім 1939 годзе, калі мой сваяк Бронік Кісель у шэрагах Чырвонага войска ішоў вызваляць Заходнюю Беларусь ад польскага прыгнёту. Дарога, па якой рухаўся Бронік з Браслава ў Слабодку, ляжала паміж азёраў. У Слабодцы, на груду, у касцёльнай вежы сядзеў кулямётчык. Ён і запыніў калону вызваліцеляў. Пад кулямётным агнём загінула шмат чырвонаармейцаў. Бронік тады ўпершыню трапіў пад абстрэл, ён вельмі спалохаўся, і пра свой сполах расказваў мне. Бронік распавядаў пра жахлівае мястэчка Слабодку, дзе ён убачыў на дарозе шмат сваіх мёртвых таварышаў, застрэленых з буйнакалібернага кулямёта. Давялося прыпыніць наступ, давялося шукаць гармату, і з гарматы страляць у касцёл. Вежа разам з кулямётчыкам ператварылася ў друз. Такім чынам дзед Браніслаў агітаваў мяне ў пацыфісты. Ён казаў, што не трэба хадзіць ні ў якае войска: ні ў рускае, ні ў польскае, пагатоў у нямецкае ці амерыканскае… Я пагаджаўся з Браніславам, які, хто б мне што ні казаў, вызваліў Заходнюю Беларусь. Калі ж я трапіў у Слабодку разам з іншымі мастакамі, што мусілі прайсці жывапісную практыку, я перш-наперш пайшоў паглядзець на касцёл. Вежу аднавілі, а касцёльны служка, калі ўбачыў намаляваны мною касцёл, распавёў зусім іншую гісторыю пра разбурэнне вежы. Служка сказаў, што ў вежы сядзеў… немец! Нашто было немцу так самаахвярна бараніць касцёл у мястэчку Слабодка? Служка не патлумачыў, ды й я не настойваў на нейкіх там тлумачэннях. Служка зрабіў добрую справу, ён пазнаёміў мяне з ксяндзом, які прапанаваў зрабіць у касцёле некалькі роспісаў. Я ледзь

было не пагадзіўся, але згадаў аповед Броніка, падумаў пра праклятасць месца і адмовіўся… А ёсць яшчэ куткі, дзе я бываў шматкроць, але цяпер мне пра іх распавялі кепскае, і я больш туды не езджу… У Сочы я быў шмат разоў. Некалі я нават палічыў час, пражыты мною ў Сочы: атрымаўся год. Цэлы год я прагуляў і праадпачываў на беразе Чорнага мора ў вільготным Сочы. Я туды ездзіў да цёткі Рэні. Яна мне і сказала, што ў Сочы зрабілася зусім кепска, тамака ўсё разнеслі-разламалі, стары Сочы пабурылі, а новы горад не пабудавалі, так што ехаць няма куды. Шчыра кажучы, больш за ўсё ў Сочы мяне цікавіць дэндрарый з паўлінамі. Сваёй цётцы я, вядома ж, не прызнаўся пра цікаўнасць да дэндрарыя і парку з ружамі — «Рыўера». Я проста паверыў ёй і больш не езджу ў Сочы… Ёсць месцы, дзе ўсё так змянілася, што немагчыма нічога пазнаць… Калі я трапляю ў месцы, што змяніліся да непазнавальнасці, што змяніліся незваротна, я ўздымаю галаў і гляджу на аблокі.

### Фільм

Табе прыносяць аматарскі фільм пра сяброў, якіх даўно няма сярод нас. Ты некалькі дзён адкладаеш прагляд, бо не так і проста сесці ды паглядзець на мёртвых сяброў. Яны тамака будуць рухацца, гаварыць, смяяцца, а ты будзеш тут са сваімі ведамі пра іх смерць і лёс. Але табе прынеслі фільм і яго трэба паглядзець хоць бы дзеля тых, хто той фільм зрабіў. Бо сустрэнеш чалавека, а ты яго абавязкова сустрэнеш, бо майстэрні вашы па суседстве. Ты сустрэнеш яго і пачуеш: «Як фільм?» Што казаць? Ілгаць? Усё добра і выдатна! Не па-людску. Ён жа да цябе з душою, ты мусіш быць ветлівым. Сядаеш, уключаеш, глядзіш… Старыя мастакі адчыняюць гуртавую выставу сваіх вучняў. Пустыя словы пра пустыя рэчы. Урачыстасць без урачыстых настрояў. Як так атрымалася? Зрэшты, я ўзяўся глядзець фільм дзеля аднаго адзінага паэта, які за банкетным сталом прачытае свае вершы. Пасля адкрыцця выставы мастакі, як настаўнікі, так і вучні, паехалі ў майстэрню, дзе быў зладжаны стол. Атрымалася вялікая п’янка ў майстэрні. Там мой мілы таварыш, мой Сыс чытаў свой вядомы верш з радком, пазычаным у Філіповіча «Мне на сэрцы золатам вышывалі краты». Чытаў як п’яны, з калатуном у голасе, са слязьмі. За прачытаны верш Сысу падзякавалі і пацiснулі руку Карпейчык і Пятраеў. Фільм доўгі, ажно больш за сорак хвілін. Мастакоў у ім шмат. Ёсць вядомыя мне, а ёсць і зусім невядомыя. Ніводнай жанчыны, што былі на банкеце, я не ведаю. А вось скульптара Юру я пазнаў. Скульптар Юра быў у светлым строі. У ягонай камізэльцы было гузікаў, як на акардыёне. Юра распаўнеў і сам зрабіўся падобны да акардыёна… Пазней я даведаюся, што гэта Юра і здымаў фільм, разам з Воўкам Жбанавым. Тое, што фільм

зняты нядбайна, нават добра. Нават выдатна, што ў фільме нямашака падманных подласцяў, якімі перанасычаныя ці не ўсе прафесійныя фільмы. Калі я пабачыў скульптара Юру, які прыехаў з Бразіліі, я спыніў дыск… Мне згадаўся інтэрнат нашага тэатральна-мастацкага інстытута. Згадаўся пакой, у якім жыла мая першая жонка Тамара і яе сяброўка Люба Дук. Я ляжаў на ложку Тамары. Так, я мог прыйсці ў інтэрнат, мог зайсці ў дзявочы пакой і легчы на ложак. Я ляжаў на ложку, бо Тамара і Люба пайшлі ў душ. У душы быў жаночы дзень. Праз паўгадзіны ў пакоі з'явіліся дзяўчаты з ручнікамі на галовах. Яны разматалі ручнікі і пачалі расчэсваць валасы. Яны расчэсвалі свае выдатныя валасы. Томка расчэсвала цёмныя, а Любка — светлыя. Яны расчэсвалі валасы і смяяліся. А смяяліся яны са скульптара Юры Пятрова, які прыйшоў у душ, распрануўся і залез пад ваду. Ён забыўся пра тое, што ў душы жаночы дзень. Ён выйшаў з кабінкі, пачаў намыльвацца, тут дзеўкі сказалі яму пра «жаночы дзень». Тут Юра і ўбачыў, што ён намылены, голы і стаіць сярод дзевак. Ад нечаканасці Юра зрабіў крок да сваёй кабінкі і прысеў. Падлога была запляхана мыльным шумам, і намылены Юра паехаў па слізкай кафлі не ў сваю кабінку, а ў кабінку да Тамары. Юра ўпаў пад ногі да Тамары і сказаў, што гэта ўсё нічога не значыць. Дзяўчатам спадабалася менавіта Юрава «гэта ўсё нічога не значыць». Ім падавалася смешным п'янае мужчынскае «гэта ўсё нічога не значыць». Юра быў п'янаваты, таму захацеў прыняць душ, таму і пераблытаў дзень. Тады мне не падалося смешным гэтае п'янае і мужчынскае «гэта ўсё нічога не значыць». І я не смяяўся, але мне было прыемна глядзець на ружовацелых дзяўчат, што старанна расчэсвалі свае шыкоўныя валасы… У нашым жыцці, калі паглядзець на яго халодным вокам, мала што нешта там значыць. Большасць з'яў і рэчаў, сапраўды, нічога не значаць і нічога не каштуюць. І гэты так нядбайна зроблены фільм з п'янымі слязьмі паэта Сыса мала што значыць. Ну хіба што згадка пра каханую жанчыну, якая светлым грабеньчыкам расчэсвае і расчэсвае толькі што вымытыя валасы, нешта нейкае ўсё ж значыць.

### Дзяргай і лірыка

«Адведаем старога Дзяргая?» — пытаецца бацька. «Адведаем». Мы заходзім у пракураную аднапакаёўку, што ў трэцім пад'ездзе на першым паверсе. Паэт Дзяргай жыве ў нашым чатырохпавярховым белацагляным доме, які стаіць на рагу Коласа і Ламаносава. Дзяргай любіць сінядымны тытунь і густа-бурштынавую гарбату. Ён робіць мне паўшклянкі моцнай і салодкай, як сочыва, гарбаты-дзергаёўкі. Значна пазней я даведаюся, што бацька паэта ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя меў у Мінску ўласную сталоўку, у якой закусвалі

нават Купала з Коласам. А тады, стоячы каля этажэркі з беларускімі кнігамі, я спажываў гарачы напой маленечкімі глыткамі. Мужчыны курылі ў адчыненае на летні горад акно. Мужчыны гаварылі пра паэзію. Курыць тытунь, піць гарбату, разважаць пра вершы — тры правільныя дарослыя мужчынскія справы, якія добра робяцца ў нядзельны сонечны вечар. Так я думаў у дзяцінстве, стоячы ў нізкастольнай аднапакаёўцы паэта Дзяргая, дый цяпер так думаю.

## Кроў і акварэль

Кроў у нейкі момант робіцца падобнай да акварэлі. Кроў цячэ, і яна такая сакавіта-зыркая, яе кроплі густыя. Так і карціць нешта напісаць на адчайна-белай сурвэтцы. Ёсць мастачкі, што спакушаюцца відовішчам свежай крыві і малююць ды пішуць ёю. Нават выразы ўстойлівыя маюцца: «пісаць крывёю», «вершы, напісаныя крывёю», «запавет, запісаны крывёю», «дамова, падпісаная крывёю». Але ўсе яны малапраўдзівыя, фальшывыя, як рэкламныя слоганы. Кроў заварожвае сваім відовішчам, пакуль яна яшчэ цёплая ды жывая. Кроў не прыдатная для малявання і пісьма, бо яна вокамгненна мярцвее і губляе колер, бо яна робіцца падобнай да гліны, да зямлі, да тла. Каб напісаць кроў, варта ўзяць акварэль, хоць усе ведаюць, што «кроў не вада». Кроў — вадкі агонь.

## Рабаўнік і старажытны Кітай

Калі табе сёння наканавана здымацца ў кіно, ты здымешся ў кіно, а не дасі вялікае інтэрв'ю ў газету ці на радыё. Здымкі планаваліся на вечар, яны і плануюцца на вечар, але здымацца я пачаў раніцай, без рэпетыцый і падрыхтоўкі. Я зайшоў у краму, каб выпіць кубачак кавы. Не стаў я загаворваць з будаўніком Юрыкам і не ўладкаваўся за столік да прадзюсаркі Ірусіка, я сеў за стол каля акна на праспект Незалежнасці. Я дачытваў прадмову да зборніка старажытнай кітайскай лірыкі, калі міліцыянты прывялі ў краму рабаўніка. Напрыканцы мінулага года ў Мінску адбылося гучнае злачынства з рабаваннем двух кіёскаў па абмене валюты і забойствам адной абменшчыцы. З майго месца быў выдатна відаць адзін з тых абрабаваных кіёскаў. Рабаўнік распавядаў на камеру пра сваё зладзейства і паказваў, што і як рабіў. А яшчэ рабаўнік паказваў на мяне, бо я сядзеў якраз на тым месцы, з якога ён доўгі час сачыў за абменнікам. Так я зняўся ў ролі мінскага рабаўніка. Роля мне не спадабалася. Калі ты чуеш пра злачынства з рабаваннем і забойствам, дык міжволі ўяўляеш забойцу вялікім і дужым чалавекам. А гэты быў худы, змэнчаны і няголены. Здавалася, ды я такога б голымі рукамі задушыў. Але здавалася тое нядоўга, бо ад злачынцы выпраменьвалася рэальная небяспека, і гэтае выпраменьванне не

спынялі нават кайданы, якімі рука забойцы была прыкутая да рукі міліцыянта.

**Скарэнне і навучанне**

Вучыцца, ці не ў першую чаргу, гэта — скарацца і прымаць чужое меркаванне за сваё. Чым даўжэй жывеш, тым менее аўтарытэтаў, чые словы ты прымаеш з такой жа лёгкасцю, як прымаў словы маці і бацькі ў далёкім дзяцінстве.

**Шклянка і мужнасць**

Шклянка гарэлкі дадае мужнасці. Тым, у каго сканчаецца ці скончылася прыродная мужнасць, варта выкарыстаць шклянку гарэлкі. Ва ўсіх астатніх выпадках гарэлку трэба піць з чаркі, бо ў шклянцы гарэлка губляе чароўнасць.

**Вова і цвік**

Унук наступіў на цвік. Бегаў-лётаў вакол дома і наступіў на кавалак дошкі з іржавым цвіком. Добра, што днямі я разбіў сабе брыво над правым вокам — глыбока рассек дзвярыма, так глыбока, што давялося пайсці ў аптэку і набыць перакіс вадароду. Я папрасіў аптэкарку апрацаваць рану, а яна сказала, што ім забаронена працаваць з крывёю. Правільная забарона! Каб ёй яшчэ забаранілі аблічваць кліентаў. А то яна думала, калі ў мяне кроў залівае твар, дык мяне можна абдурыць на пяць тысяч. Не выйшла. І я на аптэкарку моцна не сварыўся, бо яна мне дала сваё ўласнае павелічальнае люстэрка. Я заліў ранку перакісам. Тыдзень пазаліваў і думаў ужо выкінуць бутэлечку, а тут Вова наступіў на цвік, і перакіс прыдаўся. На дзецях раны хутка гояцца. Учора ён на цвік наляцеў, а сягоння разам з маці паехаў у Вільню. Вова з'ехаў, а ў мяне ўваччу іржавы цвік тырчыць.

**Назва і карціна**

Напішаш карціну, а назвы ў яе няма. Сумна. Лухта, калі табе скажуць, што назва бяжыць паперадзе карціны. Паперадзе карціны мусіць з'явіцца працоўнае слова, ідэя, задума... Назва з'яўляецца ў самы апошні час, яна можа з'явіцца і значна пазней за саму карціну. Назвы, як і рамы, знаходзяцца і мусяць знаходзіцца на пэўнай адлегласці ад карціны. І якая гэта радасць, скажу табе, знайсці назву для свайго скончанага палатна! Днямі я напісаў чарговы нацюрморт з садавіною і бутэлькай вады, я пакрыў яго матавым лакам, паставіў на мальберт і... Назва знайшлася: «Вось яны — зялёныя грушы».

**Старасць і тактоўнасць**

Каб не апрыкнуць людзям блізкім, каб не назаляць ім сваёй нямогласцю ды нікчымнасцю, шмат хто са старых аддаляецца і сыходзіць у адзіноту. Не ведаю, ці ёсць такое ў іншых народаў, але

сярод беларусаў падобнай тактоўнасці шмат. Сярод жанчын яе болей, у мужчын — менш, бо меней жывуць.

### Пра курца

Раней мы курылі разам. Размаўляў я з чалавекам пра сур'ёзныя рэчы, ды і вясёлыя гутаркі ў нас гэтаксама надараліся. А кінуў я курыць, і адносіны пачалі змяняцца. Мне з ім няма пра што і, галоўнае, няма як пагаварыць. Ён сабе курыць, а я гляджу, як ён пакурвае, як смачна белы дым пускае, як спрабуе вінавата ўсміхацца. Я загаворваю, а словы не йдуць. Мае словы задыхаюцца ў ягонай задымленасці і падаюць на зямлю. Трупікі слоў валяюцца на падлозе. Мярзотнае відовішча. Ён не бачыць мёртваслоўнасці, ён хаваецца ад яе за хісткімі вэлюмамі, вытканымі з дымнасцяў. Пэўна, нашым адносінам надыходзіць канец.

### Караткевіч і сеткі з бульбаю

Толькі адзін беларускі пісьменнік моцна любіў цалаваць і ўвесь час цалаваў жаночыя ручкі. Такіх пісьменнікаў шмат, але гэты прыкладаўся вуснамі да жаночых ручак і жаночых пальчыкаў заўсёды, калі толькі мог. Я не люблю цалаваць жаночыя рукі і не люблю дарыць жанчынам букеты і вянкі, а таму мне было няёмка стаяць побач, калі Уладзімір Караткевіч нахіліўся да жаночай рукі. Ён нахіляецца, а ты стаіш і перапаўняешся няёмкасцю! Я стаяў і не нахіляўся, і не цалаваў, бо не бачыў у такіх пацалунках нічога пяшчотнага, вытанчанага і арыстакратычнага. Пустая гульня, нават пашлаватая гульня. Такая пашлаватасць пацалункаў жаночых ручак і абмяркоўвалася аднойчы з рэстаўратарам Ракіцкім. Ён і згадаў, як Уладзімір Караткевіч, ідучы з крамы, сустрэў нейкую жанчыну паважнага веку. У руках Караткевіча была сетка з бульбаю. Караткевіч нахіліўся да жаночай рукі і пацалаваў яе, у жаночай руцэ была таксама сетка з бульбаю. Выглядала так, што дзядзька Валодзя цалуе не толькі рукі, але і сеткі з бульбаю. Які арыстакратызм? Якая вытанчанасць? Якая рамантыка?

### Караткевіч і карыкатурнасць

У маладога пісьменніка Уладзіміра Караткевіча была карыкатурная знешнасць. У сваім чорным берэце ён выглядаў, як выдатна прамаляваная карыкатура на моднага літаратара. Паступова ягоная карыкатурнасць адшліфавалася ў кананічнасць. А раўналеткі Караткевіча, якія некалі выдавалі сябе за традыцыяналістаў і класікаў беларускай літаратуры, цяпер выглядаюць пачварнымі, выцвілымі, вартымі жалю карыкатурамі.

### Размова ў аптэцы

Старая аптэкарка бярэ ў маладой пакупніцы рэцэпт: «Вочы гнаяцца?» — «Гнаяцца». — «Моцна?» — «Здаецца, не так каб і моцна…

Доктару лепей ідаць! Ён жа ўсё напісаў». — «Не ўсё напісаў ваш доктар… Не ўсё! Вам лекі для дарослага ці для дзіцяці?» — «У мяне кот!»

### Міжнароднасць і жывёлы

Міжнародны форум, міжнародны саміт, міжнародны злёт, міжнародныя гульні, міжнародная выстава… Усе прызвычаіліся да міжнароднасці і міжнародных выстаў, так прызвычаіліся, што спакойна пішуць на афішцы «Міжнародная выстава сабак». А што? Калі можна напісаць «Міжнародная выстава катоў», чаму нельга так і пра сабак? Толькі ў мяне пытанне паўстала іншае… А што за народы такія сабачыя? Варта было б напісаць «Міжпародная выстава людзей з сабакамі»? Не? Тады так: «Выстава сабак з розных куткоў свету», каб без сабачых народаў, бо з сабачымі ды кацінымі народамі атрымліваецца не па-чалавечы.

### Стральцоў і шкарпэткі

Было позняе лета. Стаяла густая цяплынь. Міхась Стральцоў курыў у акно. На аконнай раме віселі две шкарпэткі. Паэт курыў і чакаў, пакуль летні ветрык падсушыць ягоныя шкарпэткі. Тады ў паэта была толькі адна пара шкарпэтак, але ў яго ўжо былі дзве дачкі і жонка-прыгажуня.

### Смецце на ходніку

Калі ты прыедзеш у новае месца і заўважыш сваю неадпаведнасць наваколлю, дык першае, што зробіш — пераапранешся. Гэта ж так лёгка: набыў сабе майку, у якіх усе ходзяць, зрабіўся падобным да іншых і крыху зменшыў сваю неадпаведнасць. Праз пэўны час неадпаведнасці амаль не будзе. Ты зробішся такім, што чужынцы нават будуць у цябе пытацца дарогі. Ты ўздыхнеш з палёгкаю, але за палёгкаю на цябе наваліцца новы цяжар. Твой знешні выгляд, твая новая адпаведнасць увойдзе ў супярэчнасць з тваёй унутранай сутнасцю. Твая сутнасць будзе супярэчыць тваёй знешнасці. Падобны канфлікт некалі апісваў Міхась Стральцоў. Вяскоўца, які пераапрануўся ў гараджаніна, Стральцоў назваў «сенам на асфальце». Такі прамежкавы чалавек ужо не быў паўнавартасным вяскоўцам, але і гараджанінам ён не стаў. Гараджанамі сталі дзеці таго «сена», больш за тое, дзеці сталі не проста гараджанамі, яны дамагліся сваёй новай сталічнасці, сваёй новай дзяржаўнасці і новага грамадзянства. Праўду людзі кажуць, калі знаходзяць падабенства дзядоў з унукамі. Унукі таго самага «сена» сваю новую сталічнасць палічылі недасканалай і бесперспектыўнай, узялі лахі падпахі і выправіліся ў вялікі свет шукаць лепшага жыцця. На новых месцах яны пераапрануліся, зрабіліся адпаведнымі наваколлю, востра адчулі супярэчнасць свайго вонкавага і ўнутранага свету ды вырашылі…

Гэта самае смешнае і разам з тым драматычнае. Яны вырашылі навучыць сваю былую сталіцу пераапранацца. З усіх канцоў свету чуваць тоненькія галасочкі ўнукаў «сена на асфальце». Галасочкі спяваюць парады, прапановы і павучанні. У тоненькіх галасочках гучыць і шчымлівая крыўда на вялікі свет, і абурэнне раўнадушнай Радзімай. Самае важнае, што ты чуеш ў крыўдлівых спевах неадпаведнасць і супярэчнасць. Людзей, вядома, табе шкада, як было шкада Стральцову таго нікому не патрэбнага сена на сухім і чэрствым асфальце. З-за гэтай шкадобы ты спрабуеш прыдумаць новую метафару для неадпаведных і супярэчлівых людзей, табе хочацца захаваць сваю дабрыню, але, гледзячы на іх, нічога акром як «смецце на ходніку» не прыдумляецца. Мо нехта іншы прыдумае для ўнукаў «сена» нешта больш паэтычнае за «смецце». Можа, нават я сам і прыдумаю, крыху пазней…

### Тата, мама і месца сустрэчы

Нядзельнай раніцай ішоў па праспекце Незалежнасці. Нешта-нейкае нібыта мяне штурханула, і я спыніўся на тым месцы, дзе апошні раз выпадкова сустрэў на вуліцы яшчэ жывога, але ўжо смяротна хворага тату. Мінакі праходзілі паўз мяне, а я стаяў ды стаяў, бо ўслупянеў. З'явіўся тата, цяперака ён зусім празрысты і ледзь чутны. Тата-нябожчык сказаў, каб я пастаяў побач з ім яшчэ якую хвіліну. Я спытаў у нябожчыка, як яму там без нас існуецца. Адказаў, што існуе ціха. Удзень, на тым самым месцы, я сустрэў маці. Яна невыказна ўзрадавалася нашай выпадковай сустрэчы, абняла мяне, і я пацалаваў яе ў шчаку.

### Сямён і пасыланне

Сустракаючы мяне, першае, што кажа Сямён: «Наша сустрэча невыпадковая! Мне цябе паслаў Бог!» Далей Сямён пачынае пералічваць справы, у якіх яму патрабуецца мая дапамога. Трэба патэлефанаваць Юрыку, трэба арганізаваць сустрэчу з Ігарком, неабходна падштурхнуць справу з Уласам… «Улас — геній! Уласа не забудуць і без Сёмы! Але ў Сёмы, у маленькага Сёмы ёсць абавязак — дапамагчы вялікаму Уласу! Ты дапаможаш мне, я дапамагу яму, і ўсё будзе выдатна, бо цябе да мяне паслаў Бог!» — лапоча Сямён. Яму мяне паслаў Бог, а хто мне на дарогу паслаў балабола Сёму?

### Кастусь і кнігі

«Кастусь, чаму ў кватэры так брудна, пыльна і непрыбрана?» — «Я магу зрабіць парадак толькі ў сваіх рукапісах, творах і кнігах». Ён так адказаў, але і ў ягоных кнігах было пыльна і няўтульна, як на чужыне.

### Юра і жывапіс

«Ты лепіш форму светлаценем?» — спытаў Юра, калі даведаўся, што я зноў займаюся жывапісам. «Я складаю формы з каляровых

плоскасцяў і манахромных ліній ды кропак». Юру расчаравалі мае падыходы да карціны, бо ён усё яшчэ любіць вылепленыя мазкамі формы, хоць сам даўно не займаецца жывапісам. Каб крыху суцешыць Юру, я сказаў, што абодва нашы падыходы нельга назваць моднымі.

### Хадыка і сыход

Пераважная большасць вучняў архітэктара Хадыкі так і не зразумела, што, каб застацца паслядоўнікам майстра, абавязкова трэба своечасова пакінуць ягоную майстэрню, ягоную рэстаўрацыйную бастылію. Каб застацца, трэба сысці…

### Міхась і мая вага

Набыў сабе кітайскія вагі, каб сачыць за сабою. Мо я і не набываў бы, каб не Міхась. Ён мяне напалохаў… Сустрэліся, я кажу: «Кінуў курыць!» — «Малайчына! Правільна зрабіў! Даўно?» — «Пяты месяц пайшоў…» — «Добра выглядаеш!» — «Набіраю вагу. Мне сказалі, што за паўгода я набяру сем-дзесяць кілаграмаў. А мне з гэтымі кілаграмамі нязручна: і там не так, і тут не гэтак, як трэба». — «Дзесяць! А трыццаць не хочаш? Я трыццаць набраў, потым ледзь скінуў, так што сачы за сабою…» Пасля размовы з Міхасём я і набыў вагі, прыйшоў ды ўзважыўся. Дзевяноста, калі ў вопратцы, а без вопраткі — восемдзесят сем. Набраў, бліны-аладкі-кашы-макарона! Набраў сем лішніх кілаграмаў. Сем, праўда, не трыццаць… Але суцяшаць сябе не збіраюся. Я павяду сябе з сабою жорстка, як з чужым чалавекам!

### Жук і раман

Празаік Жук кляў перабудову: «Перабудова раскідала мой раман! Каб яна згарэла!». Жуку не спачувалі. З яго пасмейваліся і кпілі. Сапраўды, што ж там за такі раман, які так лёгка разбурыла новая палітычная сітуацыя? Пэўна, раман быў кепскі. Але Жук — пісьменнік, і ён правільна адчуў змены, ён адчуў іх настолькі, што зрабіў учынак — выкінуў напісаны раман. Сам выкінуў! Ніхто з беларускіх літаратараў не выкінуў свае творы, усе працягвалі рабіць выгляд, што свет не змяніўся, што іх творы працягваюць жыць у вечнасці, і толькі Жук выкінуў раман.

### Пацюпа і дэтэктывы Шэлдана

Юрась Пацюпа купляе ў букіністах дэтэктывы. Са стосам танных дэтэктываў Шэлдана Юрась падыходзіць да мяне: «Паслухай, ці добры гэты Шэлдан? Прачытаў адзін том, а набыў сабе восем. А тут думаю… Можа, яны кепскія? Можа, я дарэмна столькі накупіў? Можа, у іх пераклады няякасныя? Ты ж працуеш у структуры, якая выдавала і прадавала гэтага Шэлдана. Што скажаш?» — «Скажу… Які чытач, такі ў яго і Шэлдан!» — «Не, ты мяне не зразумеў… Я пра якасць

перакладаў пытаюся. Ці на добрым узроўні пераклады рабіліся?» — «Гэта не я цябе, а ты мяне не хочаш разумець. Усё ў гэтым свеце мае свае адпаведнасці. У гэтым варыянце ўсё сабрана ў гарманічную кампазіцыю, у правільны ансамбль. І чытач з ягонымі фінансавымі ды разумовымі магчымасцямі, і аўтар з ягонымі здольнасцямі, і перакладчыкі, і сістэма распаўсюду — усё згарманізавана! Які чытач, такая ў ягоных руках і кніга…»

**Сярога і вяртанне**

Ён пусціў чутку, што вяртаецца ў Беларусь. Такі заўжды пускае чуткі… Што-што, а чуткі Сярога пускае майстравіта. «Пасля працяглага жыцця на чужыне ён прыняў рашэнне — пераехаць на Радзіму!» І Радзіма мусіць прыняць свайго сына-валацугу. Радзіма павінна шчыра ўзрадавацца… А чаму? З чаго тут радавацца? Валачашчы сабака забяжыць на падворак. Якая ў тым радасць? Усё жыццё Сярога бадзяецца з кватэры на кватэру, з горада ў горад, з краіны ў краіну… Вандруе, як той пустадомак. Жыве пад лозунгам «Табар сыходзіць у неба!» Вандруе і вандруе, шукае цяплейшы куток і саладзейшы кавалак, выступае на чужых пляцоўках, спявае пад чужыя дуды, прыстасоўваецца ды падладжваецца… Хто такога папракне, калі такіх сярод нас большасць пераважная? Я папракну. Бо абрыдлі мне пускальнікі чутак, абрыдлі вяртальнікі і ўцекачы, абрыдлі баязліўцы і прыстасаванцы… З такога чалавека застаецца адзін пшык. Бо не герой, не змагар, не пераможца. Дрэнь, а не чалавек. І лепей было б, каб такі Сярога не вяртаўся ў Беларусь. Але можна і не перажываць за Радзіму, бо такі Сярога пакруціцца тут, пакруціцца, зробіць пакрыўджаны тварык і зноўку некуды з'едзе, кудысьці ўцячэ, каб чуткі пускаць.

**Жбанаў і лішкі**

Садова-паркавы скульптар Вова Жбанаў еў на праспекце Незалежнасці рэстарацыйны рыс. Мы даўно не бачыліся і зусім даўно не гаварылі. «Як у цябе жыццё? Ты атрымаў ад жыцця тое, што хацеў?» — спытаў у мяне паркава-садовы скульптар. «Валодзя, я атрымаў больш, чым спадзяваўся атрымаць. Таму я цяпер мушу раздаваць лішкі таго атрыманага…» — «Раздаеш?» — «Раздаю!» Я пасядзеў на праспекце разам са скульптарам і папіў вады. Жбанаў піў піва і рабіў выгляд, што верыць у маё шчасце.

**Бронік і яблык**

Дзед Бронік сядзеў на ганку і еў яблык. Сцізорыкам ён ababраў скурку з большай паловы ружовабокай папяроўкі. Бронік адразаў тонкія, падобныя да маладзенькага месяца, светлацелыя скрылікі і клаў на язык. Скрылікі былі такія тонкія, што, здавалася, раставалі ў роце. Баба Ядзя паклікала дзеда ў хату. Нешта там трэба было

дапамагчы — здаецца, чыгуны з печы падаставаць, каб цёплай бульбы насекчы ды ўкінуць свіням. Дзед пайшоў да бабы, я пабег на вуліцу, а палова папяроўкі засталася на белым сподку ляжаць побач з нясткладзеным сцізорыкам. Праз колькі часу я вярнуўся ў наш двор і ўбачыў на сподку парудзелы, пацямнелы, падвялы яблык. Я фізічна адчуў, як плыве час. Глядзеў на яблык і чуў рух часу, павольны і няўмольны. Я спытаў у дзеда Броніка, ці будзе ён даядаць папяроўку. Ён адмовіўся ад яе — давялося занесці ў хлеў і кінуць у загарадку кабану.

**Карманоўскі і прапанова**

Ён быў непрыстойна тоўсты і вульгарна лысы. Ён не мог прапанаваць жанчыне рамантычных заляцанняў з вандроўкамі, пагонямі ды ўцёкамі. Акрабатычнасці ў эратычных гульнях ён таксама не мог абяцаць. Таму патэнцыйнай партнёршы Карманоўскі адразу прапаноўваў выйсці за яго замуж і распавядаў пра свае прыхаваныя грошы ды назапашаныя скарбы. Спрацоўвала. За свае пяцьдзясят Карманоўскі атрымаў чатыры паўнавартасныя згоды. Над магілаю спадара Карманоўскага можна сказаць, што ён пакінуў на гэтым свеце ажно чатыры ўдавы, і адну з іх няўцешную.

**Рыгор і камода**

У шэрыя часы вялікіх чорных наяўных капіталаў Рыгор зарабіў жменьку долараў і набыў бліскучую камоду. Ён паставіў драўлянажоўтую камоду ў паўпустой кватэры і запераживаў: «Яны прыйдуць і спытаюць… Адкуль ў мяне камода? Што я скажу? Купіў? Яны спытаюць… Дзе грошы ўзяў? Што скажу? Я ж не магу сказаць, што напісаў кінараман «Пятніца-13» і за яго атрымаў жменьку шэрых долараў, а за іх купіў камоду. Што сказаць? Не ведаю… Яны прыйдуць і забяруць яе!» Жыць з камодай, купленай на шэрыя грошы, Рыгор не змог, прадаў яе за паўжменькі долараў, якія пацiху прапіў.

**Святлана і спачуванне**

У метро, на станцыі «Плошча Перамогі», убачыў Святлану. Яна была ўся ў чорным, з букетам белых гваздзікоў. Дзесяць дзён назад яна пахавала маці. Пэўна, гваздзікі яна везла на могілкі. Мне стала шкада Святлану. Цяпер яна засталася зусім адна ў вялізнай кватэры, пазастаўлянай старымі кнігамі. Мне хацелася падысці да Светы і выказаць спачуванне, але не падышоў: чалавек можа абнадзеіцца, прыняць тваю шкадобу за праяву любові, а гэтага я дапусціць не магу. Света паехала на могілкі, а я накіраваўся ў сваю студыю, каб дапісаць краявід з Музычным завулкам.

**Альгерд і свабода**

Жонка яго прыспешвала. Яна збіралася ў Брэст. Яна баялася нешта з рэчаў забыць. Ёсць узрост, калі ты пачынаеш панічна баяцца нешта

патрэбнае пакінуць дома і апынуцца ў дарозе без неабходнай рэчы. Яна была якраз у такім узросце. Таму ўсе рэчы шмат разоў правяраліся і пералічваліся. Усё гэта рабілася з пэўным страхам, які апаноўвае чалавека, калі ён думае, што спозніцца на цягнік. Яна думала пра спазненне на цягнік, і халодны пот выступаў у яе на спіне. Каб пераадолець свае страхі, яна абвінавачвала мужа ва ўсіх смяротных грахах. Яна казала Альгерду пра ягоныя чэрствасць, жорсткасэрнасць, жудасны характар. Альгерд мужна зносіў істэрычныя прадпадарожныя мітуслівыя паводзіны жонкі. Дарога з Мінска ў Брэст — не далёкі свет. Нават калі нешта забудзеш ці спознішся на цягнік, нічога страшнага не здарыцца. Нічога страшнага і не здарылася, нібыта. Але тым разам яны ледзь-ледзь паспелі на цягнік. Цягнік ужо крануўся, калі Альгерд закінуў у тамбур жончын чамадан. Жонка паехала з Мінска ў Брэст, а мастак Альгерд адчуў свабоду. Ён ніколі ў жыцці не адчуваў сябе такім шчаслівым і свабодным. Ён уздыхнуў на поўныя грудзі. Ён уздыхнуў свежае прахалоднае лістападаўскае паветра, і сэрца ягонае разарвалася напалам.

### Дамашэвіч і партфель

Які рэдактар без партфеля? Спытаў сам у сябе Уладзімір Дамашэвіч. Спытаў і набыў сам сабе партфель. З новенькім партфелем Уладзімір пайшоў у рэдакцыю. У той час рэдакцыя часопіса «Маладосць», дзе працаваў Дамашэвіч, знаходзілася ў будынку ЦК ЛКСМБ (Цэнтральнага Камітэта Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі). Міліцыянт, які ахоўваў спакой і парадак ЦК, цудоўна ведаў часопіснага рэдактара Дамашэвіча, але ён ніколі не бачыў яго новага партфеля, а таму вырашыў: Дамашэвіча спыніць, у партфель зазірнуць. Рэдактар быў перакананы, што цэкоўскі мент яго ведае і спыняе дзеля здзеку. Уладзімір Дамашэвіч адмовіўся адчыняць і паказваць партфель. Міліцыянт-паставы, згодна з усімі інструкцыямі, выклікаў дапамогу. У прысутнасці некалькіх міліцыянтаў і сведак у цывільным партфель быў ускрыты і агледжаны. А там — нічога! Зусім!

Часам, сутыкаючыся з нейкай рэччу ці нейкім чалавекам, мы думаем, што ў іх нешта важнае ёсць, бо яны ўсяляк дэманструюць сваю важнасць і важкасць. А ў іх нічога няма, насамрэч; няма нічога — як у партфелі рэдактара Дамашэвіча.

### Дзяўчына і вершы

Яна ішла па праспекце Незалежнасці і чытала кнігу. Яна даволі шпарка шыбавала па ходніку і не адрывала позірку ад першага тома збору твораў Караткевіча. Дзяўчына чытала вершы Уладзіміра

Караткевіча. Лета, сонца, сталіца, дзяўчына, вершы… Я паспрабаваў быў захапіцца, як мяне ацверазілі: «Да іспытаў яна рыхтуецца!»

### Эротыка і навука

Некаторым жанчынам перад тым, як пакласці іх у свой ложак, варта сказаць: «Якая ты ў мяне разумная!» Можна яшчэ дадаць некалькі слоў пра яе таленты. Аб прыгажосці перад сэксам лепей не гаварыць, бо жанчына можа і працверазець!

### Новы грэх і грэх стары

Новы грэх зусім просты, а таму распаўсюджваецца ён са страшэннай сілаю. Ён распаўзаецца па свеце разам з сотавікамі. Новы грэх — несанкцыяванае зазіранне ў мабільны тэлефон любімага чалавека. Ну кахаеш ты некага, ну кахай такога, як ёсць; любі ты яго з той мадэллю сотавіка, якую ён мае. Не! Трэба схапіць мабільнік, трэба выказацца пра мадэль, трэба ў тэлефон залезці і пабачыць там малапрыемныя для цябе рэчы кшталту імені былой каханкі. Тое, што імя старой каханкі засталося ў сотавіку, таксама недагляд і грэх, але грэх стары.

### Ампір і ўдакладненні

У дзённікавых запісах дваццатых гадоў мінулага стагоддзя чытаю: «Дом-палац стылю аляксандраўскага ампіра, агромністая каменная пабудова з калонамі, стаіць каля вялікага цудоўнага штучнага возера, акружанага паркамі…» Аляксандраўскі ампір? Што за ўдакладненне ў гэтым «аляксандраўскі»? Для мяне — пусты гук, груваcткае і малапатрэбнае ўдакладненне да класіцызму. Дастаткова было напісаць «дом-палац у стылі ампір» ці «палац у стылі класіцызм», але напісана пра «аляксандраўскі» так, як цяпер пішуць пра «сталінскі» ампір. Мне моцна не падабаецца, калі да назвы архітэктурнага стылю абываці лепяць падобныя ўдакладненні. І мяне цешыць той факт, што праз пэўны час налепкі адпадаюць.

### Не мастакі, бо…

Шмат каго я не лічу за мастака таму, што ён каляндарныя святы ды суботы з нядзелямі залічвае сабе ў выходныя дні.

### Акуляры і аэрапорт

Кожны раз я спадзяюся, што пачытаю ў самалёце добрую кнігу. Бяру з сабою акуляры. Кніжак у партфелі дзве альбо тры. Надзяваю акуляры, разгортваю кнігу і пачынаю засынаць. Ноч перад вылетам зазвычай бяссонная. Думаеш… Ці ўсё ўзяў? Ці не забыўся чаго важнага? Думкі круцяцца і таўкуцца на адным месцы, заснуць не даюць. А ў самалёце я раблюся фаталістам. Усё, што не ўзялося ў дарогу, яно і малапатрэбнае. Пачынаю засынаць, а спаць у акулярах не люблю. Здымаю, акуратненька кладу іх у кішэню папярэдняга крэсла і сплю сабе соладка. Бачу недагледжаныя ўначы сны. Так

незаўважна і лёгка далятаю да Барселоны. Сядаю ў таксоўку і еду ў гарадок Січаз, еду адпачываць. А там у прахалодным нумары гатэля разумею, што акуляры мае паляцелі ў сіняй кішэні самалётнага крэсла ў наш родны Мінск. Вось жа паспаў салодка! Лятаць-залятаць-пралятаць-планіраваць! Няма акуляраў! Даводзіцца ісці ў оптыку, як той бы сказаў, акулярню, і замаўляць новыя «вочы». Замовіў, а сам спадзяюся на добрасумленнасць людзей, якія знойдуць мае акуляры і здадуць іх у бюро знаходак, што месціцца ў камеры захоўвання нашага вялікага мінскага аэрапорта. З такімі спадзевамі я тры тыдні пражыў у Січазе! Прылятаю ў Мінск, падыходжу да мытніка і распавядаю гісторыю пра забытыя акуляры. Мытнік накіроўвае мяне да ахоўнікаў аэрапорта. Ветліва накіроўвае. Ахоўнікі аэрапорта таксама вельмі ветліва распавядаюць пра камеру захоўвання, дзе вельмі ласкавая жанчына прынесла мне скрынку з пазабыванымі акулярамі і сотавымі тэлефонамі, як той бы сказаў, дальнаразмоўнікамі. Маіх тамака не было, а чужыя я не стаў браць. Мяне парадавала тое, што столькі знаходак людзі вяртаюць. Знайшоў і не вярнуў, такое больш зразумела, але ж спадзяешся на адваротнае, на неверагоднае — нехта чужы знайшоў і вярнуў табе. «Можа, нехта парадаваўся знаходцы! Знайшоў мае акуляры і парадаваўся! Давайце і мы парадуемся за людзей, якім стала добра ад таго, што знайшлі мае акуляры! А я сабе ўжо ўсё адно новыя «вочы» ў Барселоне зрабіў!» — сказаў я ласкавай захавальніцы чужых скарбаў. «І сапраўды, давайце парадуемся за іншых, і нам стане крыху лягчэй…»

### Партфель і экс-міністр

Поспех у працы звязаны з правільным збіраннем партфеля. Калі ты звечара добра спакуеш свой партфель, дык моцна павялічыцца верагоднасць займець поспех у наступны працоўны дзень. Надоечы бачыў я адчынены партфель былога міністра. Міжволі заўважыў: партфель сабраны няправільна. Пабіты яблык і стары цэлафанавы пакет не павінны знаходзіцца ў партфелі міністра, нават у партфелі экс-міністра іх не павінна быць. Нядзіўна, што з такім кепска сабраным партфелем чалавек згубіў пасаду. Можа, раней ён добра збіраў партфель? Не давялося бачыць. Але цяперака экс-міністр збірае партфель пагана. Я дык сачу за парадкам у партфелі. Міністрам я рабіцца не збіраюся, але пабітую садавіну і пакамечаныя пакеты ты ў маім парфелі не ўбачыш.

### Крыўда на сябе

Спусціўся на эскалатары ў метро, а цягнік адыходзіць… Крыўда неверагодная! Ну мог бы крыху шыбчэй ісці? Мог! Ну мог бы не стаяць на сходах і не чытаць рэкламныя абвесткі на шчытах? Мог бы! Ну каб крышачку пазней пачуў «асцярожна…», дык і паспеў бы, і

зараз бы ехаў, а так стаіш і перабіраеш варыянты затрымак. Злуешся на сябе, на цягнік, на ўвесь падземны свет. Вядома, будзе наступны цягнік. Ён ужо ідзе. Колькі там таго чакання? І ўсё ж крыўдна. І крыўда тая не праходзіць нават тады, калі ты сеў у вагон і спакойна едзеш.

### Кропля праўды

Наяўнасць натуралістычных вобразаў у творах мастацтва патрабавалася таталітарным рэжымам, каб пераконваць даверлівыя народныя масы ў праўдзівасці фантастычных ідэй. Стварэнне звышчалавека, стварэнне савецкага чалавека, стварэнне еўразійца — толькі некаторыя з тых псеўдавялікіх ідэй, што вымагалі ад прапагандыстаў і прапагандыстак дэмагагічнага балбатання пра рэалістычнае мастацтва.

### Рабы і агонь

З яго няма чаго ўзяць... Нібыта і чалавек, нібыта і працуе, але ўзяць няма чаго. Выканаўца чужое волі. З такім сумна і небяспечна, бо ўвесь час трэба быць напагатове. Каб чаго не сцягнуў, каб чаго не скраў, каб шкоды не нарабіў. Раб! Такія заўжды шкодзілі. Здавалася б, чалавецтва даўно пазбылася рабства і рабоў. Знешне яно так і выглядае, але рабы засталіся. І гэтых рабоў шмат, іх значна болей, чым рабаўладальнікаў. З рабамі мне нецікава, як і малацікава з рабаўладальнікамі. Мне цікава жыць з людзьмі вольнымі, але іх не адразу і знойдзеш.

### Жанчына і чарната

Гарачыня задушлівая. Уночы на горад нахопліваюцца навальніцы, удзень пячэ і парыць. Цяжкасць і стомленасць. Працаваць няма аніякай магчымасці. Сяджу на праспекце пад парасонам і п’ю сабе каву. Кавы п’ю шмат, але санлівасць не адпускае. Бачу: плыве знаёмая жанчына: уся ў чорным, ад акуляраў да паўкедаў. Усе навокал у светлым, а яна адна ў чорным. Уздымаюся, запыняю, кажу: «Што ж гэта ты ўся ў чорным, ад паўкедаў да акуляраў, калі варта ў светлым хадзіць? Трэба ў белым, а ты ў чорным!» — «А каб розныя...» Яна расхінула на грудзях чорную кофту, а пад ёю я пабачыў чорную майку. «Бачыў?» — «Не! А што я мусіў тамака пабачыць? Чорная майка...» — «У мяне няма прадмета жаночай гордасці. Мне няма чым ганарыцца. Цыцкі няма! Адрэзалі мне цыцку!» — «Даруй!» — «Паспрабую, калі атрымаецца...» Задуха ў горадзе такая, што ад яе ў вачах цёмна робіцца.

### Мама і лішак вагі

Паскардзіўся маці, што, кінуўшы паліць, набраў лішнія сем кілаграмаў. Мама паспачувала і распавяла, як таксама, кінуўшы паліць, пачала набіраць вагу: «Каб яшчэ наш тата, мой Чэсь, быў

жывы, дык дзеля яго скінула б вагу. А так… Мне было ўсё адно, як я выглядаю. Цяпер я даглядаю сябе, каб хадзіць і нікога не турбаваць сваёй прысутнасцю ў гэтым свеце». Мама, як і заўжды, мела рацыю. Мы глядзім сябе дзеля іншых, а не дзеля сябе. Нам бы і хацелася, каб дзеля сябе, а ўсё адно мы скідваем вагу, кідаем піць і курыць дзеля іншых.

**Постмадэрнізм**
**і татарцы з грузінцамі**

Убачыў слова «абстракцывізм» замест звыклага «абстракцыянізм». Куртатае і штучна зробленае слоўца нагадала мне пра абітурыентак з Малдавіі, якія называлі татараў «татарцамі», а грузінаў «грузінцамі». Калі ўкраінцы і літоўцы, тады татарцы і грузінцы! Так разважалі маладзенькія мастачкі, якіх я вучыў ў маскоўскім інтэрнаце асновам архітэктурнай кампазіцыі. Дзяўчаты былі здольнымі, і хутка іх татарцы зрабіліся татарамі, а грузінцы — грузінамі. Каб жа так проста было і ў мастацтвазнаўцаў! Не! Яны постмадэрнізм называюць «постмадэрнам» і не разумеюць, што гэта ж тое самае, як малдаван называць малдаванцамі. Нават горш! Цяпер яшчэ «абстракцывізм» з'явіўся… Смешна. Ад сур'ёзнасці мастацвазнаўцаў мне смешна.

**Эстонскае радыё,**
**кепскасць і добрасць**

Даваў інтэрв'ю эстонскаму радыё. Бакенбарды з эстонскіх радыёхваляў запыталіся: «Як жывецца ў Беларусі беларускаму пісьменніку?» — «Добраму беларускаму пісьменніку ў Беларусі жывецца добра, а кепскаму — кепска!» Рудыя бакенбарды заўсміхаліся насцярожана, не паверылі. Яны не далі веры, што ў Беларусі, як і ва ўсім свеце, кепскія людзі жывуць кепска.

**Прышвін і спорт**

Заўжды адчуваў заганнасць у спартовых гульнях. Захопленасць і азарт не вядуць чалавека да дабра. А ўсялякае спаборніцтва спараджае асляплялльны азарт. Таму я мала займаўся і мала сачу за гульнямі ў спартовых цырках. Так, спорт — мастацтва, прымітыўны тэатр-цырк. У спорту безліч прыхільнікаў, аматараў і заўзятараў. Я іх усіх цудоўна разумею, бо сам неаднойчы спакушаўся гульнямі і спаборніцтвамі. Але я цалкам згодны з Міхаілам Прышвінам, які яшчэ ў 1933 годзе напісаў у патаемным дзённіку такі сказ: «Мяжа спорту і творчасці (спорт амаральны…)».

**Новы чалавек**

Сярод нас з'явіўся новы чалавек з мабільным тэлефонам. Ён не можа супакоіцца, пакуль не адключыць свой сотавік. Адключыўшы мабільнік, неспакойны чэл думае, што з адключанай мабілай ён робіцца спакайнейшы. На нейкі кароткі час, на зусім сціслы тэрмін,

чэл і напраўду спакайнее. Але потым пачынае нервавацца ўдвая болей. Чалавек нервуецца моцна, ажно пакуль зноў не ажывіць свой любімы сотавы тэлефон…

**Кава і мора з Мацісам**

Узяў эспрэса ў французскім хлебным. Зазвычай я ў тым хлебным і выпіваў глыток гарачай кавы, разглядаючы залатыя батоны. А гэтым разам узяў каву ў папяровым кубачку ды пайшоў на бераг мора. Прайшоў пару кварталаў, сеў на крэсла. Глядзеў на марскі далягляд і згадваў жывапісца Анры Маціса. Ён некалі сказаў, што ягонае мастацтва спакойнае і ўтульнае, нібыта ты ўладкаваўся ў фатэлі і выцягнуў ногі. У Маціса выдатнае мастацтва, прасветленае і насычанае міжземнаморскім сонцам. У мяне не атрымліваецца ствараць утульныя творы, але часам я сам у іх трапляю разам з кубачкам эспрэса на беразе вечаровага чароўнага Міжземнага мора.

**Райская садавіна**

Калі табе ў Мінску зробіцца млосна і цяжка, хадзі на Камароўку. Я так і раблю. Там ёсць сакавітасць жыцця, слодыч цяперашняга імгнення, пругкасць, сіла і водар будычыні. Там такія жанчыны… Ёсць жанчыны-яблыкі, жанчыны-грушы, а ёсць і залатыя грушы — салодкія, як тыя жанчыны.

Яблыкамі і грушамі я люблю ўпрыгожваць сваё мастакоўскае атэлье. Нехта ўпрыгожвае жытло кветкамі, нехта любіць, каб інтэр’ер напаўнялі творы мастацтва, а я люблю, каб у мяне ў майстэрні была свежая садавіна.

Каб кветкі можна было есці, я б упрыгожваў майстэрню кветкамі, але як ты з’ясі гладыёлус? Хіба ператворышся ў казачнага героя, які харчуецца выключна белымі гладыёлусамі. Такі казачны Глобус з белым гладыёлусам на срэбным сподзе… Але казка казкаю, а жыццё жыццём.

Камароўка — тое месца ў сталіцы, дзе казачнасць амаль выходзіць на паверхню рэальнасці. Таму менавіта на Камароўцы збіраюцца самыя жывыя і зыркія колеры. Там самая казачная каляровасць, самы каляровы свет… У Мінску толькі на Камароўцы можна ўбачыць водбліскі з райскага саду — таго праўдзіва райскага з Адамам і Еваю, з дрэвам ведаў пра дабро і зло, з анёлам , які вынайшаў меч…

Там, на Камароўцы, я бачу і сваё далёкае дзяцінства, калі цэлую суботу я з дзедам Бронікам збіраў белыя і чырвоныя парэчкі. Мы іх збіралі вельмі акуратна і асцярожна складалі ў кашы. Тыя кашы ставіліся ў люльку матацыкла К-750, на якім мы ехалі са станцыі Койданава ў Мінск, дзе на Камароўцы я тую парэчку прадаваў па 15 капеек за шклянку. Я крыху пабойваўся, што мяне — другакласніка 73-й мінскай школы — убачыць наша настаўніца Ганна Іванаўна

Соладава. Што яна спытае, чаму гэта я тут стаю за прылаўкам са шклянкамі белых і чырвоных парэчак? Сустракацца і гаварыць з настаўніцаю мне зусім не хацелася, таму я апускаў кошт да 12 капеек і хуценька распрадаваў свае кашы. Вядома, за апусканне кошту на парэчку можна было і па галаве атрымаць, ад якой злыдушнай цёткі-гандляркі, але я не атрымліваў кухталёў за сваю ініцыятыву, бо малы, бо стаяць за прылаўкам цяжка, бо камароўскім цёткам-гандляркам я падабаўся.

Я і цяпер падабаюся камароўскім прадавачкам. Схадзіў жа і праверыў. Падабаюся! І яны мне падабаюцца і падабаліся заўжды!

У Камароўкі ёсць адна цікавая здатнасць, яна ўвесь час змяняецца ў лепшы бок. Звычайна месцы, людзі, рэчы мяняюцца ў горшы бок. Старэюць, псуюцца, ломяцца, руйнуюцца, а Камароўка штонядзелю ўваскрасае па-сапраўднаму, і красуе, і зіхаціць…

Камароўка цешыла, цешыць і будзе цешыць мяне, і цябе, спадзяюся, сваёй амаль што райскай садавіною.

**Гадзіннік і час**

Ёсць і ў мяне дарагі механічны гадзіннік, у якім зусім няма часу. Ён чакае нагоды ў лакіраванай скрынцы з арэхавага дрэва. Прынагодна я яго абавязкова завяду. Добрыя гадзіннікі ўмеюць чакаць, і час іх знаходзіць і надыходзіць.

**Клее і жахі**

Паміж Першай і Другой сусветнымі войнамі нямецкі мастак Клее напісаў: «Чым жахлівейшым робіцца свет, тым больш абстрактным робіцца мастацтва». Цяпер можна працягнуць назіранне Клее і сказаць, што напярэдадні жудасных войнаў мастакі сыходзілі ў свет ідэальны і чысты. Калі мастакі пачынаюць займацца ідэальнымі формамі і мінімалізуюць свае сродкі, чакай жахлівай вайны…

**Бачанне ў формах і Гропіус**

У мастацкай вучэльні, а пазней і ў інстытуце мяне вучылі бачыць. Я мусіў навучыцца бачыць формы, з'явы, праявы, учынкі, здарэнні. Навучыцца бачыць заўжды і паўсюль, а калі не бачыць, дык быць падрыхтаваным да бачання, да адкрыцця, да творчасці… Свае творы, кнігі, вершы, карціны я бачу ў завершаных формах. Мае здольнасці не дазваляюць наблізіцца ўшчыльную да гэтых формаў, але я дакладна ведаю пра правільнасць кірунку, у якім трэба рухацца. І, у адрозненне ад Гропіуса, я ніколі не лічыў, што паміж рэальным і ідэальным ляжыць прорва непераадольная.

**Тэлебачанне і кніга**

Тэлебачанне — дрэнь! Пра гэта ўсе ведалі ад самага пачатку стварэння тэлевізара. Глядзенне ў тэлескрынку заўжды лічылася заняткам нізкім і ганебным. Глядзіш на тэлепаяцаў? Слабы чалавечак!

Глядзіш і сам сябе асуджаеш. З кнігамі ўсё роўна наадварот. Чытаеш? Правільна робіш! Чытанне — святло! Чытанне — навука! Кніга — носьбіт асветы! Тут можна было б сказаць наступнае… Кніга не лепшая за тэлебачанне, у большасці кніг змяшчаецца такая ж дрэнь, якая несупынна ліецца з тэлеканалаў. Можна было б! І большасць гледачоў-чытачоў лёгка пагодзіцца з такім параўнаннем, бо шмат хто лічыў і лічыць, што д'ябал жыве ў чорнай друкарскай фарбе. Але я так не лічу, бо, па-першае, люблю кнігу, паважаю асветнікаў і асвету, а па-другое, даўно заўважыў, што з тэлеэкрана сыходзіць не толькі мёртвае святло.

**Вальтэр і ягоны чытач**

Усе яшчэ ведаюць Вальтэра! Адукаваны чалавек мусіць нават усмешку Вальтэра пазнаваць, бо вялікі скульптар Гудон у мармуры тую саркастычную ўсмешку ўвекавечыў. Вядома-вядома… Сарказм, саркастычная ўсмешка, энцыклапедысты, класіцызм… За ўсё сваё жыццё я бачыў толькі аднаго чытача Вальтэра. Тоўсты, непамерна тоўсты, лысы, ружовалобы, сямідзесяцігадовы, ён сядзеў у кавярні «Манро», піў каву з малаком і чытаў том Вальтэра. Я думаў, што ён чытае бульварныя раманы, кшталту «Рэт Батлер» ці «Ганна Карэніна», а ён чытаў Вальтэра. Гэта мой брат заўважыў аўтара кнігі. Дробязь, а як усё змянілася. Я раптам пачаў заўважаць, што з чытачом Вальтэра ўсе ў Січазе вітаюцца. Нават у Барселоне з ім вітаюцца на вуліцы. Аказваецца, чытач Вальтэра — знакаміты чалавек… Быў! Гады тры як яго няма ў кавярні «Манро»… Сумна! Там сядзяць іншыя не менш паважаныя людзі… Вось прайшла артыстка, што ў англійскім серыяле сыграла місіс Марпл. Дзіўна, але ў жыцці яна выглядае больш сур'ёзнай і, выбачайце, больш разумнай за Марпл і Агату Крысці. За суседнім столікам сядзіць выдатны акцёр Тэры О'Куін, які сыграў у культавым шматсярыйніку LOST. Я нават не стрымаўся і зрабіў, як змог, ягоны фотапартрэт. Артыстаў усе пазнаюць, з імі вітаюцца, іх партрэты нават друкуюцца на вокладках бестселераў… З артыстамі, блокбастарамі і кніжнымі бэстамі поўны парадак і ў Барселоне, і ў Мінску. Але мне моцна не хапае чытача з томам Вальтэра!

**Новыя літаратурныя жанры**
**і 1000000**

*У тыднёвіках з'явіліся новыя літаратурна-калямастацкія жанры. Першы: брацкае віншаванне. У такое віншаванне збіраецца і лепіцца некалькі віншавальных мэсыджаў.*

Прыклад: «Дарагі Групкін-Пупкін, віншуем цябе з выхадам кнігі «Цмок-калывок», а таксама віншуем Шалаша з Шалашыхаю з нагоды нараджэння ў іх дачушачкі, яшчэ мы віншавальныя словы

накіроўваем у дом Ракаў-Свяцёлак, бо іх слаўны ваяр Святазар нарэшце дэмабілізаваўся». Акрамя брацкага віншавання, з’явіліся і брацкія некралогі. Прыклад: «Мы смуткуем з нагоды сыходу ад нас выцінаншчыцы і вышывальшчыцы крыжыкам Галіны Тоўстакаленчыц, а яшчэ большы смутак агортвае нашы душы над свежай магілаю Лады Скурапалітончык. Памяць пра іх дзейнасць будзе вечнай стрэмкаю сядзець у нашых бессмяротных душах». З’яўленне новых літаратурных жанраў зазвычай вітаецца, але ў гэтым выпадку ўзнікае жаданне прыняць закон, які б гарантаваў чалавеку права на асобны, а не брацкамагільны некралог. Калі брацкавіншавальныя мэсыджы яшчэ можна даравацъ, як можна даравацъ паэтам розныя навыдумляныя зномы ды каварандопы, дык брацкамагільныя некралогі павінны знішчацца, а іх аўтараў варта караць грашовымі штрафамі, і штраф той павінен пачынацца з лічбы 1000000.

**Суцяшэнні і зайздрасці**

Бедныя суцяшаюцца тым, што яны нібыта сумленныя; сумленныя суцяшаюцца тым, што быццам бы разумныя; разумныя суцяшаюцца багаццем; багатыя суцяшаюцца тым, што навідавоку шчодрыя; шчодрыя суцяшаюцца тым, што сціплыя; сціплыя суцяшаюцца тым, што выглядаюць і жывуць, як бедныя… Бедныя зайздросцяць шчодрым, шчодрых бяруць завідкі да багатых, багатыя зайздросцяць разумным, разумныя — сумленным, сумленныя зайздросцяць сціплым, а сціплыя зайздросцяць бедным…

**Мост**

Шорхат сухога ліста аб асфальт нагадаў мне пра хуткую восень. Яшчэ сярэдзіна жніўня была, спякотна і горача, а ліпавы ліст зжоўк, падсох і апаў. Вецер гнаў яго па ходніку. Добра чуваць лёгкі шоргат восені. У паветры пачынала пахнуць школаю…

Бог ты мой, як я не любіў сваю сярэднюю школу з павыбіванымі вокнамі, з маруднымі настаўнікамі і з бандзюкаватымі вучнямі! Як я радаваўся, што замест дзявятага класа ў паганай школе я пайду на першы курс у мастацкую вучэльню!

Шархацела пажоўклая лістота, а я разам з братам Толікам ішоў на мост. Мы хадзілі пешкі ад вінзавода, які некалі стаяў насупраць Кальварыйскіх могілак, да кафэ «Вясна», што некалі было на галоўным сталічным праспекце насупраць кнігарні «Цэнтральная». Чым душыцца ў перапоўненым трынаццатым тралейбусе, лепей было прайсці некалькі кіламетраў пешкі. Мы ішлі, Толік — у тэатральна-мастацкі інстытут, а я ў вучэльню. Ён паступіў на графіку, а я на педагагічнае аддзяленне. Мы штораніцы пераходзілі мост над чыгункаю. Той самы мост, што побач з турмою на вуліцы Апанскага.

Якраз на гэтым мосце для мяне і пачынаўся ўласна горад, там пачыналася сталіца, пачынаўся наш Мінск. Да моста быў наш раён з турмою, могілкамі, трынаццатым і дзявятым тралейбусамі, радыятарным заводам і пустымі гастраномамі.

Пэўна, у кожнага сталічніка ёсць рыса, якая аддзяляе ягоны раён ад горада. У тых, хто жыве на сталічным праспекце, гэтая нябачная рыса можа праходзіць у арцы, праз якую ты выходзіш з двара. У некага яна на мосце над чыгункай, у некага ў іншым месцы, але рыса тая ёсць у кожнага, хто жыве ў сталіцы. У тых, хто сюды прыязджае ці прылятае, яна недзе на вакзале ці ў аэрапорце. Я гэтую рысу-мяжу знайшоў, яшчэ вучачыся ў школе.

У трэці клас я хадзіў на трэцюю змену. Заняткі пачыналіся ў 16.15. У класе было блізу пяцідзесяці чалавек. Таму мы сядзелі па трое за партамі старшакласнікаў. Парты былі вялізныя і нязручныя. У школу хадзіць не хацелася, хацелася ў горад, але горад не пускаў да сябе дзяцей з ранцамі і партфелямі. Калі ты са школьным ранцам, дык не маеш права заходзіць у краму. І ў кінатэатр цябе не пусцяць, калі пабачаць ранец. Таму ў горад трэба ісці з вольнымі рукамі. Ранец свой я хаваў пад мостам.

Той ранец прахаваўся пад мостам з трэцяга ажно па сёмы клас, пакуль чыгуначныя рабочыя не пазабіралі сабе нашы школьныя ранцы і партфелі. Паміж чыгункаю і турмою стаяў маленечкі дамок чыгуначнікаў. Туды яны і завалаклі мой ранец. За ранец рабочыя запатрабавалі выкуп — тры рублі. Бутэлька гарэлкі каштавала тры рублі з драбязою. Рабочым карцела выпіць, з кожнага школьніка яны спагналі па тры рублі. Нас было чацвёра. Рабочыя добра зарабілі на нас.

Мяне ўзяло зло! Прага помсты ахапіла маю дробную душу савецкага школьніка. Праз тыдзень я вярнуўся на мост з каменнямі. Я выбіў шыбу ў дамку чыгуначнікаў. Я кідаў з моста камяні ў дамок, пакуль не выбіў акно. Мне стала лягчэй. Зразумела, пасля выбівання шыбы я больш не хаваў ранец пад мостам. Дзяцінства скончылася.

Я вырашыў сысці са школы ў мастацкую вучэльню, дзе тады яшчэ вучыўся мой брат Толік. Пасля восьмага класа я здаў іспыты і пакінуў школу.

Які ж я быў шчаслівы, калі са старэйшым братам раніцаю ішоў праз мост! Была восень з туманамі.

З мэблевай фабрыкі ў турму на кані вазілі нейкую фурнітуру, шрубы ды балты з гайкамі. Арыштант вёў каня, запрэжанага ў калёсы на гумовым ходзе. За калёсамі ішоў ахоўнік з вінтоўкаю. Мост. Горад у тумане. Арыштант. Конь. Ахоўнік з вінтоўкаю. Чаму ён не ўцякае? Чаму арыштант так спакойна і пакорліва вядзе свайго каня? Я не

разумеў. Я і цяпер не разумею таго арыштанта. Я б уцякаў! Забіраў бы вінтоўку і ўцякаў.

Некалькі разоў з той турмы і сапраўды ўцякалі арыштанты. З восьмага паверха, дзе была наша кватэра, было добра відаць, як узброеныя салдаты ачапляюць Кальварыйскія могілкі. Вайскоўцам і міліцыянтам увесь час здавалася, што зэкі-ўцекачы павінны хавацца на могілках, але яны ні разу не ўпалявалі там ніводнага ўцекача.

Колькі тых могілак, і дзе на іх схаваешся, калі ты яшчэ жывы? Хіба што ў гурбе жоўтых кляновых лістоў…

Я моцна палюбіў жоўтае лісце ў той год, калі пайшоў у мастацкую вучэльню. Першым заданнем было намаляваць восень, і я маляваў шэры горад і жоўтае лісце ў ім. А ў брата Толіка першым заданнем было намаляваць наш Мінск, і ён маляваў мост над чыгункай.

**Кожух і бальзам**

Сядзім я ды Вова Кожух у жывапіснай майстэрні, што вокны ў вокны з музеем Максіма Багдановіча. З тым самым, дзе я некалі меў літаратурную школу «Вянок». Сядзім, каву збіраемся піць. Тут Кожух і кажа: «Мо бальзаму ў каву наліць, для водару?» — «Не, мне не трэба!» — «А я сабе налью…» Сядзім, п’ём каву, Вова Кожух — з духмяным бальзамам, а я — пустую і без цукру. «Я з бацькам любіў выпіць гарэлкі. Бацькі не стала, і няма з кім па-сур’ёзнаму выпіць. З бацькам выпіць — сур’ёзная справа!» — кажу Кожуху. «І я з бацькам любіў выпіць. Прыеду дамоў раніцай. Зазвычай я дамоў раніцаю прыязджаў. Я прыеду, а бацька на рабоце. Званю яму. Ён кажа, што раней за абед не прыйдзе. У абед мы ўжо сядаем і па-сур’ёзнаму выпіваем…» — кажа Кожух. «З бацькам выпіць было за шчасце…» — кажу. «А хто твой бацька?» — пытаецца Кожух… Нарэшце! Я там, дзе мяне ведаюць толькі як мяне.

**Цішын і чарговая выстава**

Ігар Цішын прывозіў з Брусэля ў Мінск выставу жывапісу. Выстава працавала ў Музеі сучаснага мастацтва. Усе пабеглі на адкрыццё, а я не пабег, бо раніцаю, бегаючы ў парку, падвярнуў нагу і расцягнуў звязкі. Усе любаваліся новымі творамі Цішына, а я перабіраў старыя малюнкі. У мяне назбіралася шмат чужых малюнкаў. Я іх ніколі не збіраў, яны неяк самі заставаліся ад сумесных прац, ад сумеснага малявання ў адной майстэрні, ад агульных праектаў. Некалі разам з Ігарам мы планавалі напісаць пано «Вялікія архітэктурныя стылі». Пано не напісалася, а малюнкі засталіся. У мяне ёсць «Готыка» і «Антычны цыркус» Ігара Цішына. Выдатныя малюнкі. Цішын заўжды быў выбітным малявальшчыкам. Можа, і добра, што я не пайшоў на ягоную чарговую выставу. Добра, бо я не расчараваўся ў Цішыну. Мог

бы пайсці і расчараваца, а я не пайшоў, бо нага баліць, бо мне не трэба нікуды ісці, каб пабачыць працы таварыша Цішына.

### Мама і вяселле

З мамаю я павінен быў пайсці на вяселле Аліны Абрамовіч і Сашы Нічыпаровіча. Збіраюся, грошы ў святочную капэрту закладаю, тут мама і тэлефануе: «Я не змагу пайсці на вяселле…» — «Ма-а-а, ну што такое?» — «Упала! Прыняла ванну. Вылазіла і ўпала. Пабілася моцна. Ударылася галавою. Цяпер галава баліць…» На вяселлі я сядзеў побач з пустым крэслам. Еў чырвоную рыбу і думаў пра маму. Нешта мне не завесялілася. Ціха, не развітваючыся, я сышоў.

### Барабанскі і ўзнагароды

Партрэтыст моцнай, але крыху драўлянай рукі Кірыл Барабанскі прыйшоў прасіць у кіраўніцтва Саюза мастакоў узнагароду. «Дайце мне званне! Працую-малюю-пішу, можна сказаць, што ўсё жыццё я прапісаў-прамаляваў-прапрацаваў, а ўзнагароды няма!» — «Званняў мала, а прэтэндэнтаў, сам разумееш, як у балоце чарцей!» — «Дайце медаль!» — «Ды з медалямі гэтымі яшчэ горш, чым з тымі званнямі!» — «Блі-і-ін, ну дайце хоць што-небудзь! А-а-а-а-а!» Праз год Барабанскі атрымаў медаль.

### Казік Кісель і патэфон

Дзядзька Казік Кісель свайму сыну Толіку і мне аддаў стары патэфон і дзясятак тоўстых плытак. На двухколай тачцы мы павінны былі завезці на сметнік той цёмна-чырвоны патэфон і чорныя плыткі ў шэрых папяровых капэртах з круглымі дзіркамі пасярэдзіне. На сметніку мы апошні раз завялі рыпучы і непаслухмяны састарэлы патэфон. Ён праспяваў нам песню пра баранаў, якія ранкам сышліся на вузкім масце і не саступалі адзін адному дарогі. Патэфонныя бараны пабіліся, уваліліся ў рэчку і патанулі. Мы паразбівалі плыткі, патрушчылі камянямі патэфон, падралі папяровыя капэрты. Нешта барановае было ў нашым дзіцячым вандалізме. На памяць пра тую падзею ў мяне засталася патэфонная іголка, кароткая і тоўстая. Ёй зручна было прыколваць да чырвона-ліловай сціральнай гумкі злоўленага матылька.

### Савічы і яма

Міліцыянер Савіч са сваёй міліцыянерыхай выбраліся ў Мінск. Гэта быў той час, калі нават па розную гаспадарчую драбязу даводзілася ездзіць з Дзяржынска ў Мінск, таму ў сталіцу мястэчкоўцы выбіраліся на цэлы дзень. Раніцай — туды, а позна ўвечары з вялізнымі сумкамі ў абедзвюх руках — назад. Савічы накуплялі ўсяго ўсялякага: і гумовыя боты тром сынам, і міліцыянерысе буркі з галёшамі, і самому міліцыянеру чаравікі з рантам. Батонаў набралі з абаранкамі, сушак ванільных, цукерак-падушачак з павідлам слівовым… Валізы былі як

падняць. Цёмнымі дзяржынскімі вуліцамі Савічы валаклі валізы з чыгуначнай станцыі ажно на другі бок мястэчка, на сваю прымогілкавую вуліцу Чапаева. Як на зло аўтобус на станцыю не прыйшоў, пэўна, зноў зламаўся. Давялося ўсю дарогу прайсці пешкі. Міліцыянер ішоў шпарчэй: вядома, мужчына. Каля рамбазы ён ужо апярэджваў жонку на метраў сто, калі не больш. Ён радаваўся, што хутка дом і можна будзе адкаркаваць пляшку гарэлкі. Ён бачыў пляшку з маленькай чаркаю і не заўважыў глыбокай яміны, якую ўдзень выкапалі вайскоўцы каля сваёй рамбазы. Нейкую трубу збіраліся яны пракладаць. Раніцай яміны не было, таму Савіч, як ішоў, так і пайшоў-паляцеў у цемру, поўную халоднай гразі. Упаў, адчуў, што нагу пашкодзіў, сцяўся і змоўк. Ён маўчаў, бо вырашыў дачакацца жонкі, каб паглядзець, як яна ў гразкую яму зваліцца. Калі ён упаў, хай і яна ляціць у карказломную цемру. Яна і паляцела разам з батонамі ды абаранкамі. Савічыха паляцела на свайго Савіча. «Што ж ты не гукнуў мяне? Што ж ты мяне, жонку сваю, не папярэдзіў, чорт вусаты?»— «Каб табе, шаптуха чортава, было, як і мне. Калі муж у яміну ўваліўся, дык і жонка павінна была ўваліцца і ўвалілася! Гы-гы-гы!» Выпаўзлі Савічы з гразкай яміны, прыйшлі дамоў злыя і перапэцканыя з галавы да пятаў. Нагрэлі вады, памыліся, павячэралі, крыху выпілі і думалі забыцца на гісторыю з гразкай ямінай. Але гісторыя не забылася. Як хто ў мястэчку пачынае іншаму яму капаць, так яму і нагадаюць пра міліцыянера Савіча, якому на падкурчаную нагу жонка ўпала.

## Андрыеўская і дэльфіняня

Мая знаёмая дзяўчынка — Ева Андрыеўская — выйшла ў святочны горад разам з татам. Тут, у сталічным і ўрачыстым Мінску, мы і сустрэліся. Ева гуляла з татам, які вярнуўся з падарожжа па Крыму. З самага Чорнага мора ён прывёз кубак з намаляваным дэльфінянём. Ева з вялікім захапленнем распавяла пра свой новы кубак, у які можна наліць вады, і тады намаляванае дэльфіняня будзе плаваць.

## Бог

Колькі сябе памятаю, столькі я і бягу.

У дзяцінстве ў мястэчку Койданава я з дзедам Бронікам пайшоў касіць траву на дарожных адхонах. Два разы на тыдзень мы хадзілі па траву для трусоў. Мы гадавалі белых і шэрых трусоў. Мы прыйшлі, і тут дзед агледзеў, што забыўся мянташку. І я пабег, бо без мянташкі не навострыш касу, без касы не набярэш травы, без травы трусы застануцца галодныя.

Я пабег тады і дагэтуль бягу…

У мастацкай вучэльні мяне вучыў бегаць выкладчык Сакалоў. У нас быў выдатны стадыён — той, што ў скверы за крамаю «Прырода».

Можа, каму ён і кепскі, а мне падабаўся той сціплы стадыён з бетоннай скульптурай паходняносца. Сам Сакалоў быў алімпійскім чэмпіёнам. Гульні тыя праходзілі ў Сіднэі. І наш Сакалоў стаў на восем хвілін алімпійскім чэмпіёнам. Ён быў першы ў першым забегу. Стаяла страшэнная гарачыня, некалькі бегуноў памерлі на дарожцы ад абязводжвання. Адзін эстонец прабег лішні круг, бо гарачыня, бо бегуны пасыходзілі з дыстанцыі, бо некаторыя памерлі, а суддзі пераасталі судзіць. Эстонец бег, бо лічыў, што трэба бегчы да канца. Цяжкія былі гульні. Сакалоў мне пра іх распавядаў. І я зразумеў: трэба бегаць да канца, нават калі давядзецца прабегчы лішні круг.

Сёння ў сне я бачыў Бога. У Яго былі вочы блакітныя, як неба сонечнай раніцаю. У маім сне была такая раніца. Я бег з братам на тралейбусны прыпынак. На прыпынку стаяў пусты, зусім пусты тралейбус. Мы дабеглі да прыпынку, брат заскочыў у салон, дзверы зачыніліся перад маім носам, і тралейбус паехаў. Марудна так паехаў. Я падняў з зямлі камень і шпурнуў у тралейбус. Камень пацэліў у шыбу, і тая рассыпалася на шкляны жвір. Тралейбус спыніўся. Я пачаў уцякаць. Бег на Кальварыйскія могілкі. Бег, а ногі не слухаліся. У снах так бывае: бяжыш-бяжыш і ўсё на адным месцы стаіш. Я азірнуўся і ўбачыў, як з кабіны тралейбуса выходзіць нябеснавокі Бог з каменем у руцэ. Ён мусіў размахнуцца і кінуць у мяне камень. Мусіў забіць мяне каменем пад новым плотам старых Кальварыйскіх могілак. Пэўна, у сне ён так і зрабіў, так і забіў мяне пад плотам, але я прачнуўся…

Забінтаваў я нагу і нарэшце зноўку пабег у парк. Нага яшчэ балела, нават прыпухласць вакол суглоба засталася, і колер скуры ад гематом яшчэ жаўтаваты, але мне надакучыла раніцаю абыходзіцца адно зарадкаю ў кватэры. Я пабег у прахалодны парк. Над рэчкаю стаяла срэбная смуга. Дыхалася лёгка. Беглася цяжка. Напрыканцы прабежкі пот ліўся з мяне цурком. Пад душам я стаяў шчаслівы.

Колькі трэба для таго чалавечага шчасця? Скажу! Трэба каб цябе ў сне Бог не забіў каменем, і трэба прабегчыся ў ранішнім парку над Свіслаччу.

З Богам у нас тут у Беларусі, у Мінску, пэўныя праблемы. Я заўжды ведаў, што Беларусь — краіна атэістычная. А на тыдні пабачыў у нэце, што наша дзяржава залічана ў дзясятку самых далёкіх ад рэлігіі краін. Я парадаваўся. Не люблю лічбы, не шаную статыстыку і сацыялогію, ад розных нібыта сур’ёзных апытанак мяне дрыготка б’е, а тут пацяплела на душы, бо праўда. Беларусы мала вераць у Бога, сярод нас адна кропля вернікаў. Да праваслаўя тут горнуцца этнічныя расейцы, а да касцёла ходзяць тутэйшыя палякі. Беларусы? Не вераць! Яны не вераць нікому. Яны не вераць ні ў што.

У маладосці я працаваў рэстаўратарам, замацоўваў касцёльныя фрэскі, аднаўляў праваслаўныя абразы… Я спрабаваў павялічыць колькасць рэлігійнасці ў Беларусі. Марна. У нас не верацць у Бога і мала бегаюць.

Я бегаю… Я бягу нават праз боль.

Ад болю могуць слёзы цячы. Я не плакаў, а слёзы цяклі. Раней дык зусім чорна ўваччу было. Слёзы ажно пырскалі. Потым крыху лягчэй зрабілася. Забінтаваў, заціснуў звязкі над левым ступаком, і пакута крыху адпусціла. А ўсё з-за кавалка асфальту. Я бег і вачыма пачаў кавалак асфальту шукаць. Каб, калі што якое, мець яго ў руцэ за зброю. Пакуль я вачыма шукаў на ходніку паразбіваны асфальт, не заўважыў каменя на сцежцы. Парк стаяў пазасыпаны жаўталісцем. Наступіў я на камень. Нага падвярнулася, і звязка затрашчала, як сухая трэска. Зусім сухі трэск быў. А пасля ўжо і чарноцце агарнула свет. Пастаяў я колькі хвілін у чарнаце і пачыкільдыгаў з мокрымі ад слёз шчокамі праз свежы ранішні парк. Іду, а сабака з гаспадаром на лаўцы сядзяць. Гэта я супроць іх кавалак асфальту шукаў. Не знайшоў, а нагу падвярнуў моцна. Кульгаю, як той д’ябал кілавы, а яны глядзяць і маўчаць. Сабака, той зразумела, чаму маўчыць, ягоную пысу сціснулі скураным абручом напысніка. У такім пасе пашчу не расшчэпіш. Я хацеў іх напужаць, а лёс пакараў мяне. Не шукай ты бяды іншаму, і сам цалейшы застанешся… Ведаю. Але… І душ я прыняў, і паснедаў, і забінтаваўся, і нават адфастумгеліўся, а слёзы ўсё цяклі і цяклі.

Усе мае пакуты з бегам пачаліся з сабачніка пад дажджом.

Пятніца, ранак. Дождж пайшоў. Толькі развіднела, ён і пасыпаўся. Дробны, прахалодны, нэндзны. Гарачыня надакучыла, але і дождж не ўзрадаваў, бо я не паспеў прабегчыся ў парку да дажджу. Зазвычай дождж пачынаецца пазней. Раніцай светла, суха і празрыста. А тут сшарэла ўсё. Давялося бегчы ў вятроўцы. Бягу. Сабачнік сядзіць і пакурвае на паркавай лаўцы. Побач памахвае хвастом-абаранкам ваўкавата-шэры сабака. Падбягаю, спыняюся і спакойна кажу да сабакі: «Харошы, харошы, харошы…» А сука, не пачуўшы ад гаспадара ні гу-гу, вызвераецца ў мой бок. Каб сабачнік сказаў сваёй ваўкаватай сучцы «фу» да таго, як яна ўскінецца брахаць, усё магло скласціся інакш… Але склалася як склалася. «Забяры сваю сучку з маёй дарогі!» — «Фу-фу-фу! Ты бяжы, бяжы!» Сучка не супайкойвалася, яна паспрабавала абабегчы мяне, каб напасці з тылу. «Забяры суку! Я зараз не суку, а цябе замалачу!» — «Давай!» Сабачнік узняўся з лаўкі, і толькі тады я заўважыў пераламаную і загіпсаваную правую руку. Зараз зламлю яму і левую: «Апошні раз кажу — сунімі сабаку!» Сучка, учуўшы маю нежартоўную агрэсію, адбеглася ў

глыбіню парку. Угнуўшыся, пасунуўся за сваёй сучкаю і сабачнік. Пятніца, яшчэ і васьмі не было, а я ледзь не замалаціўся з сабачнікам. Прыкра было.

А цяпер мне добра, бо я не зламаў руку сабачніку, і нага мая амаль загаілася, я зноўку бегаю штораніцы ў парку над Свіслаччу і ў сне я бачыў нябеснавокага справядлівага — пэўна, што справядлівага — Бога.

## Сініца і голуб

Толькі верасень пачаўся, а за маім акном з'явілася сініца. Раніцаю яна разгульвае па бляшаным падаконні або сядзіць на прыдарожнай ліпе, а заўважыўшы мяне, уздымаецца ў паветра і вісіць за шыбаю на адным месцы, махаючы трапятлівымі крылцамі. Ну як такой сініцы ты не дасі пачастунак? Тым больш, калі ад мінулае зімы застаўся вялікі шкляны слоік з чорнымі семкамі. Не паспее сініца здзяўбсці пару-тройку семачак, як на падаконне апускаецца голуб. Ён праганяе маленечкую сініцу і здзёўбвае ўсе чыста семкі, а яшчэ нахабна зазірае круглым вокам у маю варэльню, маўляў, — мала яму! Верасень, у скверах і парках поўна ягад і розных семак. Можна і не карміць сініцу, можна і не частаваць галуба. Але ж як ты ім адмовіш, калі яны так настойліва просяць?

## Алеша, худыя і тоўстыя

У часы майго дзяцінства ўсе моцна не любілі таўстуноў. Мы — худыя, вечна галодныя, а ён глядзіце-глядзіце — сыты! На гэтай нянавісці да поўных людзей Юрый Алеша выбудаваў цэлы рэвалюцыйны раман пра трох таўстуноў, якіх паскідала з тронаў народная гняўлівасць. Тады раман Алешы «Тры таўстуны» быў страшэнна папулярны, а ў кінатэатры, дзе ішла экранізацыя, выстройваліся бясконцыя чэргі. Цяпер ніякіх таўстуноў ва ўладзе няма. Таўстуны збольшага станоўчыя і ў нечым малашчаслівыя людзі. Народ пачаў шкадаваць таўстуноў. Сёння тоўстыя лічацца за добрых, а худыя — за злых, што таксама маласправядліва.

## Голуб і палёт

Нават у мёртвым целе пташкі застаюцца лёгкасць і ўспаміны пра палёт… У Мінску шмат хворых і мёртвых галубоў. Хворыя пташкі выглядаюць жахліва. Такое адчуванне, што яны наведалі пекла і нейкім неверагодным чынам вярнуліся ў наш з табою звычайны свет. Птушыныя хваробы, напэўна, — з'ява сезонная. Спадзяюся, што эпідэмія хутка скончыцца. Спадзяюся, бо нічым не магу дапамагчы хворым галубам, акрамя выказанага словамі спачування…

Такі запіс я зрабіў у верасні, а ў кастрычніку хворыя птушкі зніклі, што моцна мяне парадавала.

## Птушанё і Саюз мастакоў

На падаконне ўпала птушанё. Некалькі імгненняў яно ляжала нібыта мёртвае. Раптам вочка расплюшчылася і востра зіркнула на мяне праз тоўстую шыбу. Я адчыніў акно. Птушанё перапалохалася і кінулася ўніз. Я выйшаў на вуліцу, каб паглядзець… Ці не разбілася? Ці не зламала крыло? Самае горшае, што можа быць у кар’еры ваеннага лётчыка: збіццё падчас узлёта. Ты яшчэ нічога не паспеў, ты толькі-толькі… А цябе ўзялі ды збілі. Так і з птушанём… Я не хацеў, каб яно загінула падчас сваёй першай спробы ўзляцець. Птушанё знайшлося каля дзвярэй. Убачыўшы мяне, яно пырхнула і пераляцела з ганка на газон. З травы птушанё ўзнялося на дрэва… Вялікае жыццё ўзнялося на новы ўзровень для аднаго маленечкага птушаняці, што моцна мяне ўзрадавала. Маё асабістае жыццё нікуды не ўзнялося. Мяне запрасілі паспрабаваць уступіць у Саюз мастакоў, я доўга збіраў дакументы і рэкамендацыі. Сабраў. У Саюз мяне не прынялі, бо я «не грамадзянін». Рада доўга разбірала маю літаратурную творчасць, Грыша Сітніца зачытваў цытаты з кнігі «сУчаснікі» і казаў, што я кепска стаўлюся да людзей. Вова Савіч згадваў устаў Саюза, дзе гаворыцца пра маральнае аблічча ягоных членаў… Лёня Хобатаў гучна падтрымаў шматгалосае абурэнне маімі літаратурнымі опусамі. Усе выступоўцы яшчэ казалі, што я выдатны і таленавіты мастак, што гучала асабліва цёпла, пранікнёна і душэўна. Такіх літаратурных чытанняў у мяне яшчэ не было! Адзін Грыша зрабіў у кніжцы «сУчаснікі» дзясятак закладак для цытавання. І чытаў, чытаў, чытаў… Рада прагаласавала 16 на 28; большасць, зразумела, супраць майго членства. Перажыву. Перажываў і не такое. Я не птушанё, якое лёгка збіць на ўзлёце. Я ўмёю лётаць. Высока.

…У час, калі я пісаў гэты тэкст, пад Баранавічамі ўпаў і разбіўся вайсковы самалёт.

## Доктар Чэхаў і чорт

У апавяданні доктара Чэхава «Вядзьмарка» дзяк Ксаверый Гыкаў гаворыць жонцы, якую лічыць д’яблавай служкай: «Не, баба, хітрэй за ваш бабскі род на гэтым свеце і пачвары няма! Сапраўднага розуму ў вас — ні Божа мой, менш, чым у шпака, затое хітравання чортавага — у-у-у! Уратуй Царыца Нябесная!» Сам доктар Чэхаў у лісце да спадара Білібіна кажа: «Я ведаю, «Вядзьмарка» не ў Вашым характары, ды і шмат каму яна не спадабалася… Але што зробіш! Няма тэм, ды і чорт падпіхвае руку такія штукі пісаць…» Прачытаеш такога, і думка мільгане: «Доктар Чэхаў, як і доктар Фаўст — свалата! Геніяльная свалата — доктар Хауз, як і доктар Чэхаў!»

**Поўня і жвачка**

Пад вялізнай, абедзвюма рукамі не падняць, поўняю ішоў праз вечаровы чорна-сіні сквер. На вершалінах дубоў гучна перагаворваліся вароны. Адзін час іх не было; але скончыўся грукатлівы рамонт опернага тэатра, і вароны вярнуліся на вершаліны сваіх улюбёных дубоў ды клёнаў. На самым пачатку дубовай алеі да мяне падышлі дзве дзяўчыны. «У Вас жвачкі не будзе?» — «У Вас жвачка ёсць?» Адразу два аднолькавыя пытанні паляцелі ў мяне. Адно пытанне больш пахла алкаголем, чым тытунём. Другое было больш задымленае, чым праспіртаванае. Дзяўчыны былі такія шчаслівыя і такія вясёлыя, што мне захацелася выпіць, закурыць і застацца з імі ў восеньскім скверы пад вялікай, дзвюма рукамі не абняць, поўняю. Толькі, білі-бом-цілі-гром, жвачкі ў мяне не знайшлося.

**Басё і маска малпы**

У Японіі існаваў звычай у час навагодняга свята вадзіць па горадзе малпу. Дзеля жартаў і весялосці на галаву малпе надзявалі маску малпы. Людзі смяяліся і не заўважалі, што і яны, апрануўшы свае лепшыя і святочныя строі, па сутнасці, зусім не змяніліся, як тая малпа ў масцы малпы. Басё так апісаў традыцыю:

*У масцы малпы малпа весяліць натоўп штогод, як заўжды…*

**Песня пра мастака**

Пра каго толькі народ песні ні складае… А пра мастака я не чуў ніводнай народнай і беларускай песні. Нават пра вершаплёта крывы варыянт з народнага чуў: «Як хацела мяне маці ды за першага аддаці. А той, першы… першы піша вершы! Ой, не аддай мяне маці…» У праўдзівым народным варыянце значна лепей сказана: «Як хацела мяне маці ды за першага аддаці. А той першы, першы ды не лепшы! Ой, не аддай мяне маці…» Карацей, няма ў нас песні пра мастака. Можа варта напісаць? Зрэшты, гэтыя занатоўкі і ёсць песня пра мастака.

**Паскаль і мёртваколернасць**

Матэматык Паскаль так выказаўся пра людзей: «Чалавек — гэта чарацінка, самая слабая ў прыродзе істота, але гэтая чарацінка думае». Пэўна, гэта адно з самых паэтычных апісанняў чалавека. Ён — чарот, які мысліць. Пасля прачытання такой метафары ў мяне змянілася стаўленне не толькі да чалавека, але і да чароту. На нейкае імгненне я нават убачыў сувязь усяго з усім… А ёсць і супрацьлеглыя з'явы ў культуры; напрыклад — палотны мастака Шкарлупы, які малюе мёртваколерныя краявіды з балотнай вадою і гнілым чаротам. Чараціна Шкарлупы ніколі не думала. Ягоны намаляваны чарот ніколі не будзе мысліць. Такіх Шкарлупаў з Шандыбамі ў культуры ды каля культуры процьма. На выставах з мёртваколернымі карцінамі вочы

самі заплюшчваюцца. Яны заплюшчваюцца, і ты чуеш жывы шэпт Паскаля: «Чалавек — гэта чарацінка…»

### Радыёп’еса і яблыкі

Прачнуцца пасярод ночы і пачаць чытаць радыёп’есу. Даўно няма таго радыё, дзе можна было паслухаць уночы добрую радыёпастаноўку з гудзеннем вялікага горада, з грукатам трамваяў, з героем, які прыехаў на Радзіму. Ён вярнуўся, а за дваццаць гадоў усё ў горадзе моцна змянілася, старэйшыя памерлі, маладзейшыя пасталелі ды пастарэлі, горад належыць іншым маладым. Герой спрабуе знайсці сваю былую каханку. Ён знаходзіць яе дом і кватэру. Ён нават размаўляе з ёю. Яны п’юць віно і прагаворваюць ноч напралёт. Пад раніцу яны кладуцца ў адзін ложак. Яна іншая. Яна чужая, як і ўвесь вялікі горад. Яму нічога не застаецца, як паехаць на чыгуначны вакзал і гэтым разам развітацца з Радзімаю назаўжды… Чытаць такую радыёп’есу і думаць пра горад, дзе ты нарадзіўся і дзе даўно не быў. Думаць пра тое, як паедзеш туды, і як Ніна, што цяпер гаспадыня ў вашым старым доме, будзе ўгаворваць цябе набраць яблыкаў, бо яны ўрадзілі. Ты пачуеш водар яблыкаў і заснеш.

### Дыяген і свечка

Дыяген у сонечны дзень хадзіў з запаленай свечкаю. На пытанне: «Чаму ты ў светлы час ходзіш з агнём?» адказваў: «Чалавека шукаю!» Хутчэй за ўсё Дыягену і ўночы даводзілася хадзіць з запаленай свечкаю, каб не згубіць сябе.

### Якуб Колас і Ваня-дурань

Стары Якуб Колас любіў сустракацца з маладымі пісьменнікамі. На пачатку сустрэчы слынны літаратар падаваў руку сваім пераемнікам, каб абмяняцца таварыскім поціскам. Сакратар Якуба Коласа — Каратай — загадзя ўсіх папярэджваў пра хворыя рукі мэтра. Маўляў, трэба паціскаць руку класіка лёгка, бо ў старога артрыт. Зазвычай маладыя паэты слухаліся суровага Каратая, але знайшоўся адзін Ваня, які вырашыў паціснуць руку Якуба Коласа моцна, па-вайсковаму, горача і запамінальна. Паціснуў і пачуў: «Дурань ты, Ваня! Мне казалі, што ты дурань, але ж я не паверыў. Цяпер сам бачу — дурань!» Калі ты падумаеш, што Ваня прапаў, дык моцна памылішся. Ваня зрабіў дзяржаўна-літаратурную кар’еру. Ён нават выхадзіў-вытупаў-выпрасіў сабе званне народнага пісьменніка, але ўсё адно застаўся дурнем да канца дзён сваіх. Якуб Колас не памыліўся.

### Філон і фальшывасць

Думаў, што дзеяслоў «філоніць» паходзіць ад грэцкага імя Філон. Маўляў, быў нейкі знакаміты Філон, кшталту нашых Філона Альшэўскага ды Філона Кміты-Чарнабыльскага, які не любіў работу і

ўсялякім чынам пазбягаў працы, таму і стала імя Філон сінонімам лайдака, нядбайніка ды лянотніка. Так у свой час з прозвішча ангельскага спадара Хулігана, які груба парушаў грамадскі парадак, з'явілася слова «хуліган». Але я памыляўся, словы «філоніць» і «філон» маюць не старажытна-грэцкае, а руска-савецкае паходжанне. У савецкіх канцэнтрацыйных лагерах філон расшыфроўваўся наступным чынам: фальшывы інвалід лагера «особого назначения». Ад такіх ведаў мне больш не хочацца ўжываць словы «філон» і «філоніць». Ды ёсць жа ў нас і свае словы кшталту «лайдак», «лянотнік» ды «нядбайнік».

### Дакладнасць і прыблізнасці

Дамаўляешся пра дакладнасць, а замест яе атрымліваеш прыблізнасць. Шукаеш роўнасці, а знаходзіш адны прыблізнасці. Варта было б змірыцца і палюбіць прыблізнасці, але розум патрабуе дакладнасці і роўнасці. Так і вагаешся паміж рознымі прыблізнасцямі. Так і шукаеш роўнасці, а навокал бачыш адны прыблізнасці. Так і плывеш-плывеш на хвалях.

### Пра мінулае за койданаўскім вуглом

З братам з'ездзілі ў Койданава. Пахадзілі па вуліцах, дзе гулялі ў дзяцінстве. Нічога майго на тых вуліцах не засталося. Нават царква зрабілася дзіцячай, стракатай і цацачнай. Ідучы каля жоўта-сіняй царквы, я падумаў, што трэба павярнуць на вуліцу Талстога. За вуглом будзе пошта. Павярнуў — а пошты няма. Пэўна, яе там няма гадоў дваццаць ці трыццаць. Я спыніўся, бо ўспомнілася старая пошта з водарам гарачага сургуча. Шакаладна-колерны сургуч паштаркі налівалі на вяроўкі, якімі абвязвалі бандэролі і вялікія канверты, каб паставіць на іх пячатку. У сургучовых пячатках была ўрачыстасць. Канверт з пячаткаю выглядаў сур'ёзна. Ні пячатак, ні канвертаў, ні бандэроляў, ні паштарак, ні пошты за вуглом не было. А я чамусьці не засмуціўся аднаго, што нічога майго ў мястэчку Койданава больш няма.

### Стральцоў і Маякоўскі

У заснежаных і абледзянелых Карлавых Варах, стоячы каля бюста вялікага немца Гётэ, я згадаў верш беларуса Стральцова, які напісаў, што цвічок ва ўласным боце важнейшы за вершы Гётэ. Мне вельмі падабаўся вобраз цвічка ў боце, і я высока цаніў адкрыццё постмадэрніста Стральцова. Але постмадэрністы таму і «пост», што часта выкарыстоўваюць адкрыцці мадэрністаў. Адкрыццё зрабіў Маякоўскі ў паэме «Воблака ў портках», калі апісваў доктара Фаўста з магутным Мефістофелем, якія феерычна і ракетна слізгацяць па нябесным паркеце. Маякоўскі сказаў, што «цвік у мяне ў боце

жахлівейшы, чым фантазія ў Гётэ». Зрэшты, не так і важна хто, што і калі сказаў, як важна тое, каб на тваіх нагах быў зручны абутак.

**Чорная бародаўка**

З'явілася ў мяне на правым плячы чорная, колеру запечанай крыві, бародаўка. Чым я яе толькі не зводзіў! Кожнаю вясну мазаў свежым сокам чыстацелу. Абвязваў ніткай. Нават з хірургам кансультаваўся. «Яна табе замінае? Яе не ідаць, і яна табе не замінае ні хадзіць, ні есці, ні любіцца! Не чапай!» Доктару мая чорная бародаўка і сапраўды не замінала. А мне? А мне яна замінала, але я пабойваўся яе сарваць, бо з дзяцінства ведаю, што радзімак і бародавак лепш не чапаць. Ведаю, але чапаю. Часам, сам таго не хочучы, а ручніком так церанеш, што яна і надарвецца. Тыдні два таму я так і адарваў недзе на траціну сваю чорную бародаўку. Забалела мне моцна, а я яе ёдам абліў, а праз гадзіну яшчэ і сульфадэазінам срэбра памазаў. Ад такіх маніпуляцый пачала мая бародаўка сохнуць. Яна сохла, а я яе па кавалачку аддзіраў. Усю ададраў. След малінавы застаўся з чорнай кропачкай. Але, думаю, і ён хутка прападзе. Больш за сямнаццаць гадоў я пранасіў на сваім правым плячы чорную бародаўку, а прыйшоў час, і яна засохла ды адвалілася.

**Інтэрнэтныя скавышы**

У сеціве гуляюць праймы і скразнякі, скавышы ды вятры. Сеціва таму і сеціва, што прадзімаецца наскрозь. Апошнім часам беларускі рэгіён напоўніўся палітскавышамі ды палітскразнякамі. Мярзотная з'ява. Людзі праз іх хварэюць. Некаторыя хварэюць моцна, на ўсю галаву. Каб не хварэць, трэба загартоўвацца пад кантрасным душам з класічных тэкстаў ды найноўшых показак.

**Кожух і карціны**

«Не магу скончыць карціну! Замест таго, каб дапісваць старыя, я пачынаю пісаць новыя. Палова майстэрні пазастаўляна распачатымі палотнамі. Каб карціны купляліся, я б іх падапісваў, а так не бачу сэнсу…» Я не стаў пытацца ў Кожуха пра сэнс у распачынанні новых палотнаў. Слухаў далей. Ён вытрымаў паўзу: «А ты як дапісваеш карціны?» — «Не пачынаю новай, пакуль старая не скончана. Завяршаю працу самым банальным чынам — пакрываю палатно лакам. Фарба на лак не ляжа. Работа скончана!» — «Добра табе…» Я не стаў распавядаць Уладзіміру Кожуху пра свае папкі з незавершанымі малюнкамі ды недапісанымі эцюдамі на паперы, бо ён жа спытаў толькі пра карціны на палатне.

**Валя і дзяльба**

Валя памірала. Яна ляжала на нізенькай канапе, а побач на крэслах сядзелі заплаканыя пляменніцы. Муж смяротна хворай Валі спаў у суседнім пакоі п'яным сном. У Валі быў рак горла. Два разы

хірургі спрабавалі павыразаць з яе горла пухліны з метастазамі, але абедзве аперацыі прынеслі вельмі кароткую палёгку. Цяпер у Валі засталіся адзін-два дні на развітанне са сваякамі. Хворая дастала з хованкі тоўсты пачак грошай і нямоглымі рукамі падзяліла фінансавы скарб сярод пляменніц. Сваіх дзяцей у Валі не было, таму маладым сваячкам дасталіся і ўсе пярсцёнкі з завушніцамі, і ўсе ланцужкі з бранзалетамі. Сваякам мужа Валя ні капейкі не дала.

**Ле Карбюзье і тынкоўшчык**

Шмат людзей любяць маскі і жывуць выдуманым жыццём. Яны прыдумляюць легенды і жывуць па легендах. Мой знаёмы тынкоўшчык кожнае лета ездзіў у Ялту, дзе знаёміўся з жанчынамі і казаў ім, што ён — знакаміты беларускі архітэктар. Калі нейкая з жанчын сумнявалася і задавала пытанні накшталт такога: «Няўжо ў архітэктара могуць быць такія шурпатыя далоні?» наш тынкоўшчык загадкава ўсміхаўся і казаў, што сам вялікі Ле Карбюзье любіў атынкоўваць свае будынкі, нават цэлы сабор у Раншане ён атынкаваў сам. Ялцінскія жанчыны мала што ведалі пра Ле Карбюзье, але ім хацелася верыць тынкоўшчыку, і яны яму верылі на кароткі час сваіх адпачынкаў.

**Кузьміч і дзірка**

Ювелір Кузьміч убачыў на сваім світары дзірачку. «Дзірка!» — сказаў Кузьміч так, нібыта гэта была не ледзь заўважная дзірачка на рукаве, а здаравенная дзірка на грудзях яго світара. «Дзірка! Я хаджу ў дзіравым світары! Усе бачаць, што ў мяне дзіравая вопратка. А ў мяне ёсць жонка, для якой я ўсё, што трэба, зрабіў! А яна не можа зацыраваць мой світар? Вярнуся і дам ёй за гэтую дзірку!» Я не стаў бараніць чужую жонку, але вырашыў, што так перажываць за дзірку ў світары, як перажывае паважаны ювелір, не трэба, нават калі гэтая дзірка ў тваім новым світары.

**Вольга і дождж**

Толькі я выйшаў на ганак, як пасыпаўся халодны дождж. Захацелася вярнуцца ў кватэрнае цяпло, але трэба было бегчы на працу. Пабег. Насустрач мне беглі людзі. Ім гэтаксама хацелася вярнуццца ў цяпло сваіх хатніх пакояў, але яны беглі на працу пад дробным дажджом. Побач са мной прабегла жанчына. Я здзівіўся, што яна бяжыць пад ледзяністым ветрам і дажджом без хусткі. Мне стала шкада жанчыну з мокрай галавою. Я бег і шкадаваў жанчыну. І тут я зразумеў, што выдатна ведаю жанчыну, што гэта ж Вольга. Трэба было спыніцца, развярнуцца і дагнаць Вольгу, каб сказаць... Што сказаць? Не трэба бегаць пад дажджом без хусткі? Яна дарослая. Вольга даўно вырасла і ўсё сама ведае: і пра хустку, і пра мокрую

галаву пад ледзяным дажджом… Цяпер я зноўку ў цёплым пакоі, але мне ўсё яшчэ халодна.

**Брат і ўсмешка**

«Я так доўга прымаў прафесійную маску буфетчыка за сяброўскую ўсмешку, што цяпер не хочацца заходзіць у гэтую кавярню…» — кажа мне брат, і мы крочым далей. Кавярняў, дзякуй богу, цяпер у Мінску хапае.

**Разанаў і поўня**

На літаратурнай вечарыне Галубовіча ў мяне забалела галава. Забалела так моцна, што я ледзь дачакаўся свайго выступу, прачытаў верш «Электрык» і сышоў. Над горадам вісела поўня, падобная да таблеткі спазмалгону. Я праглынуў спазмалгон і зайшоў у букіністычную краму «Вянок», каб там дачакацца ўздзеяння болесуцішальнай пігулкі. Дачакаўся, выйшаў у вечаровую прахалоду, пайшоў дамоў і на дарозе сутыкнуўся з Разанавым, які шыбаваў з вечарыны Галубовіча на вечарыну Надсана. Алесь Разанаў прапанаваў адведаць Надсана разам. Я адмовіўся, спаслаўшыся на галаўны боль. «Галава баліць ад таго, што аддаў, ці ад таго, што ўзяў?» — «Вядома, ад таго, што аддаў шмат…» Мы ішлі праз сквер, дзе я штораніцы бегаю. Над чорнымі клёнамі ў срэбных карунках лёгкіх аблокаў плыла спазмалгонавая поўня. «Гэта Ваша поўня!» — сказаў я Алесю. «Чаму гэта мая поўня?» — «Каб не вы, я б пайшоў другой дарогаю, пайшоў бы пад ліхтарамі, па вуліцы, і поўні не пабачыў бы…» Каля метро ў мяне зазваніў тэлефон. Разанаў пляснуў мяне даланёю па плячы і сказаў: «Слухай сваё. І дадасца…» Званіў Харэўскі з размоваю пра шэдэўры.

**Тулон і пазыкі**

Ён пазычае ў каго толькі можа і колькі зможа. Тулон пазычае грошы. Пазычаў і пазычае ад драбязы на пачак з запалкамі да сумы на закупку фургона з цыгарэтамі. Ён пазычае з таемным разлікам не вяртаць пазыку. Пазычыўшы, Тулон радуецца, нібыта не пазычыў, а зарабіў. Усіх людзей ён падзяляе на тых, у каго пазычыў максімум, і тых, у каго яшчэ плануе пазычыць яшчэ да ўжо пазычанага. Людзей, у якіх пазычальнік не выклянчыў грошы, для яго не існуе. Праз сваю загану пазычальнасці Тулон шмат чаго страціў у жыцці. Азартны чалавек — небяспечны, а пазычальнік, безумоўна, азартны. За азартнасць і нявернутыя грошы Тулона не любяць. За нявернутыя пазыкі яго абражаюць і зневажаюць, білі, б’юць і будуць біць. Яго выкідалі і будуць выкідаць з працы… Але спартовае мінулае паспяховага баксёра загартавала Тулона. Ён умее трымаць удары. Ён трымае ўдары і хлусіць. І кожны раз ён ілжэ, абяцаючы ў хуткім часе вярнуць напазычанае. Калі нехта са знаёмых памірае, а Тулон, як

высветлілася, не паспеў у таго нябожчыка пазычыць пару рублёў, ён пафасна кажа: «Добра, што ні я яму, ні ён мне нічога не вінаватыя!»

**Нінка і метро**

Яна злая, і таму я называю яе Нінка. Можа да некага яна ставілася добра, можа нехта называў яе Ніна, Ніначка, Ніночак, Нінуля, Нін… А я заўжды казаў на яе Нінка. І тады, калі мы разам хадзілі ў мастацкую вучэльню; і тады, калі разам паступілі ў тэатральна-мастацкі інстытут, і пазней — да самага да сёння. З Нінкаю Бялевіч я ніколі не сябраваў, але ведаю пра яе шмат, бо яна любіла і ўсё яшчэ любіць хадзіць у госці да маёй мамы. Цяпер Нінка жыве ў Амерыцы, носіць белыя штонікі і робіць выгляд шчаслівай жанчынкі. Яна мне нават даслала фотаздымак з Лос-Анджэлеса, адкуль я і ведаю пра колер штонікаў. Яна прасіла перадаць маёй маме, што ў Амерыцы ёй жывецца добра. Так я і паверыў! Жыве Нінка з нейкім дзедам… Яе справа. Але, атрымаўшы амерыканскі здымак з беларускай Нінкаю, я згадаў сваю сустрэчу з Нінкаю ў мінскім метро, на станцыі «Парк Чалюскінцаў». Забягаю я ў метро і бачу: Нінка ў чорнай форме метрапалітэннай наглядчыцы сядзіць у шкляной будачцы, што стаяць каля турнікетаў. «Нінка, ты што тут робіш?» — «Працую!» Нінка запунцавела ўся, толькі вочкі засталіся блакітна-ледзянымі. «Тут, у метро? Ты дзесяць гадоў на мастака вучылася, каб залезці ў гэтую будку?» — «Тут заробак нармальны плацяць і кватэру паабяцалі даць!» Кватэру Нінцы далі. Яна ў ёй і жыла са сваімі двума сынамі, ажно пакуль у Амерыку не з’ехала. З’ехаць у Амерыку да нейкага там дзеда Нінцы было проста, гэта ж нават прасцей, чым пасля дзесяцігадовай вучобы на мастака-графіка пайсці наглядчыцай у метро. Часам мне было шкада Нінку. Мне было шкада яе, калі выйшла замуж за п’янтоса Хацановіча. Было шкада, калі кінула мастацтва… Але найбольш я шкадаваў Нінку, калі ў яе памёр ад грыпу старэйшы сын. Малодшага Нінка звезла ў Штаты, а старэйшы застаўся ў кватэры, дадзенай за працу ў метрапалітэне. П’янтоса свайго Хацановіча Нінка яшчэ раней кінула і выгнала з дому. Старэйшы сын жыў з жанчынаю, якая нарадзіла хлопчыка. Унук Нінкі нарадзіўся неўзабаве пасля бацькавай смерці. Нінцы давялося прыляцець з Амерыкі і перапісаць кватэру на свайго ўнука. Фармальна яна магла забраць кватэру; не забрала, падаравала яе маладой мамцы. Можа Нінка і не такая злая, як мне падаецца? Але для мяне яна ўсё адно Нінкаю была і Нінкаю застаецца. Нінаю завуць маю маці.

**Падарваныя дамы**

Калі ў Маскве зноў падарвалі дом, я ў Мінску бачыў чалавека, які радаваўся выбуху. Ён радаваўся распачатай вайне. Радаваўся натуральна, без слінявага блюзнерства і тэатральнага твараробства.

Ёсць людзі, якія не ўяўляюць эвалюцыю чалавецтва без баявых дзеянняў. Такіх шмат. Яны радаваліся, гледзячы на руйнаванне амерыканскіх хмарачосаў, радаваліся расповедам пра падарваныя маскоўскія дамы, яны не хавалі свайго захаплення тэрарыстычнымі і вайсковымі дзеяннямі. Такіх людзей у нашым грамадстве, выхаваным на гісторыі войнаў, шмат.

## Норвід і «прыгажосць»

*Характарыстыка «прыгожы» ў праўдзівым мастакоўскім асяроддзі забароненая. Сказаць на чалавека, з’яву або рэч, што яна прыгожая, значыць занізіць яе і апошліць, далучыць да прымітыўных каштоўнасцяў. Таму мастакі і табуявалі слова «прыгожы», дадаўшы яго да плоймы пошасных мацюкоў. Але мацюк таму і мацюк, што выразны і звяртае на сябе ўвагу. Бачу ў Цыпрыяна Норвіда: «Што ты ведаеш аб прыгажосці?/ Яна з’яўляецца формай любові…» Так. Сапраўды прыгажосць з’яўляецца і формай любові, і формай кахання. А яшчэ мы цудоўна ведаем, што любоў сляпая, і мы скажона бачым аб’екты свайго захаплення. Нават Норвід не рэабілітаваў характарыстыку «прыгожы», але ён у сваім намаганні быў значна лепшы за шматлікіх астатніх.*

P.S.Каб я шанаваў трасянку, дык ганарыўся б сваім прыдуманым слоўцам «прыгажэсць». Але не люблю я трасянку і трасянковых паэтаў, як і тых не люблю, хто па дзесяць разоў за адну размову скажа «прыгожа».

## Любімы пэндзлік

Час ад часу ў мяне з’яўляецца любімы пэндзлік. Я не хацеў бы аддаваць перавагу нейкаму аднаму пэндзлю, але ён вылучаецца сам. Гэта зазвычай пэндзаль невялікага памеру, якім я заканчваю жывапісную працу. Бяда ў тым, што гэты любімы пэндзаль вельмі хутка спісваецца, а я пачынаю перажываць, што спісаўся-сшараваўся аб палатно мой выдатны інструмент, якім так лёгка завяршалася праца і ставілася апошняя кропка. Здаецца, што я магу пайсці і набыць сабе рыхтык такі пэндзаль. Але падобны не робіцца любімым. Можа прайсці паўгода, пакуль нейкі з пэдзляў стане для мяне самым дарагім, і ён не заўсёды падобны да папярэдняга любімца.

## Тэрэнцый і праўда з ліслівасцю

Сягоння, як і заўжды, запатрабавана праўдзівае слова. Старажытны рымскі пісьменнік Тэрэнцый так папярэджваў аматараў сумленных слоў: «Праўда ўздымае нянавісць, ліслівасць дадае сяброў». Наконт праўды шаноўны рымлянін меў рацыю, а вось наконт ліслівасці і падлізніцтва я з ім не хацеў бы пагаджацца.

## Параскіданае смецце

Раніцаю ў парку мяне, шчыра кажучы, раздражняе параскіданае смецце. Стаіць сметніца, людзі туды выкідаюць розную непатрэбшчыну: пакеты з-пад сокаў, бутэлькі з-пад піва, газеты з часопісамі, кардонныя ды пластыкавыя шклянкі, упакоўкі ад чыпсаў, фанцікі… Нехта бярэ тое стракатае змесціва сметніцы і раскідае навакол па зямлі. Я заўжды думаў, што гэта збіральнікі бутэлек так нахабна і неахайна сябе паводзяць. Але колькі я назіраў за збіральнікамі бутэлек, яны, прынамсі на маіх вачах, даволі акуратна порпаліся ў смецці і нічога не раскідалі. Сёння ў парку стаяў шчыльны туман. У гэтым малочным тумане я нарэшце пабачыў тых, хто смеціць у парках; гэта вароны выцягваюць непатрэбшчыну са сметніц і кідаюць на зямлю. Адна варона нават разадрала пакет з Макдональдса, шукаючы харчовай спажывы. Цяпер параскіданае ў парку смецце раздражняе мяне меней. Птушцы я магу дараваць значна больш, чым чалавеку.

## Абвесткі ў метро

Вагоны і пераходы метро пааблеплены аб'явамі пра легальную работу для студэнтаў у ЗША. Не ведаю, як там хто, а я, калі чытаю пра легальную працу ў ЗША, думаю пра мурынаў-рабоў на паўднёвых плантацыях. Ніякіх рабоў даўно няма, скажаш ты. Дык і паўстанне рабоў пад кіраўніцтвам мужнага Спартака адбылося ажно да нашай эры, а мы яго памятаем, скажу табе я. Дарэчы, мае дочкі з'ездзілі ў ЗША. Старэйшая працавала, малодшая адпачывала. Адпачываць — не працаваць. Малодшай Амерыка спадабалася, а старэйшай — не. Можа, таму, чытаючы абвесткі пра працу ў ЗША, я згадваю сумныя гісторыі пра рабоў-мурынаў на бязмежных плантацыях пад пякельным сонцам.

## Чынгісхан і праўда

Ёсць легенда, што вялікі воін Чынгісхан вельмі любіў і шматкроць паўтараў прымаўку: «Хто гаворыць праўду, не памрэ ад хваробы».

## Калбасін, Танк і ровар

Максім Танк 15.10.1962 робіць такі дзённікавы запіс: «Мінуў месяц, як мы тут, на амерыканскай зямлі. Пасля Лонг Айланда нат у сне бачыў акіян, чаек і белыя ветразі. Калбасін купіў там плаўкі з рэкламнай этыкеткай: «У гэтых плаўках будзеце выглядаць самым прыгожым мужчынам. Па колеру яны падыдуць да ўсіх іншых рэчаў, якія вы купіце ў фірме Мак Грэгар». Запіс заштурхнуў мяне ва ўспаміны… З дачкой дыпламата Калбасіна — Людмілай — я хадзіў у дзіцячы сад будаўнічага трэста № 4. Мне нават падабалася белавалосая і светлавокая Люда. А калі яе тата-дыпламат прывёз з Германіі двухколы дзіцячы ровар, а Люда сказала, што той ровар

хлапечы, а не дзявочы, дык ровар дастаўся мне. У часы майго дзяцінства ўсе рэчы былі жорстка падзелены на мужчынскія і жаночыя, нават колеры дзяліліся па прынцыпе «м» і «ж». Напрыклад: зялёны ды сіні — мужчынскія, ружовы ды чырвоны — жаночыя. Ровар быў металічна-сіні. У першы дзень свайго катання я разбіўся. З вуліцы Кузьмы Чорнага я паехаў па завулку да крамы «1000 дробязяў». Разагнаўся. З-за рога выйшла дзяўчынка. Падумалася: зараз заб'ю дзіця. Крутнуў руль. Урэзаўся ў дом. Пярэдняе кола ровара заскочыла ў шчыліну паміж вадасцёкавай трубою і цаглянай сценкаю. Я пераляцеў праз стырно і трупнуўся лбом аб трубу. Свядомасць вярнулася да мяне ў ваннай. Нейкая жанчына ліла мне на галаву ваду. Побач з незнаёмкаю стаяў мой тата. Жанчына ўбачыла праз акно, як я разбіўся, выбегла, схапіла мяне і занесла да сябе ў кватэру. Тата, які таксама бачыў удар аб трубу, падумаў, што я забіўся. На нейкі час у яго адняліся ногі. У бальніцы мне наклалі швы і сказалі, каб некалькі гадзін не засынаў, бо спаць пасля страсення мазгоў нельга.

**Смачнае паветра**

На перапынках я выбягаў са школы ў адліжную, змрочную, шэрую зіму. Без паліто і шапкі. Як сядзеў за партаю ў касцюме — так і бег, так і ляцеў па ледзяной сцежцы з высознай гары. Густое, вадзяністае, смачнае паветра напаўняла грудзі... Цяпер мне часам не хапае таго смачнага паветра.

**Уладзімір і таемны пакой**

У Рызе я пазнаёміўся з латышскім патрыётам Уладзімірам. Славянскае імя і напалову ўкраінская кроў не заміналі яму весці актыўнае змаганне за самастойнасць Латвіі. Валодзя запрасіў мяне да сябе дамоў, мы выпілі, і ён паказаў таемны пакой. Той быў зусім маленечкі, без акна, у ім ледзь змяшчаўся вузкі ложак ды тумбачка з настольнай лямпаю. «Калі трэба будзе перахавацца, прыязджай і жыві...» Згадкі пра таемны пакой у Рызе шмат калі ў жыцці дапамагалі мне прымаць правільнае і мужнае рашэнне. Мужчыну важна мець у далёкім горадзе надзейнага таварыша, які, калі што якое, дасць магчымасць перахавацца.

**Шыма і Швед**

Каля крамы сустрэў Шыму. Гэта той Шыма, які прачнуўся ў сваёй кватэры з нажом у руцэ і двума трупамі на падлозе. Адвакат трапіўся правільны, суд за Шымам празнаў толькі перавышэнне вымушанай самаабароны. Шыма адседзеў свае поўныя пяць гадоў... Зрэшты, пра гэта і так усе даўно ведаюць. Прайшло, прамінула. Гэтым разам Шыма папрасіў у мяне пяць рублёў на гарэлку. Звычайна я не даю Шыму грошы. Зразумела! Дасі, ён зноў прачнецца на варэльні з

нажом у руцэ… Але ж Шыма моцна прасіў, казаў пра запой, які цягнецца больш за месяц. З шостага кастрычніка па трынаццатага снежня Шыма несупынна піў. Я даў грошы на сто пяцьдзясят беларускага бальзаму. Шыма каўтнуў з рыльца грамаў трыццаць і распавёў пра Шведа. Наш агульны знаёмы Сяргей Шаўцоў, мянушка Швед, з’ехаў жыць у вёску. Ён набраў замоў на выраб аналоя і рам для алтара. Замовы Швед не зрабіў, бо не дагледзеў дрэва. Дуб, які ён сушыў для працы, парвала. Дрэва патрэскалася, і Швед не выканаў замовы. Давялося яму ісці ў нарыхтоўшчыкі дроў. Цяпер Швед ходзіць па вёсках і дапамагае спраўным гаспадарам пілаваць і калоць дровы. Я ўявіў, як на марозе пад снегам мы са Шведам кладзём на козлы бярозавае бервяно і пачынаем яго распілоўваць на акуратныя чурбакі. Я нават парадаваўся за Шведа, а Шыма зрабіў выгляд, што падзяляе маю радасць за таварыша і адсёрбаў наступныя трыццаць грамаў духмянага бальзаму.

**Сыс і Сыс**

Мікола Ваўранюк падарыў мне свой новы фільм «Сыс пра Сыса». Мікола працаваў над фільмам у якасці рэжысёра. Сцэнар напісала Паліна Сцяпаненка. Галоўную ролю выканаў Сяржук Сыс, які распавёў сваю ўласную гісторыю пра паэта Анатоля Сыса. У фільме было шмат знаёмых твараў, былі паэты і мастакі, былі сёстры Анатоля. Фільм стаўся для мяне своеасаблівым адкрыццём, бо я ведаў, любіў і люблю зусім іншага паэта Анатоля Сыса. Ніводная дэталь з маіх ведаў не супала з тым, што паказана і пра што распавядаецца ў фільме.

**Ілья і караблі**

Малявальнік Ілья малюе караблі ды караблікі. Ілья можа змаляваць ды перамаляваць што заўгодна, але ён любіць старанна вымалёўваць і прамалёўваць караблікі са светлымі ветразямі. Акрамя караблёў пад надзьмутымі ды напятымі ветразямі, Ілья малюе аўтамабілі і матацыклы. Ён шмат што малюе, але караблі заўжды ў ягоных фаварытах. Караблі Ільі не плывуць. Яны невядома адкуль узяліся і немаведама куды прападуць. Звычайна, калі чалавек пачынае пабудову карабля, ён ведае куды, нашто і з кім той карабель паплыве. Караблі Ільі дзіцячыя, цацачныя, пустыя, як шкарлупіна ад з’едзенага арэха. На іх няма ні матросаў, ні кока, ні капітана. Караблі Ільі разлічаны на ўвагу інфантыльнага гледача, які сам прыдумае захаплядьнае вандраванне пад напятымі белымі ветразямі па плыткім Мінскім моры.

**Кулік і Пікаса**

Назваць Куліка подлым, карыслівым у мяне язык не паварочваецца, але ж пра нешта падобнае распавядае Феафраст

у сваёй кнізе «Характары». Подлым, карыслівым старажытны грэк называе чалавека, які, даведаўшыся, што ягоны прыяцель наважыўся набыць нейкую рэч, спяшаецца прыдбаць яе сам, каб перапрадаць таму ж прыяцелю. Мой аднакурснік Кулік, ведаючы, што ўсе мы вучымся на творах Пабла Пікаса, набыў у кнігарні альбом з малюнкамі майстра. У тыя часы прыдбаць добрую кнігу было неверагодна цяжка. Кнігі ўвесь час перапрадаваліся, і цэны на «чорным» рынку адрозніваліся ад крамных «на нуль». Студэнту Куліку пашанцавала. Ён мог бы, прыйшоўшы ў той дзень на заняткі, распавесці пра выдатны набытак. Кулік зрабіў інакш. Ён пачакаў тыдзень, схадзіў у краму, пераканаўся, што ўсе альбомы Пікаса прадаліся, а толькі потым паказаў нам скарб. Нават пагартаць каштоўную кнігу Кулік не дазволіў. Паглядзелі здалёк? Аблізнуліся? А цяпер зайздросце чалавеку, якому пашанцавала! Зайздросце мне — Аляксандру Куліку! Вядома, выкліканне ў людзей зайздрасці — справа падлючая. Кулік — падлюга, але карыслівасці ў ягоным учынку не было, таму і не называю я Аляксандра подлым, карыслівым адначасова.

**Баба Броня і калодзеж**

Адзін з найпершых маіх страхаў быў звязаны са старым вясковым калодзежам. Той калодзеж быў каля бабінага агарода, каб блізка было хадзіць і паліваць у спёку звялыя буракі ды капусту. Ад часу драўляны калодзежны зруб дзе падгніў, а дзе і зусім спарахнеў. Калодзеж закрылі збітай з тоўстых дошак накрыўкаю. Баба Броня ссунула тую пароcлую імхом накрыўку і паказала далёкую чорную ваду, на якой ўздрыгваў квадрацік белага неба. «Крый Бог, уваліўшся, не паспеем дастаць, там і захлынешся!» — палохала мяне пяцігадовага баба. Захлынацца ў чарноцці не хацелася, і я абыходзіў калодзеж як мага далей. Праз пару гадоў дзед Ладзімір выкапаў новы калодзеж, а ў стары высыпаў цэлы машынны кузаў бялюткай вапны, каб яна тамака дагасілася. «Збярэшся будавацца ў нашай Варакомшчыне, будзе ў цябе, Валодзя, вапна найлепшага гатунку!» Каля паўстагоддзя мая вапна ў старым калодзежы чакае новабудоўлі.

**Дадэ і сонца**

У Дадэ ёсць развага пра сонца: «…паедзьце на поўдзень — пабачыце самі. Вы пабачыце краіну дзівосаў, дзе сонца ўсё чыста праўтварае і ўсё павялічвае ў памерах. (…) Яно павялічвае ўсё, да чаго дакранецца… Што ўяўляла сабой Спарта ў часы росквіту? Звычайнае мястэчка. Што ўяўлялі сабой Афіны? У лепшым варыянце — правінцыйны гарадок… І ўсё ж у гісторыі яны нам малююцца як два вялікія гарады. Вось што з іх зрабіла сонца…» Праўда, чыстая праўда. Каб я не з’ездзіў у Рым і Барселону, я б

падумаў, што Альфонс Дадэ жартуе. Ён не жартуе і не іранізуе, ён падказвае мастакам месца, дзе варта шукаць і можна знайсці натхненне.

**Піфагор і рэчка Кос**

Піфагор падышоў да рэчкі Кос з намерам перабрацца на другі бераг, а рэчка прамовіла чалавечым голасам: «Вітаю цябе, Піфагор!» Па некалькі разоў на дзень я праходжу па рачным беразе і перабіраюся па мосце праз спакойную, а ўзімку дык і зусім знямелую Свіслач. Дазнаўшыся пра дзіва, якое некалі адбылося з Піфагорам, я вырашыў прыслухоўвацца да нашай сталічнай рэчкі. Можа, і Свіслач павітаецца са мною жаночым голасам…

**Ластоўскі і наша княства**

У сваёй праграмнай працы «Што трэба ведаць кажнаму беларусу» Вацлаў Ластоўскі так піша пра беларускую мову: «Даўней нашая мова была адной з самых культурных усходне-славянскіх моваў, ёю гаварылі князі нашыя, князі і вяльможы Вялікага Княства Беларускага…» Так і трэба называць наша Вялікае Княства. Толькі так яго трэба называць, і ніяк інакш, толькі Вялікае Княства Беларускае.

**Робертас і недапаленая цыгарэта**

Робертас гандлюе мэбляю для кухні. У яго франчайзінг з чэшскай фірмаю «Карына». Пад шыльдаю KARINA я з ім размаўляю пра цяжкасці з кіданнем палення тытуню. Робертас курыць. Мы чуем, як у ягонай краме пачынае пазвоньваць тэлефон. Робертас дае мне патрымаць недапаленую цыгарэту і бяжыць у краму. Гэта ж так пасяброўску і так па-мужчынску — пакінуць сваю недапаленую цыгарэту ў чужой руцэ. Як жа моцна мне захацелася закурыць! Нібыта я не курыў якіх дзевяць гадзін, а не дзевяць месяцаў! «Ну што? Не зацягнуўся дымком?» — «Стрываў!» — «Малайчына! Моцны чалавек!»

**Карпейчык і помнікі**

Атрымаў паведамленне ад Уладзіслава Валодзькі, які скончыў дзевятнаццатую мінскую школу, дзе вучыўся і ў Аляксандра Казіміравіча Карпейчыка. У паведамленні гаворыцца, што створана група з вучняў настаўніка Карпейчыка. У той групе больш як 500 чалавек. Група займаецца зборам сродкаў на помнік свайму любімаму настаўніку. Думаю, што на магіле Сашы Карпейчыка варта паставіць самы сціплы помнічак. Што тычыцца ініцыятывы сабраць сродкі на помнік, я яе вельмі ўхваляю. На маю думку, варта паставіць помнік і каля дзевятнаццатай школы. Я нідзе не бачыў, каб нехта ўшанаваў такім чынам памяць пра любімага настаўніка. Каму толькі не паставілі помнікаў у нашым Мінску ды ў нашай Беларусі!..

А настаўнікі чамусьці засталіся без помнікаў, што несправядліва. У парку, сярод залатой лістоты згадаў Сашу…

*Хутка лістапад, год — як памёр Карпейчык…*

*Слёзы высахлі…*

**Стасік і запрашэнні**

Куды б Стася ні запрасілі, ён туды і прыходзіць. Да студэнтаў ідзе — і на тэлебачанне прылятае, на адкрыцці выставы фланіруе з келіхам шампанскага — і на канферэнцыях сядзіць з бутэлькай мінералкі… За вечар Стасік можа наведацца ў тры месцы. Нашто так мітусліва жыць? «Адмовішся раз-другі — больш не запросяць! Не прыйдзеш ці не прыедзеш, і пра цябе забудуць!» — кажа Стась. Ён ідзе, бяжыць, ляціць… Ён мільгае, прысутнічае, засядае… Стасік любіць запрашэнні. Ён іх выпрошвае і вымольвае. Яго шкадуюць і запрашаюць зноў, зноў і зноў.

**Дамброўская і д'ябал з абразамі**

Польская паэтка Марыя Дамброўская ў вусны д'ябла ўклала такія словы: «Абразіць народ? А што ты за пісьменнік, які не ведае, што вялікімі творцамі былі толькі тыя, што гаварылі найжахлівейшыя рэчы ўласнаму народу? Абразіцца — гэта не пісьменніцкая справа. Гэта на пісьменніка заўсёды абражаліся…» Нават калі б гэтыя словы казаў не тэатральны д'ябал, а простая баба Марыя з Гайнаўкі, я б іх прыняў і ў іх паверыў.

**Баба Ядзя і холад**

Раніцай, прыбегшы з парку, я адчыніў дзверы з пад'езда ў кватэру і пачаў пераабувацца. Я ставіў красоўкі на спецыяльную анучку для абутку з вуліцы, калі пачуў халодныя праймы, што ледзянымі струменямі аблівалі ногі. «Валодзя, зачыняй хуценька дзверы, а то холаду ў хату напусціш!» — пачуўся мне далёкі голас бабы Ядзі. Так яна і казала мне — малому, калі я, прыйшоўшы з марозу, ужо здымаў у сенцах валёнкі, а дзверы на двор яшчэ былі адчыненымі.

**Ваця і долата**

Калі ў тваёй сям'і хоць нехта сталярыў, дык ты з дзяцінства ведаеш розніцу паміж фуганкам і гэблікам. Табе яшчэ ў першыя гады жыцця патлумачаць, якая небяспека тоіцца ў навостраным долаце. Ну а пра пілу ды сякеру ты гісторый страшных таксама наслухаешся. У маёй сям'і сталяром быў прадзед Ваця. Ён жахі пра пасечанае сякерай калена ды пра адрэзаныя пілою пальцы і распавядаў. Лекцыі па тэхніцы бяспекі прадзеда Вацлава Кісяля я добра засвоіў, з інструментамі заўжды абыходжуся з вялікай павагаю і асцярожна. У п'яным стане я ніколі не ўключаў ні цыркулярку, ні электрадрыль. Хлопцы, з якімі мне даводзілася вучыцца на мастака, да інструментаў ставіліся вельмі па-рознаму. Ну не ў кожнага ў сям'і ёсць добры

майстар і настаўнік. У Віктара такога прадзеда Вацлава не было, ніхто яго бяспецы не вывучыў, таму і не засяродзіўся Віця на працы, а рэзаў дыкту ды з сябруком Феліксам размаўляў. Віктар рэзаў дыкту на цыркулярцы, рэзаў яе на невялікія трохкутнікі для падрамнікаў. Кавалак дыкты выгнуўся, і руку кінула на палатно. Скуру і мяса з пальцаў правай рукі піла пазразала імгненна. Скалечанага Віктара завезлі ў бальніцу. Хірург апрацаваў раны, што змог, тое падшыў. Фелікс распавядаў, што Віктар плакаў на бальнічным ганку, ён думаў, што з такой пакалечанай правай рукою больш не зможа маляваць. Рука загаілася. Віктар вярнуўся да малявання. Ён блізу трыццаці гадоў піша вялікія палотны. Ён нават прызнаным мастаком стаў. Мала хто памятае і ведае пра ягонае калецтва. Здавалася б, і я павінен забыцца пра заляпаную крывёю цыркулярку. Ды не, у мяне, як і ў прадзеда Ваці, ёсць каму распавядаць гісторыі пра небяспеку, затоеную ў навостраным долаце.

**Ліса ў лесе**

У пятніцу атрымаў я запрашэнне пастраляць ваўкоў. На Беларусі яшчэ можна іх забіваць — па ўсёй Еўропе нельга, а ў нас дазваляецца. У суботу я мусіў трапіць на паляванне. З юначых гадоў я не хадзіў з ружжом, а таму і адмовіцца не змог, пагадзіўся адразу. Уявіў, як па глыбокім снезе будзе ляцець ваўчара, як гухне стрэл з майго ствала, як куля ўвойдзе ў воўчы голаў, у воўчы лоб, над самым носам… У юнацтве я марыў сустрэць у лесе вялікую вольную жывёлу. Хацелася пабачыць нашага лася ці нашага ваўка. Бачыў толькі нашых дзікоў, якія, вышнураваўшыся за важаком, ішлі ў начным тумане па іржышчы, праз шырокае поле. Страшна было, але жаданне пабачыць вялікага свабоднага звяра не прапала. Аднойчы я вочы ў вочы сустрэўся з лісой на лясной сцежцы. Рудая лісічка стаяла на невысокім пагорку паміж дзвюх елак. Я міргнуў, ліса прапала, як і не было. Ніводная галінка не варухнулася. Ліса была зусім блізка, здавалася: зрабі тры крокі, і яна — твая. Ды дзе там. Прапала, расплылася ў летнім паветры, як прывід. Нездарма людзі ў рудой лісе бачаць жанчыну-пярэваратня, ёсць відавочныя падставы. У ваўках нашы людзі таксама бачаць пярэваратняў, якіх называюць ваўкалакамі. Колькі казак у нас ёсць пра тое, што стрэліш у ваўка, а заб’еш чалавека. Застрэліць чалавека, перакінутага ў ваўка, я не баюся. Добры чалавек у ваўкалакі не пойдзе. Пераканаңы! Шкада, але на паляванне я не трапіў, бо з нядзелі на суботу перанесліся заняткі з маімі вучнямі. Сустрэча з вучнямі ў мастакоўскай студыі для мяне ўсё яшчэ важнейшая за сустрэчу з ваўкамі ў зімовым лесе.

**Змены ў наваколлі**

Сыход у нябыт твайго нават не самага блізкага сябра робіць увесь навакольны свет малацікавым. Ён цямнее і чарнее, колеры шарэюць і блякнуць, а гукі глухнуць. Нейкі час ты нават не ведаеш: як можна і ці можна вярнуць наваколлю звонкасць і каляровасць. Нудзішся. Нэндзішся. Маркоцішся. Нарэшце нейкае новае яркае ўражанне ледзь не слепіць цябе, і ты вяртаешся ў нармальную шматколернасць і шматгучнасць звычнага наваколля.

**Кіплінг і Купрын**

Купрын у эсэ пра цудоўнага паэта сказаў: «…На выбітных творах Кіплінга няма двух самых дакладных адбіткаў генія — вечнасці і ўсёчалавецтва. У яго аповедах — асабліва калі прачытаеш усе, без перапынку, запар — адчуваецца не геній, радзіма якога свет, а Кіплінг-англічанін, толькі англічанін, і пры гэтым англічанін нашых дзён…» Варта дадаць, што ў творах Рэдзьярда Кіплінга ёсць той герой, пра якога спяваецца ў брытанскім гімне: «Ніколі, ніколі, ніколі/ Англічанін не будзе рабом!» Безумоўна, Купрын меў рацыю, разважаючы пра геніяльнасць, але і сам вялікі майстар слова Купрын са сваёю татарскай крывёю ды расійскім крыху плаксівым патрыятызмам быў далёкі ад усёчалавецтва.

**Лаянка ў метро**

«Вось, блях-мух, пакатаўся я ў метро!» — так сказала мужчынская галава, і слёзы паліліся з яе вачэй. Галава плакала ў вагоне, а яе цела тым часам заставалася на платформе стаяць… Пра заціснутага вагоннымі дзвярыма мужчыну распавядалася і распавядаецца шмат гісторый. Некалі здарылася дзіва — пад Мінскам пусцілі метро. Пра метро толькі ўсе і гаварылі. Ну а што за расповеды без ахвяры ды лаянкі са страшэннымі мацюкамі? Расказвалі: як мужчына ляцеў па станцыі «Інстытут культуры», як замітусіўся каля адчыненых дзвярэй, як сунуўся ў вагон, і тут дзвярыма яму ледзь не адсекла неразумную галаву. Такога ж мужчыну бачылі і на «Акадэміі навук». Каб ён рукамі дзверы не прытрымаў, яму б галаву і адрэзала! Казалі, што на «Плошчы Якуба Коласа» мужчына з заціснутай дзвярыма шыяю бег па платформе… Усе гісторыі аб'ядноўвала адна выразная дэталь: мужчынская галава брудна аблайвала мінскі метрапалітэн. Можа, іншыя метрапалітэны так не аблайваліся і не абкладаліся шматпавярховымі мацюкамі, а наш і аблайваўся і абкладаўся з першага дня свайго існавання. Можа, таму нашае метро такое чыстае і дагледжанае?

**Лісты да сяброў**

Дурань піша ліст да ворага. Разумны чалавек дасылае допісы сябрам ды таварышам. Ідыёты з ідыёткамі накіроўваюць слязлівыя

пісьмы да ворага. Яны спадзяюцца, што вораг — дурыла, і, прачытаўшы іх ілжывыя пісьмы, ён зробіць нешта патрэбнае і карыснае не для сябе, а для іх. Свет поўніцца маразматычнымі спадзевамі на чужое глупства. Лісты варта пісаць толькі тым, хто цябе разумее і любіць. У самым крайнім выпадку можна напісаць адзін ліст да таго, каго любіш ты.

**Краявід і яго гукі**

Каб намаляваць краявід, трэба ў яго ўслухоўвацца... Безумоўна, трэба, каб напачатку было ўражанне, каб ты спыніўся ў краявідзе. Зразумела, калі ты можаш спыніцца, бо шмат разоў мяне ўражвалі краявіды, убачаныя праз акно цягніка. Спыніцца я не мог і праз гэта нават перажываў. Такі краявід я маляваў па ўспамінах. Калі ж у цікавым краявідзе можна спыніцца, я абавязкова спыняюся і павольна разглядаю яго, я нібыта насычаюся наваколлем, а насыціўшыся, пачынаю маляванне. Хай гэта будзе маленечкі накід у тры рыскі, але такі накід мне моцна дапамагае ў студыі. Накід вяртае да першага ўражання, да азарэння. Зусім нядаўна, зноў наноў малюючы свой стары Мінск, я пачаў яшчэ і ўслуховацца ў краявід. Так, малюючы партрэт, я ўслухоўваўся ў голас мадэлі, я не столькі слухаў ці слухаўся, колькі ўслухоўваўся. Цяпер я пачаў услухоўвацца ў краявіды...

**Казімір і пераказ**

«Чорны квадрат» Казіміра Малевіча — гісторыя сусветнага мастацтва ў сціслым пераказе для тых, хто ў тэме.

**Фікус і мяшчанства**

Цяжка сказаць, хто прыдумаў такое глупства — назваць фікус сімвалам мяшчанства. Але ж назвалі, дурнаватае вызначэнне прыжылося і людзі павыносілі і павыкідалі свае расліны. У часы майго маленства фікусаў у Мінску было шмат. Лакіраваналістыя, заўжды сакавіта-зялёныя, яны стаялі ў кватэрах і інтэрнатах, у кінатэатрах ды клубах, на прадпрыемствах і вакзалах... Фікусы былі паўсюль. Больш за ўсё ў тых фікусах я любіў залаты, скінуты долу лісток. Яго можна было ўзяць і вынесці на вуліцу і пусціць па вясновай ручаіне ў вакολсветнае плаванне. А тут пайшлі размовы пра гнілое мяшчанства, пра пыльныя маткаштоўнасці, пра ржавыя плямы мінуўшчыны. Фікус быў прызнаны знакавай раслінаю. Калі ў цябе фікус, ты — недальнабачны мешчанін, ты — нявера, якому няма месца ў райска-камуністычнай будучыні, ты — шкоднік. Тут і захацеў бы ты фікус пакінуць, ды не пакінеш. У мяккім варыянце здавалася, што фікус больш не модны. Так ці інакш, а фікусы не ўпісаліся ў новую архітэктурную кампазіцыю, што прыйшла на пачатку шасцідзясятых гадоў. Неакласіцызм замяніўся неаканструктывізмам, у інтэр’ерах

стала шмат сонечнага святла, і цёмналістыя фікусы зніклі. Цяпер мяшчанства пакрыху вяртаецца, яго цяперака называюць сярэднім класам, яго каштоўнасці ўздымаюцца на глянец шматлікіх рэкламазборных часопісаў. Паглядзім, можа і фікус зноў прыйдзе ў чыёсьці дзяцінства, і нехта возьме яго залаты ліст і пусціць па вясновай ручаіне ў ваколсветную вандроўку.

**Яня Зельская і змаўканне**

Шмат выдатных мастакоў кінулі маляваць. Працавалі, выстаўляліся, афармлялі кнігі, а потым змоўклі. Дзе яны? Што з імі? Дзе апантаны малявальшчык вечаровых сквераў Мажураў? Дзе майстар вострых партрэтных эцюдаў бліскуча-чорным алоўкам Ступакоў? Дзе аматар празрыстасці марса чырвонага ў нацюрмортах жывапісец Гарэлаў? Іх няма ў мастацтве, як няма ў ім і Яні Зельскай. Як цёпла і па-хатняму гучыць — Яня Зельская. Я з ёй сябраваў. Яна была на шостым курсе, я — на першым. Я хадзіў да Яні ў майстэрню на гарбату. Яня запарвала зёлкі, мы пілі чароўную гарбату з вялікіх гліняных кубкаў і размаўлялі пра розныя смешныя рэчы. Мы гаварылі пра эротыку ў творах беларускага драматурга Макаёнка. Так-так, менавіта пра эротыку ў макаёнкаўскіх п’есках. Яня рабіла літаграфіі да твораў Макаёнка, а ўсё эратычнае, што вымалёўвалася Яніным алоўкам, выкладчыкі забаранялі паказваць і, крый бог, выстаўляць. Яня скончыла інстытут, раздарыла свае эратычныя малюнкі сябрам і сышла ў вялікі свет. Там яна аформіла некалькі дзіцячых кніжак. Тады гэта было досыць складана, бо пільныя цэнзары шукалі ў кожнай ілюстрацыі масонскія сімвалы ды антыдзяржаўную прапаганду. Характар у Яні быў мяккі, яна не стала змагацца з цэнзарамі і паглыбілася ў хатнюю гаспадарку. Раней я моцна шкадаваў, што Яня кінула мастацтва, што не малюе птушак у дзіцячых кніжках. Цяпер я нечакана для сябе заўважыў, што не шкадую пра страчаныя магчымасці Яні Зельскай, бо пераканаыны: кожны мастак малюе роўна столькі, колькі яму маляваць наканавана. І так я суцяшаюся.

**Савіцкі і жарэбчык**

Сустракаю на праспекце Незалежнасці пейзажыста-натурыста Шкарубу: «Ты чаго без капелюша?» Пытаюся, бо некалькі разоў запар сустракаў Валеру ў чорным шыракаполым капелюшы. «Цёпла. Учора Савіцкага хавалі, і таксама цёпла было. Пра яго можна вялікую кнігу напісаць». — «Пра што пісаць? Мы ж з табою ведаем, што Савіцкі усё даўжэзнае жыццё правыконваў дзяржаўныя замовы. Адны замовы. Замовы і ніякіх іншых думак». — «Так і трэба напісаць пра мастака, які ахвяраваў жыццё дзяржаве. Дарэчы, Савіцкі распавядаў пра жарэбчыка... Не мне, але я дакладна перакажу сутнасць ягоных

слоў… Здарылася тое ў вёсцы, калі Савіцкі быў яшчэ маленькім хлопчыкам. Той хлопчык бегаў па лузе разам з маленечкім жарэбчыкам. Жарэбчык быў зусім-зусім маладзенькі. Хлопчык і жарэбчык набегаліся да стомы. Жарэбчык лёг адпачыць пад стог, на залацістую салому. Хлопчык лёг побач з ім. Яны ляжалі спіна да спіны. Яны так ляжалі і глядзелі на неба. Вечарэла. Бралася на холад. Але хлопчыку было цёпла побач з жарэбчыкам, і каню было цёпла побач з хлопчыкам… Больш нічога цёплага ў жыцці і не было. Савіцкі так і сказаў, што, акрамя таго дня, нічога добрага ў жыцці не бачыў. Калі яго спыталі, чаму не напісаў светлую залатую карціну з хлопчыкам і жарэбчыкам пра вусцішнасць? Савіцкі на пытанне адказаў пытаннем. Каму яно трэба — маё, асабістае?» Я развітаўся з Валерам і задумаўся над гісторыяй хлопчыка з жарэбчыкам. На першы погляд, яна вельмі кранальная. Па малюнку гэта выдатны мультыплікацыйны і коміксавы сюжэт. Нешта ў ім ёсць антычнае, нешта кентаўраствараральнае, нават манументальнасць ёсць, і разам з гэтым гісторыя ненатуральная, нежывая, запазычаная. Хто і як яе сканструяваў — вядома, але да мяне яна прыйшла ўспамінам пра мастака-нябожчыка.

**Танк і раяль**

У Дом літаратараў прывезлі раяль. Паставілі яго ва ўнутраным двары, пад навесам. Добра — лета, добра — цёпла, добра — дні сухія. Але ж такі каштоўны інструмент не павінен на вуліцы стаяць, за гэта і перажываў савецкі белетрыст Іван Шамякін. Моцна, па-гаспадарску шчыра перажываў, а таму і бег на сваіх кароценькіх ножках за вялікім і хмурнатварым аматарам вольных вершаў Максімам Танкам. Бег і мармытаў: «Жэня, дык што з раялем? Жэня, ты — старшыня, табе вырашаць! Нельга, каб ён на вуліцы стаяў! Жэня…» Танк спыніўся, павярнуў свой сталёвы твар да Шамякіна і выдаў: «Сціхні, Ваня! Я верш складаю…»

**Сяргей і ціск**

Наведаў кардыёлага Сяргея. Паскардзіўся яму на боль у галаве, на высокі ціск і на кроў, якая ўцякае з мяне праз нос. Доктар пачаў запалохваць… Парвецца ў галаве сасуд, і будзеш ляжаць пятнаццаць гадоў у форме гародніны. На што я сказаў, што сыду хутка і лёгка. Сяргей здзівіўся, але здзіўленне прыхаваў і пачаў казаць пра лёс ды Бога. Я яго супакоіў, намякнуў, што ў мяне ёсць пэўныя дамоўленасці з прыродаю. Гумар, хай сабе па-медыцынску чырванаваты ды з водарам крыві, крыху выратоўвае ў такіх сітуацыях. Сяргей выпісаў пігулкі для паніжэння ціску і папрасіў, каб я ўсё ж здаў аналіз крыві.

## Бітаў і Мартысевіч

Прэзідэнт Рускага пэн-цэнтра Андрэй Бітаў чацвёртага сакавіка біў нейкую Святлану. Намесніца старшыні Беларускага пэн-цэнтра Марыя Мартысевіч дзявятага сакавіка біла скандалюжную крытыкесу Галю. Каго і за што б'юць кіраўнікі пэн-цэнтраў? Як чалавек, які ўсё сваё творчае жыццё займаецца дэтэктывамі і вывучэннем матывацый у паводзінах ахвяр і злачынцаў, паўтару ў сто першы раз для маладасведчаных: ахвяра вінаватая заўжды. Іншая рэч, у якой ступені ахвяры вінаватыя ў гэтых двух выпадках. На мой розум, ахвяры нахабна і свядома справакавалі бойкі. Пісьменнікі пабілі графаманаў. Творчая слабкасць і ненатольная прага таннай вядомасці загнала графаманш на шлях дуротных правакацыяў. Логіка падзей раней ці пазней прывядзе Святлану і Галіну ў цёмны закутак, дзе іх будуць зноў-наноў моцна біць, ім наканавана быць пабітымі за сляпое нахабства і невылечную бяздарнасць. Калі правакатаршы давядуць справы да судоў, што верагодна, і суддзі пакараюць Марыю Мартысевіч і Андрэя Бітава, нянавісць літаратараў да мярзотнай графаманіі ўзрасце шматкроць. Так што ў кожным разе вынікі гэтых боек будуць станоўчыя як для літаратуры, так і для маралі. І, безумоўна, Марыйку і Андрэя Бітава мне вельмі шкада.

## Бёль, кава і цыгарэты

Замест «Генрых Бёль» карціць сказаць — Генрых Боль, так больш правільна прагучыць па-беларуску пісьменніцкае прозвішча, як і замест «паэт Брэхт» часам чуецца — паэт Брэх. Экспрэсіянізм жыве ў кожным літаратары Германіі. Наканаванне. «Я памятаю голас, які прамовіў: «Натуральная кава і дармовыя цыгарэты — гэта дакладныя прыкметы вайны,» — піша ў сваім раннім апавяданні «Калі пачалася вайна» нямецкі салдат Боль. Я ж ніколі не спадзяваўся, што падчас вайны атрымаю каву натуральную, але надзея на дармовыя цыгарэты заўжды жыла. Часцяком мне ўяўлялася вайна, сыры акоп і сіні тытунёвы дым таннай цыгарэты. Цяпер, перачытаўшы «Калі пачалася вайна», я зноў апынуўся ва ўяўным глыбокім акопе, але без кавы і без цыгарэты.

## Саламянае сонца

Народныя выразы кшталту «залатое сонца» і «срэбная раса», «рубінавае віно» ды «ізумрудная елка» заўжды насцярожвалі мяне як мастака. Людзі шчодра выкарыстоўвалі самыя каштоўныя матэрыялы для надавання важкасці і значнасці самым паўсядзённым з'явам і рэчам. Кажучы пра залатое сонца і залатое ці мядовае неба, чалавек падкрэслівае важнасць гэтага неба для сябе ды іншых. Нават на салому селянін можа сказаць «залатая». Іншая справа, калі той жа

селянін выкарыстоўвае азначэнне «саламяны». Згадайма саламяную ўдаву — жанчыну, якая знаходзіцца ў часовай разлуцы з мужам. Тут з дапамогаю азначэння «саламяны» жанчыну зрабілі легкадумнай і легкаважнай. З яе нібыта выграблі сапраўднасць. Засталася лёгкадаступная танная лялька. Для мяне яна малюецца як аголеная плацінавая бландзінка пад саламяным сонцам. Зрэшты, большасць маіх знаёмых жыве і памірае не пад залатым, а якраз пад саламяным сонцам.

**Цаа Чжы і кніга**

Старажытны кітайскі паэт Цаа Чжы ў вершы «Белы скакун» прамовіў:

*«У кнізе Герояў*
*Імёны тых,*
*Хто Радзіме аддаў*
*Сэрца сваё…»*

Паэт прамовіў, а мы паўтараем. Такія радкі самі паўтараюцца праз нас, як рэха.

**Удзячнасць і цемрадзь**

У сваіх творах я шмат калі і шмат каму выказваў падзяку. Збольшага ў спіс людзей, якім я публічна дзячыў, трапілі настаўнікі і выкладчыкі, усе як адзін старэйшыя і значна старэйшыя за мяне. Яшчэ я пісаў добрыя словы пра сваякоў ды сяброў, любімых ды каханых, што прадказальна і зразумела. Часам я выказваў сваю прыхільнасць да бацькаўшчыны, радзімы і яе прыроды. Толькі станоўчага ў маіх тэкстах значна меней, чым адмоўнага, бо святла навокал значна менш, чым цемрадзі. Маленькія зоркі ззяюць у бясконцай чорнай пустэльні.

**Ван Гог і дзьмухаўцы**

Вяртаючыся са студыі, я пабачыў пад плотам вінзавода круглыя залаціста-жоўтыя кветкі дзьмухаўцоў. Было сонечна, так сонечна і ясна, як бывае толькі напрыканцы красавіка. На дрэвах толькі-толькі пачала з'яўляцца пяшчотная лістота, а ў траве ўжо зазалаціліся дзьмухаўцы. Я назбіраў невялічкі букет, дома паставіў яго ў маленькі гліняны збанок і напісаў такі нацюрморт акварэллю на аркушы са школьнага сшытка ў клетку. Свой малазграбны жывапіс я падараваў маці. Яна сказала, што мае залатыя дзьмухаўцы нагадваюць ёй сланечнікі Ван Гога. Я радаваўся, мне было дзевяць.

**Радаўніца і пахілены крыж**

Сонечная Радаўніца. Пайшоў я на Кальварыю, адведаў магілы сваякоў і знаёмых, пачуў гісторыю пра жаночую надзвычайную прыгажосць. Старая над пахіленым крыжам распавядала сваёй унучцы: «У нашай сям'і яна самая прыгожая была. Такой прыгожай

жанчыны ў нашым родзе раней ніколі не было. Усе звычайныя, а яна нарадзілася прыгажуняй. Ёй зайздросцілі. Замуж яна выйшла за такога ж, як і сама, прыгажуна. Ён пажыў з ёй можа з год і кінуў. Яна не вытрывала гэткіх здрады з абразаю і павесілася. Знікла з нашай сям'і прыгажосць, як і не было». Муж старой апавядальніцы разліў гарэлку ў два кілішкі, і яны — дзед і баба — выпілі за спакой душы абражанай прыгажуні.

## Ала і Валянцін

Валянцін палюбліваў Алу. Яна сплочвала яму таемнай узаемнасцю. Так яны пралюбіліся ды пракахаліся гадоў трыццаць, калі не болей. За гэты час Ала паспела пахаваць двух мужоў. «Можаш не верыць, але я не змог запомніць твары мужоў. Яна ўвесь час распавядала пра сваіх мужчын. Казала пра першага, які доўга і цяжка хварэў; казала пра другога, які памёр раптоўна. Я іх шмат разоў бачыў з Алаю, а твары не запомніў. Чаму?» — Валянцін задаў пытанне, на якое не адразу знайшоўся адказ. Тады я нічога не сказаў яму, а цяпер думаю: Валянцін, калі глядзеў на Алу з мужам, бачыў побач з ёю толькі сябе.

## Гаварухін і стыль

Расійскі рэжысёр Гаварухін напрыканцы існавання савецкай імперыі зняў фільм пра яе бытаванне. Кінастужка мела красамоўны назоў — «Так жыць нельга». Імперыя разбурылася, бо частка яе насельніцтва і напраўду лічыла, што так, як жылося ў СССР, жыць бесперспектыўна, небяспечна і шкодна. Больш як дваццаць гадоў прамінула з часоў прэм'еры гаварухінскага фільма. На добры лад пра яго ўсе мусілі забыцца, а ён усё не забываецца ды не забываецца, бо ледзь не кожная другая навіна з Расіі можа ісці пад кідкім загалоўкам «Так жыць нельга». Таму мне і падумалася: «Так жыць нельга» — гэта не толькі назва кінастужкі часоў перабудовы, гэта назва стылю жыцця, які пануе ў Расіі апошнія сто гадоў як мінімум.

## Радзіма і барахло

Пераважная большасць мясцовых гісторыкаў спрабуе зляпіць вобраз Радзімы з трухлявага барахла. Большасць тутэйшых палітыкаў абапіраецца на панацяганае гісторыкамі рыззё і барахло. У выніку такіх нягеглых маніпуляцый замест Радзімы мы бачым нешта накшталт зомбі ў тэатральных дэкарацыях з пазалеташняга сезона. Для мяне Радзіма — подых свежага ветра ў беларускім краявідзе. Без натуральнага глытка свежага беларускага паветра лічу ўсе вобразы нашай Радзімы лжывымі.

## Незваротнасць і любімыя

Час цячэ, і ўсё больш і больш дарагіх табе людзей апынаецца ў незваротнасці. Ты разумееш, што большасці з іх зрабілася сумна сярод нас — чужых, варожых, з жорсткім сэрцам. Людзі сыходзяць

у незваротнасць яшчэ і з-за таго, што шмат блізкіх ім людзей ужо знаходзіцца там.

### Менандр і голас

Візантыйскі кампілятар Іаан Стабей у кнігу «Кветнік, ці Зборнік выказванняў» уключыў і такія радкі з камедыі Менандра:

*Мы за такога голас падаваць павінны*
*Аратара, чыя прамова моцная не злосцю,*
*А непадробнаю сумленнасцю прасякнута…*

З гэтых радкоў вынікае: Менандр быў пераканаНы, што сумленнасць не падробіш. Безумоўна, Менандр меў рацыю. Іншая справа, мы і праз паўтары тысячы гадоў пасля Менандра назіраем бясконцыя спробы аратараў выглядаць сумленна са сваімі хлуслівымі прамовамі ды лжывымі зваротамі да людзей.

### Пра дзяржавы і Радзіму

Для сябе чалавек выбірае лепшае, а для дзяржавы пакідае горшае. А для Радзімы? Для Радзімы, як і для радзіны, ён можа ахвяраваць сваім найлепшым і нават сабою. Таму дзяржава намагаецца прыняць аблічча Радзімы, але ў яе гэта не заўжды атрымліваецца. А нават калі і атрымліваецца, яна не робіцца Радзімай, а застаецца ўсё адно жорсткай ды рацыянальнай дзяржавай. Найгоршы варыянт у стасунках чалавека і дзяржавы той, калі чужая дзяржава робіць для тваёй Радзімы з яе роднай культурай больш, чым дзяржава свая. Толькі я такога найгоршага варыянта не бачыў у практыках, адно чуў пра іх у тэорыях. Зазвычай чужая дзяржава, як і чужаніца, толькі абяцае быць лепшай за сваю і, як усе дзяржавы без выняткаў, падманвае дзеля ўласнай выгоды.

### Дзяўчынка-старая

У маім двары жыве Дзяўчынка-старая. Яна была дзяўчынкаю, крыху падрасла і зрабілася старою. Яшчэ ў пазамінулым годзе яна гуляла з дзецьмі ў пясочніцы, а сёння сядзіць разам са старымі бабулямі на прыпад’езднай лаве. Яна крыху «ку-ку», і яе шкада. Днямі яе збіў легкавік. Каб не аб’язджаць увесь наш вялікі прывакзальны квартал з процьмай святлафораў, машыны пруцца праз двор. Яны едуць па двары, як па вуліцы. Не дзіва, што Дзяўчынка-старая трапіла пад колы. Дзякуй лёсу, усё абышлося лёгкімі пашкоджанямі. Дзяўчынка-старая зноў сядзіць на лаве, яна амаль такая, як астатнія бабулькі, толькі ў яе ўсё яшчэ няма кавенькі.

### Косік і акуляры

Правінцыйны бухгалтар Шура Косік у маладым веку пачаў лысець. З-за свайго заўчаснага аблысення бухгалтар моцна занерваваўся і заперажываў. Ты сядзіш за сталом, а ўсе бачаць безабаронную аголенасць твайго бляклага цемені! Гарачы сорам ахоплівае Шуру пад

чужымі позіркамі. Ён уставаў з-за стала, але гэта не дапамагала, бо росту ў Косіку было замала, каб хоць крыху ўзняцца над суразмоўцамі. Каб хоць неяк кампенсаваць страту валасоў на цемені, бухгалтар Косік адгадаваў попельнаколерную бародку. Але і казлінабародасць не супакоіла пляшывага нізкарослага бухгалтара. Штораніцы па цэлай гадзіне Шура разглядаў у розных люстэрках сваю рэдзенькую прычоску. Ён старанна ўглядаўся ў кожны валасок, асцярожна торгаў яго, правяраючы, ці не спыніўся працэс аблысення. Працэс лысення працягваўся, і разам з гэтым працэсам цягнуліся пакуты правінцыйнага бухгалтара з Жодзіна — Шуры Косіка. Яны спыніліся раптоўна. Косік зранку зазірнуў у люстэрка і пабачыў замест сябе каламутную пляміну. Ён працёр далонёю шкло, але затуманенасць не прапала. Тут Шура і зразумеў, што страчвае зрок. Цяпер яму было не да праплешыны на галаве. Косік паскакаў да афтальмолага. Яму падабралі акуляры з тоўстымі, як у тэатральнага бінокля, лінзамі. Праз акуляры-біноклі бухгалтар зноў змог бачыць свае пазаганяныя ў сятчасты «іксэль» працоўныя лічбы. Вяртанне лічбаў моцна парадавала Косіка, прычым так моцна, што ён перастаў перажываць з-за свайго заўчаснага аблысення.

**Дубоўка і сібіракі з казакамі**

Расійская імперыя, акрамя ўласна расіян, мае і такіх праўдзіва-рускіх людзей, як сібіракі ды казакі. Нават калі казакі з сібіракамі ў нечым і не пагаджаліся са сваімі сталіцамі, гэта мала адбівалася і адбіваецца на стаўленні да іх Масквы і Санкт-Пецярбурга. Сталіцы заўжды любілі і шанавалі сваіх адданых казакоў і сібіракоў. Між іншым, беларус можа лёгка запісацца ў сібіракі. Шмат хто ў часы маіх дзядоў ды прадзедаў рознымі шляхамі апынуўся ў Сібіры. Многія з іх доўгі час заставаліся там і параібіліся сібіракамі. Наш выдатны паэт Уладзімір Дубоўка схаваўся ў белабародым сібіраку і, дзякуючы такой метамарфозе, застаўся жывы. Каб хто з беларусаў хаваўся ў казака, я не чуў.

**Алег і мурашнік**

Цяплее на вуліцы, вясновыя настроі з'яўляюцца ў людзей, і ў кавярні «Акварыум» усё больш і больш знаёмых наведвальнікаў. Зімою можна зайсці туды і не пабачыць ніводнага вядомага табе твара. А ў красавіку ды траўні за адзін стол збіраюцца па чацвёра-пяцёра знаёмых, дый яшчэ і за суседнімі столікамі частуюцца нечужыя людзі. Учора я сядзеў у нашай кавярні з Алегам. Ён сказаў, што любіць жывёл больш, чым людзей. Да людзей Алег ставіцца «так-сяк», без асаблівай нянавісці, але і без прыхільнасці. Стаматолагаў ён залічыў да садыстаў, хірургаў — да адмарозкаў, палітыкаў таксама засунуў у лагер да неадэкватаў. Шмат каму дасталося па арэхах. Я спрабаваў

людзей бараніць: «Алег, даўно на цябе вялікі сабака не кідаўся і не кусаў!» Мой суразмоўца пагадзіўся з тым, што шалёны сабака — з'ява гадкая і небяспечная. Але гнюсных людзей ён ведае і сустракаў значна болей, чым шалёных сабак. «Адны валютчыкі-кідалы чаго вартыя? Зараз, калі курсы валют захістаюцца, з сутарэнняў мінуўшчыны павылазяць валютчыкі, пачнуць дурыць народ, і будзе сярод валютчыкаў розных кідал больш, чым шалёных пачвар сярод сабак!» Дзеля прыстойнасці я яшчэ крыху паабараняў чалавека з ягонымі інфляцыямі, інфлюэнцамі ды інфекцыйнымі бальніцамі. Дома я зноў задумаўся пра чалавека і спытаў сябе: «З кім з людзей ты хацеў бы пабачыцца? У цябе ёсць толькі адзін варыянт. Толькі адна сустрэча! Кажы хутка! Час твой сканчаецца!» — «Мурашнік!» Замест чалавечага твара мне захацелася паглядзець, як раніцаю прачынаецца вялікі мурашнік. Я ведаю адзін вельмі вялікі. Цэлая мурашыная «Вавілонская вежа» ўзвышаецца на беразе крынічнай рэчкі Іслач. Золак у лесе, мурашнік прачынаецца, вясна…

**Бронік і страчанае**

Завуркатала ў страўніку. Здараецца. Завуркатала, і я пачуў з далёкага дзяцінства голас дзеда Броніка: «Кішкі марша граюць! Трэба нам, Валодзя, моцна пад'есці, каб добра паспаць. Калі слаба паясі, будзе пад галаву нізка спаць. Ядзя, стаў вячэру на стол!» Баба Ядзя накладала-налівала нам у жалезныя эмаліраваныя талеркі скрылі кіслага малака. Дзед быў паранены ў жывот і штовечар еў лыжкаю кіслае малако з белым хлебам. Да малака з хлебам прывучыўся і я. Чорны хлеб я любіў больш за белы. Чорны быў смачнейшы. Дзед сядзеў на шырокім, як на двух, зэдлі. Для мяне быў зроблены зусім маленечкі зэдлічак, які стаўляўся на лаву, каб я мог сядзець за сталом, як і дарослыя. Стол наш стаяў насупраць печы, побач з якою на нізенькай табурэтачцы ўзвышалася выварка з вадою. Акром печы, у пакоі яшчэ быў вялікі буфет з зашклёнымі дзверцамі. Вячэралі мы ўтраіх: дзед Бронік, баба Ядзя і я. Ад таго часу ў маім цяперашнім жыцці мала што засталося. Баба з дзедам сышлі ў лепшы свет яшчэ на самым пачатку сямідзясятых. Дзядзька Антон зрабіў у доме паравое ацяпленне і разабраў печ. Буфет пераставілі з пакоя ў кладоўку. Зэдлікі і лаву памянялі на крэслы. Варыць-гатаваць пачалі на газавай пліце, якую паставілі ў прыбудаванай верандзе. Туды і вадаправод правялі, і знікла патрэба трымаць у пакоі поўную выварку вады. Кіслае малако я даўно не ем, хіба што ёгурт…

**Малішэўскі і неандэртальцы**

Альгерд Малішэўскі называў неандэртальцамі тых з мастакоў, хто прызнаваў толькі каштоўнасці мінулага, а да сучасных адкрыццяў і пошукаў ставіўся агрэсіўна і варожа. Альгерд казаў, што мастакі-

неандэртальцы нават знешне падобны да валасататварых і вузкалобых прашчураў. Я лёгка пагаджаўся на тое, што старэйшыя мастакі-кансерватары падобныя да неандэртальцаў, але маладзейшыя з іх не мелі выразнага падабенства са старажытным паўчалавекам. Цяпер, калі старэйшыя мастакі-неандэртальцы пакінулі наш добры свет, а тыя маладзейшыя моцна пасталелі і пастарэлі, я бачу, як іх кансерватыўныя погляды паадбіваліся на знешнасці, як праявілася неандэртальства. Таму ўсё часцей і часцей я згадваю параду Малішэўскага. Ён казаў, што трэба выцягваць сябе з багны мінуўшчыны, як той знакаміты барон Мюнхгаўзен выцягваў сам сябе за валасы з гразкага балота.

### Гарык і букет

У Гарыка смярдзелі ногі. Наша агульная знаёмая Зоя сказала: «Гарык, ад цябе ідзе цяжкі дух, нібыта ад старой патрэсканай печы!» Наш Гарык перажываў з-за сваіх смуродлівых ног. Ён хадзіў да доктара, ён пакрываў падэшвы мазямі, ён мыў ступакі па тры разы на дзень. Нічога не дапамагала. Ад Гарыка сыходзілі задушлівыя пахі свежай магілы і падсохлай на ветры чорнай зямлі. Жанчыны не любілі Гарыка. Але знайшлася тая, што палюбіла, што выйшла за яго і нарадзіла яму дзіця. Здараецца і такое дзіва. У жонкі Гарыка слабачуйны нос. Можна сказаць, што яна зусім не чуе водараў і смуродаў. Нягледзячы на гэты хіб, яна любіць кветкі. Гарык купляе жонцы букеты, а духі не купляе. Нашто?

### Нюша і малочніца

Чытаю ў электрычцы насценны рэкламны заклік «Скажы малочніцы не!» і згадваю Нюшу з яе вечнай малочніцай. Нюша страшэнна баіцца розных хвароб, асабліва яна палохаецца хвароб сараматных, якія ўбіваюцца ў палавыя органы. Таму з сэксам у Нюшы здараюцца перабоі, а хваробы ўсё адно да яе чапляюцца ды лепяцца. Малочніцу сваю яна залечвала ўжо некалькі разоў, а тая зноў з'яўлялася. Я нават спачуваў Нюшы, па-сяброўску. Сапраўды, шкада цётку. Такое адчуванне складалася, што ўсе яе навыдумляныя хваробныя страхі ў гэтай трыклятай малочніцы і матэрыялізоўваліся. Яшчэ раз я перачытаў заклік «Скажы малочніцы не!» і падумаў: цяпер у слоўніку трэба зрабіць рэдакцыю — памяняць месцамі першае значэнне слова з другім, бо малочніца як хвароба стала больш вядомай за малочніцу як жанчыну — прадавачку малака. І трэцяя думка наведала мяне: ну не трэба ў нашым шматпакутным метро вешаць заклікі кшталту «Скажы малочніцы не!».

### Міхась і ягоны дзед

У цягніку пазнаёміўся са старым Міхасём. Па дарозе з Мінска ў Вільню ён шмат чаго параспавядаў. Асабліва кранальна ён згадваў і

казаў пра свайго дзеда, які лічыў, што кожны чалавек павінен быць сам сабе доктарам. «Узмакрэў? Трэба абсохнуць!» — любіў паўтараць дзед Міхася. Аднойчы дзед з унукам вырашылі схадзіць у грыбы. Усталі рана, яшчэ цёмна было. Дзед доўга апранаўся, марудна ўздзяваў споднія порткі, павольна завязваў на іх матузкі, няспешна абуваўся. Калі дзед апрануўся і накрыў галаву кепкаю, за вокнамі і сонца з'явілася. Міхась адчыніў дзверы, каб ісці ў лес, а дзед вазьмі ды ўздыхні: «Узмакрэў. Трэба абсохнуць...» Сказаў і павесіў кепку на цвік. Унук тады ледзь не заплакаў: «Дзеду, вы ж паўгадзіны апраналіся!» — «Нічога страшнага, як апрануўся, так і распрануся». Дзед разуўся, зняў нагавіцы і лёг на лаву пры печы. «Трэба абсохнуць», — сказаў і заснуў.

### Міхась і вожыкі

«Мяне мала што цікавіць у жыцці. Непадалёк ад Мінска я паставіў дамок, там ад снегу і да снегу жыву. Мне семдзесят сёмы год ідзе, і хвалюе мяне толькі прырода з яе пташкамі ды кветкамі. Уночы, калі кветкі з пташкамі засынаюць, я люблю карміць вожыкаў. Бяру сподак, наліваю малака, стаўлю пасярод двара, чакаю. Вялікая вожычыха прыводзіць да малака траіх важанятаў. Спачатку п'е сама, потым і яны пап'юць малачка. Свячу на іх ліхтарыкам, разглядаю. Душа радуецца. Святла майго яны не баяцца. Вып'юць важаняты малако, вышнуруюцца за вожычыхаю і сыходзяць. Гэта мінулым летам я паіў вожыкаў малачком. Цяпер чакаю, можа і сёлета завітаюць на малако, парадуюць мяне, старога».

### Ластоўскі і чужына

«...Часам на чужыне ведаюць аб нас толькі тое, што напішуць аб нас нашыя ворагі», — кажа Вацлаў Ластоўскі, калі разважае пра беларуса на чужыне. Трапнае назіранне. Варта зрабіць яго больш экспрэсіўным, сказаўшы: збольшага на чужыне пра нас ведаюць тое, што пішуць пра нас ворагі і здраднікі.

### Маці і цемра

Маці паскардзілася, што ёй не хапае татавага храпення. Яно яе раздражняла, шмат начэй яна з-за таго храпення не магла заснуць, а цяпер тое бацькава пахрапванне ўспамінаецца зусім інакш... Прачынаешся, ўслухоўваешся ў цемру і здаецца, што зараз пачуеш храп. Пачуеш і скажаш: «Слава, ты так храпіш, што я заснуць не магу». Ён прачнецца, павернецца на другі бок і скажа: «Ніна, ты адразу не засынай, бо тады я з-за твайго храпення да раніцы спаць не буду. Давай мы паспрабуем разам заснуць...» Таты амаль дзесяць гадоў з намі няма, а маці ўсё ўслухоўваецца ў цемру.

**Чаргаванне месяцаў і стыхій**

Красавік звычайна напоўнены сонечнасцю да краёў. Сонечнасць у празрыстым красавіку такая пякучая, што яе можна называць вогненнай. Красавік — вогненны месяц. Сакавік, безумоўна, месяц вады, месяц плыняў ды ручаінаў. Травень — месяц духмянасцяў, месяц зямлі і квецені. Чэрвень — паветраны месяц. Ліпень цякучы, сакавіты, навальнічны, вадзяны. Жнівень, як і красавік, вогненны, пыльны, выпалены залатым і чырвоным сонцам. Зямля ў верасні збірае плады, збірае ўраджаі. Верасень зямны. Кастрычнік уздыхае з палёгкаю пасля працоўнага лета, у кастрычніку зноў лёгка і вольна дыхаецца. Лістапад змрочны ў сваіх доўгіх і халодных дажджах, змрочны ў вільготных ямінах ды ледзяных лужынах. У снежні пачынаюцца пякучыя маразы, яны запальваюць чырвань на шчоках. Студзень пад снегам глухі, як зямля. Люты ззяе ледзянымі дыяментамі ў крыштальным паветры.

**Эрыка і Міша**

Рэжысёр з Чэхіі Эрыка Гайкова цэлы дзень праздымала дзесяціхвілінны дакументальны фільм пра мяне як паэта Адама Глобуса, пра мяне як выдаўца Адамчыка, і пра мяне як мастака Уладзіміра. Глобус з Адамчыкам паводзілі сябе сціпла, а вось Уладзімір запатрабаваў у студыю натуршчыцу. Я лічу, што мастак меў права на такое патрабаванне. Толькі заўсёдная і безадмоўная натуршчыца Лера не пагадзілася пазіраваць перад камераю. Лічу, што і яна мела такое права. У нашай краіне мастак і натуршчыца яшчэ маюць такія-сякія правы. Што невымоўна радуе і Глобуса, і Адамчыка, і Уладзіміра, і Эстрагона… Хто такі Эстрагон? Мой любімы персанаж у тэатры абсурду, створаным Сэмюэлем Бекетам. У яго на сцэне працавала пара — Уладзімір і Эстрагон. Яны чакалі Бога… Яны чакалі бОга, якога называлі ГадО. Можа яны і не чакалі бОга, а чакалі толькі таго, хто не прыйшоў, бо меў поўнае права не прыйсці, як і натуршчыца Лера. Яна не выйшла на сцэну, яна не з’явілася на здымачную пляцоўку, дзе ўсім кіравала блакітнавокая Эрыка Гайкова. Эрыка паглядзела на сваю здымачную групу і прызначыла на ролю натуры Мішу. «Памочнік рэжысёра Міша будзе пазіраваць?» — «Хто супраць?» — «Я за!» Міша — Міхаэла, шыкоўная доўгавалосая брунетка села на чырвонае крэсла і пачала глядзець у столь. Мастак Уладзімір маляваў. Малюнак атрымаўся няўдалы. Я намаляваў Мішу яшчэ два разы. Выйшла пасрэдна, але Эрыка ўпадабала малюнкі, а Міша іх папрасіла, а я іх падарыў. Тады Міша выплаціла мне ганарар за здымачны дзень. Як на трох, дык і невялікая выйшла сума, а на аднаго дык і добра. Я сабраў ўсе свае вобразы ў адно цэлае цела і адчуў эратычную лёгкасць быцця.

## Ігар і мяса кенгураняці

Ігар перабраўся з нашай бязмежнай Еўразіі ажно ў Аўстралію. Ягонай жонцы надакучыла тутэйшае жыццё-быццё, яна і павяла мужа ў далёкі свет. Тут Ігар працаваў архітэктарам і падпрацоўваў кніжным графікам. Тамака ён працуе і падпрацоўвае на будоўлях, але моцна не наракае на лёс. Зрэшты, ён і тут не моцна выхваляўся сваімі стылевымі фотакалажамі. Сціплы чалавек. З такім добра ўвечары пасядзець у кавярні і паслухаць расповеды пра няблізкі кантынент. Мяне заўжды цікавіў смак кенгураняці. Гэта ўсё з-за Крукава, з якім я вучыўся ў інстытуце. Крукаў прачытаў у крымінальнай хроніцы нататку пра забойства кенгураняці ў заацырку. Падлеткі забілі аўстралійскую жывёлу, падсмажылі і з'елі. Крукаў загарэўся жаданнем пакаштаваць кенгуру. Але тады мы ўсе сядзелі за жалезнай заслонаю і жывога кенгуру бачылі толькі ў клетцы. Цяпер я з Ігарам сяджу на праспекце Незалежнасці, п'ю каву і слухаю пра тое, што мяса кенгураняці падобнае да мяса баранчыка, ён, як і ягня, скубе траву, таму і мяса ў іх падобнае. Цікава. Я заўжды падазраваў, што кенгураня падобна да ягняці Божага, але не ведаў, што асноўнае падабенства — у смаку мяса.

## Іваноў і в'етнамцы

**ІВАНОЎ КІНУЎ ПАЛІЦЬ, ПАЧАЎ ШМАТ ЕСЦІ І НАБРАЎ ЛІШНІХ ДВАЦЦАЦЬ КІЛАГРАМАЎ. ТАК ЗАЗВЫЧАЙ І БЫВАЕ: КІНЕШ ПАЛІЦЬ І РАСТАЎСЦЕЕШ. ІВАНОЎ І ТАК БЫЎ ЧАЛАВЕКАМ У ЦЕЛЕ, А ТУТ І ЗУСІМ РАЗДАБРЭЎ. ЁН НАВАТ НА ДЫЕТЫ САДЗІЎСЯ, НАВАТ АД САЛОДКАГА І МУЧНОГА АДМАЎЛЯЎСЯ, АЛЕ ЛІШНІЯ ДВАЦЦАЦЬ ЯК БЫЛІ НА ІВАНОВУ, ТАК НА ІВАНОВУ І ЗАСТАЛІСЯ. ЗАТОЕ ЁН ПАРАДАВАЎСЯ Ў В'ЕТНАМЕ. ТАМ ЁСЦЬ ПАВЕР'Е: КАЛІ ПАТРЫМАЕШСЯ ЗА ТОЎСТАГА І КАЛІ З ІМ СФАТАГРАФУЕШСЯ, БУДЗЕ ТАБЕ ВЯЛІКАЕ В'ЕТНАМСКАЕ ШЧАСЦЕ. ІВАНОЎ У В'ЕТНАМЕ АДЧУВАЎ СЯБЕ ЗОРКАЮ, ПРА ШТО САМ МНЕ І РАСПАВЯДАЎ З ШЫРОЗНАЙ ФОТАМАДЭЛЬНАЙ УСМЕШКАЮ.**

## Водгукі радасці

Безнагодная радаснасць і не радасць зусім, а праява скалазубнага глупства. Чалавек можа выскаляцца і сутаргава пакурчвацца ў пахіхікванні, а радасці ў ім ні каліва не будзе. Радасць, як і гора, мусіць мець нагоду. У мяне радасць знітавана з водгукам на дзіва. Пабачыў дзівоснае ці сутыкнуўся з нечаканай асветленасцю нават самай звычайнай рэчы і ўзрадаваўся; а радасць, каб не знікнуць імгнненa, пераліваецца праз мяне ў літаратурныя ды мастацкія формы.

## Рэйзман і запрашэнні

Куды ні глянь — паўсюль запрашэнні. Усе ўсіх некуды запрашаюць: на хрэсьбіны, на выставы, у крамы, на прэзентацыі, на аўкцыёны, на канцэрты, на распродажы, на падключэнні, на службу, на выбары, на флэшмобы, на плошчу, на дні народзінаў, на хаўтуры, у рэшце рэшт. Адкрываеш паштовую скрынку і бачыш букеты запрашэнняў. Але сапраўдных, цёплых, чалавечых запрашэнняў сярод іх амаль няма. Іншая рэч, калі нехта асабіста цябе запрасіў праз тэлефон ці праз густоўную паштоўку ў папяровай капэрце. А яшчэ лепей, калі чалавек запрашае цябе, гледзячы ў вочы. Такое запрашэнне помніцца доўга, нават калі ты яго і не прыняў. Так Рэйзман запрасіў мяне ў Ізраіль. Мы выпадкова сустрэліся ў мінскім двары, і ён узрадаваўся: «Валодзя, як ты? Што ты? Дзе ты? Я тое-сёе чытаў, нешта ведаю, у цябе ёсць талент, а ў мяне ёсць белы дом на беразе мора. Праз вокны мора відаць. Можна ляжаць на скураной канапе і глядзець на мора. Тэлефануй. Прыязджай. Кладзіся на канапу і глядзі на мора…» З Рэйзманам я вучыўся ў адным класе. У школе мы нават сябравалі. Шляхі нашыя разышліся ў розныя бакі і праходзяць у розных краінах. Але ж скрыжаваліся шляхі. Я атрымаў запрашэнне, і я яго вельмі цаню, але хутчэй за ўсё так і не выкарыстаю, як і большасць атрыманых запрашэнняў.

## Жонка і чарвяк сквапнасці

Адламалася ручка ад лядоўні, трэснула і развалілася на дзве часткі. Давялося ручку здымаць і выклікаць майстра. «Вы няправільна адчыняеце лядоўню. Каб вы асцярожна і акуратна яе адчынялі, ручка пратрымалася б сто гадоў. Цяперака вам давядзецца заплаціць за новую ручку сто тысяч». Жонка выслухала тыраду рамонтніка, і на яе напаў чарвяк сквапнасці. «За кавалак пластыку сто тысяч? Вы знарок робіце такія крохкія ручкі. Вы знарок ставіце ў лядоўні лямпачкі, якія імгненна перагараюць. Людзі заплацілі за дарагую лядоўню, а потым плацяць і плацяць за лямпачкі ды ручкі!» Давялося мне даваць жонцы статысячную паперку, каб утаймаваць чарвяка сквапнасці. Лядоўня з лямпачкай і ручкай мне падабаецца больш за лядоўню цёмную і без ручкі.

## Партрэты паэтаў

У маладосці на сценах свайго пакоя-майстэрні я развешваў партрэты сваіх любімых паэтаў і літаратараў: Апалінэр, Багдановіч, Гогаль, Бунін, Купала… Мне падабалася, калі іх твары побач, калі іх вочы глядзяць на падзеі новых часоў. Мне цікавей чыталася і перачытвалася лірыка, калі я ведаў у твар аўтара тэкстаў. Партрэты паэтаў і зараз упрыгожваюць мой кабінет: Колас, Стральцоў… Дзіўна

тое, што нікога з тых, каго любіў раней, я не разлюбіў, да старых толькі дадаліся новыя асветленыя талентам твары.

### Змагары і перамогі

Шмат хто са змагароў спрабуе выдаваць свае відавочныя паразы за перамогі. Такі падман нават спачування не выклікае. Цяжка глядзець на спіну барца, які атрымаў паразу. Такі барэц страціў сваю каштоўнасць. Але ён моўчкі нясе прэч свой цяжар, і ты яму міжволі спачуваеш. Ты не любіш паразы, але ўсё ж спачуваеш. Ілжывыя людзі не вартыя нават імгненных спачуванняў.

### Погляды на сваіх любімых

Некаторыя жанчыны глядзяць на свайго мужчыну, як на свойскую жывёлу невялікага памеру. «Ты — мой коцік», — кажа такая. Ёсць жанчыны, якія бачаць у мужчыну робата, машыну, механізм. «Які ты дужы, які ты прыгожы, як Тэрмінатар». Мужчыны часцяком бачаць у жанчыне расліну. «Ты — мая ружа». Трапляюцца такія мужчыны, што бачаць у жанчыне русалку, чароўную рыбу. «Ты — залатая рыбка». Усе яны і сапраўды — як кажуць, так і бачаць.

### Новыя «сяброўкі»

Як не п’еш, дык і этыкеткі на пляшках не разглядаеш. А тут стаяў у чарзе па бутэльку вады і міжволі прачытаў назву гарэлкі «Сяброўка». Мне стала добра. Як мы раней не здагадаліся бутэльку «сяброўкай» называць? У краме «сяброваk» было дзве: чырвоная і сіняя. Парадаваўся я за тых, хто можа яшчэ пасябраваць з такімі прыгажунямі.

### Тры ўмовы

У раздзеле пра гняўлівасць на старонках старажытнай кнігі «Дхамапада» ёсць такія словы: «Кажы праўду, не саступай гняўлівасці, калі цябе просяць, хай няшмат — дай. З дапамогаю гэтых трох умоў можна наблізіцца да багоў». Ці ёсць у мяне жаданне набліжацца да багоў? Няма. У мяне нават няма памкнення набліжацца да людзей, абцяжараных уладаю. Але мне падабаюцца тры названыя ўмовы. Казаць праўду я люблю і кажу. Сваю гняўлівасць я спрабую стрымліваць. Не заўсёды атрымліваецца, але я намагаюся быць спакойным. Просяць мяне шмат пра што, і я — хай няшмат — даю.

### Сяброўства і добрасуседства

Сябраваць і нават проста падтрымліваць добрыя ўзаемаадносіны з таленавітым чалавекам цяжка. Пра гэта шмат сказана і панапісана, бо ўсім цікава пачуць пра стасункі з людзьмі выдатнымі. З чалавекам звычайным яшчэ больш складана таварышаваць і жыць з ім у добрасуседстве, бо звычайнаму не прабачаецца тое, што можна даравацца і што даруецца таленавітаму. Прызнаць усіх людзей за таленавітых таксама не выпадае, таму што гэта відавочная хлусня.

## Альберт і хуткая дапамога

Здаецца, усе знаёмыя ведаюць, што я кінуў піць, але часам знаходзіцца за сталом той, хто пачынае ўгаворваць крышку выпіць. Адмаўляюся, ён настойвае. Тады я і кажу, што, калі вып'ю, магу пабіцца, магу каго ўдарыць без асаблівай нагоды. Такія паводзіны і былі адной з важкіх прычын, каб развітацца з чаркаю. Пасля такога прызнання мой сусед за сталом — Альберт Грышановіч — распавёў пра ўласную нагоду зменшыць штодзённую дозу. Некалі ён напіўся пасярод працоўнага дня і пайшоў на работу да жонкі. Тая працавала ў праектным інстытуце. У Грышановіча былі падазрэнні, што жонка фліртуе з інжынерам. Муж выказаў незадаволенасць фліртам. Жонка адпрэчыла і абвінавачванні ў здрадзе, і нават падазрэнні ў нейкім флірце яна адмаўляла. П'яны Альберт стукнуў непаслухмяную жонку. Жанчына павалілася і выцялася патыліцай аб каменную падлогу. З-пад яе галавы пацякла кроў. Утварылася вялізная лужына. Грышановіч утрупянеў. Супрацоўнікі інстытута выклікалі дактароў і міліцыянтаў. Непрытомную жанчыну разам з працверазелым мужам пад міліцэйскім канвоем павезлі ў бальніцу хуткай дапамогі. Хірург спрытна апрацаваў і зашыў рану. Жанчына апрытомела і заявіла, што сама няўдала ўпала і моцна разбілася. Міліцыянты адвялі Альберта ў сутарэнні. «Сто разоў скажаш «дзякуй» сваёй бабе. Трэба цябе ад… адлупіць, моцна адлупіць, каб запомніў, на ўсё жыццё запомніў, што бабу нельга біць. Часу на цябе няма і рукі пэцкаць не хочацца. Забірай сваю добрую бабу і валі…» Грышановіч казаў, што на ўсё жыццё запомніў гэтае здарэнне, і таму стараецца не напівацца. Я ўдакладніў пра гумовыя пальчаткі на міліцыянтах… Зазвычай міліцыянты ў бальніцы хуткай дапамогі ходзяць у белых гумовых пальчатках. Чужая кроў хворых людзей — рэч небяспечная. Альберт пальчаткі не помніў. Мусіць, гэта было даўно, і тады было паменей хворых на СНІД. А мяне, калі я апошні раз трапляў у тую бальніцу са сваім хворым вокам, найбольш уразілі якраз белыя гумовыя пальчаткі на міліцыянтах.

## Кароткачасовасць вечнасці

Кароткачасовае каханне ў спалоханага з напужанай, але менавіта ў ім адчуваецца подых вечнасці.

## Татаў чытач і лета

На праспекце спыніўся перакінуцца словам са знаёмым збіральнікам беларускага жывапісу. Нечакана для мяне ён сказаў, што на самым пачатку лета зноў перачытаў татава даўняе апавяданне «Пах летніх траў». Ён перачытвае гэтае апавяданне кожны год, бо і ў яго, як у таты майго, была заўсёдная дарога са сталіцы ў родную вёску. Тата дакладна апісаў настрой вяртання

дамоў. Вяртанне, пасля якога на нейкае імгненне табе здаецца, «што ты нідзе не быў, што жыў дома, што гэтае самае было ўчора, пазаўчора, год назад, два і болей…» Кнігу татавых апавяданняў «Міг бліскавіцы» я палюбіў з юнацтва і таксама шматкроць яе перачытваў. Пасля сустрэчы з татавым чытачом зноў прагартаў «Пах летніх траў», зноў спыніўся на фрагменце з сонечна-жоўтым лубінам: «Аўтобус страсяне — абарвуцца думкі. І будзеш зноў глядзець у акно, будуць мільгаць белыя слупкі — адзін за адным — ля мосціка, і здалёк на грудку будзе відаць лубін — увесь у цвеце, як сонца, і раптам ён запахне густым цяплом, лёгкаю пясчанаю зямлёю, і нехта, аж прыпаднімаючыся, скажа: «Ой, як хораша!» Пойдуць далёкія панурыя лясы…» Лета.

**Чытач і кніга**

Апошнім часам мы ўсё больш чытаем з экранаў, усё меншае месца займае папяровая кніга са сваёю вагой, са сваімі фактурамі і водарамі. Таму мяне так уразіў чытач, які зайшоў у кнігарню, узяў са стала вялікі фотаальбом, разгарнуў, абнюхаў старонкі і выдыхнуў задаволенае «ву-у-ух». Водар нядаўна надрукаванай кнігі люблю з дзяцінства: маці ў бібліятэках працавала, а я ў іх рос.

**Зламаны тэлефон**

Тэлефон зламаўся. Заціх, згас і не ўключыўся. Не ажыў. З кім не бывае. Калі пра каго іншага, дык і справядлівая заўвага. Усе ж з тэлефонамі ходзім. Усе пад тэлефоннымі вышкамі жывём. Але іншы — іншы, а ты — гэта ты. Гэта твой тэлефон сканаў. Змоўклі галасы любімых людзей. Згаслі партрэты з тварамі блізкіх. Працоўны працэс прыпыніўся. Ясна-ясна… Пабег, пераставіў сімку ў стары апарат, і праз якую гадзіну аднавіў сваю цэльнасць, хай не на ўсе сто адсоткаў, але на восемдзесят аднавіўся. І ўсё адно я не мог сам сабе не паспачуваць з такой нагоды, як смерць тэлефоннага апарата.

**Пекла і метро**

На тутэйшых прасторах вырасла цэлае пакаленне бацькоў, якія могуць крычаць дзецям, што тыя будуць гарэць у пекле. Адзін такі барадаты і доўгавалосы дзядзька крычаў сыну-падлетку пра пякельны агонь. Крычаў ён на станцыі метро «Плошча Перамогі», роў дурным голасам на хлопца, які гуляў на станцыі з футбольным мячом. Сын не слухаўся, пэўна, ён не баяўся падсмажыцца ў пекле. Тады барадач схапіў за руку жонку, страсянуў яе і сказаў сыну, што будзе біць ягоную маці, калі той не спыніць гульні з мячом. Жанчына пачала крычаць на сына, каб перадаў мячык бацьку, і адначасова зрабіла спробу вырвацца. З трэцяй спробы яна вызвалілася і пабегла на другі канец станцыі. Хлопец перастаў біць мячык нагамі, падхапіў яго і шпурнуў у бацьку. Мяч трапіў акурат у доўгавалосую галаву,

адскочыў і паляцеў на рэйкі. Барадач хрыпата засмяяўся, а ягоны сын заплакаў. У гэты момант падышла электрычка, усе дзейсныя асобы ў яе загрузіліся і паехалі ў бок станцыі «Кастрычніцкая». Мяч застаўся ляжаць за рэйкамі, на «Плошчы Перамогі».

**Воўка і разуменне**

«Разумееш, я не магу сказаць, што добра да цябе стаўлюся. Разумееш, усе казалі, якая ты скаціна, а я казаў, як і ўсе казалі. Усе абураліся тваімі паводзінамі, ну і я абураўся, разумееш? А тут раптам я ўсім скажу, што ты мой таварыш. Мяне ніхто не зразумее. Усе падумаюць, што я лгун». — «Скажы, што ты змяніў стаўленне да мяне. Раней кепска ставіўся, а цяпер — добра». — «Не магу. Ніяк не змагу, бо я жонцы і маці сваёй сказаў, што ты — свалата». — «Цяпер, Воўка, я цябе зразумеў. А насамрэч ты мяне паважаеш і любіш». — «Люблю і паважаю, ну ты ўсё разумееш».

**Жэнік і Вольга**

Жэнік паспрабаваў быў вылучыцца ў дэпутаты. Ніхто яму не прапаноўваў падтрымкі. Ніхто яму не раіў ісці на выбары ў гарсавет. Ніхто яго нават не натхняў на каляпалітычную дзейнасць. Сам! Сам выпхнуўся. Усё задумаў, запланаваў і пачаў здзяйсняць самастойна. Выглядала гэтая мітусня досыць камічна. З Жэніка пачалі пасмейвацца, пачалі кпіць, нават здзеклівыя выказванні загучалі ў бок самавылучэнца. Але самае дасціпнае і смешнае пра Жэніка напісала ягоная жонка Вольга: «Вадзіла Жэніка ў заасад. Паказвала яго малпам. Яны смяяліся». Чым бліжэй рабіліся выбары, тым больш жорстка людзі здзекаваліся з Жэніка. І тады ён выкарыстаў нечаканы прыём — пазваніў знаёмым і сказаў, што смяротна хворы, што ідзе на выбары, бо нічога і нікога больш не баіцца, бо губляць яму няма чаго. Жэніка пашкадавалі. На яго бурапенную дзейнасць і пустапарожнюю балбатню больш ніхто сур’ёзны не звяртаў увагі. Перад самымі выбарамі Жэнік зняў сваю кандыдатуру. Выбары прайшлі, пасля іх прайшлі яшчэ адны выбары, і яшчэ адны прайшлі. А Жэнік так і не памёр. Жэнік жыве. Хварэе, але жыве з Вольгаю, і паміраць у бліжэйшы час не збіраецца. Хай сабе жыве, толькі веры Жэніку больш няма і не будзе.

**Сяргей і падмінск**

Сяргей Малішэўскі з гонарам апавядаў, як ён схадзіў у бальніцу, і там высветлілася, што ў яго чыстыя лёгкія. «Вы што, у вёсцы жывяце?» — са здзіўленнем запытаў доктар. Сяргей з пачуццём уласнай годнасці паведаміў, што жыве ён пад Мінскам, у Раўбічах. Як на маё вока, дык адразу відаць, што Сяргей не жыве ў горадзе. Чаравікі ды нагавіцы дарожнай гразззю пазаляпаныя. Загар на руках і твары сялянскі. Чарната пад пазногцямі. Але і вяскоўцам Сяргея

Малішэўскага не назавеш. Ён жыхар калястралічны, наш — падмінскі. Такіх, не вясковых і не гарадскіх, ужо шмат, і выглядае на тое, што такіх падмінскіх будзе сярод нас яшчэ болей.

### Прыгаў і каўбасныя абрэзкі

Большасць нашых мастакоў любіла халтурыць. Паехаў на лета ў які Ніжнявартаўск ці ў якое Кемерава, нарабіў там скульптур ды роспісаў, атрымаў грошы, і год можна на іх пражыць, ажно да наступнага халтурнага сезона можна дацягнуць. Калі мае раўналеткі ды аднакурснікі лёталі ў Сібір, я працаваў на рэстаўрацыі касцельнага ды царкоўнага жывапісу ў Мсціславе. І бліжэй, і спакайней, і сытней… Вось што расказваў пра сваё агаладанне ў Брацку маскоўскі скульптар Прыгаў: «Нас прымацавалі да сталоўкі. Там харчаваліся спярша рабочыя, потым мы прыходзілі, даядалі. Што пазаставалася. Ежа называлася «рожкі з каўбаснымі абрэзкамі». (…) Так, з каўбаснымі абрэзкамі. Куды сама каўбаса ішла, я не ведаю, вось былі абрэзкі. Мы, значыць, прыходзілі пасля рабочых — нейкая дробная шушара, якая не ўваходзіць у склад рабочых. А пасля нас харчаваліся пенсіянеры, прымацаваныя да гэтай сталоўкі. Ім заставалася жудасная размазня з ражкоў, ужо без усялякіх абрэзкаў. Але дух нейкі заставаўся. («Дух каўбасных абрэзкаў!» — удакладняла Ірына Балабанава.) Так. Вось мы харчаваліся гэтымі абрэзкамі, і быў яшчэ хлеб. Не заўсёды, але мы неяк яго здабывалі. Увечары елі хлеб. З Масквы мы прывезлі з сабой кіпяцільнік і гарбату. Гэта было дзівоснае відовішча — поўная адсутнасць прадуктаў. І цяпер вось людзі, якія сумуюць па мінулым ладзе жыцця, мяне дзівяць: яны нібыта не памятаюць пра гэта? Не магу зразумець…» Не буду казаць, што ў тагачасным Мсціславе былі толькі выдатныя прадукты, але яны былі, і былі розныя. Майго заробку хапала, каб штодня абедаць у рэстарацыі «Віхра», а ў нядзелю хадзіць на кірмаш і купляць тамака ўсё самае смачнае і самае свежае.

### Анёл у метро

Лепей прайсціся, чым ехаць у метро, але ж ездзем. Едуць усе. Я не лепшы. Вагоны поўныя. Як убіцца? З разгону! Падыходжу і заскокваю. Выдыхаю паветра. Сціскаюся. Дзверы зачыняюцца. Кранаемся. Едзем. Побач едзе бабулька з велізарным букетам бела-ружовых лілей. Сівагаловая бабулечка ўвесь час спрабуе тыцнуць букетам мне ў твар. Як магу адварочваюся і пачынаю клясці бабу страшнымі праклёнамі. А каб ты легла ў тую зямлю, з якой лілеі пазразала! Еду, кляну, і робіцца мне лёгка. І думаю я, што гэта не бабуля з букетам, а светлагаловы анёл вязе лілеі разам з добрымі весткамі. З такім анёльскім настроем і выйшаў я з вагона, і выехаў з-пад зямлі на свежае паветра.

## Парк і змены

Тры тыдні не бегаў у сваім парку. Раніцай зноў бягу ўздоўж Свіслачы, а насустрач набліжаецца кітаянка ў белай майцы і чорных шортах. Яна падбягае, шырока ўсміхаецца і кажа: «Зра-су-це». У адказ я кідаю ёй іспанскае: «Оляа, буэнас дзіас…»

## Чапек і біблія

Вясёлы падарожнік Карэл Чапек разважаў пра кнігі і зрабіў запіс: «…Любая кніга, хай сабе самая найлепшая, не ўніверсальная. Напрыклад, Біблія ніяк не падыходзіць для дарожнага чытання…» Запіс той зроблены даўнавата, больш за семдзесят гадоў прайшло. Змяніўся транспарт і змянілася стаўленне да чытання Бібліі. Апошнім часам бачу шмат людзей, якія ў транспарце чытаюць Біблію: усё астатняе яны, мусіць, прачыталі.

## Палатно і вада

Ідучы ў поле пасвіць авечак, я браў з сабою і палатняны мех. На тым мяху можна добра паляжаць у цяньку ад алешыны, пакуль тvае бараны і авечкі скубуць летнія травы. Калі ж пойдзе дождж, мех можна адмыслова скласці і надзець на галаву так, каб адзін рог глядзеў у неба, а само палотнішча ляжала на плячах. Ад залевы ў вялікую навальніцу мех, можа, і не ўратуе, калі ты выбраўся ў поле без фуфайкі, але ад пералётнага дажджу ён выратуе лёгка. Густым водарам мокрага льнянога палатна пахла маё вясковае дзяцінства. Цяпер гэты водар з’яўляецца ў сталічным мастакоўскім атэлье, калі я змываю вадою з палатна лішкі акрылавай фарбы.

## Карціна і вынік

Каб дакладна ведаў, якая ў выніку маёй працы на палатне атрымаецца карціна, не пачынаў бы яе пісаць, дый жывапісам не займаўся б наогул. Прыблізна я, вядома, уяўляю вынік; падобным чынам і жанчына малюе для сябе ў свядомасці будучае дзіця. Але дакладнасці ў такіх уяўленнях невялікі адсотак. Таму і цікава працаваць, таму мне цікава жыць у самастваральнай жывапіснай прасторы.

## Легенда пра фота

У часы майго юнацтва адной з самых вялікіх таямніц з’яўлялася парнафота. Звычайна гэта былі перафатаграфаванкі з замежных часопісаў. За распаўсюд і выраб парнаграфікі людзі садзіліся ў турму. Людзі сядзелі нават за продаж якога бяскрыўднага «Плэйбоя». Таму парнакарткі паказваліся і прадаваліся па вялікім сяброўстве, толькі самым надзейным таварышам, не раўнуючы, як і антысавецкая літаратура. Змаганне з парнаграфіяй вялося на тым жа ўзроўні, як і змаганне з антысавецкімі ўлёткамі ды брашурамі. Таму сэксуальная рэвалюцыя на постсавецкай прасторы супала з антысавецкімі

выступамі і нацыянальнымі вызвольнымі рухамі. Цяпер, крыху акрэсліўшы абставіны, я перакажу легенду савецкіх часоў пра парнафота… Мужчына набыў у сябрука пачак парнакартачак. На тых картачках была ягоная дачка. Бацька паказаў жонцы і дачцэ тыя фотаздымкі. Дачка зарыдала, зачынілася ў прыбіральні і там павесілася. Пазней высветлілася, што дзяўчына не ўдзельнічала ў здымках порнасюжэтаў. Яна прыйшла здымацца на пашпарт, і яе твар спадабаўся фатографу. Ён і зрабіў калаж, паўстаўляўшы тутэйшы дзявочы твар у замежныя парназдымкі. Фатографа імгненна знайшлі і пасадзілі. Дзяўчыну-пакутніцу хавалі ў вясельнай сукенцы. На пахаванне прыйшоў увесь горад. Трагічная легенда пераказвалася рознымі людзьмі ў розных гарадах. Дзякуючы такім паданням і легендам стаўленне да фатографаў, фотамастацтва і фотаатэлье ў савецкай краіне было адмоўным.

**Верлен і сын**

Сын паэта Верлена стаў начальнікам на станцыі метро. Пэўна, зусім не кепска быць начальнікам станцыі ў парыжскім метрапалітэне, з умоваю, што тваю станцыю не падарве самотны бамбіст. Але ў тыя часы яшчэ не было дурной моды ладзіць выбухі ў метрапалітэне. І ўсё ж я крыху расстроіўся за сына Верлена; ён мог бы выбраць сабе і менш прыземлены занятак. Але ён выбраў тое, што выбраў, і ад вялікага паэта Верлена ў ім толькі палова.

**По, Колас і Яроменка**

У Маскве на прэзентацыі «журнала ПОэтов» Аляксандр Яроменка прачытаў чатырохрадкоўе:

*Мяне раздражняе не ўсё,*
*Не ўсіх раздражняю я…*
*Гэта яшчэ не Басё,*
*але рэч пасняховая…*

Чым і парадаваў там прысутную публіку. Яшчэ на той прэзентацыі абаяльная жанчына паведаміла, што «журнал ПОэтов» выйшаў з друкарні Аляксандра Яроменкі. Мяне заўжды цешыла назва мінскага прадпрыемства «Паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа», цяпер ёсць «Друкарня Аляксандра Яроменкі». Выдатна.

**Дубы і жалуды**

Штораніцы ў парку прабягаю праз дубовую алею. Увосень я там нават спыняюся, каб падняць пару жалудоў, бо люблю, калі на кніжнай паліцы ляжыць жолуд. Гэта ў мяне ад бацькі. Яшчэ ў дзяцінсве я з ім хадзіў любавацца высокім сталічным дубам на вуліцы Чарнышэўскага. Пад тым дубам мы бралі па пары-тройцы жалудоў. Тата расказваў пра жалудовую каву, якую варыла наша баба Броня. Тую каву я пакаштаваў толькі аднойчы, смачная. Калі з малаком і

цукрам, вельмі смачная. Сам я ніколі і не спрабаваў варыць жалудовую каву. Перад прабежкай выпіваю кубачак моцнай чорнай кавы. У парку, у дубовай алеі, я пачаў заўважаць мужчыну, які абдымае дуб. Мне нават сорамна было глядзець на таго мужчыну, бо ён абдымаў дрэва, як чалавека, як жанчыну. Я быў падумаў, што ў таго мужчыны і сапраўды нейкія інтымныя ўзаемаадносіны з дубам, бо ён увесь час прытуляўся да аднаго і таго ж, самага магутнага ў алеі камля. Але мае падазрэнні не падмацаваліся, а наадварот, разбурыліся, бо мужчына пачаў прыводзіць да свайго дуба дачку і жонку. Яны абдымалі дуб утраіх. Рабілі яны гэта сур'ёзна, прынамсі, з напружанымі і сур'ёзнымі тварамі, на якіх ляжала васковае святло рэлігійнага пачуцця. Я не стаў замінаць гэткай драўлянай малітве, але і маршрут мяняць не збіраюся. Як бегаў я праз дубовую алею на вуліцы Янкі Купалы, так і бегацьму.

**Маці і «нідзедзенецца»**

З Сочы да маці прыехала сястра, мая цётка Рэня. Сядзелі мы за сталом і згадвалі даўняе… Маці часта пакідала мяне малога пажыць у Койданаве, у бабы Ядзі, а сама тады працавала ў Мінску. Я сумаваў, шматкроць перапытваў бабу: «Калі прыедзе мама?» — «Прыедзе, нідзе не дзенецца!» — суцяшалі мяне. Я хадзіў кругамі па хаце і паўтараў: «Прыедзе нідзедзенецца…» Маме і цётцы ўспамін падаваўся вельмі вясёлым, а мне згадаўся і той даўні шчымлівы сум бясконцага чакання.

**Успаміны і ўзаемнасць**

Ніколі не разумеў і ніколі не зразумею людзей, якія не помняць свайго дзяцінства. Яны спасылаюцца на малацікавасць падзей, на кепскую памяць, на змрочнасць тагачаснага бытавання. Калі ж ты пачынаеш настойваць на ўспамінах, такія вычварэнцы робяцца агрэсіўнымі. Не маё! Не буду згадваць! Не помню, бо не хачу помніць! Чалавек з падобнымі выказваннямі выклікае падазрэнні. Яго не далюбілі ў дзяцінстве, такога не любяць і дарослага. Правільна робяць, што не любяць. Калі ты не любіш свет свайго дзяцінства, калі ты не любіш свет — тады і свет не любіць цябе. Такая ўзаемнасць.

**Курбэ і рэалізм**

Курбэ — старанны мастак. Ён рабіў усё, каб дакладна паставіць блік на носе ўласнага аўтапартрэта. Ён ставіў блікі і на іншых насах, можа таму аматары знайсці рэалізм у мастацтве выбралі за адзін з узораў творы Курбэ. Яны назбіралі палотнаў Курбэ з тоўстымі цёткамі, з сакавітымі грудзямі, з важкімі дупамі і развесілі іх побач з творамі Веласкеса ды Рэмбранта, Тапіеса ды Рыберы. Выстава мусіла пераканаць гледача ў тым, што рэалізм ёсць. І можна было б паверыць, што Курбэ не рамантык і не прадстаўнік рамантызму,

а заўзяты рэаліст, каб не партрэт апантанага празорцы. Ён і выдаў Курбэ. Ну дзе ты бачыў у рэальнасці празорцаў? Казкі гэта ўсё! Рамантычныя гісторыі.

**Анціпенка і Тагор**

**АЛЕСЬ АНЦІПЕНКА ЗАЙМЕЎ АРТАДАКСАЛЬНУЮ ІКАНАГРАФІЧНУЮ ЗНЕШНАСЦЬ. ЁН СТАЎ ПАДОБНЫ ДА ПРАВАСЛАЎНАГА СТАРЦА. У НАШЫХ ПАЎНОЧНЫХ МЯСТЭЧКАХ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ ДА ПАДОБНЫХ СТАРЦАЎ ДАВЕРЛІВЫЯ ЦЁТКІ ЗАЎЖДЫ ХАДЗІЛІ ПА ПАРАДЫ. ГЛЯДЗІШ НА ЧАЛАВЕКА І БАЧЫШ АБРАЗ. ПРА ГЭТА Я СКАЗАЎ АЛЕСЮ. ТУТ СЯБРА АНЦІПЕНКІ — ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ — ВЫДАЎ САКРЭТ ПЕРАЎВАСАБЛЕННЯ: «ЁН НЕ ЕСЦЬ МЯСА. ЁН НАВАТ РЫБУ ПЕРАСТАЎ ЕСЦІ. ЯЙКІ ЁН ТАКСАМА НЕ ЕСЦЬ. ЧЫТАЕ ТОЛЬКІ ІНДЫЙСКІЯ ТЭКСТЫ...» — «УСЁ, ШТО СКАЗАНА Ў ІХНЯЙ РЫГВЕДЗЕ, Я МАГУ ПРАЧЫТАЦЬ У МАЙН РЫДА!» — ПАСПРАБАВАЎ Я МЕТАМЕТАФАРЫЧНА ПАЖАРТАВАЦЬ, АЛЕ СУТЫКНУЎСЯ З ХАЛОДНАЙ СУР'ЁЗНАСЦЮ. «ТЫ, ВАЛОДЗЯ, НЕ ЖАРТУЙ. ЧАЛАВЕК ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА СПРАВЫ ГРУНТОЎНА!» — «ВАЛЯНЦІН, ДЫ І Я ІДУ ПА ШЛЯХУ АЧЫШЧЭННЯ, НЕ П'Ю І НЕ КУРУ. РАБІНДРАНАТА ТАГОРА Я ПАВАЖАЮ. У ДЗЯЦІНСТВЕ МЯНЕ ЎРАЗІЛІ РЭПРАДУКЦЫІ З ЯГОНЫХ РУКАПІСАЎ. ТАГОР НЕ ПРОСТА ПІСАЎ ТЭКСТЫ, ЁН ІХ ВЫМАЛЁЎВАЎ НА АРКУШАХ. КОЖНАЕ ВЫПРАЎЛЕННЕ Ў ТЭКСЦЕ ПЕРАТВАРАЛАСЯ Ў ПАРАСТАК, ЯКІ АДЫХОДЗІЦЬ З КАМЛЯ. УЗОРНЫЯ РУКАПІСЫ. УЗОРНЫЯ ЛІТАРЫ І ЛІНІІ...» — «ЛІНІЯ — АДЗІН З НАЙКАРАЦЕЙШЫХ ШЛЯХОЎ ДА БОГА!» — СКАЗАЎ НАМ НА РАЗВІТАННЕ ІКАНАГРАФІЧНАТВАРЫ АЛЕСЬ.**

**Святлана і «Каравай»**

Апошні раз я пабачыў Святлану ў хлебнай краме «Каравай», што на плошчы Перамогі. Яна была не ў гуморы. Уся нейкая нашатораная, адрошаная, як не ў сабе. Яна стаяла ў чарзе паперадзе мяне, узяла дзве белыя булачкі, разлічылася, сышла. Я не стаў заводзіць размову. Яна не павіталася, ды і я не пачаў распытваць пра кепскія настрої. Хто ж ведаў, што мы бачымся апошні раз? Пасля смерці сваёй маці Святлана жыла адна. Таму пра яе скон даведаліся не адразу. Як большасць з нас, я прачытаў пра заўчасную смерць Святланы Явар у інтэрнэце… Мне згадаўся даўні нумар часопіса «Крыніца», дзе Света напісала такія словы: «…Калі б Бог даў мне сына, я выхавала б яго, напэўна, падобным да А.Глобуса. Шчаслівая маці, якой ніколі не будзе сорамна за сваё дзіця, бо яно не здолее нарабіць глупстваў, заўсёды будзе мець і на хлеб, і да хлеба…» Тады мне было сорамна за такую

адзнаку, бо і глупствы я раблю, і праблем людзям магу настварэць. Дый цяпер мне крыху ніякавата ад таго, што нехта залічвае мяне ў свае героі і можа паўтарыць за Святланаю: «Чаму жанчыны любяць такіх, як Адам Глобус? Таму, што «такія» ўпэўнены ў сабе, за імі як за каменнай сцяной. З імі заўсёды цікава. І дзяцей яны любяць. Карацей, атрымаўся гэткі Джэймс Бонд, агент 007, ідэал мужчыны…» Але любоў і павага заўсёды маюць зваротныя сувязі. Калі цябе паважаюць і любяць, дык і ты спрабуеш адказваць цёплымі словамі і добразычлівымі жэстамі. Я ўдзячны Святлане за павагу да сябе — і раней, і цяпер.

**Маці і часнок**

Дачка мая — Ядзя, як і большасць беларускіх жанчын у цяперашні час, назапасіла круп, макароны і мукі. Хай будзе. Хто супраць? Учора маці мая сказала, што ў тыя часы, калі муку прадавалі толькі па картках і ўсе яе выкуплялі, у той муцэ заводзілася розная трасца. Каб матылькі ды чарвякі не завяліся ў муцэ, макароне і крупах, трэба пакласці ў пакеты ці побач з пакетамі часнок. Перад тым, як класці, зубок варта крыху расціснуць, каб сок з яго пацёк, каб дух з яго пайшоў. Мама сказала, што самі крупы часночнага духу не набіраюцца, але на нейкі час ён абароніць запасы ад харчовай молі.

**Хадыка і прапагандысты**

У васьмідзясятых мінулага стагоддзя Мінск меў двух яркіх ідэолагаў-прапагандыстаў — ліберала Хадзеева з ягоным гействам і вечна незачыненымі дзвярыма ды кансерватара Бегуна з п’янствам у акадэмічным асяродку і дэкларатыўным антысіянізмам. Знайсці і паслухаць у тагачаснай Беларусі нешта больш экспрэсіўнае і маштабнае было складана. Пра колішняе супрацьстаянне маргінальных ідэолагаў мне днямі нагадаў інжынер, будаўнік Юра Козак. Дзякучы адначасовай згадцы Бегуна і Хадзеева я раптам убачыў выразнае падабенства іх прозвішчаў. Адзін бяжыць, другі ідзе ды дзейнічае. Гэткае падабенства і прывяло мяне да прозвішча выкладчыка архітэктурнай кампазіцыі Хадыкі, чый светапогляд стаў для мяне, як і для шматлікіх іншых, асновай у творчасці.

**Шчасная і няспешнасць**

Раней я спяшаўся жыць. Цяпер не баюся спазніцца і не спяшаюся. Я не баюся, што застанецца нязробленым нешта важнае. Спяшацца перастаў пасля пяцідзесяці. Думаў, што ў большасці людзей так і бывае, але згадалася мастачка Нінэль Шчасная, з якой у пяцьдзясят адбылося супрацьлеглае. Яна пачала сустракацца з сябрамі толькі па серадах. Астатнія дні тыдня Нінэль працавала, бо лічыла, што мала паспела зрабіць, што трэба спяшацца жыць, спяшацца пісаць, спяшацца ствараць.

## Салодкі выгляд каштанаў

Яны — нашы родныя беларускія каштаны — такія смачныя на выгляд… А гэты блакітны блік на глянцавітай бурштынава-шакаладнай скурцы? Так бы і праглынуў каштан цалкам! Каб я быў паганцам-традыцыяналістам і слухаў дуду, я б стварыў вераснёвае свята з рытуальным паяданнем каштанаў! Не смачна. Ведаю цудоўна. Хто з нас не спрабаваў есці каштан? Пакуль не бачаць дарослыя, каштан знаходзіўся, абціраўся, надкусваўся, жаваўся і выплёўваўся. З першай спробы амаль ні ў каго не атрымлівалася адмовіцца ад каштавання беларускіх каштанаў. Ну хіба можна адразу паверыць у тое, што ўсе нашы цудоўныя каштаны горкія да даўкасці і даўкія да пякучай гаркаты? Нават калі табе і паверылася ў няўежнасць нашых прыгожых каштанаў, ты іх усё адно збіраеш. Нават калі ў нейкім там Парыжы ты пакаштуеш салодкія і смачныя французскія каштаны, ты, як сапраўдны патрыёт, скажаш: «Нашы каштаны… прыгажэйшыя, у сто разоў!»

## Марына і каньяк

У «Цэнтральным» універсаме пачуў ад пухнацелай, п’янай, мутнавокай нахабніцы: «Можэт у цібя будзет пару рублей на буцірброт?» Нават адказваць не стаў. Яна патапталася каля мяне, пацерла пабітае пераноссе і павалаклася да зграйкі півасмокаў. І не шкада, і не спачуваю, і не… Тут я і пабачыў знаёмую бухгалтарку — Марыну. Яна стаяла з келіхам каньяку і глядзела на забіты легкавікамі праспект. Марына зрабіла выгляд, што мяне не бачыць. Ну і я не стаў замінаць чалавеку напівацца. Чаму мне шкада спітых жанчын болей, чым спітых мужыкоў? Пэўна, з-за таго, што і цвярозых жанчын я шкадую значна больш, чым сваіх супольнікаў — мужчын.

## Ленін і вапняк

У маім дзіцячым садку пераказвалася таемная гісторыя пра Леніна. Пераказвалася яна шэптам і па вялікім сакрэце з клятвамі нікому яе не пераказваць. Партрэт Леніна вісеў у кожнай групе. Чатыры групы — чатыры аднолькавыя чорныя піяніна і чатыры аднолькавыя партрэты Леніна над кожным піяніна. Лысы Ленін у чорным пінжаку ды гальштуку ў бубачкі, не міргаючы, глядзеў на маё дзіцячасадаўскае жыццё ажно чатыры гады. Не дзіва, што ўсіх цікавіла, хвалявала гісторыя пра каменны мозг Леніна. Мы шапталіся пра тое, што Уладзімір Ільіч шмат думаў і ад думак ягоны мозг скамянеў. Ён пакрыўся вапняком, які не мог разрэзаць ні адзін скальпель. Мне выразна ўяўляўся белы, як вапна, мозг Леніна ва ўскрытым чэрапе. Уяўляліся і дактары са скальпелямі, якія спрабуюць рэзаць вапняк. Гэта, бадай, адзін з самых выразных вобразаў Леніна, які запомніўся мне ў дзяцінстве.

## Пруднікаў і буклет

Ніколі не ведаеш, з-за чаго ты з чалавекам парвеш адносіны. З архітэктарам Пруднікавым мае адносіны скончыліся з-за буклета. Меў я рэкламны буклет з парыжскага бардэля. У савецкім Мінску рэч эфектная, але малафункцыянальная, акром як эстэтычных, ніякіх іншых якасцяў той буклет не меў. Паказаць сябрам — каб пасмяяліся. Паказаў я той буклет і Пруднікаву. Было тое ў майстэрні, дзе мы працавалі мастакамі-афармляльнікамі са Сцяпанам. Працы ў нашых камісійных крамах было шмат. Архітэктар Пруднікаў не дапамагаў. Таму мы на яго і не глядзелі. Пасядзеў у кутку, кнігі пагартаў і сышоў. Праз пару дзён Сцяпан заўважыў прапажу бардэльнага буклета. Не адразу прыкмеціў, але імгненна звязаў знікненне парнаграфічнага буклета з Пруднікавым. Можа, я і не паверыў бы ў версію Сцяпана, але ж чорнабароды архітэктар Пруднікаў больш у маю камісійнакрамную майстэрню ні разу не завітаў. І буклет не знайшоўся, што крыўдна.

## Хадыка і спаленыя кнігі

Вялікія літаратары, кшталту дэманічнага Гогаля, у хвіліны роспачы паляць свае рукапісы; бяздарныя графаманы і неагерастраты прылюдна кідаюць у вогнішчы чужыя кнігі. У большасці апошніх уласна сваіх кніжак ніколі не было і не будзе. Знішчэнне ўласных твораў літаратуры і мастацтва — з'ява драматычная. Сандра Бацічэлі, наслухаўшыся аскета Саванаролу, панішчыў свой жывапіс. Рэзаў нажом свае кубістычныя нацюрморты Пётр Канчалоўскі. Няма такога мастака, няма такога паэта, няма такога літаратара, якому б не хацелася ўсё сваё ўзяць і спаліць, каб распачаць жыццё з чыста-белага аркуша. Ведаючы пра такі шал, выкладчык Хадыка забараняў нам, сваім студэнтам, нішчыць нават нікчэмныя і няўдалыя малюнкі. Алег Хадыка пераконваў нас, што ніхто не здатны правільна ацэньваць сябе. Мала хто здагадваецца, што нам спатрэбіцца ў будучыні. Таму варта захоўваць зробленае, бо інакш ты замест таго, каб будаваць і рабіць новае, пачнеш аднаўляць сваё ж раней знішчанае. Хадыку я слухаў, але час ад часу палотны рэзаў і выкідаў на сметнік. Хадыка, безумоўна, казаў разумныя рэчы. І пазней, праз шмат гадоў, мне даводзілася аднаўляць і рэстаўраваць сваё сапсаванае і знішчанае.

## Кірыла і п'янка

Ён п'е. У ягонай цешчы знайшлі рак. Цешча занядужала, пайшла ў бальніцу, паставілі дыягназ — неаперабельны рак. Яна прыйшла дамоў і задавілася. Ён п'е і расказвае пра тое, як цешча павесілася на вяроўцы для сушкі бялізны. П'е штодня. Пад вечар напіваецца моцна. П'яны расказвае пра хворага бацьку, які аслеп, які амаль нічога не

чуе і ледзьве ходзіць. Бацьку пад дзевяноста, два разы на год яго кладуць у бальніцу і крыху падлечваюць. Але ж ад смерці не падлечыш! Кірыла п’е і разважае пра смерць. Ён спакойна кажа пра хуткую смерць маці, якая нічога не есць. Калі не прымушаць, не сачыць, дык і сканае ад голаду. Ён п’е і шкадуе жонку, якая знайшла павешанай сваю маці. Ёй давялося вымаць з пятлі маці-самазабойцу. Яна вынула маці з пятлі і часткова страціла розум. Нервы паляцелі. Дэпрэсія навалілася. Кірылу давялося здаць жонку ў псіхбальніцу. Ён п’е. Ён лічыць, што з такім жыццём мае рацыю, напіваючыся штодня. Добры настрой у Кірылы толькі раніцай, калі ён у парку выгульвае сваю шакаладную таксу.

**Рэнар і самапрыніжэнне**

У сваім «Дзённіку» Жуль Рэнар склаў даволі доўгі спіс уласных кепскіх учынкаў. Ёсць там і такое: «Прыкідваўся маленькім хлопчыкам у прысутнасці мэтраў; перад тымі, хто маладзейшы, рабіў выгляд добрага і вялікага чалавека, які не вінаваты ў тым, што ён геній…» Прыкідвацца маленькім хлопчыкам у прысутнасці мэтраў беларускай культуры мне было не трэба, бо я вырас у асяродку нашай культурнай эліты. З дзяцінства я ведаў Караткевіча і Стральцова, Танка і Брыля… Замест дабрыні і велічы я дэманстраваў сваю злосць і абвостранае пачуццё справядлівасці, блізкае да нянавісці. Мне лягчэй узяць на сябе чужую віну, чым апраўдвацца і каяцца. Карацей, у гэтых грахах я з Рэнарам не супадаю цалкам.

**Карпейчык і ўдзячнасць**

Настаўнік Карпейчык пасля размовы мог сказаць: «Дзякуй за гутарку». У яго падзяка праманўлялася натуральна, лёгка, нязмушана. Так, як Карпейчык, ніхто не дзякаваў. Мне моцна не хапае нашых палемічных размоў і шчырай удзячнасці за размовы.

**Антон і каробка з золатам**

У часы назапашвання першых капіталаў я не мог прыдумаць нічога лепшага за набыццё золата. Тады ўсе куплялі сабе залатыя ланцугі з крыжамі, пярсцёнкі і манеты. Большасць мужчын яшчэ і чапляла на сябе сваё багацце. Такіх, абчапляных залатымі цацкамі, народ ахрысціў «новымі рускімі». Быць рускім я не хацеў, таму маё золата ляжала ў каробцы, а каробка тая зялёная хавалася ў дзядзькі майго Антона Кісяля. Добра, калі ў цябе ёсць надзейны дзядзька. Гэта важна — мець чалавека, якому можна даверыць каробку з золатам. Потым прыйшлі новыя часы, і капіталы, у тым ліку залатыя манеты і ланцугі, паператвараліся ў квадратныя метры нерухомасці. Дзядзька Антон пакінуў наш зменлівы свет, але я і зараз удзячны яму за надзейнасць. Згадваючы Антона, я задаю сабе пытанне, якое не

патрабуе адказаў. Няўжо ўсе лепшыя сышлі? Цішыня. Фінансавы крызіс. Золата падаражэла.

### Яйка па-касманаўцку

Сярод дзяцей — маіх раўналеткаў — хадзіла паданне, што ўсе касманаўты і касманаўткі з’ядаюць яйкі разам са шкарлупінай. Здавалася: шкарлупіна вельмі карысная, бо ў ёй шмат кальцыю, які патрабуецца для ўмацавання зубоў. Тым, хто не верыў, распавядалася гісторыя пра першага касманаўта Гагарына, які не захацеў смеціць у ракеце ды ў космасе, таму і з’еў яйка разам са шкарлупінай. Сам я спакусіўся і паспрабаваў з’есці кавалачак шкарлупіны, разжаваў яго і праглынуў. Ніякай шкоды з’едзеная шкарлупіна мне не зрабіла, але і задавальнення не было, хіба што можна было павыхваляцца гульнёю ў касманаўта.

### Кульбак і Акудовіч

У рамане пра мінскіх габрэяў Майсей Кульбак так напісаў пра адмаўленне: «Усім вядома, што ў Цалелы, дзядзькі Юды, разумная галава. Дайце яму волю, і ён пачне адмаўляць нават самога сябе». Цалела адмаўляў! І не толькі Цалела, сын Юды, мог адмаўляць самога сябе. Валянцін Акудовіч сябе адмаўляе. Паўсюль ходзіць і ўсім кажа, што яго — Валянціна Акудовіча — няма. Так і заяўляе: «Мяне няма». Ёсць такая завядзёнка ў тутэйшых габрэяў. А каб хто нам сказаў, нашто?

### Рыта і памер нагі

«Рыта не любіць і ніколі не любіла мужчын з маленькім памерам нагі…» — так мне распавялі. Рыта, безумоўна, мае поўнае права любіць мужчын з вялікімі ступакамі і шырокімі далонямі. І яснасць у гэтым падыходзе ёсць. Не маеш мужчынскіх памераў? Да Рыты не падыходзь!

### Круглянскі і цела

Псіхіятар Круглянскі любіў кнігі і каньяк. З ім добра было выпіваць і гаварыць пра кнігі. Я з ім больш гаварыў пра кнігі, чым выпіваў. Акрамя як пра кнігі, я з доктарам Круглянскім абмяркоўваў творчасць ягоных пацыентаў. Саміх пацыентаў я не абмяркоўваў, а пра творчасць іх, пра іх мастакоўскія і антымастацкія паводзіны мы разважалі шмат. Вось мой добры знаёмы Гена ажаніўся з парыжанкай. «Ну куды, скажыце мне, куды яна глядзела, калі выходзіла за Гену замуж?» — спытаў я аднойчы ў Круглянскага. «А што? Цела ў Гены маладое. Яна глядзела на цела. Большасць глядзіць на цела. Нікога ці, дакладней, мала каго цікавіць душа, асабліва хворая душа…»

## Калюжны і Ступакоў

Калюжны чхаў. І чхаў ён адметна. Ён чхаў з крыкам. Крык-чых вылятаў з сагнутага напалам Калюжнага нечакана. Яго згінала сутарга, і ён чхаў, як страляў. Прысутныя лякаліся. Працаваў Калюжны выкладчыкам акадэмічнага малюнка ў мастацкай вучэльні. І крыка-чых мог вырвацца з яго проста ў аўдыторыі, поўнай навучэнцаў і шчыльна пазастаўлянай мальбертамі ды планшэтамі. Пасля першага чыха навучэнкі з навучэнцамі пакідалі памяшканне, бо адным крыка-чыхам Калюжны не абыходзіўся. Ён чхаў шмат. Твар ягоны чырванеў да чарнаты. Барадаўкі, што вялікімі сем'ямі віселі на шчоках Калюжнага, таксама цямнелі і рабіліся зусім падобнымі да чарніц. Прачхаўшыся, Калюжны выбачаўся і, развітаўшыся з навучэнцамі, сыходзіў. Навучэнец Ступакоў выкладчыка малявання Калюжнага ўзненавідзеў. «Сваёй слінай ён запырсквае мае малюнкі! Мярзотныя барадаўкі робяць яго падобным да рапухі! Якога чорта ён не лекуецца? Учора ён чыхнуў-крыкнуў трыццаць два разы запар. Трыццаць два разы! Трыццаць два!!!» — абураўся Ступакоў. Калюжны спрабаваў вылечыцца, але не змог. Ступакоў таксама спрабаваў не раздражняцца з-за нейкага там чхання, але не атрымалася. Ступакоў нават збіраўся настукаць кулакамі ў барадаўчаты галаў Калюжнага, але да гэтага не дайшло, бо настаў час летняй практыкі і шляхі раздражнёнага навучэнца Ступакова і выкладчыка чхуна-крыкуна Калюжнага рызышліся ў розныя бакі назаўжды.

## Баба Ядзя і баявы певень

Певень незалюбіў нашу бабу Ядзю. Гадаваўся з кураняці, вырас у прыгажуна з шаўковым грабеньчыкам, пабачыў аднойчы Ядзю ў чырвонай сукенцы, і яго перамкнула. Пачаў певень кідацца на бабу. Ды як кідацца! Узлятаў, каб ажно на галаў заскочыць. Баба біла пеўня дзеркачом, баба заганяла пеўня ў склеп і там зачыняла на цэлы дзень, і крычала на яго страшным крыкам. Нічога не дапамагло. І аднойчы разагнаўся певень, як толькі мог, прабег-праляцеў праз двор і з усяго лёту загнаў сваю дзюбу ў бабіну голую лытку. Кроў ажно засвістала з раны. Гадзіну бабіну кроў спыніць не маглі. У тую акрываўленую Ядзінай крывёю гадзіну і вырашылі пеўня засячы неадкладна і супу з яго наварыць. Дзед доўга вастрыў сякеру, доўга лавіў пеўня на падворку, а як злавіў і паклаў яго на калодку, дык і самлеў. Ядзя нават не сварылася на ледзь прытомнага дзеда Броніка, завяла яго ў хату, каб на канапцы крыху пераляжаў сваё галавакружэнне. Пакульгваючы, вярнулася мая баба Ядзя да калодкі — і адсякла пеўню круглавокі галаў з чырвона-шаўкавістым грабянём.

# ХЛОПЧЫКІ

*Апавяданні пра дзяцінства, напісаныя ў далёкія гады ў часопіс для школьнікаў «Бярозка».*

**ХЛОПЧЫКІ**

## На роварах па пяску

Ярак і Антон ляжалі ў вялікім дзедавым ложку і перашэптваліся. Раніцай хлопцы збіраліся паехаць у грыбы, таму і ўгаварылі Антонаву бабулю пакласці іх разам. Ярак ляжаў каля сцяны пад жоўта-сінім дываном, на якім алені, два вялікія, адзін малы, прыслухоўваліся да шапацення сіне-зялёнага намаляванага сасонніку, да плёскату бела-белай крыніцы. Іх круглыя чорныя вочы не міргаючы глядзелі на прыадчыненыя дзверы ў суседні пакой. Адтуль ціха плыла гутарка спартыўнага каментатара з чэмпіёнам. Стары, хрыплаваты рэптадуктар, які знарок не выключылі, перадаваў спартыўныя навіны. Хлопцы перасталі гаварыць, пажадаўшы адзін-аднаму добрай ночы, і заснулі. Рэпрадуктар на хвіліну змоўк, а потым пачалася музычная перадача «Для тых, хто не спіць».

За акном толькі зашарэла адна з апошніх жнівеньскіх раніц, калі афіцыйна-бадзёры голас дыктара павіншаваў слухачоў з новым днём. Антон як старэйшы першым устаў, выключыў рэпрадуктар і запаліў святло. У пакоі стала жоўта, а акно засінела. Не снедаючы, а толькі выпіўшы па кубку кісла-салодкага «грыба», хлопцы пабралі кашы з прыгатаванымі з вечара сабойкамі і пайшлі ў гумно па ровары. На двары было халаднавата, суцішна, чулася блізкая восень. Шэра-зялёны сад яшчэ спаў за нізкім плотам, праз які звешваліся ў двор галіны парэчак. Ярак з’еў некалькі рубінавых пацерак-ягад, якія ўжо аддавалі вінам. Буйныя гэтай парою бурачковыя і лімонныя вяргіні гарэлі ў садзе. Над імі свяціліся ў цёмнай зеляніне мядова-залатыя антонаўкі.

Антон адчыніў гумно, і адтуль выскачыў чорна-руды суседскі кот.

— А, каб цябе… Напалохаў! — прамармытаў сабе пад нос Антон. У яго быў велікаваты для трынаццацігадовага падлетка тонкі нос над «заечай» губою. Праз гэтую губу хлопца цвялілі — называлі Зайцам. Ён саромеўся сваіх носа і губы і чакаў, не мог дачакацца, калі пачнуць расці вусы. А калі нехта пытаў пра губу, Антон, гледзячы ўбок, гаварыў, што выпадкова рассек яе сякераю. Рабы Ярак меў мянушку Мурза і быў на два гады маладзейшы за стрыечнага брата Антона. Хлопцы жылі па суседству, праз гарод, і ніякая сякера не секла Антонаву губу. Але сяброўства ёсць сяброўства, сякера дык сякера…

У Антона быў бліскучы новенькі чорна-лакавы дарожны ровар. У Ярака рыпела лайба-дамка з тоўстымі чырвонымі шынамі. Пад коламі суха шыпеў дарожны пясок.

Антон ужо другі месяц працаваў рознарабочым на льнозаводзе. Сягоння быў апошні дзень ягонай працы і дзень палучкі. Учора хлопцы хадзілі да брыгадзіра і прасілі, каб адпусціў Антона да абеду, а пасля абеду, маўляў, удвух адпрацуюць. Брыгадзір пасмяяўся з іх вельмі сур’ёзных твараў, але дазволіў раніцай не прыходзіць. З першай палучкі Антон прыдбаў у раймагу ровар. Ён, як дарослы, доўга выбіраў яго і з упэўненым выглядам разлічыўся ў касе. Потым праз усё мястэчка каціў знарок толькі крышку напампаваны ровар, каб аднагодкі зайздросна пазіралі на яго. Дома Антон доўга праціраў анучкаю нікеляваныя шчыткі і змываў з колаў пясок. Ярак трымаў руль за каштанавыя ручкі і быў сярод тых местачкоўцаў, якія зайздросцілі Антону. На завод Ярака не ўзялі, у аддзеле кадраў сказалі, што яшчэ малы, каб прыходзіў наступным летам. Так ён і застаўся са сваёй іржавай і пашарпанай лайбай, з якой час ад часу злятае ланцуг.

Дарога была пясчаная, вільготная з ночы, пустая. Антон ехаў паперадзе, бо Ярак павінен быў глядзець за кашамі, якія прыладкаваліся на зіхатлівым металічным багажніку. У Ярака багажніка не было, ён, угнуўшы галаву, ціснуў на педалі і глядзеў на ланцуг. Паціху за мякка-ліловым даляглядам пачало ружавець неба. Цёмна-блакітны лес абступіў дарогу, схаваўшы светла-вохрыстыя далі. Прабегшы лес, дарога зноў выйшла на поле, дзе ляжаў акраец няяркага сонца.

У хлопцаў было сваё грыбное месца — два кар’еры, з якіх даўней бралі жвір на будоўлі. Адзін з іх зарос асіннікам і крывымі нізкімі бярозамі, другі — хвойкамі, а па берагах — кустамі. Антон з Яракам мусілі злезці з ровараў, бо дарога каля хвойніку так пазаплывала пяском і пылам, што руль выкручвала з рук. Мо Ярак на сваёй дамцы і змог бы сяк-так праехаць, але Антон злез, і малодшы паслухмяна саскочыў следам. У хвойніку пахла расою і грыбніцай. Грыбоў было шмат, яны раслі вялікімі сем’ямі па бурштынава-ружовайігліцы. Хлопцы бралі толькі баравікі, іншых тут і не было. Мо некалькі зеленаватых сыраежак бачылі ў кар’еры, калі выносілі да ровараў кош крэпкіх белых грыбоў.

Па-над далёкім густа-сінім лесам сонца стаяла ўжо высакавата, было гадзін каля дзесяці. Яраку не хацелася цягнуцца ў другі кар’ер па бабкі і падасінавікі. Але, пакуль яны снедалі, Антон угаварыў брата. Схаваўшы за кусты ровар і грыбы, яны пайшлі праз поле па шапаткім іржышчы ў асіннік. Другі кар’ер быў глыбейшы, на дне

стаяла цёмная і гнілая вада. Грыбы раслі пад сакавітай папараццю. Трэба было хадзіць ледзь не на кукішках, каб убачыць падасінавіка ці бабку. Антон збіраў у кош, Ярак — у шапку. Знайшоўшы падасінавік, Ярак нагнуўся і ўбачыў, як у траве пругка раскруцілася і ўзняла галаву гадзюка. Хлопчык закрычаў:

— Змяя, змяя, Антак! — і пабег з кар'ера на поле. Ён бег, не чуючы ног, не чуючы ржышча і не бачачы, што шапкі ўжо няма. Калі Ярак дабег да хвойніку і азірнуўся, Антон толькі выходзіў на поле.

Вяртаючыся, Антон зноў ехаў папераздзе і вёз два амаль поўныя кашы грыбоў. Наверсе ляжалі лепшыя баравікі, адзін з іх, калі кола наскочыла на камень, упаў на брудна-жоўты пясок. Ярак, хоць Антон загадаў спыняцца і падбіраць, не спыніўся, а наехаў сваёй тоўстай шынаю на маладзенькі баравічок, паказаўшы клятчастай Антанавай спіне язык. Яму здавалася, што так ён адпомсціў кар'еру, які напалохаў яго змяёю.

За абедам хлопцы даелі хлеб, што застаўся ад сабоек. Калі хлеб пабудзе ў дарозе і вернецца дадому, людзі завуць яго «заечым». Ярак еў і думаў: чаму хлеб і Антонаву губу аднолькава называюць? Яму здалася вельмі смешнай думка, што ў Антонавым садзе растуць антонаўкі, але ён, паглядзеўшы на старэйшага брата, не засмяяўся, хоць і хацелася. Над сталом пералічваў дасягненні ў сельскай гаспадарцы чырвоны рэпрадуктар з чорным выключальнікам. Антону думалася пра тое, як ён з другой палучкі будзе купляць прыёмнік. Праз адчыненыя ў спальню дзверы на хлопцаў глядзелі са сцяны тры ганарыстыя алені.

Калі браты прыйшлі на завод, брыгадзір даў ім па новай рыдлёўцы з ярка-зялёным дзяржаннем і сказаў, каб ішлі сеяць жвір. Антон працаваў моўчкі і зацята — сеяў, шпурляючы рыдлёўку за рыдлёўкай на ржавае сіта, з якога сыпаліся яму пад ногі каменьчыкі. Ярак вяла насыпаў прасеянае на насілкі. Мужчыны ў светла-шэрых кепках насілі жвір да бетонамяшалкі. Яраку здавалася, што сляпучае сонца стаіць якраз над галавой і знарок пячэ яму ў цемя. Ён памяняўся з Антонам і адразу зразумеў, што дарма, але мяняцца назад было няёмка. Завод амаль пабудавалі, і недзе напачатку верасня адбудзецца адкрыццё. Слізка-блакітныя машыны пачалі ўжо вазіць праз мястэчка цёмна-залатыя прычэпы лёну, губляючы па дарозе снапы. У Антонавым гумне ляжалі ў кутку два такія снапы, на іх і прыходзіў спаць палахлівы суседскі кот. Жанчыны ў камбінезонах падмяталі пляц, і лёгкі цэментовы пыл стаяў над усім заводам. Ярак кашляў ад пылу. Нарэшце бетонамяшалка спынілася і мужчыны пайшлі ў бухгалтэрыю па грошы. Пабег, кінуўшы ў жвір рыдлёўку, і Антон. Ярак занёс рыдлёўкі ў бытоўку, сеў пад новы, толькі што

складзены з белай, як цукровай, сілікатнай цэглы плот, ад якога цягнула прахалодаю. Хлопец разглядаў свае зялёныя ад рыдлёўкі далоні і сам не заўважыў, як заснуў. Пабудзіў яго брыгадзір. Ён сказаў:

— Антак цябе не знайшоў. Дахаты пабег. Так што даганяй, брат, даганяй…

Калі Ярак адчыніў дзверы Антонавай хаты, той вячэраў, слухаючы ўключаны на ўсю моц рэпрадуктар. Перадавалі футбол, якраз нехта некаму забіў гол, і звар'яцела-абрадаваны Антон стукаў кулаком па стале. Убачыўшы Ярака, устаў, падышоў да карычнева-лакавай дзедавай шафы, з рыпам адчыніў яе, дастаў з-пад бялізны рубель і працягнуў брату.

У гэты дзень і Антон, і Ярак рана леглі спаць. Кожны спаў у сваёй хаце, і кожны сніў свой сон. Антону прысніўся рубель, Яраку — гадзюка. Суседскі кот ізноў спаў на лёне ў Антонавым гумне. Толькі алені, высока трымаючы чорныя рогі, услухоўваліся ў цемру намаляванага дэкаратыўнага лесу.

**09.11.1984**

### Вада на кафляным квадраце

Помню, было холадна. Мы, я і Глеб, стаялі каля дзвярэй, зачыненых і шкляных. Нам было па дванаццаць гадоў, і другі год мы займаліся плаваннем. Мы прыйшлі на трэніроўку першымі. Дакладней, калі прыйшоў я, Глеб ужо стаяў на прыступках бетоннага ганка. За шклянымі дзвярамі нас чакаў вестыбюль басейна, цёмны і пусты. Глеб заўсёды прыходзіў першы. Ёсць такія людзі, што прыходзяць раней за іншых. Калі прыйшлі мы, вартаўнік яшчэ спаў у гардэробе на раскладушцы. Мы бачылі праз шкляныя дзверы, як ён спіць. Але ні я, ні Глеб не мелі жадання пабудзіць вартаўніка. Быў пачатак зімы, і падаў дробны, як алюмініевае пілавінне, снег. Было чуваць, як сумна гудуць тралебусы і далёка звіняць на прыпынках трамваі. Снег напаўняў мітуснёю конусы ліхтарнага святла. Мы чакалі трэнера на холадзе, пад снегам на прыступках.

— Калі вада не любіць чалавека, ён не стане плыўцом, — прамовіў Глеб.

— Вада не можа любіць, — сказаў я.

— Ёсць людзі, што камяні: і хвіліны на паверхні не пратрымаюцца.

— Ёсць такія.

— Іх не любіць вада.

— Не любіць… — паўтарыў я. У мяне не было жадання спрачацца.

— Яны не плыўцы.

— А можа, яны не захацелі стаць плыўцамі, ці проста не хапіла ўпартасці?!

— Можа, і так, — згадзіўся Глеб.

У мяне моцна змерзлі рукі, калі ў канцы алеі, што вядзе цераз лесапарк да басейна, з’явіўся трэнер. Мы пазналі яго па лыжным балоневым касцюме. Праз металічны бляск снегу трэнер набліжаўся пругкай хадою, якая вылучае з натоўпу спартсмена. Было чуваць, як пад абцасамі рыпіць, што пенапласт, блакітны снег.

— Ён, — сказаў Глеб.

— Так, — пацвердзіў я і пастукаў у тоўстае шкло дзвярэй.

Вільгаццю і тынкоўкай пахла ў распраналцы. Трэніроўка пачыналася ў сем. Кафляны пакой душа прасыхаў за ноч. Тры дні на тыдзень Глеб першы ўключаў люмінесцэнтныя лямпы ў распраналцы і ў душы. Святло плямістымі ўзорамі расплывалася на медыцынска-белых плоскасцях. Глеб ганарыўся тым, што запальвае святло менавіта ён, а не хто іншы. Сухі і праветраны душ і распраналка ад гэтага святла выдавалі вільготнымі і коўзкімі. У распраналцы нас звычайна даганялі астатнія хлопцы з групы.

Прыбіральшчыца добра ведала нас, але кожнага разу драўляным голасам гаварыла слова — пропуск.

Адкручваліся краны. Конусы вады поўніліся аголенымі хлапечымі постацямі. Глеб спяваў, ён заўсёды спяваў у душы. Так лягчэй стаяць пад халоднай вадой. Але спяваў Глеб нядоўга, хвіліну, не болей. Каб цела прыстасавалася да холаду, краны закручваліся так: спачатку чырвоны, потым сіні. Мне падабалася гэтае колеразлучэнне — сіні і чырвоны на белым глянцавым фоне, таму што сіні не даваў чырвонаму крывавіцца. Вада струменілася і знікала праз краты ў падлозе з шыпеннем і вуркатаннем. Я любіў, стоячы пад душам, глядзець, як струмені вады ляцяць у шчыльную чарнату. Калі мы выходзілі ў басейн, кроплі вады заставаліся зіхацець на слізкіх кафляных квадратах.

Помню, як узнікала непрыемнае пачуццё, калі доктар папярэджваў перад трэніроўкай, каб не дурэлі ў вадзе: «У нас Палац воднага спорту, а не які-небудзь басейн». Ён моцна націскаў на слова «Палац», ажно здавалася, што ў басейне можна дурэць. Мы не любілі доктара, але паважалі за тое, што даваў бясплатна мазь Вішнеўскага. Мы пакутавалі ад фурункулаў.

У басейне пахла хлёркай і пальмамі. Мы абдымалі самі сябе за плечы і дрыжалі ад перападу тэмпературы. За шкляной сцяною прачынаўся горад, запальваючы кроплі-агні пад чорна-сінім небам. Тры зялёна-блакітныя плоскасці стылі ў чаканні трэніроўкі. Круглы

шэры гадзіннік з рымскімі лічбамі ды ржавымі стрэлкамі адлічваў трэніровачны час. Два квадратныя басейны нам не належалі. Бо адзін — плыткая, адносна цёплая «жаботня» для малых, другі, з вышкамі і шасціметровай глыбінёй, быў прыстасаваны да скачкоў у ваду. Але група ішла да вышак. Хлопцы адзін за адным падымаліся па халодных металічных прыступках. У кожнага было сваё любімае месца, і ў кожнага была любімая вышыня. Глеб займаў дзесяціметровую. Я станавіўся на гнуткі канец пластыкавай дошкі на трохметровай вышыні.

Пальмы, хоць і прыжыліся, ад хлёркі раслі блага, але імі вельмі ганарыўся наш доктар. З вышкі на пальмы глядзець непрыемна. Вострыя канцы пальмавых лістоў былі жоўта-папяловыя і сухія. Ніхто з хлопцаў не глядзеў з вышкі на пальмы, ніхто не глядзеў і на ваду. Гэтага не трэба рабіць, бо вышыня палохае. Таму лепш глядзець на горад, што свеціцца ланцугамі дарожных ліхтароў і міргае святлафорамі.

Помню, як першы раз я ўзняўся на пяціметровую вышку і глянуў долу. Хісткая блакітная глыбіня ў квадратнай кафлянай раме напалохала мяне, і я спусціўся па сходах. Першы раз я скокнуў, заплюшчыўшы вочы, і моцна пабіўся аб ваду.

Хлопцы стаялі на вышках, як скульптуры на карнізах ампірных пабудоў. Яны добра ведалі, што не трэба глядзець на ваду з вышыні, і глядзелі на ранішні горад праз тоўстае вітрыннае шкло. Калі з душа выйшаў трэнер у чырвоным спартыўным касцюме і ў шлёпанцах на босых нагах, група як па загаду зрабіла крок наперад — у халодную пустату. Мяне заўсёды здзіўляла, што палёт не скончыцца, калі ты трапіш у ваду, што палёт будзе працягвацца, толькі ў іншым вымярэнні. Гул запоўніў шкляна-бетонны інтэр’ер. Вада ў басейне закіпела, завіравала.

Размінка прайшла вяла. Мы ведалі, што давядзецца праплыць дзвесце метраў «на час», і шкадавалі сілы. Трэнер бачыў, што мы філонім, але маўчаў. На грудзях у трэнера блішчала цыбуліна секундамера.

Калі я трымаў у руцэ цяжкі секундамер, час здаваўся легкаважкім, а парожнія трыбуны нагадвалі Старажытны Рым.

Трэнер узняў рукі — гэта быў знак, што размінка скончана. Я і Глеб стаялі на суседніх тумбах. Мы рыхтаваліся праплыць чатыры пяцідзесяціметроўкі рознымі стылямі. Трэнер падзьмуў у плоскі пластмасавы свісток і націснуў на галоўку секундамера. Першыя пяцьдзясят метраў група плыла кролем. Я адчуў, што адстаю ад Глеба. Кроль — не мой стыль. Калі група плыла кролем, першым прыходзіў Глеб. Я чуў, як побач з галавою гудзе вада. Я зразумеў, што Глеб усім

целам адчуў плоскасць вады. Ёсць такая плоскасць, што сама прынясе да перамогі, калі ты яе адчуеш. У групе толькі я і Глеб ведалі пра плоскасць. Мы не шкадавалі сакрэту, проста пакуль яе не адчуеш сам, ніхто табе не растлумачыць, што гэта за плоскасць такая. Кулёк я выканаў лепш і дагнаў Глеба. Група яшчэ секла хлараваную ваду кролем, калі мы леглі на спіну. На спіне першым прыйшоў я.

Трэнер хадзіў па кафлянай дарожцы і паглядаў на секундамер. У трэнера быў манікюр і педзікюр. Нам — хлопцам з групы — гэта не падабалася. Трэнер не любіў мяне і Глеба. Ён ведаў, што мы ізноў прыйдзем першымі і пакажам добрыя вынікі, але гэтага недастаткова, каб любіць чалавека.

Чарговы кулёк я выканаў добра, але батэрфляй (дэльфін) — не мой стыль. Я не любіў «дэльфінаў» за іх слізкасць. Потым я адчуў, што плоскасць, якая несла Глеба да перамогі, знікла, і Глеб перастаў мяне цікавіць. Мне пачало здавацца, што чорная стужка на дне басейна зусім не рухаецца. Астатнія пяцьдзясят метраў я ледзь праплыў, нават не праплыў, а праіснаваў у стане руху на вадзе. Калі я дакрануўся да сцяны і стаў на дно, рукі ўсплылі і леглі на паверхні, а вада зрабілася гарачай і шчыльнай, быццам тлушч.

У душ Глеб зайшоў адразу за мной. Мы стаялі пад халоднай вадою. Мы ведалі, што вада халодная, але не адчувалі гэтага. Зайшоў трэнер і пачаў хваліць вынікі. Я глядзеў на трэнера праз ваду, і ён у сваім чырвоным касцюме нагадваў мех з яркага цэлулоіду. З-за шуму вады мы не чулі трэнера. Мы толькі разумелі, што ён хваліў нас. Я падумаў, што трэнеру абавязкова трэба набыць сінія фірменныя спартыўныя штаны.

Пасля басейна зімовае паветра колкай свежасцю расцякалася па грудзях. Глеб і я ішлі праз сасновы лесапарк. Шарае святло цадзілася праз цёмна-смарагдавыя вяршаліны. Навокал было пуста, ціха і холадна. Ліхтары не гарэлі. Пасля басейна заўсёды хацелася есці.

У прадуктовым магазіне, як і ў лесапарку, яшчэ нікога не было. Мы хадзілі з аддзела ў аддзел. Прадаўшчыцы, седзячы за прылаўкамі, сонна пагглядалі то на нас, то праз вітрыны на заснежаны горад. Цукеркі, выстаўленыя ў шкляных шарах, нагадвалі рыбак у акварыумах.

— Трэба ўзяць цукру, — сказаў Глеб.

— Рафінаду? — спытаў я.

— Не, не рафінаду, а колатага.

— А ён ёсць?

— У апошнім шары, — сказаў Глеб і паказаў рукою на самы вялікі шар. За шклом бліщчаў цукар, падобны на кавалкі бела-блакітнага лёду.

— Хадзем выбіваць, — сказаў я.
— Трэба спачатку ўзважыць.
Праз хвіліну, стоячы на магазінным ганку, мы трымалі ў руках па кавалку колатага цукру. Церушыў снег і ствараў пачуццё няўтульнасці, тое пачуццё, калі хочацца бегчы дадому не аглядаючыся, пакідаючы за спінаю ўвесь свет. Рукі хутка змерзлі.
Смак цукру апякаў рот, і есці мне перахацелася.
— Цукар нагадвае лёд, — сказаў Глеб.
— А мне ён нагадвае пра фігурнае катанне, — сказаў я і кінуў цукар у сумку да цэлафанавага мяшка з плаўкамі і ручнікам.
— Чаму? — спытаў Глеб.
— Ён падобны на лёд і нагадвае пра канькі. Я займаўся фігурным катаннем.
— А чаго кінуў?
— У групе засталося толькі двое хлопцаў. Спачатку нас было дзесяць чалавек, і ўсе кінулі. Цэлы год мы хадзілі ўдвух. А потым я застаўся адзін.
І таксама кінуў.
— А чаму пайшоў на плаванне?
— Мне было ўсё роўна куды. У школу прыйшоў трэнер з басейна. Мне яго спартыўны касцюм спадабаўся. Я і запісаўся. Калі ён спытаў, што я магу, я зрабіў тры кулькі на бетоннай падлозе ў школьным вестыбюлі і запісаўся. А ты?
— Я і раней плаваў, — сказаў Глеб.
— Дзе?
— У Смаленску. Мы жылі там, і я плаваў. У мяне мама настаўніца фізкультуры. Я з дзіцячага сада плаваю… — счакаўшы, ён дадаў: — Думаю кідаць.
— Ты ж лепш за ўсіх плаваеш! — здзівіўся я.
— Ну і што?
— Як што? Можаш стаць майстрам.
— Не магу.
— Чаму?
— Мне нецікава. У мяне маці майстар спорту. Я гаварыў з ёю. Без басейна яна жыць не можа, а я магу. Мне нават лепш без плавання, — працягваў Глеб, — а ты, дарэчы, таксама добра плаваеш. Ужо колькі разоў мяне абыходзіў.
— Я добра плаваю толькі на спіне, а астатнімі стылямі блага.
Мне зноў захацелася есці, і я дастаў цукар. Глеб з’еў свой кавалак.
— Ведаеш, я табе не дарую таго, што ты мяне сягоння абышоў, — сказаў Глеб, даеўшы свой цукар.
— Гэтага ты не даруеш сабе, таму і застанешся, а я вось кіну.

— Сур’ёзна?

— Далёка ездзіць. Праз увесь горад матаюся. Дзве перасадкі. Нам далі новую кватэру. Толькі ў адзін бок больш за гадзіну ехаць.

— Можа і правільна. А што будзеш рабіць?

Я адчуў: яму спадабалася маё рашэнне, захацелася павярнуцца і пайсці, але я сказаў:

— Пры школе ёсць лыжная секцыя, пайду туды.

— Ты ж казаў, што не любіш зіму?

— Зіму не люблю. Затое люблю бегаць на доўгія дыстанцыі... Мой тралейбус. Пакуль!

Плаванне я кінуў, бо мне ў рэшце рэшт проста не падабаліся смак цукру з хлёркай і холад.

**17.06.1985**

**Шар**

Яраку падабалася ёлка і падобныя да цукерак лямпачкі, драўляныя гадзіннікі і шары, у якіх адбіваецца і выцягваецца твой твар і робіцца клоунскім, а яшчэ падабалася канфеці, схаванае ў хлапушкі, і шмат розных рознасцей, без чаго не абыходзіцца навагодняе свята. Хлопец загадзя пачынаў рыхтавацца да сямейнай урачыстасці. Ён клеіў маскі, выразаў з паперы снежынкі, прышываў да цукерачных абгортак петлі... Рыхтавацца Ярак пачынаў пасля дня нараджэння сваёй сястры Броні, якой вельмі пашанцавала, бо яна нарадзілася ў нядзелю, за тыдзень да Новага года.

Сёлета Броні спаўнялася тры гады ў сераду. Была звычайна-непрыкметная працоўная серада з нізкімі хмарамі і моцным ветрам. Бацька завёз Броню да дзеда з бабай, бо які дзень нараджэння, калі цябе адвядуць у прапахлы маннай кашай яслі-сад. Маці дала Яраку грошы і сказала:

— Купіш падарунак.

— А што купіць? — спытаў ён.

— Купі якую-небудзь ляльку ці цацку. Сходзіш у магазін і выбераш.

— Я не ведаю, што купляць.

— Да вечара прыдумаеш.

— А калі не прыдумаю?

— Твая сястра застанецца без падарунка.

— А вы з бацькам што купілі?

— Я купіла ёй сукенку, а бацька такі, як і ты: яшчэ не прыдумаў.

— Добра, я прыдумаю і куплю што-небудзь.

— Купі, купі. Толькі не спазняйся, за стол мы сядзем у сем.

У школе з Яракам нічога не здарылася, яго не выклікалі настаўнікі і кантрольных прац ён не пісаў. А вось пасля заняткаў хлопца спыніла ў школьным двары настаўніца фізкультуры.

— Вось добра, што я цябе сустрэла. А то не ведала, што рабіць. Наша валейбольная каманда сёння выступае на гарадскіх спаборніцтвах. Каманда павінна выступаць, а ігракі раз'ехаліся. Я ледзь-ледзь пяцёх знайшла. Будзеш гуляць шостым, — хутка гаварыла настаўніца.

— Я сёння не магу, — запярэчыў Ярак.

— Як гэта ты не можаш?! Трэба згуляць. Абавязкова трэба. Наша школа і так на перадапошнім месцы…

— У маёй сястры сёння дзень нараджэння.

— А я думала і сапраўды нешта сур'ёзнае, а тут дзень нараджэння!

— Мне яшчэ падарунак трэба купіць, — Ярак пашкадаваў, што не схлусіў.

— Ідзі дадому, пераапраніся і праз паўгадзіны каб быў у спартзале. Падарунак купіш пасля гульні. Усё. Ідзі, я чакаю.

Гульня не пайшла. Яны прайгралі. Настаўніца фізкультуры не дакарала хлопцаў, і з-за гэтага было яшчэ больш крыўдна. Ярак гуляў, як мог, стараўся, але ў яго не хапала росту, каб добра, па-сапраўднаму «рэзаць» і ставіць надзейны блок. Гульня скончылася а палове сёмай, і Ярак спазняўся на дзень нараджэння.

Ляцеў мокры снег, і асфальт быў фактурны, быццам яго засыпалі тоўчаным шклом. Ярак шпарка ішоў па рассыпаным пад ліхтарамі святле. Моцны вецер шпурляў у твар цяжкія сняжынкі. Яраку хацелася хутчэй апынуцца за святочным сталом і паглядзець, як Броня здзьмухне тры вострыя агеньчыкі з тонкіх свечак. Хлопец абганяў прахожых. Народу на вуліцах было многа, як і павінна быць у перадсвяточныя вечары. Людзі выходзілі з магазінаў, заходзілі ў кавярні, стаялі ў чарзе па свежую газету, беглі праз вуліцу на зялёнае вока хутказменлівага святлафора, чакалі пад гадзіннікамі, перабіралі зялёнабокія лімоны ў скрынках, каб выбраць самы жоўты… Ярак спяшаўся ў магазін «Цацкі».

У магазіне чаго толькі не было — і зоркі з тоўстай фольгі, і зайцы з барабанамі, і мядзведзі з піламі, і грыбы з драцянымі вушкамі… Каля прадаўшчыц стаялі стосы кардонак, у якія запакоўваліся набытыя цацкі. Ярак прайшоў у спартыўны аддзел, дзе на паліцах знайшоў мячы. Хлопец выбраў пругкі ярка-чырвоны з цёмна-сіняй палоскаю двухрублёвы, такі, як і хацеў, мяч. А навокал купляліся і купляліся навагоднія цацкі, а прадаўшчыцы складалі і складалі тыя цацкі ў кардонкі, выбівалі і выбівалі чэкі. Гулі касавыя апараты, звінелі

капейкі, шапацелі рублі, называўся кошт, лічылася рэшта… Здавалася, увесь горад прыйшоў купляць забаўкі.

Снег ляцеў наўскос і заштрыхоўваў святло ў вокнах. Чым вышэй паверх, тым шчыльней кладзіся жывыя штрыхі. Ярак спыніўся пад святлафорам і глядзеў на чырвоную смірную фігурку. Побач стаяла жанчына і трымала за руку хлопчыка, які прыціскаў да сябе вялікую светлую кардонку. Раптам вецер сарваў накрыўку з кардонкі і кінуў яе на дарогу. У кардонцы цьмяна паблісквалі гладкімі бакамі ёлачныя шары.

— Я так і ведала. Казала, давай я панясу. Не! Сам ён панясе! Панёс?! — пачала сварыцца жанчына.

Хлопчык падняў цяпер ужо брудную накрыўку і закрыў кардонку.

— Можа, зараз аддасі? — спытала жанчына.

— Я сам, я добра буду трымаць, — прасіў хлопчык.

— Толькі накрыўку трымай…

Чырвоная смірная фігурка праводзілася ў чарнату, замест яе ўзнікла зялёная і зрабіла адзін крок. Ярак перабег дарогу і раптам пачуў, як упала кардонка. Ні шум аўтаматораў, ні тупат, ні шыпенне шын, ні скрыгат прычэпаў — нішто не перашкодзіла Яраку пачуць удар лёгкай кардонкі аб асфальт. Хлопец азірнуўся. Пасярод вуліцы ляжала на баку кардонная скрыначка, з яе павыкочваліся і разбіліся шары. Жанчына зноў пачала сварыцца на сына, а той, збянтэжаны, трымаў у руках накрыўку. Міргнуў безудзельны да здарэння святлафор. Жанчына прывяла хлопчыка на тратуар. Вадзіцель тралейбуса паміргаў фарамі. Ён, мусіць, спадзяваўся, што жанчына вернецца і забярэ кардонку, але жанчына толькі махнула вадзіцелю рукою, каб не чакаў, а ехаў. Кола расціснула кардонку і патрушчыла рэшткі шароў. Ярак і жанчына з хлопчыкам селі ў адзін аўтобус.

— Мама, давай вернемся, давай купім новыя шары. Ці хаця б адзін шар. Мама, давай купім адзін шар… Маленькі… — прасіў хлопчык.

Ён прасіў, а жанчына казала, што ў яе больш няма грошай і што трэба было добра трымаць кардонную скрыначку.

— Ты сказала «толькі накрыўку трымай», — запярэчыў хлопчык, і больш ён нічога не казаў і не глядзеў на маці.

Ярак трапляў у падобную сітуацыю. Ён намагаўся ўспомніць, але не мог, — Яраку было зарана ўспамінаць дзяцінства. Ён падумаў, што ўсё, што адбываецца, — некалі прыснілася. А на самай справе яму зусім не прыснілася даўняе здарэнне.

Яракава маці прынесла пад Новы год шары, на якіх былі малюнкі, зробленыя белай, шурпатай, падобнай да цукру лініяй. Самым вялікім быў белы шар. Ярак папрасіў, каб яму далі патрымаць у руках вялікі шар. Маці дазволіла. Ярак асцярожна ўзяў шар, рукі задрыжалі, і шар

разбіўся. Хлопчык не ўтрымаў цацку, бо баяўся моцна сціскаць тоненькае шкло і баяўся ўпусціць шар. Пальцы задрыжалі, і цацка, прыгожая і вытанчаная, апынулася на паркеце і разляцелася на шалупінкі, пасярод якіх варожа заблішчэла металічнае вушка.

— Зрабіце яго наадварот…

Дзякуючы гэтаму «наадварот», Ярак, калі стане Яраславам, успомніць і разбіты вялікі шар, і хлопчыка з кардонкай, але гэта будзе значна пазней, калі надыдзе час успамінаць дзяцінства.

У аўтобусе Яраку цяжка было глядзець на хлопчыка, які трымаў непатрэбную накрыўку. Яму хацелася дапамагчы хлопчыку. Аўтобус прытармазіў на прыпынку. Ярак сунуў грошы ў руку хлопчыка і саскочыў на тратуар. Аўтобус пакаціў па льдзістым асфальце, пад бязлістымі галінамі бульварных ліп і таполяў.

Калі Ярак зайшоў у кватэру, бацькі ўжо апраналі Броню, каб ехаць дамоў. Хлопец хацеў падараваць мяч, але спыніўся. Яму зрабілася крыўдна, бо такі самы, чырвоны з сіняй палоскаю, мяч трымала ў руках Броня. Маці сказала, каб Ярак распранаўся і ішоў вячэраць, а яны паедуць, бо Броню трэба класці спаць. Ярак аддаў мяч бацьку і пайшоў на кухню, дзе на стале зіхацеў толькі што вымыты святочны сервіз. Баба дастала з халадзільніка блюда з кавалкам торта, у які былі ўторкнуты тры свечкі. Ярак адчуў, што прагаладаўся. Ён еў торт.

— Ты ў мяне любімы унук. На Новы год я спяку яшчэ адзін торт. Ты надта ўжо худы, — казала баба.

Ярак еў торт, думаў, што сказаць маці пра грошы, і нічога не мог прыдумаць.

**10.12.1986**

## Скрыпні

Вечарэла. У пустым двары сядзеў на дашчанай скрыні адзінаццацігадовы Саўка Кныш і еў крамяную моркву. Да яго падышоў старэйшы на год Міцька Суцкі, выцяў нагою па скрыні і сказаў:

— Значыцца, моркву трушчыш?!

— Хочаш? — малодшы працягнуў старэйшаму пакусаную моркву.

— Сам еш абгрызкі. Цэлай няма?

— Адна была. Я ж не ведаў, што і ты захочаш…

— Не ведаў? — Міцькава далонь узнялася над Кнышавай тонкай шыяю, — зараз даведаешся.

Саўка перастаў храбусцець і ўцягнуў галаву ў плечы.

— Баішся, гад?! Як шастаць па чужых гародах, дык смелы, а цяпер ён баіцца, — старэйшы лёгка ўдарыў кулаком па віхрастай патыліцы малодшага.

— Не краў я, з дому прынёс, — запярэчыў пакрыўджаны Кныш.
— Так мы табе і паверылі. Ідзі і мне прынясі, пачысціць і памыць не забудзься, і каб хутка: адна нага — тут, другая — там.
Саўка дажаваў крохкую моркву і паведаміў:
— Морквы больш няма, я апошнюю браў.
— Значыцца, няма… А што ёсць?
— Толькі бульба засталася, больш нічога.
Суцкі глянуў на пунсовыя шыбы, у якіх адбівалася вечаровае сонца і загадаў:
— Прыцягнеш бульбы. Вогнішча будзем класці.
Кныш пабег да дзевяціпавярховіка і знік у пад'ездзе. Міцька шырока ўзмахнуў рукамі, падскочыў і апусціўся дзвюма нагамі на скрыню. Тая з вострым трэскам праламалася. Калі Саўка з бульбаю ў газетным кульку вярнуўся, Суцкі ўжо цалкам даламаў скрыню і чакаў, рукі ў кішэнях, каля раскіданых на зямлі трэсак і дошак.
Вогнішча хлопцы расклалі за гаражамі, каля заводскага паркана.
— Дроў мала, — сказаў большы, калі лёгкія палымяныя языкі пачалі аблізваць сухое дзерава.
— Ага, мала, не хопіць, каб спячы бульбу, — пагадзіўся меншы.
— Палезеш на завод, перакінеш праз паркан некалькі скрынь.
— Чаму я? Я па бульбу хадзіў.
— Твая бульба, мае запалкі.
— Я на завод не палезу, лезь сам.
— Што? Па шыі захацеў? Даўно не білі?
— Яшчэ светла зусім. Як я палезу? — Саўка тыкнуў пальцам у неба, дзе мігацелі першыя бляклыя зоркі.
— Пачакай-пачакай, пакуль сабаку спусцяць і пражэктар уключаць. Калі збіраешся лезці, то трэба зараз.
Кныш шпурнуў у полымя трэску, якой парадкаваў вогнішча, і пайшоў да паркана. Праз вузкую шчыліну хлопец агледзеў заводскі корпус з цёмнымі мёртвымі вокнамі і шырокі пляц, застаўлены скрынямі, такімі самымі, як яны палілі.
— Чаго стаў? Лезь! Няма там нікога, — упэўнены голас старэйшага падштурхнуў Саўку.
Ён падскочыў і ўчапіўся рукамі за колкі край дашчанага паркана. Паспрабаваў закінуць нагу, але не здолеў і павіс на руках. Здзеклівы смех Суцкага ўдарыў па худых Кнышавых плячах, і той праз хвілю конна сядзеў на паркане. Пляц быў пусты і ціхі. Хлопец саскочыў на запыленую траву і, угнуўшыся, крадком пайшоў да састаўленых у сцяну скрынь. Раптам недзе за цагляным корпусам джыгануў ланцугом па дроце і забрахаў вялікі сабака. Хлопец падбег да скрынь, прысеў, стаіўся і стаў прыслухоўвацца. Сабака сціх; толькі

пазвоньваў, відаць, задоўгі ланцуг. Пад густым пацямнелым небам манатонна гудзеў горад. З роўнага гуду набліжаліся і аддаляліся галасы тралейбусных і машынных рухавікоў. Хлопец счакаў, потым нячутна і акуратна, быццам яны шкляныя, узяў дзве пустыя скрыні і рушыў да паркана, за якім віўся ўгору светла-сівы дымок. Скрыні адна за адной узляцелі і пападалі на зямлю. Праз імгненне каля іх ужо стаяў задаволены Саўка Кныш.

— А ты баяўся, — лежачы ля вогнішча сказаў Міцька Суцкі.

За чырвоным корпусам зайшоўся густым брэхам устрывожаны сабака.

Хлопцы хутка паразломлівалі скрыні і пакідалі дошкі ў вогнішча. Полымя прагна з’ядала сухое дзерава.

— Клёва, — сказаў адзін з хлопцаў.

— Нішцяк, — сказаў другі.

Неба пацяжэла. Паярчэлі буйныя зоркі. Белым нежывым святлом засвяціўся над заводскім пляцам пражэктар, замацаваны на чорным слупе. У жылых карпусах пацяплелі жоўтыя вокны з цукровымі драбочкамі лямпаў. Спушчаны на ноч сабака падбег да паркана і два разы нямоцна гаўкнуў на хлопцаў, на вогнішча, на горад, а потым, не атрымаўшы адказу, вярнуўся да сваёй пакрытай руберойдам будкі.

Сцямнела.

— Будзем закідаць? — спытаўся малодшы.

— Давай, працуй, — дазволіў старэйшы.

Саўка адсунуў дошкаю вогнішча, пакідаў шурпатыя бульбіны ў гарачы сыпучы прысак і загарнуў іх вуглямі. Полымя ачахла, толькі зрэдку дрыжалі на чорным дзераве блакітныя вострыя язычкі.

— Та-а-ак, крадзеныя скрыні палім! — на гаражы, на фоне чарнільнага неба стаяў у зыркім пражэктарным святле трынаццацігадовы Ванька Тамілін.

— Бульбу пячом, — папраавіў Кныш.

Суцкі ударыў яго кулаком у бок.

— Што? Што я такога сказаў? — ускінуўся той і адбегся да паркана.

— Та-а-ак, — Тамілін злез з гаража і падышоў да ачахлага вогнішча, — хацеў бульбы мне не даць?

Міцька маўчаў і глядзеў на крываныя вуглі.

— Так? Я ў цябе пытаю, герой, — Ванька па-сяброўску паклаў руку на Міцькава плячо.

— Малы, хадзі сюды, не бойся.

Кныш падышоў да хлопцаў.

— Сажы, ён цябе біў? Не бойся, гавары.

Суцкі скінуў чужую руку са свайго пляча і ўстаў.
— Біў! — злосна і ўпэўнена вымавіў самы меншы.
Тамілін спрытна схапіў Міцькава запясце і вывернуў яму руку. Той застагнаў, але не вымавіў ні слова.
— Трэба цябе, гад, пакараць, каб ведаў, як малых біць, а старэйшым бульбы не даваць. Малы, падыдзі і дай гэтаму гаду па галаве, — загадаў самы старэйшы.
— Толькі паспрабуй, шчанюк, — варожа прашаптаў Суцкі.
— На! — Саўка падскочыў і з усяе моцы ўдарыў кулаком у скронь. — Можа, яшчэ даць?
Міцька паспрабаваў вырвацца, але Тамілін прыціснуў заламаную руку да лапаткі.
— Пусці-і-і...
— Ну што, будзеш біць малых? — мядовым голасам праспяваў Ванька.
— Будзеш біць малых? — праскавытаў Кныш і высалапіў язык.
— Не буду! Пусці! Баліць!
Тамілін крыху паслабіў заламаную руку, Суцкі вырваўся і пабег у цемру.
— У-гу-гу-гу-гу-у-у, — услед уцекачу пусціў самы старэйшы.
— Ага-га-га-га-га-а-а, — дадаў самы малы.
На заводзе азваўся вартавы сабака.
Рэха пакацілася па мікрараёне, па пустых, засаджаных тонкімі дрэўцамі, дварах, паміж дзевяціпавярховікаў, над пляскатымі дахамі гаражоў і кіёскаў...
Ванька ўзяў з зямлі трэску, выкаціў з вуглёў на пясок чорную бульбіну, пакідаў яе з далоні на далонь, пахукаў, разламаў і пакаштаваў.
— Сырая, гадаўка, — кінуў ён у бок Саўкі. — Не дапяклася. Давядзецца па дровы ісці.
— Сабака там ненавязаны. Мне дадому трэба, — пачаў прасіцца Кныш.
— А хто цябе на завод гоніць? Ідзі да гастранома і там у двары пашукай.
— Далёка.
— А ты бягом, будзе бліжэй, — ухмыльнуўся Тамілін.
Саўка пабег паўз асветленыя заднія сцены прыватных гаражоў, на якіх агрэсіўнымі зігзагамі былі панапісваны назвы рок-гуртоў — «Магістрат», «Бонда», «Мроя», «7 герц»... Футбольная каманда «Дынама-Мінск» таксама карысталася вялікім поспехам у аматараў сценапісу, якія не шкадавалі нітрафарбы з аэразольных балонаў, каб упрыгожыць іржавыя сцены.

За гастраномам у сятчастай загарадцы стаялі пластыкавыя і металёвыя скрыні, драўляных не было. Хлопец пастаяў, паглядзеў на непатрэбныя рознакаляровыя скрыні і ўспомніў, што ўранку бачыў, як каля газетнага кіёска вясковая кабета з чырвонымі вялікімі рукамі прадавала часнок. Белыя вянкі часнаку ляжалі на чыстай жоўценькай дашчанай скрыні. Хлопец пабег праз цёмныя двары да кіёска. Скрыня сапраўды стаяла на тым самым месцы, дзе была раніцай.

Засопшыся, са светлай скрыняй у руцэ Кныш спыніўся каля вогнішча. Са здзіўленнем ён глядзеў, як Тамілін нетаропка са смакам есць бульбу, як паблісквае драбочкамі чырвані растрыбушанае вогнішча, як скачуць палымяныя язычкі па абгарэлай з аднаго канца дошцы… Саўка шпурнуў у цемру да паркана прынесеную скрыню, падняў абгарэлую дошку і пачаў шукаць у прыску і вуголлі бульбу. З попелу выграбаліся адны чорныя лупіны.

— Дарэмна шукаеш. Колькі той бульбы было? На дваіх, каб наесціся, усё роўна не хапала. А пакаштаваць я табе пакінуў самую вялікую, дарэчы, — Ванька дастаў з-за спіны чорную бульбіну і кінуў Кнышу.

Той злавіў бульбіну.

— А можа, ты не хочаш?

Меншы не адказаў, ён працягваў разграбаць дошкаю вуглі і прысак.

— Ты што, язык праглынуў? Давай сюды бульбу.

— Не дам.

— Што ты сказаў? — старэйшы ўстаў з зямлі.

Малодшы ўскочыў, адбегся да гаражоў і стаў спінаю да халоднай сцяны. Пражэктар ярка асвятляў сцяты тварок Саўкі і выстаўленую вострым абгарэлым канцом дошку. За Кнышам на стракатай сцяне стаяў густы чорны цень. Тамілін павольна рушыў да меншага.

— Стаяць! — бліснулі Кнышавы рэдкія зубы. — Вочы павыбіваю, па-вы-паль-ва-ю!

Саўка вышэй ускінуў настаўленую ў варожы твар каструбаватую дошку. На самым вастрыі ўспыхнуў і згас сіні агенчык. Ванька плюнуў на вогнішча і пашыбаваў уздоўж цёмнага паркана з яркімі пісягамі шчылін. Па другі бок паркана бег і брахаў сабака.

Кныш пачакаў, пакуль сціх у цемры брэх, знайшоў кінутую скрыню, пазграбаў яшчэ дзе-нідзе чырвоныя вуглі, накідаў на іх трэсак і раздзьмуў полымя. Саўка з’еў бульбіну разам з чорнаю прыгаркаю, што рыпела на зубах. Зыркія языкі ахапілі новае дзерава, асвяцілі хлапечую постаць і кінулі на гаражную сцяну вялікі цень. Хлопец трымаў рукі над вогнішчам.

Схаладала. 15.09.1988

**Свята**

Баба Ядзя пякла бліны. Ярак сядзеў за сталом і глядзеў у печ на зыркае полымя. На стале стаяў кубачак малака і сподак з мёдам.

— Снедай, — сказала баба ўнуку.

Ярак прачнуўся рана. Яму хацелася, каб хутчэй мінуў дзень і надышоў вечар, бо вечарам Ярака павядуць на ёлку, і Дзед Мароз абавязкова дасць падарунак. Есці Яраку не хацелася, але спрачацца з бабаю хлопец не стаў.

— Смачна? — спытала баба.

Унук кіўнуў.

— Мо варэння да бліноў даць?

— Якога? — спытаў Ярак.

— Ёсць агрэст і чарніцы…

— Не хочацца варэння.

— Тады еш мёд.

— Я ем.

Драўлянай лыжкай баба наліла белага цеста на чорную патэльню.

— А што мне Дзед Мароз падорыць?

— Нешта смачнае, — адказала баба Ядзя.

— А дзе ён жыве?

— У лесе, у яго там хата ёсць.

— А чаму мы той хаты не бачылі, калі ў чарніцы хадзілі?

— Дык ён жа не ў нашым лесе жыве, а ў далёкім.

— У тым лесе, што за Мінскам пачынаецца?

— Не, ён на поўначы ў вялікім лесе жыве. А пад Новы год Дзед Мароз прыходзіць з падарункамі і кладзе іх пад ёлку. А тым, у каго няма ёлкі ці цацкі на ёлцы непрыгожыя, тым Дзед Мароз не прыносіць падарункаў.

— А ў нас ёлка прыгожая? — занепакоіўся Ярак.

— Так, у нас прыгожая, — супакоіла яго баба Ядзя.

За акном у ранішняй сінечы чарнеў сад. На шыбах танчылі аранжавыя адбіткі полымя.

— Можа, яшчэ блін з'ясі?

— Не, я пад'еў.

— Тады ідзі гуляй.

* * *

*Далёка-далёка, у ядлаўцовым лесе, на беразе возера жыве Дзед Мароз. Цэлае лета ён спіць. Прачынаецца Дзед Мароз толькі тады, калі возера замерзне. Ён дастае з куфра свой вялікі мех з падарункамі і збіраецца ў дарогу. Дзед Мароз апранае чырвоны кажух, чырвоныя рукавіцы і чырвоную шапку: гэта каб мы пазналі яго. Дарога ў Дзеда Мароза доўгая і цяжкая. У яго надта вялікі мех — сіні ў*

*белыя зоры, а ў мяху надта многа падарункаў, але ён ідзе, бо мы чакаем яго.*

* * *

Ярак любіў жыць у бабы Ядзі і дзеда Броніка. І страшэнна не любіў вяртацца з мястэчка ў Мінск да бацькоў.

Аднаго разу, калі па яго прыехала маці, Ярак ціхенька ўцёк, залез па драбінах на гарышча, схаваўся і заснуў каля коміна на старых радзюжках. Гукалі хлопца, шукалі, а знайшоўшы, замест таго, каб добра адлупцаваць, яго шкадавалі. У той дзень у Мінск Ярак з маці ехаў начным цягнікам. Пазней дзед Бронік любіў згадаць пра Яракавы хованкі за комінам, а як згадваў, нязлосна смяяўся, і Ярак смяяўся разам з дзедам.

Дзед Бронік працаваў шафёрам у пажарнай і часам браў унука з сабою ў гараж. А там дазваляў пасядзець за рулём у чырвонай машыне і надзець жоўтую каску. А што можа быць лепш за пажарную каску?

* * *

*Дзед Мароз ідзе праз лясы і балоты, праз горы і палі… Ён ідзе да дзяцей і дарослых, да ўсіх тых, хто чакае яго. Ён нясе падарункі хлопчыкам і дзяўчынкам, ён нясе радасць тым, хто верыць у яго. Дзед Мароз ідзе, не спыняецца, бо дарога далёкая-далёкая, і яму ніяк нельга спазняцца. Ён павінен прыйсці на Новы год.*

* * *

— Можна я да Толіка схаджу? — спытаў Ярак.

— Пагуляй дома, — сказала баба Ядзя.

— А Толік гаворыць, што сапраўднага Дзеда Мароза няма, што гэта дзядзькі пераапранаюцца і бараду з ваты прыклейваюць…

— От, гэты твой Толік, больш за ўсіх ён ведае. Падмануў ён цябе, а ты паверыў.

— Я не паверыў, а ён кажа, што я сам на ёлцы ўбачу.

— Гэта твой Толік ад зайздрасці так гаворыць, бо яго ў пажарную на ёлку не запрасілі.

* * *

*Дзеда Мароза чакаюць, і не проста чакаюць, усе рыхтуюцца да сустрэчы. У кватэрах і залах, у палацах і хатах, у парках і на пляцах ставяцца ёлкі. Зоры і шары, лямпачкі і цацкі, маністы кветак і сцяжкі, цукеркі і хлапушкі ўпрыгожваюць тыя ёлкі. На самае пачэснае месца пад ёлкаю ставяць маленькія скульптуры Дзеда Мароза, каб вялікі Дзед Мароз убачыў ёлку і даведаўся, хто яго чакае, і паклаў каля скульптуры падарунак.*

* * *

Баба Ядзя і Ярак ішлі пасярэдзіне вуліцы, як ходзяць вечарам па мястэчку.

З чорнага неба церушыўся іскрысты сняжок. За платамі ў прысадах ляжалі на снезе цёплыя квадраты хатняга святла. У вокнах пабліскваді цацкамі прыбраныя ёлкі. Гаспадары напальвалі на ноч грубкі, і над комінамі ўздымаліся пухкія дымныя слупы.

Снег парыпваў пад Яракавымі валёнкамі. Баба прыспешвала ўнука.

Пажарная свяцілася вялікім, ад столі да зямлі, акном. Было відно вялікую ёлку і дзяцей у яркіх касцюмчыках. Адна маленькая дзяўчынка ў блакітнай сукенцы стаяла на высокім зэдліку і, пэўна ж, чытала верш.

На ганку бабу з унукам перапыніў дзед Бронік:

— Не сюды, пойдзем спачатку ў гараж.

— А што такое? — занепакоілася баба Ядзя.

— Мы Дзеда Мароза не знайшлі. Спыталі ўсіх, каго толькі ведалі, усе касцюмы занятыя. Мы тут з мужчынамі пагаварылі і вырашылі, што Дзедам Марозам будзе наш Ярак. Пайдзем у гараж.

У гаражы насупраць брам-дзвярэй стаялі пажарныя машыны. Пры сцяне пабліскваді металёвыя шафы, у якіх, Ярак ведаў, ляжалі на паліцах пажарныя касцюмы і каскі.

Дзед Бронік адчыніў шафу і дастаў плечыкі, на якіх вісеў маленькі, чырвоны, з белай аблямоўкаю кажушок.

— У школе пазычылі. Яны нейкі спектакль ставілі, дзе быў Стары і Новы год. Стары год усё аддаваў Новаму. Вось і засталіся кажух і шапка, — тлумачыў дзед Бронік. — Давай, Ярачак, пераапранайся. Дзеці чакаюць.

* * *

*У навагоднюю ноч, калі ўсе людзі засынаюць пасля карнавалаў, Дзед Мароз разносіць падарункі. Ёлак многа, а людзей, што чакаюць падарункі, яшчэ больш. Ён ідзе ад ёлкі да ёлкі, і калі не спаць, то можна пачуць, як стукае па вуліцы ягоны ядлаўцовы кій, як парыпвае снег пад ягонымі валёнкамі.*

* * *

Зусім маленькі Дзед Мароз зайшоў у светлы, па-святочнаму прыбраны пакой. Дзеці і дарослыя сцішыліся.

— Гэта я, Дзед Мароз, падарункі вам прынёс, — зусім ціха сказаў ён і пачаў, не зняўшы рукавіц, развязваць вялікі мех.

— Ёлка запаліся, ёлка запаліся, — зашаптаў з кутка жаночы голас.

Маленькі Дзед Мароз пачуў шэпт, пакінуў, так і не развязаўшы, мех з падарункамі, падышоў да ёлкі, узлез на зэдлік і ціха сказаў:

— Святло згасіся, ёлка запаліся.

Святло ў пакоі патухла, і на ёлцы запаліліся рознакаляровыя шарыкі і кветкі.

Дзеці і дарослыя запляскалі ў ладкі.

— Будзем танцаваць, — сказаў гучны жаночы голас з кутка.

Зайграў акардэон. Дзеці ўзяліся за рукі і пачалі вадзіць карагод. Яны вадзілі карагод і паглядалі на маленькага Дзеда Мароза, які развязваў, не зняўшы рукавіц, свой сіні, у белыя зоры мех.

Падарункі былі для ўсіх аднолькавыя: папяровая скрыначка з цукеркамі і апельсінамі ды сіні пластмасавы дэльфін.

Калі ў мяшку засталася толькі адна скрыначка з цукеркамі і адзін дэльфін, маленькі Дзед Мароз сказаў:

— Да пабачэння, я прыйду да вас праз год. Чакайце.

* * *

*Дзед Мароз так стамляецца за навагодняе свята, што, вярнуўшыся ў сваю хату, спіць цэлае лета. Ён адпачывае, каб праз год зноў узяць свой вялікі мех і ісці да нас. Каб несці нам падарункі, бо мы чакаем яго і любім, бо мы спадзяёмся на яго… І ён прыходзіць. Мы чакаем яго, і ён прыходзіць. Так было адвеку і так будзе.*

* * *

— А Толіку мы не скажам, што на ёлцы не было Дзеда Мароза.

— Добра-добра, не скажам, — пагаджалася з Яракам баба Ядзя.

— Толькі ён не паверыць.

— Паверыць …

— Ты мне раскажаш казку?

— Раскажу. Толькі ты не гавары больш на холадзе.

**Снежань 1987 года**

## Вольная барацьба

«Два балы». Вось так проста і ясна сказаў настаўнік гісторыі. І ў дзённіку чырвонай шарыкавай ручкаю выставіў двойку і распісаўся. Бацька дзённік не правярае, а маці ў адпачынку. Хоць у нечым шанцуе. Трэба вывучыць пра паўстанне рабоў і «закрыць» двойку.

Еду ў спартзалу і чытаю падручнік.

**§ 49. Паўстанне рабоў пад кіраўніцтвам Спартака.**

**Пра паўстанне няма ніводнай звесткі, якая ішла б ад яго ўдзельнікаў. Таму застаюцца невядомымі шмат якія планы паўстання і падрабязнасці жыцця паўстанцаў. Мы ведаем пра паўстанне толькі тое, што расказалі ягоныя ворагі — рымскія ды грэцкія пісьменнікі.**

Усё ясна, ворагі паўстанцаў — пісьменнікі. А мой вораг — амерыканскае кіно. Гэта з-за яго я атрымаў «гусака». Гісторык спытаў: як загінуў Спартак? Я адказаў: Спартак памёр на крыжы. Яркі кадр:

Спартак вісіць распнуты, а ўнізе стаіць Спартакова жонка з немаўлём на руках. Спакутаваны Спартак усміхаецца.

Гісторык пытае: ты чытаў падручнік? Чытаў не чытаў, без розніцы. Я чатыры серыі паглядзеў. Чытаў, кажу. А гісторык: сядай, два.

**...ягоныя ворагі — рымскія ды грэцкія пісьменнікі.**

Чаму пісьменнікі? Не ясна. У мяне бацька — беларускі пісьменнік. Але я пра гэта нікому не гавару. Нашто? Каб пачуць — інтэлігент? Потым бойка? Біцца ўмею. У нашым класе ўсе… Трэба вывучыць пра Спартака.

**Правадыром паўстанцаў быў Спартак, ён вылучаўся вялікаю сілаю, розумам і смеласцю.**

**Малюнак 3. Ашыйнік раба.**

Ашыйнік, падобны да сабачага, толькі што без ланцуга. Цікава, спалі рабы ў ашыйніках ці не? У кіно спалі без ашыйнікаў. Але кіно я больш не веру. Хопіць адной двойкі.

Пасля размінкі мы сядзім на доўгай лаўцы, як гладыятары. Трэнер у чорных барцоўках (мне б такія!) стаіць на сярэдзіне барцоўскага кіліма, што пахне потам і жывёлінаю. У трэнера аголены торс. Ён уздымае мускілстую руку. Ты і ты! У яго тугі голас, якім добра аддаваць загады. Ён і аддае.

Устаю, бо трэнер паказаў на мяне. Разам са мною на кілім выходзіць Віталь.

У Віталя сапраўднае барцоўскае трыко, у мяне плаўкі. У яго скураныя барцоўкі, у мяне дабітыя на футбольным пляцы паўкеды. У яго бацька старшыня, а ў мяне ўжо казаў. Ён — задаволены, я — злы. Гэта здзек — выставіць мяне супраць Віталя. Ён на кілаграмаў дзесяць вагчэйшы. Для мяне — здзек, а для тых, хто на лаўцы сядзіць, — забаўка. У трэнера свой інтарэс, спадзяюся.

Набліжаемся. Пачынаем «разведку».

Згадваецца недачытаны параграф.

Крас не адважыўся напасці на войска Спартака. Ён заняў вузкі перашыек, па якім праходзіў адзіны шлях з мыса. Ад аднаго берага мора да другога рымляне выкапалі глыбокі роў і насыпалі высокі вал. Паўстанцы апынуліся ў пастцы. Як і я зараз. Сярод іх пачаўся голад.

У Віталя заўсёды сыты выгляд.

Спартак звярнуўся з прамоваю да паўстанцаў. У кіно гэта выглядала так. Спартак стаіць на скале і высока трымае свой бліскучы меч. Пад скалой галодныя рабы. Неба сіняе. Сонца яркае. Спартак загарэлы. Ён і сказаў, што лепш памерці ад жалеза, чым з голаду.

**З голаду ў нас ніхто не памірае, любіць казаць настаўнік гісторыі.**

У Віталя няма плячэй. Ён роўны, як ліхтарны слуп. І патыліцы ў Віталя няма, шыя плаўна пераходзіць у цемя. Такая сапраўдная спартыўная галава — няма за што ўхапіцца, такая сапраўдная барцоўская постаць — не зачэпішся.

Па тэлевізары паказвалі барцоў сумо, нам такое і не снілася.

Цяжкая далонь кладзецца мне на шыю. Спрабую скінуць. Трэба быць рэзкім. Скідваю руку з шыі. Віталь яшчэ не сабраўся. Ён упэўнены, што пераможа. Яму можна і не спяшацца. Мне таксама няма куды спяшацца. Прайграць паспею.

Барэц сумо можа важыць дзвесце кілаграмаў і рабіць «шпагат». Каб не бачыў па тэлевізары сам, нікому б не паверыў.

Віталь зноў хапае мяне за шыю. Каб быў хто другі, каб ён быў крыху лягчэйшы, я б адразу… Што губляць? Барацьба сумо. Спартак. Лепш смерць… Хапаю Віталёва запясце і даю нырца яму пад руку. Мая вольная рука пралятае паміж тоўстых сцёгнаў і рэзка ідзе ўгору. Трапіў. Яму забалела. Паўстанцы апынуліся ў пастцы. Як і Віталь зараз. Краем вока бачу, як уздымаюцца над кілімам барцоўкі. Ну і маса. Барцы сумо такіх прыёмаў не робяць, каб адзін аднаго на плечы ўскідваць. А можа і робяць. У вачах цямнее. Але Віталь ужо ляжыць у мяне на плячах. Зараз, зараз… Толькі б не памыліцца і правільна кінуць. Калені мае падгінаюцца. Барцоўкі ўзлятаюць да столі. Хух. Мы на кіліме. Віталь робіць «мост» і пераварочваецца на жывот. Але я наверсе. Перакуліць такую масу з жывата на спіну будзе цяжка. Ужо цяжка. Мая далонь слізгаціць па кіліме пад ягонаю рукою, пальцы сашчапляюцца над шыяю — «замок». Клас. Выварочваю яму плячо. Нарэшце пераварочваю, але Віталь зноў становіцца ў «мост». А зараз рэзка! Б'ю сваім старым паўкедам па Віталёвай пятцы ў барцоўцы і навальваюся яму на грудзі. Барцоўка слізганула па кіліме, нага выпрасталася. Адна лапатка на кіліме. Рэзка! Прыўздымаюся і з усяе моцы цісну яго ў кілім. Ён на лапатках. Абмяк. Я выйграў. Вось так, маса ў барцоўках.

Устаём. Ён чырвоны. Трэнер уздымае маю руку. Пераапранаюся. На крэсле ляжыць мой падручнік. «Гісторыя старажытнага свету».

**Малюнак І.Паранены Спартак. (Паводле сценапісу ў горадзе Пампеі.) Рымскі воін параніў Спартака ўдарам дзіды ззаду.**

Шкада, што малюнак некаляровы, адзін тонкі чорны абрыс. А кіно каляровае. У Спартака быў чырвоны плашч і белы конь. **У 71-м годзе да нашай эры адбылася апошняя бітва Спартака з рымскім войскам. Спартак імкнуўся прабіцца праз легіянераў да Краса і забіць яго.**

На вуліцы сонца, па-вясноваму свежа. Пасля спартыўнай залы прыемна пастаяць на ганку з аднагрупоўцамі па вольнай барацьбе.

Але трэба бегчы.

Запісвацца на барацьбу мы прыйшлі ўтрох: я і яшчэ два аднакласнікі. Хацелі хадзіць на бокс, але там ужо набралі групу. Мы пайшлі на вольную барацьбу. Нас узялі, але адзін з маіх аднакласнікаў «скіс» пасля другой трэніроўкі. Ён не мог ні разу падцягнуцца на кольцах, усе смяяліся. Ён больш не прыйшоў. Другога выгнаў трэнер, бо той курыў. Трэнер учуў пах тытуню і прагнаў майго аднакласніка. Даводзіцца ездзіць на трэніроўку аднаму. Затое можна ў тралейбусе пачытаць падручнік.

**...імкнуўся прабіцца праз легіянераў да Краса і забіць яго.**

Сыходжу з ганка. Ганак высокі, наша спартыўная зала ў былым саборы. Праходжу паўз музычную школу. Заварочваю за рог. Мяне перапыняе Віталь. «Пагаворым?» — кажа Віталь. А што тут гаварыць. Тут усё ясна. Ён вагчэйшы на кілаграмаў дзесяць і ростам вышэйшы. Ясна, што за размова нас чакае, але саступаць не хачу.

**Спартак быў гладыятар.**

«Пайшлі ў двор,» — кажа Віталь.

У двары пуста. Арэлі, пясочніцы, лаўкі ўсе пустыя.

«Ну што? Схватку выйграў? Толькі ніхто не ўбачыў, як ты яе выйграў. Ты мяне ўдарыў. Ты — падонак, і я зараз табе пакажу, як трэба біць».

Віталь хапае мяне за куртку. У мяне новая куртка. Парве. Што я дома скажу? Маці і так супраць барацьбы. А яшчэ парваная куртка.

Стой, куртка ў мяне новая, я здыму…

Віталь адпускае куртку. Я хутка здымаю яе і кідаю на лаўку. Рабы хадзілі ў дзіўных палатняных мяхах з дзіркамі для рук і галавы. У Рыме значна цяплей, чым у Мінску. У нас у такім мяшку акалеў бы. Куртка саслізгвае з лаўкі і падае ў пясок. Нахіляюся, каб падняць. І непрыкметна для Віталя зачэрпваю жменю пяску.

Зараз ты ў мяне атрымаеш, ты мяне навучыш, як трэба біць, тут табе не спартыўная зала, дзе правілы і трэнеры. Тут вуліца.

Піраты падманулі Спартака, паабяцалі перавезці на востраў і не перавезлі.

Віталь толькі пачаў замахвацца, як я шпурнуў са жмені пяском яму ў вочы. Галоўнае, каб ён не схапіў мяне. Схопіць — канец.

Віталь хапаецца рукамі за твар. Ён трэ засыпаныя брудным пяском вочы. Я б'ю кулаком яму ў грудзі. Ён пахіснуўся, але стаіць. Віталь плача. Ён размазвае бруд па твары і плача.

«Канчай. Ты што? Пайшлі ў душ, памыемся».

Мы вяртаемся ў будынак спартыўнага таварыства. Душ у сутарэннях. Мыемся. Потым сядзім. Нават у душы чуваць тугі голас нашага трэнера. «Раз-два, раз-два, раз-два». У іх размінка.

У тралейбусе еду адзін, Віталь жыве за горадам, на трэніроўкі ездзіць на электрычцы.

Вучу.

**Пад магутнымі ўдарамі Спартака палі два варожыя камандзіры. Але і яго самога паранілі дзідай у сцягно. Паранены Спартак стаяў на адным калене і працягваў біцца. Рымляне не змаглі ўзяць яго жывым. А ў кіно змаглі. Сетку на галаву накінулі і звязалі, як звера. Але кіно…**

Спартака так пасеклі ў бойцы, што нават цела яго не знайшлі на полі бітвы.

Так, у кіно такое не здымеш. Чалавека сякуць на кавалкі. А можа ён і не загінуў, калі цела не знайшлі?

Сыходжу. Ледзь не праехаў свой прыпынак. А бывала і праязджаў. Заснеш пасля трэніроўкі. Прачынаешся — кальцо. Вадзіцель смяецца. Во! Падручнік у тралейбусе пакінуў. Ну і няхай.

Цікава, рабы спалі ў ашыйніках ці не?

**25.10.1988**

## Доўгая дыстанцыя

Ніколі не быў прафесійным спартоўцам, але стадыёны, басейны і спартзалы люблю. Закладзена ў іх таемная прыцягальная сіла, што вабіць і кліча мяне. І таму ўранку выходжу на школьны, якраз пад маімі вокнамі, стадыён і прабягаю колькі кругоў. Толькі вось розныя там комплексы практыкаванняў, сістэмы з методыкамі, жорсткія рэжымы выклікаюць адно сум у маёй усё ж неспартовай натуры.

Такі цяпер, такім быў і ў школе, дзе з аднолькавым поспехам удзельнічаў у матэматычных алімпіядах і выступаў за школьную зборную па валейболу. Калі шчыра, дык ніякіх поспехаў не было, першыя месцы нам ніколі не выпадалі, затое выступалі мы спакойна, а найвялікшай узнагародай лічылі вызваленне ад заняткаў. Таму што…

А з доўгай дыстанцыяй было так…

У мой 8-мы «В» зайшла на вялікім перапынку настаўніца фізкультуры. Яна ў маладосці штурхала ядро, можа таму ў яе рухах засталося зашмат важкасці і рэзкасці. Без усялякіх намёкаў і маскіровак яна заявіла:

— Хто з хлопцаў заўтра не хоча ў школу, а згодны прабегчы 5 кіламетраў, падыміце руку.

Жаданне прагуляць заняткі мелі ўсе, але бегчы згадзіліся толькі двое. Адня ўзнятая рука, як вы здагадаліся, была маёю, а другая — Барысава.

У Барыса наогул прагрэсіраваў «пункцік» на спорт. Ён жыць не мог, каб не хадзіць у якую-небудзь секцыю. Але пасля трох-чатырох трэніровак ён заўсёды сыходзіў. «Плаванне — манатонны спорт. Вастрыні ў ім няма», — заяўляў Барыс і накіроўваўся да баксёраў, дзе празодзіў усе першапачатковыя здзекі і выпрабаванні, а праз месяц чулася: «Бокс — спорт для ідыётаў, каму не шкада ўласнае галавы». Пасля знішчальных азначэнняў пачыналіся апісанні выгод якога-небудзь вялікага тэніса ці рэгбі. Мяне і дагэтуль дзівіць упартасць, з якой Барыс памяняў можа з пятнаццаць самых розных відаў спорту. Ён нават ездзіў у Ратамку (чатыры прыпынкі на электрычцы), каб некалькі разоў упасці з каня, на Мінскае мора (тры прыпынкі), каб на пачатку красавіка перакуліць каноэ і два тыдні праляжаць з запаленнем лёгкіх. Толькі ў Барыса і пасля вялікіх непрыемнасцяў заставалася нязрушнае перакананне, што спортам трэба займацца абавязкова ў секцыі і пад наглядам вопытных трэнераў.

Пасля заканчэння школы спаткаў Барыса толькі адзін раз. Мы сутыкнуліся каля турнікетаў метро. На ім зіхацела чорная, нібыта наваксаваная, скураная куртка і брызентавыя нагавіцы, а ў руках ён рымаў вялізную незашпіленую сумку з ботамі, крагамі і матацыклетнай каскай. «Вырашыў паспрабаваць у мотаболе. Азартны занятак. Рызыкоўны. А будучыня ў мотабола вялікая». Давялося пагадзіцца, бо ведаў: праз паўгода ці нават раней азартнымі і рызыкоўнымі стануць скачкі на батуце ці гарадкі.

А тады ў 8-м «В» на доўгім перапынку Барыс з захапленнем хваліў эфіопскіх марафонцаў і абяцаў, што саракадвухкіламетровую дыстанцыю зможа прайсці хутчэй за ўсіх у нашым раёне. Яго слухалі, бо аднаго разу Барыс праехаў на ровары без прыпынку 160 кіламетраў.

Ён у чарговы раз змяніў захапленне і апынуўся сярод гоншчыкаў. Усяму класу Барыс паведаміў, што, як толькі зможа няспынна праехаць сотню кіламетраў, дык трэнер адразу аддасць яму спартовы ровар і можна будзе катацца колькі заўгодна, дзе заўгодна і калі заўгодна. Ніхто з хлопцаў, а тым больш з дзяўчат, не паверыў у такую шчодрасць, і гэта, пэўна ж, падштурхнула пачынаючага ровараамарафонца. Барыс прыйшоў да трэнера і папрасіўся разам са старэйшымі праехацца ў нядзелю з Мінска ў Маладзечна і назад, якраз 160 км.

«Спачатку — дзіва дзіўнае! Чаго так марудна едзем? — расказваў Барыс. — Можна ж утрая хутчэй круціць. А мы сунемся, што слімакі

тоўстыя. Толькі пад Заслаўем зразумеў, што да чаго. Калі пад каленьмі забалела. Думаю: вось дарулім да Радашковічаў, кіну ўсіх, сяду на электрычку і — дадому. І трэба было так рабіць! А ў мяне як бы адключыўся розум. Таму што ў статку, у гайні не адключылася б галава. А тут і хацеў бы вызваліцца, ды не вызваліўся. Закон статка — як усе, так і ты. Я ўсё на задняе кола трэнерскага ровара глядзеў і цiснуў педалі, аж да самага Маладзечна. Хай бы гэты горад праваліўся. Думаў: спынімся, адпачнём, уцяку. А ўсе развярнуліся і ў Мінск падаліся. Да самых Радашковічаў шкадаваў, што ў Маладзечне не спыняліся. А потым пакінуў шкадаваць і наогул перастаў жыць, так здавалася. Адно толькі пад Заслаўем, у Зялёным, калі школьны лагер праязджалі, падумалася: летам сюды не паеду, так бацькам і скажу: «У лагер не паеду, і не прасіце, і не маліце, і не пужайце… Лепей буду ў горадзе на асфальце сядзець». Да самага Мінска ў думках сварыўся з бацькамі з-за лагера, а можа і не сварыўся. Дакладна не згадаю… Помню: заехалі на стадыён за Палацам спорту. Усе злезлі з ровараў і палеглі на лаўкі. А я пад'ехаў да лаўкі, стаў на яе нагою і не злажу з «каня». Трэнер падышоў, схапіў мяне за чуб і патрос. Я спалохаўся, што галава адарвецца. Яна не адарвалася, ясна, але я так слаба кеміў, што па-сапраўднаму спужаўся за галаву. Не ў сабе быў. «Ровар твой!» Трэнер яшчэ нешта сказаў пра здольнасці. Толькі мне да фелькі. Адштурхнуўся ад лаўкі, паруліў дамоў і даехаў. Далей ведаеце».

Далей ведалі ўсе.

Настаўніца фізкультуры жыла ў адным доме з Барысам, і калі той вярнуўся з маладзечанскага падарожжа, якраз развешвала ў двары бялізну і ўсё бачыла…

Барыс пад'ехаў да пад'езда і паваліўся разам з роварам на кветнік. Пенсіянеркі ўсчалі гвалт на ўвесь квртал. «Што ж ты, гад печаны, кветнік спляжыў?!» — «Як увесну садзіць, іх няма; а як таптаць-ламаць, яны тутака!» І такое ж астатняе на высокіх нотах, пакуль не разгледзелі, што хлопец ляжыць у паламаных мальвах непрытомны. Тады настаўніца кінула бялізну і выцягнула Барыса з кветніка. Ёй гэта лёгка, яна ж займалася штурханнем ядра і мела званне майстра спорту міжнароднага класа. Чаму яна выкладала ў школе, а не ў інстытуце? Не ведаю. Непрытомнага Барыса яна занесла дадому і ровар — таксама.

Пасля маладзечанскай прагулкі хлопец тыдзень не ўставаў з ложка. А калі падняўся, дык першае, што зрабіў — вярнуў ровар. Вось вам — і ўдзень, і ўночы, і калі заўгодна.

Настаўніца фізкультуры не любіла Барыса, як, дарэчы, недалюблівала і мяне. Ёй хацелася, каб мы сур'ёзна займаліся якім-

небудзь адным спортам, у сваіх мроях яна бачыла нас з металёвымі ядрамі на алімпійскім стадыёне. А мы пераходзілі з адной секцыі ў другую так лёгка, як з кабінета фізікі ў кабінет беларускай мовы. Карацей, не любіла нас, але, калі справа даходзіла да выступленняў за гонар школы, — яна прыходзіла ў наш клас.

«Заўтра ўранку пойдзеце на чыгуначную станцыю «Радыятарны», а дзевятай збор. Запішацеся і прабяжыце 5 км. У школу можаце не прыходзіць, з дырэктарам дамоўлена…»

Ніякіх сумненняў, што яна дамовілася з дырэктарам. За дырэктара ў школе працавала старая жанчына з пракураным мужчынскім голасам. Яна выкладала гісторыю СССР і насіла сіні двухбортны пінжак. Мяне раздражняла яе здзеклівае, хамскае стаўленне да ўсяго не расейскага. Сама яна з латышоў, але з тых, каго цяпер называюць рускамоўным насельніцтвам. «Цёмныя плямёны беларусаў», «брудныя чухонцы», «хітрыя азіяты», «сквапныя местачковыя габрэі» — такія вось выразы аздаблялі і без таго тэндэнцыйную трактоўку мінулага, бо ў падручкіку на кожнай старонцы, вы ж ведаеце, чарнела — «вялікі рускі народ», «вялікая руская мова», «вялікі рускі…». Спрачацца з дырэктарам і з падручнікам бессэнсоўна, гэта я так-сяк разумеў. Але ніхто не забараняў мне насіць у сабе нянавісць да сіняга пінжака, чорнай спадніцы і старэчага, у зморшчынах, нафарбаванага бурачковым рота.

«…Дамоўлена. І не забудзьцеся: бегчы лягчэй у кедах, чым у чаравіках. Мяне там не будзе, разбірайцеся самі. А паслязаўтра падыдзеце ў спартовую залу і раскажаце. Ясна?»

Нам было ясна, і мы заківалі стрыжанымі галовамі. Насіць доўгія валасы забаранялася, дырэктар сама раз на тыдзень правярала вучнёўскія фрызуры, і не дай бог, трапіць пад вадаспад абраз, што абрынаўся з бурачковага рота. Нам было ясна, што тут незразумелага, — прыйшоў, прабег, пайшоў.

Ранак быў ясны, прахалодны і бадзёры. Можа, і не бадзёры, але ад аднае думкі, што ў школу ісці не трэба, у мяне ўздымаўся настрой.

Школу не любіў. І нават цяпер, у свае трыццаць гадоў, часам сню дарогу ў школу. Халодным восеньскім ранкам, у прыцемках, з ранцам за плячыма іду сцежкаю паўз падмерзлыя за ноч калюгі. Лёд крышыцца са шкляным звонам, робіцца невыносна, і прачынаюся. Робіцца цёпла і прыемна з-за таго, што не трэба ісці ў трохпавярховы барак, што завецца сярэдняя адукацыйная школа № 9, якую не любіў. Можа з-за таго, што ў пачатковых класах выпала трэцяя змена, заняткі пачыналіся ў 16.15, мы сядзелі па-трое за адной партай, і пісаць было проста немагчыма. Школа перагружаная, настаўнікі мяняліся бясконца… А можа з-за таго не любіў, што ў маім «В» класе

восем чалавек наведалі ўстанову пад шахматнаклятчастаю назвай турма. А можа з-за таго, што ўжо ў сёмым класе на апошніх партах пілося віно, перадаваліся нажы і раскідваліся карты, а каб хоць нешта пачуць, трэба садзіцца на першую парту, а потым па дзесяць разоў перачытваць падручнік, бо ўсё, што казалі настаўнікі, — не ясна. Не прымалася мною школа і за вечныя бойкі паміж гарадскімі і вясковымі. Частку вучняў прывозіў з прыгарадных вёсак — Цівалі, Кунцаўшчына, Бараноўшчына — дабіты аўтобусік. А дзеці, чые бацькі працавалі на розных там заводах, лічылі сябе лепшымі за тах, чые «старыя» выходзілі ўранку на саўгасна-калгасныя палі. Біліся жудасна, да крыві і далей — да непрытомнасці, да азвярэння поўнага, канчатковага. Біліся кулакамі, чаравікамі, салдацкімі рамянямі, кастэтамі, каламі, камянямі, даходзіла і да нажоў. Нажы насілі ў кішэнях усе хлопцы з маёй (Якая яна мая? Зрэшты яна такая мая, як і вашая! Ясна?) школы — выдатнікі, якіх не любяць, і троечнікі, каторых не заўважаюць настаўнікі, добрыя таўстуны з вачыма зняволеных зуброў і хударлявыя злыдні з недакуркамі ў рэдкіх зубах, баязліўцы, нахабнікі, рабыя, белагаловыя — усе. Такая завядзёнка, такі звычай, такі парадак: без нажа ў кішэні ты не чалавек. І колькі настаўнікі гісторыі і працы (тры мужчыны на ўсю школу) не забіралі зброю, яна з'яўлялася, і не толькі ў кішэнях, а ў партфелях, за пазухаю, у ранцах, на рамянях — паўсюль. І я не любіў школу за ўсё паасобку і за ўсё разам: за нож з блакітнымі тронкамі, што рваў кішэні нагавіц, за парваныя пінжакі і разбіты твар, за пярэдні зуб, што выбіў аднакласніку, за... І таму, калі атрымаў пасведчанне аб заканчэнні васьмігодкі, дык выйшаў са школы і больш туды ні разу не заходзіў. Вам ясна? А з нашай школы яшчэ і ўстанову для разумова-непаўнавартасных зрабілі. Гэта ўжо, калі я адтуль выйшаў летнім ранкам з папяровым пасведчаннем у кішэні, дзе па завядзёнцы яшчэ хаваўся нож.

З Барысам прыйшоў да станцыйнага буданчыка, і настрой упаў. Каля станцыі тоўпілася чалавек са сто, а можа і болей, не лічыў. І ўсе ў яркіх спартовых строях. Мае папялова-чарнільныя нагавіцы, выцягнутыя на каленях да непрыстойнасці, і дабітыя, зашнураваныя бінтам замест матузкоў кеды ніяк не ўпісваліся ў пранумараваную стракатасць маек і шаўковы бляск спартовых трусоў, у самы сапраўдны парад буцаў ды шыповак. І калі настаўніца казала, што ў марафоне ўдзельнічае 7—8 клас, дык можна смела лічыць гэта памылкаю, бо хлопцы, якія сабраліся каля чыгункі, яўна з апошняга класа. Давялося пераадольваць вялікае жаданне паціху ўцячы з рознакаляровага фэсту. Але дапамагло ўяўленне: раззлаваны твар былой штурхальніцы ядра, дырэктарскі пракураны кабінет, запіс

у дзённіку чырвонай шарыкавай ручкаю, якую нават хлёркаю не выведзеш, крыкі і апраўданні. А больш за ўсё на свеце не люблю прыніжацца і прасіць прабачэння. Слова «даруйце» захрасала ў горле, як вострая рыбіна костка, як асцюк — ані праглынуць, ані выплюнуць.

Падышлі мы да мужчыны з мегафонам, праз які ляцелі запрашэнні запісвацца і атрымліваць нумары. Нас унеслі ў спіс і выдалі па квадраце з матэрыі з лічбамі і яшчэ па чатыры шпількі. Барыс балюча ўкалоў мяне пад лапатку, калі замацоўваў нумар, але я стрываў і не пачаў сварыцца. Куды пагаршаць і без таго безнадзейны настрой? Я назіраў за школьнікамі з першага забегу, якія падрыхтаваліся ўзяць нізкі старт. Сівы і лысы дзядок, галава лысая, барада сівая, узняў угору сухую руку з пісталетам. Крохкі стрэл рассыпаўся ў паветры і абвясціў пачатак. Першыя восем хлопцаў кінуліся бегчы. Можна б іх і зразумець, каб наперадзе ляжала метраў восемсот, а 5 км, даруйце. Каб не расстройваць сябе, зайшоў за буданчык і лёг на лапіку травы, што пахла не травою, а чыгункаю.

Мы трапілі ў самую апошнюю васьмёрку. Ёлуп з мегафонам знарок сабраў напрыканцы самых высокіх і самых малых. Як вы здагадаліся, высокім не быў, наогул позна вырас! Я падрос, калі перастаў хадзіць у школу. Барыс, ён вышэйшы крыху, але ж вышэйшы. А ўсе астатнія ў нашай васьмёрцы мелі поўнае права насіць мянушку — Лось. З крывымі ўсмешкамі ласі касавурыліся на мае прыстойныя кеды, забэрсаныя чыстым бінтам, і на спартовы, крышачаку выцвілы, строй. Нехта заўважыў, што мой наспінны нумар крыва замацаваны — не адказаў і не стаў папраўляць, не хапала яшчэ раз трываць укол булаўкаю пад лапатку. Дый калі там папраўляць?

Старэчая рука з пісталетам узнялася. Стрэл ірвануў у неба, і мы, ну ясна, пабеглі. Даўганогія дзесяцікласнікі несліся, ледзь не сказаў — як на крылах, у сваіх шаўковых трусах з лампасамі, у сваіх красоўках фірмовых і майках яркіх. Пэўна ж, прыемна назіраць, як уздоўж чыгуначнага, засыпанага гранітам, адхону бягуць страката апранутыя падлеткі. Некаму відовішча, некаму, толькі не мне.

Праз першыя сто-дзвесце метраў адчуў, як запякло ў грудзях, нібыта глынуў гарачае гарбаты. І замест страўніка яна заляцела ў лёгкія.

Адразу скажу, што ніколі не ведаў «другога дыхання». Вядома, што калі столькі пра яго гавораць, яно здараецца. Але не са мной. Ніводнага разу не рабілася лягчэй падчас бегу. А бегаў шмат. Нават цяпер, дзеля ўласнага задавальнення, магу раніцай прабегчы кіламетр. Толькі «другога дыхання» так і не зведаў.

Рабілася ўсё цяжэй і цяжэй, і адзінае, што можна зрабіць, дык увайсці ў рытм — два ўдыхі, два выдыхі. Гэта мог, гэта я сам для сябе прыдумаў, гэта і зрабіў.

Мы беглі па бетоннай шырокай дарожцы. Што пралегла паміж чыгункаю і заводскім парканам. На тым заводзе выраблялі жалезабетонныя палі ды панелі, ён так і называўся — завод жалезабетонных канструкцый, таму вакол і праклалі гладкую дарожку, па якой у кедах бегчы ўсё ж лягчэй, чым у шыпоўках. Ну хоць у чымсьці павінна пашанцаваць!

А яшчэ на гэтым праклятым заводзе ляжала сера. Яе прывозілі ў адкрытых вагонах і ссыпалі на пляцы пад самым парканам. Брудна-жоўтагарчычныя гурбы з важкіх камлыг узнімаліся вышэй за агароджу. І як толькі ўсчынаўся самы кволенькі ветрык — атрутны пякучы пыл ляцеў на горад, не кажу пра станцыю «Радыятарны». А той раніцай якраз і лётаў ветрык, лёгенькі, вясновы, знаходка для сентыментальных дзяўчатак, што пішуць вершы пра бэз. І гэты кволенькі ветрык нёс на несентыментальных спартовых хлопчыкаў серны пыл. А я ўдыхаў яго і не проста, а ў два прыёмы — раз-два, раз-два...

Мы прабеглі пад мостам, такім высокім металёвым, на якім і ўдзень, і ўночы свяціліся ліхтары. Іх, напэўна, забываліся адключаць. Ці можа так і трэба, каб на мосце праз чыгунку ўвесь час гарэлі лямпачкі? Хто іх там ведае, законы чыгункі. Толькі вось пад мостам мае ногі пачалі налівацца, ледзь не сказаў волавам, а трэба, ну ясна, свінцом.

Бег перадапошні, за мной ляпаў кедамі па бетоне Барыс. Але мы яшчэ не адсталі, трымаліся разам з астатнімі. Адставаць пачалі крыху пазней, калі адзін з ласёў спатыкнуўся і рынуў на бетонную дарожку, адразу і не зглядзеў, што там з ім. Прабез паўз яго, бо нейкі мужчына махаў рукамі і крычаў: «Не спыняцца! Не спыняцца!»

Гэта пасля спаборніцтваў (якое тупое слоўца «спаборніцтва») падыду да хлопца, што ўпаў. Ён ляжацьме на траве за дашчаным станцыйным буданчыкам. Ягоныя калені і локці будуць заматанымі бінтамі, праз якія праступацьме кроў — ярка-яркая на стэрыльным бінце. Не пашкадую, зусім не ставацьме сілы на перажыванні. Так будзе.

А спачатку пачну адставаць ад купы — ласі пойдуць у адрыў. Чатыры дзесяцікласнікі набяруць хуткасць, а пяты пастараецца не адстаць і раптам сыдзе з дыстанцыі і скупчыцца пад адхонам.

Прабягу і паўз яго, і тады ў маіх вачах заскача палоса транспаранта з шыпячым словам «Фініш», пад якім так бадзёра крычалі настаўнікі і вучні. Чорт мяне панясе, і пачну рабіць фінішны

рывок. Бег як мог — гэта ясна. А ногі рабіліся цяжкія і тоўстыя-тоўстыя, нібыта ў гіпапатама. Барыс дагнаў мяне і, калі да фінішу заставалася метраў з пяць, абагнаў. Я — апошні. Крыўдна, але не настолькі, каб засмучацца.

Твар гарэў, рукі целяпаліся, як дзве тоненькія вяровачкі, а ногі былі таўсценныя, як у слана. І не мог стаяць на месцы, а хадзіў, хадзіў, не здатны ніяк спыніцца. Барыс ляжаў, а я хадзіў вакол кругамі, аж пакуль ён не крыкнуў: «Сядзь!» І я сеў.

Назаўтра наведаліся ў спартовую залу і настаўніца сказала, што пераблытала, павінны былі бегчы дзесяцікласнікі, але нічога страшнага не адбылося, і яна радая за нас, бо галоўнае — не сыходзіць з дыстанцыі. А я падумаў: галоўнае — не трэба ісці ў школу. Ясна?

**13.02.1991**

## Лагерны танец

Здараецца — не магу заснуць, ляжу і згадваю дзённае, а яно звычайна малапрыемнае: сустрэчы, размовы, клопаты, побыт. Ад гэтакіх успамінаў робіцца няўтульна, зімна, крыўдна. Адзінае выйсце — пачаць успамінаць дзяцінства, дзе ўсе фарбы ярчэйшыя, гукі сакавітыя, водары хмельныя, дзе яшчэ засталіся людзі, якія мяне любілі, дзе я сам быў шчаслівы і сам таго не ведаў. Успаміны топяць будзённасць і супакойваюць свядомасць. Знаходзіцца і ўсталёўваецца раўнавага паміж вонкавым светам і светам уласным. І я нават пачаў знаходзіць асалоду ў бяссонні, вандраваў па дзяцінстве, і было лёгка, ажно пакуль не ўспомніўся танцор. Зрабілася прыкра за сябе самога, за свет, у якім жыў. Сорамна. І таму вырашыў паспавядацца, бо не ўбачыў іншага выйсця, каб пазбыцца гэтага цяжкага пачуцця.

* * *

Танцаў у летнім школьным лагеры «Зялёнае» было шмат. Большасць лагерных выхавацеляў працавала не ў школах, а ў кансерваторыі і музычнай школе. Яны прыязджалі ў лагер са сваімі гітарамі, акардэонамі, кантрабасамі і нават мандалінамі. Таму і ладзілася неверагодная колькасць усялякіх музычных конкурсаў і віктарын, развучвалася безліч песень і танцаў.

Выхавацеля з майго трэцяга атрада, у які трапіў і Алег, звалі Раманам Казіміравічам Юркевічам. Ён іграў на мандаліне, і ўсе дзяўчаты адразу па прыездзе закахаліся ў прыгожага, высокага, дужага Рамана Казіміравіча. Я не вельмі любіў мандаліну з яе саладжавым італьянскім настроем, бо шанаваў кантрабас, што вечарамі на танцах у клубе так шыкоўна круціўся ў спрытных руках выхавацеля фізкультуры Перацяцькі. На танцах ігралі трыа: Русін ды

Сак на акардэонах і Перацяцька на вішнёвым кантрабасе. Іграліся вальсы, твісты і шэйкі, іграліся і джазавыя кампазіцыі, а тады ўсе спыняліся і слухалі пранізлівыя акорды Русіна, сакавітыя сола Сака і паважны рытм грузнага кантрабаса.

Па няпісанаму правілу запрашаць на танец дзяўчат мелі права толькі хлопцы з першых трох атрадаў, а апошнім тром з дванаццаці наогул забаранялася хадзіць вечарамі ў клуб. Танцавалі, хто як мог, хто як хацеў, было весела.

Светлыя вечары дыхалі чыстым спакоем. Высокія сосны, што абступалі клуб, ледзь заўважна пакалыхвалі сінімі шатамі пад бэзавым небам.

Дзяўчаты ў святочных сукенках не саромеліся і запрашалі выхавацеляў, больш за ўсіх Рамана Казіміравіча, хлопцы пасміхаліся і такім чынам хавалі сваю першую рэўнасць.

* * *

Шмат разоў успаміналася тое лета з танцамі каля клуба, з вясёлымі акардэонамі, што вялі дыялог пад наглядам магутнага кантрабаса. Я лёгка засынаў пад музыку 60-х, ажно пакуль не ўспомніў танцора. Я ўбачыў, як ён самотна стаіць на клубным ганку за калонаю. Беленая калона на шырокай базе, і побач хлапечая постаць — смуглявы Алег у пурпуровых шортах. Я ўбачыў танцора, і мяне агарнула пракрасць. І я доўга не мог заснуць, сядзеў на кухні, паліў. І мне захацелася вярнуцца ў тое лета, і не проста апынуцца сузіральнікам, а прыйсці, каб выправіцца, змяніць самога сябе. Я, вядома, разумеў, што ўсё гэта блюзнерства, але адчуў і іншае: трэба спавядацца. І я пачаў пісаць пра танцора.

* * *

У лагер Алега прывезла маці, надзіва прыгожая жанчына. Яны прыехалі на таксі, што ў тыя часы лічылася несусветнай раскошаю. І таксоўка чакала каля лагернай брамы, пакуль Раман Казіміравіч запісваў Алега ў трэці атрад, а медсястра Света шукала ў хлапечай галаве вошай.

— Што вы робіце? — Алегава маці павярнулася да медсястры, і ўсе ўбачылі, як хістануліся і зазіхацелі на сонцы завушніцы з дыяментамі.

— Гляджу, каб не было вошай, — растлумачыла добразычлівая Света.

— А хіба і так не відаць, што ў майго сына іх няма?

— Відаць. Але такі парадак: я павінна паглядзець галовы ўсіх дзяцей.

— Ну і парадкі, — з’едліва вымавіла жанчына.

І мне зрабілася няёмка за яе. Ёй так не пасавалі з’едлівасць, і абурэнні, і націск на словы «майго сына». Ёй наогул не пасавалі

праявы пачуццяў. Такая жанчына павінна жыць у палацы і ладзіць балі. І ёй дастаткова ледзь заўважна ўсміхнуцца, каб у прысутных узняўся настрой.

Яна села ў таксі, а я зачаравана глядзеў на светлы профіль, аздоблены дыяментавымі завушніцамі і залатою фрэзураю. І нечакана адчуў злосць, гэтая жанчына пахіснула маё ўяўленне аб прыгажосці. У свае трынаццаць я лічыў, што самая прыгожая жанчына на зямлі — мая мама. А тут з'яўляецца немаведама адкуль зусім чужая жанчына і разбурае мой ідэал.

Цяпер я ўдзячны Алегавай маці, бо менавіта яна першая, эфектам свайго яркага з'яўлення, дапамагла мне зразумець, што прыгажосць мамы не падлягае параўнанням, яна ёсць найвышэйшая.

І як крыўдна мне было, калі , стоячы за мальбертам, пісаў у інстытуце кубістычныя кацюрморты, каб спасцігнуць таямніцу фактуры і колеру, а выкладчык з непрыхаваным цынізмам казаў:

— Вось ты шклянкі-бутэлькі навучыўся раскладаць на розныя вуглы ды авалы. А загадай табе намаляваць партрэт маці ў стылі кубізм, вось што б ты рабіў?

І рабілася сумна за недасведчанасць і абмежаванасць выкладчыка, які замінаў займацца, як ні дзіўна, вучобаю. І было няёмка пачынаць тлумачыць, што вобраз маці знаходзіцца далёка за межамі майго задання, якое спрабаваў выканаць, калі пісаў на палатне нацюрморт з празрыстым шкляным посудам. Адзінае, у чым я не мог не пагадзіцца з выкладчыкам, гэта тое, што напісаць партрэт мамы вельмі складана. Асабіста для мяне на партрэце мамы і канчаецца станковае мастацтва і пачынаецца манументальнае — з яго рэлігійнасцю і містыкай, з абразамі і алтарамі.

І таму зараз, калі ўспамінаю профіль Алегавай маці, які, нібыта карціна ў шкле, быў забраны машыннай шыбаю, я разумею, чаму мяне так уразіла гэтая жанчына. Яна была абразом, жывым абразом. І ўсе як зачараваныя не маглі адвесці вачэй ад яе.

Таксі з'ехала, звезла ў Мінск Алегаву маці, а ён застаўся ў лагеры на цэлы доўгі летні месяц.

* * *

Алег, гэтаксама як і маці, меў адметную знешнасць, але я, з-за сваёй прыроднай схільнасці да ўсяго мужчынскага і класічнага, ніколі не змагу назваць яго прыгожым, як не магу назваць прыгожай скульптуру старажытнага грэка Леахара — «Апалон». Алегава знешнасць была пазначана пячаткай жаноцкасці, а ягоны смех быў надзіва меладовы і дзявочы. А мне, падлетку, які марыў стаць мужным, усё паўдзявочае, лёгкае, гнуткае, здавалася гідкім і непатрэбным.

Гэта цяпер я спрабую разважаць і тлумачыць самому сабе, чаму так здарылася. Чаму Алег застаўся адзін у вялікі натоўпе? Чаму лагер не прыняў яго? А тады я проста заўважыў, што Алег гуляе ў адзіноце. Напэўна, у ім было ўсё ж дастаткова мужчынскага, каб дзяўчаты не клікалі да сябе. І ён хадзіў па заасфальтаваных сцежках адзін. Хадзіў, дарэчы, адметна, і яго хада чымсьці выклікала асацыяцыі з птушкай фламінга. Вядома, адыграў сваю ролю і колер, любімы Алегаў колер — ружовы.

— Мама думала, што народзіцца дзўчынка, і купіла ўсё ружовае: і прасціны, і навалачкі, і пялюшкі... Я вырас ва ўсім ружовым, пурпуровым.

І люблю гэты колер, — растлумачыў Алег, калі я спытаў, чаму ён носіць кашулі жаночай афарбоўкі.

Але, не ў крыўду мужчынам, давядзецца сказаць, што ружовы колер вельмі пасаваў да смуглявага твару, на якім чарнелі асіметрычныя міндалеабрысныя вочы. У гэтых вачах таілася палахлівая жывёльная непасрэднасць, характэрная істотам творчым, якіх лёгка збянтэжыць. І ведаючы сваю слабасць, Алег падчас размовы адводзіў вочы ці глядзеў у зямлю.

Усе гэтыя рысы раздражнялі лагерных хлопцаў і дзяўчат, і яны здзекаваліся з Алега. Здзекаваліся па-рознаму: і садысцка-вытанчана — аблівалі жаночымі духамі Алегаў ложак, і па-жабёльску тупа — падкладвалі кавалак масла на Алегава крэсла ў сталовай. Але ўсе жарты-здзекі былі толькі уверцюраю да цкавання, што разгарнулася пасля конкурсу мастацкай самадзейнасці.

* * *

Як ужо гаварылася, конкурсаў у лагеры праводзілася шмат, ад самага трывіяльнага з малюнкамі на асфальце да грунтоўных стварэнняў «лінеек». Недасведчанаму даволі цяжка ўявіць конкус «лінеек», але я паспрабую ў некалькіх сказах апісаць з’яву, тым больш што гэта даволі неардынарны жанр мастацтва, які можна незваротна знікнуць.

«Лінейка» па сваёй канфігурацыі нагадвала нешта сярэдняе паміж магільным капцом і кветнікам, адно без кветак. Па перыметры «лінейку» абкладалі цаглінамі, пастаўленымі старчма, і палосамі свежага дзёрну. У даўжыню «лінейка» мела метры са тры, а ў шырыню — са два. Адзін бок «лінейкі» насыпаўся крыху вышэй, каб добра было відаць злалёк, што сатворана ў дзёрнавай аблямоўцы. Напачатку ў ёй рабіўся абрысны мялюнак. Тэма абіралася надзвычай лагерная, напрыклад: крэмль з пяціканцовымі хорамі, ад якіх разыходзяцца тоўстыя промні, ці танк з той жа вялізарнай зоркаю на вежы, яшчэ на «лінейцы» мог з’явіцца голуб, але памерам з той жа

крэмль ці танк. Калі абрыс быў зроблены, пачыналася зафарбоўка. Крэмль павінен быў стаць чырвоным, танк — зялёным, а голуб — белым. Таму адзін атрад, сімвалам якога была «лінейка» з крамлём, тоўк каменнямі на асфальце чырвоную цэглу і пасыпаў натоўчанай пудраю зубчастыя сцены і азораныя вежы. Атрад, што браўся за голуба, пакутаваў, бо сілікатная цэгла не таўклася і трэба было ісці за пяць кіламетраў у Заслаўе шукаць будоўлю і выпрошваць якой вапны ці мелу. Лягчэй за ўсё расфарбоўваўся танк, яго выкладалі з зялёных яловых шышак і скочак, і глядзеўся танк вельмі эфектна — сакавіта, масляніста, шурпата, і чымсьці нагадваў кракадзіла. «Лінейкі» праглядала камісія на чале з Раінай Аляксандраўнай, начальніцай лагера. Выбіраліся тры лепшыя. А ўвечары, на зборы ўсяго лагера, вельмі ўрачыста абвяшчаліся атрады-пераможцы.

Асабіста мне падабалася рабіць «лінейку» ў першую чаргу з-за таго, што я лічыў сябе мастаком. Падчас заняткаў у школе я наведваў нядзельную мастацкую студыю, а ўлетку, замест таго каб спаць удзень, хадзіў у мастацкі гурток. А таму мне лёгка было вострым прутком накрэсліць на мяккай насыпанай зямлі абрыс крамля ці танка. А па-другое, мае здольнасці давалі мне ўладу над астатнімі хлопцамі і дзяўчатамі. Я кіраваў і таўчэннем цэглы і збіраннем шышак, мог загадваць, сварыцца, зневажаць… І гэта ўспрымалася нармальна, бо ўсіх цікавіў толькі вынік — наяўнасць «лінейкі». Аднаатрадаўцы падпарадкоўваліся мне без пярэчанняў. Слухаліся ўсе, акрамя Алега. Ён уцякаў: не спрачаўся, не абураўся, не адстойваў свае погляды, а браў кніжку, і калі ўсе ішлі пасля снядання рабіць танк, ён ішоў у лес. На абедзе я спрабаваў высветліць, чаму ён уцякае, на што атрымліваў блытаныя тлумачэнні пра галаўны боль, медыцынскі пункт і медсястру Святлану, якая параіла яму адпачыць у лесе на адзіноце. Я не верыў Алегу, але спраўджваць ягоныя словы не хадзіў ні ў медпункт, ні да Светы. Ну, не хоча адзін чалавек рабіць «лінейку», хай не робіць, астатнія хочуць і робяць. Мне хапала праблем і без Алегавых дзівацтваў, але крыўда на яго засталася, жорткая дзіцячая крыўда. І недзе глыбока ў душы хацелася сатысфакцыі, хацелася Алегавага прыніжэння, праз якое я спадзяваўся атрымаць асалоду. І я ўбачыў прыніжэнне.

* * *

Яшчэ не паспелі аціхнуць радасныя перажыванні ў маім трэцім атрадзе — за «лінейку» з танкам мы атрымалі першае месца, — а на дошцы аб'яў ужо прыкнопілі паведамленне, што ў клубе пройдзе конкурс мастацкай самадзейнасці. Запрашаліся ўсе: хто можа спяваць, іграць на музычных інструментах і танцаваць. Конкурс

меўся адбыцца ў нядзелю з раніцы, каб не толькі дзеці, а і бацькі маглі папрысутнічаць на святце.

Выхавацелі падаставалі свае інструменты, і да самага адбою з усіх канцоў лагера чуліся бясконцыя паўторы рэпетыцыйных намаганняў.

Раман Казіміравіч іграў на мандаліне, а дзяўчаты, можа, разоў са сто праспявалі пад ягоны акампанемент куплеты пра ката, якога боцман біў па пузе мокрым ручніком. У куплетах асуджаўся боцман і шкадаваўся кот, але, нягледзячы на ўсю маральнасць песні, я ўзненавідзеў яе. Ёсць думка, што жарт, які гавораць двойчы, ператвараецца ў пошласць, а тут жарт паўтарылі разоў, як заўважалася, са сто.

І калі нядзельным ранкам на клубную сцэну ўзышоў Юркевіч са сваёй лакіраванай мандалінаю, я пашкадаваў, што не маю якога раскіслага памідора. Толькі шкадаванне было нядоўгае. Раман Казіміравіч выканаў старажытную італьянскую песню, і сыграў ён выдатна. Склалася дзіўнае ўражанне, што мандаліна сама гучала, што і конкурс, і выхавацелі з дзецьмі і іх бацькамі, і лагерны прапахлы цвіллю клуб зніклі. Мандаліна нібыта згадала мелодыю Радзімы і паўтарыла яе. Воплескі запоўнілі залу. Раман Казіміравіч пакланіўся, а потым абвясціў пачатак конкурсу.

Эпічная тэматыка дамініравала на конкурсе. І не дзіўна, калі ў конкурсе «лінеек» перамог танк, дык было б цалкам лагічна, каб і ў клубе першае месца атрымаў падобны сімвал. Толькі здарылася неверагоднае — перамог не танк, а народны танец. Пэўна, адыграла сваю ролю італьянская серэнада. Усяму канцэрту задаўся лірычны тон, таму эпіка не выклікала захаплення ў суддзяў на чале са строгай Раінай Аляксандраўнай. І нават так званыя жартоўныя песенькі не кранalі залу. Такое здараецца, калі пажартаваць несвоечасова, недарэчна, напрыклад, згадаць нябожчыка за вясельным сталом ці на хрэсьбінах.

* * *

Конкус, бясспрэчна, сцёрся б з маёй памяці, як забылася шмат падобных акцый, каб не сіртакі. Грэчаскі танец быў даволі папулярны. Запамінальная да атрутнасці мелодыя сіртакі бясконца паўтаралася па радыё, а па тэлевізары ансамблі народных танцаў круціліся пад яе ў карагодах.

Сіртакі ў лагеры станцаваў Алег. Ён выступаў апошні, пасля дзявочага трыа, што бадзёра выканала песеньку пра ката і боцмана, які здзекаваўся з хатняй жывёлы — біў яе ручніком. Калі дзяўчаты пакінулі сцэну і з-за кулісы з'явіўся Алег у белай чалме-намітцы, скручанай з вафельных ручнікоў, зала скалыхнулася ад смеху. Я быў упэўнены, што Алег не вытрывае здзеклівага рогату і свісту, што ён

уцячэ, пабяжыць за кулісу, выкіне чалму-намітку, пойдзе ў лес і будзе на адзіноце румзаць. Але танцор падышоў да мікрафона і з гонарам упэўнена абвясціў: «Грэчаскі танец сіртакі!» Зала аціхла. Акардэаніст Русін расцягнуў мяхі, пранізлівы акорд разляцеўся па клубе. Алег ускінуў тонкія загарэлыя рукі, нібыта хацеў пакласці іх на плечы нябачаных сяброў. Мелодыя набірала тэмп. Рухі танцора рабіліся шпарчэйшымі, але не гублялі дакладнасці, малюнак жэстаў заставаўся архітэктурна дакладным. Алег апісваў на сцэне спачатку вялікія кругі, а потым усё меншыя і меншыя. А тэмп рабіўся ўсё шыбчэйшы і шыбчэйшы. І калі ад мелодыі застаўся адно рытмічны абрыс, Алегава цела набыло такую неверагодную хуткасць, што зала ў спалоху стаілася, як стойваецца амфітэатр, калі высока пад купалам ступіць на дрот канатаходзец. Усе неадрыўна сачылі за дзівам скампанаваных гукаў і жэстаў. Ад невыноснай напругі мае вочы самі сабой заплюшчыліся. Засталася адно музыка ў густой чарнаце, дзе раптам з'явіўся танцор Алег. Я натуральна сядзеў з заплюшчанымі вачыма і бачыў танец. Нечакана мелодыя абарвалася і праз імгненне зноўку выплыла з цішыні, але цяпер павольная, як шырокая рэчка.

Пазней, калі ў школе на занятках літаратуры настаўніца будзе тлумачыць, што ўся старажытнагрэчаская драма імкнулася дасягнуць такой выразнасці, каб у гледача ўзнікла пачуццё катарсіса, пачуццё душэўнага ачышчэння, я згадаю Алегава сіртакі і той момант, калі абарвалася музыка і знерухомеў танцор.Ён шырока раскінуў рукі і стаў на дыбачках — светлае ўкрыжаванне на чорнай сцэне. І я мушу пагадзіцца з настаўніцай, што мастацтва і сапраўды здатна выклікаць моцнае пачуццё, якое антычная культура называла — катарсіс.

Алег пакінуў сцэну ў поўнай цішыні. І толькі калі ён схаваўся за кулісаю, зала, нібыта прахапіўшыся са сну, узняла хвалю авацый.

Можна зразумець і сяброў журы, якія, відавочна, разгубіліся. Тое, што Алег выступіў лепш за астатніх, — бясспрэчна, але ці варта менавіта танцору даваць прыз? Толькі ўражанне ад убачанага было настолькі вялікае і воплескі такія гучныя і працяглыя, што Алега абвясцілі самым лепшым.

* * *

А пахвалы і шанаванні абярнуліся з радасці ў гора. Алега пабілі хлопцы з майго атрада.

Бойка адбылася позна ўвечары, калі ўсе бацькі з'ехалі, пакінуўшы ў тумбачках цэлафанавыя пакеты з печывам і цукеркамі. Мы ляжалі ў палаце і маўчалі, гнятлівая ціша ўсталявалася над ложкамі. Хлопцы ўжо загадзя, яшчэ пасля вячэры, дамовіліся, што будуць біць Алега. Хлопцаў нацкавалі, пад'юдзілі дзяўчаты, яны ледзь не са слязьмі

абураліся — казалі, што журы не мела рацыі, калі ўзнагароджвала Алега, што іх песня пра ката значна лепшая, што ў лагеры шмат выдатных спевакоў і музыкаў і не зразумела, чаму лепшым павінен быць нейкі танцор. Хлопцы паспачувалі дзяўчатам і паабяцалі пабіць уночы Алега, каб болей не вылазіў на сцэну.

Такая расправа, а ў школьных лагерах гэта з'ява даволі распаўсюджаная, называлася — рабіць «цёмную». Але «цёмную» рабілі звычайна злодзеям: нехта нешта ўкраў, яго злавілі і пабілі. А танцор, чалавек з талентам, мастак...

Адзін з хлопцаў устаў і крадком падышоў да Алегавага ложка. Той, вядома, не спаў. Алег не стаў крычаць, не стаў супраціўляцца, ён адвярнуўся да сцяны і сам нацягнуў коўдру на галаву. Усе паўскоквалі і кінуліся на танцора. Яго білі кулакамі праз коўдру, білі доўга. Я стаяў на сваім ложку і глядзеў, як у цемры варушылася шматрукая пачвара. Яна шархацела, уздыхала, стагнала... Яна вяршыла судзілішча, выконвала прысуд, і яна ж пакутавала. Я з жахам адчуў, што бачу адзіны арганізм, дзе ахвяра і каты — толькі часткі цёмнай істоты, пачвары.

Тады я не біў Алега не таму, што не хацеў, і не таму, што разумеў абсурднасць і несправядлівасць здарэння, а таму, што мяне спыніла і напалохала відовішча. Халоднае пыльна-блакітнае месячнае святло залівала лагерную палату. Сцюдзёна паблісквалі нікеліраваныя білы ложкаў. Прывідна свяціліся пакамечаныя прасціны і коўдры. А пасярод пакоя атрамантава чарнела пачвара, утвораная чалавечымі целамі, злосцю і пакутаю. Раптам яна разваліласа, хлопцы разбегліся, і пападалі на ложкі, і панацягвалі на сябе коўдры. А я ўсё стаяў і не мог варухнуцца. Высока пад столлю ўспыхнулі лямпачкі. У палаце з'явіўся раззлаваны Юркевіч. Ён падышоў да мяне, загадаў абуцца, узяць падушку і ісці за ім. Мы выйшлі на ганак, дзе мне давялося стаяць з падушкаю на галаве. Я стаяў на ганку, прытрымліваючы рукамі падушку, якая з кожнай хвілінай рабілася цяжэйшаю. У думках я перабіраў варыянты помсты, ахвярай быў танцор.

Лагер засынаў, толькі з клуба, дзе ў бакавым пакойчыку жылі музыкі, Русін, Сак і Перацяцька, чуліся смехі і песні.

Калі выхавацель дазволіў вярнуцца ў палату, я, замест таго каб пайсці і легчы ў свой ложак, падышоў да Алега і ўдарыў яго кулаком пад вока. Ён ускочыў і выбег з палаты, а я паваліўся на ложак і імгненна заснуў.

Раніцай, калі атрад бег на зарадку, я раглядзеў на Алегавым твары вялікі сіняк. А ўвечары танцор паспрабаваў уцячы з лагера. Ён дайшоў да чыгуначнай станцыі, але сесці ў электрычку не змог.

Дасведчаны чыгуначнік прыкмеціў самотнага хлопца і, калі той паспрабаваў зайсці ў электрычку, спытаў пра білет. Гэты ж чыгуначнік прывёў Алега ў лагер. А на другі дзень каля лагернай брамы спынілася таксі, і мне другі раз пашэнціла ўбачыць Алегаву маці. Яна не забрала сына, як усе чакалі, а толькі дамовілася, каб яго перавялі ў атрад з меншымі дзцьмі. Алег дабываў змену ў сёмым атрадзе, і смешна было глядзець, як ён хадзіў у калоне дзяцей, ніжэйшых на цэлую галаву.

Вось, зрэшты, і ўсё, што ведаю пра танцора Алега.

Пасля таго лета я ні разу не сустракаў яго.

І вось цяпер уночы, седзячы за пісьмовым сталом і ўспамінаючы дзяцінства, я прыйшоў да сумнае высновы, што, нават апісаўшы лагернае здарэнне, я нічога не змяніў, што нават самая шчырая споведзь не дае палёгкі. Сумна яшчэ і таму, што пабілі танцора за талент, за тое, што ён — мастак.

І няма каму сказаць: «Я дарую табе грахі».

**29.04.1991**

### Указка

Вядома ж, атрымаць падарунак — большая асалода, чым дарыць. Але як жа ж бывае крыўдна, калі нехта возме і адбярэ падораную рэч. Ён жа пакрыўдзіць не аднаго, а дваіх чалавек, і большую знявагу мецьме не той, у каго забралі, а той, хто дарыў, хай сабе ніколі і не даведаецца, што выйшла з добрых намераў.

Ёсць выйсце — дарыць такія штукі, каб адораны не адмовіўся ўзяць і нікому ў галаву не прыйшло забіраць гэты падарунак.

Да прыкладу… Мастак вярнуўся з вандроўкі па Італіі і зрабіў выставу падарожных малюнкаў. Срод экспанатаў быў і вялікі аркуш паперы з раскладзенымі кавалачкамі кары платанавага дрэва. Мастак настойліва ўпрошваў наведвальнікаў узяць лушпінку кары на памяць. Бралі. Няма сумненняў: самы дасціпны рабаўнік не паквапіцца на такое дабро. Толькі для тых, хто разглядаў на выставе краявіды Фларэнцыі, Падуі і Венецыі, пляскаты кавалачак дрэва займеў каштоўнасць. Ідэальны падарунак, зроблены ад мастакоўскага сэрца, з вялікай тактоўнасцю. У жыцці нячаста сустракаюцца ўчынкі такога кшталту.

Звычайна ж дораць рэчы патрэбныя і прыгожыя. Прыносяць кветкі. Ніколі не высвятляў, чаму зрэзаная, сарваная, выдраная з зямлі расліна адразу залічваецца да прыгожых падарункаў. Але пра кветкі іншым разам. А зараз — пра зрэзаную галінку ігрушы…

У трэцім класе мяне пачалі далучаць да роднай мовы. Знарок падкрэсліў слова, бо беларускую мову я чуў і не ў сярэдняй школе,

а дома ад бацькоў. А вось у мінскай школе № 73, дзе вучылася процьма дзяцей расейскіх вайскоўцаў, нашае слова цалкам выключылі з ужытку. Яно, беднае, ледзь ліпела на ўроках мовы ды літаратуры, якія па імперскіх законах вывучаліся толькі з трэцяга навучальнага года.

Дзеля жарту настаўніца магла папрасіць мяне сказаць слова «один». «Адзін» — казаў я, а ў класе ўсчынаўся рогат, бо маё «дзі» ніяк не хацела рабіцца маскоўскім «ди». Я крыўдаваў на свой непаслухмяны язык, злаваўся на ўласную беларускасць і аднойчы папрасіў маці, каб вызваліла ад непатрэбнай мовы, як вызвалялі сваіх нашчадкаў бацькі ў пагонах. «Лепш ведаць дзве мовы, чым адну», — маці ўспрыняла маё патрабаванне спакойна, але ісці ў школу адмовілася. Яна магла адмовіцца, а я ж не мог, таму запісваў на ўроках надыктаваныя сказы: «Кравец кроіт кровлю. Шыбенік устаўляет шібу. Латнік прышіваіт латы на кожух…»

Настаўніца, Ганна Іванаўна Соладава, па сто разоў за ўрок паўтарала, што ў беларускай мове толькі адно асноўнае правіла: як чуецца, так і пішацца. Як у беларускай мове вымаўляюцца словы, яна, пэўна ж, не ведала.

Ганна Іванаўна Соладава — мая першая настаўніца. Не скажу, што кепска ставіўся да нетутэйшай, малаадукаванай жанчыны, якая дапамагала мне ўвайсці ў несямейны, чужы і варожы свет. Наадварот, я глыбока паважаў яе, паслухмяна выконваў заданні, каб атрымаць найлепшыя адзнакі. І яна любіла сваіх першых беларускіх вучняў. Ганна Іванаўна запрашала нас пасля заняткаў да сябе дамоў, у генеральскую кватэру, рассаджвала ў зале за эліпсападобным сталом, частавала гарбатаю і расказвала, разказвала… Пра сваю далёкую радзіму — казацкую станіцу, каля горада Шахты. Пра былых вучняў, якія не забыліся яе і дасылаюць лісты з фотакарткамі і віншавальныя паштоўкі. На сярэдзіну стала ставілася каробка, поўная акуратна абрэзаных канвертаў. Ганна Іванаўна расказвала і пра мужа, які ў 41-м годзе добраахвотна пайшоў на фронт, трапіў у лётную школу, скончыў вайну ў Будапешце і цяпер служыць у авіяцыі. Да Ганны Іванаўны ў генерала Соладава была іншая жонка, але яна захварэла і памерла.

Чамусьці я тады перажываў за першую жонку генерала. А дзяўчаты нават заплакалі, калі Ганна Іванаўна паказала фотапартрэт маладой кабеты ў залатой зашклёнай настольнай рамачцы.

Пахаваўшы жонку, генерал паехаў у казацкую станіцу і нечакана прапанаваў Ганне Іванаўне выйсці за яго замуж, растлумачыўшы, што ўсё жыццё не мог забыць іх першае каханне. І вось яна тут,

у Мінску, у дзевяціпакаёвай кватэры, застаўленай дубовай, вывезенай з Германіі мэбляю. Ёй сумна: у Мінску знаёмых няма, не можа пахваліцца завушніцамі, якія падарыў муж.

Ганна Іванаўна прыўздымала рукамі валасы, і мы разглядалі важкія завушніцы з дыяментамі. Шырокі твар настаўніцы свяціўся, як цёплая поўня.

Ніколі не разумеў, чаму золата, як і кветкі, залічваецца ў прыгожыя падарункі. Ніколі нікому не дарыў залатыя рэчы, бо яны ж каштуюць, як металалом. Лепш аддаць грошы ў канверце, чым пярсцёнак з дыяментам у каробачцы, падобнай да труны.

Мама, убачыўшы ў дзённіку «тройку» па беларускай мове, папрасіла паказаць сшыткі. Я спрабаваў апраўдацца, казаў, што забываюся пісаць пасля шыпячых «ы», бо Ганна Іванаўна дыктуе «шіба» і «прішіваіт». Прачытаўшы «кравец кроіт кровлю» і «шыбенік устаўляет шібу», маці спачатку смяялася, а потым пайшла да суседзяў, іх сын вучыўся разам са мною…

Пасля восеньскіх вакацый у мяне пачаў выкладаць беларускую мову новы настаўнік.

Пётр Хведаравіч Бізун — чалавек немаладога веку, з лысай галавою і вялікімі натапыранымі вушамі. «За вочы» і за вушы школьнікі ахрысцілі яго Фантамасам. У адрозненне ад кінагероя, беларускі Фантамас быў незласлівы, ставіў толькі «чацвёркі» і «пяцёркі», а ў першы месяц знаёмства наогул нікога не выклікаў да дошкі, не прымушаў адказваць і нават пісаць. Фантамас чытаў. Прыходзіў, сядаў за стол, разгортваў таўсценны том і ўголас чытаў народныя казкі. А я глядзеў, як у такт чытанню пастуквае настаўніцкі чаравік. Пётр Хведаравіч Бізун пры ўсёй дабрыні быў яшчэ і чалавек няўважлівы, мог прыйсці ў розных чаравіках: адзін — чорны, другі — шэры. З яго смяяліся, кпілі, але яго любілі разам з казкамі, моваю і рознакаляровым абуткам.

Апошнім заданнем, якое задала па беларускай мове Ганна Іванаўна Соладава, было зрабіць указку. Калі падчас восеньскіх вакацый па расейскай мове пісалася сачыненне, па арыфметыцы рашаліся задачы і прыклады, дык да беларускай рабілася драўлянае сціло.

У вольныя тыдні я звычайна жыў у дзеда Броніка. У яго быў дагледжаны сад. Вось у тым садзе я і выбраў галінку на ігрушы. Дзед зрэзаў яе, зняў сучкі і кару, абстругаў так, што адзін канец стаў зусім танюткі, аскепкам шкла ён зрабіў галінку гладкай, нібыта касцяной, нацёр воскам і запаліраваў аксамітнай анучкаю.

Мая грушавая, бліскучая, трыццацісантыметровая ўказка атрымалася непараўнальнай.

Згледзеўшы на парце маю ўказку, Ганна Іванаўна ўзяла яе і, сказаўшы, што такім інструментам можна скалечыцца, паклала на свой настаўніцкі стол. Шкадоба, разгубленасць, адно цёмнае пачуццё, якое пазней пераплавілася ў помсту. Замест зробленай дзедам Бронікам указкі настаўніца дала пластмасавую палачку для лічэння, кароткую, з тупым і тоўстым канцамі. Выйшаўшы са школы, я выкінуў яе ў дарожны вадасцёк.

Жаданне адпомсціць увасобілася нечакана…

Я стаяў каля настаўніцкага стала падчас пятнаццаціхвіліннага перапынку. Большасць аднакласнікаў яшчэ не вярнулася з буфета і сталовай. А хто папалуднаваў, сядзелі, унурыўшыся над падручнікамі, і паўтаралі зададзены верш. Указка ляжала на стале. Мая любімая, навошчаная, вострая ўказка прашаптала ціха, настойліва, загадна: «Вазьмі мяне і пералamі напалам. Ты маеш поўнае права знішчыць мяне». Але я баяўся нават дакрануцца да светлага прутка. Нехта абавязкова ўбачыць, як ламлю ўказку, пачуе трэск дрэва, раскажа настаўніцы, тая напіша заўвагу ў дзённік, мама пачне сварыцца… Больш за ўсё не хацелася, каб сварылася маці. Толькі мама не папракала, бо не даведалася, што я ўтварыў на вялікім перапынку, калі пабіліся мае аднакласнікі — Эдзік Эпштэйн і Кастусь Копцеў.

Копцеў — высокі, даўгарукі троечнік з важкімі кулакамі і перапэцканымі ў чарніла пальцамі. У той дзень Кастусь з’явіўся ў новенькіх акулярах. Яны не давалі Копцеву спакою. Ён увесь час ці то здымаў іх, ці то праціраў хусцінкаю і зноў прыладжваў на пачырванелае пераноссе.

Эпштэйн — дробны яўрэй, з непаслухмянымі кудзерамі і бурштынавым рабаціннем на бяскроўным твары. Ён быў хранічным выдатнікам і лічыў, што мае права паўдзельнічаць у самых інтымных справах сваіх аднакласнікаў.

Эпштэйн падышоў да Копцева, які пагладжваў пластмасавую аправу і ўглядаўся ў падручнік праз круглыя шкельцы. «Дай глянуць», — абсыпаная рабаціннем рука пацягнулася да акуляраў. «Адвалі, жыд!» — выбухнула ў паўпустым класе. Доўгі твар Эпштэйна пачырванеў так, што зніклі рабацінкі. Эдзік абрынуў кулак на скронь крыўдзіцеля. Удар атрымаўся нямоцны, але трапны — новыя акуляры бразнуліся паміж партаў на падлогу.

Я не бачыў, як Эпштэйн растаптаў акуляры Копцева, бо займаўся іншым злом. Схапіў указку і ўсунуў у шчыліну паміж кантам настаўніцкага стала і вечкам парты. Тонкі дубчык я ўставіў да паловы і пераламаў, пакрыўджанае дзерава ашчэрылася стрэмкамі.

Бойка паміж Эпштэйнам і Копцевым набліжалася да завяршэння, Кастусь сядзеў на Эдзіку конна, абедзвюма рукамі сціскаў галаву і

крычаў: «Здаешся?! Здаешся?!» Астатнія аднакласнікі паўзлазілі на парты і моўчкі чакалі канца бойкі. У маўклівым чаканні была старажытнарымская ўрачыстасць і жорсткасць. Ніхто не ўбачыў, калі пасярод класа ўзнікла Ганна Іванаўна, усе зрэагавалі толькі на словы «брыдка», «недапушчальна» і «абуральна». Настаўніца прымусіла Эпштэйна з Копцевым падняцца з падлогі, стаць каля дошкі і прасіць прабачэння. Копцеў з Эпштэйнам выбачаліся не толькі за растаптаныя акуляры, парваныя кашулі, падраны падручнік, але і за пераламаную ўказку.

Судзіць сябе не правамерна. Хопіць і таго, што сказаў — займаўся злом. Застаецца адно дадаць… Дзюбку зламанай указкі я забраў сабе. Пацямнелы пруток ігрушавай галіны дагэтульзахоўваецца ў маім стале разам з кавалачкам кары ад алатанавага дрэва, які прывёз вандроўны мастак з Італіі.

**26.03.1993**

